*Маім сынам — Сяргею, Зміцеру, Сцяпану*

## І. ДОМ

Дом быў шаснаццаціпавярховы. Будаўнік, глянуўшы на гэты дом, сказаў бы, што ўзведзены ён з аглапарыбетону метадам слізгаючай апалубкі. Архітэктар, асабліва з маладзейшых, успомніў бы, напэўна, славутага француза Ле Карбюзье, «бацьку сучаснага горада, генія архітэктурнай арганізацыі прасторы», як узнёсла называюць яго. Калі б архітэктар быў рамантыкам у душы, а архітэктары у большасці сваёй рамантыкі, ён успомніў бы, магчыма, хітэктура — гэта бура, якая спіць у камянях». Ну, а просты смертны, правінцыял адкуль-небудзь з-пад Бабруйска, задраў бы галаву, доўга глядзеў бы на гэты беласценны цуд, прытрымліваючы рукой шапку, прыцмокваючы языком і сказаў бы, захоплена і трошкі разгублена: «Вось гэта птушка Цукерка... Умеюць жа, чорт бяры, і нашы будаваць...» Доўга стаяў бы ён так, нібы прыгожую маладзіцу разглядваючы, пакуль жонка ягоная, нагружаная сумкамі і сеткамі у даўгаватым паліто, расчырванелая ад цяжкай хады, не крыкнула б: «А каб ты спрах! Глядзіць, як той баран на новыя вароты. Нам жа яшчэ ў гастраном трэба забегчы!»

Дом быў прыгажуном. Тут, дзе Мінск усёй сваёй жалезабетоннай армадаю ўрэзваўся ў пакуль яшчэ ціхія лугі і лясы, стаяў ён крыху наводшыбе, на невысокім травяністым узгорку Побач будаваліся яшчэ два такія прыгажуны. Успыхвала, як маланка ўдзень, электразварка, цяжка рыпелі тросы пад'ёмных кранаў.

Дом стаяў і пазіраў на лес усімі сваімі зіхоткімі шырокімі вокнамі праз дарогу, яшчэ не заасфальтаваную, перамеленую ў густую чорную гразь коламі грузавікоў. Дом быў малады, а лес стары. І лес паміраў, павольна, пакутліва, усе яшчэ зеляненючы кожнай вясною, але зелянеючы бледна і квола. Лесу не хапала дыхання, бо з усіх бакоў наступаў горад. Апошнім часам у лесе развялося мноства вавёрак, ніколі іх столькі не было. Жвавыя галодныя звяркі камячкамі рыжага полымя насіліся па старых патрэсканых елках, з якіх, як слёзы, ссыпалася, сцякала жоўтая igліца. Танец галодных вавёрак быў адыходнай песняй старому лесу.

Глухой восеньскай ноччу, калі шалёна ўзвіваўся вецер, калі ўсё наўкола грымела, гуло, калацілася, лес плакаў. Гэта быў плач-стогн па чырвоным вочку журавіны, якое раздушыла нага турыста, па мокрай

ад расы зеленагаловай сыраежцы, расплюшчанай колам веласіпеда, па крохкай галінцы маладой бярозы, якую абламаў валейбольны мяч.

Дому здавалася: лес плача таму, што баіцца ветру. Ах, хіба можна баяцца ветру? Ён жа такі пругкі, вясёлы, цёплы. Вось змёў з балкона старыя газеты, шпурнуў пад самае неба, і ляцяць яны адтуль, палахліва ўздрыгваючы, як белыя птушкі. Вось нейчая сіняя кашуля рванулася з дзесятага паверха. Лаві яе, лаві, гаспадыня! Дзеці раскруцілі катушку з ніткамі, прывязалі на доўгую-доўгую нітку цукерку. Хлопчык з шаснаццатага паверха спускае цукерку ўніз, дзяўчынка, маленькая, белавалосая, кірпаценькая, стаіць на зямлі, смешна растапырыўшы рукі, хоча злавіць цукерку. Ды дзе там! Не хоча ёй вецер адразу аддаць цукерку, хоча пагуляць з ёю. Смех. Піск.

— Паўлік, ты што — хочаш зваліцца адтуль?!

Жаночы крык урываецца ў свіст ветру, у вясёлае дзіцячае шчабятанне. Паўлік хаваецца на балконе. Сціхае вецер. Бяссільна павісае на белай доўгай нітцы цукерка. Робіцца сур'ёзным, камянее прыгажун-дом.

— Мама!

Дзяўчынка, з цукеркай у кулачку, падбегла да маці, уткнулася ёй у калені белавалосай галоўкай. Потым знізу ўверх шчасліва паглядзела на маці, падала ёй расплюшчаную цукерку.

— Бяры, мама. Еш.

Жанчына паставіла на асфальт цяжка напакаваную гаспадарчую сумку, капронавую сетку з бульбаю. Потым узяла малую на рукі, прытуліла да грудзей.

— Мая ты Людачка. Гэта ты мне такі пачастунак падрыхтавала? Еш сама, еш. У мамы зубкі ад салодкага баляць.

На стомленым жаночым твары паявілася лагодная, мяккая ўсмешка.

— У цябе зубкі баляць? Тады пойдзем да доктара. Дзядзя доктар табе іх жалезнай дзюбаю палечыць.

Жанчына засмяялася. Успомніла, як хадзілі з дачкой у стаматалагічную паліклініку і там малая, настрашыўшыся дактароў у белых халатах, прытулілася да яе і, бляднеючы, паказала пальчыкам на стаматалагічнае крэсла: «А навошта там такая дзюба?» Стаматалагічны апарат здаўся ёй падобным на дзюбастую жалезную птушку.

— Пойдзем дадому, Людачка,— сказала жанчына. Яна прывычным рухам узяла сумку з сеткаю, пайшла ў пад'езд. Дзяўчынка ішла побач, хацела падсобіць маці, трымаючыся за сумку маленькай рукою, але толькі перашкаджала.

Пад'езд, адзіны ў гэтым высачэзным доме, быў у паўзмроку. Толькі над ліфцёркай жоўта тлела слабасільная лямпачка. У ліфцёрскай чуліся дружны здаровы рогат, нейкае мяккае пашлёпванне. «Гуляюць у карты»,— здагадалася жанчына, і зноў, як некалі, ёй падумалася, што дужа многа манцёраў трымае домакіраўніцтва. З дзесятак рослых пышнавалосых хлопцаў таўчэцца кожную раніцу ў пад'ездзе, і невядома, чым яны займаюцца.

— Мама, я гляну пошту,— весела сказала Людачка. Паштовымі скрынкамі была аблеплена ўся сцяна, але дзяўчынка адразу ж знайшла сваю, стаўшы на пальчыкі, паглядзела ў шчыліну скрынкі.— Ёсць!

Жанчына з кішэні зялёнага балоневага плашча дастала вязку ключоў, самым доўгім, нязграбным адчыніла паштовую скрынку.

— Пісьмо! — крыкнула Людачка і схапіла крыху пакамечаны белы канверт,— Хто яго нам прыслаў, мама?

Яна яшчэ не ўмела чытаць, пачынала ўжо саромецца гэтага (усе ж брацікі, сястрычкі і тата з мамаю чытаюць!) і таму хуценька аддала канверт маці.

«Можа Віктар прыслаў»,— радасна падумала жанчына. Яна, не выпускаючы з рук сумку з сеткай і канверт, націснула на чырвоную кнопку, выклікала ліфт. На табло ўспыхнула лічба «16». Ліфт быў высока, а ёй не цярпелася пачытаць пісьмо. Ды трэба было чакаць, бо пачытаць можна было толькі там, у ярка асветленым ліфце.

«Добра было б, каб Віктар прыслаў»,— зноў падумала яна. Віктар, старэйшы сын, яе першынец, трэці год служыў ваенным мараком на Камчатцы. Год назад прыязджаў у водпуск, хадзіў па Мінску ў бесказырцы, у прыгожай марской форме. Яна таксама хадзіла з ім, то ў магазін, то ў кіно, і з абвостранай мацярынскай радасцю і хваляваннем бачыла, як заглядваюцца на сына дзяўчаты. Ды бог з імі, з дзяўчатамі. Яна бачыла, што яе сын вясёлы, усмешлівы, здаровы, і гэта было важней за ўсё.

Прыплыў ліфт. Яна, узяўшы за руку Людачку, хуценька ступіла ў яго.

Пісьмо было не ад Віктара. На белым халодным (такім ён адразу зрабіўся для яе) канверце друкаванымі літарамі было напісана: горад Мінск, вуліца Каліноўскага, дом № 68. Памалейкінай Дар'і Антонаўне. І ніякага зваротнага адраса.

Яна раўнадушна пакруціла ў руках канверт, паклала яго ў сумку з правізіяй. Магчыма, з работы, з палiклінікі, дзе яна працуе медсястрой, прыслалі якое-небудзь віншаванне. Ды быццам бы ніякага

свята ні сёння, ні заўтра няма. Яна пачытае пісьмо дома, бо яно не ад сына.

— Ой, Людачка, я ж табе жвачкі купіла літоўскай.

Дар'я Антонаўна з кішэні плашча дастала чатыры ярка-

зялёныя апетытныя прамавугольнічкі — нязменную дзіцячую радасць. Людачка борздзенька схапіла іх, цмокнула маці ў шчаку:

— Ну й люблю я цябе, мамка, за тое, што ты мне марожанае і жвачкі купляеш.

— Ты мяне толькі за гэта любіш?

— Я цябе за ўсё люблю, мама.

Цёплая шчымлівая хваля падкацілася да сэрца. Дар'я Антонаўна нагнулася, пацалавала маленькі загарэлы носік.

Ліфт цяжка, як бы нехаця, плыў на шаснаццаты паверх. У доме было два ліфты. Адзін, вузкі, цесны катушок, для пасажыраў, другі, у якім падніманіся Дар'я Антонаўна з Людачкай — грузавы. У гэты нават піяніна магло ўлезці. Як засяляліся, вазілі на ім мэблевыя гарнітуры, кніжныя паліцы, халадзільнікі. Усё вытрымаў, усё пераваложк на высокія паверхі ліфт.

На шаснаццатым паверсе Дар'я Антонаўна пачала была адкрываць сваю кватэру ключом. Але дзверы знячэўку расчыніліся знутры — яна аж спалохалася. Аказваецца, ужо дома быў муж, Іван. Ён узяў з яе рук сумку і сетку, сказаў:

— У Ізюмчыка дэрмацін на дзвярах парэзалі. Нажом ці брытвачкай паласнулі...

Ізюмчык быў іхні сусед злева, жыў у аднапакаёвай кватэры. Дар'я Антонаўна глянула ў бок ягонай кватэры і на прыгожым смалянa-чорным дэрмаціне ўбачыла доўгую хвалістую палосу ад парэзу.

— Куды міліцыя глядзіць? Рукі трэба адкручваць гэтаму хуліганню,— сказаў Іван,— Кожную ноч таўкуцца на лесвічных пляцоўках. Сёння выходжу, а каля сцяны ў калідоры дзве парожнія бутэлькі стаяць. З-пад «Агдама».

Ён, як пачынаў злаваць, смешна торгаў ніжняй губой, вадзіў яе ўлева, управа, нібы прыліпала яна да зубоў і край як трэба было паварушыць ёю. Быў ён у піжамных штанах і паласатай марской цяльняшцы, якую прывёз з Камчаткі Віктар.

— Злосны ты сёння, Ваня,— мякка ўсміхнулася Дар'я Антонаўна.— Там, у сумцы, пісьмо мне ляжыць. Пачытай.

Іван паставіў сумку і сетку на кухні, памог распрануцца Людачцы, прымасціўся на табурэтцы ля кухоннага акна і ўзяў канверт. Дар'я Антонаўна, здымаючы плашч, стаяла каля люстра, што вісела на сцяне ў пярэднім пакоі. Яна бачыла мужа ў люстры. Высокі, трохі

сутулаваты, з густым вожыкам сівых валасоў. Бровы чорныя, разлёцістыя. Івану было пяцьдзесят тры гады, але паставу ён захаваў маладую. Хударлявы, нават задужа. Некалі, расказваў, у футбол гуляў.

Дзверы з дзіцячага пакоя расчыніліся, і выйшла Каця, дачка Памалейкіных. Вучылася яна ў шостым класе і адначасова займалася ў секцыі плавання. У руках Каця трымала згорнуты ў трубачку сшытак, наморшчыўшы лоб, грызла кончык шарыкавай ручкі.

— Зубы не паламала? — ускудлаціла русыя доччыны валасы Дар'я Антонаўна.— Ты, Каця, як той Паўлік малы,— усё на зуб спрабуеш.

— А я і не малы, не малы,— з шумам выскачыў раптам з шафы для адзення Паўлік — схаваўся там, чакаючы маці.

— Фу, як ты мяне напалохаў, сынок,— Дар'я Антонаўна аж рукамі ўзмахнула, хоць ведала, што сын абавязкова схаваецца ў шафе, і, стоячы каля люстра, чула, як круціўся ён паміж паліто і плашчоў.

— Мама, мяне Зіна Сукора зноў пад вадой за нагу хапала,— паскардзілася Каця.

— Навошта ж яна гэта робіць?

— Таму што я пачала плаваць хутчэй за яе. Як мяне не было ў секцыі, яна была там чэмпіёнкай. А я прыйшла і яе абагнала на стометроўцы. Крыўдна ёй, зайздросна. І вось яна на кантрольных заплывах мяне і хапае. З тэмпу мяне збівае.

— Ты пагавары з ёй, дачушка. Нядобра ж такое рабіць,— параіла Дар'я Антонаўна.

— Не ведаеш, як яе адвучыць? — умяшаўся з кухні ў гаворку Іван.— Адбрыкніся, і яна перастане.

— Як гэта адбрыкніся? — здзівілася Каця.

— Як конь адбрыкваецца. Вось так,— Іван устаў з табурэта, ашчэрыў зубы і рэзка ўдарыў па паветры правай нагою.

— Ну ты, бацька, і навучыш,— падышла да электрапліты на кухні, каб разагрэць абед, Дар'я Антонаўна,— Ты пагавары з ёй, Каця. Скажы, што так непрыгожа рабіць, што можна траўму атрымаць. А зараз давайце абедаць. Паўлік, Люда, мыйце рукі. Дзе ты там, Люда?

— Дзіўнае нейкае пісьмо табе прыйшло,— ціха сказаў Іван. Ён устаў з табурэта, падышоў да жонкі, паклаў ёй руку на плячо.

— Можа ад палюбоўніка? — гарэзліва глянула на яго Дар'я Антонаўна.

— Ды не, Даша. Тут хутчэй ад палюбоўніцы. Вазьмі паглядзі.

Дар'я Антонаўна паставіла каструлю з баршчом на электрапліту, павярнула чорную галоўку ўключальніка, выцерла аб фартух рукі і ўзяла пісьмо. Яно было напісана на прыгожай бледна-сіняй паперы, тонка пахла жаночымі духамі. Першыя ж словы нібы ўдарылі Дар'ю

Антонаўну. Яна аж адхіснулася, заплюшчыла вочы. Пісьмо было грубае, вельмі грубае. Аказваецца, ёсць яшчэ на свеце такая першабытна-пячорная грубасць. Едкая мешаніна жоўці з дзёгцем, і, вядома ж, ананімная.

— Ты надта не перажывай,— асцярожна пагладзіў яе па галаве муж.— Той, хто такое напісаў, дакладней — тая, і падэшвы тваёй не варта. Якая-небудзь дзеўка-векавуха, што ў пяцьдзесят год выскачыла нарэшце замуж і вішчыць ад радасці. Плюнь ты на ўсё гэта. Ведаеш, што мы жадалі эсэсаўскай сволачы, як быў я ў канцлагеры? Стукне ён цябе ні за што ў каршэнь, выспятка дасць, а ты пачухаеш балючае месца, адыдзешся ды шэптам скрозь зубы: «Каб ты калючым дротам пакакаў, гад».

Дар'я Антонаўна глянула на мужа. Строгія шэрыя вочы, рот з цвёрдым прыкусам. І ўвесь лоб у маршчынах.

— Ешце, дзеці,— сказала яна.— І ты, Іван, еш. А я з'езджу ў пральню самаабслугоўвання, куплю талон. Трэба бялізну перамыць.

— І я з табой паеду, мама,— ухапіў яе за руку Паўлік.

— Сядзі дома і чытай буквар,— строга глянула на сына Дар'я Антонаўна.

Яна выйшла з дому, і вецер адразу ўдарыў у твар, прымусіў заплюшчыць вочы і затаіць дыханне. Тут, на гарадской ускраіне, заўсёды шумеў вецер, што прылятаў з навакольных лясоў і палёў. А цяпер побач з домам будавалі яшчэ два высокія дамы, стварылася як бы аэрадынамічная труба, і вецер аж выў.

На прыпынку, пакуль не падышоў тралейбус, Дар'я Антонаўна зноў перачытала пісьмо.

«Прывітанне, рэкардсменка! — пісаў ананім.— Учора глядзелі, як ты распіналася па тэлевізары. Мы не сталі б, вядома, так доўга любавацца тваёй паляшуцкай фізіяноміяй, каб не некаторыя лічбы, Аказваецца, ты нарадзіла шасцёра дзяцей і ўсенародна хвалішся сваёй пладавітасцю. А чым хваліцца? Тым, што ты дзетанараджальная машына? У нас няма дзяцей, і ўяві сабе, што мы з мужам шчаслівыя. Так, шчаслівыя! Але табе не зразумець гэтага шчасця, бо ты ўсе свае сорак пяць гадоў (здаецца ж, табе сорак пяць гадоў?) не вылазіш з раддома. Адкуль табе ведаць, як пахнуць французскія духі, як мякка і далікатна аблягае цела шаўковая бялізна? Ці знаеш ты, як добра на ўласнай аўтамашыне паехаць у Крым, у Прыбалтыку, куды толькі захочаш? Табе недаступна гэта, бо ты штампуеш нашчадкаў аднаго за другім. Ну што ж, ні пуха табе ні пер'я! Хадзі ў раддомы! А мы праз пяць дзён адпраўляемся ў турпаход у Карпаты. Можа табе адтуль прывезці дзіцячых сосак?»

Дар'я Антонаўна колькі часу патрымала пісьмо ў руках, потым, сурова прыжмурыўшы вочы, парвала яго на дробныя шматочкі. Вецер падхапіў іх і панёс у бок лесу.

На душы было пуста і холадна. Нервова заторгалася левае павека. Яна прыціснула павека пальцам, дастала з сумачкі насоўку, працерла вочы. Падышоў тралейбус. Дар'я Антонаўна з нейкай разгубленасцю падалася ў салон — раптам расхацелася ехаць у пральню. Малады модны хлопец прапанаваў быў ёй сваё месца. Яна падзякавала і засталася стаяць на задняй пляцоўцы, прыпаўшы лбом да халоднага шкла.

Яе ўпікалі дзецьмі, упікалі самым дарагім, што ёсць у яе на свеце. Яна заўсёды, як была яшчэ маладзенькай зялепухай, хацела мець дзяцей. Не задумвалася, не падлічвала, колькі іх у яе павінна быць. У маці сваёй, Тэклі Захараўны, яна была дзевятай.

Хто ты, незнаёмая злая жанчына? Чаму носіш у сэрцы такую атруту? Ты лаеш мяне і маіх дзяцей таму, што не маеш сваіх. Але ў чым мая віна перад табой? Ты нюхаеш дарагія французскія духі, ты едзеш у Крым, а я, як нарадзіўся мой першынец, мой Віця, згубіла лік недаспаным начам, трывогам. З кожным маім хворым дзіцем хварэла я сама. Кожная іхняя крыўда апякала маё сэрца. А ці лёгка ўсіх іх падняць на ногі, вывучыць, апрануць, накарміць? Ты нюхаеш дарагія фанцузскія духі... А ці ведаеш ты, як пахне русая дзіцячая галоўка, якую толькі што ты вымыла і прычасала? А ці было з табой такое? Жывеш на прыватнай кватэры з дзецьмі, наймаеш за сорак пяць рублёў у месяц катушок. І вось ты сама, бо муж ужо трэці дзень як паехаў у камандзіроўку, насекла дроў, запаліла печ, нагрэла ў металічных ночвах вады і мыеш дзяцей. А гаспадар катушка, п'яненькі, добранькі, палахліва азіраючыся, каб не сцікавала жонка, стукае табе ў шыбу і шэпча, просіць: «Антонаўна, Дар'я, дай тры рублі на пахмелку... Дай, бо загнуся... Сорак два будзеш вінца за гэты месяц...» Але ў цябе няма грошай — на апошнія ты купіла хлеба, малака і мыла. І гаспадар палахліва, як той крот, корпаецца ў бульбоўніку, рукамі выдзірае з зямлі маладыя карчы. Яму трэба незаўважна ад жонкі накапаць вядро бульбы. Ён занясе яго па рынак і прадасць за рубель.

Але што табе да гэтага, ты ж едзеш у Карпаты на ўласных «Жыгулях».

У пральні Дар'я Антонаўна купіла талон на будучы аўторак, потым зайшла ў прадуктовы і пастаяла ў чарзе па каўбасу. Дамоў яна рашыла дабірацца пешшу. Яна любіла надвячоркавы горад. Бягуць вучні са школы, паважна трымаючыся за руку бацькоў, дзядоў і бабулек, ідуць з дзіцячага сада маленькія карапузікі, і на горад, на ўвесь

яго грымлівы абсяг, пакрысе апускаецца цішыня. Яе, такой, як бывае ў вёсцы, густой свежай цішыні, не будзе ў горадзе і ў поўнач. Горад не заціхае, а прыціхае, запавольвае тэмп. І, здаецца, мякчэй праступаюць па залітым дажджом асфальце тралейбусы і аўтобусы. Іх, недзе ў гадзіну ночы, таксама чакае перадышка.

Горад запальвае агні. Агнёў у такога вялікага, як Мінск, горада — сотні тысяч. Цікава пазіраць, як пачынае ажываць, гарэць чырвонымі плямкамі вокнаў зацемнены вышынны дом. Вокны ўспыхваюць адно за адным, і, здаецца, па доме прабягае сутарга.

Недалёка ад тратуара ля металічнай асвятляльнай мачты тоўпіліся людзі, нешта чыталі, выцягваючы шыі. Дар'я Антонаўна падышла да іх. Яна ўжо здагадалася, што ўбачыць. Так і ёсць. На мачце нейчая рука павесіла вянок з чорнай стужкаю. Побач наклеены белы квадрат паперы з чорнымі літарамі: «На гэтым месцы трагічна загінуў Аляксандр Бокуць». Пяць дзён назад гэты самы Бокуць святкаваў сваё васемнаццацігоддзе. Бацькі выпівалі дома, а сын запрасіў сяброў і сяброўак у лес, «на касцёр». Там і заначавалі каля кастра. Раніцой, гадзін у восем, памчаўся Бокуць на сваім матаролеры ў горад, каб прыхапіць спіртнога. Быў на падпітку і таму гнаў свайго «каня», аж вуліца калацілася. А на матаролеры не было нумара. Патрульная машына ДАІ заўважыла такі непарадак і рванулася наўздагон. Ды хіба Бокуць, васемнаццацігадовы, п'янаваты, адчайна-смелы Бокуць, якога сябры называлі «каскадзёрам», мог дазволіць, каб яго хто-небудзь дагнаў? Ягоны матаролер аж узвіўся, а калі міліцыянеры ўсё ж пачалі даганяць, эфектна скокнуў Бокуць па матаролеры з дарогі цераз бардзюрчык на газон. Машына ДАІ зрабіць такое, вядома, не змагла. Не першы раз так скакаў Бокуць, дэманструючы сябрам свой спрыт. Але гэтай восеньскай раніцай ён трошкі не разлічыў і ўрэзаўся ў асвятляльную мачту.

Сябры і сяброўкі наладзілі цэлае паломніцтва да месца гібелі «каскадзёра». Цвікамі, сцізорыкамі выдрапвалі на мачце развітальныя надпісы. Дар'я Антонаўна глянула, і сэрца зайшлося ад слоў: «Кахала, кахаю, буду кахаць. Лена».

Як недарэчна загінуў хлопец! І зноў думкі вярнуліся да сваіх дзяцей. Шасцёра іх. Два хлопцы і чатыры дзяўчынкі. Зіна ўжо замужам, жыве ў Вільнюсе, Валя таксама пайшла з дому, Віктар служыць на флоце, а астатнія пакуль яшчэ каля маці. І з кожным з іх, Дар'я Антонаўна аж скаланулася, можа здарыцца тое самае, што здарылася з Бокуцем. Шэсць дзяцей — шэсць матчыных трывог.

— Я ўжо думаў у міліцыю званіць, цябе шукаць,— сустрэў яе Іван і памог распрануцца. Потым дадаў, трохі разгублена:— Валя званіла.

— Ну й што ж яна сказала? — з хваляваннем, з надзеяю глянула Дар'я Антонаўна на мужа.

— Сказала, што пасылаюць іх бульбу капаць у калгас. Некуды пад Барысаў. Сказала, што ўсё ў яе нармальна.

Валя, іхняя васемнаццацігадовая дачка, «паказвала характар». Скончыла васьмігодку, паступіла ў кулінарнае вучылішча, пайшла працаваць у чыгуначны буфет і там па вушы закахалася ў грузчыка Васіля Счыслёнка. Васіль той дужа любіць чарку, і вядома ж, Дар'я Антонаўна з Іванам былі супраць такога зяця. Дый пра вяселле рана яшчэ казаць — усяго васемнаццаць гадоў дзеўцы. «Мне жыць з Васем, а не вам,— сказала бацькам Валя,— Вам ён не падабаецца, а я яго кахаю. П'е ён толькі ў выхадныя. Казаў, што хутка зусім кіпе». І з гэтымі словамі Валя пайшла да Васіля. Жывуць яны без загса, без вяселля, за чыгуначным вакзалам на вуліцы Студэнцкай у Васілёвай цёткі. Дар'я Антонаўна неяк ездзіла да іх з Кацяй. Адчыніла дзверы Васілёва цётка, высокая хмурная жанчына, глянула няласкава на гасцей і сказала, што Валя з Васілём з самай раніцы на Камсамольскім возеры — загараюць. Дар'я Антонаўна сумелася, не ведала, што казаць і што далей рабіць. Каб неяк згладзіць нялоўкасць, спыталася, і спыталася, цяпер кляне сама сябе, зусім не аб тым, аб чым хацела:

— Скажыце, а гэты... Васіль гарэлку п'е?

Васілёва цётка глянула на яе, як на марсіянку. Карычневыя з жоўтымі крапінкамі наўкол зрэнкаў вочы няўлоўна ўздрыгнулі.

— П'е, мілая,— сказала цётка.— П'е, як голуб ваду.

Вярнуўшыся дадому, Дар'я Антонаўна паплакала на кухні, а потым, збіраючы вячэру, як бы незнарок спыталася ў Івана, многа ці мала п'е вады голуб. Муж здзівіўся такому пытанню, але толкам адказаць не змог, бо й сам не ведаў.

Валя званіла, што ў яе ўсё нармальна. Што ж, і гэта суцяшэнне, калі не бачыш дачку па некалькі месяцаў. А ўсё-такі дрэнна абышлася з бацькамі дачка. Можна было пагаварыць спакайней, параіцца. Вунь Зіна, старэйшая, усё зрабіла як належыць. Прывяла свайго афіцэра, ён тады яшчэ ў ваенным вучылішчы вучыўся, пазнаёміла, і праз чатыры месяцы вяселле згулялі. Жывуць зараз у Вільнюсе, кватэру атрымалі, сын расце. А тут невядома яшчэ, як павернецца з гэтым Васілём, якім ён сем'янінам будзе.

Іван уключыў тэлевізар, уладкаваўся ў крэсла і пачаў глядзець праграму «Час». Гэта было ягонае штовячэрняе свяшчэннадзейства.

Няхай бы зараз прабіў сцяну і ўпаў у суседнім пакоі метэарыт ці ў вытаптаным скверы насупраць дома раптоўна пачаў біць з зямлі фантан нафты, Іван бы не здрыгануўся. Ён сядзеў нерухома, як камень, глядзеў на экран і толькі раз-пораз прыцмокваў языком.

— Дзеці, спаць,— сказала Дар'я Антонаўна. Каб пакласці дзяцей, калі бацька глядзіць тэлевізар, трэба быць вялікім стратэгам.

— Я не хачу спаць,— пачаў хныкаць Паўлік.— У мяне ад сну вушы пухнуць. Так Толік з дзесятай кватэры сказаў.

Не вытрымала, засмяялася Каця. Дый Дар'я Антонаўна ледзь стрымлівала ўсмешку. Але ў гэтай справе яна не дапускала ніякіх патуранняў. А палове дзесятай вечара дзеці павінны ляжаць у сваіх ложках і спаць. Такі быў жалезны рэжым у сям'і Памалейкіных, які ўвяла Дар'я Антонаўна і ад якога не адступалася ўжо другі дзесятак гадоў. Слёзы Паўліку не памагалі, і тады ён, шасцігадовы дыпламат, ставіў такую ўмову: ён засне, але маці павінна расказаць казку. І прытым кожны вечар новую, бо паўтораў Паўлік не любіў ні ў чым. Тут ужо Дар'і Антонаўне даводзілася выкручвацца.

Пахныкаўшы, дзеці, Паўлік з Людачкай, ляглі спаць.

— Мама, я яшчэ трошкі папішу,— папрасіла Каця,— Нам задалі хатняе сачыненне.

— Папішы, Кацечка. Толькі тады лямпу не забудзься выключыць.

Дар'я Антонаўна праверыла, ці замкнуў Іван на ноч дзверы, потым пайшла на кухню, бо ніколі не пакідала на заўтра ніводнага пявымытага відэльца, потым падсела да Івана і пачала глядзець тэлевізар. Ды думкі яе зноў і зноў вярталіся да ранішняга пісьма. Быццам стрэмка засела ў душы. «Навошта я згадзілася тады выступаць па тэлевізары? — дакарала яна сябе.— Абняславілася на ўвесь свет».

Але ж выступала не толькі яна. Была тэлевізійная праграма для жанчын, і выступалі, памятаецца, многія. Нават жанчына — капітан далёкага плавання выступала.

Сям'я хваліла яе выступленне. Іван расказваў, што, як толькі пачалася праграма, як толькі з'явілася на экране маці, маленькая Людачка войкнула ад здзіўлення, потым пачала пляскаць у ладкі і ўсё дапытвалася: «А як мама ў тэлевізар залезла?» Нават вакол тэлевізара абышла, глянула, ці няма там якіх-небудзь дзверцаў.

Ужо месяцаў шэсць, як стаіць у кватэры Памалейкіных каляровы «Гарызонт». Чорна-белы тэлевізар Іван здаў і ўзяў гэтага прыгажуна з растэрміноўкаю ў аплаце на два гады. Добры тэлевізар, нічога не скажаш. Дар'я Антонаўна памятае, як здавалі ў атэлье чорна-белы тэлевізар. Іван завязаў яго ў прасціну, панёс на выхад, а яна раптам,

нават сама не чакала, усхліпнула. Гэта ж дзесяць гадоў стаяў ён на покуце, нібы членам сям'і зрабіўся, і вось ад'язджае назаўсёды. Кінуць яго на заводзе пад прэс, і канец яму. «Дурная»,— смяяўся тады Іван. А яна села на канапу, падперла шчаку рукою і нечакана ўспомніла, як калісьці, гадоў трыццаць назад, вялі здаваць на мясакамбінат іхнюю карову Рабіну. Бацька накінуў карове на рогі вяроўку, карова не хацела ісці, упіралася, а маці стаяла каля варот у чорным кажушку, без хусткі і плакала. Карова выйшла на вуліцу і там, ужо адыходзячы ад двара, сумна і працяжна мыкнула, развітваючыся назаўсёды. І ўсе, маці і яна, Дар'я, і брацікі, і сястрычкі, заплакалі і пабеглі ўслед за каровай. А бацька раптам прыкусіў губу, зрабіў страшныя вочы і з усяе сілы шлёгнуў пугай па пяску, крыкнуў: «Ану марш дамоў!» Рабіна, бура-чырвоная, з белымі плямамі на спіне, усё круціла галавой, аглядалася, і здалёку, з канца вёскі, далятала яе журботнае развітальнае мыканне. Добрая была карова, ды пашкодзіла вымя аб калючы дрот у лесе, і, калі ішла ў хлеў з пашы, ліўся на зямлю тоненькі белы ручаёчак малака.

Дзіўна, чаму гэта ўсё ўспомнілася? Там — карова, тут — тэлевізар. Што можа быць агульнага між імі? Ды агульнае, аказваецца, было — слёзы. Слёзы маці тады, на пыльнай вясковай вуліцы, і слёзы дачкі ў гарадской кватэры, з якой толькі што вынеслі тэлевізар. «Зусім непадобныя ўжо нашы слёзы. Зусім»,— сумна падумалася ў той дзень Дар'і Антонаўне.

— Пайшлі спаць,— узняўся з крэсла, да хрусту ў плячах пацягнуўся Іван.

— Спі. Я пазней лягу,— Дар'я Антонаўна выключыла тэлевізар. Муж незадаволена глянуў на яе, але нічога не сказаў.

Калі Іван лёг, яна ціха выйшла на балкон, абаперлася локцямі аб халодныя шурпатыя балясы ды так і знерухомела. Чорная бездань была пад ёю. Тут, на вышыні шаснаццатага паверха, дзьмуў свежы начны вецер, астуджваў шчокі, вочы, сэрца. Над галавою, у трывожнай зацятай цемры, квола прарэзваліся зоркі, як пылінкі шкла. Горад тушыў агні. Яшчэ даносілася ягонае вуркатанне, але ўсё цішэй, слабей. Каля дома, у маладзенькім скверы, дзе з разлезлай мокрай зямлі тырчалі клеткі і бярозкі, чуўся ўзбуджаны малады голас: «Ніна, давай яшчэ пагуляем... Ніна...» Але і ён сціх. Прашумеў тралейбус, цягнучы над сабой жоўта-сінія доўгія іскры. Смаляна блішчаў асфальт на тралейбусным прыпынку.

І зноў успомнілася ёй жорсткае зняважлівае пісьмо. Недзе ў гэтым вялізным начным горадзе спіць ці кладзецца спаць тая жан-

чына. Як хацела б убачыць яе зараз Дар’я Антонаўна, глянуць ёй у вочы. Зразумець яе. Ды не — яны ніколі б не зразумелі адна адну.

Дар'я Антонаўна зачыніла балкон, уключыла у пярэднім пакоі святло, падышла да люстра. Стомлены твар. Блакітныя вочы з нервовым бляскам. У куточках вуснаў маршчыны, якіх ужо нічым не схаваеш. І ва ўсёй паставе адчуваецца, пакуль яшчэ няўлоўна, нейкая замаруджанасць, запаволенасць. Няўжо гэта яна, Даша, якая так любіла паспяваць і паскакаць, бегала ў парашутную секцыю? Сяброўкі, помніцца, называлі яе «жыўчыкам».

А тая, раптам падумалася ёй са злосцю, напэўна ж, прыгожая. маладжавая, дагледжаная. Вернецца з Карпатаў загарэлая, як афрыканка. І муж у яе прыгожы, белазубы і чарнавы. За дзяцей жанчыны расплочваюцца сваёй маладосцю і прыгажосцю, пералiваюць у іх сваю душу, сябе. Тая ні кропелькі сябе не разліла, яна, як крыштальны бакал, да краёў папоўнены маладым віном.

Скрозь сон крыкнуў Паўлік. Дар'я Антонаўна хуценька выключыла святло, на пальчыках подбегам пайшла у дзіцячы пакой. Лоб у сына быў гарачы. Няўжо застудзіўся? Казала ж, не выходзь на вуліцу без паліто. Яна ўключыла начное святло. Сын спаў, скінуўшы на падлогу коўдру, абхапіўшы падушку рукамі. Вузкія плечы ціхенька прыўзнімаліся у такт дыханню. Дар'я Антонаўна асцярожна накрыла яго коўдрай. Людачка, лежачы ў сваім ложку, моцна прыціскала да грудзей чорнавалосую ляльку Тэрэзу. Па твары ў дзяўчынкі прабягала, як сонечны праменьчык, усмешка. Што сніцца дачцэ? Майскі, белы ад квецені сад, у якім гудуць залатыя пчолы? Сіняя рака, дзе цвітуць асляпляльна чыстыя гарлачыкі?

Каця спала, згарнуўшыся ў клубочак, падклаўшы пад шчаку рукі. У гэтай сон заўсёды нейкі строга-маркотлівы, трывожны. Спіць і нібы чуйна прыслухоўваецца да самой сябе.

Растуць дзеці. Яшчэ год назад Каця спала разам з Людачкай і Паўлікам, а цяпер кладзецца асобна, па канапу, і ўжо заявіла маці, што з новага года перабярэцца спаць у залу. Бярэ верх дзявочая сарамлівасць — і, значыць, ты ўжо не дзіця, дачка. Бач, грудзі якія пукаценькія. Растуць дзеці і, хочаш не хочаш, аддаляюцца ад маці. Ужо не ўсімі сваімі тайнамі дзеліцца з Дар'яй Антонаўнай Каця. І крыўдна, і сумна, і разумееш непазбежнасць гэтага.

Дар'я Антонаўна пагладзіла Кацю па русай галаве і ў руцэ ў дачкі заўважыла згорнуты ў трубачку сшытак. Пісала ці чытала ды так і заснула са сшыткам. Мякка расшчапляючы адзін за адным доччыны пальцы, Дар'я Антонаўна ўзяла сшытак, разгарнула. Кацiным роўненькім почыркам — яна заўсёды ніша чыста, акуратна —

было напісана: «Сачыненне на вольную тэму. Што я думаю пра сваіх аднакласнікаў». Бач ты, якія ім сачыненні задаюць. Ну і што ж ты, дачка, думаеш пра сваіх таварышаў?

«Нашы вучні,— чытала Дар'я Антонаўна,— увогуле дысцыплінаваныя, арганізаваныя. Выдатнікаў у нас няма, але ўсе стараюцца вучыцца без троек, бо пасля заканчэння школы збіраюцца паступаць у інстытут. Мне непрыемна, што ў нашым класе кожны заняты сам сабою, хоць пра гэта нікому і не гаворыць. А мы ж усе — камсамольцы. Нам трэба быць такімі, як Паўка Карчагін і Міша Мароз. Ды ў кіно і ў кніжках, відаць, лягчэй сябраваць, чым у сапраўдным жыцці. Я сябрую з Нінай Рабцэвіч і Зояй Пракапенка. А гэтага хлопчыка я так не люблю, так ненавіджу, што нават прозвішча яго пішу з маленькай літары».

Дар'я Антонаўна адчула, як усхвалявана забілася сэрца. Яна паклала сшытак на стол, пацалавала Кацю ў халодны лоб, трывожна падумала, гледзячы ў начное чорнае акно: «Каб ты была шчаслівай, дачушка».

### II. ДОЖДЖ

Раніца пачынаецца, як звычайна, плачам Паўліка.

— Не хачу ў сад... Хачу з табой на работу,— кулачком размазвае ён па шчоках слёзы. Даўно-даўно знаёмы матыў. Такі знаёмы, што Дар'я Антонаўна, зашпільваючы сыну гузікі балоневай курткі, паспявае думаць пра тое, што Каці трэба купіць повыя боцікі, а Іванаў шэры касцюм здаць у хімчыстку, што трэба перад зімою закітаваць вокны ў кватэры, бо зноў будзе гуляць па пакоях ветрадуй.

— Не хачу ў сад...— цягне сын.

— Ай-я-яй, які ты плаксівы, Паўлік,— кажа нарэшце Дар'я Антонаўна,— Будзеш плакаць — не возьмуць цябе ў салдаты.

— Не хачу ў салдаты... Не хачу ў сад... Хачу з табой на работу.

Людачка ўжо апранутая, ціхенька сядзіць на крэсле і глядзіць на брата. Яна ніколі не плача, і гэта бянтэжыць Дар'ю Антонаўну. Чаму такая спакойная дачка? Відаць жа па вачах, што таксама не хоча ісці ў сад, а глядзі ты — ні слязінкі, сядзіць, як мудрая, стогадовая бабулька.

Каця пайшла ў школу. Іван паехаў у сваё рамонтна-будаўнічае ўпраўленне, дзе працуе майстрам. Трэба завесці ў сад малых і амаль праз увесь горад дабірацца да бальніцы. Яе дзяжурства, дзяжурства палатнай медсястры, пачынаецца ў восем трыццаць раніцы. Хутчэй

бы пабудавалі метро, тады не трэба будзе імчацца на злом галавы на работу.

Перад самым садам Паўлік, набраўшы ў лёгкія паболей паветра, зайшоўся ў крыку і ў плачы. Але Дар'я Антонаўна спакойна адрэагавала на гэта, і ён прыціх.

— Мамачка, ты забяры нас раней за ўсіх,— пагладзіўшы матчыну руку, папрасіла Люда.

— Вас Каця забярэ. Я дванаццаць гадзін буду на дзяжурстве.

Дар'я Антонаўна памахала малым рукою, подбегам накіравалася на тралейбусны прыпынак.

Уціснуўшыся ў салон, яна стала каля акна, глядзела на залітыя дажджом ранішнія мінскія вуліцы. На асфальце ззялі вялізныя лужыны, тралейбус адважна, як той параход, уразаўся ў іх, аж вада бурліла пад коламі.

Думкамі Дар'я Антонаўна была яшчэ дома. Успомніла, як будзіла сёння Паўліка. Паўлік хітрыў, рабіў выгляд, што моцна спіць. Ляжаў ён у прыгожай кашульцы — па белым полі намаляваны чырвоныя задзірыстыя пеўнікі. І Дар’я Антонаўна сказала: «Уставай, соня. Усе твае пеўнікі даўно ўжо кукарэкаюць». Паўліку дужа спадабалася гэта, ён засмяяўся, выскачыў з-пад коўдры.

Восем гадзін раніцы, а горад ужо даўно працуе. Ды працуе ён круглыя суткі. Будуе дамы, пячэ хлеб, шые адзенне, адгружае на экспарт новенькія чырвоныя трактары «Беларусь». І, вядома ж, пракладвае трасу метро.

Удзень і ўначы праз тоўшчу глiністай вільготнай зямлі ідуць метрабудаўнікі. Быццам шукаюць сляды Нямігі, старадаўняй вясёлай рэчкі, якую людзі калісьці закавалі ў бетонныя трубы і схавалі пад зямлёй.

У восем трыццаць раніцы на Дар'і Антонаўне белая шапачка, белы накрухмалены халат. Чалавеку, які ведае яе, сустракаўся з ёй за межамі бальніцы, здалася б яна зараз халаднаватай і замкнёнай. Яна садзіцца за стол, хуценька прабягае вачамі сястрынскія лісты, дзе ўрачом запісана, што і ў якіх прапорцыях даваць кожнаму хвораму. Каму ўколы, каму мікстуры, а каму, пасля аперацыі, седуксен ці штонебудзь іншае супакойваючае. На сённяшні дзень у хірургіі ляжаць чацвёра з «вострым жыватом», трое з пераломамі канечнасцей. У маладога хлопца-будаўніка, які ўпаў з чацвёртага паверха, вялікая інфіцыраваная рана левага пляча. Прывезлі шафёра аўтобуса з раздробленым ступаком правай нагі. Кульнуўся пад адхон, праўда, ішоў паражняком, толькі сам і пацярпеў.

Па-хатняму вуркоча «Днепр-3», у якім захоўваюцца свежыя мікстуры. Каля яго — прасторная лекавая шафа, вагі для ўзважвання хворых. Дарэчы, медыцынскія сёстры і нянечкі і самі часцяком на іх узважваюцца — сочаць за фігурай.

Па правую руку ад Дар'і Антонаўны зманціраваны пульт сігналізацыі. Калі ў сваёй палаце хворы націсне кнопку, на пасту № 2, так называецца пакой Дар'і Антонаўны, успыхвае лямпачка і звініць званок.

Бальніца — гэта боль і пакута. Бальніца — гэта чаканне і надзея. Усіх робіць роўнымі хвароба, толькі не ўсе з аднолькавай цвёрдасцю нясуць яе крыж. Многім яна затуманьвае вочы і галаву, адбірае волю, прымушае прыслухоўвацца да кожнага штуршка стомленага сэрца — а раптам збой, зрыў, катастрофа?

Зазваніў тэлефон.

— Ало! Дар'я Антонаўна? Гэта ваша суседка з шэсцьдзесят чацвёртай кватэры. Ніна Іванаўна Матруніч. Віншую, даражэнькая, віншую, вось не чакала такіх талентаў.

— З чым віншуеце? — не зразумела Дар’я Антонаўна.

— Ах, якая сціпласць, якая сціпласць — верашчаў на другім канцы дроту саладжавы голас.— Хіба гэта не вы па тэлебачанні выступалі? Такая прыгожая, эфектная. А прычоска! Дзе вы знайшлі такога цырульніка?

Дар'я Антонаўна прыкусіла губу. Не хацелася ёй слухаць пра сваё выступленне, не хацелася ўспамінаць, але ж не трэба крыўдзіць суседку.

— Што вы, Ніна Іванаўна,— сказала яна стомлена.— Не перабольшвайце маіх здольнасцей. Накалацілася я там, панервавалася — на вяроўцы мяне туды болей не зацягнуць.

Хутчэй бы скончылася гэтая непатрэбная велікасвецкая размова. Як шмат усё-такі мы гаворым попусту. Абы ліць ваду, абы не маўчаць.

— Не прыбядняйцеся,— разлівіста засмяялася Матруніч.— Мой Мікалай Савельевіч казаў, што і ў міністэрстве вас глядзелі. І там вы ўсім спадабаліся.

Муж Ніны Іванаўны працуе ў міністэрстве мясной і малочнай прамысловасці, і яна называе яго няйначай як Мікалай Савельевіч. «Мікалай Савельевіч сказаў... Мікалай Савельевіч падумаў...»

— Мікалай Савельевіч загадаў перадаць вам прывітанне. Сказаў, што вы такая мілая, такая чароўная, такая мужная...

Мужная? З якой гэта яшчэ оперы? Яна, Дар'я Антонаўна, бы і не ваявала разам са Штырліцам у фашысцкім тыле.

— Такая мужная... У наш час мець шасцёра дзяцей... Не кожная жанчына на гэта адважыцца...

Вось яно што. Зноў старая музыка. Шасцёра дзяцей. Ах. Ох. А ў самой адно дзіця, дый тое амаль год сядзіць у вёсцы з бабуляй. Што ім трэба, усім гэтым людзям, ад мяне і ад маіх дзяцей? Ну, добра. Няхай я — выкапнёвы мамант, правільней, маманціха. Не модна ў наш час мець многа дзяцей, цяжка і нязручна мець. Я рашылася. Я — дурніца. Дык пакіньце мяне нарэшце ў спакоі.

— Што вы хацелі, Ніна Іванаўна? — далікатна пацікавілася Дар'я Антонаўна.

Зноў цёплы смяшок, як ручаёк, выплёскваецца з тэлефоннай трубкі.

— Ах, дробязь, мілая. Разумееце, Мікалай Савельевіч пачаў стамляцца... Нервы. Перагрузка ў міністэрстве. План па мясу, па малаку... Разумееце?

— Разумею. І што?

— Пачаў дрэнна спаць. Ён жа такі ўражлівы, такі прынцыповы і чэсны. Усе непрыемнасці на сябе бярэ, як громаадвод маланкі...

Ого, параўнанне! Мікалай Савельевіч — громаадвод. Цікава, кім жа яна сябе лічыць, калі муж у яе громаадвод?

— ...Эленіуму ці седуксенчыку яму папіць трэба. Можа, па суседскай дружбе, прынесіцё хоць аблатачку? У аптэках цяжка дабіцца.

І зноў — смяшок. Смех для такіх людзей — пракладка паміж словамі і сказамі. Так ватай абкладваюць бутэлькі з кіслатой, каб не разбіліся адна аб адну.

Нарэшце размова скончана. Шчоўкае рычажок на тым канцы дроту, і Дар'я Антонаўна быццам бачыць, як кладзе Матруніч трубку — плаўна і грацыёзна.

Колькі хвілін сядзіць Дар'я Антонаўна нерухома, заплюшчыўшы вочы, вялікімі пальцамі масажыруючы павекі. Нешта апошнім часам пачалі балець вочы. Асабліва як выйдзеш на яркае святло.

На сігналізатары ўспыхнула лямпачка, і рэзка зазваніў званок. Дар'я Антонаўна ўздрыгнула, глянула на пульт — выклікае дзевятая палата.

Яна зайшла ў палату і адразу ўбачыла вялікія, белыя ад страху, вочы шафёра, што ляжаў на ложку каля сцяны. Зараз ён не ляжаў, а сядзеў, разгублены, спалоханы, і моцна прыціскаў да сябе падушку, нібы ў ёй быў ягоны паратунак.

— Што ў вас, Буяльскі? — падышла да яго Дар’я Антонаўна.

— Мне патрэбен дзяжурны ўрач. Мне дрэнна,— спяшаючыся, сказаў Буяльскі. Быў ён прыгожы, белатвары і чарнавокі, з маленькімі смалянымі вусікамі над пухлай губою.

— Дык што ў вас?

— Мне дрэнна. У мяне, відаць, пачынаецца гангрэна. Назавіце хутчэй урача.

Ён глядзеў не на Дар'ю Антонаўну, а на сваю правую нагу.

— Супакойцеся. Усё ў вас нармальна. Не думайце пра дрэннае. Я яшчэ праеду на вашым аўтобусе. Па якім маршруце вы ездзіце? — мякка ўсміхнулася Дар'я Антонаўна.

— Па сто восемдзесят шостым. Мінск — Гарадзішча,— адказаў Буяльскі, і адразу ж ягоны голас зноў зрабіўся слязлівы і капрызны, як у малога дзіцяці: — Паклічце ўрача.

Разам з Буяльскім у палаце ляжаў шасцідзесяцідвухгадовы Павел Кушнер пасля аперацыі з прычыны перытаніту. І вось гэты Кушнер, бадзёры, жвавы таўсцячок, сказаў Дар’і Антонаўне:

— Вы ў яго кніжку адбярыце, якую ён дзень і ноч чытае.

— Што за кніжка?

— Ды нейкі падручнік для медыцынскіх сясцёр. Начытаецца ён пра розныя хваробы — і здаецца, што яны і ў яго ёсць. Вось і псіхуе. Пад коўдрай ляжыць у яго гэтая кніжка.

Дар'я Антонаўна і сапраўды знайшла ў Буяльскага тоўсты, растрапаны «Даведнік медыцынскай сястры».

— Я лепш прынясу вам казкі братоў Грым,— усміхнулася яна Буяльскаму.

А гадзіны праз дзве здарылася непапраўнае. Зноў доўгім званком паклікала дзевятая палата. «Ну й Буяльскі. Нервы яму трэба лячыць»,— падумала Дар'я Антонаўна. Ды зусім іншае чакала яе.

— Кушнер памёр,— сустрэў яе на парозе палаты Буяльскі. Ён на адной назе дачыкільгаў да дзвярэй і стаяў, моцна прыціскаючыся да іх спіною, бледны, з перакошаным ад жаху тварам.

Дар'я Антонаўна кінулася да ложка Кушнера.

— Павел Рыгоравіч, Павел Рыгоравіч, што з вамі?!

Левая рука Кушнера бяссільна звісала, правай ён моцна, аж пабялелі пазногці, сціскаў каўнер сваёй паласатай бальнічнай піжамы. Пэўна, не хапала паветра, і ён ірвануў каўнер.

— Павел Рыгоравіч!

Яна, спяшаючыся, зрабіла ўкол, увяла раствор кафеіну. Ні пульсу, ні дыхання. Рэзка расчыніў дзверы палаты Мечыслаў Зянонавіч, і яна ўбачыла строгія пацямнелыя вочы дзяжурнага ўрача.

— Электрычны масаж сэрца! Хутка! — крыкнуў ён.

Але ў гэтым целе жыццё ўжо спынілася назаўсёды. Жыццё стамілася ваяваць са шматлікімі хваробамі, якія раздзіралі гэтае цела, і пакінула яго. Кушнер ляжаў, бяскрыўдна ашчэрыўшы рот, нахіліўшы галаву на левае плячо.

У сваім пакоі Дар'я Антонаўна падышла да акна, абаперлася рукамі на падаконнік. На вуліцы хвастаў дождж. З вышыні чацвёртага паверха яна бачыла мокрыя, з рэдкім лісцем дрэвы, тонкія ручайкі на цёмным, патрэсканым асфальце. Пад дажджом стаяла машына «хуткай дапамогі», і чырвоны крыж ярка палымнеў на ёй.

Дзве гадзіны, па законах медыцынскай этыкі, будзе ляжаць мёртвы Кушнер там, дзе застала яго смерць. Потым прыйдуць санітары з насілкамі, здымуць з нябожчыка бальнічнае адзенне, пакрыюць голае цела белай прасцінай і панясуць яго ў ліфт, а адтуль у морг. І зямны шлях замкнецца.

У мінулую суботу да Кушнера, помніць Дар'я Антонаўна, прыходзілі жонка з унучкай. «Табе, дзядуня, жывоцік парэзалі?» — шчабятала ўнучка, гладзячы загарэлую дзедаву Руку і зазіраючы яму ў вочы. «Парэзалі, Галачка»,— «Моцна балела табе, дзядуня?» — «Ні кропелькі. Толькі шчыкотна было».

Дар'я Антонаўна разносіць па палатах лекі, робіць уколы, ставіць градуснікі, а ў вушах у яе гучыць, як нейкае закляцце: «Моцна балела табе, дзядуня?» — «Ні кропелькі. Толькі шчыкотна было».

Чалавек памёр, але пакуль што ў памяці тых, хто яго ведае, жыве ягоны голас. Потым і ён сатрэцца іншымі, жывымі галасамі.

«Моцна балела табе, дзядуня?» — «Ні кропелькі. Толькі шчыкотна было». «... Толькі шчыкотна было».

Трэба супакоіцца. Чалавеку яе прафесіі нельга так уражліва ставіцца да смерці.

Прыйшлі санітары, два маладыя барадатыя хлопцы. Прыпыніліся ў калідоры і, чакаючы, пакуль можна будзе забраць нябожчыка, пачалі гаварыць між сабою. Тэма гаворкі, як і можна было чакаць, была медыцынская. У наш час пра медыцыну і хваробы філасофствуюць усе.

— Вот дзіва,— казаў шчуплы смуглы санітар,— чалавечае вуха сваёй формай, сваімі абрысамі нагадвае форму чалавечага зародыша-эмбрыёна. Што гэта — выпадковасць? А можа прырода заклала ў гэта нейкі сэнс, нейкі напамінак людзям?

— Чалавечы мозг не адчувае болю. І аперацыі на ім звычайна робяць без наркозу,— пасля некаторага маўчання загаварыў ягоны партнёр, светлавалосы магутны флегматык. Яны як бы хваліліся адзін

перад адным сваёй дасведчанасцю і эрудыцыяй. Але медыцыны надоўга не хапіла, і яны пачалі ўспамінаць смешныя здарэнні.

— У раённы гарадок,— апавядаў шчуплы і смуглы,— прыслалі новага загадчыка таварыства аховы помнікаў, ёсць такое. Загадчык той — адстаўнік, былы ваенны лётчык. І вось паехаў ён па машыне ў інспектарскую паездку па раёне, праверыць, так сказаць, падначаленыя яму аб'екты. Ну, а якія там аб'екты? Напаўразбураны касцёл васемнаццатага стагоддзя ды панскі маёнтак, у якім атабарылася мясцовая «Сельгастэхніка». Праверыў — і, як водзіцца, пачаставалі яго на раёне. Крэпка пачаставалі. Назад вяртаўся вясёлы. Выехалі на шашу. «Гані!» — камандуе галоўпомнік свайму шаферу. Той гоніць. «Яшчэ хутчэй!» Той націскае на газ. «Яшчэ!» «Яшчэ!» І нарэшце, калі машына, здаецца, ужо аж вылузвалася з абшыўкі ад хуткай гонкі, не вытрымаў і гаркнуў галоўпомнік: «Чаму не ўзлятаеш, жаба?!» Уявілася яму, значыцца, што ён зноў сядзіць у самалёце.

Ціхі, прыглушаны смех. Нават Дар'і Антонаўне захацелася ўсміхнуцца, але яна перасіліла сябе.

Зазваніў тэлефон.

— Мама,— крычаў у трубку Паўлік,— а ў нас у садзе зноў было сальфеджыо.

— І як ты там вучыўся? Не дурэў? — спыталася Дар'я Антонаўна.

— Не. У нас настаўніца дужа сярдзітая, не падурэеш.

— Што ты ўжо, Паўлічак, ведаеш з нотнай граматы?

— Я ўсе ноты ведаю,— пахваліўся сын.

— Ну-ну, раскажы.

— А вось слухай,— і Паўлік заспяваў у тэлефонную трубку:

До-рэ-мі-фа-соль-ля-сі...
Кошка села на таксі.

Потым у трубцы пачулася нейкая валтузня, і нарэшце даляцеў разгневаны голас Каці:

— Мама, ён мяне не слухае. Ён разліў на падлогу амаль поўны пакет малака.

— Сама ты не слухаеш,— перадражніў сястру Паўлік.— Зноў пазногці пафарбавала?

— Маўчы, дурань,— здаецца, аж раскалолася напалам трубка.

Дар'я Антонаўна краем вока глянула на санітараў, ціха і строга сказала дзецям:

— Абое атрымаеце ў мяне прачуханца, як вярнуся дадому. Зараз жа памірыцеся.

— А што такое прачуханец? — спытаўся Паўлік, але Дар'я Антонаўна паклала трубку.

Зноў засмяяліся санітары.

— Цішэй, хлопчыкі,— сказала Дар'я Антонаўна. Яны глянулі на яе, змоўклі, але ў вачах іскрыўся смех.

Памёр чалавек, а жыццё ідзе сваёй каляінай, як ішло да яго. Застаюцца ў жыцці радасць, смех, надзея, цёплае сонца над горадам, салавей у зарасніках белай чаромхі. «Чалавек, які памірае, нічога не траціць, бо, страціўшы сябе, ён страчвае паняцце аб страце»,— сказаў Джэк Лондан. Хто ведае? Можа й так.

Яшчэ раз, парушаючы халодную цішыню, зазваніў тэлефон. Толькі ён адзін меў права крычаць на ўвесь голас.

— Дар'я Антонаўна Памалейкіна? — данеслася з трубкі.— Вам звоняць з тэлебачання.

— Адкуль? — не зразумела спачатку Дар'я Антонаўна.

— З Беларускага тэлебачання. З маладзёжнай рэдакцыі. Вам звоніць Павел Моніч. Памятаеце, вы ўдзельнічалі ў нас У перадачы...

Як ваша прозвішча? — перапыніла яна яго.

— Моніч.

— Вы, па-мойму, паэт?

— Ды крэмзаю трохі,— голас на тым канцы дроту пацішэў, як бы спатыкнуўся.

— Чытала вашы вершы ў газеце. Добрыя вершы. А на тэлебачанні вашым маёй болей нагі не будзе.

— Што такое, Дар'я Антонаўна? — усхваляваўся Моніч,— Вы так здорава выступілі. Вас павесілі на чырвоную дошку.

— Як гэта мяне павесілі на дошку?

Ён засмяяўся.

— Я не так сказаў, прабачце. У нас такая завядзёнка: якая перадача добра пройдзе, атрымае грамадскі рэзананс, тую хваляць на лятучцы, а прозвішчы аўтараў і ўдзельнікаў вывешваюць па спецыяльную дошку. Я й званю, каб павіншаваць вас.

— Дзякуй за віншаванне,— суха сказала Дар’я Антонаўна.— А ўсё-такі, таварыш Моніч, лепей бы я не выступала ў вас. Усяго добрага.

І яна паклала трубку. Канечне, яна зрабіла гэта рэзка, нават груба, але яна не магла зрабіць інакш. Дужа ярка помніліся жорсткія зняважлівыя словы пісьма.

Санітары, накрыўшы белай прасціною, панеслі цела Кушнера да ліфта. І ўся бальніца затаіла дыханне. Толькі чутны былі размераныя цвёрдыя крокі. Толькі крокі. Ды і яны неўзабаве сціхлі.

Перад самым канцом дзяжурства пазваніў Іван.

— Антонаўна,— сказаў ён мяккім ліслівым голасам, і яна адразу зразумела, што муж прыйдзе сёння з работы позна і прыйдзе пад хмяльком,— Мне трэба трохі затрымацца. З патрэбным чалавекам. Чуеш? З патрэбным.

Ён націснуў на апошняе слова. Дар'я Антонаўна маўчала. Ёй успамінаўся ціхі, мёртвы твар Кушнера.

— Ды ці чуеш ты? — занерваваўся Іван,— Алё, алё! Я званю з аўтамата. Дар'я!

— Чую. Не крычы,— ціха сказала яна.— Няўжо табе, Іван, не хочацца ісці дадому? Калі так прыперла выпіць, можаш выпіць дома. І чалавека свайго патрэбнага пачаставаць.

— Дома нельга. Такая сітуацыя, што дома нельга.

— Дык чаго ты мне тады звоніш? Ідзі пі пад якім-небудзь плотам. Іх жа ў горадзе — уга колькі.

— Пад плотам,— пакрыўдзіўся Іван,— Ты ж ведаеш, што я ў цябе харошы — не піток і да баб не хадок.

Хацелася яму перавярнуць усё на жарт. Самы надзейны спосаб: калі цябе прыпіраюць да сценкі, неадкладна зрабіся гумарыстам. Але сёння гэта не памагло.

— Рабі што хочаш,— сказала Дар'я Антонаўна і паклала трубку.

Пасля дзяжурства яна выйшла на вуліцу і трапіла пад дождж. Як на той грэх, не было з сабой парасона — Паўлік зламаў у парасоне спіцу, і парасон яна здала ў рамонт. Прыкрываючы галаву сумачкай, прыгнуўшыся, Дар'я Антонаўна амаль пабегла па мокрым бліскучым асфальце на тралейбусны прыпынак. Наўкол беглі, ратаваліся ад халоднага восеньскага дажджу мінчане. Мінчане — народ стойкі і да нечаканых стыхійных бедстваў адносяцца з жыццярадасным беларускім гумарам. На тэрыторыі Беларусі, дзякуй небу, не бывае ні землятрусаў, ні тайфунаў, галоўным стыхійным бедствам у нашых мірных шыротах можна лічыць зацяжны восеньскі дождж.

Мінчане ўцякалі ад дажджу весела. Высокі, дужа інтэлігентны з выгляду мужчына ў берэце, з жаўтаскурым партфелем «а ля кракадзіл» імчаўся па лужынах, толькі пырскі ляцелі веерам. Табунок дзяўчатак-студэнтак з віскатам і піскам абагнаў Дар'ю Антонаўну. Некаторыя дзяўчаты, яўна не па сезоне, беглі басанож, сціскаючы мокрыя туфелькі ў руках. Хіба можна баяцца холаду, калі табе васемнаццаць няпоўных гадоў, у цябе гарачая кроў і прыгожыя загарэлыя ногі?

Дар'я Антонаўна ўжо дабягала да тралейбуса, калі побач з ёю рэзка затармазіў чырвоны «Запарожац». Дзверцы расчыніліся, і мужчынскі вясёлы голас бадзёра гукнуў:

— Хавайцеся ў мой драндулет!

Яна азірнулася — каму адрасавана гэтае нечаканае запрашэнне? Ільe дождж. Навокал ні душы. Дзяўчаткі, і абутыя, і басаногія, ужо ўціснуліся ў тралейбус.

— Ды сядайце, Дар'я Антонаўна. Я Павел Моніч.

Паэт (трэба зазначыць, што большасць беларускіх паэтаў носяць імя або Янка, або Алесь) выйшаў са сваёй машыны і галантна пакланіўся Дар'і Антонаўне. Быў ён высокі, русагаловы, з матава-бледным тварам, з цёмна-русымі густымі брывамі. Пад носам-бульбінай, як восеньскі мох, кусціліся жоўтыя акуратныя вусікі. Іх адразу ж намачыў дождж, і яны скурчыліся, абвіслі, страцілі сваю імпазантнасць. Але гета Дар'я Антонаўна заўважыла ўжо ў машыне, бо, імгненне павагаўшыся, нырнула пад металічны дах «драндулета», убачыўшы, што дождж гусцее, а тралейбус зачыніў са свістам дзверы.

— Ну і лье.— весела прыцмокнуў языком Павел Моніч,— падумаць, што які-небудзь ураган, які-небудзь «Фрэдэрык» або «Дэвід» завітаў у нашы краі. Бр-р-р! — ён трасянуў русым чубам.

Дождж малаціў па аўтамабілі. Па ветраным шкле вада цякла густой суцэльнай плынню, і «дворнікі» захлыналіся ў ёй, ледзь варушыліся.

— Куды ж мы паедзем? — спыталася Дар'я Антонаўна, дастаўшы з сумачкі насоўку і асцярожна выціраючы мокры твар.

— На вуліцу Каліноўскага.

— Ой, як добра! Я ж там жыву.

— А я вас і вязу да вашага дома, Дар'я Антонаўна. Выдам тайну — спецыяльна вас дзеля гэтага чакаў.

— У такую непагадзь? — Дар'я Антонаўна паглядзела на яго.— Адкуль жа вы мой адрас ведаеце?

— Журналісты павінны ўсё ведаць.

— А паэты?

Яны засмяяліся. Агні светафораў свяціліся праз дождж размытымі няяркімі плямамі.

— А калі сур'ёзна, Дар'я Антонаўна, дык я хацеў бы даведацца, чаму ў вас у такой няміласці тэлебачанне. Вы ж добра выступілі, вас хвалілі... Я думаў вас яшчэ калі-небудзь на перадачу запрасіць.

— Не, не! — Дар'я Антонаўна аж крутнулася на сядзенні.

Моніч глянуў на яе здзіўлена і запытальна. У вачах — водбліскі вулічных ліхтароў. І яна расказала яму пра пісьмо. Слова ў слова пераказала змест.

— І вы спалохаліся такога пісьма? — правёў шырокай далонню па ўскудлачаных валасах Моніч.

— Я не спалохалася. Чаго мне палохацца? Проста мяне,— яна паглядзела на строгі зацемнены твар паэта,— мяне нібы гразёй абпырскалі.

Яна раптам успомніла сваіх дзяцей, мужа, што, пэўна, выпіўшы, бадзяецца дзе-небудзь пад дажджом.

— У вас ёсць сям'я, дзеці? — рэзка спыталася яна.

— Няма,— ціха адказаў Моніч, і ў ціхіх словах ёй пачуліся туга і трывога.

— Прабачце, Павел... Як вас па бацьку?

— Завіце мяне проста Паўлам.

Ён зноў быў вясёлы, упэўнены. Руль аўтамабіля, аплецены рознакаляровай ізаляцыйнай стужкай, плаўна хадзіў у ягоных руках. Вада грукала ў тонкае дно «Запарожца». Праносіліся цёмныя мокрыя вуліцы. На пустыннай плошчы — бронзавы Якуб Колас задуменна сядзеў пад дажджом з разгорнутай бронзавай кніжкай у руцэ.

— Скажыце,— спыталася Дар'я Антонаўна, злёгку пачырванеўшы,— а вы заўсёды гаворыце па-беларуску?

Ён не ўпершыню чуў такое пытанне і адказаў:

— Заўсёды.

— Прыгожая наша мова,— сказала Дар'я Антонаўна.

— Не перажывайце,— гаварыў між тым паэт,— Забудзьцеся пра злыя словы. Вы — маці. Гэта важней за ўсё. Мацярынства нельга адмяніць, нельга забараніць, так, як нельга адмяніць узыход сонца. Вы — маці. У сваіх руках вы трымаеце ключ ад вечнасці. Чаму чалавецтва праз вякі пранесла культ дзевы Марыі, культ багамацеры? Не з-за бога. Ручаюся вам. З-за маці, якая дала жыццё. Тая жанчына, што напісала вам, яна,— Моніч на імгненне змоўк,— яна... Ну, як вам дакладней сказаць? Яна — непаўнацэнная жанчына. Яна толькі прыгожая маска жанчыны, расфарбаваная лялька. Пакуты родаў, боль, слёзы і радасць... Хіба ведае яна гэта?

Моніч глянуў на Дар'ю Антонаўна, сказаў:

— І як крыўдна, як балюча, што святое для кожнага чалавека імя маці, жанчыны аплёўвае які-небудзь пашляк і думае: «Які я супермэн. Які герой!» Ён усё ведае. Усё чуў. Ён можа па памяць працытаваць словы, народжаныя хваравітай фантазіяй Фрыдрыха Ніцшэ: «Усё ў жанчыне загадка, і ўсё ў жанчыне мае адну разгадку: гэтая разгадка называецца цяжарнасцю». Тут ужо іншая крайнасць. Тут жанчына існуе і жыве толькі для нараджэння дзяцей. Толькі. Быццам няма па зямлі ні майскіх світанняў, ні кветак, ні марскога прыбою, ні працы, ні падарожжаў. Толькі раджай дзяцей! Ды нешта я сёння разгаварыўся. Як той тэлевізар. «Выключце» мяне, Дар'я Антонаўна.

— Добра. Выключу,— засмяялася Дар'я Антонаўна.

Ёй усё больш падабаўся паэт — разумны, разважлівы і, відно па ўсім, шчыры і далікатны.

— Скажыце, калі ласка, колькі вам гадоў?— спыталася раптам яна.

— Чацвяртак з чырвонцам,— усміхнуўся Моніч,— Трыццаць пяць стукнула.

— А бацькі ёсць?

— Нікога няма. Маці нядаўна памерла.

— Прабачце,— сумелася Дар'я Антонаўна,— я сваім языком вам тут нагавару... Прабачце...

— А за што вам прасіць прабачэння? — ён лёгка трасянуў густым чубам,— За тое, што мае бацькі памерлі? Дык тут вайна вінавата і галадуха пасляваенная. Хочаце, задам вам лінгвістычную загадку? Вы ведаеце, што такое «дордачкі»?

— Дордачкі? — пацiснула плячыма Дар'я Антонаўна,— Не чула. Дордачкі... Можа цукеркі якія?

Ён засмяяўся гучна, ад усёй душы.

— Гэта ў нас у вёсцы так называлі плады ліпы, маленькія карычневыя арэшкі. Восенню каля ліпы паходзіш і столькі гэтых дордачак на зямлі назбіраеш. А яны — смаката. Лепшым нашым ласункам дзіцячым былі. Я ўсё збіраюся скласці «Меню галадаючага чалавека». Разумееце, на пачатку пяцідзесятых гадоў, калі ўся краіна яшчэ туга падцягвала пояс, мы, дзятва, галадалі, як усе. І, каб неяк перабіцца, пераходзілі, як кажуць, на падножны корм. Збіралі шчаўе, крапіву, заечую капусту, ягады, грыбы... Усяго не злічыш.

— А макуха была ў вашым рацыёне?

— А як жа! Каралеўская страва.

— А цімафееўка?

— Зерне цімафееўкі? Памятаю, маці поўнае вядро паварыла. Палова нашай вуліцы частавалася.

— А былі ў вас «шайморы»?

Цяпер ужо Дар'я Антонаўна, аддаўшыся ўспамінам, пачала задаваць пытанні.

— Нешта не прыпамінаю. Што гэта такое? — спытаўся Моніч.

— Гэта калі ранняй вясною збіраюць на полі марожаную гнілую бульбу і пякуць з яе чорныя аладкі.

— Дык гэта шайморы? Вядомы прадукт. Але ў нас называўся інакш. Па-мойму, чыбрыкі. Трэба ўспомніць.

Так яны даехалі да ўскраіны горада, на вуліцу Каліноўскага. Дождж аціх. Усё наваколле было напоена цяжкай халоднай вільгаццю.

Рэзкі вецер зганяў хмары, і агалялася неба, сцюдзёнае, густа-сіняе, як лёд. Восень уваходзіла ў перадзім'е. Дзень-другі — і раптоўна сціхне, застыне прырода, скамянее чорная зямля, пякучы марозік ушчыкне за шчокі.

Дар'я Антонаўна забегла ў прадуктовы магазін, купіла два пачкі вермішэлі, тры дзесяткі яек. На скорую руку можна будзе Івану яечню раніцою сасмажыць.

Моніч стаяў каля ўваходу ў магазін, курыў, чакаў яе.

— Дык вы яшчэ не паехалі? — здзівілася Дар'я Антонаўна.

— Дайце памагу вам несці. Хай машына тут пастаіць.

Ён узяў у яе з рук гаспадарчую сумку, пайшоў побач.

— Вялікі дзякуй вам. Едзьце ўжо, а то спозніцеся куды-небудзь.

— Сёння ў мяне вечар свабодны,— сказаў Моніч,— Разумееце, я ўвесь час таксама думаю пра гэта пісьмо. Разанула яно мяне па душы.

Ад сцяны магазіна аддзялілася раптам высокая танклявая постаць. П'яны мужчына, гадоў сарака, падышоў да Моніча і Дар'і Антонаўны, папрасіў, камечачы ў руках шэры засалены капялюш:

— Можа дасце палціннік? Не хапае... Хлопец,— павярнуўся ён усім сваім непаслухмяным целам да Моніча,— ты часам не служыў на Камчатцы, у артылерыі? Не служыў? А шкада... Я тры гады там адбухаў...

— Піць вам не трэба... Жонка з дзецьмі, пэўна, ужо чакаюць дома, а вы ўсё не наліжацеся,— гнеўна сказала Дар'я Антонаўна. Яна, як помніць сябе, не любіла п'яных. Так акуратыстка хатняя гаспадыня не любіць на кухні нявымытага посуду.

Але, на здзіўленне ёй, Моніч дастаў з кішэні рубель (цэлы рубель!) і аддаў п'янаму. Той аж захлынуўся ад удзячнасці.

— Што вы робіце? Ён жа і так ледзь стаіць. Навошта яму яшчэ гэтыя грошы?

Дар'я Антонаўна глядзела па Моніча, як на вар'ята. П'яны ажыў.

— Не шумі, мамаша,— сказаў ён урачыстым голасам.— Шэф (такое званне адразу ж атрымаў Моніч) ведае, што робіць. За намі не прападзе, шэф. Не можа быць, каб ты не служыў на Камчатцы ў артылерыі... Не можа быць...

— Здзівілі вы мяне,— сказала Дар'я Антонаўна, калі яны адышліся ад п'янага.— Патураць гэтым алкашам! Газеты, радыё, тэлебачанне — усе б'юць трывогу, усе заклікаюць бязлітасна змагацца з п'янствам, а вы... Не разумею. Можна сказаць, што вы павялі сябе... проста не па-грамадзянску.

— Што паробіш, Дар'я Антонаўна? — глянуў на яе Моніч (ёй падалося, як бы з усмешачкай).— Праклятая слабахарактарнасць. Растлумачу вам сітуацыю. Бачыце, гадоў колькі назад я сам, як кажуць лётчыкі, увайшоў у штопар. У духоўны, вядома, штопар. Не ладзілася на рабоце, не пісаліся вершы. А тут яшчэ — няўдалае каханне. Адным словам, пачаў я патроху піць. Чым далей — тым болей. Адразу ж сяброў завялося. Ледзь атрымаю які ганарар, віснуць проста на плячах. П'юць і нахвальваюць мяне: ты — такі! ты — гэткі! ты — беларускі Ясенін! Кім я толькі тады не быў для іх. П'яныя ўмеюць знаходзіць эпітэты. Добра, што ў час вынырнуў з гэтага балота. Яшчэ б трохі — і засмактала б. І вось, калі сустрэну каго з такой кампаніі, калі папросіць ён рубель, не магу адмовіць. Разумееце? Як бы даніну плачу свайму мінуламу.

— Вы хоць цяпер не п'яце? — спалохана спыталася Дар'я Антонаўна.

— П'ю толькі па святах,— усміхнуўся Моніч.

Яны ўвайшлі ў пад'езд, дачакаліся ліфта. Пакуль ён, скрыгочучы, патрэскваючы тросамі, плыў уніз з шаснаццаціпавярховай вышыні, Моніч гаварыў:

— Тая жанчына, што напісала вам, няшчасная. Такое пісьмо можа напісаць толькі чалавек з растрывожанай душой. Убачыла чужое шчасце, і зрабілася крыўдна: а чаму ў мяне яго няма?

— Яна не лічыць гэта шчасцем,— сказала Дар'я Антонаўна.— Навошта ёй важдацца з дзецьмі, марнаваць маладосць? Малыя дзеці для такіх — як кайданы на руках.

— Э, не кажыце,— запярэчыў Моніч, але Дар'я Антонаўна не дала яму скончыць думку:

— Як кайданы для такіх дзеці. Ездзіла я мінулым летам у вёску да сваякоў. Там жыве сям'я Чумаковых. Павел, ваш цёзка, і Марфа. Абое ўжо на пенсіі. І адзіная дачка ў іх ёсць — Анюта. Анюта гэта ездзіла з вёскі ў Клайпеду, у Літве такі марскі порт ёсць, і пазнаёмілася там з мараком. Ажаніліся. Дзіця яна займела. Муж пайшоў у плаванне, а Анюта з хлопчыкам падалася да бацькоў у вёску. Жывуць мірна, спраўна, хлопчыка гадуюць. І раптам Вася, муж, дае з мора тэлеграму: «Буду ў Клайпедзе на рамонце тры дні. Прыязджай». Ну, вядома, якая маладая жонка не хоча мужа пабачыць, калі ён пяць месяцаў у моры калыхаўся? Хуценька сабралася Анюта, бацькам сына пакінула — праз тры дні вярнуся. Праходзіць тры дні, чатыры, пяць, дзесяць. Няма Анюты. А ў хлопчыка, восем месяцаў яму, тэмпература ўзнялася. Крычыць дзень і ноч. На дванаццаты дзень з'яўляецца Анюта. Аказваецца — сустрэла мужа, а потым яшчэ ў Рыгу і ў Талін

ездзіла ў госці да сваіх новых сябровак, рыбацкіх жонак. З'яўляецца вясёлая, са спакойнай душой. А беднае дзіця ўжо скрычалася, і маці з бацькам самі не свае ходзяць.

Узняліся на шаснаццаты паверх.

— Ну й верхатура ў вас,— весела сказаў Моніч,— Не страшна жыць на такой вышыні?

— Спачатку паджылкі трэсліся. На балкон баялася выходзіць,— прызналася Дар'я Антонаўна.— Ды чалавек да ўсяго прывыкае. Усё тут добра, толькі вецер дужа шуміць. Ноччу як засвішча, як запяе, не магу заснуць. Здаецца, вось-вось дом абваліцца. Ды вы не спыняйцеся, заходзьце да нас. Заходзьце.

— Іншым разам. Я ўжо і так вам галаву затлуміў. Вось запрашу вас яшчэ на адну перадачу і тады прыйду ў госці. Тады мяне выганяць давядзецца.

— З вашай тэлеканторай я болей не сябрую,— засмяялася Дар'я Антонаўна.— А то — зайшлі б. У мяне кава ёсць. Купіла кілаграм зярнят. Іван, муж, каву не дужа любіць, а я...

І раптам яна асеклася на паўслове. Каля дзвярэй сваёй кватэры яна ўбачыла нейкага чалавека, які, як падалося ёй, корпаўся ў замку, стаяў спіной да лесвічнай пляцоўкі. Пачуўшы шум ліфта і людскія галасы, чалавек гэты нялоўка адскочыў убок, павярнуўся тварам да Дар'і Антонаўны і Моніча.

— Што вы тут робіце? — адчуваючы, як прыкра халадзее сэрца, спыталася ў незнаёмца Дар'я Антонаўна.

— Нічога... Стаю...— разгублена адказаў той і густа пачырванеў.

Гэта быў хлопец гадоў дваццаці — дваццаці двух, высокі, з кучаравай шапкай светлых валасоў, у акулярах, у сіняй балоневай куртцы на «маланках». Цераз плячо на доўгім рамяні ён трымаў спартыўную сумку «Adidas». Нечаканае з'яўленне людзей за спіною так збянтэжыла і ўразіла яго, што аж дробныя кроплі поту выступілі на высокім смуглым ілбе.

— Што ж усё-такі вы робіце?

Дар'я Антонаўна хутка падышла да дзвярэй, глянула на замок, на карычневую дэрмацінавую абшыўку. Усё, здаецца, у норме. Яна зноў падазрона глянула на незнаёмца.

«Не злодзей ён,— адразу падумаў Павел Моніч,— Хіба могуць у злодзея быць такія чэсныя, такія адкрытыя вочы? А гэта ўпэўненая пастава? Злодзей звычайна горбіцца, сутуліцца, хавае твар».

Раптам як бы нейкае ўнутранае яркае святло ўключылася ў душы ў Дар'і Антонаўны. Яна аж зажмурылася, аж адступіла на крок назад. Яна ўжо ведала, хто гэты дзіўнаваты высокі хлопец, хоць упер-

шыню бачыла яго. «Не можа быць,— з разгубленасцю, з халодным, як начны восеньскі дождж, сумам думала яна.— Гэтага не можа быць... Гэта нейкая выпадковасць... Але — вочы, нос, голас... Божа мой...»

— Што ж ты тут робіш, прыяцель? Можа заблудзіў? — з мяккай усмешкай дастаў беламорыну, размяў яе пальцамі Моніч. Потым пстрыкнуў запальнічкай-рэвальверыкам:— Закурыш?

— Дзякуй. Я не куру,— адказаў светлавалосы і, чамусьці зняўшы акуляры, звярнуўся да Дар'і Антонаўны: — Мпе трэба ўбачыць Івана Іванавіча Памалейку. Ён тут жыве?

— Тут,— абвялым голасам сказала Дар'я Антонаўна.— Іван Іванавіч Памалейкін жыве ў гэтай кватэры. А вы хто?

— Я яго сын. Памалейка Сцяпан.

## III. СЫН

Як яна глянула на мяне! Не кожны б вытрымаў такое. Здагадалася — хто я. Вядома ж, здагадалася. У жанчын на гэты конт рэфлексы ўя-я-я як працуюць. Баіцца, што адаб'ю (дзіўна: хіба можа мужчына адбіваць мужчыну?) ейнага Івана Іванавіча. А бацюня прозвішча змяніў, асучасніў. Не Памалейка, а Памалейкін! Гучыць.

Пахістваецца, плыве ўніз ліфт. Бедалага — вось хто не мае адпачынку.

Я надзіва спакойны. Нават не чакаў такога ад сябе. Добра, што адразу не бацьку сустрэў, а яе. Яна падрыхтуе, маральна падкуе бацюню да заўтрашняй сустрэчы. А потым і я з'яўлюся — так і так, ваш сын Сцяпан Памалейка, не памятаеце? Ну як жа? У нас аднолькавыя насы, профілі.

Паменей эмоцый. Ніякіх слёз. Людзі плачуць, напэўна, таму, што на восемдзесят працэнтаў складаюцца з вады, з $H_2O$. Ну, гэта я, вядома, жартую. Я добра ведаю, што такое слёзы. Слёзы маёй маці, слёзы трохгадовага Лёніка, сына, што застаўся ў Барысаве. Толькі жоначка не плакала, Люда. Вось ужо хто не з вады, а з крэменю.

На вуліцы змрок і туман. Куды я пайду? Каго я ведаю ў гэтым вялізным горадзе? Нікога, апрача Івана Іванавіча Памалейкіна, майго бацькі, майго экс-бацькі, які кінуў мяне, чатырохгадовага, кінуў маю маці і збег у гэты горад шукаць шчасця.

Як усё-такі будуецца Мінск! Бач, нават ноччу дом расце. Электразварка жыхае, кран завіхаецца. Ведама — сталіца.

Дзе ж пераначаваць, прыхіліць галаву? Яна, праўда, запрашала зайсці ў кватэру, а каб зайшоў, не выгнала б назад — кімарнуў бы там. Але ў іх я не згадзіўся начаваць прынцыпова. У горадзе шмат

вакзалаў, але й міліцыя працуе спраўна. Толькі заплюшчыш вочы, як падыдзе які-небудзь акуратненькі сяржанцік, далікатна кране плячо, нібы пыл змахне: «Грамадзянін, не паложана...»

А пераначуеш ты, Сцяпане, у лесе. Так-так, у лесе. Вунь ён метраў за трыста адсюль чарнеецца. Хіба табе яго баяцца? Ты ж беларус, лясны чалавек, унук партызанскі. Праўда, твае пялёнкі не сушыліся каля партызанскіх кастроў. Ты — дзіця ці, як кажуць вучоныя, прадукт мірнага часу.

Добра, што ў кішэні ляжаць запалкі. Сам я не куру — у другім класе насмактаўся гэтага зелля, аж давялося ўрача выклікаць. Адкуль жа ў мяне запалкі? Ага, успомніў — купляў у кіёску газеты, і замест капейкі рэшты далі карабок запалак. Добра, што ёсць запалкі. Нейкі беларускі паэт, не памятаю прозвішча, напісаў: «запалкі — кансервы агню». Прыгожа напісаў, валацуга. Дарэчы, «валацуга» ў маіх вуснах не абраза, а знак пахвалы.

Лес як мёртвы. Колькі халоднай цішыні вакол. Уяўляю, як нашы валасатыя пра-пра-пра (дужа многа разоў пра) продкі сядзелі ў такім лесе. У іх не было агню, і яны не былі атэістамі. Не зайздрошчу ім. Сядзелі, як сляпыя, калаціліся ад страху — і цемры баяліся, і звера, і д'ябла, і бога. Бр-р-р...

Я нібы знаходжуся на дне вялізнага глыбачэзнага калодзежа. Уверсе ледзь-ледзь віднеецца неба няяснай бледнай плямай. Трэба ісці асцярожна, выставіўшы ўперад рукі, каб не напароцца на які-небудзь сук.

Пахне вільготнымі восеньскімі грыбамі, старой злежанай ігліцай, мокрым дрэвам, смалой, травой, зямлёй. Мох спружыніць пад нагамі, нібы ступаеш па халодную гуму. Вось, здаецца, грудок, а на ім невялікая палянка.

Я стаўлю на зямлю сваю спартыўную сумку. Трэба раскласці цяпельца. Лаўлю ў цемры яловыя хрумсткія сучкі, ламлю іх. Цяпер трэба пашукаць які-небудзь корч, што-небудзь таўсцейшае і макрэйшае, і атрымаецца каралеўскае вогнішча.

Адзінота агеньчыка запалкі... Кропля святла ў акіяне цемры... Будзь маім сябрам, агонь, гэтай бяссоннай ноччу.

Пакуль убіраецца ў сілу вогнішча, я, дастаўшы з сумкі паляўнічы нож на пяць лёзаў, сяку і рэжу вільготны яловы лапнік, раблю сабе «крэсла». Святы закон падарожніка — ніколі не садзіся на голую зямлю.

Цяпер можна падумаць і пра вячэру. У мяне ў сумцы маецца ладны кавалак хлеба, цыбуліна і паўколца таннай каўбасы. З гнуткага

бярозавага дубчыка рыхтую сабе «штых», наразаю тонкімі скрылькамі каўбасу і цыбулю. Будзе важнецкі шашлык!

Агонь адсоўвае цемру ў бакі. Я пачынаю бачыць сваю палянку. Аказваецца, я не першаадкрывальнік. Ужо нехта быў тут да мяне. На жоўтай траве чарнеецца вялізны круг былога вогнішча. Блішчыць пабітае, аж патоўчанае, шкло. Ашчэрыла вузкі зубаты рот парожняя бляшанка з-пад кансерваў. Сівая начная раса блішчыць на высокіх сцяблінах травы.

А ўсяго некалькі гадзін назад я сядзеў на беразе Бярэзіны ў Барысаве. Рака сцішана шумела шэрымі восеньскімі хвалямі. Няўтульна было на ёй. На мосце, па якім бяжыць цераз раку Маскоўская шаша, гулі аўтамашыны, у гэтых машынах імчаліся людзі насустрач свайму шчасцю і гору. «Бывай, рака»,— шаптаў я.

Электрычка гулка ляцела праз лясы і палі. Я люблю электрычкі. Люблю за хуткасць, за ўпэўненасць і святочнасць, якімі напоўнена іхняе вандроўнае жыццё. Электрычка — як стрэл стартавага пісталета. Р-р-раз! — і паляцелі ўдалячынь звонкія вясёлыя вагоны. Яны вязуць пах бярозавых лясоў, сінюю цішыню ранішніх рэчак, загарэлых бадзёрых людзей, якія іграюць на гітарах, расказваюць анекдоты.

Пачало тухнуць цяпельца. Трэба зноў наламаць сучча, кінуць яго ў чырвоную пашчу полымя, глядзець на полымя і думаць, думаць...

Чаму ж мяне пацягнула ўбачыць свайго бацьку, эксбацьку? Наш век не шануе сентыменталістаў, і я ў свае дваццаць з лішкам гадоў не сентыменталіст. Не люблю нават гэтае слова. Мужчына не павінен траціць сябе па слёзы і ўздыхі. Я — мужчына. Я цвёрды і рашучы, цярплівы і ў меру іранічны. Я сур'ёзны, як падручнік філасофіі.

Калі глядзіш на агонь, ажывае памяць. Я гэта добра ведаю па сабе. Агонь быццам падганяе ўспаміны...

Ці памятаю я сябе чатырохгадовым? Не ведаю. Не магу сказаць дакладна. Тады ад нас, ад мяне і маці, пайшоў бацька. Мы жылі, як расказвае маці, на ўскраіне Барысава, і каля нашага барака — мы з некалькімі сем'ямі жылі ў старым бараку — рос клён. Вось гэта я, здаецца, помню. Не барак, не клён, а малюсенькія клеткі — вострыя зялёныя язычкі, якія выбіваліся з шэрай зямлі каля падножжа волата-клёна. Гэта былі маленькія дзеткі вялізнага клёна. Я мог глядзець на іх гадзінамі. Кожны дзень адшукваў новыя, прыкмячаў, як яны незаўважна цягнуцца ўгору, з бледна-зялёных, кволых робяцца цямнейшымі і дужэйшымі. Якая сіла штурхала з халоднай зямлі маіх маленькіх сяброў? Я не ведаў гэтага. Прыходзіла маці і забірала мяне, скалелага, галоднага, несла ў барак.

Потым было нейкае свята. Ці вяселле, ці нейчыя радзіны. Памятаю, якой прыгонкі! была ў той дзень мая мама. Памятаю яе твар, малады, напоўнены адначасна весялосцю і сумам. Я хварэў, ляжаў на ложку каля цёплай грубкі і думаў пра свае клёнікі. Мама нахілілася нада мной, пацалавала мяне, і прыгожыя сінія пацеркі, што былі ў яе на шыі, пагладзілі мне шчаку.

Помню вечар, залатыя промні сонца на сцяне, каля якой я ляжаў. Сцяна была абклеена старымі газетамі. Было чуваць, як за газетамі бегаюць, мітусяцца мышы. Я іх баяўся і адсоўваўся ад сцяны.

За акном, на вуліцы, іграла дужа вясёлая музыка. Там спявалі, крычалі, смяяліся, танцавалі. Дробны тупат ног далятаў у барак. Я пачуў смех мамы.

Я ціхенька злез з ложка і, накрыўшыся з галавы да пят коўдрай, каб не застудзіцца (так мама вучыла), падышоў да акна. У акне былі падвойныя рамы, паміж імі на жоўтай старой газеце ляжалі чырванаватыя памідоры і дохлыя мухі. Я глянуў у акно.

Вясёлыя п'яныя людзі танцавалі. Мама расказвае, што малы я ніяк не мог зразумець, для чаго людзі танцуюць. Для чаго ядуць — зразумела, для чаго п'юць ваду — зразумела, для чаго спяць — таксама зразумела. А для чаго танцуюць?

Людзі падскоквалі, ішлі ўпрысядку, білі сябе рукамі па сцёгнах, пстрыкалі пальцамі, свісталі. Для чаго ж людзі танцуюць? «Яны бяздумна трацілі энергію»,— сказаў бы я тады, калі меў бы ў той час, у той дзень сённяшні розум. Ды няхай танцуюць гэтыя дарослыя людзі. Вунь і мама з бацькам выйшлі ў круг. Калі танцуе мама, значыць, гэта добра. Але ўсе яны, і мама з татам, танцавалі ля майго клёна, на маіх клёніках! Быццам на ўсім вялікім двары толькі тут знайшлося ім месца.

Я выскачыў на двор, я кінуўся да клёна. Маленькія клеткі былі ўтаптаны ў зямлю. Я закрычаў, заплакаў...

Мая мама працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры. Ад яе, ужо трохі падросшы, трохі зразумеўшы свет, узяў я любоў да кнігі. Прачытаўшы вершы Міхалкова, я пачаў называць сам сябе «дзядзя Сцёпа-велікан» і любіў, калі так мяне называлі дарослыя.

Бацька працаваў «на базе». Гэта былі магічныя словы — «на базе». Нічога аб ягонай рабоце я не помню. Ужо з расказаў маці даведаўся, што базай чамусьці называўся прадуктовы магазін ля чыгуначнага вакзала.

З таго жыцця я толькі цьмяна-цьмяна прыпамінаю прозвішча Манёнак. Гэты Манёнак некалькі разоў прыходзіў да нас у барак, прыносіў мне цукеркі. Ён уразіў мяне тым, што насіў надзіва шырокія

штаны ў светлую палоску. Я казаў усім: «Калі вырасту, куплю сабе такія вялікія штаны, як у Манёнка». Потым Манёнак растраціўся і знік з горада. Расказвалі, што гадоў праз пяць нехта выпадкова ўбачыў яго на чыгуначнай станцыі ў Брэсце і паклікаў. Манёнак, пачуўшы сваё прозвішча, збялеў і, прыгінаючыся, кінуўся ўцякаць.

Дзіцячае жыццё ўспамінаецца не суцэльным палатном, а маленькімі кавалачкамі, фрагменцікамі. Быццам з вялізнай мазаічнай карціны бярэш бліскучы каменьчык.

Памятаю, бацька купіў прыгожыя хромавыя боты. Для сям'і гэта было святам. Радавалася мама, бацька, абуўшы новыя боты, урачыста хадзіў па пакоі. А я думаў: «І я ж некалі вырасту, такія боты сабе куплю. Толькі як я змагу разабрацца — дзе левы бот, а дзе правы?»

Дзіцячая душа як магніт, на які штодзённа, штогадзінна асядаюць уражанні.

Я не памятаю, каб бацька калі-небудзь сварыўся з мамай. Цяпер-то я ведаю, што яны сварыліся і часта сварыліся, але без мяне, шкадуючы, aберагаючы крохкую дзіцячую душу. І за гэта ім — дзякуй.

Мама расказвала, як бацька прыйшоў аднойчы з палявання п'яны, кінуў на падлогу падстрэленага скрываўленага зайца. З-за нечага ўспыхнула сварка, і бацька, азвярэўшы, раптам схапіў стрэльбу, пачаў цэліцца ў маму. Яна выскачыла на вуліцу, прыціскаючы мяне, амаль голага, да грудзей. Была ранняя вясна, лёд блішчаў па лужынах, чорныя галінкі рабіны, якая расла ля нашага акна, уздрыгвалі, калаціліся пад ветрам.

Чаму людзі, блізкія, не чужыя сэрцам людзі, псуюць адно аднаму жыццё? Чаму шукаюць найбалючэйшыя словы, каб зняважыць, параніць? Дзе ў гэты момант каханне, што, як майскае радаснае воблака, заззяла аднойчы над іхняй жыццёвай сцяжынай? Шмат я думаў і думаю, але няма ў мяне адказу, бо і сам я грэшны. Ды пра гэта трохі пазней.

Бацька пайшоў ад мамы, знайшоў іншую жанчыну, і мы засталіся ўдваіх. Я быў малы, можа тады трохі паплакаў, пахныкаў, успамінаючы бацьку, і ўсё, і зацягнулася рана, і зноў пацякло жыццё. Мама хадзіла ў сваю школу, я аціраўся каля барака, каля свайго клёна.

Цяпер я ведаю, што бацька пайшоў ад мамы не да гэтай жонкі, з якой ён жыве сёння. Была яшчэ адна жанчына. Была яна, расказвала мама, бухгалтаркай на спіртзаводзе. Маладая, не дужа прыгожая, але рухавая, энергічная. Яна кахала бацьку, ды ён неўзабаве кінуў і яе, бо ў іх не было дзяцей.

Мама ўспамінае выпадак, у які мне не хочацца верыць, але гэта чыстая праўда, таму што мама не можа хлусіць. Неяк улетку, адразу пасля таго, як сышоў бацька, плыла мама са мною на параходзе па Бярэзіне. Рашыла наведацца да сваякоў у вёску. Дзень быў спякотны, неба то зацягвалі сіне-чорныя хмары, то зноў выблісквала гарачае сонца. Уздоўж ракі, ва ўсіх узбярэжных вёсках, касілі сена. З лугоў даносіўся п'янлівы пах маладой скошанай травы, там ярка палымнелі косы, жанчыны і дзяўчаты, густа загарэлыя, у белых хустках, хадзілі з граблямі. Я заснуў, змораны спякотай, закалыханы ракой. Мама паклала мяне на лавачку каля самага борта, сядзела побач і чытала кніжку. І раптам яна ўбачыла бацьку з новай жонкай. Яны плылі на гэтым самым параходзе. Бацька таксама заўважыў маму, збянтэжыўся («супуціўся» — як кажа мама), адышоў далей і пачаў шаптацца са сваёй новай жонкай. Потым мама, успомніўшы, што я захачу піць, пайшла з парожняй бутэлькаю да знаёмага дзеда, які сядзеў на карме, папрасіць у яго вады.

«Налівае мне дзед з біклагі ваду,— расказвала мама, заўсёды чамусьці пераходзячы на шэпт у гэтым месцы,— а мяне як нейкая ліхаманка трасе. Гняце нешта душу, аж крыкнуць хочацца. І тут як штурхнуў мяне хто — азірнулася я, а гэтая (мама хоць ведала імя новай бацькавай жонкі, заўсёды казала на яе «гэтая») ужо каля цябе сядзіць. Вачамі па баках цыўкае і спіхнуць, спіхнуць цябе хоча ў ваду. Ведама, людзі гамоняць, параход шуміць, вада плёхае — хто пачуе? Абмерла ў мяне ўсё ўсярэдзіне. Падбегла я, схапіла цябе на рукі, а ў самой аж зубы стукаюць. А яна і кажа: «Дужа на Іванавіча падобны хлопчык». І пайшла. Утапіць яна хацела цябе, мой сыночак. Думала, што бацька цябе любіць і можа да нас вярнуцца».

Мне не хочацца верыць у такое, але мама расказвае гэта зноў і зноў, расказвае так пераканана, страсна, так гарыць абурэннем і гневам, што я згаджаюся з ёю. Заміраючы сэрцам, не раз я ўяўляў, як, сонны, лячу ў халодную бездань ракі, як сыходзяцца нада мной хвалі, а параход, нібы нічога не здарылася, шлёпае сабе па вадзе далей і маці гаворыць аб нечым на карме з дзедам. А мяне ўжо няма!

Успамінаецца першы школьны дзень. Я чакаў яго даўно, адгортваў наперад каляндар, які вісеў над маім з мамаю ложкам. Мама купіла мне чорныя рыпучыя чаравікі, белую кашулю, прыгожы карычневы касцюмчык. Хацела купіць і партфель, але сусед, страхавы агент Іваноў, падарыў мне палявую афіцэрскую сумку-планшэтку на доўгім рамяні, і з гэтай дзівоснай сумкаю я не глянуў бы на цэлы вагон партфеляў.

Узяўшы за руку, мама давяла мяне да школы, а ўжо па школьны двор я пайшоў адзін. Я ішоў да школьнага цаглянага ганка па пыльным, выбітым да голай зямлі двары і ўсе аглядаўся на маму. Наўкол галёкалі, бегалі, штурхаліся ці палахліва азіраліся па баках мае будучыя сябры або ворагі. Назад, да сініх варотцаў, у якіх стаяла мама, дарогі ўжо не было. Сівавалосая прыгожая настаўніца, масляніста-чорная дошка з белай крэйдаю, новенькія парты, сіне-зялёны глобус на акне, мноства новых незнаёмых твараў, мноства слоў — усё так падзейнічала на мяне, так ашаламіла і ўразіла, што я, ледзь дачакаўшыся канца ўрокаў, прыбег дамоў у слязах, бо... Адным словам, маме давялося шукаць мне сухія штаны.

Вучоба давалася мне лёгка. Маці памагала, ды я й сам заўсёды любіў кнігі. Як прыемна было разгортваць новы падручнік з чорнымі прыгожымі літарамі, з яркімі малюнкамі. Як прыемна было на зіхотка-белай паперы маляваць каляровымі алоўкамі.

На ўроку нежывой прыроды настаўніца павяла нас у кар'ер, дзе капалі гліну, паказвала ў разрэзе зямныя пласты, чорныя, жоўтыя, шэрыя, паказвала высахлыя карэньчыкі траў, розныя каменьчыкі, норкі насякомых, звілістыя хады дажджавых чарвякоў. Аказваецца, якой прыгожай была непрыгожая на першы погляд, пыльная, запэцканая мазутам, закураная паравозным дымам зямля! Школа і мой барак стаялі непадалёку ад чыгункі, і таму зямлю я заўсёды бачыў такой — у мазуце, у дыме. І раптам яна паказала свой зусім іншы твар.

Хадзілі мы і ў восеньскі лес. Шукалі лісце дрэў рознай формы і рознай афарбоўкі, шукалі заечую капусту, ягады-касцянкі, ад якіх доўга было кісла ў роце, шукалі арэхі і жалуды. Калі вярталіся ў горад, ішлі па лузе, бачылі, як бяжыць па траве вецер — дрыготкімі, жоўта-зялёнымі хвалямі. Восеньскае празрыста-халоднае неба стаяла над сцішэлай зямлёй, і клінок жураваў распорваў гэту празрыстасць, гэты спакойны холад — ляцеў у вырай. Звонка тупалі па прыхопленай першым лёгкім марозікам зямлі мае кірзавыя боты.

Памятаю гульню ў «сініх» і «зялёных». Гэта было ўжо зімою, і я хадзіў у чацвёрты ці пяты клас. Тады яшчэ не было, як цяпер, «Зарніцы», а гулялі ў «сініх» і «зялёных».

Мама са старой прасціны пашыла мне маскхалат, Іваноў з бярозавага чурбанчыка зрабіў прыгожы аўтаматцік. Мы, малышня, сядзелі ў «засадзе», падкараўльвалі «дэсант» старшакласнікаў. Памятаю зімовы белы лес, мяккія струменьчыкі снегу, што сцякалі з маладых елачак, пад якімі мы хаваліся. Адзін такі струменьчык умудрыўся трапіць мне за каўнер і раставаў там, апякаў цела дрыготкім холадам,

але я цярпеў, не варушыўся. Вось паказаўся «дэсант». Мы крыкнулі «ўра» і рынуліся ў атаку. Прарэзліва затрашчалі трашчоткі, прымацаваныя да нашых бярозавых аўтаматаў. «Бой» для мяне скончыўся неспадзявана. Дзевяцікласнік Геня Цішкевіч махнуў лыжным кійком і вострым жалезным наканечнікам трапіў мне якраз у шчаку. Да гэтага часу на правай шчацэ я нашу невялічкі сінляваты шрам.

У дзяцінстве гады ідуць доўга, а дні хутка. Як мне хацелася хутчэй вырасці, стаць дарослым, каб пайсці на работу і памагаць маме! Я бачыў, як цяжка было ёй адной. Каб зарабіць пабольш грошай, яна яшчэ працавала бібліятэкаркай у школе. Я панадзіўся хадзіць туды. Любімым маім заняткам было перакладаць і перастаўляць кнігі. І, вядома ж, я чытаў іх, ці тут, у бібліятэцы, зашыўшыся ў куток, ці браў дадому. Выходзіла ў той час навукова-папулярная серыя аб паходжанні жыцця на Зямлі — невялічкія, з далоню, кніжкі, вельмі прыгожа афармленыя. На мяккіх яркіх вокладках былі намаляваны то валасатыя першабытныя людзі ля кастра, то пачварныя яшчары з доўгімі шыямі і малюсенькімі галоўкамі, то высокія вулканы, з якіх вырываўся агонь і дым. Я запоем чытаў гэтыя кніжкі, яны распальвалі маю цікаўнасць, але поўнага адказу на пытанні, што ўжо тады пачыналі мучыць мяне, не давалі. Планеты, і ў тым ліку Зямля, стварыліся з гіганцкага воблака касмічнага пылу і газаў. Добра. А адкуль узяўся гэты пыл? З атамаў вадароду, што насіліся ў касмічнай прасторы. А адкуль з'явіліся атамы вадароду? Яны былі вечна. Як гэта — вечна? Чаму ж тады не вечныя мае клёнікі, якіх растапталі п'яныя танцоры? Чаму не вечны слесар Базарэвіч, якога пазаўчора ў вузкай чырвонай труне вынеслі з нашага барака? Начытаўшыся, я засынаў, і мне снілася гіганцкае чырвона-чорнае воблака касмічнага пылу. Яно закрывала ўсё неба, насоўвалася на мяне, наплывала і раптоўна накрывала мяне ўсяго з галавы да пят, як коўдрай.

Усё часцей пачаў заходзіць да нас страхавы агент Іваноў. Гэта быў, як я сёння разумею, добры чалавек. Акуратны, ружова-чысценькі бландзін з кучаравымі аўсянымі валасамі. У яго былі крамяныя дзявочыя шчокі, калі ён гаварыў, рот адкрываўся вузенькай шчылінкай, і (я тады пачаў чытаць кніжкі пра медыцыну) я думаў, што ён баіцца, каб яму не ўскочылі ў рот мікробы, якіх у нашым бараку, пэўна ж, мільярд.

Іваноў, адставіўшы правую нагу ў невялікім чорна-бліскучым чаравіку, асцярожна садзіўся на краёк крэсла, колькі хвілін глядзеў на маму і ціхім голасам пачынаў гаворку. Гаварыў ён пра аблігацыі і пазыкі, пра страхаванне. Паслухаўшы яго, можна было падумаць, што Барысаўскі раён знаходзіцца ў самым эпіцэнтры разнастайных

стыхійных бедстваў і не хапае хіба толькі вулкана Везувія. Там згарэла хата, там сшалеў бык і кінуўся на трактарыста, там жанчына, злазячы з печы, умудрылася зламаць нагу.

Мама слухала Іванова моўчкі, згодпа ківала галавой, жаласліва ўздыхала ў самых драматычных месцах і раз-пораз крадком кідала на мяне хуткі, нейкі нязвыклы для мяне позірк. Як бы выпрабоўвала мяне сваім позіркам.

Я любіў слухаць страхавога агента. Я ўжо ўспамінаў, як ён зрабіў мне аўтамат для гульні ў «сініх» і «зялёных». Яшчэ ён прынёс мне аднойчы калейдаскоп. Гэта была не дужа тоўстая, размаляваная чырвовымі і сінімі кветкамі трубка. Я прыкладаў калейдаскоп да вока, павольна круціў і бачыў дзівосныя фантастычна-прыгожыя ўзоры, якія складваліся з дробненькіх рознакаляровых шкельцаў. Сваю новую цацку я паказаў на вуліцы Сямёну Очкіну, шаснаццацігадоваму чорнавалосаму гарбаносаму хлопцу, які кінуў школу і працаваў у гарадскім парку культуры і адпачынку Ў ціры.

— Дурань ты,— сказаў мне Сямён.— Колькі табе стукнула? Дванаццаць? Ты што, не бачыш, што гэты страх (так ён скарочана назваў прафесію Іванова) тваю матку абходжвае?

— Як абходжвае? — не зразумеў я.

— Мелюзга,— іранічна глянуў на мяне чорным вокам Очкін,— Прыходзь сёння ў сем гадзін вечара да стралковага ціра. Там усё расталкую.

Пасля абеду мама сказала мне:

— Сцяпук, сядзі чытай кніжкі. Я вось табе «Капітана Сарві-галаву» прынесла. А я пайду да бацькоў Колі Супрунчука. Зусім заваліў вучобу, гультай.

Яна пайшла з дому гадзін у пяць вечара. Я зашчапіўся на клямку, адрэзаў сабе ладны кавалак хлеба, пасыпаў яго цукрам, узяў кніжку і заваліўся на ложак. Ну й даваў жа гэты капітан! І страляў, і шпагай калоў, і на кані, як д'ябал, насіўся, і з заплюшчанымі вачамі без промаху кідаў сваё ласо. У мяне аж галава кругам пайшла. Жывуць жа людзі! Вось каб сабе так — імчацца на вольным кані па спякотнай саване, у кожнай кішэні па кольту, прастрэлены капялюш хвацка з'ехаў на вуха, а ў зубах, як выклік усім і ўсяму, тырчыць піпка з кораня дзікай чырвонай вішні. Я нават смак табакі адчуў, табакі фірмы «Глорыя Джэйн», якая была напхана ў гэтую піпку.

І раптам я ўспомніў Сеню Очкіна. Быццам Сеня, як той джын, з'явіўся раптоўна каля майго ложка, вырваў'з рук і шпурнуў пад ложак кніжку, сказаў з'едліва праз жоўтыя свістлявыя зубы: «Мелюзга». У Сені сапсаваныя зубы, усе з дзірачкамі, і, калі ён гаворыць,

здаецца, што ў кожным зубе ў яго схаваны маленькі свісточак. Я хуценька апрануўся і пабег у гарадскі парк.

Скульптура каля ўваходу ў парк — маладая дзяўчына з вялізным снапом пшаніцы ў руках — глянула на мяне як бы іранічна, нібы хацела сказаць: «Рана табе яшчэ, мелюзга, на танцы хадзіць». Ды я паляпаў каменную дзяўчыну па таўставатай назе і адважна, як той несмяротны кніжны капітан, рушыў у няярка асветленую, прывабную імглу парку.

Вось дзе было шэсце мод і грацый! Жаноча-мужчынскі натоўп цёк па цэнтральнай алеі, як бурлівая рознакаляровая рака. Гэтая рака паказвала, дэманстравала сябе, яна нібы крычала: «Паглядзіце, якая я прыгожая, элегантная, мадэрновая, сучасная!» Ручайкамі рака разлівалася ад цэнтральнай алеі ў глыбіню парку, каб паказаць сваю энергію і спрыт на арэлях, на «чортавым коле», каля зялёных піўных ларкоў і, вядома ж, на танцпляцоўцы. Да гэтага ўрачыста-вясёлага шэсця ўвесь горад, асабліва яго жыхары ва ўзросце ад пятнаццаці да сарака пяці гадоў, рыхтуецца на працягу тыдня.

Цір, у якім працаваў Сенеў бацька, стаяў трохі наводшыбе ад галоўных паркавых магістралей, і мне давялося метраў дваццаць прабегчы ў абсалютнай цемры. Я выклаўся, як на стометроўцы, бо, чэсна прызнацца, не дужа вялікі аматар падарожнічаць у цемры. Яшчэ выйдзе з-за якога-небудзь кусточка постаць і гаркне: «А ці ёсць у цябе, хлопча, закурыць?»

Сеня мяне чакаў. Ён лічыўся як бы бацькавым памочнікам у ціры, хоць грошай не атрымліваў, «набіваў вока і руку», як хваліўся сам.

— Хадзем,— сказаў мне Сеня радасным голасам, і мы накіраваліся туды, дзе зіхацелі агні і грымела музыка. Мне незразумела было — чаму так узрадаваўся Сеня. Ён не мой сябра, проста знаёмы хлопец з другога канца нашай вуліцы. Значыць, падумаў я, яго радуе тое, што ён мне зараз пакажа.

Сеня прывёў мяне да танцавальнай пляцоўкі, абгароджанай высокім фігурным рознакаляровым штыкетнікам.

— Глядзі.

Сеня сёння быў аднаслоўны. Я ўткнуўся тварам у штыкетнік.

Маці з Івановым я ўбачыў не адразу. Вачам трэба было прывыкнуць да мноства чалавечых постацей, якія мерна пакалыхваліся, як водарасці ў спакойнай рачной вадзе. Гралі танга. Пяцьдзесят, калі не болей, пар старанна ўтоптвалі апалае восеньскае лісце і недакуркі ў брудныя шэрыя дошкі танцавальнай пляцоўкі. Іваноў вёў маці, далікатна адтапырыўшы ўбок левы локаць. Мама была прыгожая: у

карычневым лёгкім паліто, у туфлях на высокім тонкім абцасе, у вішнёвым берэціку на цёмных валасах.

— Лебедзі,— сказаў за маім плячом Сеня. Я маўчаў. Значыць, маці, падманвала мяне, калі казала, што пойдзе да бацькоў Колі Супрунчука. Значыць, з гэтым «страхам» (я ўспомніў з нейкай помслівай асалодай Сеневы слоўцы) яна ўжо не першы вечар танцуе тут.

Між тым рэпрадуктар, які вісеў на сасне, што расла ў самым цэнтры танцпляцоўкі, выплеснуў са свайго металічнага горла факстрот.

Да, Мари всегда мила.
Всех она с ума свела,—

бадзёра заспяваў гуллівы і капрызны жаночы голас. Падпарадкоўваючыся гэтаму вясёламу голасу, пары захадзілі шпарчэй, забегалі, заскакалі, смешна махаючы рукамі і дрыгаючы нагамі.

— Мары,— хмыкнуў ззаду Сеня, маючы на ўвазе, як я адразу зразумеў, маю маму. Я размахнуўся і, зажмурыўшы вочы, стукнуў Сеню кулаком. У твар не трапіў, трапіў у грудзі, бо Сеня быў многа даўжэйшы за мяне.

— У цябе што — заскок? — здзівіўся Сеня, упершыню за вечар вымавіўшы фразу не з аднаго, а з некалькіх слоў.

Злосць душыла мяне.

— Свісні гнілым зубам, Сенечка! — крыкнуў я і стрымгалоў, наляцеўшы на нейкую парачку, рынуўся з парку.

— Ну й тупы ты, брат. Як валёнак,— толькі і сказаў наўздагон Сеня.

Назаўтра я стараўся не гаварыць з маці, пазбягаў яе. У маіх вачах яна была здрадніцай. Яна здрадзіла нашым кнігам, якія мы разам чыталі, нашаму старэнькаму радыёпрыёмніку «Беларусь», які мы любілі слухаць увечары, нашаму двару, дзе каля высознага клёна зноў праклёўваліся з-пад зямлі клёнікі. Мама дзівілася майму зацятаму маўчанню, але таксама маўчала.

Як заўсёды, недзе пад вечар прыйшоў Іваноў, прынёс букет восеньскіх кветак. Радасная, узбуджаная мама дастала з серванта нашу сямейную гордасць — крыштальную вазу — і паставіла ў яе кветкі. Калі ёсць сёмае неба, то страхавы агент быў на восьмым. Ён паабяцаў наступным разам прынесці мне бінокль, самы сапраўдны, афіцэрскі бінокль. Няшчасны, ён думаў задобрыць мяне біноклем.

Толькі яны загаварылі аб нечым сваім, як я прыняў позу опернага спевака (у нас у школе выступаў адзін), выкругліў вочы, наморшчыў лоб і заспяваў:

Да, Мари всегда мила.
Всех она с ума свела.

Іваноў паглядзеў на мяне, як на ідыёта, а мама ўся ўспыхнула, заружовілася.

— Ты быў у парку? Ты ўсё ведаеш? — яна зрабілася падобнай на дзяўчынку-першакласніцу, якой паставілі першую ў жыцці двойку.

Мари не может стряпать и стирать,
Зато умеет петь и танцевать,—

«выдаваў» я.

— Ды змоўкні нарэшце,— не вытрымаў Іваноў.— Як жорстка! Як гэта жорстка! Маша, за што ён так здзекуецца з цябе?

— Ідзі дадому, Сярожа,— ціхім сумным голасам сказала мама Іванову.

— Як дадому? Чаму я павінен ісці дадому? — разгубіўся, пачырванеў Іваноў.— Маша! Ён яшчэ малы... Не разумее... Ён потым зразумее. Чаму мы павінны адмаўляцца ад свайго шчасця? Скажы — чаму?

— Ідзі дадому, Сярожа,— зноў паўтарыла мама і закрыла твар рукамі.

Іваноў пайшоў і болей ніколі не прыйшоў. Мы з мамай неўзабаве памірыліся, я нават прабачэння ў яе папрасіў. І зноў пацякло жыццё. Былі кнігі, быў радыёпрыёмнік «Беларусь», шумеў клён за нашым акном, а ў мамы прыбавілася болей маршчын. Вось і ўся гісторыя са страхавым агентам Івановым. І сёння, з вышыні пражытых гадоў, я гляджу ў той дзень, у той пакой, бачу жорсткага нахабнага хлапчука, які крыўляецца, паяснічае, здзекуецца з двух добрых закаханых сэрцаў, і мне так хочацца схапіць таго падшыванца за вуха. Але ён выслізгвае з маіх рук, як уюн, адбягаецца і паказвае мне язык.

Школьныя мае справы ішлі добра. Ужо тое, што я быў сынам настаўніцы, якая выкладала ў гэтай жа школе, прымушала мяне вучыцца, вучыцца хоць і не выдатна, але без двоек і нават без троек. Я ніколі б не дараваў сабе, калі б хоць нехта заікнуўся, што мне ставяць добрыя адзнакі таму, што я сын настаўніцы.

З шостага класа я сядзеў на адной парце з Валерыкам Судзьбінскім. Гэты Валерык цяпер плавае штурманам недзе ў Петрапаўлаўску-Камчацкім. А тады быў хударлявым цёмнавалосым хлапчуком, які лепей за ўсіх у класе гуляў у шахматы. Мы з ім умудраліся гуляць у шахматы нават на ўроку нямецкай мовы, схаваўшы дошку з фігурамі пад партай.

Мы любілі з Валерыкам арганізоўваць розныя спаборніцтвы. Аднойчы на ўроку гісторыі заспрачаліся, хто болей пасядзіць не дыхаючы. Справа ў тым, што мы, начытаўшыся кніжак пра піратаў, пра незлічоныя скарбы, якія ляжаць на дне мораў, рашылі пасля дзеся-

цігодкі ісці вучыцца на вадалазаў, каб знайсці ўсе гэтыя скарбы. Трэба было трэніравацъ дыханне. І вось сядзім, набраўшы ў грудзі паболей паветра, чырванеем, вочы вылупілі ад напружання, і ў вачах ужо ў нас цямнее. Ні Валерык не хоча здацца, ні я. Ужо кроў у вушах зашумела, ужо як нехта лёгенькім малаточкам стукнуў мне ў скронь. Сядзім, церпім, толькі ўсё таўсцей раздзімаюцца нашы шчокі.

— Хлопчыкі, што з вамі? Памалейка! Судзьбінскі! Вам дрэнна? — падбег да нас з графінам вады настаўнік гісторыі па мянушцы Атаман Платаў, ці проста Атаман.

Сядзім, маўчым.

— Ды што з вамі такое? — ледзь не заплакаў Атаман,— Староста! Хто староста класа? Бяжы хутчэй па дырэктара!

Смешны, вясёлы час...

А потым прыйшла «эпоха першага кахання», як называю я цяпер той незвычайны, нейкі наркатычны стан душы, калі кожная аднакласніца, кожная дзяўчынка як бы засвяцілася, заззяла яркім святлом. Сэрца абмірала ад кожнай драбніцы: ад вокамгненнага позірку, ад жэсту, ад слова. Чалавецтва, такое маналітнае раней, падзялілася раптам на мужчын і жанчын, і гэтыя жанчыны, гэтыя нашы дзяўчынкі-аднакласніцы як бы мелі нейкі таямнічы магніт, што неадольна прыцягваў да сябе.

«Што са мной адбылося? — разгублена думаў я,— Здаецца, я такі ж, як быў раней. Дзве рукі, дзве нагі, бялявая чупрына, галава, набітая формуламі, правіламі, піратамі, тэарэмамі, вадалазамі... І я зусім, зусім змяніўся. Прадчуваючы нешта, салодка ные сэрца. Але чаго яно чакае? Чаго?»

На ўроках фізкультуры, у цеснай цемнаватай спартыўнай зале, я пачаў пільна прыглядацца да дзяўчынак, шукаць У іх тое хвалюючае непадабенства, што так шчымліва-трывожна вылучала іх з нашага мужчынскага лагера. І знаходзіў. І зноў трапятала душа, як параненая птушка.

Я закахаўся і закахаўся адразу ва ўсіх нашых дзяўчынак. Я яшчэ не вылучаў паміж іх тую, адзіную. Мне добра было жыць трывожным чаканнем. Пчала ў летнім лузе аблётвае ўсе кветкі, бо ў кожнай кветцы ёсць кропелька нектару.

Адразу было скончана з піратамі і вадалазамі. Я пачаў чытаць тоненькія, несамавітыя з выгляду кніжкі. Гэта былі, вядома ж, вершы. Уразілі мяне такія радкі:

...Быть может, желанье любить —
Это чье-то желанье родиться,
Это чье-то желанье жить.

Я завёў патаемны блакноцік і ў яго пачаў запісваць усё тое, што вычытваў пра каханне і закаханых. Запісаў я ў гэты блакноцік старадаўнюю індыйскую легенду. Ведаеце, што такое смарагды, тапазы, наогул, усе каштоўныя камяні? Аказваецца, гэта, па міфалогіі індусаў, косці няшчасных закаханых, якія памерлі ў разлуцы. Прыгожа, праўда?

Прыйшла нарэшце ў мае думкі і сны Адзіная. Гэта была Валя Маркоўская, светлакосая, невысокая ростам, з ямачкамі на ружовых шчоках. Яна сядзела наперадзе ў мяне, праз дзве парты, і я ў час урокаў, калі Атаман натхнёна расказваў пра французскую рэвалюцыю, калі хімічка чаравала над сваімі колбамі і рэтортамі, калі «белка», настаўніца беларускай літаратуры, чытала вершы Аркадзя Куляшова, глядзеў на Валю, бачыў залацістыя, акуратна заплеценыя косы, мяккую пяшчотную шыю, вузкую, такую безабаронную спіну, і мяне напаўнялі радасць і рашучая, звонкая сіла. Валя, як прызналася потым, адчувала гэты пагляд і баялася павярушыцца.

Мая абранніца была адной з лепшых спартсменак школы, бегала на кароткія дыстанцыі. Я, вядома ж, таксама захапіўся спортам. Праўда, не лёгкай атлетыкай, а футболам, сапраўдным заняткам сапраўдных мужчын. Спачатку стаяў на варотах, але неўзабаве абрыдла расплочвацца за чужыя прамашкі. «Фінтануць» абаронцаў, выйдуць нос у нос з галкіперам — і даставай мяч з сеткі. І тады ж тыя самыя абаронцы, што ў час гульні поўзалі па полі, як гусенічныя трактары, крычаць табе са злосцю: «Ну што ты мух ловіш, Яшын?» Прозвішча Яшын вымаўлялася ў такіх выпадках, вядома ж, з найвялікшай іроніяй і сарказмам. Я махнуў рукой на лаўры Яшына і пачаў гуляць левым абаронцам, нумарам чацвёртым.

Помню Першамайскае свята, школьны спартыўны парад. Уся школа сабралася на нашым невялікім стадыёне. Горача свяціла сонца, млелі ў прывакзальным скверы фіялетавыя кветкі бэзу, чыстыя веснавыя воблакі ззялі над горадам.

«Нешта адбудзецца,— сказаў я сам сабе раніцой, калі яшчэ рабіў дома фіззарадку.— Сёння абавязкова адбудзецца нешта добрае».

Паперадзе калоны спартсменаў павольна ехаў матацыкл з каляскаю. І ў гэтай калясцы на поўны рост стаяла Валя Маркоўская. Яна была сцяганосцам — трымала сцяг правай рукою, левую руку плаўна і свабодна адкінула назад. Ва ўсёй яе паставе жыло прадчуванне палёту. Здавалася, яна ўзмахне зараз рукамі і паляціць разам са сцягам над нашым стадыёнам, над нашай калонаю, над Атаманам, які, камандуючы ў мегафон, маршыраваў з боку калоны.

Я не адводзіў вачэй ад Валі. Якая яна прыгажуня! У асляпляльна-белай майцы, у блакітных трусах. Сонца абмывала ёй плечы і грудзі, і цела, пакрытае ўжо лёгкім майскім загарам, здавалася вішнёвым. Я глядзеў на яе наспружыненыя ногі, маленькія, стройныя і такія моцныя, і мне ані займала дыханне, я збіваўся з нагі. Наляцеў вецер, ускудлаціў пасмачку светла-русых валасоў над Валіным смуглым ілбом. Я заўважыў, як яна хацела прытрымаць, паправіць валасы рукою, але ў руцэ быў сцяг, і тады яна, нібы каралева ці жрыца з антычнага храма, горда і плаўна павяла прыгожай залацістай галавою, змахнула валасы з вачэй. Я спатыкнуўся аб канат (павінны былі адбыцца спаборніцтвы па перацягванні каната, і нехта ўжо даўмеўся пакласці яго якраз на шляху нашай калоны) і ўпаў. Адразу падбег Атаман, ледзь не стукнуў мяне мегафонам. Вочы ў яго, як заўсёды, былі нечым напалоханыя.

— Ты што? — крычаў Атаман.— Ты што тут вытвараеш?

Ён, відаць, падумаў, што я ўпаў наўмысна. Атаман вывалак мяне за каршэнь з калоны, хацеў яшчэ нешта сказаць, але ў яго не хапіла красамоўства і ён, памахаўшы ў мяне перад носам пальцам, пабег за калонаю.

Я абтрос пыл са сваіх сініх спартыўных шаравараў, падышоў да турніка, папляваў на рукі, падскочыў і ўхапіўся рукамі за нагрэтае сонцам жалеза. Захацелася зрабіць «сонца», каб азірнулася калона, каб убачыла Валя. Але гэта практыкаванне я яшчэ рабіў слаба, і таму, заплюшчыўшы вочы, усміхаючыся сваім шчаслівым думкам, завіс над зямлёю, як недаспелы яблык на галінцы. «Яна прыгожая,— думаў я,— І я яе кахаю». Упершыню я не адганяў ад сябе гэтай думкі, не саромеўся яе.

— Я кахаю Валю,— сказаў я ўголас і расплюшчыў вочы. Калона, абагнуўшы футбольнае поле па кругу, зноў набліжалася да мяне. Ехала на матацыкле Валя. Бег з мегафонам Атаман.

Я глянуў на неба, і ад нечаканай радасці здрыганулася сэрца. Я ўжо ведаў, як сёння падыду да Валі і загавару з ёй. Справа ў тым, што якраз над стадыёнам чарнелася вялізная, цяжкая, абскубаная з бакоў ветрам хмара. І адкуль толькі ўзялася?

Будзе дождж. І будзе працягвацца парад, бо, як кажа Атаман, спаборніцтвы павінны адбывацца ў любое надвор'е. Значыцца, і Валя будзе стаяць пад дажджом. І якая яна ні мужная, ні загартаваная, а пра што яна будзе думаць у той час? Вядома, пра парасон. А ў нашым пакоі, за шафай, вісіць на цвіку такі цудоўны, такі прыгожы мамін парасон!

Я саскочыў з турніка і стрымгалоў памчаўся дадому. Пэўна, Атаман палічыў мяне ў гэты момант вар'ятам.

Калі я бег назад на стадыён, ужо лупцаваў дождж. Ды які дождж! Звонкі, густы, шыпучы, ярасны, з сіняй павуцінай маланак у небе. Нашы ж спартсмены бадзёра маршыравалі, быццам усё жыццё толькі і марылі аб тым, каб апынуцца пад такім хвацкім дажджом.

— Валя, вось парасон! — крыкнуў я.

Яна недаўменна глянула на мяне, потым усміхнулася, і гэтая ўсмешка была ўзнагародай за ўсё: за мае сумненні і трывогі, за дождж, які абліваў мяне з галавы да пят, за гром, што на кавалкі разломваў над намі шэрае свінцовае неба.

Я ішоў, трымаючы ў выцягнутай руцэ парасон над Валяй, і адчуваў сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Я адчуваў сябе рыцарам, які прымчаўся з краю свету, каб абараніць сваю абранніцу. І нада мной быў не гром, не дождж, не разгневанае навальнічнае неба. То бог Зеўс, захутаўшыся ў воблака, кахаўся з багіняй Гераю. Так думалі старажытныя грэкі, так думаў сёння я.

— Малайчына,— падбег, пахваліў мяне Атаман,— Праявіў знаходлівасць, Памалейка. Малайчына!

Усё ж нашы спартсмены не вытрымалі яраснага націску стыхіі і шуганулі са стадыёна. Дарэмна Атаман махаў мегафонам. Ніхто яго не слухаў — усе разбягаліся хто куды. Ён змірыўся, згорбіўся і хуценька пайшоў у настаўніцкую.

— А ты навошта парасон прынёс? — дапытліва глянуўшы на мяне, спытала Валя.

Я пачакаў, пакуль яна пераапранецца, і зараз мы ішлі па вуліцы, хаваючыся ад дажджу пад густымі ліпамі, якія

расплі ўздоўж платоў.

— Каб табе суха было,— адчуваючы, як замірае сэрца, адказаў я.

— А чаму ты толькі мне прынёс?

Яна націснула на словы «толькі» і «мне».

— А каму было болей несці? Атаману Платаву?

— А чаму толькі мне?

— Таму, што ты мне падабаешся. Ты — прыгожая,— сказаў, як у палонку кінуўся, я.

Валя спынілася, уражаная маімі словамі, чамусьці дакранулася да скроняў. Шчокі ў яе запунсавелі. Дождж сціхаў. Густа падалі на асфальт цяжкія кроплі з лісця ліп, пад якімі мы стаялі. Толькі і чулася наўкол: туп... туп... туп...

— Ты праўду сказаў? — сінімі бліскучымі вачамі яна глядзела мне ў твар, халаднаватай рукою дакранулася да маёй рукі.

— Праўду. Я ніколі не хлушу...

— І ты ніводнай нашай дзяўчынцы яшчэ такое не казаў?

— Ніводнай...

Што гэта было? Каханне? Закаханасць? Падманваў я сябе і Валю ці не? Я не магу адказаць на такія пытанні. Не магу адказаць адназначна. «Калі кахаеш, не хочаш піць іншай вады, акрамя той, якую чэрпаеш з любімай крыніцы»,— напісаў калісьці Стэндаль. Ён, відаць, меў рацыю. А калі так, то, відаць, у нас з Валяю была першая юначая закаханасць, бо неўзабаве нам захацелася іншай вады.

Але тое лета запомніцца мне назаўсёды. Мы часта хадзілі на луг, у лес. Аднойчы на чоўне паплылі па Бярэзіне, каб шукаць «французскае золата». У нашых краях яшчэ й сёння жывуць легенды пра тое золата. Быццам Напалеон, калі ўцякаў з-пад Масквы, загадаў сваім салдатам кінуць увесь абоз. І салдаты хавалі нарабаванае золата ў лясных азёрах, у калодзежах.

Адзін такі калодзеж мы з Валяй і захацелі праверыць. Там, вядома ж, нічога не было. Ні вады, ні золата. Толькі густая, сакавіта-зялёная трава, у якой драмаў стары, зморшчаны вуж. Але калі Валя нахілілася над калодзежам, каб падаць мне рыдлёўку, калі мяккія духмяныя валасы крануліся майго твару, я пацалаваў яе.

У канцы года мы ўступалі ў камсамол і прама ў райкоме камсамола пасварыліся, пасварыліся назаўсёды. Сакратар райкома, вастраносенькая смуглаватая дзяўчына, якая не так даўно скончыла нашу школу, спыталася ў мяне, якія газеты я выпісваю і чытаю. Чэсна прызнацца, я выпісваў толькі «Советский спорт». Але мне чамусьці захацелася паказаць сябе і перад гэтай вастраносенькай, і перад Валяй, і аднакласнікамі дужа начытаным, эрудзіраваным чалавекам. Я звонкім голасам бадзёра схлусіў, што выпісваю амаль усе рэспубліканскія і саюзныя газеты і некалькі часопісаў. Мая прымітыўная, незразумелая мне самому хлусня была адразу ж выкрыта. Варта было сакратару райкома спытацца, пра што пісаў Васіль Пяскоў у сваім артыкуле ў «Комсомольской правде», як я адчуў, што мой карабель ганебна і беспаваротна ідзе на дно. Прыняцце мяне ў камсамол адклалі да наступнага разу, і я быў прыняты толькі праз тры месяцы. А Валя тут жа, перад усімі, хмыкнула:

— Ён газет не чытае.

І столькі было пагарды ў яе голасе, што я зразумеў: «Усе. Болей не шукаць нам французскага золата. Кропка»

Пасля васьмігодкі я надумаў разам з Валерыкам Будзьбінскім паступаць у мараходнае вучылішча на штурманскае аддзяленне. Вучылішча мы выбралі ў Калінінградзе. Па-першае гэта быў самы блі-

жэйшы ад нас марскі порт Савецкага Саюза. Па-другое, там у Валерыка была радня. «Ты ведаеш, колькі многа жыве там беларусаў,— казаў Валерык,— Там нават ёсць пасёлкі, якія называюцца Мазыр, Новабабруйск».

Помню, у адведкі да Валерыка прыязджаў з Калінінграда стрыечны брат, малады, вясёлы хлопец, што ўразіў нас густа-сіняй экзатычнай татуіроўкай на грудзях і руках. Ён шмат піў, штовечара хадзіў у парк, заляцаўся там да дзяўчат што не перашкодзіла яму вельмі своеасабліва абгрунтаваць нашу з Валерыкам цягу да блакітных марскіх прастораў. Па яго словах, беларусаў спрадвеку вабіць марская рамантыка, бо ўжо ў часы Вялікага княства Літоўскага былі яны хвацкімі маракамі.

Мама адгаворвала мяне: «Навошта тое мора? Вунь нават у Бярэзіне людзі, бывае, топяцца. Пустое ў цябе усе гэта. Лепш канчай школу, паступай у інстытут, як усе робяць».

Вось калі першы раз сутыкнуўся я з гэтымі славутымі «рабі, як усе», «будзь такі, як усе». Дзіўна атрымоўвалася. Ты жывеш таму, што жывуць усе. Ты дыхаеш таму, што дыхаюць усе. Ты некалі жэнішся і завядзеш сям'ю таму, што жэняцца ўсе.

У вучылішча паступіў толькі Валерык. Я не прайшоў медыцынскую камісію па зроку. Доктар-акуліст, сівенькі сухі дзядок, тыкаў указкаю ў ярка асветленую табліцу, пытаўся: «А гэта што за літара? А гэта?» Верхнія, буйныя літары я бачыў, а ніжнія, дробныя, зліваліся ў шэрую невыразную пляму «Мараходам хочаце быць? Калумбам? Лаперузам? — бяскрыўдна засмяяўся дзядок,— На жаль, вам трэба насіць акуляры, малады чалавек. Не адчайвайцеся. Мы з вамі сухапутныя людзі. Паверце — гэта таксама цудоўна».

Навекі зрабіўшыся «сухапутным чалавекам», прыйшоўшы з палікλінікі дадому, я ўпершыню ў жыцці з нянавісцю паглядзеў на кнігі, якія перапаўнялі наш маленькі пакой. Гэта яны, думалася мне, сапсавалі мае вочы. Я пачаў браць кнігі і кідаць іх на падлогу. Я сам не разумеў, навошта гэта раблю.

Вярнулася са школы мама.

— Што ты робіш? — жахнулася яна,— Гэта ж кнігі. Кнігі

Яна хуценька паставіла ў кут сваю тоўстую сумку, напакаваную вучнёўскімі сшыткамі, укленчыла, пачала збіраць кнігі хукаць на іх, быццам ім было балюча.

— Гэта ж кнігі... Хіба можна так з імі? Так абыходзіліся з кнігамі толькі варвары. Яны баяліся іх. І кідалі кнігі ў агонь. А ты... Ты... Мой? сын...

Яна заплакала. Мне стала нясцерпна сорамна. Я нібы ўпершыню ўбачыў сваю маму, убачыў нямоднае старэнькае паліто, скрыўлены абцасік, чарнільную плямку на указальным пальцы. Яна шмат працуе, мая мама. Яна працуе і у школе, і прыходзячы са школы. А я... Я ўспомніў раптам страхавога агента Іванова, вечаровы парк, танцпляцоўку. Яна была шчаслівая ў той вечар. Яна была б шчаслівая з Івановым. А я... Я апусціўся побач з мамаю на калені, пачаў збіраць кнігі, і слёзы кіпелі на дне маёй душы.

З Валяй Маркоўскай і з мараходкай было скончана. Пакрысе я супакойваўся. Калі на зімовыя канікулы прыехаў з Калінінграда Валерык, высачэзны, узмужнелы, у прыгожай марской форме, якая аж сляпіла вочы суседскай пацанве, я нават не сустрэўся з ім, хоць ён шукаў мяне. Ува мне нешта пераброджвала, адстойвалася, уваходзіла, як вясновая рэчка, у берагі.

Школьных сяброў, акрамя Валерыка, у мяне не было. Заводзіць новых не хацелася. Правільна кажуць: «Сябра не грыб. у лесе не знойдзеш». Так і скончыў я дзесяць класаў, у адзіноце, у чаканні нечага незвычайнага, што павінна ўскалыхнуць маю душу. У інстытут — паступаў я ў Віцебскі тэхналагічны — не прайшоў па конкурсе і не дужа засмуціўся. Цяпер заставалася чакаць службы ў арміі, але мне далі адтэрміноўку, бо нечакана захварэла мама і не было яе з кім пакідаць.

У васемнаццаць гадоў я выцягнуўся на метр дзевяноста ў вышыню, быў шырокі ў плячах, адпусціў доўгія валасы, насіў акуляры. Праўда, калі быў трохі маладзейшы, саромеўся іх насіць, але неўзабаве адна мілавідная дзяўчына сказала, што акуляры робяць мой твар інтэлігентным і загадкавым. У футбол я гуляў, вядома, без акуляраў і так налаўчыўся, што мяне запрашалі выступаць за зборную юнацкую каманду горада.

Яшчэ ў школе я навучыўся іграць на акардэоне. Потым цэлае лета я зарабляў грошы ў лясніцтве, падсочваў жывіцу і мы з мамай купілі новенькі прыгожы нямецкі «Вельтмайстар». З акардэаніста-аматара я неўзабаве стаў прафесіяналам. Справа ў тым, што як грыбы пасля дажджу, па ўсёй краіне пачалі з'яўляцца ВІА (вакальна-інструментальныя ансамблі). Не прамінула ансамблеманія і наш горад. Пры гарадскім Доме культуры заспявалі, затрэнькалі на гітарах «Славяне». Знайшлося там месца і майму «Вельтмайстару». Так я стаў працаўніком «музычнай нівы». Выступалі мы ў гарадскім Доме культуры, ездзілі па вёсках, у суботу і нядзелю ігралі на танцах на той самай танцпляцоўцы, дзе калісьці страхавы агент Іваноў вальсіраваў з маёй маці.

Мама вельмі скептычна паставілася да той дарогі, якой я рашыў ісці ў самастойнае жыццё. Яна называла ўсё гэта «зялёным дзяцінствам» і гаварыла, каб уладкоўваўся я на завод, а потым зноў спрабаваў паступаць у інстытут. Яна нават плакала некалькі разоў. Але ў мяпе ў васемнаццаць гадоў прарэзаўся надзіва ўпарты характар. Я быў адзіным мужчынам у сям'і, а абавязак мужчыны — зарабляць і прыносіць у дом грошы. Я зарабляў гэтыя грошы, прытым немалыя, і быў цвёрда перакананы, што зарабляць грошы акардэонам нікольні не заганней, чым зарабляць іх за такарным станком або за рулём аўтамабіля. Я ўсхвалявана расказваў маме пра ансамбль «Песняры», пра Алу Пугачову, якая, заняўшы першае месца на Сопацкім фестывалі эстраднай песні, усю сваю прэмію, дваццаць тысяч злотых, аддала на будаўніцтва дома-санаторыя для хворых польскіх дзяцей. Мама слухала, сумна пазірала на мяне, і губы ў яе дрыжалі. І я зразумеў: яна думае, што я не спраўдзіў яе надзей, і ёй вельмі балюча ад такой думкі. Тады я, разгублены і адначасова раззлаваны, выкідваў сваю апошнюю казырную карту, гаварыў ёй, што буду рыхтавацца паступаць у кансерваторыю.

Ах, музыка, музыка... Што ты робіш з людзьмі, асабліва калі людзям гэтым васемнаццаць, дзевятнаццаць або дваццаць? Кожным нервам, кожнаю жылкаю ловяць яны цябе, натольваюць сваю смагу, ты для іх — усё: жыццё, каханне, вера, маці. Музыка дае сэрцу крылы. Музыка злучае эпохі. Музыка можа зрабіць немагчымае. Не кожны меламан, але ў кожным жыве адчуванне свяшчэннай сілы музыкі. Нездарма яшчэ Напалеон казаў, што адной з прычын перамог рускай арміі ў 1812 годзе была яе цудоўная вайсковая музыка, а Суворап зазначыў, што музыка падвойвае армію.

Мы ігралі па танцах. У паўзмроку танцпляцоўкі раўнамерна калыхаўся, горача дыхаў шумны натоўп. Ён быў адзіным арганізмам, адзіным жывым целам, што падпарадкоўваецца Яе Вялікасці Музыцы. Вось трывожна ўскрыкнулі гітары, падтрымаў іх акардэон, вось кулямётнай чаргою расстраляў кароткую цішыню «ўдарнік», і пайшло, і закіпела, і завіхурылася! Быццам ярасны лівень абрушыўся з цёмнага неба на танцпляцоўку.

У такія імгненні я адчуваў сябе ўладаром натоўпу. Нябачнымі ніцямі былі злучаны ўсе гэтыя людзі са мною, я то нацягваў, наструнььваў гэтыя ніці, то паслабляў іх. І адразу ж рэагаваў на гэта натоўп, быццам быў маім рэхам. Я дыктаваў сваю волю натоўпу, і ён слепа падпарадкоўваўся маёй волі. Аж ніякавата рабілася ад такой рабскай гатоўнасці ўсіх гэтых людзей ісці следам за музыкай, заміраць разам з ёй, затойваць дыханне або кідацца з галавою ў вір

па першым яе знаку. Нешта было ў іх у гэты час ад марыянетак, ад лялек, якімі кіруе дужая, вопытная рука.

Па нас заглядаліся дзяўчаты. Гэта прыемна цешыла самалюбства. Але цяпер я разумею, што падабаліся дзяўчатам не мы, а той німб музыкі, весялосці і маладосці, які ззяў над намі. Калі б на нашы месцы прыйшлі іншыя, прыйшлі і замянілі нас, дзяўчаты б гэтага нават не заўважылі.

На танцпляцоўцы я пазнаёміўся са сваёй жонкай Людай. Кожную суботу яна прыходзіла сюды з сяброўкамі з піянінных фабрыкі. Яны танцавалі дзяўчына з дзяўчынай, у іх быў «матрыярхат», бо партнёраў не хапала, а стаяць, падпіраць сцяну, чакаць, пакуль «моцны пол» зверне на цябе ўвагу, не хацелася.

Мы адразу заўважылі адно аднаго. Люда была рослая, чарнявая, з цёмнымі крыламі броваў, з-пад якіх, як вясновая крыніца, струменілася пякучае святло блакітных вачэй. У яе была класічная спартыўная фігура, фігура гімнасткі або тэнісісткі, хоць, як даведаўся я пазней, спортам яна не займалася. Апраналася яна сціплей, чым многія дзяўчаты — першы раз я яе ўбачыў у чырвоных вузенькіх штанах і ў зялёнай ваўнянай кофце, на якой быў вышыты сімпатычны кучаравы напуасік. Танцавала яна добра, уся аддавалася музыцы, рытму. Я ўжо чакаў яе. Сачыў, як ішла яна з сяброўкамі праз усю танцпляцоўку, бліжэй да нас. І мой «Вельтмайстар» пачынаў іграць галасней. Люда кідала на мяне сарамліва-выпрабавальны позірк, як бы прасіла дазволу на танец.

Як звычайна, многія хлопцы прыходзілі на танцпляцоўку на падпітку. Народная дружына, як ні старалася, не магла даць ім рады. На ўваходзе, там, дзе дзяжурыў кантроль, хлопцы былі цвярозыя, пачцівыя, галантныя кавалеры, але варта было зайграць музыцы, і ўсё мянялася, усё станавілася на свае месцы. Здавалася, Бахус на мяккіх крылах нябачна пралятаў над танцпляцоўкай і скідваў сваім прыхільнікам «падмацаванне». Дзівіліся, разводзілі рукамі дружыннікі — глядзелі ж, як кажуць, у два вокі, і ні ў кога быццам бы не было з сабою бутэлек. Я ведаў, адкуль з'ўлялася віно. Хлопцы прыносілі яго ў грэлках, шчыльна прывязаных да голага цела.

Віно і музыка ператваралі ціхмяных інтэрнацкіх хлопцаў у «супермэнаў». Было дзе разгарнуцца, паказаць свой спрыт і азарт. Такія танцавальныя «па» выкідвалі некаторыя малойчыкі, што ў балетмайстра Грыгаровіча, каб ён убачыў такое, валасы абавязкова б узняліся дыбам.

Аднойчы адзін з такіх «супермэнаў» з поўнага ходу ўрэзаўся ў Люду з яе сяброўкаю і найшоў сабе далей праз натоўп, як ледакол. Я

ўбачыў, як пачырванела Люда ад абурэння, як крыкнула наўздагон «супермэну» злыя рэзкія словы. Той, усміхаючыся, павольна вярнуўся назад і даў Людзе ў лоб пстрычку, слабенькую, далікатна-абразлівую пстрычку. Нібы муху сагнаў у Люды з ілба. Ніколі не забуду тое, што адбылося праз адну-дзве хвіліны. Люда высакамерна і горда ўсміхнулася, і з гэтай чароўнай усмешкаю амазонкі зняла з нагі туфель, размахнулася, звонка пляснула туфлем па чырвоным п'яным твары. Аж пошчак пайшоў «Супермэн» кінуўся па Люду з кулакамі. Але яна, як запраўскі дзюдаіст, дала яму падножку. Усё скончылася невялікім «лёдавым пабоішчам», у якім, не вытрымаўшы, прыняў удзел і я, вядома ж, на баку Люды. З таго вечара мы і пасябравалі.

Не, япа была далёка не ваяўнічая, мая Люда. Проста яна была дужа гордая. Гэта гордасць, калі неабходна было, памагала ёй перамагаць страх і разгубленасць. Працавала яна на імяніннай фабрыцы паліроўшчыцай, жыла разам з бацькамі ў вялікім цагляным доме на ўскраіне горада. Гэты дом суседзі называлі «дывановым домам», бо Людзін бацька, вярнуўшыся ў Беларусь з Малдавіі, куды ездзіў на заробкі, купіў яго ў цыгана Жоры за дваццаць тысяч. Люда нарадзілася ў Малдавіі і, відаць, ад малдаўскай прыроды ўзяла смуглявасць і сваю няўступчывую гордасць. У бацькі, акрамя яе, было яшчэ тры дачкі, цэлы «дзявочы манастыр», як любіў ён жартаваць, калі быў у гуморы. Але часцей за ўсё яму было не да жартаў, бо, як ні круці, дачок выдаваць замуж трэба, трэба рыхтаваць пасаг. І ён — гэта я ўжо зразумеў пазней — не скупіўся на абяцанні. Кожнаму прэтэндэнту на Руку адной з дачок гарантаваліся «Жыгулі» і трэцяя частка «цыганскага дома». Я, вядома, пагнаўся не за «Жыгулямі», а за Людаю, пакахаў Люду, але, калі глядзець цвяроза, прыгожая, разумная жонка добра, а прыгожая, разумная жонка з уласнай аўтамашынаю і кватэраю яшчэ лепш. Адным словам, пажаніліся мы з Людаю. Было ўсё, як у людзей: і залатыя пярсцёнкі, і марш Мендэльсона, і віншаванні родных і сяброў. І ў дадатак да гэтага, як кажуць, звыш праграмы, усе «Славяне», усе мае дарагія музыканты, з раніцы да ночы ігралі на вяселлі. Ягор Пархвенавіч, Людзін бацька, быў гэтым вельмі задаволены, расчулены і шчодра заплаціў хлопцам. Мне ж асабліва запомнілася, як адразу пасля загса Люда павезла мяне на машыне на гарадскія могілкі, на магілу сваёй бабулі. Хвастаў халодны дождж, мокрыя сумныя дрэвы ўздрыгвалі над могілкамі, вецер шумеў у бляшаных вянках, якія віселі амаль на кожным крыжы. Фотапартрэты нябожчыкаў, залітыя дажджом, глядзелі на нас з усіх бакоў. Зайздросцілі яны нам ці віншавалі нас? Мне стала так трывожна, так самотна, што я пачаў глядзець на шэрае неба, адкуль падаў раўнадушны маўклівы

дождж. Люда ішла ў белым вэлюме, падабраўшы рукамі белае доўгае плацце, не ішла, а як белая лябёдка плыла паміж магіл і крыжоў. Яна расказвала мне, што дужа любіла сваю бабулю і хацела сказаць ёй, што ўжо дарослая, ужо выходзіць замуж. Мне ўсё гэта не вельмі каб спадабалася. Паехаць адразу пасля рэгістрацыі шлюбу, пасля шампанскага і кветак на пустынныя восеньскія могілкі — не дужа ўдалая задума. Гэта можна было зрабіць і пазней, пасля вяселля. Але я не стаў пярэчыць Людзе, успомніўшы, што на свае баляванні старадаўнія егіпцяне прыносілі муміі, каб дужа вясёлыя не забываліся пра смерць.

Вяселле было багатае і шумнае. Ніколі не ведаў, што ў мяне столькі шмат радні. Нейкія вясковыя цёткі, нейкія барадатыя дзядзькі, усе загарэлыя, жылістыя, гаманкія, называлі мяне Сцепуком, ляпалі па плячы, цалавалі, пілі за маё і за Людзіна здароўе. Потым дзялілі каравай. Вясёлая, п'яная цётка, прытанцоўваючы, ішла між сталамі з вялізнай драўлянай міскаю ў руках, сват, апяразаны ручніком, называў прозвішчы тых, што сядзелі за сталамі, і ў міску ляцелі чырвонцы і дваццацьпяткі. Некаторыя, акрамя грошай, рабілі, так сказаць, «славесныя» падарункі. Сівая, як не стогадовая, бабулька, шамкаючы бяззубым ротам, сказала:

Дару табе хлеба акрайчык,
Каб быў сын Мікалайчык.

Лысы чырванашчокі дзядзька весела праспяваў:

Дару табе дубовы клін,
Каб скарэй радзіўся сын.

І сапраўды дастаў з кішэні зялёнага пацёртага фрэнча здаравенны клін і аддаў яго мне. Люда пры гэтым прыкметна зачырванелася. Пышнавалосая грудастая маладзіца бадзёра выгукнула:

Дару вам белую гусь,
Каб слаўны былі на ўсю Беларусь.

Гуся, аднак, не падарыла. Мы з Людаю, каб хоць трошкі падыхаць свежым паветрам, збеглі незаўважна ад гасцей на вуліцу. У сенцах я выпадкова пачуў, як Ягор Пархвенавіч скардзіўся маёй маме: «Мала надарылі. Ну й скупярдзяі...» — «Абы дзецям было добра, сваток»,— з пакорлівасцю ў голасе ўздыхнула мама.

Жыць мы сталі ў «цыгановым доме». Праўда, Ягор Пархвенавіч выкраіў нам не трэцюю частку сваіх харомаў, а ўсяго толькі невялічкі пакойчык, у якім ледзь памясціўся наш шлюбны ложак. Але, на першым часе, мы не звярнулі на гэта ніякай увагі — мы жылі адно адным, мы жылі сваім каханнем, і ўвесь свет, такі радасны і агромністы, быў для нас у гэтым пакоі.

Люда ўсміхалася, усміхалася ярка і шчасліва. Я быў перапоўнены гэтай усмешкаю, перапоўнены пяшчотай. Вялікі букет белых восеньскіх рамонкаў стаяў у маленькім белым гладышыку на часопісным чырвонага дрэва століку. Мы засыналі, прачыналіся, а букет мякка свяціўся ў паўзмроку каля нашага ложка, і хацелася, каб гэтак было заўсёды, вечна. «Я кахаю цябе,— шаптала Люда.— Не ведала, як гэта добра... Здаецца, я рассыпаюся на кавалачкі... Расклейваюся...»

Праз год у нас нарадзіўся Лёнік. Колькі было радасці, клопату, тлуму. Што ні кажыце, а прыемна адчуваць сябе бацькам зусім маленькага, голенькага, зморшчанага чалавечка, які слаба папісквае на тваіх руках, водзіць галоўкай з заплюшчанымі вачамі, тыкаецца табе ў грудзі. Люда, смеючыся, забірала ў мяне Лёніка з рук, карміла. Прыходзіў у наш пакойчык Ягор Пархвенавіч, ступаў ціхенька, на пальчыках, спыняўся каля калыскі і, здзіўлена-радасна, нібы ўпершыню бачыў, пытаўся: «А чыё ж гэта такое харошае дзіцятка? Адкуль яно ў нас узялося? Даю пяць рублёў за пагляд». І клаў пяць рублёў у калыску. Такія «пагляды» рабіў ён некалькі разоў. Я быў заікнуўся Людзе, што не варта яму рабіць такое, але яна сказала: «У бацькі грошай хопіць».

Цесць быў печнікам. Брыгадаю ў тры чалавекі хадзілі яны па вёсках, клалі печы і грубкі не толькі прыватным асобам, але і ў сельскіх школах, медпунктах, лясніцтвах. Зараблялі добра. Аднойчы Ягор Пархвенавіч сказаў мне: «Кідай ты сваю музыку, Сцяпук. Трэньбрэнь, брэнь-трэнь... Не сур'ёзнае гэта дзела, не мужчынскае. Хадзем з намі печы ляпіць. У нас вунь Саша Бусыгін інжынер, інстытут кончыў, а такі пячнік хвацкі». Я не згадзіўся, і паміж мною і цесцем прабегла першая трэшчына.

Пра «Жыгулі» Ягор Пархвенавіч болей не заводзіў гаворку, хітравата ўсміхаўся ў рудаватыя, колеру свежай гліны, вусікі. А для маёй Люды гэта быў удар. Яна, відаць, усур'ёз верыла, што бацька развяжа сваю багатую панчоху. Паміж ёю і бацькам пачаліся дробныя сутычкі, якія перараслі неўзабаве ў сапраўдную вайну. Я стараўся не ўдзельнічаць у гэтай баталіі, адмоўчваўся, аднекваўся, рабіў выгляд, што не разумею, з-за чаго ломяцца коп'і. Я ўжо задумваўся над тым, што трэба, відаць, з'язджаць адсюль, падшукваць у горадзе кватэру. І яшчэ я, пакуль не прызнаючыся сам сабе, пачаў думаць, што сапраўды трэба кідаць мне сваю «трэнь-брэнь». Трэба ісці на які-небудзь завод. Там можна будзе атрымаць спецыяльнасць і кватэру.

Падрос Лёнік, мы яго ўладкавалі ў дзіцячы сад, і Люда зноў пайшла на работу. Машына для мяне, як кажуць, закруцілася на поўныя абароты. Трэба было ранічкай весці малога ў сад, увечары ляцець

праз увесь горад, каб не спазніцца яго забраць, трэба было пастаяць у чарзе ў магазіне. Я стамляўся, пачаў нервавацца. Пачаліся першыя канфлікты з Людаю.

Цяпер я разумею, што ўсе людзі, большасць людзей, у аснове сваёй — добрыя. Дрэнных няма. Але шмат няўмелых. Ад няўмення ўсе сямейныя беды. Тая суп не ўмее зварыць, той з жонкай не ўмее сталкавацца. І дзяруць адно аднаму нервы, як струны на гітары.

Раней я краем вуха чуў пра эмансіпацыю жанчыны. Не задумваўся над гэтым, пакуль не жаніўся. У нашай краіне жанчына роўная ў правах з мужчынам. Добра, вельмі добра. Так ёсць — сам бачу. Жанчыны ходзяць і ў начальніках, і ў падначаленых, жанчыны робяць на заводах і на будоўлях. Жанчыны нават у хакей пачалі гуляць, праўда, у хакей на траве. Спаднічкі ў хакеістак такія прыгожыя, клюшачкі — любата! Добра, што хоць не боксам захапіліся нашы жанчыны.

Паўтараю, я чуў і ведаў пра эмансіпацыю і, як кожны сумленны грамадзянін, вітаў яе. Але адна справа — чуць. Іншая ж справа, калі ты вяртаешся з работы дадому, стомлены, галодны, як воўк, а твая жоначка, твая Людачка, з нявіннай усмешачкай на твары гаворыць табе: «Сёння я вячэру не варыла. Сёння твая чарга варыць. Мы ж — роўныя - ты працуеш, і я працую». А сама паспела ўжо на кожную вейку па кілаграму тушы накласці. Або іду я ў парк іду працаваць там, іграць на акардэоне. Гляджу, і Люда збіраецца, блакітны парык, што маці падарыла, на галаву пацягвае як той салдат каску. «Ты куды?» — «У парк. Хачу патанцаваць. Ты адпачываеш, а мне нельга?» І ўявіце сабе я сам разумею, што ў нечым яна мае рацыю. Але ж гэта — непарадак, яўны непарадак. Калі і павінна быць усюды дысцыпліна, дык у першую чаргу ў сям'і. Дысцыпліна сям'і, дысцыпліна кахання — вось што трэба ўсім нам сёння.

Чым далей, тым болей. Пайшло, як кажуць, пакацілася паехала. А між тым белы гладышык, як і раней, стаяў у нашым пакоі на часопісным чырвонага дрэва століку, і белыя рамонкі стаялі ў ім. Толькі цяпер яны здаваліся мне сумнымі, невясёлымі.

Куды ж усё-такі знікае каханне? Куды знікаюць тыя словы, тыя клятвы, якія так кружылі галаву? Няўжо яны як той першы снег, што растае ад лёгкага дотыку сонечных промняў?

Шмат думаў я над гэтым. Спрабаваў з Людаю мірыцца віну сваю прызнаваць, бо лічыў, што мужчына, як мацнейшы, павінен быць болей памяркоўны ў такіх далікатных справах, павінен кампраміс шукаць. Ды каханне на кампрамісах не пабудуеш, недаўгавечнае яно, кампраміснае каханне. Каб яшчэ свая асобная кватэра была, а то памірымся з Людаю, супакоімся, а тут цешча з цесцем слоўца, як

асколачную бомбу, падкінуць — такі й сякі ў цябе, дочачка, мужык, няўмека, недарэка... Вось так. А ты — маўчы. І пяць гадоў цёшчыну кошку на «Вы» заві.

Аднойчы Люда са злосцю сказала мне: «Ты такі самы, як твой бацька. Наследныя гены ў цябе такія. Той цябе зусім маленькага кінуў, збег ад сям'і, і ты хочаш тое самае зрабіць, Лёніка кінуць». Здорава мы паспрачаліся тады разгарачыліся. Я выбег з пакоя і так грымнуў дзвярыма, што белы гладышык з кветкамі ўпаў на падлогу і рассыпаўся на дробныя кавалачкі. Скажыце, чым не сімвал? Разбіваецца гладышык, які мы купілі ў першы ж дзень нашага сумеснага жыцця, значыць, нядоўга і няцяжка перакінуць паралель і на наша каханне. І каханне рассыпалася, разбілася Я так і падумаў у той дзень. А Люда зграбала белыя бліскучыя асколачкі ў вядро і плакала.

Бацька кінуў сям'ю. Я, сын, збіраюся кінуць. Што гэта? Выпадак? Заканамернасць? З невысокай яшчэ горкі свайго жыцця аглядаўся я назад, глядзеў уперад і не мог знайсці адказу на гэтыя пытанні.

Я вырашыў, нікому нічога не сказаўшы, паехаць ад Люды і ад Лёніка, паехаць у Мінск, да свайго бацькі. Я павінен быў глянуць яму ў вочы, зразумець, калі можна будзе, яго, зразумець сябе. Я павінен быў зрабіць гэта. Лёніка я не кіну, кожны месяц буду прысылаць яму грошы, а Люда... Я яшчэ не ведаў, што атрымаецца ў нас з Людаю.

Вось як яно ўсё адбылося, як павярнулася. Я сяджу ля начнога цяпельца, стараюся задрамаць, расслабіцца, але сон не прыходзіць і не прыйдзе да самай раніцы. У лесе крычыць нейкая птушка, крычыць адрывіста, рэзка. Крык, як шыла, праколвае цемру. Але я нават не ўздрыгваю. Я ўжо прывык да гэтага адзінокага, сумнага крыку. Мне здаецца, я бачу гэту птушку: яна сядзіць на самай верхавіне старой змрочнай елкі, схаваўшы маленькую галаву пад халоднае, абсыпанае начной расой крыло, ёй страшна, і яна час ад часу, каб адагнаць страх, каб супакоіць сябе, крычыць, нібы скардзіцца цёмнаму лесу на сваю адзіноту.

Нябачныя хмары ідуць над маёй галавою, над ціхімі дрэвамі. З хмар сеецца дробненькі дожджык, халодны сярэбраны пыл. Як напятая струна, трымціць наўкол мяне лясная ціша. Каб толькі перастала крычаць гэта птушка... Каб толькі перастала.

Я засынаю, ці мне здаецца, што я засынаю, і ўжо стаіць перада мною Лёнік. У сіняй кашульцы, у белых трусіках. Я нават бачу, што трусікі ў яго мокрыя. Мне хочацца зняць гэтыя трусікі, апаласнуць іх, але раптам Лёнік пачынае крычаць сумным голасам адзінокай начной птушкі, і замест ручак у яго вырастаюць крылцы, мяккія, пушыстыя. Ён махае крылцамі, натужвае іх і раптам узлятае, ляціць высока над

лесам. «Куды ты, Лёнік?» — крычу я наўздагон. «Да мамкі, да мамкі...» — даносіцца з хмарнага неба.

Я ўздрыгваю, прачынаюся і ніяк не магу зразумець, што са мною і дзе я знаходжуся. Цяпельца патухла, толькі сіні струменьчык дыму, як гнуткі сіні парастак, выбіваецца з шэрага попелу. Між дрэвамі бялеюцца астраўкі халоднага льдзістага туману. Птушка ўжо змоўкла, пэўна, змарылася і заснула, учапіўшыся вострымі крывымі кіпцюрамі за якую-небудзь галінку. Усё спіць: дрэвы, трава, хмары, мурашкі ў сваіх жоўта-бурых мурашніках. Усё спіць, чакаючы новы дзень.

І вось ён пачынаецца, новы дзень, малады дзень. Дожджык не сціхае, цуруболіць з неба, але неба зрабілася святлейшае, вышэйшае. Дрэвы стаяць свежыя, абмытыя, не верыцца, што ноччу яны маглі напалохаць. Куды ні глянь, усюды ляжыць апалае лісце; дождж прыбіў яго да зямлі моцна, нібы цвікамі, і ветру, які прачнуўся разам са мною, ніяк не ўдаецца ўзварушыць хоць лісцік.

Я раблю зарадку, бегаю па паляне, разганяю схаладалую кроў. Колькі ж ужо часу? Гляджу на свой наручны гадзіннік — палова восьмай. На тыльным баку гадзінніка выгравіраваны надпіс: «Любімаму мужу ў дзень 20-годдзя. Люда». Так, гэта Люда падарыла мне гадзіннік, падарыла і, помніцца, пацалавала. Як яна там з Лёнікам? Шукае мужа-ўцекача ці можа ўжо новага знайшла? Лёніка шкада... Вось і я свайго сына кінуў, а некалі абураўся: як гэта можна, каб пры жывых бацьках дзеці раслі сіротамі?

І ўсё болей я пачынаю вінаваціць свайго бацьку. З яго пайшла гэта праклятая ланцуговая рэакцыя — ён кінуў мяне, я кінуў Лёніка. Прыйсці, убачыць, глянуць у вочы, зразумець і болей ніколі не сустракацца. Вось чаго я іду Да свайго бацькі. Я іду — як суд ягонай памяці. Я — бумеранг, хлопчык-бумеранг, які павінен вярнуцца і напомніць пра сябе. А бацька, мой бацька — чалавек з эластычным сумленнем. Ад вучоных усе мы ведаем, што ёсць эталоны меры, вагі, даўжыні і гэтак далей. Эталон — гэта тое, што не можа змяніцца, што заўсёды павінна заставацца нязменным. Калі перакінуць паралель са свету метраў і кілаграмаў у свет душы, дык павіпен быць і ёсць эталон сумлення — выпрацаваная пакаленнямі нязменная маральная велічыня. А ў Івана Іванавіча Памалейкі, майго бацькі, сумленне эластычнае, яно можа мяняцца, прыстасоўвацца да абставін жыцця. Так думаю я.

Горад пачынаецца адразу, як вытыркаешся з лесу. Па правую ад мяне руку ляжыць невялікае возера, напэўна, штучнае. Над возерам вісіць шэрая дажджавая імгла, на беразе, мокрым, няўтульным,

цярпліва сядзіць некалькі фанатыкаў-рыбаловаў. Цікава, што яны могуць злавіць у гэтай канаве?

Я іду па лузе, дакладней, па тым месцы, дзе калісьці быў луг. Цяпер тут будуюць стадыён. Самазвалы прывозяць сюды кучы бруднага чорнага пяску — гэта, відаць, адпрацаваная фармовачная зямля, з завода,— завальваюць лугавыя купіны і балотцы. Сотнямі такіх куч, як маленькімі вулканамі, утыканы луг.

Не спыняецца дождж. Старая жанчына, прыкрыўшыся парасонам, ірве непадалёку нейкую траву, пэўна, шукае зёлкі. Глянула на мяне стомленымі светлымі вачамі і зноў за работу. Я для яе — толькі прахожы.

А вось і дом, у якім жыве бацька. Я ні разу тут не быў, але, здаецца мне, даўно ведаю гэту мокрую чорную стужку асфальту, гэты травяністы пахілы ўзгорак, засаджаны маладзенькімі дрэўцамі, гэту прыгожую шаснаццаціпавярховую аграмадзіну. Бацькава кватэра на самай верхатуры, па шаснаццатым паверсе. Можа бацька ўжо глядзіць на мяне з балкона? Узнімаю твар, прабягаю вачамі па балконах — іх тут як шпакоўняў у нашым школьным парку. На шаснаццатым нікога няма. Толькі матляецца на вяроўцы белая дзіцячая кашулька. Як сцяг капітуляцыі.

Белая кашулька... У бацькі ж ёсць новыя дзеці, шмат дзяцей. Я пра гэта ведаў, але тут, убачыўшы гэту кашульку, нібы спатыкнуўся. Як я гляну па іх, на яе? Яны ж не вінаваты, што калісьці ад мяне ўцёк мой бацька. Я прыйду ў іхні дом, і яны падумаюць, што я прыйшоў, каб узяць, вырваць свой кавалачак шчасця. А ці многа шчасця ў іх, каб аддаваць яго кожнаму сустрэчнаму?

Ззаду, на прыпынку, сярдзіта зашумеў тралейбус. Чмыхнула брудная вада з-пад колаў. І я, як хто мяне падштурхнуў, па слізкай бетоннай лесвіцы стрымгалоў бягу да тралейбуса, ускокваю ў яго, калі дзверы пачынаюць ужо зачыняцца. Падсвядома я адцягваю сустрэчу з бацькам, хоць ён, пэўна ж, чакае мяне, бо яна ўчора павінна была аба мне расказаць. Я праеду некалькі прыпынкаў на тралейбусе, потым гэткім самым чынам вярнуся назад, а потым пайду на шаснаццаты паверх. Не на ліфце паднімуся, а пайду.

У тралейбусе шмат народу. Людзі едуць на першую змену. Твары ва ўсіх засяроджаныя, хмурнаватыя. Ніхто не скажа лішняе слоўца, толькі адно й чуваць: «Вы на наступным прыпынку сходзіце?», «Пракампасціруйце, калі ласка, білет». Нават і ў гэтых кароткіх сказах людзі ўмудраюцца эканоміць словы, гавораць: «На наступным сходзіце?» Толькі пачынаецца новы дзень, людзі яшчэ паспеюць і нагаварыцца, і насмяяцца, і насварыцца.

Увесь праход забіты людзьмі. Я стараюся трымацца бліжэй да дзвярэй, каб можна было, калі надумаю, выйсці на вуліцу. Гэта мне ўдаецца. Праўда, я стаю як бы балансіруючы, цяжар цела пераношу то на правую, то на левую нагу.

Пакрысе людзі пачынаюць разгаворвацца. Разагрэліся, прыцерліся адзін да другога. Чуюцца жарцікі, размовы пра падвор'е, пра футбол, пра метро, якое будуюць у горадзе. Непадалёку ад мяне стаіць малады высокі негр з вугальна-чорнай скураю, у яркай, экзатычна размаляванай трапецыямі і квадратамі куртцы. Вясковая цётка, што, пэўна, прыехала на Камароўку прадаваць яблыкі, раз-пораз кідае на яго хуценькія, поўныя здзіўлення позіркі. Каля цёткі прымасціўся на сядзенні малады мужчына з маленькім дзіцяткам, сынам, на руках. І так замілавана, так адкрыта-шчасліва глядзіць на сваё дзіця, цешыцца ім. Дзве кабеціны, адна чарнявая, тонкая, другая таўставатая бландзінка, ажыўлена размаўляюць між сабою, надта не прыцішаючы голас, нібы едуць у персанальным тралейбусе і нікога ў тралейбусе, апроч іх, няма. Не аматар я слухаць чужыя размовы, а тут словы самі лезуць у вушы, няма ЭД іх ніякага паратунку. Гавораць, як я здагадваюся, пра сваю начальніцу, пра нейкую Людмілу Маратаўну Вярбіцкую. Людміла Маратаўна з іхняй размовы ўяўляецца мне дагістарычным мастадонтам у жаночым абліччы. Брыдка слухаць. «Як яна паглядзела на мяне,— кажа чарнявая,— у вачах — агонь, полымя. Так і праглынула б мяне, каб магла. А я думаю: і ты ж не святая. Усе ведаюць, як ты з Кузюкіным у грыбы ездзіла». Смяюцца. «Яна сабе парык дастала,— гаворыць бландзінка.— Як пудзіла ў тым парыку. На наваселлі ў Цішкевічаў былі, дык Кузюкін кажа ёй: «Вы, Людміла Маратаўна, як Неферціці». Смех робіцца грамчэйшым. Я не вытрымліваю. Я ніколі не любіў і не люблю, калі бэсцяць чалавека завочна, за яго спіною, а пры сустрэчах з ім робяцца гладзенькімі і мякенькімі, як вата. Далікатна кратаю чарнявую за плячо. Яна паварочваецца, глядзіць на мяне здзіўлена, пытаецца: «Вам што — білет пракампасціраваць?» У чорных вузкіх вачах яшчэ жыве смех. «Не,— ціха кажу я,— ці не перадаць ад вас і вашай сяброўкі прывітанне Людміле Маратаўне? Мне будзе няцяжка. Я жыву з ёю на адной лесвічнай пляцоўцы». Нямая сцэна з гогалеўскага «Рэвізора». Нервовы цік пачынае торгаць у чарнявай левае павека. Твар бландзінкі бярэцца ў ружовыя плямы. Я выходжу з тралейбуса.

Вось і зноў перада мной гэты высокі прыгожы дом, у якім жыве мой бацька. У доме адзін пад'езд, з пад'езда выходзяць і выходзяць людзі. Я саджуся на лавачку, дастаю грабянец і люстэрка, прычэсваюся. Потым папраўляю каўнер белай кашулі, тужэй зацягваю вузел

гальштука. Я павінен быць элегантным і ўпэўнеўным. Няхай убачыць бацька, якім вырас ягоны сын. Няхай убачыць і пашкадуе, што збег калісьці ад такога сына.

З пад'езда выбягае, выкочваецца, як шарык, нізенькі тоўсценькі чалавек у сінім трэніровачным касцюме, у кедах, у лыжнай шапачцы. Я яго ўжо раз бачыў, учора. Учора ён быў у гэтай жа самай экіпіроўцы. Пэўна, нейкі спартсмен. Бач ты — трэніруецца і ўдзень і ўвечары. Сам сабе я называю яго Леанідам Жабацінскім. Якім жа відам спорту займаецца гэты Жабацінскі? Адразу і не скажаш. Ён можа быць і лёгкаатлетам, і плыўцом, і футбалістам. Ды хутчэй за ўсё гэта проста, як жартуюць хлопцы з нашага ансамбля, «чэмпіён свету па мятанні піражкоў». Цяпер жа многія бегаюць.

Жабацінскі пабег, пакаціўся ў бок лесу. На лыжнай шапачцы ў такт бегу ўздрыгвае, калоціцца тоўсцепькі кутасік, быццам развітваецца са мною, махае мне. Я павольна ўстаю з лавачкі, абцягваю куртку, ямчэй папраўляю на плячы спартыўную сумку і іду ў пад'езд. Націскаю кнопку ліфта. Кнопка загараецца чырвоным агеньчыкам, чуваць, як уверсе скрануўся з месца, паплыў уніз ліфт. На гэтым ліфце кожны дзень ездзіць бацька, мой бацька, а сёння чужы мне чалавек. Цікава, як мы сустрэнемся? Якое першае слова скажа бацька? Гэта вельмі важна — запомніць першае слова, якое скажа мне ён праз семнаццаць гадоў разлукі. Я не хвалююся, не. А, калі чэсна сказаць, усё ж трошкі мне не па сабе. Адчуваю запаволеныя, глыбінныя ўдары сэрца, нібы сэрца, як тая рыбіна, нырнула ў глыбіню, каб схавацца далей ад таго, што адбудзецца праз некалькі мінут.

У ліфце пахне застаялым тытунёвым дымам. На падлозе валяюцца абгарэлыя запалкі. Людзі, едучы на работу, курылі ў ліфце, бо ў тралейбусе і ў аўтобусе не закурыш.

Ліфт спыняецца. Ад тармажэння няўлоўна ўздрыгвае падлога пад маімі нагамі. Дзверы расчыняюцца, і я выходжу на лесвічную пляцоўку. Вось і бацькава кватэра. І ў гэты момант мне чамусьці ўспамінаюцца малюсенькія кволыя клёнікі, па якіх тапталіся, танцавалі п'яныя людзі.

## IV. ТОСТ

— Здароў, Сцяпук,— сказаў Іван Памалейкін, падаючы сыну руку.

Той вяла адказаў на поціск, ціха вымавіў:

— Добры дзень.

Ён не вырашыў яшчэ, як будзе называць бацьку — на «ты» ці на «вы», і знайшоў гэтыя нейтральныя словы. «А бацька нічога сабе, захаваўся,— думаў ён,— Высокі, стройны, валасы хоць і сівыя, затое ні адзін не выпаў. Назваў мяне так, як мама называе — Сцяпук. Запомніў».

— Праходзь у залу. Ды не здымай чаравікі.

Але Сцяпан разуўся.

— Тады я тапачкі табе пашукаю, а то падлога халодная.

«Бач ты, тапачкі шукае. Клапоціцца пра маё здароўе. А за семнаццаць гадоў не пацікавіўся ні разу — жывы я або мёртвы».

— На чым ты ехаў? На аўтобусе?

— На электрычцы. Цяпер на электрычцы зручней ездзіць.

— І то праўда. А як маці?

— Марыя Ціханаўна пакуль што здаровая. Табе прывітанне не перадавала.

Сцяпан сказаў гэтыя словы спакойна, гледзячы бацьку проста ў вочы. За гэтыя кароткія хвіліны ў пярэднім пакоі і тут, у зале, ён ужо зразумеў, як будзе паводзіць сябе з бацькам — ён будзе помсціць. «Прыйшоў, убачыў, перамог»,— сказаў некалі Цэзар. Так зробіць і Сцяпан Памалейка.

Бацька ледзь прыкметна ўздрыгнуў, але адразу ўзяў сябе ў рукі, слаба ўсміхнуўся, прыняў сынаву грубасць як належнае.

— Я ў Барысаў часцяком прыязджаў. Хацеў цябе ўбачыць. Але маці не дазваляла.

— Няпраўда. Ты ў Барысаў прыязджаў, ды толькі ні разу не - захацеў зайсці да нас. Не захацеў.

— Эх, Сцяпук, Сцяпук... Ведаеш, якая складаная штуковіна жыццё?

— Ведаю.

Памаўчалі. Сцяпан, седзячы на канапе, абводзіў насцярожана-зацятым позіркам бацькавы апартаменты. Ндрэнна жыве бацька. Паркет, каляровы тэлевізар, тэлефон, вялікая паліца з кнігамі.

Іван Памалейкін парушыў цішыню, растлумачыў:

— Чатыры пакоі гарвыканком даў. Я ж, Сцяпук, у сваім родзе рэкардсмен. Шасцярых дзяцей маю.

— Ад іх, я спадзяюся, ты яшчэ не збіраешся збегчы?

Гэта пытанне задаў сын, хлопчык-бумеранг.

— Эх, Сцяпук, Сцяпук,— усміхнуўся бацька, чалавек з эластычным сумленнем,— яршысты ты. Увесь у мяне. Не збіраюся я ні ад кога бегаць. І ад цябе не збіраўся. Жыццё... Сітуацыя... Разумееш?

— Не разумею.

— Ну, прапала каханне. Згарэла. Дымам пайшло. Разлюбіў я сваю жонку, тваю маці... Разумееш? Як жа я мог жыць з ёй, з нелюбімай?

— Сапраўдны мужчына ідзе ад жанчыны па ранішнім снезе, не пакідаючы за сабой слядоў,— сказаў сын загадзя падрыхтаваныя словы, якія вычытаў аднойчы ў кніжцы і запомніў.

Бацька глянуў на яго са здзіўленнем, з цікаўнасцю.

— А ты галаву маеш. Разумны. Якая ў цябе, дарэчы, адукацыя?

— Не мае значэння. Адукацыя ў мяне добрая.

— Так склалася жыццё, што я пайшоў ад вас,— сказаў бацька.— Але я не адмаўляўся ад таго, каб плаціць аліменты! І Марыі, маці тваёй, сказаў. Ды яна адмовілася. Гордая яна...

Сын маўчаў. Потым ціха спытаў:

— Якая ў цябе група крыві?

— Другая. Самая распаўсюджаная. А што?

— І ў мяне другая.

Сын зноў змоўк. Яму падумалася, што дарэмна ён ехаў сюды. Біць бацьку-ўцекачу фізіяномію, біць, крышыць ягоны крышталь і фарфор ён, вядома ж, не стане. Будзённа, сумна ўсё атрымалася. Так сумна, хоць плач. Гэты чалавек, насцярожана ціхі, касцісты, шэравокі, што сядзіць, захінуўшыся ў паласатую хатнюю піжаму, ягоны бацька. Па нейкай выпадковасці гэты чалавек калісьці стаў ягоным бацькам.

Сыну раптам успомніўся — чаму зараз, чаму тут? — навукова-папулярны фільм, які ён калісьці бачыў. Зязюля паклала яйка ў гняздо нейкай дробнай птушкі. Вылупліваецца зязюляня і пачынае выпіхваць з гнязда птушанят. Яны ўпіраюцца, супраціўляюцца, але падаюць адно за адным уніз з гпязда, на зямлю. А птушка носіць і носіць ежу зязюляняці — забойцу сваіх дзяцей. Сляпы інстынкт, ад якога халадзее скура!

— Як маці? Здаровая? — пацікавіўся бацька.

— Хворая,— адказаў сын,— Ад чаго ёй быць здаровай?

Бацька ўстаў, падышоў да акна, за якім шапацеў восеньскі панылы дождж, сказаў:

— На кожныя тры пары маладажонаў прыпадае адна пара разведзеных. Зразумей: я не апраўдваюся, не... Але развод сёння ўжо не забараняюць, як раней. Яго прызнала дзяржава, яго прызнала жыццё. Чалавеку, калі ён памыліўся першы раз, даецца магчымасць паспрабаваць яшчэ. Так, як у спорце, у лёгкай атлетыцы, напрыклад, спартсмену даюцца тры спробы. Па-мойму, гэта гуманна. Не ва ўсіх атрымліваецца з першага разу.

— Ты — сучасны,— таксама ўстаў сын,— Ты выкарыстаў усе тры спробы, якія дазваляюцца ў спорце. Але, на жаль, жыццё — не спорт.

— З той, другою, я жыў усяго чатыры месяцы. А знайшоў сваё шчасце тут. Тут,— бацька шырокім узмахам рукі абвёў пакой, нібы хацеў паказаць сыну, паказаць вось зараз, шчасце, якое нарэшце, пасля стольхіх пошукаў, зацугляў ён.

У клетцы, падвешанай пад столлю ў кутку пакоя, шумна ўзмахвала крылцамі, ахарошвалася прыгожая жоўта-зялёная канарэечка. «Можа гэта канарэечка — увасабленне, сімвал бацькавага шчасця?» — падумаў сын. І яшчэ ён падумаў, што ён з бацькам вельмі падобны знешне. Такі ж нос, рот, паварот галавы, такая ж прывычка, калі хвалюешся, сплятаць пальцы рук і шчоўкаць імі. А калі чалавек падобны на другога чалавека знешне, то ён, разважаючы лагічна, павінен мець падобную душу. «Ён кінуў маму і мяне, а я кінуў Люду і Лёніка,— праводзіў паралель між сабою і бацькам Сцяпан Памалейка.— Няўжо праўду казала Люда, што гэта — геннае, спадчыннае? Ну не. Ён чужы, чужы мне чалавек. Я адчуваю, як холадам вее ад яго. А Лёніка я яшчэ не кінуў. Проста я шукаю сябе...»

Бацька, быццам адгадаўшы ягоныя думкі, пацікавіўся:

— Ты як жывеш? Адзін? Ці ўжо сям'ю завёў?

— Якое гэта мае значэнне?

— Сям'я мае вялікае значэнне, сын. Вялікае,— тут Іван Іванавіч Памалейкін зноў зрабіўся чалавекам з эластычным сумленнем. Ён узняў указальны палец угору і з запалам, з натхненнем пачаў развіваць сваю думку.— Усё трымаецца на сям'і. Народ, дзяржава... Усё! Сям'я — цагліна падмурка, на якім стаіць грамадства. Нездарма кажуць: калі да сарака год кватэра не засяляецца дзецьмі, яна засяляецца кашмарамі.

— Не па адрасу звяртаешся,— спакойна сказаў Сцяпан Памалейка.— Мне яшчэ далёка да сарака.

— Але задумвацца над гэтым патрэбна ўжо і ў тваім узросце.

— Вось я і задумваюся. І думаю: чаму ты ўсё-такі кінуў нас? Ты, што так прыгожа і правільна разважаеш пра сям'ю?

У гэты час у дзверы пазванілі — нехта ішоў. Сцяпан заўважыў, як няўлоўна ўздрыгнуў бацька. «Не хоча, каб мяне ўбачылі».

Ды хваляванне было дарэмным — на парозе кватэры, калі Іван Памалейкін адчыніў дзверы, стаяла не жонка, не дзеці, а сусед, Мікалай Савельевіч Матруніч, той самы, што працуе ў міністэрстве мясной і малочнай прамысловасці і ў якога пачалі стамляцца нервы.

З першага позірку цяжка было заўважыць, што ў Мікалая Савельевіча ўшчэнт знасіліся нервы. Гэта быў малады здаровы мужчына

гадоў сарака пяці, чырванашчокі, кучаравы, у меру поўны. «У самым саку малойчык»,— гавораць пра такіх. Але ж нервы — хвароба тонкая, далікатная, яе не кожны і ўбачыць.

Мікалай Савельевіч стаяў на парозе кватэры Памалейкіных у зялёным, з белымі шырокімі палосамі спартыўным касцюме, у мяккіх хатніх тапачках. У адной руцэ ён трымаў малаток, у другой — абцугі.

— Прывітанне, Іванавіч,— сказаў Мікалай Савельевіч.— Будзь сябрам, памажы люстру павесіць.

Быў Матруніч з катэгорыі так званых «бязрукіх» мужчын. Не трэба палохацца — рукі ў яго ёсць, ды яшчэ якія рукі, моцныя, прыгожыя. Асабліва летам, калі вернецца Мікалай Савельевіч з поўдня, калі апране ярка-белую тэніску, вачэй нельга адарваць ад яго і ад ягоных рук. Такія яны загарэлыя, араматна-карычневыя, прасмаленыя сонцам. Вузенькі залаты пярсцёнакззяе на пальцы. А якая класічная высакародная лепка пазногцяў!

«Бязрукі» Мікалай Савельевіч у тым сэнсе, што не ўмее ні цвіка ў сцяну ўбіць, ні лямпачку ўкруціць, ні прас адрамантаваць, нічога не ўмее. Адным словам, будзь ён на месцы Рабінзона Круза, ён на пяты дзень засумаваў быў на сваім востраве, апусціў рукі і з высокай скалы кінуўся б у мора. Як ні дзіўна, а ў наш урбаністычны, дужа насычаны тэхнікай век такіх мужчын, як Мікалай Савельевіч, можна сустрэць даволі многа. І адкуль яны толькі бяруцца? А можа на іх паўплывала тое, што з імі ў правах ураўнялася жанчына? Вось і спадзяюцца яны на сваю эмансіпіраваную палавіну: яна і халадзільнік наладзіць, і вадаправодны кран адрамантуе, і той жа самы легендарны цвік уваб'е.

Толькі зараз Мікалай Савельевіч заўважыў Сцяпана. Кіўнуў яму і пацікавіўся:

— А што гэта за малады чалавек?

— Мой сын,— адказаў Іван Памалейкін і, убачыўшы здзіўленыя вочы суседа, дадаў, каб адразу паставіць усё на сваё месца:

— Мы з ім жывём асобна.

Мікалай Савельевіч шматзначна кашлянуў у кулак, у якім трымаў малаток,— даў зразумець, што яму ўсё ясна.

Люстра была багатая, з чэшскага шкла, якое пераліваласся ўсімі колерамі і пазвоньвала.

— Тысячу рублёў упёк,— пахваліўся Мікалай Савельевіч. Ён аддаў малаток Івану Памалейкіну, абцугі — Сцяпану, і прыгожыя загарэлыя ягоныя рукі занялі звычнае месца — сашчапіліся на жываце. Праўда, «жывата», у тым сэнсе, у якім яго разумеюць у наш час, у Мікалая Савельевіча пакуль што не было. Быў «жывоцік».

Сцяпан адзначыў сам сабе, што бацька — чалавек масцеравіты, бо люстра была павешана за лічаныя хвіліны. Памылі рукі, Мікалай Савельевіч таксама памыў, прыселі на кухні. Мікалай Савельевіч дастаў з халадзільніка бутэльку «Сібірскай», нарэзаў каўбасы, сала, цыбулі.

— Каб доўга гарэла,— весела сказаў ён, маючы на ўвазе люстру, і ўзняў блакітную пузаценькую чарачку,— Будзем!

Яны з Іванам Памалейкіным выпілі, Сцяпан піць не стаў.

— Ты што, Сцёпа? — здзівіўся Мікалай Савельевіч.— Чаму не п'еш?

— Не хачу,— адказаў Сцяпан.

— Ну ты й даеш! Упершыню ў маёй кватэры — і такія фокусы. Ану зараз жа выпі, каб гэты Ноеў каўчэг,— ён абвёў лагодным позіркам кухню,— ніколі не ўзяло ніякае стыхійнае бедства: ні пажар, ні вулкан, ні сам д'ябал рагаты.

Іван Памалейкін нічога не гаварыў, закусваў, моўчкі глядзеў на сына.

— Я не п'ю. Зусім не п'ю,— растлумачыў Мікалаю Савельевічу Сцяпан.

— Ну ты й даеш,— шчыра здзівіўся Мікалай Савельевіч.— Ну ты й піжон, Сцёпа. (Слова «піжон» у яго прагучала як камплімент.) — Ды ты ведаеш, у які век ты жывеш? У дваццаты! А дваццаты век — атамны і алкагольны. Хто ж цяпер не п'е?

— Тэлеграфны слуп не п'е,— усміхнуўшыся, адказаў банальным жартам Сцяпан,— У яго ўсе чашкі ўніз перакулены.

— Во-во... Дык то ж — слуп. Дрэва...— Мікалай Савельевіч пастукаў костачкамі пальцаў па стале,— А жывому чалавеку, хоць раз у месяц, трэба прычасціцца вогненнай вадой. Бяры чарку.

— Хай не п'е. Не прымушай, калі чалавек не хоча,— міралюбна, але з дрыготкасцю ў голасе сказаў Іван Памалейкін. Ён быў перакананы, што сын не п'е толькі таму, што побач з ім, сынам, сядзіць ён, дрэнны бацька.

— Піжон,— зноў шчыра здзівіўся Мікалай Савельевіч, і зноў гэта прагучала як камплімент.— Калі так беражэш сваё маладое здароўе, дык хоць ідзі пласцінку ўключы. Там, у дзіцячым пакоі, прайгравальнік на стале стаіць.

Яны зной выпілі па чарцы, а Сцяпан пайшоў у дзіцячы пакой і ўключыў музыку. Заспявала Ала Пугачова:

...Все могут короли!
Все могут короли!

— Добра спявае,— задаволена кракнуў Мікалай Савельевіч, калі Сцяпан вярнуўся на кухню.— Паслухаеш, і ты сам раўня каралю. Кум яму і сват. Так і сказаў бы яму: «Эй Луі ану ідзі сюды, сядай за стол і глынём па сто грамаў! Ты ж, пэўна, «Сібірскую» не піў у сваёй Францыі?»

Мікалай Савельевіч захмялеў, захмялеў весела і шырока, як хмялеюць звычайна салідныя сямейныя людзі, калі на нейкі час удаецца вырвацца ім з-пад строгага жончынага нагляду. Чырвань выступіла на шчоках, вочы памякчэлі, падабрэлі, заіскрыліся. Ён ужо махаў рукой, дырыжыраваў сам сабе і спяваў разам з Алай Пугачовай:

...Жениться но любви
Не может ни один,
Ни один король!

— Хлусіць Ала Пугачова,— сказаў раптам Сцяпан.

— Як гэта яна можа хлусіць? — шчыра здзівіўся Мікалай Савельевіч.

— А так, што Пётр Першы, як вядома з гісторыі, жаніўся «па любві». Адбіў у сваіх п'яных салдат простую прыгожую дзяўчыну Кацьку. Тая Кацька да яго жыла з салдатамі, нагавіцы ім мыла. А потым зрабілася імператрыцай Екацярынай Першай.

— Значыць, не промах быў гэты самы Пётр Першы,— весела зазначыў Мікалай Савельевіч.— Дык вып'ем за тых, што жэняцца «па любві».

Ён зноў напоўніў чаркі, зноў прычапіўся да Сцяпана:

— Выпі і ты. Нешта ты хітрыш, хлопец.

— Я сілу волі выпрабоўваю,— адставіў убок чарку Сцяпан.— Якая сёння дата? Васемнаццатага кастрычніка? Да Новага года піць не буду.

Ён дастаў блакнот, вырваў лісток паперы, напісаў на ім чырвоным фламасцерам: «Не п'ю. Дзякую за запрашэнне». Потым накалоў лісток на відэлец, уваткнуў відэлец чаранком у кавалак хлеба — атрымаўся як бы сцяжок. Гэты сцяжок Сцяпан паставіў на стол, каля свайго правага локця.

— Ну й піжон,— які ўжо раз вымушаны быў здзівіцца Мікалай Савельевіч.— Падабаешся ты мне, Сцёпа.

Ён узяў сваю чарку, узняўся над сталом, высокі, плячысты, сказаў, звяртаючыся да Івана Памалейкіна:

— Як я зразумеў, Іванавіч, ты жывеш са сваім сынам асобна. Як я зразумеў, гэты твой сын не ад Дар'і Антонаўны, якую я глыбока паважаю, а ад іншай жанчыны. Што ж... «Сэ ля ві», як кажуць французы. «Такое жыццё». Я не маю ніякага права вучыць цябе. Ты —

харошы чалавек. Ты — добры сусед, без якога ў маёй кватэры не гарэлі б электралямпачкі, не працаваў бы тэлевізар. Адным словам, мая кватэра ператварылася б без цябе ў першабытную пячору. Дзякуй табе за гэта. Але,— тут голас у Мікалая Савельевіча пазванчэў, набыў урачыстыя ноткі,— хай не будзе на зямлі адзінокіх сэрцаў. Навошта нам у наш час адзінокія сэрцы? Памірыцеся, сын і бацька, успомніце, што вы адной плоці, адной крыві.

На некалькі імгненняў на кухні ўсталявалася цішыня. З вуліцы далятэлі рэзкія частыя гукі, здавалася, нехта абчэсваў бярвенне — грукаў цяжкой вострай сякерай. Але каму ў горадзе трэба абчэсваць бярвенне? Гэта выбівалі пыл з дываноў — мужчыны ў спартыўных касцюмах, у кедах, пацепваючыся ад холаду, білі што ёсць сілы гнуткімі пластмасавымі выбівалкамі па дыванах, аж пошчак ішоў па наваколлі.

— Не трэба нас мірыць,— сказаў Мікалаю Савельевічу Сцяпан Памалейка.— Мы з бацькам не сварыліся. Асабіста я,— ён вылучыў гэтыя словы,— не сварыўся.

— Будзь джэнтльменам, Сцёпа,— вёў сваё Мікалай Савельевіч.— Усё можа здарыцца ў жыцці. Ты хочаш мець сяброў без недахопаў? Значыць, ты не будзеш мець сяброў.

Тут узняўся з чаркаю Іван Памалейкін. Дагэтуль ён маўчаў, аб нечым засяроджана думаў, як бы нешта прыпамінаючы. Твар у яго быў светла-ружовы, усхваляваны, нават, здавалася, натхнёны. Гледзячы на гэты твар, думалася, што зараз прагучаць нейкія дужа важныя, дужа патрэбныя ўсім словы, ад якіх затрапеча сэрца і замрэ душа.

— Мне ўжо пяцьдзесят тры гады,— сказаў ціхім голасам Іван Памалейкін.— Табе, Сцяпук,— дваццаць з хвосцікам. Табе, Савельевіч...

Ён на хвіліну змоўк, прыпамінаючы, колькі гадоў Матрунічу.

— Сорак чатыры,— падказаў Мікалай Савельевіч.

— ...Табе, Савельевіч,— сорак чатыры. Як бачыце, мы — людзі розных пакаленняў. Рознымі дарогамі, у розны час ішлі мы ў жыццё. І ўперадзе ў нас — розныя дарогі. Сцепуку трэба сваю сям'ю заводзіць. Табе, Савельевіч, трэба да крэсла міністра прымервацца... Мне... Мне лячыць свой страўнік, сваю язву. А наогул, будзем жыць, старэць... Будзем губляць валасы, зубы, надзеі...

— Ну навошта так песімістычна, Іванавіч? — весела рагатнуў Матруніч,— Мы з табой і са Сценам у самым цвеце мужчыны. Нам зараз — рэчмяшок на плячо і ў геалагічную экспедыцыю ці на БАМ! Горы там звернем.

— Навошта варочаць горы? — не згадзіўся Іван Памалейкін.— Хай іх без нас землятрусы варочаюць. Я пра іншае хачу сказаць. Я

хачу сказаць, што ў кожнага з нас у жыцці свая дарога. І яшчэ я хачу сказаць, што з самага пачатку, ад першых дзён, жыццё пішацца на чыставік. Яго не перапішаш. Хацеў бы перапісаць, вырваць са сшытка брудную старонку, ды — дулю! Жыві так, як павярнулася. Ты камсамолец, Сцяпук? — спытаўся ён раптам.

— Камсамолец, вядома,— адказаў Сцяпан. Ён не разумеў, куды верне бацька.

— І я быў камсамольцам. Перад самай вайной уступіў. Асаавіяхім, варашылаўскія стрэлкі, чалюскінцы... Гарачы быў час. А потым — вайна. А нам — па шаснаццаць, па семнаццаць. Зялепухі! А Сяргею Міхалапу, быў у нас такі дзесяцікласнік, немцы камсамольскі білет цвіком да рукі прыбілі. І павесілі Сяргея ў школьным парку. Мы, канечне, не засталіся ў баку ад вайны. Лістоўкі пісалі, зброю збіралі... Бургамістравай карове,— Іван Памалейкін усміхнуўся,— тоўчанага шкла ў цэбар насыпалі. А потым — аблава, усіх нас, маладых, у вагоны, і ў Германію, у рэйх... Спрабавалі ўцячы, ды трапілі ў канцлагер. Ёсць у Польшчы, непадалёку ад Балтыйскага мора, гарадок Бялагард. Немцы яго Бюлаў называлі. Мы там разам з палякамі і французамі, таксама, як мы, зняволенымі, камень і друз у кар'ерах капалі, на ваганеткі грузілі. На трох чалавек — ваганетка. Не выканаў норму — есці не даюць, гоняць на пляц, і там сам камендант лагера Шмальшлегель «гусінаму кроку» аж да цёмнага вучыць. Гэты Курт Шмальшлегель сабака, а не чалавек быў. Спартсменам сябе лічыў. Усё казаў: «Немцы — спартыўная нацыя». Мог адным ударам у сківіцу збіць з ног любога чалавека. Ды што там было збіваць? Нас вецер хістаў, як траву. Бывала, падзьме вецер з Балтыйскага мора, і мы ўжо ледзь на нагах трымаемся. Футбольнае поле загадаў у лагеры зрабіць. Мы для яго як гладыятары былі. Нас там шмат моладзі было. Да вайны многія спортам займаліся. І вось ён любіў, каб мы, беларусы, супроць палякаў у футбол гулялі. Мы спачатку знак «st» на адзенні насілі, як і ўсе савецкія грамадзяне, вывезеныя ў Германію. А потым нас падзялілі на рускіх, украінцаў, беларусаў. У кожнай нацыі свой знак быў...

Іван Памалейкін перапыніў расказ, спытаўся ў сына:

— Ты, Сцяпук, у футбол гуляеш?

— Гуляю.

— Бачыў я, як ты адкрываў сваю сумку, што там буцы ляжаць. Я таксама, як маладзейшы быў, з-за футболу белага свету не бачыў. Гатоў быў ганяць мячык да самай ночы. Дык вось гэты самы Курт Шмальшлегель, гэты сабака, таксама, на нашу бяду, футбол любіў. Прымушаў нас раз у тыдзень гуляць з палякамі. Называў нас і паля-

каў «бруднымі славянамі» і вельмі не любіў, калі матч заканчваўся ўнічыю. А мы спецыяльна ўнічыю гулялі, каб хоць гэтым адпомсціць яму, сабаку. А перад самым вызваленнем, калі ўжо драпалі фашысты з Польшчы, ён тайком ад нас са сваімі памагатымі замініраваў футбольнае поле, міны закапаў. Пагналі нас гуляць, і недзе на дзесятай хвіліне наш інсайд Коля Труханоўскі на міну наскочыў. Ірванула яго на кавалкі, і адразу ж, у розных канцах поля, яшчэ выбухі ўзвіліся — міны ж былі злучаны між сабою. Трое нашых лягло на месцы, не лічачы Колю Труханоўскага, і два палякі. Мне асколкамі па нагах разанула. Вось які быў футбол.

Іван Памалейкін змоўк, паглядзеў на Матруніча і на Сцяпана.

— З таго часу ўзненавідзеў я футбол. Нават па тэлевізары не гляджу. Хоць футбол, канечне, не вінаваты. Ды я вам, хлопцы, не пра гэта хацеў сказаць. А пачаў я гаворку пра вайну, пра сваю бяду і бяду свайго пакалення дзеля таго, каб вы, маладыя, зразумелі, як цяжка нам было. Як цяжка! Гэта не кіно па тэлевізары паглядзець, дзе страляюць і дзе «ўра!» крычаць. Гэта — калі табе самому агонь пяткі падсмажыць, калі ў вочы смерці глядзіш, і яна, бязносая, табе ўсміхаецца. Вайна нас, як кажуць, крывёй і жалезам хрысціла. А мы ж — жывыя людзі. Жывыя! Мы можам рабіць памылкі, як і ўсе. І вы, сённяшняе пакаленне, павінны нас у такіх выпадках зразумець, скідку нам зрабіць. Скідку на вайну, на гора, на раны нашы...

Тут Мікалай Савельевіч не пагадзіўся з Іванам Памалейкіным. Да гэтага слухаў ён уважліва, вельмі ўважліва, падтакваў, галавою ківаў у знак згоды, але пры апошніх словах запунсавеўся, рашуча засоп носам.

— Ды самі ж ветэраны скідкі не просяць,— горача запярэчыў ён,— Салдат заўсёды салдат, як спяваецца ў песні. Паспрабуй напомні ім пра іхні ўзрост, пра хваробы, пра пенсію — ого, як узаўюцца, як пакрыўдзяцца.

— А я слабы. Я — слабы чалавек,— успыхнуў Іван Памалейкін.— Я не такі, як усе, выключэнне. Мала што пяецца ў песнях. І я прашу ў вас скідкі. Я можа і ад Сцепука пайшоў таму, што душа ваенным горкім дымам была атручана, была сляпая. Мне цяжка пра гэта казаць, але, відаць, так яно і было.

«Вунь яно што,— падумаў Сцяпан, устаючы з-за стала, каб выключыць у дзіцячым пакоі прайгравальнік.— Значыць, у тым, што ён мяне кінуў, вінавата вайна. Вунь яно што... А я, дурань, лічыў, што вінавата маладая бухгалтарка са спіртзавода, у якую ён у той час закахаўся». Ён адчуваў, што бацька хоча зменшыць сваю віну, хоча па зусім іншай дарозе павесці яго, сынавы думкі. Не я вінаваты.

Вінавата вайна. Яна скалечыла маё жыццё, а я скалечыў жыццё сыну і жонцы. Што ж, у гэтым, калі паразважаць, ёсць свая логіка. Сапраўды, колькі жыццяў узяла вайна, а не меней жыццяў перайначыла, перакроіла.

Ён выключыў пласцінку, колькі імгненняў трымаў яе ў руках, лёгкую, яшчэ цеплаватую ад дотыкаў іголкі. Ён трымаў у руках чалавечы голас, жаночы пяшчотны голас, упакаваны ў круглы чорны дыск.

«А ў бацькі, аказваецца, нялёгкая біяграфія. Вайна, канцлагер, гэты... як яго? — Курт, камендант лагера, футбол на замініраваным полі... Я пра ўсё гэта не ведаў. Мама не расказвала, хоць, вядома, ведала. Чаму ж мне не расказала пра гэта мама? Яна ж заўсёды вучыла мяне адкрытасці, шчырасці, чэснасці. Пабаялася. Пабаялася, што маленькі хлапчук будзе думаць і ўспамінаць пра бацьку не як пра ўцекача, а як пра ўдзельніка вайны, салдата. Вось табе і мама. А бацька ў футбол любіў гуляць, мячык да самай ночы ганяў. Як і я...»

Яму раптам захацелася, да шчымлівага болю ў скронях захацелася, каб усё аказалася няпраўдай: ягонае сіроцтва, бацькавы ўцёкі, чужая бацькава сям'я. Каб выйшаў з кухні бацька разам з Матруннічам і весела сказаў: «Ну, як мы абвялі цябе вакол пальца, Сцяпук? А ты, дурань, і паверыў? Хіба мог я цябе кінуць, свайго адзінага сына?»

«І мы,— падумаў Сцяпан Памалейка,— кінулі б Матруніча і паехалі б з бацькам на мінскі стадыён «Дынама». Церусіў бы дожджык, а мы б сядзелі, накрыўшыся адной газетай, і «балелі» за нашых футбалістаў, за Пракапенку і Гурыновіча. А потым, пасля матча, купілі б у гастраноме бутэльку чырвонага віна і выпілі б дзенебудзь над Свіслаччу. Выпілі б проста з рыльца. І я выпіў бы, плюнуўшы на свой сухі закон».

З кухні даносіліся тым часам ужо новыя галасы — відаць, да Матруніча яшчэ нехта прыйшоў. Сцяпан прыслухаўся.

— Загналі свайго «жыгулька» ў гараж і думаем: трэба ж гэта дзела адзначыць. А куды заедзеш? Да Колькі Матруніча,— кажу я,— гаварыў вясёлы ўзбуджаны голас.

— А якое дзела трэба адзначыць? — не зразумеў, пацікавіўся Матруніч.

— Ды я свае «Жыгулі» адрамантаваў. Вясною ж, памятаеш, на Маскоўскай шашы з «МАЗам» пацалаваўся. А вы якую прычыну для выпіўкі знайшлі?

— Якую прычыну знайшлі для выпіўкі? — засмяяўся Іван Памалейкін,— Дзень харошы, вось і прычына,

«Значыць, у яго сёння — харошы дзень,— падумалася Сцяпану,— Дзіва што — столькі гадоў не бачыў любімага сына. Сын жыў за морам, жыў у Аўстраліі, а да Аўстраліі рэдка хадзілі параходы».

Ён зразумеў: ніколі яны разам з бацькам не пойдуць на стадыён і не пасядзяць, накрыўшыся адной газетай, і не будуць «балець» за Гурыновіча і Пракапенку. Ён зразумеў гэта з халодным сумам і адначасна з нейкай палёгкай.

Калі ён увайшоў на кухню, там зноў «ішла па кругу чаша». Двое новых гасцей, абсалютна лысы жвавы мужчына гадоў пад пяцьдзесят і хударлявы вастраносы юнак з каштанавымі кучаравымі валасамі, ужо злёгку пачырванелі ад выпітага, душы іхнія, размякчаныя і разагрэтыя гарэлкай, ужо былі, як кажуць, між небам і зямлёю. Яны сустрэлі Сцяпана прыязнымі лагоднымі позіркамі.

— Сцяпук,— радасна закрычаў Іван Памалейкін, нібы не бачыў сына тысячу гадоў,— Сцяпук, сядай за стол. Мой сын,— з гордасцю растлумачыў ён абсалютна лысаму мужчыну.

Той заўсміхаўся, устаў з-за стала, пацiснуў Сцяпану далонь сваёй надзіва шурпатай моцнай рукою. Каштанавалосы юнак курыў. Ён таксама прыўстаў, таксама хацеў паздароўкацца са Сцяпанам за руку, але ў руцэ была цыгарэта, і ён махнуў рукою і толькі пакланіўся Сцяпану. Попел, як чорны снег, зляцеў з цыгарэты.

— Э, не пойдзе так! — заўважыў прамашку каштанававалосага Матруніч,— Там жа стаіць попельніца, а ты пад ногі страсаеш попел. Ніна Іванаўна, як убачыць, жыўцом з мяне скуру злупіць.

Ён устаў, схадзіў у кладоўку, прынёс адтуль швабру, наматаў на швабру мокрую анучу і ярасна пачаў церці тое месца, куды ўпаў попел.

— Халасцякую я,— тлумачыў ён усім, налягаючы на швабру,— Ніну Іванаўну ў Ждановічы адправіў. Павінна праз тыдзень прыляцець птушачка. Звоніць адтуль кожны вечар, цікавіцца, як я тут адзін без яе бядую. Трымае тэлефонную трубку — і ажно тут чую, як сапе носам, нібы хоча ў Ждановічах пачуць, ці не смярдзіць ад мяне гарэлкай.

Ён засмяяўся, і разам з ім засмяяліся ўсе, апрача Сцяпана і каштанававалосага хлопца, які, пэўна, пакрыўдзіўся на Матруніча. Зноў усчалася гаворка, пачатак якой Сцяпан не чуў.

— Галоўнае цяпер багацце — нафта,— казаў абсалютна лысы мужчына, і Матруніч з Іванам Памалейкіным згодна ківалі галовамі.— Чаму Амерыка так не хоча выбірацца з Блізкага Усходу, трымаецца за Ізраіль? Таму што там, на Блізкім Усходзе,— нафта. Там — Саудаўская Аравія. Бедуіны стагоддзі жылі ў сваіх пясчаных пустынях,

параджаліся і паміралі ў барханах і не ведалі, што пад імі на глыбіні ў некалькі сот метраў знаходзяцца запасы нафты, багацце, якое ім і не снілася. Чаму аятала Хамейні вытурыў шаха з Ірана? Усё з-за нафты.

— Шах паляцеў не толькі з-за нафты,— сказаў Матруніч.

— Ведаю,— перапыніў яго абсалютна лысы мужчына.— Супроць шаха ўзняўся ўвесь народ: і студэнты, і рабочыя, і мусульманскае духавенства, і нацыянальная буржуазія. Усе! Усім ён папярок горла стаў. Але нафта, паліўны крызіс і тут сваё слова сказалі.

— Ён верна гаворыць,— падтрымаў абсалютна лысага мужчыну Іван Памалейкін.— Без нафты, без гэтай божай вадзіцы, уся наша сучасная цывілізацыя — пшык! — і забуксуе, і спыніцца на роўным месцы. І яе, як цыганову кабылу, пугай не дагоніш.

— Цяпер жа шукаюць новыя віды энергіі,— не здаваўся Матруніч.

Заўсёды што-небудзь шукаюць,— чамусьці раззлаваўся Іван Памалейкін.— Нафту трэба шукаць. Нафту!

Ён паглядзеў на Матруніча, нібы той быў міністрам нафтавай і газавай прамысловасці.

— Шукаюць і знаходзяць,— міралюбна сказаў абсалютна лысы мужчына.— І наш ручаёк цячэ.

— Які ручаёк? — не зразумеў Іван Памалейкін.

— Наша беларуская нафта з-пад Рэчыцы.

— Нічога сабе ручаёк! А крычалі: беларуская зямля бясплодная, бедная, адзін торф балотны. А глядзіце, што ў гэтай зямлі ёсць: і нафта, і соль, і вугаль, і гаручыя сланцы.

— І жалезная руда каля Карэліч ёсць,— хуценька падтрымаў Івана Памалейкіна Матруніч,— Толькі залягае глыбакавата,

— Во-во... І жалезная руда ёсць,— паглядзеў на Матруніча Іван Памалейкін,— Нічога, што ляжыць глыбока. Абы ляжала. Калі трэба будзе, як з дна куфэрка, дастанем.

Сцяпан не ўдзельнічаў у размове. Наогул пагаварыць ён любіў, не губляўся ў любой кампаніі, але цярпець не мог, калі пра высокія матэрыі пачыналі глыбакадумна разважаць п'яныя людзі. Ёсць медыцынскі тэрмін — «нетрыманне мовы». Дык вось п'яныя могуць служыць ілюстрацыяй такога выпадку.

Праз колькі часу, як звычайна бывае, калі за чаркай збіраюцца не кантралюемыя жонкамі мужчыны, высветлілася, што не грэх узяць яшчэ б адну бутэльку гарэлкі, ды, як таксама звычайна бывае, не было болей грошай.

— У суседа перахаплю да палучкі,— сказаў Матруніч,— Жыве са мной на адной лесвічнай пляцоўцы Светазар Аляксандравіч Ізюмчык.

Найцікавейшая асоба! Заўважце, імя якое — Светазар. Не кожныя бацькі асмеляцца і дадумацца даць свайму дзіцяці такое высокае імя. Пуп зямлі, дый годзе.

Ён пайшоў да Ізюмчыка, ды неўзабаве вярнуўся, раздражнёны і злосны. «Не ўдалося раскавеліць Светазара»,— з сумам падумала ўсё застолле.

— Не даў,— махнуў рукою Матруніч,— Ну й тып, я вам павінен сказаць. Па-мойму, ён трохі чокнуты. Звіхнуўся на сваім здароўі. Хоча доўга жыць. Кожны дзень у яго прабежкі, зарадка. Не курыць, не п'е, праз кожныя тры дні ўзважваецца ў лазні. Не ўжывае яечкі, цукар, аладкі, свіное сала. Ведаеце, які ў яго самы любімы часопіс? «Здоровье». Вычытае там пра якую хваробу, і ўжо сам захварэў ёю.

— Ёсць у нас такі арыгінал,— весела падтрымаў Матруніча Іван Памалейкін,— У яго ўсё па мінутах разлічана. Паўгадзіны твар крэмам націрае пасля зарадкі. Неяк у маёй Любачкі тэмпература ўзнялася, а Дар'я якраз на дзяжурстве была. Трэба мне было ў аптэку збегаць, а Людачку няма з кім пакінуць. Я — да яго. А ён мне, паглядзеўшы на гадзіннік: «Рад бы памагчы, ды ў мяне праз тры хвіліны прабежка ў лесе». Во сволач. Спартсмен. Жыць доўга хоча.

Памалейкін грэбліва ўсміхнуўся.

Абсалютна лысы мужчына быў настроены на філасофскі лад.

— Кожны з нас, людзей, павінен хацець доўга жыць,— зазначыў ён,— Падумайце: секвоя жыве пяць тысяч гадоў, груган, той, што падлу клюе, трыста, а чалавек, цар прыроды, усяго пяцьдзесят або семдзесят. Мала для цара.

— Дык не так жа жыць. Не так,— рэзка перапыніў яго Матруніч,— Не так, як гэты Светазар. Кожны дзень калаціцца, баяцца кашлянуць, баяцца на поўныя грудзі дыхаць, бо ў паветры могуць быць мікробы. Цьфу! Хіба гэта жыццё?

— А вы чыталі раман Бяляева пра прафесара Доўэля? — не здаваўся абсалютна лысы мужчына,— Пра галаву прафесара Доўэля? Там гэта галава адна жыла, без тулава. Вучоныя да яе дзесяткі трубачак падключылі, кісларод, ну й яна... гэта, вядома, навуковая фантазія — жыла. І, уявіце сабе, жыць хацела. Нават так, абы жыць. Дыхаць, слухаць, глядзець, думаць...

— Ну й жыві так, як гэта галава,— канчаткова раззлаваўся Матруніч,— А мы вып'ем. Грошай у мяне, праўда, няма. Але ёсць пуды тры парожніх бутэлек. Даўно здаць збіраўся, ды не выпадала.

Ён выцягнуў з кладоўкі два вялізныя рэчмяшкі, з верхам напакаваныя бутэлькамі з-пад кефіру і віна.

— Хлопцы,— павярнуўся ён да Сцяпана і каштанававалосага юнака.— Вы маладзейшыя. Збегайце на прыёмны пункт, здайце. Не прападаць жа дабру. А да прыёмнага пункта сто метраў. Там чаргі сёння не будзе.

Але ні Сцяпан, ні каштанававалосы юнак не згадзіліся. Сцяпан жа наогул узяў сваю спартыўную сумку, развітаўся і пайшоў з кватэры. Нішто болей не трымала яго тут. Ужо на вуліцы дагнаў яго Матруніч, сказаў: «Пачакай, брат...» Сам сеў на лавачку, дастаў папяросу, закурыў, пстрыкнуўшы прыгожай запальнічкай у форме жаночага боціка.

— Што думаеш рабіць далей? — паглядзеў ён на Сцяпана.— Якая ў цябе спецыяльнасць?

— Я на акардэоне ў Барысаве іграў,— прысеў побач з Матрунічам Сцяпан.

— І ўсё?

— Пакуль усё.

— Малавата для такога горада, як Мінск,— усміхнуўся Матруніч,— Тут сваіх музыкаў — хоць гарод гарадзі. Ну, а што ты ўсё-такі ўмееш рабіць? Слясарнічаеш, такарнічаеш, аўтамашыну водзіш?

— Усяго патрошку... І нічога,— замяўся Сцяпан,— А калі чэсна, дык нічога пакуль што не ўмею...

— Во-во... Ты, брат, як я,— чамусьці павесялеў Матруніч,— А мужчына ўсё павінен умець: жалеза каваць, жонку цалаваць. Хоць цалаваць жонак мы трохі навучыліся. І куды ж ты думаеш усё-такі пайсці на работу?

— А мне ўсё роўна,— сказаў Сцяпан,— Магу на будоўлю пайсці. Яшчэ куды... Работы я не баюся.

— Гэта добра, што работы не баішся. А калі так, то работа знойдзецца. А то ў наш час большасць маладых дужа пераборлівымі сталі. Кончаць дзесяць класаў з пня на калоду і адразу ж у міністры цэляць. А некаму ж трэба хлеб пячы вуліцы прыбіраць, бялізну мыць, дрэвы саджаць. Чыстаплюйчыкаў шмат расце. Такіх, што, барані бог, баяцца ўбачыць на сваёй белай далоньцы мазоль. Я таксама, мушу табе прызнацца, Сцёпа, праз такое прайшоў. Сам я вясковы, сялянскі. Вясковую школу скончыў. У дзесяты клас, як сёння памятаю, у бацькавым кажусе хадзіў. Вялізны кажух, доўгі, два такіх, як я, з галавой у ім маглі схавацца. Сорамна было, асабліва перад дзяўчатамі. А што зробіш? Пачатак пяцідзесятых гадоў... Яшчэ Мінск у руінах ляжаў... А ў калгасах на працадні, на «палачкі», як мы іх называлі, толькі «дзякуй» маглі даць. Маці плакала, упрошвала: «Глядзі, сынок, добра вучыся. А то пастухом будзеш». Яна мяне пастухом, як

якой-небудзь катаргай, палохала. Усё казала: «У горадзе добра. Прыйшоў з фабрыкі, купіў бутэльку салодкай вады (яна салодкай вадой ліманад называла), купіў белую булку, і ты ўжо сыты. А ў вёсцы прападзеш».

Матруніч скупа ўсміхнуўся.

— Так я ў горадзе апынуўся. Спачатку цяжка было, ой цяжка. І вучыўся, і на чыгунку ноччу хадзіў вагоны разгружаць, каб нейкі рубель зарабіць. Так, бывала, натомішся, што едзеш у трамваі і спіш. Дык, кажаш, работы не баішся?

— Не баюся.

— Добра. Мы — бачыш, як аператыўна працуем! — гаварылі з бацькам тваім пра цябе. Памагчы ён табе хоча. Бацька ўсё-такі, хоць і былы... Пойдзеш пакуль што ў прадуктовы магазін.

— Кім? — не зразумеў Сцяпан,— Гандляваць я не ўмею.

— Ды не прадаўцом,— засмяяўся Матруніч,— Рабочым, грузчыкам. А потым відаць будзе, куды падавацца Я сам, перад міністэрствам, загадчыкам магазіна працаваў, так што ў мяне ў гэтай сістэме добрыя знаёмыя засталіся. Можаш прама адтуль дакументы ў істытут народнай гаспадаркі падаваць. Цяпер у гэты інстытут, як у які-небудзь тэатральны,— конкурс вялікі. Дык пойдзеш?

— Пайду,— згадзіўся Сцяпан.

— Малайчына. Мы з тваім бацькам і аб прапісцы гаварылі. Гэта праблема нумар адзін — прапісацца ў такім горадзе, як Мінск. Але мы паможам. У інтэрнат уладкуем. І тут твой бацька пастараецца.

— Не гаварыце мне пра яго. Не трэба,— папрасіў раптам Сцяпан.

— Не буду. Хоць ён, праўда, хоча табе памагчы. Віну сваю загладжвае, ці што... А так ён добры — Іванавіч. Як сусед добры. Заўсёды ў нас з ім мір і згода. І з Дар'яй Антонаўнай, жонкай сваёй, нармальна жыве. І дзяцей глядзіць.

— Гадзюкі мяняюць скуру, ды не мяняюць натуру,— са злосцю сказаў Сцяпан.

— Ну, ты гэта кінь, кінь, Сцёпа,— горача запярэчыў Мікалай Савельевіч.— Такое слова знайшоў. Кінь. Якая ж ён гадзюка? Нармальны чалавек... На рабоце ў яго парадак... А што цябе кінуў з маткай тваёй... Па маладосці, відаць, кінуў, па дурасці маладой.

— Кінуў,— рэзка ўстаў, паблязнеў Сцяпан.— Што я, рэч, што мяне можна кідаць? А вы ведаеце, як жывуць такія кінутыя, як цяжка ім жыць? Пры жывым бацьку быць сіратой. Вы ведаеце?

— Супакойся, Сцёпа,— таксама ўстаўшы, ціха сказаў Матруніч.— Нічога ж ужо не зменіш.

— Я б такіх бацькоў у жалезнай клетцы па цэнтральнай вуліцы горада правёз. І кожнаму б шыльду па грудзі начапіў: «Ён кінуў сваё дзіця. Глядзіце, людзі,— гэты чалавек, гэты былы чалавек, экс-чалавек, кінуў свайго сына, сваю дачку. Плюньце яму ў вочы».

У Сцяпану Памалейку зноў прачнуўся, на поўны голас закрычаў хлопчык-бумеранг. Зноў запатрабаваў ён справядлівасці. Але раптам успомніўся Сцяпану Лёнік — кучаравыя льняныя валосікі, чырвоныя са сну шчокі, вочы ручкай трэ, пытаецца: «А чаму ў коціка чатыры ножкі, а ў пеўніка дзве?» Людзіны словы ўспомніліся: «Ты такі самы, як твой бацька. Спадчынныя гены ў цябе такія. Той цябе зусім маленькага кінуў, збег ад сям'і, і ты хочаш тое самае зрабіць, Лёніка кінуць».

Адразу стала пуста на душы. Няўжо ён таксама пойдзе па бацькавых слядах? І Лёнік, як некалі вырасце, будзе праклінаць яго, Сцяпана Памалейку? Відаць, не дужа далёка быў ад ісціны той чалавек, што сказаў калісьці: «Жыццё адно, і тое чарвівае». Але да д'ябла песімізм! Не хныкаць, не размагнічвацца! Мужчына без характару — як хлеб без солі.

— Ты пастарайся зразумець яго,— разважаў тым часам Матруніч, — Усякае ж здаралася і здараецца. Каб ведаў, дзе ўпадзеш...

Але Сцяпан перапыніў яго:

— Прабачце, Мікалай Савельевіч, калі я магу зайсці да вас наконт работы?

— Заўтра сазвонімся. Запішы мой службовы тэлефон. А дзе ты будзеш сёння начаваць? Можаш у мяне легчы, калі ў бацькі не хочаш. Я ж адзін, вольны казак. Жонка ў Трускаўцы, дачка ў вёсцы. Заставайся.

— Дзякую. Не буду вам надакучваць. У мяне тут адзін знаёмы барысаўскі хлопец ёсць. Студэнт. У інтэрнаце на Паркавай магістралі жыве. Да яго пайду.

— Ну, глядзі. А калі не знойдзеш свайго хлопца, вяртайся да мяне. Весялей нам будзе ўдвух. Пугачову паслухаем.

— Дзякую. Можа і вярнуся.

— І з бацькам не хочаш развітацца? — запытальна глянуў на Сцяпана Матруніч.

— Не хачу.

— Ну, глядзі. Але спачатку давай сходзім да гастранома. Мне ж трэба пляшку гарэлкі ўзяць, хлопцы чакаюць. Грошай я ў ліфцёркі пазычыў.

Яны пайшлі да гастранома, Матруніч стаў у чаргу, а Сцяпан прыпыніўся каля магазіна гародніны, глядзеў, як купляюць людзі

капусту. Качаны былі рыпучыя, свежыя, цяжкія. Яны напаміналі аб халодным полі, аб першым снезе. Маладая прадаўшчыца, у светла-зялёным халаце, з жоўтымі празрыстымі пальчаткамі на руках, узважвала качаны, хімічным алоўкам пісала іхнюю цану на ярка-белым зрэзе храпак. Убачыла, што Сцяпан глядзіць на яе праз шыбу, усміхнулася.

— Заўтра пазвані,— сказаў Матруніч, засоўваючы ў кішэнь плашча бутэльку.

— Абавязкова пазваню, Мікалай Савельевіч. Дзякуй вам,— пацiснуў яму руку Сцяпан.

Восеньскае сонца тлела над горадам. Вуліцы і двары былі запоўнены халаднаватымі жоўтымі промнямі. Хлапчукі гулялі ў футбол, бегалі па вытаптаным, плямістым газоне, білі цвёрды мокры мячык. Насустрач Сцяпану па няроўнай вымашчанай белымі патрэсканымі плітамі пешаходнай дарожцы асцярожна ішла маладая цяжарная жанчына. Твар яе свяціўся чаканнем.

Высока-высока над Сцяпанам, над хлапчукамі і цяжарнай жанчынай, над восеньскім горадам праляцеў самалёт — маленькая прыгожая рыбка праплыла ў блакіце неба. Рытмічна ўспыхваў сігнальны ліхтар, здавалася, нервова трапеча чырвонае стомленае сэрца самалёта.

Сцяпан вырашыў дабірацца да Паркавай магістралі пешшу. Калі б ён ведаў, што гэта дужа ладны кавалак дарогі — кіламетраў пад сем,— ён сеў бы на тралейбус ці аўтобус. Але разышоўся, разагрэўся, заглядзеўся на горад, і незаўважнымі зрабіліся доўгія кіламетры.

Ён ішоў па Ленінскім праспекце, з самага яго пачатку, адтуль, дзе па ўсходзе ўліваецца ў горад шумная Маскоўская шаша. Ён быў карэнны гараджанін, дзіця асфальту, ужо ягоная маці была гараджанкай, і таму горад не стамляў яго, не ціснуў на яго сваім тлумам і веліччу. Ён прывык дыхаць гэтым паветрам, жыць у гэтым рытме. Вучоныя ведаюць, што ў людзей ёсць свае біярытмы жыцця, што людзі, у пераважнай большасці сваёй, дзеляцца на «соў» і на «жаўранкаў». «Совы» больш актыўныя ноччу, «жаўранкі» — днём. Але людзі, па сваім унутраным рытме, дзеляцца яшчэ на гараджан і на вяскоўцаў. Чаму сумуе былы вясковы дзядок на дзевятым паверсе сучаснага дома, у сучаснай гарадской кватэры, дзе ёсць усё — гарачая і халодная вада, электрычнасць, паркет, газавая пліта? Таму што яго душа жыве і да скону будзе жыць у вясковым рытме. Ёй, дзедавай душы, патрэбен, акрамя ўсіх гэтых гарадскіх зручнасцей, крык пеўня, палёт бусла, цвыркат коніка ў зялёнай траве.

Мінск разгортваўся перад Сцяпанам Памалейкам як цудоўная непрачытаная кніга з выдатнымі гравюрамі на чыстых белых старонках. Кожны новы дом, кожная новая вуліца былі новай гравюрай, якую выканаў геніяльны мастак, узяўшы ў памочнікі камень, жалеза, шкло і сонечныя промні.

Сцяпан быў гараджанінам, але гараджанінам з невялікага горада, і на яго Мінск, мільённы, шумны сталічны горад, рабіў вялікае ўражанне. Так, пэўна, адчуваюць сябе людзі, якія трапляюць з берага спакойнага ляснога возера на скалісты марскі бераг.

Мінск будаваў метро, цэнтральныя вуліцы былі перакопаны, перагароджаны высокімі шчыльнымі платамі, пафарбаванымі ў сіні і зялёны колер, з магічнай літарай «М» на кожным пралёце. Парушыліся прывычныя транспартныя маршруты, аўтобусы і тралейбусы ішлі ў абход. Удзень і ўначы нястомна грукаў гіганцкі паравы молат, забіваў у зямлю металічныя палі. У суседніх дамах калаціліся шыбы. Людзі са слабымі нервамі затыкалі вушы, а Сцяпан Памалейка ўсміхаўся, дыхаў на поўныя грудзі, прагна слухаў жалезную музыку будоўлі. З-пад молата вырывалася вогненная пара, перамешаная з іскрамі. Яму здавалася, што гэтак вось шумна і людна павінна быць у марскім порце, і там такое самае паветра — гарача-дымнае, пругкае. Усё далей паглыбляўся ён у горад, і ўсё болей расло ў душы захапленне, узбуджэнне, адчуванне далучанасці да гэтага вялізнага горада, які, як акіян, не сціхае ні днём ні ноччу.

Рабочыя ў яркіх аранжавых куртках цягнулі кабель у адчынены люк падземнага калодзежа. Адзін, малады, чарнавусы, стаяў, трымаў у руцэ чырвоны сцяжок. З кафэ выбеглі дзве смяшлівыя кірпаносыя дзяўчыны, у белых акуратных халаціках, са швабрамі і з вядром гарачай вады, пачалі мыць акно. Акно было вялізнае, зіхатлівае, а дзяўчаты маленькія. Ручаі вады, як гнуткія бліскучыя карані дзівосных раслін, перакрыжоўвалі шкло.

У французскіх раманістаў Сцяпан Памалейка чытаў пра маладых адважных людзей, якія прыязджалі з правінцыі, без грошай, без сувязей, каб скарыць Парыж. У яго было ў гэтыя хвіліны падобнае адчуванне — ён павінен быў зрабіць сваім шумнагалосы горад. Горад можа быць Вавілонам, а можа быць Меккай — усё залежыць ад таго, што хоча ўбачыць і ўзяць у гэтым горадзе чалавек.

Сцяпан звярнуў у парк Чалюскінцаў, пайшоў паралельна праспекту. Парк, а дакладней, лесапарк заклалі яшчэ да вайны, у той час, калі па ўсёй краіне грымела слава адважных чэлюскінцаў, людзей, што не спалохаліся палярных ільдоў і палярнай ночы.

У парку было многа пенсіянераў і многа рухавых цёмна-рыжых вавёрачак. Яны мірна суседнічалі. Пенсіянеры, ужо апранутыя цёпла, па-восеньскаму, купкамі сядзелі на лавачках, чыталі газеты, нешта ўзбуджана абмяркоўвалі, гулялі ў карты, мужчыны з жанчынамі, што здзівіла Сцяпана. Вавёрачкі снавалі па старых соснах, якія густа раслі ўздоўж асфальтоўкі, адважна перабягалі асфальт пад самымі нагамі ў пешаходаў. На дрэвах былі прымацаваны спецыяльныя кармушкі для вавёрак. На адным дрэве Сцяпан прачытаў аб'яву, якая была напісана чырвоным чарнілам на белым аркушы паперы, вырваным са школьнага сшытка: «Грамадзяне, просьба не даваць вавёркам цукерак. Ад цукерак вавёркі слепнуць». Аказваецца, і ў гэтых мілых, як бы бесклапотных звяркоў ёсць свае хваробы, свае трагедыі.

Ужо зачынялі на зіму паркавыя атракцыёны. Толькі некалькі парачак з віскатам і смехам каталіся на «Халі-галі», вялізным, упрыгожаным рознакаляровымі электрычнымі лямпачкамі, коле. Гэта кола, напамінаючы формай тоўстую талерку, хутка-хутка круцілася вакол сваёй восі і раз-пораз амаль вертыкальна ўставала над зямлёй.

Мінуўшы парк, Сцяпан зноў выйшаў на праспект, дзе востры пах выхлапных газаў змяшаўся з пахам свежаўскапанай зямлі. Тут, як і ўсюды, уладарнічалі метрабудаўскі. Сцяпан не ўтрымаўся, глянуў у адну з траншэй. Чакаў, што зямля па глыбіні дзесяці з нечым метраў будзе цёмная, цяжкая, старадаўняя, а з дна траншэі ярка бліснуў беленькі мяккі пясок. З такога вясёлага пяску дзеці любяць ляпіць свае «крэпасці» і «палацы».

Праз нейкія паўгадзіны Сцяпан ужо быў на плошчы Якуба Коласа, падышоў да помніка пісьменніку. Людскія плыні тут, на плошчы, сустракаліся, перапляталіся, разбіваліся адна аб адну, а бронзавы Якуб Колас сядзеў над гэтай мітуснёй і тлумнасцю, і твар у яго быў засяроджаны і строгі. Пра што ён думаў, сын ціхагаляснога засценка? Магчыма, пра свайго дзядзьку ў Вільні. Сцяпан пайшоў далей, а яму ўсё ўспамінаўся цёмны высакародны твар.

На плошчы Перамогі, дзе стаіць помнік савецкім салдатамі партызанам, дзе на граніце ў снег і ў дождж цвіце чырвоная кветка Вечнага агню, Сцяпан убачыў некалькі пар маладажонаў. Якраз была пятніца, дзень, калі ў мінскіх загсах заключаецца найбольшая колькасць шлюбных саюзаў. Нявесты, у белых прыгожых сукенках, жаніхі, падцягнутыя, элегантныя, ішлі праз плошчу да Вечнага агню, колькі хвілін моўчкі стаялі каля шумлівага полымя. Усё было добра і правільна задумана — маўчанне ў гэтым святым, палітым крывёй месцы павінна было змацаваць саюз маладых сэрцаў Толькі раздражняла мітуслівасць фатографаў. Усё было добра і правільна заду-

мана, але Сцяпану ўспомніліся бацькавы словы «на кожныя тры пары маладажонаў прыпадае адна пара разведзеных». На кожныя тры — адна...

У кіёску на плошчы ён купіў турысцкую карту-схему горада. Ён надумаў, як толькі ўладкуецца на работу і надарыцца вольны час, абавязкова абысці ўвесь горад. Не аб — ехаць, а менавіта абысці, сваімі ўласнымі нагамі пабываць на кожнай вуліцы. Гэта зойме нямала часу, але не трэба шкадаваць час. Ёсць жа людзі, і ён ніколі не разумеў іх, якія, пражыўшы ўсё жыццё ў горадзе, не ведаюць гэты горад Для іх існуюць толькі свой дом, свая вуліца, свой магазін школа, дзіцячыя яслі. Усе астатнія вуліцы для іх толькі дарога на работу ці на футбол. Асноўная ж частка горада, што ляжыць за межамі іхняга мікрасвету,— зямля невядомая.

Нарэшце Сцяпан выйшаў па Паркавую магістраль, накіраваўся ў бок Палаца спорту. Ішоў ужо цішэй, павольней, бо, чэсна прызнацца, здорава запарыўся.

Быў самы поўдзень. Ва ўстановах і на прадпрыемствах пачынаўся абед, і народ расцякаўся па навакольных сталоўках і рэстаранах. Дзяўчаты і маладыя жанчыны ішлі, толькі накінуўшы на плечы паліто і плашчы, не зашпіліўшы іх, весела шчабяталі між сабой. Было нешта хатняе, неслужбовае ў гэтай іхняй незашпіленасці.

Вось і мэта Сцяпанавага падарожжа — інтэрнат, вялізная будыніна з белай, пацямнелай ад гарадскога пылу і дажджоў цэглы Нават чалавек з самай небагатай фантазіяй адразу здагадаецца, што гэта інтэрнат, свяшчэнны прытулак вясёлай студэнцкай моладзі, яе родная гавань і яе касмадром. Варта толькі ўзняць галаву і глянуць на вокны. Амаль у кожным акне — клуначак, любоўна напакаваны клапатлівымі рукамі вясковых мацярок з усёй Беларусі, з Піншчыны і Магілёўшчыны, з Віцебшчыны і Навагрудчыны. Студэнтам, як вядома, у першую чаргу патрэбен духоўны харч, дзеля гэтага і сабраліся яны тут, але і не зашкодзіць добрая луста сала.

Паміж вышынных са шкла і бетону дамоў інтэрнат адчувае сябе як бедны родзіч. Ужо даўно прыглядаюцца да яго архітэктары і будаўнікі — думаюць, ці зламаць яго, ці «загрыміраваць» пад сучасны будынак. А пакуль яны прыглядаюцца і думаюць, інтэрнат жыве шумным вясёлым жыццём, як і трэба жыць дому, у якога самаму старэйшаму жыхару няпоўных дваццаць пяць гадоў.

Сцяпана перапыніла дзяжурная, вастраносенькая, падобная на мышку, студэнтка, якая, з чырвонай павязкаю на рукаве, сядзела на старой цыратавай канапе і чытала кніжку. Кніжка была вельмі цікавая, бо час ад часу студэнтка папісквала ад задавальнення і стукала

правай рукою па сваіх вострых, худых каленях. Убачыўшы Памалейку, яна трошкі разгубілася, паклала на стол кніжку, запытала:

— Вы куды, таварыш?

— Мне патрэбен Леанід Старадзетка, другакурснік.

— З якога пакоя?

— Здаецца, з сорак трэцяга.

— З якога факультэта?

— З матэматычнага.

Тут дзяжурная спыніла допыт і сказала:

— Матэматыкаў няма. Іх усіх на бульбу павезлі.

— Мо хіба на капусту? Бульбу ўжо выкапалі.

У яе былі надзіва блакітныя маленькія вочы. Здавалася, дзве кропелькі вясновага неба зіхцелі, іскрыліся між цёмных доўгіх веек. Яна зноў разгарнула сваю кнігу, зноў яе бледныя шчокі пачала заліваць ружовасць, а Сцяпан стаяў, як укапаны, і не ведаў, што рабіць. Вось дык гісторыя! Старадзеткі няма. Уся надзея была на Лёню Старадзетку, а яго няма, капусту ссякае ў калгасе.

Ён, пэўна, павярнуўся б і пайшоў з інтэрната, каб не падаспела другая дзяжурная, смуглявая, чорнавалосая дзяўчына, якая чымсьці нагадвала Люду.

— Не ўсіх жа матэматыкаў адправілі на капусту,— сказала смугляўка.

— Дык можа і Старадзетку не адправілі? — услых падумаў Сцяпан.

— Вы ведаеце, у якім пакоі ён жыве — схадзіце ў гэты пакой і паглядзіце, ці там ваш... дзетка,— прапанавала смугляўка.

Яна надзвычай проста вырашыла праблему.

— Дзякуй, міс,— цырымонна пакланіўся ёй Сцяпан, махнуўшы кепкай і адставіўшы нагу так, як рабілі гэта прыдворныя англійскіх каралёў. Гэты тэатральны жэст развесяліў дзяўчат. Вастраносенькая адклала ўбок сваю кнігу і засмяялася.

Сцяпан лёгка ўзбег на другі паверх, але сорак трэцяга пакоя там не было. Давялося шукаць на трэцім паверсе. Нарэшце ён знайшоў Старадзеткаў пакой, пастукаў у тоўстыя, запырсканыя фіялетавым чарнілам дзверы. Чарнільныя плямы нагадвалі сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. Ніхто не азваўся ў пакоі. Тады Сцяпан, засмучаны, ціхенька таухнуу рукой дзверы, ужо збіраючыся, як кажуць, сушыць вёслы, ісці шукаць прыстанішча на вакзале, як раптам — о цуд! — дзверы расчыніліся, і ён убачыў Лёню Старадзетку. Старадзетка соладка спаў па сваім ложку, спаў, нават не распрануўшыся. Такім здаровым сном спалі некалі запарожцы.

Вам даводзілася калі-небудзь у чужых краях, у людскім мітуслівым мурашніку, за тысячу вёрст ад дому сустракаць знячэўку знаёмага чалавека, родную душу? Толькі што ішлі вы па халодным бруку, неба над горадам было няутульна-змрочнае, і раптам — знаёмы чалавек. Калі б вы яшчэ са школьнай парты не ведалі, што бога няма, вы падумалі б, напэўна, што вам паслаў яго бог. Так думаў і Сцяпан, калі стаяў над ложкам, на якім, шырока раскінуўшы рукі, спаў ягоны былы аднакласнік.

— Лявон, уставай,—пацягнуў нарэшце Сцяпан Старадзетку за рукаў. Той адразу прачнуўся, нібы чакаў гэтых слоў. Сеў на ложку, ускудлаціў чарнявую чупрыну, працёр вочы і сказаў:

— А-а, Сцяпук... Ці няма ў цябе, братка, чаго з'есці.

Быццам Сцяпан быў вагон-рэстаран, які спецыяльна прыехаў у гэты пакой, каб накарміць яго, Леаніда Старадзетку.

— З'есці нічога няма, але ёсць грошы. Можам схадзіць у сталоўку. Ты што, так згаладаўся? — пацiснуў Сцяпан Старадзетку руку.

— Ды нічога з учарашняга не еў,— весела прызнаўся Старадзетка.

Ён яшчэ ў школе вылучаўся вясёлым, роўным характарам, і за гэта яго паважалі і настаўнікі, і вучні.

— Вашы ж на капусце...— прысеў на краёк ложка Сцяпан.

— І я там, Сцяпук,— сказаў Старадзетка, прычэсваючыся — Ты бачыш перад сабой толькі маю абалонку, брэнную плоць, а душа мая там — на шырокіх палетках Лагойшчыны.

Ён махнуў рукою ў бок акна і засмяяўся. І Сцяпан засмяяўся разам з ім. Яму было прыемна ўбачыць школьнага таварыша, з якім калісьці гуляў у футбольнай юначай камандзе горада.

— Дык ты, значыцца, уцёк з гэтых шырокіх калгасных палеткаў? — хітравата пацікавіўся Сцяпан.

— Не пудры мне мазгі, Сцяпук,— стукнуў яго па плячы Старадзетка. Гэта быў ягоны любімы крылаты выраз: не пудры мне мазгі.— Як ты толькі мог падумаць, што я, Леанід Старадзетка, магу кінуць сваіх таварышаў? Я не ўцёк, не. Я паехаў з дазволу кіраўніцтва. Калі хочаш ведаць, у мяне на полі здарыўся прыступ апендыцыту, у мяне быў «востры жывот», як кажуць медыкі. І мяне на руках, падкрэсліваю, на руках,— ён шматзначна ўзняў угору ўказальны палец,— занеслі ў машыну і прамым курсам даставілі ў сталіцу Беларусі.

— А апендыцыту, канечне ж, у цябе не было,— здагадаўся Сцяпан.

— Абсалютна. Які можа быць у студэнта апендыцыт? Захацелася пабачыць адну цудоўную дзяўчыну, ну я і ўспомніў пра свае акцёр-

скія здольнасці. Я ж некалі не на матфак хацеў паступаць, а ў тэатральны. Дык пойдзем у сталоўку?

— Пайшлі.

Праз некалькі мінут яны сядзелі за столікам у кафэ, прычым Старадзетка запрасіў з сабою светлавалосую, расфарбаваную дзяўчыну, якая назвалася Марынаю, і шапнуў Сцяпану, каб той заказаў бутэльку віна. Кафэ не ўваходзіла ў Сцяпанавы планы, не дужа многа было ў яго грошай, але ж не будзеш прызнавацца ў гэтым дзяўчыне. «Ну і жук,— падумаў ён пра Старадзетку,— крычаў, што галодны, а тут падавай яму віно, далікатэсы». Але, як бы там ні было, на століку з'явілася бутэлька віна, і пачалося звычнае — угаворванне Сцяпана, каб выпіў хоць кроплю.

— Не п'ю,— рашуча сказаў Памалейка.

— А вы не такі, як усе,— какетліва зазначыла Марына,— Не ардынарны. Мне такія маладыя людзі падабаюцца.

У яе рухах было нешта ад мяккай пушыстай кошачкі, якая толькі што ўстала з цёплай ляжанкі і пацягваецца.

— Малайчына, Сцяпук. Сілу волі маеш,— пахваліў яго Старадзетка.— А я вось...

Ён узняў фужэр з віном, разглядваў яго на святло. Віно было залаціста-бурштыннага колеру.

— Ты, Лявончык, бяка,— капрызна адставіла ніжнюю губку Марына.

— Ну-ну,— пагладзіў яе па плячы Старадзетка.— Гэта што — бунт на караблі?

Яны выпілі, потым яшчэ выпілі, і Старадзетка дастаў з унутранай кішэні свайго клятчастага пінжака маленькі блакноцік.

— Разумныя думкі сюды запісваю,— растлумачыў ён Сцяпану і Марыне.— Вось, напрыклад, такая інфармацыя. Называецца «Пакаранне за чары». Гэта цябе, Марына, тычыцца. Слухайце. У час кіравання Людовіка пятнаццатага ў Францыі быў выдадзены наступны ўказ: «Тая жанчына, якая будзе спрабаваць пры дапамозе бяліл або румянаў, духоў, розных эсенцый, штучных зубоў і валасоў, чаравікаў з высокімі абцасамі і г. д. уцягнуць у шлюб падданага яго вялікасці, будзе прызнана вядзьмаркай і пакарана. Шлюб будзе лічыцца несапраўдным і ліквідаваным». Здорава, праўда? Ну-тка, глянем на цябе, Марына,— ці няма ў цябе штучных валасоў, зубоў і яшчэ чаго-небудзь...

— Дурань,— успыхнула Марына, устала з-за стала і пайшла з кафэ.

— Затрымай яе,— сказаў Сцяпан.

— Хай ідзе,— усміхнуўся Старадзетка.— Мне гэта цаца ўжо даўно абрыдла.

Сцяпан уважліва паглядзеў на яго.

— Табе не здаецца, Лявон,— сказаў ён,— што ты можаш з цягам часу ператварыцца ў Абломава?

— З чаго ты ўзяў? — весела здзівіўся Старадзетка.

— Ды назіраю за табой, думаю. З капусты ты ўцёк, студэнцкая сталоўка табе не падабаецца — падавай кафэ, дзяўчат мяняеш, як гальштукі...

— А ты, Сцяпук, часам не агітатарам працуеш? — звузіў вочы Старадзетка.

— Не агітатарам. Уладкоўваюся рабочым у прадуктовы магазін.

— Куды-куды?

— Рабочым у прадуктовы магазін.

— Арыгінал,— аж прысвіснуў Старадзетка.— А я думаў, ты прагнеш атрымаць вышэйшую адукацыю...

— З вышэйшай паспееццa. Усё, як вучаць філосафы, павінна пачынацца з ніжэйшых ступеняў.

— Значыцца, як Аляксей Максімавіч Горкі, думаеш «у людзі» пайсці?

— Лічы, што так.

— Ну што ж, табе відней. Ты, здаецца, мараком пасля школы хацеў стаць?

— Мараком,— пацвердзіў Сцяпан.— Ды вось гэтыя тэлескопы перашкодзілі.

Ён з усмешкаю зняў акуляры, пачаў праціраць іх.

— Табе відней,— зноў паўтарыў Старадзетка.— Ты ў нашым класе адным з лепшых быў. Я думаў, што ты далёка пойдзеш...

— А навошта далёка хадзіць, Лявон? — пажартаваў Памалейка.

— А таму, што кожны чалавек у жыцці павінен мець звышзадачу.

— Вось і лічы, што мая звышзадача — уладкавацца рабочым у прадуктовы магазін.

— Жартуеш. Напускаеш на сябе богведама што.

— Можа й яіартую. А можа сур'ёзна гавару,— узняўся з-за стала Сцяпан.— А калі чэсна сказаць — сябе шукаю. Чуў я некалі песеньку па тэлевізары. Так сабе песенька. Ды запомніўся прыпеў: «А жить надо просто затем, чтобы жить».

— Ведаеш што, Сцяпук,— сказаў раптам Старадзетка,— не будзем філасофстваваць. На сыты страўнік філасофстваваць не палажана. Вунь там, насупраць кафэ,— ён паказаў рукою ў акно,— ёсць

стадыёнчык. І футбольнае поле прыстойнае. Там кожны дзень «дзікія» футбольныя каманды аціраюцца. Пойдзем пастукаем, га?

— Пойдзем,— адразу згадзіўся Сцяпан.

Яны выйшлі з кафэ, накіраваліся ў бок стадыёна. Стадыёнам яго можна было назваць толькі ўмоўна. Не было не толькі трыбун, а нават лавак. Футбольныя вароты былі вельмі старыя, перакошаныя, як кажуць, з часоў цара Гароха. Але само поле, як і гаварыў Старадзетка, было някепскае — роўнае, гладкае, пакрытае густой зжаўцелаю травой. Па ім ужо бегалі нейкія шпінгалеты, азартна ганялі новенькі пярэсты мячык.

— Увага! На наш стадыён прыбыла зборная Бразіліі! — бадзёра выгукнуў Старадзетка.— Патрабуецца дастойны працiўнік! Дзе дастойны працiўнік?

Такія словы, як і чакалася, трапілі ў цэль. Беганіна на полі спынілася, спатнелыя, задыханыя падлеткі акружылі Сцяпана і Старадзетку.

— Гэта што, вы — бразільцы? — іранічна спытаўся танклявы белагаловы падлетак, відаць па ўсім, мясцовая футбольная зорка.

— Так точна,— як адрапартаваў яму Старадзетка.— Я — Пеле, а гэта мой лепшы сябар Гарынча.

— Пеле,— высакамерна ўсміхнуўся белагаловы.— А «дзесяць — нуль» не хочаце?

— Проста прагнем,— адказаў за Старадзетку Сцяпан.— Толькі адна ўмова: вы нам павінны даць свайго варатара і двух абаронцаў.

— Хоць чатырох бярыце. Ты... ты...— паказаў пальцам белагаловы.— І ты, Тушканчык, на вароты.

Тушканчык, невысокі хударлявы хлапчук у матроская цяльняшцы, зморшчыўся, але пакорна пайшоў абараняць вароты «бразільцаў».

— Ну, трымайцеся, хлопчыкі,— удбуджана сказаў Сцяпан.

Той, у каго хоць аднойчы салодка замірала сэрца, пачуўшы, як над зялёным стадыёнам пявуча звініць пругкі мячык, зразумее хваляванне Памалейкі. Ёсць на зямлі вечная радасць, вечнае свята — футбол!

О, крылатаногія! О, тыя, хто сёння жыве і чарадзейнічае на футбольным полі! Гуляйце, гуляйце і яшчэ раз гуляйце. Забівайце галы, падайце па шорсткую траву, урывайцеся ў самы вір атакі, цярпіце боль траўмаў. Гуляйце, хлопцы.

«Бразільцаў» адразу ж прыціснулі да варотаў. Белагаловы прайшоў па левым краі, нечакана рэзка змясціўся ў цэнтр, згуляў у «сценку» з партнёрам і апынуўся перад Тушканчыкам. У самы апошні момант Сцяпан, у неймаверным «шпагаце», выбіў мячык на вуглавы.

Потым яшчэ былі два вуглавыя запар. Мячык падавалі верхам, і Сцяпан без асаблівай цяжкасці адбіраў яго ў паветры ў маларослых праціўнікаў, біў галавою. Але адчуваў: вось-вось будзе гол. І праз некалькі мінут белагаловы забіў гол. Эфектна прыняў прастрэльную перадачу, узняў мячык на грудзі, потым скінуў на калена, фінтом абышоў абаронцу і, як з гарматы, пальнуў у «дзевятку». Прыгожы гол, нічога не скажаш.

Пачалі з цэнтра поля.

— Давай, Сцяпук! — крыкнуў Старадзетка.

Сцяпан прыняў ад яго пас, ірвануўся да варотаў праціўніка. Поле было роўнае, гладкае, як бубен, прыемна было бегчы па ім і адчуваць лёгкасць сваік ног, бадзёрую наструненасць усяго цела. Ён абышоў аднаго абаронцу, другога, трэці спрабаваў у падкаце адабраць мячык, але Сцяпан праскочыў і яго, перакінуўшы мячык цераз ногі праціўніка, загарэлыя, з зялёнымі ад травы каленьмі. Усё атрымлівалася, мячык нібы гумавай стужкай быў прывязаны да нагі. Праціўнікі чакалі, што ён аддасць мячык Старадзетку, трохі прытармазілі, разварочваючыся ў бок Лявона, і Сцяпан выкарыстаў іхнюю імгненную разгубленасць. Ён рэзка надбавіў хуткасць, уварваўся ў штрафную пляцоўку і метраў з чатырнаццаці размашыста ўдарыў па варотах. За нейкі міг да ўдару ён убачыў разгублены, напружаны твар варатара, і адразу ж варатар, адштурхнуўшыся ад зямлі, распластаўся ў паветры, адчайна скокнуў за мячыкам. Ды ён усё-ткі б не дастаў мячык, мячык быў, як кажуць, «безнадзейны, мёртвы», каб не штанга — яна прыняла на сябе ўдар. Пачуўся характэрны рэзкі гук — удар цвёрдай, звонкай скуры аб такое ж цвёрдае дрэва. Мячык узвіўся ўгору, паляцеў назад у штрафную пляцоўку, насустрач Сцяпану. Варатар па інерцыі ўсё яшчэ падаў у правы вугал варот, вось упаў на зямлю, бездапаможна раскінуўшы рукі. «Будзе гол!» — здаецца, закрычала, заспявала ўся Сцяпанава істота. Ён рэзка адкінуў назад галаву, убачыў над сабой блакітнае чыстае неба, яркае сонца і, як на трэніроўцы, ударыў галавой па мячыку, ударыў не дужа моцна, але гэтага мяккага ўдару якраз хапіла для таго, каб мячык апусціўся ў левым, супрацьлеглым ад варатара вуглу варот.

## V. БАЦЬКА

Мячык, залеплены гразёю, слізкі, бясформенны, плёхнуўся ў лужыну перада мной. Да яго было метры чатыры, не болей. На нармальным полі, у нармальнае надвор'е ён бы сам падкаціўся да

мяне, але тут яго адразу ж усмактала агідная земляная каша, і ён нібы прыліп да зямлі.

Я гуляю не ў буцах, а ў вялізных, з цвёрдай жоўтай скуры чаравіках. Гэтыя чаравікі камендант лагера Курт Шмальшлегель адбірае ў палонных англійскіх салдат для нас, «сваіх» футбалістаў. Так, мы яго ўласнасць, уласнасць гэтага худога, халаднавокага, падобнага на манекен фашысціка, які, на наша гора, «балельшчык», фанатычна любіць футбол. Некалі ў часы прыгону багатыя памешчыкі мелі свае тэатры, свае аркестры. Курт Шмальшлегель, сын веймарскага аптэкара, мае сваю футбольную каманду. І гэта ў сярэдзіне дваццатага стагоддзя, у тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртым годзе, у цэнтры Еўропы!

Я ненавіджу таго, хто некалі выдумаў футбол. Чуеце, англічане? Навошта вы выдумалі гэту праклятую гульню?

Мячык нібы прыліп да зямлі. Яго трэба выкалупліваць. Сячэ па разгарачаных тварах нудны балтыйскі дождж. Вецер амаль штодзённа наганяе яго з боку мора.

«Гульня адбудзецца ў любое надвор'е». Які ідыёт выдумаў такое правіла?

«Спартсмен — гэта гладыятар,— кажа Курт Шмальшлегель, калі бывае ў настроі.—Я сам спартсмен. Так, спартсмен. Я — прызёр Алімпійскіх гульняў, якія адбыліся ў сталіцы рэйха, Берліне, у трыццаць шостым годзе. І я ведаю душу спартсмена».

88

Сапраўды, па чутках, Курт Шмальшлегель быў удзельнікам Алімпійскіх гульняў у Берліне. Толькі невядома, у якім відзе спорту. Адны кажуць — у бегу на кароткія дыстанцыі, другія — у боксе.

«Немцы — самая спартыўная нацыя ў свеце,— кажа Шмальшлегель.— Старадаўнія германцы разграмілі Рымскую імперыю. Чаму? Таму, што былі моцныя целам і духам. Ніякі народ не можа ўстаяць супроць немцаў. «Sturm und Drang»! Бура і націск! Вось наш нацыянальны лозунг».

Сячэ па тварах дождж. Шмальшлегель пад чорным парасонам сядзіць у крэсле ля самага футбольнага поля. Ён — і трэнер, і суддзя, і балельшчык. Адзін ва ўсіх трох выявах, калі не лічыць аўтаматчыкаў, што размясціліся, хаваючыся ад дажджу, пад вялізнай старой бярозай, адзіным дрэвам сярод гэтага панылага прыморскага пейзажу.

Колькі мінут да канца тайма? Гэтага я не ведаю, бо зняволены нумар 3472, як і ўсе астатнія, вядома ж, не можа мецъ гадзінніка. Гадзіннік ёсць толькі ў Шмальшлегеля. Адзіная рэч, якую маю я,— гэта стары галандскі шынель, бруднага тытунёвага колеру. У ім я

хаджу ў кар'ер грузіць на ваганеткі шчэбень, закруціўшыся ў яго, сплю на драўляных нарах у сваім блоку.

Колькі ж, чорт пабяры, часу да канца гэтай праклятай гульні? Здаецца, яна цягнецца і будзе цягнуцца вечна.

Я выбіў з лужыны мячык, аддаў нас Рыгору Невідовічу, земляку з-пад Слуцка. За нашу каманду (Шмальшлегель пазваў яе «Іван Грозны») гуляюць рускія і беларусы. Супроць нас на гэтым разлезлым дрыгвяністым полі выступаюць палякі. Іхняя каманда — «Стэфан Баторый».

Рыгор Невідовіч павольна бяжыць па правым краі, абводзіць аднаго паляка, сутыкнуўшыся з другім, падае. Упаў і ляжыць, не ўстае. Ці сапраўды атрымаў траўму, ці проста не хапае сіл падняцца з зямлі. «Штрафны ўдар!» — крычыць Шмальшлегель і свішча ў свісток. Нашы не вельмі спяшаюцца біць штрафны. «Хутчэй, брудныя славянскія свінні! — крычыць, тупае нагамі Шмальшлегель,— Хутчэй! Вы не спартсмены! Вы — брудныя лянівыя чарапахі!» Нашы б'юць штрафны. Палякі адбіваюць мячык, і вось ён зноў круціцца ў лужыне непадалёку ад мяне. Чаму гэты чортаў мячык увесь час ляціць у мой бок?

«Не спяшайся, Ян. Гуляем унічыю»,— шэпча, падбягаючы да мяне, «дзевятка» палякаў Фелікс Пчыцкі. Фелікс рыжавалосы, высокі і вельмі худы. Ён знямогся, шумна дыхае, прагна глытае паветра. У палоне Фелікс з верасня трыццаць дзевятага года і ўсім кажа, што не перажыве сёлетнюю вясну, што яна для яго апошняя. Нашы яго супакойваюць, палякі пры выпадку гавораць: «Пацярпі, Фелікс. Пацярпі яшчэ трошкі. Сталін ужо гоніць швабаў. Рузвельт і Чэрчыль павінны ўдарыць з Захаду».

Мячык зразаецца ў мяне з нагі і ледзь не ўлятае ў свае вароты. Наш варатар Федзя Паляшчук плюецца і паказвае мне кулак. Гэты Паляшчук родам з Магілёва, працаваў да вайны памочнікам машыніста паравоза. У шталаг ён трапіў раней за мяне і Рыгора Невідовіча, трымаецца горда, незалежна. Сярод савецкіх зняволеных ён карыстаецца вялікім аўтарытэтам, дый палякі прыслухоўваюцца да таго, што скажа «пан Тэадор». Я памню, як учора, калі мы калонаю ішлі з кар'ера да вузкакалейкі, каб ехаць у шталаг, Паляшчук сказаў, не дужа прыніжаючы голас: «Адольфіка, па маіх разліках, павесяць не пазней чым першага студзеня сорак пятага года». Сёння, здаецца, шостае мая сорак чацвёртага года. Значыць, калі верыць Палешчуку, да канца вайны — восем месяцаў. Ажно восем месяцаў. Я ў шталагу другі месяц, а ўжо здаецца, што праляцела цэлая вечнасць — столькі хлебануў ліха.

Мячык круціцца ў цэнтры поля. Ён падобны на бруднага чорнага сабачку, што дужа-дужа стаміўся, згарнуўся ў клубочак і толькі хоча хоць на хвілінку дзе-небудзь прылегчы, адпачыць, як яго зноў і зноў б'юць нагамі. І ён, пакрыўджаны, разгублены, кідаецца з боку ў бок.

Усё-такі да канца гульні павінна застацца мінут дзесяць, не болей. Я так мяркую, таму што часта гуляў у футбол і навучыўся адчуваць рытміку кожнага тайма. Гульня затухае, коціцца да нічыёй, што прыводзіць у шаленства Шмальшлегеля. З-пад чорнага парасона да нас далятаюць праклёны і пагрозы.

Гэты фашысцік не такі ўжо прымітывіст, як здаецца з першага погляду. Ён мае сваю філасофію, філасофію штыка і кулі, і аднойчы сказаў зняволеным: «Сам бог стварыў ваўка, каб ахоўваць ад коз і казлянят капусту, што расла ў садзе святой багародзіцы». Воўк, у яго ўяўленні, гэта, вядома ж, германскі народ. Козы і казляняты — усе іншыя народы, асабліва славянскія. Палякаў і беларусаў ён лічыць «прамежкавымі» народамі, якія жывуць толькі для таго, каб запаўняць пустоты, што ўтвараюцца паміж дзяржавамі «моцных» народаў. Пра югаславаў, што паўсталі супроць фюрэра, Шмальшлегель сказаў: «Сволач народ! Толькі на зямным шары месца займае».

Вось-вось павінна скончыцца гульня. Шмальшлегель педант і дасць свісток секунда ў секунду, хоць яму вельмі не хочацца нічыёй. За нічыю ўсіх чакае пакаранне — аўтаматчыкі пагоняць нас у кар'ер, дзе трэба будзе нагрузіць адзінаццаць ваганетак шчэбеню. Атрымліваецца, ваганетка на двух. Звычайна нас разбіваюць на пары так, што нагружаюць ваганетку паляк і адзін з нашых, рускі або беларус.

Але, здаецца, нічыёй не будзе. Фелікс Пчыцкі ўпаў на штрафной пляцоўцы. «Пенальці!» — урачыста аб'яўляе Шмальшлегель, выскокваючы з-пад свайго парасона, хоць усе бачылі, што ніхто Пчыцкага не збіваў, што ён проста паслізнуўся. «Пенальці!» — крычыць Шмальшлегель. Фелікс Пчыцкі старанна ўстанаўлівае мячык на адзінаццаціметровай адзнацы. Ён у палякаў лепшы пенальціст.

Я хачу, каб Фелікс забіў гол. Хай сабе выйграюць палякі,, хай будзе задаволена гэта фашысцкая скаціна, Шмальшлегель. Абы не ісці ў кар'ер, не грузіць пракляты шчэбень. Сёння ўвесь дзень ілье дождж, і шчэбень мокры, слізкі, цяжкі, як метал.

Фелікс павольна разбягаецца, б'е — і мячык у руках у Федзі Палешчука. Гэта выводзіць Шмальшлегеля з сябе. «Польскі сабака! — крычыць ён, дастаючы рэвальвер.— Ты спецыяльна не забіў! Ты не хочаш забіваць, назло мне. Але я прымушу цябе! Бі яшчэ, і калі не заб'еш, усе кулі з гэтага рэвальвера будуць твае!»

Фелікс, маўклівы, з бледным тварам, з прыкушанай губою, зноў разбягаецца. Над футбольным полем павісае мёртвая цішыня. Чутно, як чвякае мокрая зямля пад нагамі ў Пчыцкага. Нямецкія аўтаматчыкі падышлі бліжэй, стаяць за спіной Шмальшлегеля, з цікаўнасцю сочаць за паядынкам варатара і пенальтыста.

Фелікс б'е, укладваючы ва ўдар усю сілу, якая яшчэ захавалася ў слабым, зняможаным целе. Мокры мячык з сіпеннем ляціць у правы верхні вугал, ляціць, як камень з прашчы. Я заплюшчваю вочы. Мне не хочацца бачыць тое, што адбудзецца праз нейкае імгненне. Фелікс ударыў, а над стадыёнам, як і раней, вісіць цішыня. «Значыць, забіў...»

— Сталінскі ўблюдак! Руская свіння! — аж заходзіцца ад крыку Шмальшлегель.

Я ўздрыгваю, расплюшчваю вочы. Федзя Паляшчук узяў і гэты мячык. Федзя ляжыць па зямлі скурчыўшыся, прыціснуўшы мячык да грудзей. Ён нават не адбіў мячык, а ўзяў яго, як бяруць класныя варатары, мёртвай хваткай. Аўтаматчыкі разгублена глядзяць на Курта Шмальшлегеля. Шмальшлегель спакайнее, хавае рэвальвер, дастае насоўку, густа смаркаецца. Усе ведаюць, што ён зараз абдумвае, якой карай пакараць непаслухмяных. Дождж узмацняецца. Усё наваколле зацягнута шэрай змрочнай павалокай. Блішчаць каскі аўтаматчыкаў.

— Прынясі мой парасон,— сказаў Шмальшлегель аўтаматчыку.

Той хуценька выканаў загад, стаў ззаду каменданта лагера, трымаючы над ім раскрыты парасон.

— Ты і ты,— паказаў Шмальшлегель рукою ў чорнай скуранай пальчатцы на Палешчука і Пчыцкага,— падыдзіце да мяне.

Яны падышлі да яго па разлезлым хліпучым футбольным полі, Федзя Паляшчук прыціскаў да грудзей мячык — нібы мячык гэты стаў часткай яго самога, неад'емнай часткай, як рука ці нага. Усе стаялі пад даждом, і ўсе чакалі.

«Капут хлопцам,— думаў я,— Шмальшлегель ім не даруе». У лагеры ўсе, апрача, вядома, зняволеных, нешта размяркоўвалі. Адны немцы размяркоўвалі порцыі ежы, другія — порцыі работы. Шмальшлегель, як самы галоўны, размяркоўваў порцыі болю. О, гэта зусім не проста размеркаваць боль і пакуту на тысячу пяцьсот чалавек! Трэба быць тонкім псіхолагам, знаўцам славянскай душы, каб аднаму зняволенаму, аднаму чалавека-пумару, загадаць зрабіць пяцьсот прысяданняў з поўным кубкам вады ў выцягнутай руцэ, а другому ўляпіць па казённым месцы пяцьдзесят шомпалаў. Курт Шмальшлегель лічыў сябе такім знаўцам. Нездарма ён быў сынам веймарскага аптэкара. Працуючы з бацькам у аптэцы, ён у сваім далёкім-далёкім юнацтве

мог узважыць лекі з дакладнасцю да адной сотай грама. «Ты будзеш нядрэнным фармаколагам, Курт»,— хваліў яго бацька.

І тут, у лагеры, гледзячы па знявечаную шомпаламі, чырвоную спіну якога-небудзь Івана, ён мог сказаць аўтаматчыкам, што праводзілі экзекуцыю: «Яшчэ чатыры ўдары». І надзвычай рэдка памыляўся. Звычайна ягоныя ахвяры трацілі прытомнасць, але не паміралі. У енку, у хрыпе чалавека-нумара, якога білі салдацкімі дзягамі ці шомпаламі ён беспамылкова ўгадваў тую інтанацыю, за якой неўзабаве ішла страта прытомнасці, а яшчэ далей — смерць. Нездарма сябры-эсэсаўцы за вочы звалі яго Курт-фармаколаг.

І вось гэты Курт-фармаколаг, паклікаўшы да сябе Федзю Палешчука і Фелікса Пчыцкага, думаў, якое б прызначыць ім пакаранне. Ён разумеў, што гэтых упартых славян шомпаламі асабліва не напалохаеш, і вырашыў (ён і тут быў вялікі спецыяліст) нанесці ім псіхалагічны ўдар.

— Станавіцеся адзін насупраць другога і плюйце адзін аднаму ў твар! — загадаў Шмальшлегель. Аўтаматчык, што трымаў над камендантам парасон, пераклаў ягоны загад на польскую мову. Фелікс Пчыцкі пабляднеў.

— Што ён сказаў, Феля? — спытаўся ў яго Федзя Паляшчук, усё яшчэ не выпускаючы з рук мячыка.

— Ён сказаў, пане Тэадор, каб мы плявалі адзін аднаму ў вочы. Што будзем рабіць, пане Тэадор?

Між тым Шмальшлегель, сціснуўшы ў руцэ рэвальвер, падышоў да іх упрытык, крыкнуў:

— Вы што, аглухлі, брудныя славянскія свінні?! Я не прывык паўтараць загад двойчы.

— Што будзем рабіць, пане Тэадор? — з дрогкасцю ў го-[ ласе перапытаў Пчыцкі. Ён стаяў побач з Палешчуком, худы, рыжавалосы, заляпаны шэрай граззю, і дробненька ўздрыгваў кожнай жылкай свайго цела. Шмальшлегель з халоднай усмешкаю на твары, з цікаўнасцю ў невялікіх блакітных вачах глядзеў на беларуса і паляка.

— Будзем выконваць загад, Феля,— ціха сказаў Паляшчук. Ён пакруціў у руках мячык, стукнуў ім разы са два аб зямлю, пагладзіў яго і, сказаўшы: «Бывай, дружа», выбіў яго далёка ў поле. Потым плюнуў у твар Курту Шмальшлегелю.

— О то добра, пане Тэадор,— засмяяўся Фелікс Пчыцкі.— О то добра...

І таксама плюнуў у твар каменданту. Яны ўжо смяяліся разам, Пчыцкі і Паляшчук. Яны смяяліся звонка, шырока, ведаючы, што гэта апошні іхні смех. Яны смяяліся, а сын веймарскага аптэкара, камен-

дант шталага Курт Шмальшлегель, саракадвухгадовы блакітнавокі сын арыйскай расы, выціраў чорнай скуранoй пальчаткай са свайго твару іхнія пляўкі.

Пчыцкаму і Палешчуку проста ў твар дыхала смерць, а яны смяяліся. Дваццаць іхніх таварышаў, змучаных, брудных, галодных, глядзелі на іх з жахам і любоўю. Дваццаць фашысцкіх рабоў у глыбіні душы ўставалі з каленяў, распроствалі спіны.

Курт Шмальшлегель выхапіў у салдата аўтамат, даў чаргу, доўгую, бясконцую. Паляшчук з Пчыцкім упалі на зямлю, а ён страляў і страляў, потым, калі скончыліся патроны ў ражку, адкінуў ад сябе аўтамат, пачаў біць мёртвыя целы нагамі. Твар у яго быў барвовы. Мне здалося, што ён схопіць зараз другі аўтамат і пакладзе нас усіх побач з Пчыцкім і Палешчуком.

— У кар'ер! Бягом у кар'ер! — закрычаў Шмальшлегель.

Кар'ер быў побач з футбольным полем, крокаў за дзвесце. Мы пабеглі туды, і аўтаматчыкі пабеглі за намі, а Шмальшлегель застаўся на месцы, насоўкай ярасна цёр твар.

Я нагружаў ваганетку разам з Францам Нарадоўскім. Побач махаў рыдлёўкай Рыгор Невідовіч. Рыдлёўкі са скрыгатам уваходзілі ў мокры, спрасаваны шчэбень. Мы ледзьве стаялі на нагах, хісталіся, а пакутлівай рабоце не было відно канца — у кожную ваганетку ўваходзіла тры тоны шчэбеню. Потым па канатнай дарозе гэтыя ваганеткі падніmаліся ўгору, і там іх трэба было разгрузіць. Там ужо іншыя зняволеныя ўзвальвалі мокры цяжкі шчэбень на платформы, і па вузкакалейцы ён даўстаўляўся па ўзбярэжжа мора.

— Малайцы Паляшчук з Пчыцкім,— шэпча побач Рыгор Невідовіч. Рыгор невысокі, але шырокі ў плячах хлопец. Яму гады дваццаць два, у яго шэрыя ўважлівыя вочы і вечны кашаль, які набыў ён у сырым шталагу. Пасля кожнага ўзмаху рыдлёўкі ён кашляе і хапаецца рукою за грудзі. Відно па ўсім, Рыгор доўга не працягне.

Я стараюся ашчадна расходаваць сілы, бо сіл гэтых засталося ўжо не многа. У мяне адна мэта, адна задача — выжыць у гэтым пекле і вярнуцца на радзіму. Фашызм — гэта жорсткасць, узведзеная ў квадрат. Гэта гіганцкая машына, мясарубка, мэта якой — перамалоць цэлыя расы, цэлыя пароды. Што я для гэтай машыны? Пух з дзьмухаўца. Дзьмухні мацней — і мяне няма. А я хачу выжыць. Я хачу выжыць. Хоць кожны дзень, нават кожнае імгненне магу загінуць. Помню, нас, як прывезлі сюды, пагналі ў вялізны цагляны барак, які немцы называлі санпрапускнікам. Там мы распраналіся дагала, станавіліся пад ледзь-ледзь цёпленькі душ, цырульнік стрыг нас, і ў «касцюме Адама» мы ішлі праз спецыяльны пакой, у якім за доўгім

сталом сядзела некалькі немцаў-вайскоўцаў, мужчын і жанчын. Акрамя Рыгора Невідовіча, быў са мной у той час яшчэ адзін зямляк, Пятро Аўлачэўскі. Харошы, ціхі хлопец, што да вайны працаваў токарам на МТС. Вылучаўся ён з нашага невялікага гурту тым, што быў, бадай, самы сумны, ды яшчэ мноствам буйных выразных вяснушак на твары. Калі распрануліся, аказалася, што ў Аўлачэўскага вяснушкамі, такімі ж выразнымі і буйнымі, засыпаны ўсе плечы і рукі. Ніколі не даводзілася бачыць мне такой скуры. І вось увайшлі мы ў той пакой, дзе за доўгім сталом сядзелі немцы-вайскоўцы, мужчыны і жанчыны. Як я разумею, гэта быў сартавальны пункт. Нас, быццам жывёлу, разбівалі на групы па пародзе і па масці. Я крыху ведаю нямецкую мову — да вайны хацеў паступаць у інстытут замежных моў. Размаўляю я сам па-нямецку не вельмі, а вось як хто іншы гаворыць, асабліва спакойна, не спяшаючыся, амаль усё разумею. Я тады ж, як павезлі мяне ў рэйх, вырашыў, што ні адна душа не даведаецца аб гэтым. Так надзейней. І вось увялі нас у гэты пакой — паперадзе Пятро Аўлачэўскі, ззаду я. «О, якая дзіўная скура!» — адразу ж усклікнула маладая пухленькая немачка і нават узнялася з-за стала, падышла да Аўлачэўскага. «Яго любіць сонца,— засмяяўся таўставаты сівагаловы эсэсавец.— Вяснушкі — гэта пацалункі сонца, фройлен Мацільда».— «Які ўзор! Які малюнак!» — круцілася вакол Аўлачэўскага фройлен Мацільда.

Пятрок стаяў, згорбіўшыся, часта ўздрыгваў, нібы на плечы яму падалі халодныя кроплі вады. «Пан капітан, калі вы мяне паважаеце, калі вы шануеце мастацтва, гэты чалавек не павінен ісці ў кар'еры па земляныя работы. Там ён бескарысна загіне, і прападзе такая цудоўная скура».— «О, я разумею вас, фройлен Мацільда»,— расплыўся ва ўсмешцы сівагаловы капітан. Болей Аўлачэўскага я не бачыў. Нас з Рыгорам Невідовічам пагналі ў кар'ер капаць шчэбень, а Пятро некуды знік. Я спачатку думаў, што яго пакіравалі на які-небудзь завод або на шахту — усюды ж былі патрэбны рабы. Я яшчэ спадзяваўся, што можа сустрэнуся з Аўлачэўскім. Але праз месяц, паспытаўшы лагернага жыцця, зразумеў, што болей ніколі не ўбачу яго. Аўлачэўскага ўжо няма. Аўлачэўскі ператварыўся ў прыгожую жаночую сумачку, якую носіць фройлен Мацільда або іншая фройлен ці фраў. Гэта было дзіка, жахліва, але гэта было так. Ад большасці людзей заставаўся толькі попел, ад Аўлачэўскага засталася скура. Аўлачэўскі кідаўся ў вочы сваёй скураю, і гэта вырашыла ягоны лёс. І я зразумеў: тут, каб выжыць, трэба зрабіцца непрыкметным, трэба быць чалавекам-нумарам, якіх тысячы навокал, і ўсё.

Пчыцкі і Паляшчук не захацелі стаць непрыкметнымі і загінулі. І якая з гэтага карысць? Рыгор Невідовіч кажа, што вялікая карысць, што людзі глядзяць на Палешчука і Пчыцкага як на герояў, вучацца ў іх стойкасці. Так-то яно так, але што мы можам зрабіць супроць Шмальшлегеля, ягоных аўтаматчыкаў, супроць калючага дроту, па якім прапушчаны электрычны ток? Толькі марна загінем, зробімся попелам, якім нейкі баўэр угноіць сваё бульбяное поле. Я не хачу рабіцца попелам. Я — малады і хачу жыць.

Падае з шэрага неба дождж. Скрыгочуць рыдлёўкі, урэзваючыся ў мокры шчэбень. Безнадзены мёртвы гук, ад якога ў скронях пачынаюць стукаць гарачыя малаточкі. Тук-тук-тук... Дый сам я ўжо — чалавек з мёртвай душой... Тук-тук-тук... Дзе я ўжо чуў такое? А, гэта было ў дзяцінстве... Мы гулялі ў хованкі... Я ляжаў, схаваўшыся ў густой траве, што расла каля хаты дзеда Сцяпана. Побач, дзе хто, хаваліся мае таварышы. Рая Храпка, русавалосая, ружавашчокая дзяўчынка, шукала нас. Яна хадзіла па двары, заглядвала пад цабэркі, начоўкі — мы маглі схавацца ўсюды. Вось яна, выцягнуўшы шыю, ступаючы на пальчыках, заглянула ў хляўчук, і тады я сарваўся са свайго месца, стрымгалоў падбег да лавачкі, на якой ляжыць галінка вярбы. Гэтай галінкай я стукнуў па лавачцы тры разы і шчасліва, задыхаючыся, крыкнуў: «Тук-тук-тук, сам за сябе...» Я «закаваўся», як называецца гэта ў правілах нашай гульні, Рая мяне не знайшла.

Як усё-такі хочацца выжыць! Як хочацца вярнуцца з гэтага пекла дадому, убачыць маці, сясцёр, з'ездзіць па дровы, пахадзіць з касой у лузе, удыхнуць на поўныя грудзі свежага ляснога паветра. Каму патрэбна, каб я загінуў? Што дасць мая смерць? Мяне не будзе, я ператваруся ў попел, а сонца будзе ўзыходзіць, як узыходзіла за тысячагоддзі да мяне, будуць бегчы вясновыя ручаі, спяваць птушкі, будзе расці трава. Каму патрэбна, каб я загінуў? Гэта патрэбна фашысцкаму «ордунгу». Шмальшлегелю з яго паталагічнай жорсткасцю. Калі фашызм — машына, створаная для знішчэння народаў, то самае найлепшае паліва для гэтай машыны — чалавечая кроў.

У час свайго двухмесячнага рабства я шмат думаў аб прыродзе чалавечай жорсткасці. Я прыпамінаў прыклады з гісторыі. У шаснаццатым стагоддзі ў Венгрыі ўспыхнула сялянскае паўстанне супроць феадалаў. Кіраваў сялянамі Дзёрдзь Дож (здаецца, такое ў яго было імя). І вось калі паўстанне было задушана, калі тысячы сялян былі павешаны, закапаны жыўцом у зямлю, разарваны галоднымі сабакамі, графы і князі прыдумалі кару сялянскаму правадыру.

«Ты хацеў стаць каралём,— сказалі яму,— вось табе трон, карона, каралеўскі скіпетр». Голага яго пасадзілі на жалезны, распалены

да чырвані трон, надзелі на галаву карону, якую паж абцугамі дастаў з полымя. Адабралі з паплечнікаў Дзёрдзя найбольш маладушных і арганізавалі «каранацыю». Вогненны трон з Дёрдзем Дожам стаяў пасярод вялікай, багата прыбранай залы. Цэлы аркестр скрыпачоў іграў вясёлую музыку. Маладушныя сябры сялянскага «караля», з тых, што любой цаною хацелі ўратаваць сабе жыццё, танцавалі вакол трона. Пасля кожнага танцавальнага «па» яны адкусвалі ў свайго напаўжывога правадыра кавалкі цела.

Але жорсткасць, якую прынеслі з сабой фашысты, яшчэ больш страшная. Яна страшная сваімі маштабамі і сваёй будзённасцю, яна страшная тым, што робіцца прывычнай для тысяч шмальшлегеляў. Шмальшлегелі далі жорсткасці ідэалагічнае абгрунтаванне, перавялі яе на прамысловую аснову Сумачкі з чалавечай скуры, грабянцы з чалавечых касцей валасы для канатаў, попел для палёў... Няўжо калісьці быў Хрыстос? Няўжо чалавецтва стварыла таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца? Няўжо дзівакі-медыкі лячылі ў трапічных лясах малпаў і сланоў.

...Ваганетка, нагружаная шчэбенем, цяжка плыве з дна кар'ера ўгору. Пахруствають, рыпяць мокрыя канаты. Франц Нарадоўскі знясілена хаўкае сухім ротам. Твар у яго зямліста-буры. Я адчуваю, як грамчэй ударають у скронях малаточкі. Пачынае кружыцца галава, і я каб не упасці, сядаю на шчэбень і нават не адчуваю, як балюча ўпівецца ён у цела Усё ўва мне нейкае драўлянае, цяжкое, як бы не маё. «Уставай, Ян» - шэпча Нарадоўскі. З велізарным намаганнем я ўстаю, абапіраючыся на рыдлёўку. Ногі ў мяне быццам папяровыя. Здаецца, нехта выцягнуў з ног косткі і я стаю на сухажыллях і вось-вось упаду.

«Стройся!» — гучыць каманда.

Спатыкаючыся і падаючы, мы выбягаем з кар'ера строімся ў калону. Я бачу перад сабою худую абсівераную шыю Рыгора Невідовіча. На кароткія русыя валасы наліп карычневы камячок гразі.

«З песняй шагам марш!» — крычыць Шмальшлегель.

Дзесяткі ног ударають аб мяккую слізкую зямлю. Да вузкакалейкі, дзе чакае нас «кукушка», каб адвезці ў шталаг з паўкіламетра. «Толькі б не ўпасці»,— думаю я.

Если завтра война,
Если завтра в поход,

запявае Рыгор Невідовіч. Мы падхопліваем. Спяваюць палякі, бо паспелі ўжо развучыць гэту песню. «Дружней!»— смеючыся, крычыць Шмальшлегель. Смяюцца аўтаматчыкі. Хто б ведаў, якая гэта пакута ісці пад халодным няўмольным вокам чужога аўтамата і спяваць пе-

сню, родную песню, створаную для веры, для радасці, для перамогі. Разам з намі песня зрабілася рабыняй, але яе, песню, нават Шмальшлегель не можа ні ўдарыць, ні застрэліць.

Нас заганяюць у маленькія брудныя вагончыкі, у якіх выбіта шкло ў вокнах, аўтаматчыкі садзяцца каля праёмаў акон, і «кукушка», даўшы прарэзлівы гудок, імчыцца у шталаг. Да шталага дванаццаць кіламетраў — дваццаць мінут язды. Гэта самыя лепшыя нашы мінуты. Можна хоць крышку расслабіцца. Можна заплюшчыць вочы, выцягнуць свінцовыя ад стомленасці ногі, пакласці на калені рукі, што гараць ад мазалёў.

За вокнамі вагонаў пралятае чысценькая, акуратная нямецкая зямля — акуратныя палі і ляскі, акуратныя домікі пад чырвонымі чарапічнымі дахамі, акуратныя брукаваныя дарогі. Праўда, зямля гэта спрадвеку была польская, але хіба могуць «лянівыя славяне» давесці да ладу зямлю? Толькі германскі геній, адзін ён, можа зрабіць такое, і таму ў палякаў адабралі польскую зямлю, а тых з іх, хто думаў супрацiўляцца, ператварылі ў попел для акуратных дагледжаных палёў. Астатнія, меншая частка, павінны анямечыцца, каб далучыцца да вялікай цывілізацыі і акуратнасці.

Плюнуць бы на ўсю гэту акуратнасць. Убачыць бы, хоць адзін разок, драўляную хату пад жоўтай саламянай страхою, калодзежны журавель, купку бяроз на старых дзедаўскіх могілках, глынуць бы дыму з начлежнага вогнішча. Дым той пахне бярозавым лісцем і печанай бульбай, пахне восеньскім халодным полем.

Выгружаемся. Аўтаматчыкі ваўсю працуюць прыкладамі сваіх «шмайсераў». Акуратнасць акуратнасцю, а германскія біцэпсы, германскія мускулы таксама трэба трэніраваць.

Маршыруем па цэнтральнай вуліцы шталага. Алеяй слёз ахрысціў яе Рыгор Невідовіч. Бардзюры ўздоўж вуліцы выкладзены чырвонай цэглай, за бардзюрамі растуць тонкія маладзенькія дрэўцы, якія заўсёды хістае парывісты марскі вецер.

У мяне страшэнна баліць левая нага. Так баліць, што я сціскаю зубы, каб не застагнаць. А трэба маршыраваць, трэба ўздымаць і цвёрда ставіць нагу на слізкі брук адначасова з сотпяй зняволеных. Няўжо вывіх? Што-што, а хварэць рабам не рэкамендуецца. Толькі б дайсці, дацярпець да свайго блока. Толькі б дайсці.

Дайсці я дайшоў, але ніяк не магу залезці на нары. Нары ў блоку драўляныя, на тры ярусы. Як на тое ліха, я — на самым версе.

— Давай гляну, што з тваёй нагой,— гаворыць Рыгор Невідовіч.

Я моршчуся ад болю, закасваю брызентавую калашыну. Калена распухла і пасінела.

— Нічога страшнага,— суцяшае мяне Рыгор,— Да вяселля зажыве.

— Ты яшчэ думаеш пра вяселле?

— А як жа? У мяне ў Вялікай Сліве дзяўчына ёсць. Ганя Пенязь.

— Можа ад тваёй Гані толькі дымок застаўся. Скрозь жа вайна, агонь...

— Мая Ганя ў агні не гарыць. І ведаеш чаму? Таму, што мая Ганя — залатая дзяўчына.

Невідовіч раптам з усяе сілы шморгае мяне за балючую нагу, ды так, што ў мяне ў вачах успыхваюць іскры. Я ледзьве не трачу прытомнасць. Я саджуся на халодную цэментаваную падлогу і плачу ад болю. Рыгор лёгенька паляпвае мяне па плячы.

Праз трыццаць мінут зноў становімся ў калону і ідзём да кухні. Праз кухоннае акно капо, бельгіец Жан, выдае вячэру. Атрымліваем сто пяцьдзесят грамаў сухога хлеба ў цэлафане і «гоніг», штучны мёд. «Гонігу» Жан выдае малюсенькі скрылёчак — памерам з пазногаць вялікага пальца па руцэ.

Рыгор, здаецца, падлячыў маю нагу. Боль яшчэ ёсць, але паступова ён затухае, і ў мяне ўзнімаецца настрой. Ды настрою таго — толькі даплесціся да нараў.

З'ядаем хлеб з «мёдам», запіваем вячэру сырой вадой, якая мае падазрона карычневае адценне. Пэўна, у акуратнай Германіі заржавелі водаправодныя трубы.

— Усё ў гэтых гансікаў карычневае,— знаходзіць сілы пажартаваць Рыгор Невідовіч.— Кашулі карычневыя, вада, бач, карычневая. Адным словам, карычневая фашысцкая чума, як пісалі ў нашых газетах.

Я ляжу на нарах, на тонкім казённым сенніку, у які напхана нейкая трава. Я не ўпэўнены, што гэта трава, мне хочацца, каб у сенніку была трава. Але там можа быць зусім іншае, чалавечыя валасы, напрыклад. У рэйху ж нішто не прападае дарэмна.

У думках я зноў адплываю ў сваю вёску. Расступаюцца сырыя цагляныя сцены блока, камянеюць кулямётчыкі на каравульных вышках, калючы дрот разрываецца, як агідная павуціна, і я, вольны, лёгкі, бягу па лугах і лясах, праз балоты і рэкі, і вось яна — родная Бабруйшчына. Шырокія прасторы, як кінуць вокам, вечаровая смуга палёў, жаўранкі над травяністымі палявымі дарогамі. Дарогі гэтыя, як рэкі, цякуць туды, на поўдзень, дзе ў шуме вечных лясоў, у маўчанні пясчаных выспаў, у зіхаценні бясконцай неабсяжнай вады пачынаецца Палессе. Там жывуць людзі, не падобныя на нас, бабруйчанаў. У

іх мяккая пявучая гаворка, яны ездзяць не на конях, а на валах, прысадзістых, моцных, з доўгімі шурпатымі рагамі.

У мяне ёсць маці, бацька і тры сястры. Ёсць... А можа былі? Я самы меншы ў сям'і, і мама заве мяне сваім пестунком. Лепшая цацка — мне, самы смачны кавалак — мне. Я, пасля бацькі, адзіны мужчына ў хаце, я панясу па зямлі ягонае прозвішча — Памалейка. А сёстры выйдуць замуж і згубяць гэтае прозвішча. Ды ці знойдуцца ім яшчэ жаніхі? Сёстры, Маня, Тэкля і Антаніна, усе высокія, беласкурыя, непрыгожыя, з аднолькавымі шырокімі тварамі. Я паміж іх — як чорненькі крэпенькі баравічок паміж бледных сыраежак.

Наша хата стаіць на самым краі вёскі, пад высокай шумлівай ліпаю. Ліпу гэту "пасадзіў яшчэ мой прадзед. Гэта цэлае зялёнае воблака, у якім увесь летні дзень звіняць пчолы, пырхаюць і свішчуць птушкі. Мы з бацькам зацягнулі на ліпу аж дзесяць шпакоўняў. Апошнім часам у ствале ліпы з'явілася невялікае дупло, але мы замазалі яго глінай, і шуміць наша красуня, як шумела раней.

Добра жыць дзесяцігадоваму чалавеку на цёплай зялёнай зямлі. Адразу за вёскаю, у полі, расце калгасны лубін. Там — нашы хованкі. Лубін густы, пахучы. Мы нарабілі ў ім хадоў, патаемных сцяжынак. Лубін для нас — таямнічыя непралазныя джунглі.

Бацька мой, Іван Аляксеевіч, працуе загадчыкам малочнатаварнай фермы. Ён заўсёды ходзіць у высокіх кірзавых ботах, тлуста змазаных дзёгцем. Боты востра пахнуць, і калі бацька прыходзіць з фермы па абед, маці крычыць яму: «Скідай свае ванючкі». Бацька пакорна скідае «ванючкі» і садзіцца абедаць босы. Ступакі ног у яго шырокія, белыя.

Аднойчы з Бабруйска прыехала нейкая камісія правяраць ферму. Бацька перад гэтым дужа хваляваўся, прынёс дадому мноства беленькіх дошчачак, папрасіў мяне: «Напішы быкам і каровам імёны»,— «Якія?» — спытаў я. «А якія хочаш. Выдумвай»,— адказаў бацька. І я выдумляў, пісаў на дошчачках: «Гром», «Экватар», «Энтузіяст», «Чэмберлен». Бацька стаяў побач, чухаў патыліцу, згаджаўся з усімі маімі бычынымі імёнамі і толькі наконт «Чэмберлена» зазначыў: «Можа не трэба... Што камісія падумае? Усё-такі які-ніякі, а чалавек быў».

Вечарамі ў нашай вялікай хаце збіраліся мужчыны. Слухалі дэтэктарны радыёпрыёмнік, які зрабіў бацька, гулялі ў карты і шашкі, курылі і, вядома ж, гаварылі. Пра што толькі яны не гаварылі! Я залазіў на печ, накрываўся кажухом і слухаў, слухаў... Жыццё з расказаў мужчын атрымлівалася такім шматфарбным, бяскрайнім, шумным, У ім было столькі шырокіх дарог і вузкіх сцежачак, столькі ззяла высокіх начных зорак і столькі ціхіх дажджоў церусілася на

мокрую зялёную зямлю. «Няўжо і я зведаю, убачу такое, хоць часцінку такога! — думаў, засынаючы, я.— Хутчэй бы». Я засынаў, і здавалася мне, што грымучае markdownрознакаляровае мора падступае з усіх бакоў да нашай хаты, затапляе яе пад самы комін. А замест хваль у тым агромністым моры — жывыя людзі.

У нашай вёсцы дванаццатага ліпеня кожнага года, па Пятра, быў кірмаш. Сыходзіліся тады на нашу пыльную шырокую вуліцу госці з усяе акругі: вясёлыя, загарэлыя мужычкі на падпяку, маладзіцы ў яркіх прыгожых строях, маладыя хлопцы і падлеткі з гармонікамі і бубнамі. Хоць свята і лічылася рэлігійным, ад рэлігіі ў ім засталася толькі назва. Народ збіраўся разам, каб хоць нейкі дзень адпачыць, пагуляць, паказаць свой вясёлы, шырокі характар, бо наперадзе чакалі касавіца і спякотнае жніво.

Самай найпершай дзіцячай радасцю і здзіўленнем была, вядома ж, чыгунка. Яна прабягала за нейкі няпоўны кіламетр ад вёскі. Летам мы з бацькам часцяком начавалі на гарышчы хаты, на мяккім сухім сене. Добра было, стаіўшыся ў начной цішыні, чуць, як недзе далёка-далёка ў халодным начным полі коціцца, расце звонкі гарачы гуд. Ён робіцца мацнейшы, гусцейшы, з кожнай хвілінай усё больш угадваецца ў ім размераны я;ывы рытм, быццам б'ецца чыёсьці моцнае жалезнае сэрца. Гэта ідзе пасажырскі цягнік па Бабруйск — некалькі зялёных, нібы цацачных, вагончыкаў з высокімі лёгкімі коламі, з адчыненымі дзвярыма тамбураў, праз якія ў вагоны ўрываецца востры начны вецер, што пахне цёплай зямлёй і сенам. Добра было думаць пра машыніста, які, адзін на ўвесь вялізны цягнік, не спіць, слухае ляскатанне колаў, напружана ўглядаецца ў таямнічую цемень ночы.

Разам з хлапчукамі я бегаў на чыгунку. Басанож мы хадзілі па цёплых, нагрэтых сонцам рэйках, клалі па рэйкі медныя пятакі і, схаваўшыся ў кустах ад пуцявога абходчыка, чакалі поезда. Грукатаў поезд, са свістам праносіўся ўдалячынь, і ад пятака заставаўся шырокі тоненькі лісцік, упрасаваны ў рэйку.

Бацькі, асцерагаючыся, каб мы не трапілі пад поезд, палохалі нас абходчыкам, казалі, што ён хапае малых дзяцей у мяшок і адвозіць іх у Бабруйск, дзе дзяцей здаюць у дзіцячы дом. Аднойчы мы пабеглі ў суніцы, якіх шмат высыпала па крутых адхонах чыгункі. У дарозе нас захапіў дождж з маланкаю, і мы схаваліся пад «быкам». Чыгуначны невялікі мост цераз балацявіну зваўся ў нашай мясцовасці «бык». І вось там мы, твар у твар, сустрэліся з абходчыкам. Ён стаяў у мокрым шыракаполым плашчы і еў яблык. Мы ажно прыселі ад страху. Вось зараз абходчык дастане свой страшны мяшок, вось за-

раз... Абходчык, малады чарнабровы хлапец, усміхнуўся нам і сказаў: «У ягады ішлі? Перачакайце трохі, а то наверсе гром грыміць». Так мы і стаялі з ім побач. Шумеў дождж, светлая, срэбная вада, падхопленая ветрам, доўгімі пырскамі залятала пад «бык».

«Суніцы з паўднёвага боку растуць, там, дзе сонца болей,— тлумачыў нам абходчык,— Вы толькі на рэйкі не выбягайце, а то пад цягнік можаце трапіць».

Скончыўся дождж, пуцявы абходчык пайшоў у свой абход, мы таксама выйшлі на сонца. Дзень быў такі прыгожы, светлы, агністы. І, галоўнае, назаўсёды знік страшны, злы абходчык. Замест яго застаўся вясёлы чарнабровы хлапец.

Прайшло дзяцінства, і амаль адразу прайшло юнацтва. Я скончыў дзесяцігодку, паступаў у Бабруйскую школу рахункаводаў і не паступіў. А потым пачалася вайна. Яна прыйшла так нечакана, так: раптоўна, хоць усе пра яе гаварылі. У той дзень мы з бацькам хадзілі страляць качак на Лойкава балота. Сляпіла сонца, дзумкалі разамлелыя ад гарачыні мухі, калгасныя каровы пасвіліся непадалёку, і чуўся шоргат шырокіх сінявата-ружовых языкоў аб траву. У балоце была чорная вада, нібы ў ваду падмяшалі дзёгцю. Часам з глыбіні ўзвіваліся буркатлівыя сярэбраныя бурбалкі — здавалася, балота дыхае.

У нас былі паляўнічыя стрэльбы шаснаццатага калібру, адна наша, а другую я папрасіў у суседа, Рыгора Гушчы. Паляванне не надта ўдалося, але ўсё-такі бацька зваліў з крыла качку-крыжанку. Гэта быў вялікі прыгожы качар: галава і шыя бліскучыя, цёмна-зялёныя, на шыі белы ашыйнік, на крылах сіне-фіялетавыя «люстэркі». Мёртвая птушка ляжала каля нашых ног, і маленькае птушынае вока свяцілася на сонцы, як іскрысты каменьчык.

І ў гэты час на чыгунцы паказалася дрызіна. У дрызінах звычайна ездзіла чыгуначнае начальства. Я нават бачыў аднойчы, як выгрузілася з яе вясёлая шумная кампанія — некалькі мужчын, некалькі прыгожых кабет. Яны спыніліся ў бярозавым гайку, непадалёку ад чыгункі, разаслалі на траве белы абрус, распакавалі сумкі з закуссю — пачалі са смехам, а крыху пазней і з песнямі частавацца.

Дрызіна хутка бегла па рэйках, і мы не звярталі на яе ніякай увагі. Ды раптам яна спынілася; малады хлапец, голы па пояс, да чарнаты загарэлы, адчыніў зялёныя дзверцы, высунуўся з дрызіны, замахаў нам рукою і крыкнуў адно толькі слова: «Вайна!»

— Што ён крычыць? — спытаўся ў мяне бацька.

— Крычыць, што вайна. Вайна пачалася.

— Вайна? — бацька пабляднеў, памкнуўся быў да дрызіны, але яна пакацілася ўжо далей.

— А мы хацелі Маню замуж аддаваць,— ціха сказаў бацька, усё пазіраючы на чыгунку, на якой дрызіна ператварылася ўжо ў маленькую рухомую кропку.

...Цяпер, у нямецкім шталагу, у цесным смярдзючым блоку, амаль трыма гадамі аддалены ад таго дня, я ўспамінаю са здзіўленнем і недаверам, што ў мяне ў тую хвіліну быў даволі бадзёры настрой. «Вайна,— думаў я тады,— Ну што ж, Гітлеру зломяць зубы адразу ж пад Беластокам і Брэстам. Паўстануць рабочыя Гамбурга і Берліна. Будзе Германская савецкая сацыялістычная рэспубліка. Добра, што я вывучаю нямецкую мову».

— Бяда йдзе, Ваня,— разгублена глянуў на мяне бацька,— Вялікая бяда. Эх, ядры тваю качалку! А мы хацелі Маню замуж аддаваць.— Бацька злосна плюнуў сабе пад ногі, чамусьці зняў з пляча «шаснаццатку» і стрэліў проста ў балота, у чорную гнілую ваду. Пастух, што драмаў пад ракітавым кустом непадалёку, спуджана ўсхапіўся, пачаў праціраць кулакамі вочы.

...Толькі б выжыць. Толькі б вярнуцца дадому. Як я змяніўся за гэты час! Мая душа пастарэла гадоў на сто. Колькі мне гадоў? Хто я? Можа я сам Дантэ... Я апускаюся ў глыбіні пекла... Ніколі не ведаў, што на зямлі, дзе столькі прыгожых пахучых кветак, дзе кахаюць жанчын, дзе ў аксамітна-зялёнай балотнай траве ладкуюць свае гнёзды дзікія качкі, можа быць пекла. Пекла на зямлі... Пекла ў цэнтры Еўропы...

«Памятай, жыццё — гэта шчаслівая выпадковасць і абавязкова са смяротным канцом». Хто сказаў гэтыя словы? Навошта ён сказаў такія словы? «Давайце паміраць у адзіночку». А гэта хто сказаў? Мы тут, у шталагу, у фізічным і духоўным рабстве, паміраем не «ў адзіночку». Мы паміраем дзесяткамі, сотнямі... Што маё жыццё паміж тысяч жыццяў? Былінка. Але я хачу жыць. Жыць!

Вярнуўшыся з палявання, бацька адразу ўзяў пілу і сякеру, і разам з ім мы пачалі пад паветкай пілаваць і калоць дровы. Маня, мая малодшая сястра, тая, што неўзабаве збіралася выйсці замуж, складала дровы. Мама якраз хварэла, яе біў кашаль, але і яна не засталася ў хаце — апрануўшы кажух, павязаўшы галаву і грудзі зімовай цёплай хусткай, яна прыйшла пад паветку, глядзела, як мы працуем. Дзве астатнія мае сястры, Тэкля і Антаніна, былі ў адлучцы — маміна сястра Зося, што жыла ў Бабруйску, некалькі дзён назад запрасіла іх да сябе ў горад. Па-першае, яна пачала рамонт кватэры, і дзяўчаты, працавітыя, здаровыя, былі ёй добраю, прытым бясплатнаю падмогай, па-другое, і гэта галоўнае, яна абяцала кожны вечар вадзіць іх у парк на танцы. Бабруйск горад вялікі, там шмат нежанатых хлопцаў,

авось хто-небудзь з гэтых бабруйскіх хлопцаў зверне ўвагу («клюне», як казала цётка Зося) на непрыгожых сціплых вясковых дзяўчат. Такі быў тайны план паездкі маіх сясцёр у Бабруйск. Яны, вядома, з радасцю згадзіліся, за тыдзень да паездкі пачалі прасаваць свае сукенкі, прымяраць перад люстэркам стужкі і пацеркі. Цяпер мама, гледзячы, як мы працуем, уздыхала і плакала: «Навошта я іх адпусціла ў той горад? Вайна, а яны невядома дзе...»

Бацька развітваўся з родным котлішчам. Ужо аб'явілі загад аб мабілізацыі, і назаўтра ён разам з аднавяскоўцамі павінен быў ісці ў той жа Бабруйск, на зборны пункт. Цягаючы пілу, я прыглядаўся да бацькі і заўважаў, як ён раз-пораз акідвае ціхім журботным позіркам двор, нашу хату, нашу ліпу, што шумела маркотней, чым звычайна. Ці можа мне толькі здавалася тады, што ліпа шуміць так? Але, відаць, і бацька падумаў пра гэта, бо паглядзеў на зялёнае пракаветнае дрэва, і ў вачах ягоных успыхнула сумнае дрыготкае святло.

— Пакуль дойдзеце да Бабруйска, пакуль вас абмундзіруюць і выдадуць зброю, вайна ўжо скончыцца,— сказаў я, каб развеяць невясёлыя бацькавы думкі. Бацька глянуў на мяне, не сказаў ні слова, толькі ўздыхнуў.

Назаўтра трыццаць шэсць нашых мужчын і старэйшых хлопцаў пашлі ў Бабруйск на прызыўны пункт. Некаторыя былі на падпітку, Рыгор Дулебенец, ляснік, нават спрабаваў танцаваць, нялоўка махаючы вялікімі рукамі. Галасілі жанчыны, плакалі дзеці. Мы, моладзь, трымаліся бадзёра, нават весела, крычалі сваім старэйшым таварышам: «Хутчэй біце Гітлера і вяртайцеся назад! Чакаем вас дома на Пятра!» Пятроў дзень, як вядома, дванаццатага ліпеня. Мы лічылі, што праз васемнаццаць-дваццаць дзён вайна будзе скончана, з нашай, зразумела, перамогай.

Бацька быў цвярозы. Ён і да вайны мала піў, толькі хіба з раённым начальствам, якое час ад часу прыязджала правяраць ферму. Бацька быў у шэрай світцы, у зімовай (гэта ў летнюю спёку) шапцы. Ён тройчы пацалаваў нас усіх — маму, Маню, мяне. Вочы ў яго былі сухія, як бы падмарожаныя. Ён пацалаваў нас, прыпыніўся насупраць хаты і раптам сказаў маме: «Давай я табе, Лізавета, напаследак вады прынясу». Пабег у хату, узяў два вядры, зачэрпнуў з калодзежа халадзёнкі. І тут мама з Маняю загаласілі. Гэта галашэнне аглушыла мяне, як бы разбудзіла. Я зразумеў, што вайна ёсць вайна, што нават у самую кароткую вайну, у вайну, якая цягнецца адны толькі суткі, некага можа забіць пакалечыць. І гэтым чалавекам, мёртвым ці пакалечаным можа стаць мой бацька, Іван Аляксеевіч Памалейка. Я прыкусіў губу, каб не заплакаць.

«Чаго разнюніліся?!» — крыкнуў раптам па маму і Маню Рыгор Дулебенец і ляпнуў бацьку па плячы: — Давай станцуем, Іван!» Ён дробна затупаў цяжкімі нагамі, заспяваў:

А Лявоніха, такую тваю маць,
Не хадзі маю капусту ламаць!

«Ідзі спакойна, чалавеча»,— сказаў яму бацька і пайшоў па нашай вузкай пыльнай вуліцы, ад нашай хаты, ад нашай ліпы і болей не азірнуўся.

«Іванка!» — ірванулася яму наўздагон маці, але ён быццам не пачуў яе.

— Як у мяне баляць ногі і рукі! Навошта столькі болю заклала у чалавека прырода? Здаецца, я хутка зламлюся не вытрымаю пакут. Праца ў арбайтскамандзе, а тут яшчэ гэты пракляты футбол... І вечны голад, вечны голад... Раніцой — кавалачак хлеба з «гонігам» або з мікраскапічным скрылечкам каўбасы, якую немцы завуць «вуршт» З якой толькі дрэні робяць гэты «вуршт»? Каўбаса — як гумовая ад яе пячэ ў роце. У абед выдаюць міску жоўтага нішчымнага супу з сушанай бручкі. Кожны дзень я адчуваю, што ўсё больш худзею. У галаве кружыцца, вушы нібы заткнуты ватай і раптоўна, асабліва раніцой, пачынаецца вострая рэзь у жываце, быццам наглытаўся жалезных цвікоў. Рыгор Невідовіч кажа, што гэта сімптомы дыстрафіі, што трэба раніцой ва умывальніку піць ваду, і страўнікавы сок не так будзе апальваць сценкі галоднага страўніка. Які наедак з той іржавай вады, Але я п'ю, я прымушаю сябе піць яе.

Нарэшце на блок апускаюцца сны. У кожнага чалавека-нумара свой сон, але ўсе сны, разам узятыя, напоўнены жахамі, кашмарамі Пекла і ў сне не хоча даць палёгку людзям ва усіх кутках блока стогнуць, крычаць праз сон, плачуць праклёны і мольбы зрываюцца з людскіх вуснаў. Толькі адзін раз я пачуў, як малады светлавалосы хлопец, настаўнік з-пад Оршы раптам засмяяўся ў сне і сказаў, шчасліва задыхаючыся: «Ой, Галя, ой, не трэба... Не шчыкачы мяне так...»

Заснуць, толькі заснуць... Сон дасць адпачынак, хоць маленькі адпачынак душы і целу. Раней, да вайны, калі мне не спалася я ведаў, як трэба прымусіць сон прыйсці да майго ложка. Я заплюшчваў вочы, стараўся ні аб чым не думаць і лічыў... Лічыў да сотні, да пяці соцень, да тысячы... Калі ж і гэта не памагала, я ўсё роўна лічыў, але ўжо не лічбы выстройваліся ў маёй галаве, а што-небудзь прадметнае, канкрэтнае. Напрыклад, я лічыў авечак або лебедзяў. Авечкі і лебедзі павінны былі абавязкова быць белыя, пушыстыя, мяккія. Але тут, у

гэтым блоку, у гэтым шталагу, белыя авечкі і белыя лебедзі ніводзін раз не прыходзілі і не прыплывалі да мяне, як я ні стараўся.

У шэсць гадзін раніцы — пад'ём. Са сваімі матрацамі, голыя па пояс, выбягаем на фіззарадку — выдумка, новаўвядзенне Курта Шмальшлегеля. Папярэдні камендант лагера да гэтага не дадумаўся і быў больш лагічны ў сваіх дзеяннях. Сапраўды, навошта будучаму трупу развіваць мускулатуру? Але алімпійскі чэмпіён Курт Шмальшлегель і тут быў наватарам. Чалавечае цела створана для працы і для спорту, для руху, для бегу. І мы бегаем па пляцы, як вар'яты, як заведзеныя машыны. Аркестр са зняволеных стаіць па спецыяльным дашчаным памосце пасярод пляца і грае «Калінку» або «Кракавяк». Аркестранты таксама голыя па пояс. Спёка ці дождж, вецер ці туман — чалавечае цела павінна ў час фізічных практыкаванняў быць голым. Так было заведзена ў старадаўніх германцаў. Так і толькі так выхоўвае сваіх рабоў Курт Шмальшлегель. Бегаем дваццаць або трыццаць кругоў па пляцы. Гледзячы які настрой у Шмальшлегеля. Звычайна нехта спатыкаецца, нехта падае. І тады ўсіх чакае пакаранне — «гусіны крок». Рукі сашчэплены на патыліцы, галава прыўзнята, спіна павінна быць прамой... І вось так, прысеўшы, трэба прайсці круг па пляцы, па сыпучым рыжым пяску. Амаль ніхто не праходзіў гэты круг. Усе падалі тварамі ў пясок. Падаю і я... А потым — выбіванне матрацаў, потым — кавалачак сухога хлеба з «гонігам», брудны цесны вагон «купнікі», маладыя, адлучаныя ад усяго, што не тычыцца службы, твары аўтаматчыкаў, кар'ер, мокры або сухі шчэбень, кайло, рыдлёўка, рыпучы трос ваганеткі... А потым, кожную суботу для нас, хто меў некалі няшчасце гуляць у футбол,— абавязковы матч.

Сёння дваццатае красавіка тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года. Пяцьдзесят пяць гадоў назад у аўстрыйскім горадзе Браўнаў нарадзіўся Адольф Шыкльгрубер. Яго трэба было наогул не пускаць на гэты свет, але ён нарадзіўся, быў спачатку смаркатым хлапчуком, потым бяздарным мастаком, пасля палітычным паяцам і аратарам, дэмагогам, а сёння ён — Адольф Гітлер, «бацька германскай нацыі, звышчалавек і фюрэр». У шталагу, як і ва ўсім рэйху, урачыстасці. Сёння трыццаць чалавек зняволеных, у тым ліку мяне і Рыгора Невідовіча, не павезлі, як звычайна, у кар'ер. Было ўсё — пад'ём, фіззарадка, «гусіны крок», выбіванне матрацаў але пасля сняданку Шмальшлегель адабраў нас, гэтых трыццаць чалавек, і асабіста, з эскортам аўтаматчыкаў, павёў з лагера Мы ішлі па пясчанай прыморскай зямлі, пад парывамі свежага ранішняга ветру і не ведалі, куды нас вядуць.

— Можа хочуць у ахвяру нас прынесці ў гонар дня нараджэння іхняга яфрэйтара-вар'ята,— нявесела пажартаваў Рыгор Невідовіч.— Завядуць куды-небудзь у ціхае месца і зарэжуць, як бараноў.

З сумам гляджу я на пустынную прыморскую раўніну дзе усюды пясок, дзе шумяць пад ветрам астраўкі сухой калючай травы. Цяжка адшукаць больш невясёлае месца Няўжо давядзецца тут загінуць, так і не пабачыўшы сваю Беларусь? Не, я не павінен загінуць, мне трэба жыць, бо я яшчэ такі малады. Якая карысць людзям, усяму свету, калі загіну я? Якая ім карысць, калі мяне не будзе? Але ж загінулі Федзя Паляшчук і Фелікс Пчыцкі. Кожны дзень гінуць людзі, бо для таго і створаны гітлеры і Шмальшлегелі, каб гінулі людзі.

Я думаю пра Палешчука і Пчыцкага. Цудоўныя былі хлопцы, рашучыя, адважныя. Плюнулі ў морду Шмальшлегелю, не пабаяліся смерці. Я, пэўна, так не змог бы. Я сам усей душой, кожнай клетачкай сэрца ненавіджу фашыстаў, а так зрабіць, як зрабілі Паляшчук з Пчыцкім, не змог бы. Я не вінаваты, што ў мяне жыццё ўклала большы ахоўны рэфлекс. Яны — героі, я — просты, маленькі, смяротны чалавек І я павінен зашпіліць душу на ўсе гузікі. Я не вінаваты, што ў мяне жыццё ўклала большы ахоўны рэфлекс, чым у Палешчука.

Старадаўнія індыйскія філосафы-будысты яшчэ задоўга да нашых дзён стварылі вучэнне аб пратэізме. Пратэізм — гэта здольнасць жывой істоты прымаць самыя разнастайныя формы. Будысты вучылі, што чалавечая душа не памірае, а толькі пераўтвараецца, пераліваецца ў іншыя формы. Чалавек можа пераўтварацца ў кветку лотаса, у тыгра, у гадзюку, у дрэва, у птушку. І гэтак — бясконца, пакуль не дасягне нірваны. Нірвана — гэта вышэйшы стан чалавечай душы, узнагарода за сумленнасць і дабрачыннасць у папярэднім жыцці гэта тое, да чаго павінен імкнуцца кожны чалавек

Я — атэіст і не веру ў бессмяротную душу і яе пераўтварэнні. Мне сёння патрэбен толькі пратэізм. Каб выжыць каб ацалець у гэтым пекле, я і мая душа павінны навучыцца прымаць самыя разнастайныя формы. Я ніколі не ператваруся ў гадзюку, не надтачу сваё жыццё за кошт жыцця іншых рабоў Шмальшлегеля. Я буду змагацца за сябе і ніколі не зраблюся падонкам, не здраджу таварышам, Радзіме. Ужо тое, што я выжыву, будзе пляўком у твар фашызму, у твар смерці. Але я буду змагацца ў адзіночку, нікому не адкрыю сябе, нават Рыгору Невідовічу. Я не вінаваты, што ў мяне жыццё ўклала большы ахоўны рэфлекс.

Праз гадзіну, а мо.і болей мы дайшлі да невялікай дубровы, якая пачынала ўжо зелянець. Магутныя высачэзныя дубы раслі на пясчаным, прадзьмутым вятрамі ўзгорку, з якога было відаць шэрае

неспакойнае мора. Дубы стаялі шарэнгамі, падставіўшы моцныя шырокія грудзі марскому ветру. Некаторым дрэвам было гадоў семсот — восемсот, не меней. Птушкі пырхалі па галінках, сонечныя промні падалі на зялёную траву.

Шмальшлегель загадаў калоне спыніцца. Аўтаматчык паднёс яму раскладное паходнае крэсла, і ён сеў на яго, выпрастаўшы ногі, зняўшы з галавы фуражку. Твар у каменданта быў задумліва-лагодны. Не верылася, што ў гэтага фашысцкага ўдава можа быць такі чалавечы твар.

— Ведаеце, дзе вы знаходзіцеся? — спытаў у сваіх рабоў Шмальшлегель,— Вы знаходзіцеся ў свяшчэнным лесе. Гэтыя дубы,— ён шырока павёў рукою,— сімвал вечнай Германіі. Яны растуць тысячу гадоў і яшчэ будуць расці столькі ж. Так, як і наш нацыянал-сацыялісцкі тысячагадовы рэйх. Вам аказана найвялікшае давер'е. Сёння вы зможаце ўбачыць, як адзначае германскі парод дзень нараджэння свайго генія — Адольфа Гітлера. Сёння сюды прыйдуць нямецкія дзеці з букетамі кветак, з партрэтамі нашых багоў і нашых герояў. Каэфіцыент інтэлектуальнасці ў вас, славян, значна ніжэй, чым у германскай расы. Глядзіце і вучыцеся, як трэба шанаваць свае святыні, сваю нацыянальную ідэю. Свята пачынаецца праз гадзіну. Да пачатку свята вы павінны навесці парадак у свяшчэнным лесе — усё падмесці, падчысціць, падабраць галінкі і смецце. Вашу работу я буду прымаць асабіста і папярэджваю: таму, хто ўздумае лайдачыць, не паздаровіцца.

— Цьфу на цябе з тваім свяшчэнным лесам,— злосна плюнуў Рыгор Невідовіч, калі Шмальшлегель з аўтаматчыкамі адышліся,— Прыйдуць нашы, вазьму сякеру і адзін (адзін!) звалю ўсе твае трухлявыя дубы.

Ён ударыў нагою па дрэве і яшчэ раз плюнуў. Але што паробіш — загад ёсць загад, і мы ўзяліся за нямілую работу.

Я збіраў апалае дубовае сучча, леташняе ржавае лісце і ўспамінаў свой лес. Як ён далёка ад мяне! Я ўстамінаў светлыя бярозавыя гаі, змрочныя старыя ельнікі, залатыя восеньскія асіннікі, меднаствольныя сасновыя бары. Я, здаецца, чуў, як шуміць у іх вецер, як блукае рэха ад звонкіх дзіцячых галасоў. У нас не называлі лес свяшчэнным, у нас яго любілі і любяць, як бацьку. Што Беларусь без лесу? Нішто. У лясах пачыналася Беларусь. Усё даваў лес: дрэва для хат, лучыну для цёмнай ночы, драўнінны вугаль, смалу, шкіпінар, кару, мох, грыбы, ягады, арэхі. А яшчэ даваў цішыню, птушыную песню, пах вясновай кветкі, закаханы рык аленя, мудрую мітусню мурашоў, танец матылькоў і сонечных промняў, празрыстасць і сіняву булькатлівых крыніц.

А яшчэ даваў прытулак для пакрыўджаных і няскораных, для змагароў і мсціўцаў.

У «свяшчэнным германскім лесе» я ўспамінаў сваю партызанскую зямлянку.

...У лес мы пайшлі ўлетку сорак трэцяга года. Ужо ў сорак першым быў у нашай акрузе партызанскі атрад, пераважна з акружэнцаў і тых мясцовых людзей, якіх райком партыі пакінуў у тыле ворага для падпольнай работы. Цяжкую яны перанеслі зіму. Мала было зброі, прадуктаў, не было цёплых зямлянак і зімовага адзення, не было сувязі з Вялікай зямлёй. Людзі абмарожваліся, хварэлі, хадзілі ў абносках і ледзь не ў лапцях, пакутавалі ад недаядання.

Да лета сорак трэцяга года я, як амаль уся моладзь нашай вёскі, быў дома. Мы трымалі сувязь з партызанамі Лівенцава, чакалі, калі нам дазволяць выйсці ў лес. Сяргей Міхалап, наш былы школьны камсорг, нерваваўся, гарачыўся, перажываў, што ў такі адказны час мы апынуліся як бы збоку прыпёку. Ён надумаў пісаць лістоўкі, і мы пісалі іх і расклейвалі ў вёсцы і ў мястэчку. Мы хадзілі на Бярэзіну збіраць зброю на месцы цяжкіх баёў сорак першага года.

Я добра памятаю, як першыя нямецкія аўтаматчыкі завіліся ў нашай вёсцы. Гэта было чацвёртага ліпеня, пад вечар. Ад мястэчка, якое гарэла, яшчэ далятаў грукат, гуд. За дзень перад гэтым у мястэчку расчынілі дзверы прадуктовых і прамтаварных магазінаў. Казалі, што сам Сталін загадаў гэта зрабіць. Людзі рынуліся з усіх вёсак у мястэчка. Пабегла і мая сястра Маня, але толькі прынесла адтуль дадому тры валёнкі з белай воўны, і ўсе як адзін на левую нагу. А людзі бралі цукар, соль, мыла, запалкі, гарэлку, мануфактуру. На чыгуначнай станцыі, на прадуктовай базе, загадчык магазіна Шалай зачыніў дзверы на замок, а ключ закінуў у калодзеж. Сам стаў каля дзвярэй, раскінуўшы рукі, і ўгаворваў жанчын і падлеткаў (мужчын амаль не было — усе пайшлі на зборны мабілізацыйны пункт у Бабруйск) не рабаваць народнае дабро.

Першыя немцы ўехалі ў нашу вёску на веласіпедах. Мы ўжо наслухаліся ад адступаючых чырвонаармейцаў пра грозную нямецкую тэхніку, пра іхнія танкавыя «кліны» і чакалі з'яўлення механізаванай армады. А немцы, павесіўшы аўтаматы на шыі, закасаўшы рукавы, ехалі на веласіпедах, быццам былі нейкімі турыстамі. Яны весела размаўлялі між сабою, паказвалі пальцамі на саламяныя стрэхі хат, на калодзежныя жураўлі і смяяліся. Асабліва крыўдным быў гэты смех для нас, моладзі. Дзе ж наша армія, дзе нашы танкі і самалёты? Чаму вораг нахабна едзе па нашай вуліцы, нават не здымаючы з шыі аўтамат?

Немцы спыніліся насупраць нашай хаты, прыхілілі да плота свае веласіпеды і пайшлі не ў двор, а ў сад. У нас быў добры малады сад. Перад вайной мы з бацькам ездзілі ў Слуцк, купілі там саджанцаў. Яшчэ ў нашым садзе стаяла пяць калод пчол — бацькава гордасць. Немцы, што зайшлі ў наш сад, як аказалася, былі вялікімі аматарамі мёду. Яны адразу накіраваліся да вулляў. Усё ў іх было пад рукой — пэўна, ласаваліся мёдам ад самай граніцы. Высокі чорнавалосы салдат прынёс з сабою дымакур, і неўзабаве пчолы, што праявілі спачатку агрэсіўнасць, былі пераможаны густым едкім дымам. Немцы паваліліі вулей на зямлю і пачалі рассякаць яго сякерамі — у іх і сякеры былі з сабою.

— Хутчэй прынясі вядро,— зайшоўшы на наш двор, загадаў мне чорнавалосы.

Я стаяў як аглушаны. Усё было такім нечаканым, такім нерэальным. Яшчэ паўгадзіны таму назад я думаў, якія яны, немцы, фашысты, што ўварваліся ў наш край, што захапілі Беласток, Мінск, Бабруйск, куды пайшлі на зборны пункт усе мужчыны з нашай вёскі. І вось ён, фашыст, стаіць перада мною і нецярпліва тупае нагой, і ў вачах ягоных сталёвы бляск. Ён можа зняць з шыі аўтамат і адзінай чаргой перакрэсліць маё жыццё.

— Варушыся! — незадаволена крыкнуў немец.— Ты што — аглух? Мне трэба вядро.

Я вынес яму з сенцаў вядро, ён пагардліва глянуў на мяне, шмарганув вядро з маіх рук і пайшоў у сад. Там, у садзе, яны даставалі мядовыя соты з рассечанага вулля, складвалі ў вядро, потым селі на нашу лавачку і пачалі есці мёд. І ўвесь час смяяліся.

Якраз перад гэтым, як мы пайшлі ў лес, да партызанаў, у мястэчку злавілі з лістоўкамі Сяргея Міхалапа. Злавілі Сяргея не немцы, а мясцовы паліцэйскі Іван Бакавень. Ён звязаў Сяргею рукі сваёй папругай і прыгнаў яго ў камендатуру. Пры вобыску ў Міхалапа знайшлі лістоўкі і камсамольскі білет. Камсамольскі білет Сярожа хаваў звычайна пад палком у лазні. Але, ідучы на заданне, абавязкова браў яго з сабой. «Я — камсамолец,— казаў ён нам,— і калі я выконваю партыйнае даручэнне, іду біць фашыстаў, камсамольскі білет павінен быць разам са мной, саграваць мне сэрца».

Сяргея страшэнна білі. Два дні з былога Дома культуры, дзе размясціўся начальнік паліцыі, даляталі крыкі і стогны. Але Сярожа нікога не выдаў. На легкавой аўтамашыне яго прывезлі ў нашу вёску і павесілі ў школьным парку.

Так я апынуўся ў партызанскім лесе і ніколі не думаў, што праз дзесяць месяцаў буду падмятаць «свяшчэнны германскі лес».

— Ідуць,— сказаў Рыгор Невідовіч. Да лесу набліжалася калона дарослых і калона школьнікаў. Школьнікі, хлопчыкі і дзяўчынкі, былі ў карычневых куртках і ў сініх скураных шортах. Імі камандаваў настаўнік, высокі аднарукі мужчына.

— Зняць шапкі! — загадаў нам Шмальшлегель. Ён расправіў плечы, наструніўся, выкінуў руку ў фашысцкім прывітанні. Калона школьнікаў прайшла каля нас так блізка, што да любога з іх я мог дакрануцца рукою. Маленькія немцы нават не зірнулі па нас, нібы мы былі дрэвамі гэтага лесу. Яны глядзелі толькі на свайго аднарукага настаўніка, маршыравалі і неслі партрэты Бісмарка, Гіндэнбург, Гітлера і паганскага бога Вотана, абвітыя кветкамі і дзеразою. Нарэшце калона спынілася, і дзеці, пры дапамозе дарослых, пачалі развешваць на дрэвах партрэты. Усё гэта рабілася моўчкі, дужа сур'ёзна, у нейкім рэлігійным экстазе. Ды, па сутнасці, гэта і была адна з містэрый «новай рэлігіі», якую стваралі ў Германіі Гебельс і яго памагатыя. Я глядзеў на ўсё гэта прадстаўленне і ніяк не мог уцяміць, для каго паказваецца спектакль з партрэтамі па дубах — для нас ці для саміх немцаў? Калі для нас, то не трэба старацца. Германскай культурай і цывілізацыяй усе мы былі ўжо сытыя па горла. Культуру і цывілізацыю спраўна ўводзіў у нашы душы праз нашы спіны Курт Шмальшлегель. Усё-такі гэта, напэўна, рабілася для саміх немцаў. І дарослыя, і дзеці, яны так хацелі верыць у сваю звышчалавечнасць, у сваю гістарычнасць. Магутны дубовы лес павінен быў напомніць ім аб гераічных продках, аб закаваных у сталь рыцарах, якія па бурным Балтыйскім моры плылі на ўсход, высаджваліся на незнаёмых багатых берагах, скаралі слабыя паганскія народы: усіх гэтых прусаў, эстаў, ліваў. Там яны сутыкнуліся са славянамі, ударылі германскім таранам у славянскую сцяну. Хутка, вельмі хутка славянства будзе пастаўлена на калені, і як прадвеснік гэтага — купка славянскіх рабоў, рускіх, беларусаў, палякаў, што стаяць, зняўшы шапкі, у “свяшчэнным германскім лесе”.

Ды тут здарыўся невялічкі канфуз. Дзесяцігадовы прадстаўнік нардычнай расы, прыгожы белавалосы амурчык, ад залішняга балявання, ад усведамлення сваёй прыналежнасці да нашчадкаў Бісмарка і Барбаросы, так расчуліўся, што не заўважыў, як яго сінія штонікі ў адпаведным месцы зрабіліся мокрымі. Як на той грэх, правіннасць гэта кінулася ўсім у вочы: і аднарукаму настаўніку, і аўтаматчыкам і Курту Шмальшлегелю, і, што самае жахлівае палонным — рускім, беларусам і палякам. Замест таго, каб, заміраючы сэрцам, глядзець на партрэты Бісмарка, Гіндэнбурга, Гітлера і бога Вотана, усе глядзелі на сінія мокрыя штонікі.

— Пауль! — закрычаў аднарукі настаўнік.— Як ты мог такое зрабіць, Пауль?! У такім месцы?!

Ён падбег да белавалосага амурчыка і сваёй адзінай рукою ўхапіў яго за вуха. Ад страху, ад разгубленасці і сораму Пауль зрабіў тое, што зрабіла б на яго месцы кожнае дзесяцігадовае дзіця — заліўся горкімі слязамі.

— На цэлы месяц ты пазбаўляешся права хадзіць у свяшчэнны лес,— холадна сказаў настаўнік і адвярнуўся ад беднага Паўля. Паўля вывелі з калоны, і сівая бабулька, праправнучка грозных германскіх дзеў-валькірый, пашыбавала з ім глыбей у лес, туды, дзе лес гэты быў трохі менш свяшчэнны.

Прадстаўленне пайшло далей, але дзеці былі ўжо не такія як да здарэння з Паулем. З паглядаў знікла фанатычнасць, вочы палюднелі пэўна, кожны з іх думаў пра тое, каб, не дай бог, не паўтарыць правіннасць Паўля. Я ўбачыў, як на мяне крадком пазірае маленькая кірпаносая дзяўчынка. Вялікія сінія вочы, у якіх так і гарацъ здзіўленне, цікаўнасць. Доўгія светлыя валасы, перавязаныя сіняй стужкай. Тыповая прадстаўніца арыйскай расы. Якая-небудзь Эльза або Крысціна. Сустрэў бы такую па Міншчыне ці на Палессі і ні кропелькі б не здзівіўся, што яе завуць Волькаю, Кацяю, Алесяй. Аб чым ты думаеш, белавалосая снягурачка? Які страшны савецкі палонны? Ці не есць ён дзяцей? Не. Я не ем дзяцей. Я ўмею расказваць казкі, і, калі б ты разумела па-беларуску, я расказаў бы табе казку пра хлопчыка Пакацігарошка. Я ўмею выразаць свісткі, гуляць у снежкі, катацца на санках, шукаць у лесе грыбы.

Дзеці маршыруюць па лесе, паднятымі рукамі вітаючы партрэты Бісмарка, Гіндэнбурга, Гітлера і бога Вотана. З гэтых дзяцей павінны вырасці маленькія фюрэрчыкі, якія панясуць германскую ідэю аж да Урала. Ды мне верыцца, што дзяўчынка з сінімі вачамі будзе жыць інакш, чым яе вучаць. Не звышчалавечнасць, а чалавечнасць убачыў я ў асцярожным дзіцячым позірку.

Пасля «свяшчэннага лесу» нас зноў пагналі у кар'ер. Шмальшлегель быў дужа злы, лютаваў, біў па галовах парасонам, пэўна, не мог нам дараваць, што мы бачылі, як у малога Паўля адмакрэлі штонікі.

Зноў шталаг, зноў блок, зноў рыпучыя нары. Дзіўна, што ўва мне яшчэ тлее жыццё. Часам нахлыне такая абыякавасць, такая разбітасць, што робіцца нецікавым і мінулае, і будучае.

На нарах унізе ляжыць Рыгор Невідовіч. Як здранцвеў, уткнуўся тварам у матрац і, здаецца, нават не дыхае. Апошнім часам Рыгор стараецца абыходзіць мяне. Раней як браты былі. А з месяц назад пад вялікім сакрэтам Рыгор, калі мы працавалі ў кар'еры, сказаў мне, што

ў шталагу есць надзейныя баявыя хлопцы, адным словам, ёсць падпольная арганізацыя зняволеных, якая пад час наступлення Чырвонай Арміі рыхтуе ўзброенае паўстанне, і што я, як камсамолец, як савецкі грамадзянін, павінен стаць членам гэтай арганізацыі. Я тады нічога яму не адказаў, сказаў, што падумаю. Ён паглядзеў на мяне здзіўлена, як бы ўпершыню ўбачыў звузіў шэрыя вочы і прашаптаў: «Не ведаў, што ты такі. За сваю шкуру калоцішся? Пра Радзіму забыўся? Ну, глядзі, папярэджваю — калі хоць слова каму-небудзь скажаш аб нашай размове, з кар'ера не вернешся». Быццам я магу стаць здраднікам, я!

Рыгор ляжыць нерухома, нібы спіць. Але па ягоным дыханні я вызначаю, што ён прыкідваецца, што не спіць ён, а... спявае. Так, так — спявае. Хоць наўкол трыста чалавек, хоць ніхто яго не чуе, ён, Рыгор Невідовіч, спявае. Я адкрыў гэты ягоны сакрэт выпадкова. Я нават ведаю, якую песню ён спявае штовечар. «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...» Ён ляжыць, уткнуўшыся тварам у каляны матрац, зняволены, знясілены чалавек-нумар, з якога кожны дзень па кроплі выціскаюць жыццё, і спявае песню, шэпча яе ціха-ціха аднымі вуснамі. «Глянь іншы раз на яе у расстанні...» Ён бачыць яе гэту дзівосную зеленавата-блакітную зорку, якая ззяе над роднымі палямі, над светлымі крыніцамі, над шырокімі шляхамі. Гэта песня — ягоная штовечаровая малітва, каб не яна, даўно б ён загінуў, стаў попелам.

Я зайздрошчу Рыгору. У мяне няма такой песні. Я залішне рацыянальны чалавек, каб разменьваць душу на сантыменты. У нас і ў сям'і сёстры з маці любілі спяваць, а я не. Ці мне, як кажуць, мядзведзь на вуха наступіў, ці што іншае.

А тут я зайздрошчу. Справа, вядома, не ў песні, а ў той надзеі, якую яна дае.

Рыгор Невідовіч пачаў пазбягаць мяне. А ў чым мая віна? У тым, што я хачу жыць, хачу вярнуцца ў родную вёску? Я не салдат. Я звычайны чалавек, я маленькі чалавек, калі на тое пайшло. Я не герой. Проста ў мяне жыццё ўклала большы ахоўны рэфлекс.

Я ляжу на сваіх нарах, і мне хочацца заплакаць, але слёзы не прыходзяць. Мне робіцца так шкада сябе, маладога, безабароннага, змучанага. Хіба думаў я калі-небудзь трапіць у гэта пекла?

Са мной у атрад прыйшло сямёра нашых хлопцаў і тры дзяўчыны. У партызанскім атрадзе мне не знайшлося вінтоўкі. «Партызан павінен сам сабе здабыць вінтоўку ў баі», — сказалі мне. Выпадковасць гэта ці не, але вінтоўкі чамусьці не хапіла толькі мне аднаму. Тады я, памятаю, пакрыўдзіўся расхваляваўся. Думаў, што мне не

давяраюць. Я ж прыйшоў фашыстаў біць, я жыцця свайго не шкадую, а тут так сустракаюць.

Паслалі трое дзяўчат і мяне на лясную кухню. Дзяўчаты вядомая справа, чыгуны і міскі мыюць, бульбу абіраюць, крупеню вараць. Мяне ж адказным за нарыхтоўку дроў прызначылі. Гэта толькі здаецца, што ў лесе, куды ні глянь, дровы валяюцца. А калі гэтых дроў трэба нарыхтаваць на трыста чалавек, а калі цэлы тыдзень дождж ілье і ўсё наўкол прамокла да іголачкі? Рукі ў мяне ўвесь час у крывавых мазалях былі Я гэтыя мазалі хаваў ад атрадных медыкаў, не хацеў, каб бачылі. Пачнуць лячыць, хлопцы пачнуць насміхацца — есць жа прымаўка такая: «Гультай за дзела — мазоль за цела». Гультаём я сябе ніколі не лічыў, але навошта без асаблівай патрэбы людзям на язык трапляць?

— Якія ў цябе страшныя рукі, Ванечка,— сказала мне аднойчы Ніна Салавей, калі мы разам з ёю сядзелі на паляне пад бярозамі і абіралі бульбу. Ніна была прыгажуня, але не гордая прыгажуня, а сарамлівая, ціхая, з тых мілых дзяўчат якія вырастаюць у лясных беларускіх вёсках. Росту невысокага, з доўгай цёмна-русай касой, вочы васільковыя, чыстыя заўсёды як бы трошкі здзіўленыя. Калі Ніна гаварыла ці смяялася, на загарэлых яе шчоках з'яўляліся сімпатычныя ямачкі. Я чуў, што ў народзе ямачкі на шчоках лічацца прыкметай добрага характару, душэўнага здароўя.

— Ты ж сябе так можаш пакалечыць, Ванечка.

Ніна ўзяла мае рукі ў свае, павярнула іх далонямі ўгору, пагля-дзела сінявата-бурыя мазалі і асцярожна пачала хукаць на іх. Хоць яна была маёй равесніцай, яна здавалася ў гэтыя імгненні клапатлі-вай, турботлівай маці. У мяне ажно дыханне пераняло. Я сядзеў не варушачыся, глядзеў на схіленую над маімі далонямі русую Ніціну га-лаву, на прыгожае маленькае вуха з ружовай пяшчотнай мочкай. Мо-чка была пракалата для завушніцы. Завушніца, малюсенькая залатая кропелька, ззяла на сонцы.

— Схадзі да ўрача. У цябе ж бог ведае што можа здарыцца. Заражэнне можа быць. Схадзі.

— Няёмка, Ніна.

— Чаму няёмка?

— Столькі параненых... Жарнасеку вунь нагу адарвала. А я прыйду са сваімі мазалямі...

— Дурненькі ты,— ласкава ўсміхнулася Ніна.— Ці мазоль, ці куля — усё роўна баліць. Пачакай, я табе трыпутніку на рукі пакладу.

Праз колькі часу яна клала на мае мазалі халоднае лісце трыпу-тніку, разарваўшы сваю белую хустачку, перабінтоўвала мне далоні. У

мяне калацілася сэрца ад удзячнасці і пяшчоты. Я пацалаваў Нініну руку.

— Ой, што ты,— яна хуценька схавала руку за спіну, прыкусіла губу. Шчокі ў яе мякка заружовіліся, цёмныя вейкі затрапяталі, яна мне здалася такой прыгожаю, блізкаю і адначасова таямнічаю. Ды ці тая гэта Нінка, што сядзела на першай парце перад самым сталом настаўніка? Калі мы выходзілі да дошкі і пачыналі «плаваць», ведалі, што Ніна Салавей кіне выратавальны круг — шапне хоць адно слоўца падказкі. За гэта яе часта распякалі настаўнікі, а наш класны, фізік Яўген Пятровіч, смяяўся і гаварыў: «Ну-ну... Зноў салоўка заспяваў!» Мы і мянушку ёй такую далі: «Зноў салоўка заспяваў». Сустрэнешся на вуліцы, убачыш яе прыгожую, заўсёды радасную ўсмешку і гаворыш: «Прывітанне, Зноў салоўка заспяваў!»

Усё-такі Ніна расказала аб маіх мазалях, і назаўтра мяне выклікаў у сваю зямлянку атрадны медык Рыгор Круглякоў. Глянуў на мае рукі, зморшчыўся, сказаў: «Панабіралі дзяцей. Табе дома сядзець, у крыжыкі-нулікі гуляць, а не партызаніць». Мяне дужа пакрыўдзілі такія словы, я хацеў запярэчыць, але Круглякоў гнеўна зірнуў на мяне, загадаў: «Сядзі і маўчы, салапет. На які ляд толькі я трачу медыкаменты! Вата і бінт у атрадзе на вагу золата, а тут...»

— Ну і не лячыце! — быў ускочыў я з сасновага чурбанчыка, на якім сядзеў. Ды Круглякоў зноў пасадзіў мяне, так ціскануў плячо, што яно з гадзіну пасля балела.

Была вайна, а наўкол квітнела лета, яркае, маладое, зялёнае. На зацішных лясных палянах чырванелі суніцы, птушкі вучылі лётаць сваіх птушанятак. Вечарам над нашым атрадам, над зямлянкамі, загаралася столькі зорак. Белае нябеснае святло ціха лілося на лясы. Сцежкі і паляны былі высцелены чорнымі ценямі дрэў. У вёсках у здзічэлых садах і агародах лопаліся ад спеласці слівы. А калі пачынаўся новы дзень, столькі было цёплага ветру, ляспога шуму, столькі сляпучага сонечнага бляску ў небе.

Мы з Нінай вазілі ваду на кухню. Запрагалі ў вялізную дубовую дзежку-двухколку рыжага марудлівага каня Графа і ехалі за паўкіламетра ад лагера да ляснога возера. З гэтага возера выцякаў ручай. Зеленавата-светлыя струмені вады там, дзе ручай вузеў, скручваліся ў жмут, кіпучы, шумны, пырсклівы. Калі я нахіляўся над ручаём, каб зачэрпнуць у вядро вады, мне абдавала твар тысячамі халодных, аж ледзяных, кропелек.

Я пакахаў Ніну, а яна пакахала мяне. Мы прызналіся адно аднаму ў сваім каханні і былі ў гэта лета шчаслівейшыя за ўсіх. Чалавечыя пачуцці ў хвіліны, калі чалавеку пагражае смяротная небяс-

пека, найбольш абвастраюцца, робяцца надзіва яркімі, поўнымі. Жыццё як бы прыспешвае чалавека.

Ездзячы па ваду, мы цалаваліся над ручаём. Сурова шумела халодная вада, шумеў лес, ад карэння да макавак заліты сонечным бляскам, флегматычны Граф сонна піў ваду з ручая, і з мяккіх тоўстых губ зрываліся буйныя кроплі, а мы цалаваліся. Мы кляліся ў вернасці, у вечным каханні, хоць ведалі, што жыццё чалавечае не вечнае, а партызанскае жыццё тым больш — кожную хвіліну можа напаткаць варожая куля. Але мы кляліся ў вечным каханні. Мы разам паўтаралі словы, вычытаныя ў адной кніжцы: «Сябра трэба любіць так, каб сустрэўшы лепшага, нават не аглянуцца на гэтага лепшага».

Праз паўмесяца і мяне накіравалі на баявое заданне. Праўда, вінтоўкі мне пакуль не знайшлося. Мяне прызначылі другім нумарам да кулямётчыка Марціна Белакурскага. Разам з Марцінам я нёс кулямёт «Максім» і скрынкі з патроннымі стужкамі да кулямёта. Так ішлі кіламетраў дзесяць. Я добра ўзмакрэў, падбіў ногі і быў вельмі рады, калі мы нарэшце спыніліся. У балоцістым бярозавым лесе наша група асядлала дарогу Клічаў — Бацэвічы. Я ляжаў трохі збоку ад Марціна. Ляжаць было нязручна, але я не варушыўся, памятаючы строгі загад камандзіра ўзвода Кандрата Купрэйчыка.

Пачыналася лясная светлая раніца. Капала з дрэў Туманок чапляўся за хмызнякі, абвяваў шчокі халадком. Гаманіла-спявала лясное птаства.

Я ляжаў, трымаючы ў руках патронную стужку, апусціўшы галаву, пырнуўшы тварам у лясную траву. Усяго за некалькі сантыметраў ад маіх вачэй па гнуткай светла-зялёнай сцябліне бегла, спяшалася чацвёрка рыжых лясных мурашоў У іхнім мурашыным свеце кіпела сваё жыццё. Я засланяў ім сонца, мой твар здаваўся ім, напэўна, вялізнай белай хмарай, якая закрыла ўсё мурашынае неба.

Марцін Белакурскі (яму было сорак гадоў, да ванны ён працаваў садоўнікам у нашым калгасе) лёгенька стукнуу мяне па назе сваёй нагой, абутай у гумовы бот. Я уздрыгнуў.

Гэта азначала: «Увага! Ідуць».

Я мацней сціснуў у руках патронную стужку, глянуў на лясную дарогу. Мы ляжалі на невысокай травяністай выспе, якая зарасла дзікім маліннікам і маладзенькімі бярозкамі і як бы навісала над дарогай. Метраў за трыццаць ад нашага кулямёта я ўбачыў нямецкі абоз. Фурманак дваццаць, нагружаных бітонамі з малаком, мірна паўзлі па дарозе. Вялізныя коні махалі кароткімі хвастамі. На пярэдняй фурманцы сядзеў пажылы немец з чырвоным заспаным тварам і іграў на губным гармоніку.

Я пачуў, як расчаравана ўздыхнуў Марцін Белакурскі. Я зразумеў яго — чакалі грузавікоў з салдатамі баявую тэхніку, а тут цягнецца па дарозе малочны абоз Ды для мяне павінен быў пачацца першы бой, мой першы бой, і мяне аж трэсла ад хвалявання.

Але ж чаму так упэўнена паводзяць сябе немцы? Гэта ж не сорак першы год, калі яны на поўны рост ішлі на Маскву ад заходняй граніцы. Чырвоная Армія і партызаны добра навучылі немца кланяцца кулям і поўзаць на жываце. Сталінград як абухом па галаве ўдарыў гітлераўскага звера, захісталася зямля ў яго пад нагамі. А гэтыя едуць, як да цёшчы на бліны. На дваццаць фурманак — дваццаць аўтаматчыкаў, не лічачых ездавых. Нешта тут не так.

Ды праз якое імгненне ўсё высветлілася. З двух бакоў дарогі, прачэсваючы лес, ішла ахова — каля роты салдат. Немцы ішлі ціха, выставіўшы ўперад чорныя кароткія лычы аўтаматаў. Мы б іх і не адразу заўважылі, каб не сарока. Яна спуджана застракатала, сарвалася са старой бярозы, на якой толькі што сядзела, і нізка паляцела над нашымі галовамі. І ў тую ж хвіліну пад бярозу выйшаў немец. Ён быў нізкарослы, з кароткімі тоўстымі нагамі. Каска была ссунута на вочы, і я толькі змог убачыць ніжнюю палову твару, зарослую карычневай шчэццю скіўіцу, якая рытмічна рухалася — пэўна, немец нешта жаваў. І адразу ж пустынную дагэтуль палянку запоўнілі немцы. Здавалася, яны выйшлі з дрэў — такім нечаканым было іхняе з'яўленне. Яны ішлі ў абсалютнай цішыні, як нейкія здані, што падняліся з забытых людзьмі лясных магіл. Але вось хруснуў пад неасцярожнай нагою сучок, і толькі тады я канчаткова пераканаўся, нібы гіпноз з сябе скінуў: «Немцы... Немцы зусім блізка. Во-во яны будуць на тым месцы, дзе ляжым зараз мы з Марцінам Белакурскім. Чаму ж не тсраляе Белакурскі? Чаму не камандуе Кандрат Купрэйчык?”

Я адч уў, як кончыкі пальцаў на руках і нагах затапляе агідны халадок. Мне падалося, што я адзін у гэтым летнім лесе, што нікога ў лесе няма, апрача немцаў, і вось-вось немцы падыдуць да мяне, убачаць мяне, і той з карычневай шчэццю на ніжняй скіўіцы, прашые мяне навылёт чаргой з аўтамата.

І раптам цішыня трэснула, рассыпалася на кавалачкі рухнула, як шкляная сцяна. Патронная стужка ажыла ў маіх руках, сутаргава папаўзла ў бок кулямёта. “Максім” грымеў над самым вухам. Немец з карычневай шчэццю на скіўіцы падрэзаны кулямётнай чаргой, ступіў крок уперад, выпусціў аўтамат, схапіўся за грудзі і мякка асеў у траву.

Аглушаны стралянінай, я заплюшчыў вочы як мага шчыльней прыціснуўся да зямлі. У мяне не было сіл расплюшчыць вочы,

здавалася, калі я расплюшчу із, здарыцца нешта непапраўнае. І гэта быў не страх, гэта было штосьці іншае, чым страх.

Раптам наш “Максім” папярхнуўся, замоўк. Праз імгненне даў некалькі стрэлаў — тах! тах! — і зноў змоўк.

— Заела! Стужка заела! — даляцеў да мяне разгублены крык Белакурскага. — Ах, такую тваю...

Я расплюшчыў вочы і ўбачыў, як Марцін, абліваючыся потам, злосны, з перакошаным тварам, стукае па замку кулямёта кулаком.

— Ваня, стужку заела! — крыкнуў мне Марцін і я ўбачыу, што ён гатоў заплакаць. Яшчэ я ўбачыў смяртэльна параненых немцаў. Рукі і ногі ў іх сутаргава рухаліся — здавалася, немцы хочуць паплыць па чырвонай ад крыві траве.

— Марцін, чаму замоўк? — перасільваючы страляніну, крыкнуў Кандрат Купрэйчык.

— Кулямёт заела, таварыш камандзір! Ніякай рады яму не дам! – ледзь не ўсхліпнуў Белакурскі.

— Баба ты, а не кулямётчык! — вылаяўся Купрэйчык. — Вернемся — на кухню пойдзеш! Дровы пілаваць пойдзеш!

— Ёсць, таварыш камандзір. Пайду на кухню. Дровы пайду пілаваць,— ціхім голасам, як бы з радасцю, сказаў Белакурскі. Ён прыўзняўся з зямлі, стаў на калена, дастаў з-за пазухі ватоўкі лімонку, зубамі рвануў чаку і, шырока размахнуўшыся, шпурнуў лімонку ў хмызняк, адкуль вырываліся вострыя чырвоныя язычкі аўтаматных чэргаў. І адразу ж упаў — куля прабіла правую руку.

— Ваня,— хацеў крыкнуць, але толькі прашаптаў Белакурскі.— Ваня... У мяне за пазухай яшчэ лімонка есць. Вазьмі яе... Дастань... Ваня...

Я глядзеў то на яго, то на хмызняк і палянку, адкуль стралялі немцы, і адчуванне, што гэта апошнія хвіліны майго жыцця, што зараз мяне заб'юць, было такім моцным, такім пякучым, ажно слёзы пацяклі з вачэй. Даўным-даўно, як быў я малы, мне, калі мяне крыўдзілі дарослыя, хацелася памерці, памерці назло дарослым. Але тая смерць мною задумвалася на дзень-другі, і не болей, каб толькі папалохаць сясцёр і маці з бацькам, каб ляжаць у труне і чуць, як яны плачуць, як раскайваюцца, што не любілі мяне. А тут...

— Ваня,— падкаціўся, падпоўз да мяне Марцін Белакурскі,— Бяры лімонку ў мяне за пазухай... Сам не магу... Бяры лімонку...

Ён сцякаў крывёю. Бінтоў у яго не было, і ён зубамі пачаў ірваць сваю кашулю, каб неяк перавязаць рану.

Я дастаў у яго з-за пазухі цёплую рубчастую лімонку, вырваў чаку І ў гэты міг мне чамусьці ўспомнілася, як за пазухай сваіх кашуль

мы калісьці насілі маленькіх птушанят. Я кінуў гранату туды, дзе на палянцы пад старой бярозай прыўзнімаліся з зямлі нямецкія салдаты... Я не пачуў выбуху бо адразу ж нейкая падсвядомая, непадуладная розуму сіла прымусіла мяне вужом папаўзці далей ад гэтай выспы, ад кулямёта, ад Марціна Белакурскага. Я поўз, прыціскаўся праплішчваўся да зямлі, і нейкія вострыя, цвёрдыя сцябліны драпалі мне рукі, твар. Я прапоўз некалькі метраў і сутыкнуўся, галава ў галаву, з камандзірам узвода Кандратам Купрэйчыкам.

— Назад, Памалейка! — загадаў мне Купрэйчык. У правай руцэ ён сціскаў пісталет, левай прытрымліваў за доўгі тонкі рэмень сваю палявую сумку-планшэт. Ён крыкнуў мне гэтыя два словы, крыкнуў рэзкім, адрывістым голасам і, нават не глянуўшы на мяне, папоўз туды, дзе каля кулямёта, курчачыся ад болю, ляжаў Марцін Белакурскі. Я папоўз услед за Купрэйчыкам. Я бачыў перад сабой падэшвы ягоных ботаў — сцёртыя, стаптаныя, з меднымі тоўстымі галоўкамі цвікоў.

Купрэйчык імгненна апынуўся за кулямётам і доўгай, неймаверна доўгай чаргою падрэзаў нямецкую пяхоту, якая ўжо набягала на выспу. Я быў за другога нумара, парахавы гарачы дым забіваў мне дыханне, я бачыў суровы, чырвоны, як бы высечаны з медзі твар Купрэйчыка, я бачыў у яго на правай руцэ сінюю выцвілую татуіроўку — якар, абвіты змяёю.

Кулямёт, што загаварыў у самы крытычны момант бою, вырашыў усё. Немцы адкаціліся ад выспы, пачалі адступаць у бок дарогі. Праз некалькі мінут адтуль, з дарогі, пачаў біць іхні мінамёт. Першая міна плёхнулася ў балота, метраўза дзесяць ад нас. Гук быў такі, як быццам парожняй бутэлькай ударылі па спакойнай роўнядзі вады. Асколкі тонка прапішчалі ў нас над галовамі. Пасыпаліся галінкі бяроз і асін. Мы з Купрэйчыкам падхапілі кулямёт і, прыгнуўшыся, пабеглі з выспы. Другая міна ўзарвалася на выспе, там, дзе секунд пяць назад былі мы. Выбуховай хваляй мяне ўдарыла ў спіну, я ўпаў, але адаразу ж узняўся на ногі і нават не выпусціў з рук кулямёта.

— Белакурскі! — крыкнуў Купрэйчык.

Ніхто не адказаў. Воблака дыму і тарфянога пылу вісела над выспай.

—Гатоў Марцін, — як бы сам сабе сказаў Купрэйчык, і ў гэты момант Марцін Белакурскі падбег да нас аднекуль збоку, прыціскаючы да грудзей прастрэленую руку, радасна ўсклікнуў:

— Жывы я, таварыш камандзір.

Я таксама узрадаваўся, што Белакурскі жывы. Ён падабаўся мне сваёй сялянскай разважлівасцю, сваімі роўнымі прыяцельскімі адносінамі да ўсіх партызанаў, у тым ліку і да мяне.

На душы ў мяне было маркотна. Я чакаў разносу ад Купрэйчыка за сваю палахлівасць, за тое, што ў самы крытычны момант кінуў кулямёт, кінуў параненага Белакурскага. Але Купрэйчык чамусьці і не ўспомніў пра гэта. Пэўна, палічыў, што ў першым баі кожны чалавек можа разгубіцца, асабліва малады чалавек. Ды мне здавалася, быццам усе партызаны, якія ўдзельнічалі ў нападзе на малочны абоз, пазіраюць на мяне з іроніяй і насмешкай. Толькі Ніна Салавей, мой верны, мой пяшчотны салоўка, глядзела на мяне шчасліва і закахана. І гэта была лепшая ўзнагарода за ўсе мае страхі, пакуты. Ёсць сэрца, што любіць мяне! Калі чалавеку васемнаццаць гадоў, гэта ягоная самая найвялікшая радасць. Толькі дзеля гэтага варта жыць на свеце, калі чалавеку ўсяго толькі васемнаццаць гадоў.

У марах я сягаў далёка ў заўтрашні дзень. Разаб'ём фашыстаў, вернецца бацька з фронту, вернецца Міша-гарманіст — бо якое ж без яго вяселле? — і мы з Нінай пажэнімся. Мы збудуем сабе новую хату. А потым у нас з'явяцца дзеці. Спачатку хлопчык, а за ім дзяўчынка, падобная на Ніну. Мы будзем любіць сваіх дзяцей, бо дзеці тыя — мы самі, толькі маленькія-маленькія.

Восенню, у дажджлівы лістападаўскі дзень, я, разам з Нінаю і з Барысам Крайко, пайшоў у вёску Бярозавае Балота, каб узяць там у мясцовай настаўніцы соль і медыкаменты, якія моладзь вёскі падрыхтавала для партызанаў. Пасля няўдалага для мяне бою я зноў быў накіраваны па кухню. Гэта, вядома, ударыла па маім самалюбстве, але я, цвяроза разважыўшы, што кулямётчык з мяне кепскі, вярнуўся да дроў і вадавознай дзежкі, тым больш што на кухні працавала Ніна. Ніна ў гэты час вучылася страляць, вучылася закладваць пад рэйкі ўзрыўчатку, адным словам, рыхтавалася да таго дня, калі камандаванне атрада ўключыць яе ў склад дыверсійнай групы. Яна з радасцю сустрэла мяне і сказала, што на падрыўнікоў мы будзем вучыцца разам. Я згадзіўся. Але ўжо тады я падумаў, што ў мяне прырода ўклала большы ахоўны рэфлекс, што я не магу, проста не магу быць такім адважным, як, напрыклад, Купрэйчык ці Белакурскі.

Калі мы выбраліся ў Бярозавае Балота, ужо змяркалася. Глуха шумеў цёмны лес, халодны дождж шапацеў у лісці і ў траве. Няясная трывога была разліта ў прыродзе.

Мы ішлі па ледзь прыкметнай лясной сцежачцы. Паперадзе Барыс Крайко з аўтаматам, у вайсковай плашч-палатцы, за ім Ніна, ззаду я. Я не любіў Барыса Крайко. Гэты высокі кучаравы хлопец, са

смуглым прыгожым тварам, з моцнымі жылістымі рукамі, адзін з тых шчасліўчыкаў, што з першага погляду падабаюцца дзяўчатам, выклікаў у мяне падсвядомую антыпатыю. Ён быў разведчыкам, ён і ў Бярозавае Балота пайшоў з намі як разведчык, што ведае ўсе хады-выхады. Але я здагадваўся, дзеля чаго пайшоў ён у Бярозавае Балота па соль і медыкаменты. Каб пакрасавацца перад Нінаю, паказаць свой спрыт і бясстрашша. Ці не таму так эфектна вісіць у яго на поясе нямецкі кінжал у чорных пасярэбраных ножнах і так задзірыста заломлена набок шапка-кубанка з шырокім чырвоным бантам? Усе партызаны нашываюць на галаўныя ўборы палоскі чырвонай матэрыі, а Крайко, бач ты, не такі, як усе,— завязаў даўжэзны бант.

Я ўжо раз быў схапіўся з Барысам. Ён, як разведчык, меў права прыходзіць на кухню ў любы час. Дзіва што — разведчык заўсёды на нагах, заўсёды ў рабоце, дый партызаны паважалі разведчыкаў за смеласць і шчырасць, за штодзённую рызыку. Але Барыс Крайко, я адразу прыкмеціў гэта, пачаў, як кажуць, «падбіваць кліны» да Ніны. Аднойчы, сёрбаючы гарачую капусту, ён паглядзеў на Ніну такім доўгім, такім панадлівым позіркам, што я не вытрымаў і сказаў:

— Не глядзі на яе так.

Барыс вельмі здзівіўся, адсунуў ад сябе кацялок, выцер кулаком губы, запытаўся:

— А ты хто такі? Турэцкі султан? І яна з твайго гарэма? Ці можа ты еўнух?

Гэтае «еўнух», сказанае роўным, здзеклівым голасам, сказанае ў прысутнасці Ніны, на нейкае імгненне зрабіла мяне дзікім зверам. Кроў прыліла да шчок і вачэй, пераняло дыханне, кароткім рэзкім ударам у сківіцу я пахіснуў Барыса. Ён павольна пацёр сківіцу і так садануў мне сваім вялізным кулаком пад дых, што я ўпаў, захліпнуўшыся, і з цяжкасцю ўзняўся па ногі. Праўда, адразу ж зноў кінуўся на яго. Ён разведчыцкім прыёмам заламаў мне за спіну руку. Было невыносна балюча і яшчэ болей крыўдна. Ад поўнага паражэння мяне выратавала Ніна.

— Ану зараз жа спыніце! — крыкнула яна.— Зараз жа, а то скажу Купрэйчыку!

І пасля кароткай паўзы дадала, іранічна і ціха: «Быкі лясныя...»

Мы ішлі па вузкай сцежачцы, гусцеў змрок, часам пад ногі трапляла і з кароткім сухім трэскам пераломвалася галінка, а я прыпамінаў гэтыя Німіны словы: «Быкі лясныя...» Мы і сапраўды, калі падумаць, былі ў тую хвіліну раз'ятранымі злымі самцамі, што вядуць смяротны паядынак за сяброўку. Так б'юцца між сабой алені, марскія

коцікі, цецерукі... Я ішоў за Барысам Крайко і за Нінаю, і мне было сорамна.

Праз паўтары гадзіны, як і было запланавана ў атрадзе, мы выйшлі з лесу і трапілі на шырокі прырэчны луг, што зацягваўся ўжо белым халодным туманам. Да вёскі было кіламетры два. Трэба было перайсці грэблю, намошчаную са ствалоў вольхі і асіны там, дзе рэчка ўбівалася ў даволі ладнае, зарослае вострай жоўтай асакой балота. Мы ішлі па тарфяністай мяккай зямлі, і сцежка добра віднелася пад нагамі — чорная, глыбока пратаптаная.

Як сказалі нам нашы разведчыкі, немцаў і паліцаяў у Бярозавым Балоце не было. Але яны маглі з'явіцца там у любы момант, бо часта наведваліся ў вёску. І таму мы ішлі з вялікай асцярогаю. Барыс Крайко часта спыняўся, прысядаў, на некалькі хвіліп заміраў, прыслухоўваючыся і прыглядаючыся да наваколля. Мы з Нінаю рабілі тое ж самае. Пакуль што ўсё было спакойна. І вось мы падышлі да грэблі...

Ці ёсць у чалавеку нейкі падсвядомы, схаваны ў глыбіні душы сігналізатар, які папярэджвае яго аб смяртэльнай небяспецы? Не ведаю, як на гэты конт мяркуе навука, але асабіста сам думаю, што ёсць, нешта ёсць. Бо чаму я тады раптоўна прыпыніўся, адстаўшы ад Барыса і Ніны крокаў на пяць? Завязаць шнурок чаравіка? Але ж я тады, добра памятаю, абуў трафейныя нямецкія боты, і правы бот трохі націраў мне пятку. Я прыпыніўся для таго (вось дзіва!), каб вырваць пук асакі і ачысціць свае боты ад балотнай бурай гразі. Быццам праз пяць крокаў мяне чакала не брудная, занядбаная людзьмі грэбля, а бліскучы паркет у танцавальнай зале.

Калі я прыгнуўся і ўжо выдзіраў з мокрай зямлі асаку, наперадзе, на грэблі, на якую толькі што ўзышлі Барыс Крайко і Ніна, грымнуў выбух. Грэбля была замініравана немцамі! Гарачая пругкая хваля ўдарыла мяне ў твар, у грудзі, і я ўпаў на спіну, упаў даволі ўдала, бо за спіной у мяне быў рэчмяшок з камплектам нямецкай салдацкай формы. Гэту форму мы неслі для вясковых камсамольцаў, і яна змякчыла маё нечаканае падзенне на балотныя купіны і карчы.

Я адразу ж усхапіўся, асляплены, ашаломлены выбухам, і крыкнуў:

— Ніна! Ніна!

Мёртвая цішыня, як і за некалькі хвілін да выбуху, вісела над грэбляй, над вечаровым балотам. Я кінуўся да грэблі.

Ніколі не забудуся і нікому ніколі не раскажу пра тое, што я там убачыў. Хай нікому з людзей не давядзецца замест каханай дзяўчыны, якая толькі што ішла побач, якая толькі што смяялася, жартавала, убачыць тое, што ўбачыў я. Гэта вышэй чалавечых сіл.

З боку Бярозавага Балота застрачылі аўтаматы. Яркія струмені трасіруючых куль рассеклі вечаровы змрок. Значыць, у вёсцы немцы, яны чакалі гэтага выбуху, зараз будуць тут. Вось ужо чуецца надрыўны гул матацыклаў.

І тады я сарваўся з месца і пабег да лесу, пабег так хутка, як толькі мог. Некалькі разоў я спатыкаўся, падаў рукамі ўперад, падаў у чорную ліпучую гразь. Але я нават не выціраў рукі, бо гэта на нейкае імгненне запаволіла б мой бег. Я згубіў шапку, і валасы, падхопленыя ветрам, закрывалі мне вочы. У лесе я заплюшчыў вочы, засланіў рукою твар і прабег углыб метраў дзвесце. І толькі тады паваліўся пад старую елку, на халодны мяккі мох.

Бухала ў грудзях сэрца. Яно білася так моцна, так часта, што я, каб неяк супакоіць яго, з усёй сілаю прыціснуў рукі да грудзей і ўсё роўна адчуваў праз целагрэйку, як шалёна трапечацца яно, нібы пругкая рыбіна, якая трапіла ў невад. Я ткнуўся разгарачаным, потным тварам у мох, уздрыгнуўшы ўсім целам, заплакаў.

Аказваецца, і мяне зачапіў асколак ад нямецкай міны. Гэта я выявіў тады, калі, трохі супакоіўшыся, пачаў пераабувацца. У боты ў час бегу трапіла балотная гразь, я вырашыў пераабуцца, скруціў з правай нагі анучу і адчуў, што яна мокрая. Я чыркнуў запалкай — нага была ў крыві. Потым, ужо ў цемры, бо запалак, як на грэх, болей не было, я намацаў у халяве бота невялічкую рваную дзірку ад асколка. Самае дзіўнае было тое, што нага пакуль што не балела. Боль, тупы, шчымлівы, прыйшоў пазней.

Я, як мог, перавязаў нагу. Дастаў з рэчмяшка нямецкую гімнасцёрку, разарваў яе і закруціў рану. Потым зноў агарнулі стомленасць, разбітасць, але я перасіліў сябе, устаў з зямлі, наламаў у цемры яловага лапніку, зрабіў з яго тоўстую калючую ляжанку і ўпаў на яе. І амаль адразу ж заснуў.

Спалася нядоўга. Падсвядомая трывога разбудзіла на самым золку. Лес, маўклівы, суровы, халодны, стаяў наўкола ў бліскучай ранішняй расе. Яшчэ не ўзышло сонца, няяркая прыглушаная чырвань тлела ў стылым блакіце неба. Я ўспомніў учарашняе, здрыгануўся, хуценька ўскочыў на ногі і накіраваўся ў той бок, дзе, па маіх меркаваннях, павінен быў быць партызанскі лагер.

Нага балела, распухла. Давялося выламаць арэхавы кіёк, каб абапірацца.

Мне ўсё ўспаміналася Ніна. Твар яе, прыгожы, чысты, з мяккай сарамлівай усмешкаю, стаяў перад вачамі. Ніна, Ніна, салоўка мой ненаглядны. Няўжо ніколі болей не пачую яе голас? Чаму яна загінула, а я не загінуў? Што гэта — выпадковасць чалавечага лёсу? Барыс

Крайко з Нінай ішлі ўперадзе, я ішоў ззаду. Яны загінулі. Калі б ішоў першы я, міна б узарвалася пад маёй нагою. Але я ішоў ззаду. Што гэта — выпадковасць або заканамернасць, што я ішоў ззаду?

Боль у назе павялічваўся. Ад хадзьбы пачаў варушыцца ў ране асколак. Я ішоў, сціснуўшы зубы, адчуваючы, як на лбе густа выступае пот.

Пэўна, праз якога паўдня я даклыпаў бы на сваёй скалечанай назе да партызанскіх дазораў. Але ў лесе (вось зноў жа якая выпадковасць) мне сустрэўся Хвядос Ліпень, мой дзядзька па матчынай радні. Хвядос быў аднавокі — яшчэ хлапчуком напароўся ў пуні на металічны штыр, які тырчаў у сцяне і па якім бацька ягоны сушыў бярозавыя венікі. У войску дзядзька ніколі не служыў, працаваў у лясніцтве і меў сямёра дзяцей. У гэты дзень, калі я з параненай нагою валачыўся па лесе, Хвядос Ліпень капаў у густым ельніку — ельнік гэты называўся ў нас «сеянка» — яму, каб на чорны дзень схаваць у ёй сваё дабро і схавацца самому з сям'ёй. Убачыўшы мяне, ён спачатку спалохаўся, нырнуў у сваю яму, але, пазнаўшы пляменніка, гукнуў мяне да сябе. «Ты ж крывёй сплывеш, Ваня,— сказаў ён мне.— Да партызанаў уга яшчэ колькі ісці. Пойдзем да мяне. У мяне тут, за вярсту адсюль, буданок у лесе ёсць. Мая Агапа мігам нагу тваю вылечыць і асколак дастане. А потым і да партызанаў пойдзеш». Ён казаў так пераканаўча, з такім жаданнем зрабіць мне добрае, што я згадзіўся. Мы дайшлі да Хвядосавага буданка, там я лёг, а Хвядос збегаў у вёску па цётку Агапу, і яна, мая заўсёды ўсмешлівая, вясёлая цётка, дала мне шклянку першаку, дастала пры дапамозе гладка абструганых ліповых палачак асколак, намазала рану нейкай чорнай халоднай сумессю, моцна забінтавала яе.

Так апынуўся я ў глухой лясной вёсачцы, у свайго дзядзькі Хвядоса Ліпеня. Я меркаваў, што праз дзень-два, як трохі акрэпну, пайду ў партызанскі атрад. Я і думкі не дапускаў, каб захавацца ад вайны, пераседжваць вайну ў ціхім месцы. Я не хацеў быць дэзерцірам, я павінен быў помсціць за Ніну. Але жыццё, які ўжо раз, пераблытала мае планы. Пачалося з таго, што немцы абклалі з усіх бакоў блакадаю Усакінскія лясы, у якіх базіраваўся наш партызанскі атрад. Я быў адрэзаны ад атрада і не ведаў, што рабіць. Я разгубіўся. Замест двух дзён мне давялося прабыць у дзядзькі ўсю зіму.

Шостага сакавіка тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года (гэты страшны дзень я не забуду, пакуль буду жыць) цётка Агапа ўгаварыла мяне пайсці ў мястэчка, каб купіць там солі і мыла. Напярэдадні мясцовы бургамістр Андрэй Каўбаска праехаў па вёсцы верхам на кані, спыняўся ля кожнай хаты і ўсім аб'яўляў, што заўтра

ў мястэчку, на местачковым рынку, немцы будуць прадаваць насельніцтву соль, мыла, запалкі, газу, адным словам, усё тое, чаго днём з агнём нідзе нельга было знайсці. Падазроным быў гэты нямецкі клопат пра тубыльцаў, але людзі з навакольных вёсак усё ж пайшлі ў мястэчка. Пайшоў і я. Цётка, загарнуўшы ў белую хусцінку, дала мне германскія маркі і савецкія чырвонцы, дала вялікую саматканую торбу.

Свяціла яркае вясновае сонца. На вуліцы ў мястэчку ляжаў застрэлены сабака. Грузнаватая дзюбастая варона асцярожна падкрадвалася да яго.

Рынак быў у самым цэнтры мястэчка. Народу сабралася некалькі соцень чалавек. Усе чакалі, калі пачнецца гандаль. І раптам я пачуў роспачны жаночы крык: — Аблава! Людцы, аблава-а-а!

## VI. ХЛЕБ

Вось ужо чацвёрты месяц працаваў Сцяпан Памалейка рабочым у прадуктовым магазіне. Матруніч з бацькам стрымалі абяцанне — памаглі ўладкавацца на работу і атрымаць месца ў інтэрнаце. Аклад у Сцяпана быў дзевяноста рублёў. Кожны месяц дваццаць пяць рублёў ён адсылаў Людзе ў Барысаў. Быў напісаў пісьмо, але адказу не атрымаў. Ды ён і не чакаў адказу, ведаючы жончын характар.

Загадчык магазіна Аркадзь Анатольевіч Цывілька сустрэў Сцяпана прыязна. Быў Цывілька з тых бадзёрых беларусаў, якія ўсё ўмеюць, усё ведаюць, нідзе не разгубяцца. Саракапяцігадовы, таўставаты, вясёлы, дужа рухавы, з лысінай, якая вылузвалася, свяцілася на цемені, ён, здаецца, лётаў па магазіне. Так і хацелася падумаць, што ў Цывількі, як у таго славутага Карлсана, маецца на спіпе рухавічок з прапелерам. Падначаленыя за вочы называлі Аркадзя Анатольевіча «наш Карлсан».

Дык вось гэты «гандлёвы Карлсан» дваццаць гадоў назад шчыра засмяяўся б, каб яму сказалі, што некалі ён будзе загадчыкам магазіна. Дваццаць гадоў назад Аркадзь Цывілька, малады, прыгожы, чарначубы, скончыў ваеннае лётнае вучылішча і быў накіраваны для праходжання службы на Далёкі Усход. Туды ён паехаў з маладзенькай жонкаю, з адзіным чамаданам і добра зразумелым для такога ўзросту жаданнем даслужыцца да генерала. Але прайшло дваццаць гадоў — Цывілька пераехаў у Мінск, займеўшы двух дзяцей, трохпакаёвую кааператыўную кватэру. Яго паважаюць начальства і падначаленыя, яго паважаюць (і гэта самае галоўнае) пакупнікі. У магазіне ў Цывількі, не ў прыклад суседнім магазінам, перад святам бывае жы-

вая рыба, бываюць апельсіны, бананы і іншыя заморскія далікатэсы. Злыя языкі кажуць, што Цывілька мае «сваю руку» на халадзільніках і ў гарганддлі, што яму адпускаюць дэфіцытныя прадукты ў першую чаргу. Падначаленыя Аркадзя Анатольевіча Цывількі не хаваюць ад насельніцтва «Кнігу скаргаў і прапаноў», і ў кнізе той запісана вельмі шмат падзяк за сумленную работу.

Акрамя Сцяпана, у магазіне працавала яшчэ пяць рабочых. З некаторымі з іх ён неўзабаве пасябраваў. Вось, напрыклад, Ігар Іванавіч Антуськоў. Худы інтэлігентны твар, русая бародка, тонкія доўгія пальцы, якія так і хочацца ўбачыць на бліскучых чорна-белых клавішах піяніна. А Ігар Іванавіч спрытна разгружае каўбасу і вяндліну, хлеб і скрынкі з партвейнам. Ён — докер. Докерамі, як вядома, называюць грузчыкаў у марскіх портах, але нейкім чынам гэта рамантычнае слова трывала прыйшлося ў сухапутным Мінску, у прадуктовым магазіне нумар трыццаць пяць.

Неўзабаве і Сцяпан зрабіўся «докерам» і адразу ж прызвычаіўся да таго звання. Аказалася, што ўсе пяць рабочых працуюць у магазіне па сумяшчальніцтву. Недзе ў іх ёсць асноўная работа, асноўны іхні хлеб. Так, Ігар Іванавіч Антуськоў працаваў тэхнолагам на швейнай фабрыцы.

Сышоўся Сцяпан і з Віктарам Лапцэвічам, негаваркім, трохі марудлівым хлопцам. У Віктара не было двух пярэдніх зубоў, ён, калі гаварыў, шапялявіў і ўсё збіраўся ўставіць сабе зубы, абавязкова залатыя.

— Дзе ты, Віця, зубы згубіў? — спытаўся ў яго Сцяпан, калі яны загружалі ў халадзільную камеру скумбрыю.

— Нецікавая гэта справа, докер,— усміхнуўся Лапцэвіч.

— І ўсё-такі, дзе?

— Ну, калі так хочаш, скажу. Па п'янай лавачцы зубы мне выбілі. Мае ж лепшыя сябры, якіх я частаваў.

— А я думаў, ты не п'еш,— сказаў Сцяпан.

— Трэці год у рот не бяру. Чалавекам, можна сказаць, стаў. А раней — што было! Каб ты мяне тады ўбачыў, докер, ты б не пазнаў Віцьку Лапцэвіча. Морда вечна распухлая, чырвоная, пасля палучкі ў кішэнях вецер гуляе, а на душы чорныя кошкі скрабуць. Ідзеш па вуліцы, і здаецца, што ўсе людзі пальцамі на цябе тыкаюць, гавораць: «Глядзі, вунь пайшоў прапоец». Бр-р-р...

Лапцэвіч зажмурыў вочы і трасянуў русай галавою. Потым загаварыў зноў:

— Прыпеўка ў мяне ў той час любімая была:

Буду есці хоць мякіну,

А гарэлку піць не кіну.

Гэта мяне сябрукі, каменне ім у ныркі, навучылі так спяваць. «Гуляй, Віця,— казалі,— адзін толькі раз жывём». Ну, я й гуляў. Літр гарэлкі мог у дзень выпіць. Вясёлы быў, піжоністы.

— Лячыўся ад п'янкі? — пацікавіўся Сцяпан.

— Ды не дайшло да гэтага. Паразумнеў і сам кінуў. Зразумеў, калі так і далей буду глытаць, то белы конь можа капытом у дзверы грукнуць.

— Што за белы конь? — не зразумеў Сцяпан.

Лапцэвіч засмяяўся:

— Гэта так алкаголікі пра белую гарачку кажуць. А калі шчыра прызнацца, жонка мяне выратавала, Галя мая. Іншыя бабы што робяць, калі мужык за гальштук залівае? На работу бягуць, у міліцыю. Або самі пачынаюць патроху піць. А мая Галя — разумніца. На сумленне маё напірала, на каханне маё. Прывалакуся п'яны, як зямля, яна не крычыць, валасы не дзярэ, а заплача і картачку мне паказвае, фатаграфію, на якой мы з ёй зняты адразу пасля нашага вяселля. Там мы такія маладыя, прыгожыя. Я слесарам-зборшчыкам рабіў, па пятаму разраду. Ну, а п'янтосу, вядома, нечага рабіць каля жалеза. Ці каго прыдавіш, ці цябе прыдавіць. Галя мяне ў гэты магазін уладкавала. І, паверыш, як перарадзіўся я. Піць кінуў — раз. Чалавекам стаў — два. Ды якім яшчэ чалавекам. Раней на мяне суседзі глядзець не хацелі, насы адварочвалі, а зараз толькі й чуеш: «Як здароўе, Віктар Герасімавіч? Як справы? Што ў ваш магазін прывезлі?» І ўсе стараюцца, каб руку мне паціснуць. Быццам я загадчык магазіна. Так што жывём, докер.

Ён весела падміргнуў Сцяпану, схапіў з латка кучу марожаных скумбрый, шпурнуў рыбу ў халадзільную камеру.

Неўзабаве Сцяпан пазнаёміўся з Галяй. Яна прыйшла ў магазін з дзіцем на руках, весела спыталася:

— Дзе мой?

Сцяпан адразу здагадаўся, што гэта жонка Лапцэвіча, паклікаў Віктара. Той, у чорным халаце і чорным берэце, выйшаў у гандлёвую залу, узяў сына на рукі, пачаў гушкаць. Малы ад радасці высалупліваў чырвоны язычок, гучна смяяўся.

— Колькі яму? — спытаўся Сцяпан у Галі.

— Трэці годзік,— радасна адказала яна і ўсё не зводзіла чорных закаханых вачэй з мужа і сына.

— Толік і гаварыць умее. Праўда, Толік? — Галя пацалавала сына ў румяную шчочку.— Скажы дзядзю, што твой бацька робіць. Скажы, Толічак.

Малы смешна зморшчыў лоб, калупнуў пальчыкам у носе і сказаў з важнасцю ў голасе:

— Тата на рабоце грошы тук-тук, а мама дома грошы фук-фук.

Віктар Лапцэвіч і ягоная жонка засмяяліся. Не стрымаўся, каб не засмяяцца, і Сцяпан.

Усе трое Лапцэвічаў пайшлі з магазіна на вуліцу, а Сцяпан Памалейка стаяў пасярод люднай гандлёвай залы і адчуваў, як ад халоднай тугі заходзіцца сэрца. Ён ўспомніў свайго Лёніка. Дзе зараз сын, што робіць? Узяць бы яго на рукі, выйсці за горад і там, на першым белым снезе, паказваць сыну птушыныя і заечыя сляды.

— Чаго стаіш, Памалейка? — прабег па гандлёвай зале Аркадзь Анатольевіч Цывілька, як заўсёды бадзёры і рашучы,— Трэба ў малочны аддзел смятану падкінуць. Давай хутчэй.

Але Сцяпан не дужа спяшаўся. Ён глядзеў, як прыбіральшчыца цётка Даша, узяўшы ў рукі доўгую швабру, махае ёю — хоча выгнаць з гандлёвай залы вераб'ёў. Ды толькі дарэмна. Вераб'і не такія дурныя, каб з цёплага магазіна ляцець на зімовую халадэчу. Яны весела пырхаюць пад столлю, над галовамі людзей, над разгубленай цёткай Дашай і на сваёй вераб'інай мове дамаўляюцца, як бы пакляваць круп, што высыпаліся з разарванага папяровага пакета на падлогу магазіна. Прыбіральшчыцы, чым палохаць вераб’еў, лепей трэба падмесці гэтыя крупы, а то яны ляжаць пад нагамі у людзей, людзі топчуцца па іх, і чуецца непрыемны, востры хруст.

— Докер! — раздаўся за спіной у Сцяпана звонкі дзявочы голас.— Докер, ты чаго задумаўся? Успамінаеш, як у дзіцячы сад хадзіў? Смятаны ў аддзеле няма.

Так можа крычаць толькі Люда Гуслякова. Яна у магазіне самая маладая і, бадай, самая прыгожая з прадаўцоў. Месяцаў шэсць, як прыйшла з гандлёвага вучылішча, а ужо без яе і без яе голасу нельга ўявіць магазін.

Сцяпан хуценька спусціўся ў падвал, пагрузіў на ліфт-пад'ёмнік бітон са смятанай, прынёс гэты бітон у малочны аддзел.

— Дзякуй, Сцёпачка,— аж прапаліла Сцяпана удзячным і ў той жа час насмешлівым паглядам Люда. Прыгожая краля, нічога не скажаш. Высокая, статная, цёмнавалосая. Валасы заўсёды завітыя, вусны падфарбаваныя, вочы падведзены сінім алоўкам.

Сцяпан даўно заўважыў, што падабаецца Людзе. Ведае Люда, што ён разышоўся з жонкаю, што ў яго ёсць у Барысаве сын, і ўсё роўна падміргвае. Цікава — гульня гэта ў яе ці што-небудзь сур'ёзнае? Відаць, не гульня, бо Люда, смелая, гордая Люда, сустрэўшы ўважлівы Сцяпанаў позірк, заўсёды злёгку чырванее.

Мудра ўсё-такі і хітра задумана жыццё. Мужчына спрадвеку ў гэтым жыцці — паляўнічы, павінен здабываць для сям'і ежу. Жанчына ж абавязана захоўваць хатні ачаг. Але і для жанчыны прырода пакінула адзін від палявання — паляванне на мужчыну, на будучага мужа і бацьку сваіх дзяцей. Так думае Сцяпан Памалейка. І гэтым ён ніколі не хоча абразіць жанчын, бо жанчыны даюць дыханне ўсяму жывому. Але ж усе іхнія ўборы, усмешкі, загадкавыя і пяшчотныя словы — што гэта, як не прыманка для мужчын?

— Сцёпа, якое сёння кіно ў «Партызане»? — спыталася Люда, на хвілінку забегшы са свайго аддзела ў падсобнае памяшканне, дзе Сцяпан разам з Віктарам Лапцэвічам выгружаў з ліфта бляшанкі з эстонскай салакай. Сцяпан, як быў сагнуўшыся, паглядзеў на яе знізу ўверх. Убачыў высокія пругкія грудзі, шчыльна абцягнутыя сінім світэрам, убачыў пяшчотны смуглы падбародак, невялікую радзімку на шыі.

— Дык якое кіно, Сцёпа? — капрызна паўтарыла Люда.

«Шанцуе мне на Люд,— раптам падумалася Сцяпану,— Жонка Люда. І гэтая — Люда». Услых жа сказаў:

— Не ведаю. А ты што хацела?

— Я хацела, каб ты мяне ў кіно запрасіў,— нявінным анёльскім галаском прапела Люда.

— А можа ў рэстаран лепей, Людачка? — абхапіў яе ззаду за талію Віктар Лапцэвіч.— Я не п'ю, але з табой зноў гатоў зрабіцца алкаголікам.

— Фі,— ударыла яго кулаком па руках Люда.— Ненавіджу алкашоў. Жывуць, каб толькі піць, каб унутр заліваць. Тады адразу трэба было нараджацца графінам або бутэлькай. Заўсёды б поўныя былі.

Яна пайшла, паскардзіўшыся напаследак на зіму. Што гэта за зіма, калі ў лютым iлье дождж? А яна, Люда, толькі што купіла цудоўны кажух і з-за гэтага праклятага надвор'я не можа яго апрануць, пахваліцца перад сяброўкамі.

Сцяпан думаў, што дужа актыўна палюе за ім Люда Гуслякова. Трэба неяк выбраць час і пагаварыць з ёю, і не смешачкамі пагаварыць, а ўсур'ёз. Трэба паказаць ёй, што ён — чалавек салідны, не ветрагон. А можа махнуць рукой на ўсю сур'ёзнасць, фліртануць?

Ён пачаў насіць у рыбны аддзел бляшанкі з салакай. За гэтыя месяцы ён уцягнуўся ў сваю работу, яна яму нават падабалася. Даведаліся б аднакласнікі, кім працуе Сцяпан Памалейка. Вось бы шуму і смеху было! Валерык Судзьбінскі сказаў бы, напэўна: «Люмпен-пралетарый» — і горда б трасянуў прыгожымі стужкамі сваёй бесказыркі. Але ж не ўсім быць адміраламі, трэба некаму і бляшанкі з салакай

разгружаць. І чаму гэтым чалавекам, што разгружае неабходную ўсім салаку, не можа быць ён, Сцяпан Памалейка? О, ён не такі наіўны. Ён цудоўна ведае, што ў наш час ёсць так званыя прэстыжныя прафесіі. Усе ці амаль усе хочуць стаць фізікамі-атамшчыкамі, журналістамі, касманаўтамі, спевакамі, вядомымі спартсменамі. І ў гандляры ідуць, хоць гэта прафесія ніколі не лічылася прэстыжнай. Дырэктар магазіна, прадавец на сённяшні дзень знакамітыя фігуры ў горадзе. Нашто чэсны і прынцыповы Аркадзь Анатольевіч Цывілька, але і з ягонага кабінета — не раз бачыў Сцяпан — выходзяць мужчыны з тоўста напакаванымі партфелямі і сумкамі, нясуць нейкі дэфіцыт. Далей — болей. Пайшла такая між працаўнікоў гандлю завядзёнка: ты мне замежную мэблю — я табе чорную ікру, ты мне тое — я табе гэта. З'явіўся як бы саюз, клан гандляроў. А гэта ўжо, думаецца Сцяпану, вельмі небяспечная інфекцыя.

...У суботу работнікі гарадскога гандлю арганізавалі «лыжны дэсант» у ваколіцы Мінска. Якраз выпаў густы снег, прыціснуў марозік. Электрычкай даехалі да Вязынкі, там сышлі, з шумам і смехам, сутыкаючыся ў тамбурах вагонаў звязанымі лыжамі, прадчуваючы радасць сустрэчы з рыпучым снегам, з марозным свежым ветрам. З трыццаць пятага магазіна паехалі за горад сам Цывілька з жонкаю, Люда Гуслякова, дзве касіркі, Зіна і Таіса, Рубінчык мяса Пётр Дакольскі і Сцяпан Памалейка.

Дзень быў цудоўны. Сонца стаяла над белымі лясамі, над прасторамі палёў, над узгоркамі, над ціхай драўлянай хатай, у якой размяшчаецца музей Янкі Купалы. Калісьці на гэтай зямлі, між гэтых лясоў, нарадзіўся хлопчык, каб зрабіцца паэтам і праславіць сваю зямлю.

Мора часу прашумела з таго дня, неаднойчы вайна ператварала ў вугаль і попел дрэвы і кветкі гэтай мясціны. Шмат слядоў сцёр час, але засталіся назаўсёды вечныя сляды паэта.

Моўчкі пастаялі каля бронзавага бюста Янкі Купалы, паслухалі зімовую цішыню ягонай радзімы і памчаліся па лыжах у бязлюддзе заснежаных палёў. Люда Гуслякова старалася не адставаць ад Сцяпана. Ён чуў шоргат яе лыж, вясёлы, трохі нізкаваты голас.

У горад вярталіся, як добра сцямнела. Электрычка з грукатам неслася па зледзянелых рэйках. На чорных прыдарожных хмызняках успыхвалі лапікі месячнага святла. Мінск насоўваўся, наплываў акіянам агнёў.

Люда Гуслякова запрасіла ўсіх лыжнікаў да сябе. Цывілька з жонкаю падзякавалі і адмовіліся. Астатнія, у тым ліку і Сцяпан, паехалі на кватэру да Люды. У Сцяпана быў бадзёры настрой, які звычайна

з'яўляўся ў яго перад выхадным днём. Мінуўся рабочы тыдзень, заўтра можна будзе зноў адправіцца ў пешае падарожжа па Мінску. Ён ужо абышоў Завакзалле, Серабранку, заўтра меркаваў накіравацца ў раён Кальварыі.

Люда жыла ў сваёй цёткі, муж якой, шафёр таксі, трапіў два гады назад у аварыю і загінуў. Цётка Раіса Міхайлаўна мела сына-пяцікласніка, жвавага чарнавокага хлопчыка, вельмі падобнага на бацьку. Калі селі за стол і пачалі з марозу сёрбаць гарачы чай, Раіса Міхайлаўна, яшчэ маладая і прыгожая жанчына, дастала з халадзільніка бутэльку малдаўскага каньяку, сказала:

— Вовік, сынок, хадзі сюды.

Вовік, які абмотваў хакейную клюшку сіняй ізаляцыйнай стужкай, паслухмяна падышоў да маці, стаў каля яе, паклаўшы ёй на плячо руку.

— Выліты бацька,— расчулена сказала Раіса Міхайлаўна.— Копія. Такі ж самы і Сяргей быў. Калі-небудзь забудуся і Сяргеем яго называю. Сірата ты мая няшчасная.

Яна пацалавала Вовіка ў смуглую шчаку і ўсхліпнула. Сын, відаць па ўсім, ужо не першы раз чуў такое, спакойна стаяў каля маці, спакойна глядзеў на яе і на гасцей.

— Ну, ідзі,— лёгенька піхнула яна яго ў спіну.— Ідзі штукуй сваю клюшку. Хакеіст ты мой няшчасны.

Вовік адразу павесялеў, ледзь не бегма кінуўся да клюшкі.

— Вып'ем за майго Сярожу,— разліла каньяк па крыштальных чарачках Раіса Міхайлаўна.— Люда, запрашай усіх. Памянём таксіста майго няшчаснага.

Самым ходкім словам у яе, як заўважыў Сцяпан, было слова «няшчасны». Гэта можна было зразумець, можна было прабачыць ёй экзальтаваную меланхалічнасць, але, выпіўшы адну-другую чарачку, яна, нібы сцёршы з твару сумны шэры грым, пайшла танцаваць пад магнітолу з рубшчыкам мяса Пятром Дакольскім. І танцавала з такім тэмпераментам і страсцю, што маладзенькія прадаўшчыцы, сучасныя эмансіпіраваныя дзяўчаты, раты разявілі ад здзіўлення і захаплення. Потым закурыла тонкую доўгую цыгарэту, спыталася, падышоўшы да Сцяпана Памалейкі:

— А вы, не п'яце? Чаму? Можа вы і не танцуеце?

У яе былі масляніста-чорныя вочы. Яна стаяла каля Сцяпана, чакаючы адказу.

— Запрашаю вас на танец,— сказаў Сцяпап. Пласцінка іграла нешта лацінаамерыканскае, нешта дужа хуткае і спякотнае. Сцяпан глянуў на ўсю яе зграбную, поўную прыхаванага агню паставу, трася-

нуў галавой, зашчоўкаў пальцамі рук, звёў і адразу ж рэзка развёў калені, прыстукнуў абцасамі. Яна ўся ўстрапянулася, загарэлася, памкнулася яму насустрач. У гэтыя імгненні яна, раззадораная, прыгожая ў сваёй белай бліскучай сукенцы, была падобна на белы ветразь, напоўнены гарачым нястрымным ветрам. Яна пайшла, паплыла па пакоі, дробна прыстукваючы туфелькамі, раскінуўшы поўныя загарэлыя рукі, звіваючыся крэпкім маладым целам. Шчокі ў яе расчырванеліся, густыя русыя валасы рассыпаліся па плячах. Сын яе, Вовік, кінуў клюшку, падышоў да магнітолы і, не адрываючыся, глядзеў на маці.

Увесь гэты час Сцяпан лавіў раўнівыя позіркі Люды Гусляковай, якая танцавала з Пятром Дакольскім. Зашыпела, скончылася пласцінка.

— Вовік, пастаў яшчэ,— крыкнула Раіса Міхайлаўна, але раптам чорныя яе вочы патухлі, нібы ўсярэдзіне, у душы, перагарэла нейкая лямпачка. Твар зрабіўся абыякавы і непрыгожы. Такая раптоўная, без прычыны, перамена ў настроі партнёркі, толькі што жыццярадаснай і нястомнай, уразіла Сцяпана. Ён таксама перастаў танцаваць, дастаў з кішэні грабянец і пачаў прычэсвацца.

— Вовік,— падышла да сына, пагладзіла яго па галаве Раіса Міхайлаўна.— Трэба нам класціся спаць, сынок. Заўтра ж табе ў школу, мне на работу. А вы гуляйце,— павярнулася яна да моладзі.— Гуляйце... Толькі ты, Людачка, прыбяры потым са стала.

Яна з Вовікам зачынілася ў сваім пакоі, нешта там гаварыла сыну мяккім ціхім голасам; сын адказваў ёй, смеючыся, дурэючы. Люда зноў уключыла магнітолу, але Сцяпан рашуча накінуў на плечы спартыўную куртку, уздзеў на галаву яшчэ макраватую лыжную шапачку, узяў лыжы, сказаў усім «да пабачэння» і выйшаў. Люда дагнала яго на лесвічнай пляцоўцы:

— Докер, чаго ты псіхануў? Ты куды?

— Дадому, Людачка.

— А я цябе не пушчу. Ану марш назад.

Яна казала гэтыя словы нібы жартуючы, яна цягнула Сцяпана за рукаў, а ў глыбіні вачэй трымцела трывога. «Не хоча, каб птушачка выпырхнула з клеткі»,— падумалася Памалейку. Яму, вядома, было прыемна, што маладая прыгожая дзяўчына, дзяўчына з сучасным абліччам і сучасным характарам, так прагне, так жадае ягонай увагі.

— Можа Райка не так што-небудзь сказала? Яна ў нас — жанчына рэактыўная.

— Рэактыўная? Як гэта зразумець?

— А так, што перад кожным новым незнаёмым мужчынам пачынае свае вулканічныя страсці паказваць. Мужчыны, асабліва нявопытныя, і трапляюць на кручок.

Людзіны вочы набліжаліся. Было ў іх напружанае чаканне.

— Дык ты, Люда, сваю цётку абгаворваеш? — як бы здзівіўся Сцяпан.— А я думаў, што ў жыцці, прынамсі, у жаночым жыцці, павінен быць нейкі саюз, адзінства. Слабы пол павінен арганізавана, плячо ў плячо, выступаць супроць нахабнікаў-мужчын.

— Ну й трапло ты, докер,— фыркнула Люда.— Саюз, адзінства... Дзе толькі такіх слоў нахапаўся? Якое можа быць у нас, жанчын, адзінства, калі нам падабаецца адзін і той жа мужчына? На дзве часткі загадаеш распалавініць гэтага мужчыну? Дык асабіста мне ён цэлы патрэбен, непашкоджаны.

— Калі так,— Сцяпан узяў Людзіны рукі ў свае,— то ты, Людачка, глыбока памыляешся. Не там, дзе трэба, шукаеш свайго суджанага. Я ж таксама пашкоджаны. Жонка ў мяне была... Дзіця ёсць...

— А жонку ты сваю кахаеш? — спыталася Люда, пераходзячы на шэпт. Яна ўсім сваім наструненым гарачым целам прыціскалася да Сцяпана. На сваёй шчацэ ён адчуваў яе дыханне.— Кахаеш? — зноў перапытала Люда.

— Не ведаю,— адказаў Сцяпан.— Дый не ў гэтым галоўнае.

— А ў чым галоўнае, докер?

— Галоўнае, Люда, умець іранічна ўсміхацца.

Сцяпан сціснуў яе ў абдымках, моцна пацалаваў у вусны. Яна выслізнула з ягоных рук, цвёрдай далонькай хвастанула яго па шчацэ.

— Ну вось і пагаварылі, Людачка,— усміхнуўся Сцяпан.— Шчаслівых сноў. Да паслязаўтра.

— Гуд бай, докер,— сказала Люда, таксама ўсміхаючыся.— А можа пойдзем у парк, на лыжах ноччу пакатаемся?

— Не варта,— пачціва пакланіўся ёй Памалейка.— У мяне лыжная мазь не той маркі.

Ён згроб у ахапку свае лыжы, падміргнуўшы Людзе, збег па лесвіцы з другога паверха. Люда, абапёршыся аб парэнчы, глядзела яму ўслед.

Амаль гадзіну, на тралейбусе, а потым на аўтобусе, дабіраўся Сцяпан Памалейка да свайго інтэрната. Ён стаяў у праходзе і сачыў увесь час за тым, каб нікога не зачапіць сваімі лыжамі. Гэта яму ўдалося, але ўсё роўна інтэлігентная з выгляду дамачка, што сядзела і трымала на руках беленькага кучаравага сабачку, сказала, нібы сама сабе:

— І тут ад спартсменаў праходу няма.

Над уваходам у рабочы інтэрнат матляўся пад ветрам самаробны лозунг-транспарант «Інтэрнат — твой дом». Вельмі дакладныя словы, калі ўлічыць, што ў дзевяціпавярховай будыніне жыве ні мала ні многа — паўтары тысячы маладых токараў, слесараў, фармоўшчыкаў, абрубшчыкаў і гэтак далей, і гэтак далей, і сярод іх рабочы магазіна нумар трыццаць пяць Сцяпан Памалейка. Неяк у «Вячэрнім Мінску» быў надрукаваны фотарэпартаж з інтэрната пад бадзёрым загалоўкам «Дзевяць паверхаў шчасця». Вось ужо гэтыя словы, на Сцяпанаву думку, былі не зусім правільныя таму, што хоць шчасця ў маладым узросце бывае і сапраўды замнога, але на кожным з дзевяці паверхаў можна пры жаданні адшукаць і адносна няшчаснага чалавека. Той стараўся, але не здаў на вышэйшы разрад, таму здрадзіла каханка, той лічыць, што ён непрыгожы, і пакутуе ад такой думкі.

Лозунг над уваходам у інтэрнат уласнаручна напісаў і павесіў камендант ці, як ён сам сябе называе, дырэктар інтэрната Давыд Аляксандравіч Чхарцішвілі. Камендант, малады трыццаціпяцігадовы мужчына, прыгожы класічнай грузінскай прыгажосцю. Лёгкая хударлявая фігура, нібы выструганая з сухога карычневага дрэва, шапка чорна-сініх валасоў, арліны нос і непаўторны каўказскі акцэнт у вымаўленні, які так падабаецца беларускім заводскім дзяўчатам. Як жа з'явіўся ў нашых шыротах Давыд Аляксандравіч, гэты «віцязь у тыгравай шкуры»? Ніхто гэтага не ведае, і ў тым ліку Сцяпан Памалейка. Чхарцішвілі ўжо два гады як камендант або, па яго словах, дырэктар, ён увёў у інтэрнаце строгую прапускную сістэму, і ён жа над уваходам у свае каменданцкія апартаменты зрабіў прыгожы навес, сапраўдны балдахін з бліскучай грымучай бляхі. Гэта, як аказалася, была яго памылка, бо хлопцы з вышэйшых паверхаў часцяком скідваюць уніз парожнія бутэлькі і стараюцца патрапіць якраз у бляшаны балдахін, што стаў для іх добрай мішэнню. Гром тады стаіць па ўсім наваколлі! Давыд Аляксандравіч, калі такое хуліганства застае яго ў службовым крэсле, адразу выбягае на вуліцу, уздымае да нябёсаў разгневаны прыгожы твар, махае кулаком і крычыць: «Хто кідаецца? Хто парушае дысцыпліну? Выселю!» Гэта ягонае выслоўе «Хто парушае дысцыпліну? Выселю!» гучыць на інтэрнацкім двары і ў інтэрнацкіх калідорах усё часцей. Адным словам, інтэрнат можна параўнаць з паравым катлом. І трэба быць добрым механікам, каб гэты кацёл аднойчы не перагрэўся.

Сцяпан паказаў соннай дабрадушнай вахцёрцы пропуск і, не чакаючы ліфта, пераскокваючы цераз прыступкі, пабег па лесвіцы на свой чацвёрты паверх. «Куды лыжы пацягнуў? — крыкнула наўздагон

вахцёрка.— Давыд Аляксандравіч забараніў». Але Сцяпан быў ужо ля дзвярэй свайго пакоя.

Інтэрнат, у якім пасяліўся Сцяпан Памалейка, быў найсучасны, адзін з лепшых у горадзе. Пакоі, разлічаныя на чатырох чалавек, дзяліліся ў сваю чаргу на два блокі: «А» і «Б». Сцяпан жыў у блоку «А» разам з Юзікам Трасцянком. Усё тут было абсталявана як належыць — насценныя шафы для адзення, драўляныя ложкі, ванна з умывальнікам, пярэсты дыванок пад нагамі. Быў і балкон, куды Сцяпан адразу ж паставіў лыжы.

— Замерз? — спытаўся ў Сцяпана Юзік Трасцянок.

— Замерз,— кіўнуў галавою Сцяпан.— Ці няма ў цябе чаго пагрэцца?

— Пачакай. Зараз шчаўе звару. Мне адна прыгажуня цэлы літр падаравала. Свежанькае шчаўе, быццам толькі ў лузе сарваў.

— Пайшоў ты, Юзік, са сваім шчаўем ведаеш куды?

Сцяпан засмяяўся, паваліў Трасцянка на ложак.

— Здаюся,— таксама засмяяўся Юзік.— А шчаўе ты, Сцёпа, усё-такі паеш. Першакласныя вітамінчыкі! Шкада толькі, што смятаны я не купіў. Давялося б цябе, Памалейка, за вушы адцягваць.

— Ну не хваліся, не хваліся, Трасцянок,— усё яшчэ смяяўся Сцяпан.

Юзіку Трасцянку ўжо ішоў трыццаць другі год. Праўда, з выгляду ён падобны на хлапчука — невысокі, шчуплы, жвавы. Адзінае не хлапчукоўскае ў яго — круглая лысіна, што ўжо выразна прабіваецца ў чорных валасах. Юзік, як прыйдзе з работы, заўсёды нешта гатуе на кухні — смажыць, варыць, пячэ. І любіць усіх частаваць сваімі стравамі, у першую чаргу, вядома, Сцяпана Памалейку, свайго суседа па пакоі.

У асабістым жыцці Трасцянку не пашанцавала. Быў жанаты, меў двое дзяцей і трохпакаёвую кватэру, але не паладзіў з жонкаю, пакінуў ёй кватэру і пайшоў жыць у інтэрнат. Кватэру ён мог падзяліць праз суд, ды не стаў рабіць гэта, бо на трактарным заводзе намеснікам дырэктара па бытавых пытаннях быў ягоны родны дзядзька. «Добра працуй, Юзік, і праз год будзе табе аднапакаёўка»,— паабяцаў дзядзька. Юзік працаваў электразваршчыкам, і працаваў добра, ён наогул не ўмеў працаваць дрэнна, але з кватэраю атрымаўся нечаканы канфуз. Раптоўна памёр дзядзька, і рухнулі разам з яго смерцю Юзікавы планы. Ды Трасцянок, калі глянуць на яго, не надта каб засмуціўся. Па натуры ён быў аптыміст. Ён павесіў вялікі дзядзькаў фотапартрэт над сваім ложкам і, кладучыся спаць, звычайна казаў дзядзьку:

«Нічога, Іван Яўгенавіч, не хвалюйся. З Трасцянком усё будзе нармальна». Дзядзька — усе грудзі ва ўзнагародах, шыракаплечы, мажны — глядзеў на пляменніка са сцяны і, здавалася, хітравата ўсміхаўся.

Праз нейкі час зусім акрыяў Юзік Трасцянок, настолькі акрыяў, што запрасіў з сабой Сцяпана Памалейку ў парк Чалюскінцаў на танцы, і там, у парку, яны зусім выпадкова трапілі ў клуб для халасцякоў пад назвай «Прэлюдыя», які меў яшчэ адну назву — «Для тых, каму за трыццаць». У клубе, у вялікай зацемненай зале, было многа мужчын і жанчын. Іграла ціхая музыка, нібы над галовамі ў людзей цякла павольная светлая рака. Некалькі пар танцавала. Астатнія сядзелі за бліскучымі нізкімі столікамі, пілі каву і ліманад. Усе, як заўважыў Сцяпан, былі ўзбуджаныя, жылі прадчуваннем сустрэчы, той адзінай сустрэчы, што робіць людзей на ўсё жыццё шчаслівымі, што зводзіць Папялушак з іхнімі Прынцамі. Людзей гэтых сабрала тут адзінота. У свой час ім не хапіла можа шчасця, можа смеласці, можа яшчэ чагонебудзь, каб знайсці сабе пару. Іхнія равеснікі даўно абзавяліся сем'ямі, сталі ўжо бацькамі, нават дзядамі і бабулямі, а яны, нясмелыя і нешчаслівыя, усё чакалі першага спаткання, першага прызнання. Яны былі запозненымі восеньскімі кветкамі, якія асмеліліся расцвісці толькі тады, калі ўжо за халодныя хмары схавалася яркае летняе сонца. Яны ўжо адчаяліся, змірыліся, ужо дзесяты раз праклялі сваю некамунікабельнасць, і тут ім на дапамогу прыйшло імклівае і смелае дваццатае стагоддзе. Традыцыйную сваццю замяніла ЭВМ, сватамі сталі часопісы і тэлевізары. «Смялей знаёмцеся! — закрычалі ім гэтыя доўгачаканыя сваты і сваццi.— Не марнуйце дэфіцытны час. Знаёмцеся па перапісцы, знаёмцеся на старонках газет і на танцпляцоўках. Кожны брунет павінен знайсці сваю бландзінку!»

Тады, у той вечар, Сцяпан з Юзікам Трасцянком весела і адважна рынуліся ў вір знаёмстваў. «Ці не патрабуецца вам малады вопытны электразваршчык з маленькімі слабасцямі?» — чароўна ўсміхаючыся, як не праспяваў Юзік на вуха паўнаватай прыгожай шатэнцы, што ў радасным чаканні сядзела за суседнім столікам. Шатэнка грацыёзна павярнулася да Юзіка, таксама чароўна ўсміхнулася, і... Юзік Трасцянок, малады вопытны электразваршчык, вельмі падобны на маладога моднага кінарэжысёра, раптам, як заяц, ірвануўся з-за століка да выхаду. «Ты куды?!» — разгубіўся, крыкнуў яму ўслед Сцяпан. Юзік не азваўся і знік у цемені вечаровага парку. «Пэўна, звар'яцеў,— падумаў Сцяпан.— Звар'яцеў ад прадчування шчасця». Ён выбег з клуба ўслед за сябрам, пачуў, як часта грукаюць Юзікавы чаравікі па мокрым асфальце паркавай дарожкі. Ледзь дагнаў

Трасцянка. Зноў спытаўся: «Ты куды?» — «Уцякайма, Сцёпа,— спалохана выдыхнуў Трасцянок,— Гэта мая жонка».

Сёння Сцяпан успомніў тое іхняе падарожжа ў клуб «Прэлюдыя» і падкалоў Юзіка:

— А ці помніш, Трасцянок, як ты са сваёй жонкай другі раз знаёміўся?

— Помню... Як не помніць такое,— смеючыся, адказаў Юзік.— Глянуў на яе, убачыў сваю ненаглядную і падумаў: «Ну, каюк табе, Трасцянок, замкнуўся твой круг. Гэта ж трэба — паміж соцень жанчын і дзяўчат зноў на яе напароўся».

Яны засмяяліся разам. Потым Памалейка спахмурнеў, сказаў:

— Не так мы з табой жывём, брат, як трэба. Не так.

— Чаму не так?

Трасцянок з літровага слоіка выграбаў дрўлянай лыжкай кансерваванае шчаўе ў каструлю. Усё-такі не адмовіўся ад сваёй задумы пачаставаць Памалейку гарачай стравай.

— Сірот напладзілі мы. Вось таму і не так жывём.

Сцяпан падышоў да палічкі з кнігамі, якая была прыбіта якраз над ягоным ложкам, узяў кнігу. Гэта былі апавяданні Джэка Лондана.

— Але ж гэта не толькі наша віна, Сцёпа. Гэта віна і нашых жанчын. І яны не з чыстага золата, а з прымесямі.

— Не суцяшай сябе і мяне.

— Я не збіраюся суцяшаць. Я толькі памятаю, як мой дзядзька казаў: «У кожнай жанчыне жыве цешча». Разумееш? Тая самая цешча з анекдотаў, бурклівая, злая, вечна нечым незадаволеная. Гляне на цябе такая і не «рублём подарит», а нібы па галаве бярозавым паленам стукне.

— У мяне цешча неблагая была,— сказаў Сцяпан.— І жонка добрая. Не заўсёды, праўда, добрая, але нармальная. Я сам дужа пераборлівы быў.

— Ну, дык у чым жа справа? — пачаў заліваць шчаўе вадою Трасцянок,— Вяртайся да іх. Да любімай цёшчы і да жонкі. Стань перад імі на калені і папрасі, каб даравалі табе часовае зацьменне. Яны любяць, калі мужчыны перад імі на калені становяцца.

— Не вярзі глупства. На калені Памалейка ні перад кім не стане.

— Тады не ціўкай, як той верабей. Цярпі. Будзь рыцарам халастога жыцця. Я вось,— Трасцянок усмешліва прыжмурыў шэрыя вочы,— з самага юнацтва, з самых маладых гадоў хацеў кахаць многіх жанчын. Многіх...

— У гарэме пабыць захацелася?

— Ды не так ты зразумеў. У адной мне падабаўся характар, у другой — твар, у трэцяй — голас, у чацвёртай — прыгожыя ножкі... А вось каб разам усё гэта было, у адной дзяўчыне, такой не сустрэў. І не сустрэну, бо такіх, стопрацэнтных, няма. Вось і трэба, і даводзілася адну кахаць за характар, другую — за твар, трэцюю — за прыгожыя ножкі...

— І шмат такіх было? — зацікавіўся, адклаў убок томік Джэка Лондана Сцяпан.

Але Трасцянок не адказаў на пытанне. Няхай гэта будзе тайнай Юзіка Трасцянка. Замест доўгага расказу Трасцянок перавёў гаворку на іншае, сказаў:

— Зноў Фанера Мілоская заходзіла.

Тут неабходна зрабіць невялікае тлумачэнне. У інтэрнаце, у якім жылі Памалейка з Трасцянком, было чатыры штатныя адзінкі выхавацеляў. Адна з выхавацельніц, Дзіяна Мартынаўна Адзінцова, строгая немаладая жанчына, мастацтвазнаўца па адукацыі, вельмі любіла прыводзіць да сваіх падапечных лектараў, якія чыталі лекцыі пра жыццё старажытнай Грэцыі, старажытнага Рыма, пра славутых мастакоў і скульптараў, пра багоў, пра Зеўса і Венеру. Дзіяна Мартынаўна заўсёды садзілася побач з лектарам, трымаючы ў руцэ алавак. Калі хто-небудзь са слухачоў праяўляў не дужа вялікую цікавасць да старажытных грэкаў, яна строга стукала алоўкам па графіну з вадой. На вялікае няшчасце, Дзіяна Мартынаўна была вельмі худой, бледнай жанчынай, з плоскімі непрыкметнымі грудзямі, і жорсткія інтэрнацкія дасціпнікі назвалі яе Фанера Мілоская, у адрозненне ад Венеры Мілоскай. Такія мянушкі, як вядома, прыклейваюцца да людзей назаўсёды.

— Чаго яна хоча? — спытаўся Сцяпан.

— Будзе агляд рабочых інтэрнатаў. Нейкая камісія ажно з Масквы прыязджае. Могуць і да нас у пакой зазірнуць.

— Хай заходзяць. Дзверы ў нас расчынены для ўсіх: для сяброў і для каменданта-дырэктара Давыда Аляксандравіча Чхарцішвілі.

— Ого, бачыў бы ты, як гэты Чхарцішвілі бегае па інтэрнаце! Хоча першае месца ў аглядзе ўзяць. А Фанера Мілоская заходзіла папярэдзіць, каб на час праверкі мы ўсё гэта дабро са сцен садралі. Потым, кажа, можам зноў павесіць.

Трасцянок шырока павёў рукою наўкол сябе, паказваючы тое, што непажадана было бачыць высокай сталічнай камісіі. Дзесяткі яркіх, выразаных з нашых і замежных часопісаў, партрэтаў прыгажунь глядзелі са сцен на Юзіка і Сцяпана.

— Нічога сабе дзяўчаткі,— усміхнуўся Сцяпан Памалейка.— Натхняюць, даюць бадзёрасць і гэтак далей. Але калі таварыш Чхарцішвілі і Дзіяна Мартынаўна супроць іх, то...

Ён падышоў да сцяны, і няшчасныя прыгажуні з трэскам паляцелі на падлогу.

— Ты ж акуратней,— захваляваўся Юзік.— Пасля праверкі мы іх зноў павесім.

— Не трэба іх вешаць. Накрасаваліся. Я лепей партрэт свайго сына Лёніка павешу.

Праз некалькі хвілін усе сцены былі чыстыя, а Сцяпан Памалейка вешаў над сваім ложкам фотакартку сына. Потым доўга глядзеў на фотакартку, прыцмокваў языком, хваліўся Трасцянку:

— Паглядзі, які ў мяне сын. Волат!

— Маленькі Памалейка,— засмяяўся Трасцянок.— Нос такі ж, як у бацькі,— дзюбаты.

Пры гэтых яго словах Сцяпан Памалейка кісла зморшчыўся і асцярожна, як бы вывучаючы, пакратаў свой нос.

У пакоі ўсталявалася цішыня, а інтэрнат, вялізны, неспакойны, бяссонны, гудзеў, шумеў, вуркатаў, як мора. Нехта збіраўся на работу, нехта толькі прыходзіў са змены, нехта спяваў, падыгрываючы сабе на гармоніку. На пятым паверсе, якраз над галовамі ў Юзіка і Сцяпана, моцна, на ўсю «катушку», было ўключана радыё. Голас дыктаркі, чысты і спакойны, паведамляў: «Аятала Хамейні выступіў перад тэгеранскімі студэнтамі...» Што сказаў аятала студэнтам, даведацца не давялося, бо глыбока знізу, з падвала, дзе ўвечары займалася секцыя штангістаў, даляцеў, перакрыўшы ўсе гукі, звонкі, трывожна-ўрачысты гуд металу. Пэўна, нехта з навічкоў не ўтрымаў штангу, і яна пляснулася аб памост.

— Эге-ге! — усклікнуў раптам Юзік.— Шчаўе гатова. Свежанькае, гарачанькае. Шукай, Сцёпа, лыжкі!

Сцяпан глянуў у тумбачку, глянуў у другую — лыжак нідзе не было. Успомніў, што ўчора лыжкі ўзялі хлопцы-суседзі з блока «Б». Падышоўшы да іхніх дзвярэй, ужо хацеў пастукаць, але рука сама сабой апусцілася. На дзвярах, на ўзроўні сваіх вачэй, ён убачыў чорную канцылярскую кнопачку. Звычайную канцылярскую кнопачку. Толькі і ўсяго. Але для дасведчанага чалавека гэта быў знак, шыфр, сігнал: «Не заходзь. У пакоі — дзяўчына». Такую «сігналізацыю» выдумаў новы жыхар пакоя, слесар Марат Лёгкі. З месяц, як ён пасяліўся ў пакоі замест Ігара Доўбіка, якога забралі на службу ў армію, а ўжо шмат з кім, і ў першую чаргу з Давыдам Аляксандравічам Чхарцішвілі, пасварыўся. Дый Сцяпану ён не вельмі спадабаўся.

Каржакаваты, з густой грывай доўгіх чорных валасоў, вечна нечым незадаволены, у любой кампаніі ён заўсёды стараўся быць у цэнтры ўвагі. «Я — саліст»,— сказаў ён аднойчы. Гэтае «саліст» трэба было разумець не ў тым сэнсе, што Лёгкі запявае ў нейкім хоры. Не. Ён хацеў быць «салістам» у жыцці, у калектыве. Сацыёлагі і псіхолагі называюць такіх людзей «лідэрамі». Але роля лідэра яўна была не пад сілу Марату Лёгкаму. Ужо тое, што ён зверху глядзеў на таварышаў, не любіў прыслухоўвацца да чужых меркаванняў, рабіла марнымі ўсе яго патугі на лідэрства. Але ён не хацеў разумець гэтага. Аднойчы сядзелі разам у пакоі, ён, Сцяпан, Юзік Трасцянок, яшчэ некалькі знаёмых хлопцаў, і раптам у калідоры пачуліся валтузня, шум, крык — нехта з інтэрнацкіх вярнуўся дадому «цёпленькі». Часамі такое здаралася, асабліва пасля палучкі. Усе засталіся сядзець на сваіх месцах, і толькі Лёгкі, як тыгр, выскачыў у калідор. Праз мінут дзесяць ён вярнуўся нібы з Кулікоўскае поля. Валасы ўскудлачаны, гальштук развязаўся, рукаў кашулі разарваны. «Што такое, Марат?» — кінуліся да яго хлопцы. «Спакойна»,— спыніў усіх Лёгкі ўладным рухам рукі. У яго быў выгляд рымскага консула, які толькі што перамог Ганібала і прымае віншаванні свайго войска. «Што там усё-такі было?» — насядалі на Марата. «Ды траім малакасосам даў прачуханца. Запомняць Лёгкага»,— горда ўсміхаючыся, сказаў ён і сеў на сваё крэсла. Усе з павагаю паглядзелі на героя. А назаўтра ў пакой да Юзіка і Сцяпана Памалейкі зайшоў знаёмы хлопец і, прыцішаючы голас, запытаўся: «Ваш Лёгкі часам не звар'яцеў?» — «Не, нармальны. А што такое?» — «Ды ўчора быў я на кухні, бульбу смажыў. Аж тут Лёгкі на калідор выбягае. Зыркнуў па баках, мяне не ўбачыў і давай сам сябе за валасы цягаць, па шчоках хвастаць. А потым як ірвануў сябе за гальштук». Здзіўлены хлопец пайшоў з пакоя, а Сцяпан з Юзікам паглядзелі адзін на аднаго і весела зарагаталі. З таго часу і пайшло — «Лёгкі, які сам з сабой пабіўся». Сцяпан жартаваў: «Некалі ў Кузьмы Чорнага Пархвен Катлубовіч з п'яным пеўнем біўся. А наш Лёгкі — мудрэйшы. Сам з сабой баталію правёў».

Слава Марата Лёгкага адразу і беззваротна прайшла. На кожным кроку з яго кпілі, пацяшаліся, і ён, па яго словах, «пачаў наступленне на другім фронце» — на дзявочым. Вось адкуль узялася чорная канцылярская кнопачка на дзвярах ягонага пакоя.

Сцяпан паглядзеў на гэту кнопачку і з пустымі рукамі вярнуўся назад.

— Дзе лыжкі? — спытаўся Юзік.

— Хлябай так, Трасцянок. Лыжак не будзе. У Марата Лёгкага сёння прыёмны дзень.

— Вунь яно што. Так дык так.

І Юзік Трасцянок ашчаперыў абедзвюма рукамі талерку і пачаў, прысёрбваючы, піць з яе шчаўе, балазе было яно рэдкае. Сцяпан зрабіў тое ж самае. Калі расправіліся са шчаўем, Трасцянок, сыта ўсміхнуўшыся, аб'явіў:

— А зараз не грэх падушку падавіць. Каб усе крошкі ў тлушч ператварыліся.

Назаўтра раніцой Сцяпан пайшоў у інтэрнацкую бібліятэку, балазе яна працавала і ў нядзелю. Бібліятэка была на другім паверсе. Сцяпан спусціўся па лесвіцы, гулка тупаючы нагамі, размахваючы рукамі, нібы сам сабе дырыжыраваў. Але, наблізіўшыся да дзвярэй бібліятэкі, пачаў ісці ледзь не на дыбачках, нават дыханне суцішыў. Яшчэ са школьных гадоў, з тых часоў, калі разам з маці гадзінамі праседжваў ля кніг, паміж кніжных паліц, на ўсё жыццё зрабіў для сябе вывад Сцяпан Памалейка, што бібліятэка — гэта святое месца. І ісці ў такое месца, у цішыню мудрых кніг, трэба з яснай, чыстай душой.

Бібліятэкарка, мілавідная светлавалосая дзяўчына, якая толькі што скончыла бібліятэчны тэхнікум і старалася быць разважлівай і сур'ёзнай, сустрэла Сцяпана прыветлівай усмешкай.

— Добры дзень, таварыш Памалейка. Што вы хацелі б узяць пачытаць?

Бібліятэкарка ўсіх сваіх актыўных чытачоў ведала ў твар, ведала, дзе хто працуе. Сцяпан глядзеў на яе маленькія прыгожыя рукі, на залацісты пушок над мяккай верхняй губою, і на душы ў яго рабілася радасна. Магчыма, гэту радасць прыносіла яму думка, што тут, у гэтай сціплай інтэрнацкай бібліятэцы, добра і светла суседнічаюць кнігі, якія ён заўсёды любіў, і слаўная чыстая дзяўчына з харошым імем — Святлана Галубіцкая.

— Што вы мне параіце пачытаць, Святлана Рыгораўна? — у сваю чаргу пацікавіўся ён.

Бібліятэкарка яшчэ не звыклася з тым, што да яе так падаросламу, з такой пашанаю звяртаюцца. Яна ўся заружовілася, успыхнула, папрыгажэла. Хуценька ўзнялася з крэсла, лёгка пайшла між стэлажоў з кнігамі.

— Вам, таварыш Памалейка, трэба чытаць сур'ёзныя кнігі, сур'ёзных пісьменнікаў. Аляксандр Герцэн сказаў; «Дом без кнігі, што чалавек без душы». Кнігу нішто не заменіць, нішто. Вы і вашы таварышы ў ленінскім пакоі цэлыя выхадныя гледзіце па тэлевізары хакей і футбол.— Яна слаба, як бы просячы прабачэння, усміхнулася.— Гэта

добра. Спорт трэба любіць і трэба займацца спортам. Але кнігу нішто не заменіць, нішто.

Яна ўжо стаяла перад Сцяпанам, трымаючы ў руках вялікі стос кніжак. Лёгкая кофтачка ў такт дыханню прыўзнімалася на маленькіх цвёрдых грудзях. Сцяпан успомніў, як аднойчы разам з ім у бібліятэку заглянуў Юзік Трасцянок. Пахадзіў між стэлажоў, пагартаў некалькі кніжак, потым нявінным голасам спытаўся ў бібліятэкаркі:

— Вы не маглі б, Святлана Рыгораўна, адказаць мне на адно пытанне?

— Калі ласка, таварыш Трасцянок,— узняла па Юзіка блакітныя вочы бібліятэкарка.

— Ці не ведаеце, які свой твор Максім Горкі лічыў самым лепшым?

— Максім Горкі? Аляксей Максімавіч?

Яна прыкусіла губу, яна так хацела даць правільны адказ, што аж зморшчыла Лобік і прыжмурылася.

— «Жыццё Кліма Самгіна»? А можа, «Песню пра Буравесніка»? Ці «Фаму Гардзеева»?

Яна так глядзела на Трасцянка, нібы ад таго, што і як яна скажа, залежаў яе лёс. Юзік вытрымаў паўзу, кашлянуў у кулак, сказаў роўным урачыстым голасам:

— Аляксей Максімавіч Горкі самым лепшым сваім творам лічыў сына свайго Максіма.

Яна ажно адхіснулася ад Трасцянка, пабляднела, пальцамі правай рукі чамусьці дакранулася да сваіх вуснаў. Потым, вельмі-вельмі ціха, спыталася:

— Вы так думаеце, таварыш Трасцянок?

— Так думаў таварыш Максім Горкі,— сказаў, як адрапартаваў, Юзік.

Гэты выпадак успомніўся Сцяпану, калі глядзеў ён на бібліятэкарку, што трымала перад ім кнігі. Тады Сцяпан у пакоі накрычаў на Юзіка, прыгразіў, што прыкароціць яму язык, калі ён будзе так размаўляць з бібліятэкаркай. Маларослы Юзік глянуў знізу ўверх на Памалейку, сумна ўздыхнуў і паабяцаў, што заключыць са Святланай Рыгораўнай вечны мір.

— Вам трэба пачытаць сучасных пісьменнікаў,— сказала бібліятэкарка.— Распуціна, Астаф'ева... Вы чыталі Распуціна? З нашых беларускіх пачытайце Быкава і Шамякіна. Чытайце не спяшаючыся, удумайцеся ў тое, што вам хоча расказаць пісьменнік. Думкі аўтара старайцеся звяраць, параўноўваць са сваімі думкамі. Толькі тады ад кнігі будзе карысць.

Сцяпан узяў томік Распуціна і «Сотнікава» Васіля Быкава. Падзякаваў, развітаўся і выйшаў з бібліятэкі. Ідучы па зацемненым калідоры, перагортваў кнігі і думаў, што яму абавязкова трэба паступаць некуды вучыцца. У інтэрнаце жыве нямала хлопцаў-вячэрнікаў. Трэба пазнаёміцца з імі і паслухаць, што параяць яны. Ён хацеў сказаць аб гэтым і бібліятэкарцы, але чамусьці не адважыўся.

На лесвіцы Сцяпана ледзь не збіў з ног Юзік Трасцянок. Юзік бег, як на пажар,— у майцы, у спартыўных шараварах. Ён бы прабег міма, калі б Сцяпан не паклікаў яго:

— Юзік, ты куды?

— Цьфу ты,— махнуў рукой Юзік.— А я цябе шукаю. У бібліятэку шурую.

— Вось ён — я,— сказаў Сцяпан.— Навошта ты мяне шукаеш?

— Разумееш,— перавёў дыханне Юзік,— толькі прылёг паспаць, толькі са сваім дзядзькам у сне сустрэўся і паскардзіўся дзядзьку, што па сённяшні дзень жыву без кватэры, як стукаюць у дзверы. І заходзіць жанчына. Не маладая, не. Заходзіць кабета і пытаецца: «Дзе тут знайсці Сцяпана Памалейку?» Я кажу: ён у нас кніжнік, у бібліятэку пайшоў. Яго хлебам не кармі...

— Пачакай балабоніць,— не дужа ветліва перапыніў яго Памалейка.— Што за жанчына?

— Жанчына як жанчына,— пацінуў плячыма Юзік.— Нават сімпатычная жанчына. Я падумаў, што гэта твая маці з Барысава прыехала. І адразу рвануў у бібліятэку.

— Маці? Мая маці?

Сцяпан правай рукою прыціснуў да грудзей кнігі, левай, як нейкую перашкоду, адвёў убок, адсланіў ад сябе Юзіка і стрымгалоў пабег у свой пакой. Юзік застаўся стаяць на месцы і толькі разгублена ўсміхаўся і прыгаворваў:

— Да мамкі пабег, сысунок... Да мамкі пабег... «Няўжо да мяне прыехала мама? Мая мама... Няўжо знайшла мяне? А я толькі адзін ліст напісаў ёй... Мама... Якой яна стала?»

Сцяпан Памалейка, пераскокваючы прыступкі, імчаўся па лесвіцы, потым пабег па калідоры, наляцеў на нейкага хлопца, які ішоў з чайнікам. Хлопец вылаяўся, чайнік з бразгатам пакаціўся па падлозе.

«Мая мама... Я ж нічога ёй не сказаў... Паехаў... А яна плакала, пэўна ж, плакала... Мама...»

Ён уварваўся ў свой пакой, кінуў на ложак кнігі, раскрыліў рукі, каб абняць маці, і ўбачыў, што гэта не маці. Гэта была не яго маці. Нейкая чужая незнаёмая жанчына сядзела на ягоным крэсле і, як

толькі ён убег, парывіста ўзнялася, і па яе твары ён убачыў, што яна вельмі хвалюецца.

— Добры дзень,— расчараваным голасам сказаў ён.— Я — Сцяпан Памалейка. Што вы хацелі?

Ён раптам адчуў такую стомленасць, такую тугу на сэрцы, што гатоў быў заплакаць, і, каб не гэтая чужая жанчына, ён, пэўна б, заплакаў.

— Сядзіце,— сказаў жанчыне Сцяпан. Але яна стаяла, перабіраючы пальцамі рук сінія гузікі свайго паліто. Яна — падумалася яму — нібы на жалейцы іграла.

Дзверы расчыніліся, і Юзік Трасцянок асцярожна ўсунуў галаву ў пакой.

— Заходзь, Юзік,— паклікаў сябра Сцяпап,— Гэта не мая маці.

Жанчына як апякла яго хуткім уважлівым паглядам, сказала:

— Добры дзень. Я Дар'я Антонаўна Памалейкіна. Мы з вамі ўжо сустракаліся. Памятаеце?

У жанчыны быў бледны стомлены твар.

«Дык вось гэта хто. Маці, але, так сказаць, з другога боку. Новая бацькава жонка».

— Сядайце,— зноў прапанаваў Сцяпан.

Яна асцярожна прысела на крэсла, зняла з галавы вязаную шапачку, і густыя, трохі падсярэбраныя сівізной валасы ўпалі на плечы. Сцяпан сам не садзіўся, стаяў, чакаў, што скажа яна.

— Ледзь адшукала вас,— сказала Дар'я Антонаўна.

— А навошта мяне трэба было шукаць?

— Сцёпа... Вас можна так называць — Сцёпа? — ён кіўнуў, і яна загаварыла далей: — Сцёпа, вы заходзілі да нас... Да бацькі... Я, на жаль, была на рабоце і не ведаю, пра што вы гаварылі...

— Мы гаварылі пра добрае надвор'е,— Сцяпан Памалейка іранічна ўсміхнуўся.

Яна спакойна прыняла гэты ўкол, спакойна паправіла валасы, гаварыла далей:

— Можа вам патрэбна ад Івана Іванавіча дапамога? Можа грошы? Вы ж — сын. Вы маеце права патрабаваць.

Твар у Сцяпана перасмыкнуўся.

— Паслухайце, вы... жонка Івана Іванавіча,— павольна сказаў Сцяпан.— Столькі гадоў я жыў без яго дапамогі. Семнаццаць гадоў. І прыехаў да яго не па грошы. Я проста хацеў глянуць на яго. Глянуць. Разумееце? Нічога мне ні ад яго, ні ад вас не трэба. Я глянуў. І — усё. І — кропка.

Яна ўзнялася з крэсла, падышла да яго, хацела ўзяць за руку, але не асмелілася, сказала журботным голасам:

— У мяне шасцёра дзяцей. У нас з Іванам Іванавічам шасцёра дзяцей. Чатыры дачкі і два сыны. І я заўсёды, паверце, заўсёды старалася, каб мае дзеці выраслі чэснымі і добрымі людзьмі. Гэта — нялёгка.

— Што вы хочаце ад мяне? — Сцяпан узяў з ложка кніжкі, сціскаў іх пальцамі, гладзіў іх. З сумам падумалася, як добра, як ціха было ў бібліятэцы. Сядзець бы там зараз і чытаць кніжку, а не глядзець на гэту жанчыну, на яе бледны стомлены твар.

— Я нічога не хачу, Сцёпа,— ціха сказала Дар'я Антонаўна.— Я нічога не хачу...

Яна ўважлівым паглядам абвяла пакой, спынілася на імгненне на фотакартцы Лёніка,— Можа ў вас бялізна ёсць якая нямытая? Давайце мне. Я вось і сумку з сабой гаспадарчую ўзяла. Я вам памыю. У мяне ёсць харошая памочніца — дачка Каця. Мы з ёй памыем і папрасуем. І прывязём сюды. Усё-такі вам меней марокі будзе.

— Дзякуй, але не трэба. Я сам умею мыць. У нас у інтэрнаце ёсць нядрэнная пральня.

Сцяпан з кожным імгненнем усё болей адчуваў, што не ведае, як трэба сябе паводзіць з гэтай жанчынай. Спачатку хацеў быць грубым, рэзкім, але ўбачыў ціхія, сумныя вочы, маршчынкі каля гэтых вачэй, і ўсе грубыя словы як ветрам выдзьмула з душы. Але і добрых слоў ён не мог гаварыць, не меў права гаварыць гэтай жанчыне. Ён успамінаў сваю маці, матчын твар і думаў, што гэта жанчына, хоць яна ні ў чым не вінавата, усё-такі ў нечым вінавата. Яна, быццам адгадаўшы яго думкі, загаварыла, спяшаючыся:

— Я не ведала, што ў Івана Іванавіча ёсць сын. Памалейкін прызнаўся, што разведзены, але не прызнаўся, што ў яго ёсць сын, ёсць вы, Сцёпа. Дальбог, я не ведала.

— А што было б, каб вы даведаліся? — спытаўся Сцяпан.

— Я б не выйшла за яго. Я не стала б сваё шчасце будаваць на няшчасці іншай жанчыны. Паверце мне.

У дзверы зноў асцярожна заглянуў Юзік Трасцянок.

— Заходзьце,— сказала яму Дар'я Антонаўна.— Я ўжо іду і не буду вам замінаць.

Юзік зайшоў у пакой, апрануў кашулю, якая валялася на ложку, глядзеў то на Сцяпана, то на Дар'ю Антонаўну. Усе маўчалі.

— Я рада, што пазнаёмілася з вамі, Сцёпа,— сказала нарэшце Дар'я Антонаўна.— Я жадаю вам шчасця. Яно ў вас будзе. Абавязкова

будзе — я бачу па вас. Думаю, што мы з вамі яшчэ сустрэнемся. Да пабачэння.

Яна падала яму руку. Ён трохі павагаўся і паціснуў яе руку, маленькую цвёрдую руку гарадской жанчыны, з пафарбаванымі пазногцямі, шурпатую ад пральных парашкоў. Яна падала руку Юзіку, яшчэ раз сказала: «Да пабачэння»,— і ціха выйшла з пакоя. Сцяпан падышоў да акна, доўга чакаў, пакуль яе постаць пакажацца на інтэрнацкім двары. Яна ішла лёгкім спорным крокам, узняўшы каўнер цёмнасіняга паліто, трымаючы ў руцэ гаспадарчую сумку, і ва ўсёй яе паставе, паходцы адчувалася спакойная сіла. На прыпынку яна апусціла каўнер паліто, падышоў тралейбус, са скрыгатам расчыніў дзверы і праглынуў яе.

Сцяпан адышоўся ад акна, лёг на ложак, заклаўшы за галаву рукі. Проста над ім, на белай чыстай столі, віднеўся вялікі рыжаваты пісяг. Гэта неяк Трасцянок адкаркоўваў бутэльку шампанскага, і шампанскае шуганула ажно на столь.

Ён ляжаў, глядзеў на столь, і яму думалася, што іхняя столь адначасова служыць падлогай для хлопцаў з пятага паверха. Ён адганяў гэту думку, але яна зноў прыходзіла. Столь і аднačасова падлога... Нехта ходзіць па іхняй столі... І яму падумалася, што так і нейчае няшчасце можа быць, можа стаць шчасцем для іншага чалавека.

Ён устаў, уключыў тэлевізар. Яны з Юзікам бралі тэлевізар напракат — гэта радасць не надта дорага каштавала. Перадавалі эстрадны канцэрт. Модныя даўганогія спявачкі, у смелых дэкальтэ, якія дазвалялі бачыць усю спіну, трымалі ў руках мікрафоны, як пісталеты, спявалі і маршыравалі, маршыравалі па сцэне. Тут, вядома, галоўнае было не ў голасе, галоўнае было ў жаданні паказаць сябе, сваю фігуру, свае экстравагантныя рухі. Яму ўспомніліся словы адной пажылой жанчыны, сказаныя з насмешкай, крыўдай і злосцю: «Даўней са скуры вылузваліся, каб сукенку паказаць, а цяпер з сукенак вылузваюцца, каб скуру паказаць». Сам ён не бачыў у гэтым нічога благога. Чаму і не паказаць прыгожую жаночую скуру? Але галасы раздражнялі. Ён выключыў у тэлевізары гук — пачалося нямое кіно. Даўганогія спявачкі хаўкалі ратамі, як рыбы, выкінутыя на сушу. Было смешна і трошкі сумнавата глядзець, калі яны дужа шырока раскрывалі раты — «на шырыню ружэйнага прыклада», як жартуе Юзік,— але анічагусенькі не было чуваць. Ды вельмі хутка гэта ненатуральнасць абрыдла, і Сцяпан выключыў тэлевізар.

Юзік усё круціўся па пакоі, па ягоных вачах было відаць, што яму край як хочацца пагаварыць са Сцяпанам. Але Памалейка ўпарта маўчаў, лежачы на ложку. Нарэшце Юзік не вытрымаў.

— Хто гэта ў цябе быў? Што за дама? — пацікавіўся ён.
— А хіба ты не пазнаў? Эдзіта П'еха,— адказаў Памалейка.
— Ды кінь піжоніцца. Я сур'ёзна пытаю.
— А калі сур'ёзна, дык жонка майго бацькі.
— Вунь яно што,— прысвіснуў Юзік.— Салідная кабеціна. Слухай, пайшлі на вуліцу. Чаго мы тут цэлы дзень ляжым, як цюлені?
Яны часцяком рабілі вячэрнія прагулкі, «мацыёны», як называў іх Сцяпан. Глядзелі на людзей і паказвалі сябе. Больш, вядома, глядзелі на людзей, бо ў вялікім мільённым горадзе паказваць сябе гэта тое ж самае, што маленькай кроплі крычаць бяскрайняму мору: «Паглядзі, мора, якая я прыгожая!» Людзям няма часу разглядваць адзін аднаго, людзі заўсёды некуды спяшаюцца. І ў гэтай спешцы свая размеранасць і заканамернасць. Гэта толькі спачатку, як трапіш у буйны горад, здаецца, што рухаюцца людзі хаатычна, бессістэмна. Горад жыве метадам мурашніку і вулля, а ў мурашоў і пчол, у іхнім вечным руху ніколі не бывае нічога лішняга. Рух горада можна параўнаць з рухам акіянскіх хваль. У руху хваль ёсць свае пастаянныя цыклы, ды і да іх трэба прывыкнуць, каб пачаць заўважаць іх. Калі старадаўнія грэкі ўпершыню абаснаваліся каля мора, яны яшчэ не ўмелі абазначаць такую з'яву, як хвалі, і гаварылі: «Вада ішла ўверх, уніз і ў бакі...»
Сёння Сцяпан не пайшоў з Трасцянком па вуліцу. Маўкліва ляжаў на ложку і глядзеў у столь. Юзік зразумеў, што на сябра накацілася меланхолія, не стаў яму надакучаць і адзін рушыў «глядзець на людзей і паказваць сябе». А Сцяпан ляжаў у нейкім здранцвенні, не ўключаючы святло, не варушачыся. Яму прыгадвалася, што такі стан душы ён зведаў яшчэ некалі ў дзяцінстве. Бывала, прачнешся адзін у пакоі, малы, дзесяцігадовы, і не ведаеш — дзень гэта ці вечар, і нікога няма побач, і такі сум раптоўна ахопіць душу, нібы на ўсёй зямлі толькі ты застаўся жывы. Дарэмна клічаш тады «мама, мама» — мамы няма, яна пайшла ці ў магазін, ці да суседзяў, а табе здаецца, што мамы наогул няма і ніколі не будзе, што яна памерла, і слёзы ціха льюцца па тваіх шчоках, і ты ляжыш на сваім ложку, бяссільны, спустошаны, раздушаны цішынёй. А ў акне, што насупраць твайго ложка, ярка чырванеюцца шыбы, а драўляная сцяна ўся ў барвовых промнях. Якая гэта зара — вячэрняя, ранішняя? А можа гэта марсіяне, што знянацку захапілі зямлю і перабілі ўсіх яе жыхароў, апрача цябе, запалілі свае высокія чырвоныя вогнішчы і танцуюць каля іх?
Назаўтра ў магазіне Люда Гуслякова трохі пакасавурылася на Памалейку, трохі пафыркала, як дзікая лясная кошка, але неўзабаве ён зноў пачуў яе звонкі капрызлівы галасок: «Докер, масла няма ў

аддзеле! Докер!» Пачаўся звычайны рабочы дзень. Хлынулі ў магазін людзі, запоўнілі гандлёвую залу мяккім шарканнем падэшваў, мноствам неабавязковых лішніх слоў, кашлем. Зноў уляцелі ў магазін вераб'і. Зноў цётка Даша замахала доўгай швабрай, каб выгнаць на вуліцу крылатых няпрошаных гасцей.

Да Сцяпана падышоў загадчык магазіна Аркадзь Анатольевіч Цывілька. Як заўсёды, жвавы, рухавы, крэпенькі з твару, нібы свежы маласольны агурочак.

— Сцяпан Іванавіч,— сказаў ён,— справа да цябе ёсць. Асабістая.

«Ого,— падумалася Сцяпану.— Чакаецца нешта цікавае. Карлсан мае да мяне асабістую справу».

— Слухаю вас, Аркадзь Анатольевіч.

— Разумееш, просьба ў мяне да цябе. Ты ж халасцякуеш, да сям'і не прывязаны... Адным словам, хата ў мяне ёсць у вёсцы пад Мінскам. Цёшчына хата. Ну й я гэту хату патрохі рамантую, абнаўляю. Дачу хачу сабе зрабіць. Работы там яшчэ на сто гадоў, але ж увязаўся ў ярмо, трэба цягнуць. Адным словам, я прашу цябе, каб ты памог мне там выкапаць пограб.

— Яснае дзела,— сказаў Сцяпан,— Я згодзен. Калі едзем?

— Я яшчэ і Лапцэвіча папрасіў, і ён таксама згодзен,— абрадаваўся Цывілька.— А паедзем з пятніцы на суботу.

У прызначаны дзень і час Памалейка з Лапцэвічам стаялі на аўтобусным прыпынку і чакалі Аркадзя Анатольевіча, які павінен быў забраць іх на сваіх «Жыгулях». Нарэшце чырвоныя «Жыгулі», бадзёра чмыхнуўшы сінім дымком, спыніліся на прыпынку. Цывілька, у дэмісезонным клятчастым паліто, у ярка-зялёным світэры, расчыніў дзверцы машыны, весела гукнуў:

— Загружайся, хлопцы!

Выехалі за горад. Па гарадскіх вуліцах Цывілька ехаў дужа асцярожна, поўз, як тая чарапаха, загадзя спыняўся на чырвонае святло, хоць некаторыя іншыя аўтамабілісты паспявалі прашмыгнуць праз перакрыжаванне. Адным словам, быў ён у горадзе самым сумленным вадзіцелем, але як толькі вырваліся за кальцавую дарогу, нібы скінуў з сябе нейкія злыя чары, нібы перарадзіўся. Твар у яго, здаецца, памаладзеў, вочы заблішчалі. Ён адразу надбавіў хуткасць, стрэлка на спідометры затрапятала і цвёрда лягла на лічбу «100».

Дарога была ўжо незімняя, але яшчэ і не вясенняя. На шэрай, свабоднай ад снегу паласе асфальту там-сям трапляліся астраўкі спрасаванага, цвёрдага, як камень, лёду. Машыну тады злёгку падкідвала, і на нейкія долі секунды ў Сцяпана з'яўлялася адчуванне

бязважкасці, быццам быў ён касманаўтам і не на дырэктарскіх «Жыгулях» ехаў, а рабіў соты віток вакол Зямлі на борце «Саюза».

Літаральна за лічаныя дні сонца растапіла амаль увесь снег. Палі наўкол дарогі былі чорна-белыя, пярэстыя, прычым чорны колер перамагаў, перамагаў на вачах, і снегу, што журботна бялеўся яшчэ ў нізінах, у хмызняках і пад прыдарожнымі дрэвамі, заставалася жыць нядоўга.

— Хутка хлыне наш брат на дарогу,— узбуджана казаў Цывілька, маючы на ўвазе аўтамабілістаў-аматараў.— Ух, будзе шум і гром! За зіму ездзіць развучыліся, ды, калі чэсна сказаць, і не ўмелі добра ездзіць. Ну й памнуць хлопцы адзін аднаму бакі.

Сам ён, мяркуючы па яго ўпэўненых свабодных рухах, ездзіць умеў, машыну і дарогу ведаў як свае пяць пальцаў. Кіламетры за два да чарговага паста ДАІ ён рэзка скідваў хуткасць і павольна-павольна, нават занадта павольна, праязджаў перад вачамі строгіх міліцыянераў. Як толькі міналі пост, машына зноў, нібы ўсярэдзіне ў яе ўзрывалася бомба, рэзка кідалася ўперад, і толькі вецер свістаў, ударaючыся аб чырвоны капот.

— Ну і стратэг вы, Аркадзь Анатольевіч! — з захапленнем усклікваў Сцяпан Памалейка.

Цывільку, відно па ўсім, падабаліся такія камплiменты, і ён, павярнуўшыся да Сцяпана і Лапцэвіча, але ні на міг не выпускаючы з поля зроку шэрую стужку дарогі, весела гаварыў:

— Купіш такога бычка, хочаш не хочаш зробішся стратэгам. Жалезны бычок сена не есць — яму бензін падавай. А запчасткі, а тэхагляд, а гараж! — Цывілька з прытворным жахам акругляў свае карычневыя вочы-шчылінкі: — Пра жонку забудзешся. Спаць кладзешся і, замест таго, каб жонку пагладзіць, думаеш: «Штосьці пачало ў маторы стукаць. Што там можа быць такое?» Цьфу!

З Маскоўскай шашы звярнулі на грунтавую дарогу, вузкую, чорную, недагледжаную. Тут ужо Цывільку было не да размоў — толькі трымайся, толькі глядзі, каб далікатная гарадская машына, якой з'яўляюцца «Жыгулі», не села ў якой-небудзь калдобіне на «бруха». Ён аж зубы сашчаміў, аж шапку скінуў і, калі машына шкрэблася абшыўкай аб зямлю, моршчыўся, нібы яму рабілі балючы ўкол.

Гадзіны праз дзве прыехалі ў вёску. «Вёска Ключыкі» — было напісана белымі літарамі па сіняй, парыжэлай ад сонца і дажджоў шыльдзе, якая вісела на слупе, што ўжо трохі нахіліўся да зямлі, нібы стары дзед. Цывілька падагнаў машыну да старых, зялёных ад моху варотаў, за якімі стаяла вялікая падноўленая хата і рос занядбаны сад

— крывыя яблыні з попельна-шэрай патрэсканай карою. На адной яблыні, на абламанай галіне, вісеў жоўты гладыш.

— Выгружайся, хлопцы! — скамандаваў Цывілька, спрытна пералез праз плот і адтуль, са двара, адчыніў вароты. Яны са скрыпам, павольна і як бы неахвотна, раз'ехаліся, расплыліся ў бакі, і стаў відзён двор — вялікая куча мокрай чырвонай гліны, нейкія жалязякі, нейкае бярвенне, зваленае як папала.

Машына заехала на двор, спынілася, але з хаты ніхто не выйшаў, нават не глянуў у акно. Цывілька адчыніў багажнік, дастаў адтуль дзве гаспадарчыя сумкі, некалькі буханак кменнага хлеба, некалькі бутэлек піва.

Увайшлі ў хату. У нос Сцяпану ўдарыла кіслым перастаялым паветрам, якое звычайна бывае ў памяшканнях, што вельмі рэдка праветрываюцца.

Цікаў старэнькі насценны гадзіннік. Традыцыйныя шышкінскія мядзведзі былі намаляваны на гадзінніку. У хаце была новая, нядаўна перасланая падлога, і таму маснічыны не рыпелі, як звычайна рыпяць яны ў старых вясковых хатах. Увесь кут хаты, амаль яе трэць, займала печ, вялізная, няўклюдная, нечым падобная на тую, на якой герой рускай казкі Ямеля ехаў у госці да цара.

— Дзе ты тут? — бадзёра выгукнуў Цывілька, паклаўшы на стол хлеб і паставіўшы сумкі на падлогу. Ніхто яму не адказаў, бо, як падумалася Сцяпану, у хаце нікога не было. Але Цывілька лепей ведаў мясцовую сітуацыю. Ён падышоў да печы, костачкамі пальцаў пастукаў па ёй, нібы прасіў, каб яму адчынілі дзверы.

— Дзе ты тут? Ці жывая? — зноў паўтарыў ён сваю магічную фразу.

На печы нешта заварушылася, зашалясцела, пачуўся прыглушаны кашаль, потым адтуль, з печы, асцярожна пачала злазіць старая жанчына, абкручаная шматлікімі хусткамі, абутая ў белыя валёнкі. Нарэшце, цяжка дыхаючы, яна злезла з печы, падышла да Цывількі, і аказалася, што яна вельмі маленькага росту, амаль па пояс Аркадзю Анатольевічу. Здавалася, сустрэліся Пат з Паташонам.

— Жывая я, жывая,— стомленым голасам сказала жанчына.— Але скора памру.

— Ну вось табе й на,— бадзёра рагатнуў Цывілька.— А хто двухтысячны год будзе сустракаць?

— Сустракайце ўжо вы, дзеткі. Сустракайце без мяне.

Тут старая ўбачыла Сцяпана Памалейку і Лапцэвіча, запыталася ў Цывількі:

— А гэта што за хлопцы? Ці не з Навадворак?

— Мінскія гэта хлопцы. Пограб памогуць мне капаць. Так што рыхтуй вячэру і па самагонку схадзі да Васюка.

— У мяне ёсць руска-горкая, якую ты на Новы год прывозіў.

— Яшчэ цэлая стаіць? — здзівіўся Цывілька.— Ну і піток жа ты.

— Па мне зусім бы яе не было,— уздыхнула старая.— Ціск у мяне вялікі. У галаве кружыцца... У грудзях млосна... Лена прыехала?

— У іх канец квартала, не адпусцілі. Я тут табе хлеба прывёз, ты ж любіш кменны. Каўбасы прывёз, кансерваў, маянэзу...

— Кладзі на стол. Будзе табе і хлопцам што перакусіць.

Старая закашлялася.

Сцяпан звярнуў увагу на тое, што старая і Цывілька, размаўляючы між сабою, не называлі адно аднаго па імені, абыходзіліся без імёнаў.

Пераначавалі, а назаўтра, як увабралася ў сілу яркае веснавое сонца, пачалі капаць пограб. Цывілька знайшоў для ўсіх старую адзежу, гумавыя боты, рыдлёўкі. Сцяпану дастаўся зялёны салдацкі бушлат з прапаленым рукавом.

Зямля была яшчэ трохі падмарожаная, але капалася лёгка, выварочвалася рыдлёўкай з шоргатам і прыцмокваннем. Хутка тром стала цесна ў яме, і Цывілька вылез наверх.

Неўзабаве выйшла з хаты старая, вынесла з сабою маленькі драўляны ўслончык, села на яго, падставіўшы сонцу жоўты, зрэзаны маршынамі твар. У яе быў смешны кірпаты нос, вузкія светлыя бровы. Яна ўвесь час шамкала сухім ротам, нібы гумку жавала.

— Дык вы з Мінску, хлопцы? — запыталася яна.

— З самога Мінска,— адказаў Сцяпан.

— Я ў Мінску пятнаццаць гадоў назад была. Да Лены і да Аркадзя ездзіла,— упершыню яна назвала зяця па імені.— Там і ў бальніцу мяне паклалі.

— А што з вамі здарылася?

— Пад машыну я трапіла, пад тую, што вуліцы палівае. Чэрап у мяне быў трэснуў. У бальніцы тры месяцы праляжала. Во ў госці баба з'ездзіла. Астрыглі мяне, як якую арыштантку. Пагляджу, бывала, у люстэрка — галава круглая, белая, быццам качан капусты. Плачу, як бабёр. З таго часу ў галаве шуміць.

Яна ўсё гаварыла, гаварыла...

Сцяпан зразумеў: яна выгаворваецца за сваю адзіноту, за тыя бясконцыя бяссонныя зімовыя ночы, калі за акном глуха шуміць мяцеліца, калі зледзянелыя ліпы грукаюць мёртвымі галінамі ў бляшаны дах. Яна выгадавала дзяцей, яна перажыла вайну, яна галадала,

мерзла, дужа шмат працавала, яна зычыла людзям шчасця, толькі шчасця, і засталася адна.

— У нас шмат у вёсцы жыве такіх адзіночак, як я,— гаварыла яна.— А некаторыя хаты зусім пустыя стаяць — вокны дошкамі пазабіваны. Малады народ у райцэнтр, у горад з'язджае... Нядаўна самы стары наш дзед памёр — Якуб Вароніч. Перад смерцю дужа захацелася яму свежай рыбы паесці. Валодзя, сын, што якраз з горада прыехаў, знайшоў у суседзяў рыбу, прынёс. Паеў Якуб, папіў вады і пытаецца: «Якая, сынок, на дварэ пагода?» — «Добрая,— кажа Валодзя.— Дождж трохі папырскаў».— «А я ж, сынок, сёння памру». І памёр. У той жа дзень памёр, пад вечар. Дзевяноста два гады яму было.

— І ты памрэш,— з нейкім холадам, нейкай жорсткасцю ў голасе сказаў Цывілька, што чэрпаў у калодзежы ваду і насіў у лазню.— Гаварылі табе Лена і я: едзь да нас, у горад. Чаго тут адной сядзець?

— А хто ж хату будзе вартаваць? — шчыра здзівілася Куліна.— Памру — вам дача будзе. На лета будзеце сюды прыязджаць усёй сям'ёю.

— Памрэш,— зноў сказаў Цывілька, нібы ведаў толькі адно гэтае слова,— Адна памрэш. І ніхто не ўбачыць. І кот нос абгрызе, пакуль людзі прыйдуць.

— Не пужай мяне, Аркадзя,— спакойна, нават з усмешачкай у голасе сказала старая.— Да мяне дзевачка прыходзіць. Мы з ёй гамонім, песні спяваем. Харошая дзевачка.

Потым мыліся ў лазні. Потым сядзелі за сталом, на які Куліна паставіла бутэльку гарэлкі, і аказалася, што піць гарэлку няма каму. Памалейка з Лапцэвічам катэгарычна адмовіліся піць, Цывілька выпіў бы, але заўтра трэба было садзіцца за руль аўтамашыны, і ён, памуляўшыся, таксама не дакрануўся да чаркі.

— Што вы за мужчыны? — здзівілася Куліна,— Пайду хіба Рыгора Атрашонка паклічу. Ён гатоў мора выпіць.

Неўзабаве яна вярнулася з Рыгорам Атрашонкам, высокім, хударлявым мужчынам, «які можа мора выпіць». Сцяпана Памалейку ён нічым не ўразіў — звычайны вясковы чалавек, у меру гаваркі, у меру маўклівы, з рыжаватай шчэццю на падбародку і шчоках. Піў ён сапраўды па-майстэрску. Браў чарку, адтапырыўшы мезенец з чорным пазногцем, затойваў на міг дыханне, прыплюшчваў вочы, быццам да нечага прыслухоўваўся, потым рашуча, адным «залпам», не выпіваў, а выліваў сабе ўсярэдзіну гарэлку, шумна выдыхаў паветра, махаў каля рота рукою. Закусваў вельмі мала, адшчыкваў кавалачак хлеба і павольна жаваў яго.

— Вам назаўтра дрэнна не будзе? — асцярожна пацікавіўся Сцяпан.

— Ад чаго?

— Вы ж адзін выпілі бутэльку гарэлкі.

— Ну й што? Я, братка ты мой, на свежым паветры раблю. Гэта не тое, што ў вас, у горадзе. Я сёння вып'ю, а заўтра пайду на цэлы дзень у лес, і не трэба мне ніякай пахмелкі. Лес лечыць мяне.

Ён аказаўся нецікавым субяседнікам. Сядзеў, заглыбіўшыся ў нейкія свае п'яныя думкі, часам усміхаўся сам сабе.

— Невясёлы ты, зямляк, хоць у лесе жывеш,— сказаў Памалейка,— Лясныя людзі павінны быць вясёлыя. Як птушкі вясной. Хочаце, раскажу быль,— звярнуўся ён да ўсяго застолля.

— Давай,— дазволіў Цывілька.

— Прывёз Вано ў Мінск цюльпаны. Прадаў на Камароўцы, захацеў есці. Заходзіць у рэстаран, сеў за стол, чамадан на стол паклаў. «Грамадзянін,— кажа афіцыянтка,— здыміце са стала свой чамадан». Вано сядзіць, быццам не чуе. Праз нейкі час афіцыянтка зноў, ужо больш строгім голасам, загадвае: «Ды ўбярыце свой чамадан». Вано — нуль увагі. «Што гэта такое?! — ужо крычыць афіцыянтка.— Неадкладна вазьміце са стала свой чамадан, а то я паклічу дырэктара!» — «Чаго шуміш, дарагая? — здзівіўся Вано.— Хіба можна так? Вай-вай. Дзе ты бачыш чамадан? Гэта ж не чамадан. Гэта мой кашалёк».

Усе засмяяліся, апрача Рыгора Атрашонка. Ён засяроджана жаваў хлебную скарынку.

— Багаты чалавек,— сказала Куліна.— Няўжо ёсць такія?

— А чаму і не? — устаў з-за стала Цывілька.— У іх лаўровы ліст расце, як у нас лаза. І вінаград расце, і чай, і арэхі. І чорт ведае, што ў іх толькі не расце. Гэта нас, беларусаў, бог на балотах пасяліў.

— І наша зямелька добрая,— не згадзілася з ім Куліна.— Абы рабіць на ёй, старацца. Але маладыя нашы ў горад уцякаюць. Здаровыя, як пні, а работы баяцца. Без людзей зямля застаецца. Памруць старыя, і вёска апусцее.

— Не панікуй, дарагая цешча,— бадзёра сказаў Цывілька.— Тэхніка заменіць чалавека. Разумееш? Тэхніка!

— Чаму ж ты сам у Мінск збег? — спыталася Куліна.— Сеў бы на гэту тэхніку, на трактар.

Цывільку не спадабаўся нечаканы паварот размовы.

— Я не збег, я паехаў туды разам з вашай, Куліна Апанасаўна, дачкою. Дарэчы, ваша дачка, ваша Леначка, таксама магла быць нядрэннай даяркай. А сёння ў горадзе ў лазні нумаркі прадае, венічкі выдае.

— І Лене я тое самае казала. І яе адгаворвала. Ды хіба вы каго паслухаеце? Вы хутка самі сябе перастанеце слухаць. Разумнікі ўсе, вучоныя. А што ад вашай вучонасці? Адзін пшык — і ўсё. Вот раней, да вайны, настаўнік быў у нашых Ключыках, Алесь Сцяпанавіч. Гэта вучоны чалавек быў. І кніжкі людзям чытаў, і мог на жняярку сесці, і каровам уколы рабіў. Усё ўмеў.

— І мы нешта ўмеем,— усміхнуўся Цывілька.— У космас злёталі, на Месяц ракету паслалі.

— Ну й што? Неба прадзіравілі, і цэлае лета дажджу няма.

Зноў усе засмяяліся, і зноў не засмяяўся Рыгор Атрашонак.

— Агрэсіўная вы жанчына,— Цывілька, у залеягнасці ад настрою, звяртаўся да цешчы то на «вы», то на «ты»,— Але думаеце ў маштабе толькі сваіх Ключыкаў. Ды такіх Ключыкаў у Савецкім Саюзе — мільён. Можаце вы гэта сабе ўявіць? Нашай дзяржаве ўсё трэба. І зямлю араць, і ў космас лётаць.

— Няхай лётаюць,— згадзілася Куліна.— А з нашых Ключыкаў ты дарэмна насміхаешся. Без нашых Ключыкаў і Савецкага Саюза не будзе.

— Ну ты й даеш, дарагая цешча,— рагатнуў Цывілька.— Ды вашы Ключыкі праз нейкі дзесятак гадоў знясуць як неперспектыўную вёску.

— Як гэта знясуць? — змянілася ў твары, пасуровела Куліна.— Ці не ты гэта знясеш? Тут магілы нашы. Тут памяць наша. Ды ў каго рука ўзнімецца? Дзяды таго праклянуць, з магілаў устануць і праклянуць.

— Дзяды не ўстануць,— памаўчаўшы, ціха сказаў Цывілька. Відаць было, што яго ўразілі цешчыны словы. Ён узяў са стала парожнюю бутэльку, наліў у яе вады, спаласнуў, акуратна паставіў на падаконнік і зноў паўтарыў, нібы сам з сабой размаўляючы:

— Дзяды не ўстануць...

Назаўтра ад'язджалі з Ключыкаў. Над вёскай гарэла цёплае чырвонае сонца. Пахла адталай зямлёй, дымам. Куліна, накінуўшы на плечы кажух, стаяла каля варот, маленькая, сухая, маўклівая. Пакуль Цывілька заводзіў машыну, адчыняў вароты, клаў у багажнік мяшок з бульбаю, яна не сказала ні слова. Толькі вочы глядзелі журботна, з нейкай спакойнай пакорнасцю.

Сцяпан падышоў да яе, пацісну́ў на развітанне руку, сказаў:

— Не хварэйце. Усяго вам добрага.

І чамусьці адвёў убок вочы.

— Едзь, сынок,— ціха прамовіла Куліна.— Хай і ў цябе ўсё добра будзе.

У гэты час па вуліцы прайшоў Рыгор Атрашонак, млявы, спустошаны, непадобны на ўчарашняга. Параўняўся са Сцяпанам і Кулінаю, глянуў на Куліну:

— Каня сёння не дам. На пярэднюю левую нагу закульгаў конь.

— Дык я ж ужо з Віцем Гушчам дамовілася, каб прывёз мне дроў. З чалавекам дамовілася, а ты каня не даеш.

— Конь закульгаў. Не магу я казённую скаціну калечыць.

Рыгор Атрашонак, у чорнай зашмальцаванай фуфайцы, у форменнай, з зялёным аколышам, шапцы работніка лесааховы, болей нічога не сказаў, пайшоў па ранішняй вуліцы, маўклівы і непадступны, як бог.

— Конь у яго ад лясніцтва ёсць,— сумна растлумачыла Сцяпану Куліна.— Без каня ў вёсцы нельга. Каму соткі ўзараць, каму дроў з лесу прывезці. Усе да Атрашонка ідуць. А ён, бачыш...— яна ўздыхнула.— Ды неяк пераб'юся...

— Дык чаму ж вы ўчора не сказалі, што ў вас дроў няма?

— Аркадзя пограб капаў. Яму для дачы пограб трэба.

— Пограб мог пачакаць. А Аркадзю Анатольевічу я скажу пра дровы.

Сцяпан памкнуўся да машыны, дзе Цывілька з Лапцэвічам запіхвалі ў багажнік яшчэ адзін мяшок бульбы. Мяшок развязаўся, і бульба пасыпалася па зямлю.

— Ой, што ты, сынок? Не трэба яму нічога казаць,— папрасіла Куліна.— Бог дасць, не памру. Вясна наступае. А што згатаваць з'есці, дык у мяне ж газавая пліта ёсць. Не кажы яму.

Яна хуценька падышла да машыны, пачала, нізка прыгнуўшыся, падбіраць з зямлі бульбу.

Нарэшце ўсё было нагружана, запакавана, пакладзена на сваё месца. Цывілька сеў за руль, даў доўгі развітальны сігнал, бадзёра крыкнуў Куліне: «Усяго найлепшага, дарагая цешча! Першага мая прыеду!» — і «Жыгулі» выехалі з двара. Куліна стаяла каля варотаў і махала рукой. Сонечны прамень упаў ёй на твар, і яна зажмурылася, засланіла даланёй вочы. Такой яна і засталася ў Сцяпанавай памяці: маленькая, адзінокая, з зажмуранымі ад сонца вачамі.

Па грунтавой, разлезлай ад веснавой цеплыні дарозе ледзь дабраліся да асфальтаванай магістралі. А на магістралі Цывілька адразу ж звярнуў машыну ў кювет, спыніўся каля ручая, сказаў:

— Выгружайся, хлопцы. Трэба памыць нашу каралеву.

І сапраўды, «каралева» ад колаў да капота была заляпана, запырскана веснавой гразёю. Сцяпан дастаў з багажніка гумовае вядро, падобнае на вялізны бот, пачаў насіць з ручая ваду. Цывілька і

Лапцэвіч церлі машыну шчоткамі і анучамі. Вада была пякуча-халодная, зеленаватага адцення, у ёй пазвоньвалі вострыя іскрыстыя асколачкі лёду.

— Дроў у вашай цешчы няма,— сказаў Сцяпан Цывільку.

Той шчыраваў над капотам, даводзіў яго да люстранога бляску і спачатку не зразумеў.

— Што ты гаворыш, Памалейка?

— Дроў у вашай цешчы няма,— паўтарыў Сцяпан.

— Дроў? У яе пад павеццю яшчэ цэлая гара торфабрыкету ляжыць. Да першага мая хопіць. А там і я пад'еду.

У Цывількі быў прасветлены, лагодны пагляд.

«Жыгулі», адчуўшы пад сваімі коламі цвёрды, гладкі асфальт, са свістам памчаліся па магістралі. Ва ўсіх адразу ўзняўся настрой, бо, што ні кажы, сучасны мужчына любіць хуткасць, любіць сустрэчны вецер, любіць рызыку далёкай дарогі.

— А сівы конь бяжыць...— падміргнуўшы Сцяпану, на ўвесь голас заспяваў Цывілька.

Насустрач беглі машыны, чародкі веласіпедыстаў, прыдарожныя дрэвы. Машыны, прыгожыя рознакаляровыя карабачкі, былі, здавалася, такія бяскрыўдныя, такія мяккапапяровыя, як у дзіцячай гульні. Нешта было ў іх ад вясёлых паветраных шарыкаў, якія плывуць, пагойдваюцца пад гарачымі промнямі сонца. Такія дабрадушныя, мілыя машыны — успомнілася Сцяпану — бываюць у мультфільмах. Але так, вядома, толькі здавалася, бо насустрач Памалейку, Цывільку і Лапцэвічу на вялізнай хуткасці несліся тоны, дзесяткі тон грымучага гарана металу. Гэта былі тарпеды на колах, гэта былі металічныя тараны, якія ў кожнае імгненне могуць вырвацца з-пад кантролю, і тады толькі трымайся, шафёр.

Над шашой, у яркім веснавым небе, ляцеў патрульны верталёт. Ён быццам быў прывязаны да магістралі нябачнымі моцнымі струнамі. Адтуль, з неба, увесь дарожны рух быў відзён як на далоні. Цывілька разы са два высоўваў галаву праз бакавое акно, у якім было апушчана шкло, глядзеў на верталёт. Ён не баяўся гэтага верталёта, бо адразу, пачуўшы яго тарахценне над магістраллю, збавіў хуткасць. Але карцела глянуць на гэту металічную страказу, якая мае такую ўладу над шафёрамі, што пры адным яе з'яўленні самыя адчайныя і гарачыя пачынаюць успамінаць, колькі ўжо дзірак-праколаў ёсць у іхнім талоне.

— Кантроль,— торкнуўшы пальцам угору, весела сказаў Сцяпан.

— Кантроль,— згадзіўся Цывілька, але не такім вясёлым голасам. Трэці ж іхні спадарожнік, Віктар Лапцэвіч, драмаў, расслаблена

асунуўшыся на спінку сядзення. Ёсць такія людзі, што ў далёкай дарозе адразу ўпадаюць у санлівасць. Будзь перад імі хоць гара Казбек, хоць вадаспад Ніягара, яны, ледзь толькі крануўся з месца аўтамабіль, цягнік або самалёт, зручней уладкоўваюцца, як бы ўвінчваюцца ў сядзенне, соладка-смачна пазяхаюць, і бог сну, бог Марфей, затуманьвае іхнія вочы. Гэта, відаць, не што іншае, як засцерагальны рэфлекс ад эмацыянальных перагрузак. Сцяпан Памалейка не разумеў такіх людзей. Боязь эмацыянальных перагрузак, боязь сардэчных хваляванняў вядзе ў сваю чаргу да гіпадынаміі, маларухомасці. Але чалавек жа створаны для руху, для дарогі. Іначай прырода замест ног дала б яму карэнне, і ён бы сядзеў, як той баабаб, на адным месцы. Ды нават і дрэвы падарожнічаюць. Не могучы скрануцца з месца самі, яны выпраўляюць у палёт сваіх дзяцей — таполевы пух, ліповы цвет...

Магістраль крыху вільнула ўлева паміж чорных, амаль зусім чыстых ад снегу ўзгоркавых палёў, і Сцяпан метраў за дзвесце наперадзе ўбачыў на абочыне дарогі разбіты, пакарэжаны аўтамабіль. Гэта заўсёды як штуршок у грудзі — пакалечаны мёртвы аўтамабіль на шэрым асфальце. І цёмная лужынка крыві... І шкло, што рассыпалася на тысячы дробненькіх асколачкаў... Такое шкло падобна на буйныя крышталі белай іскрыстай солі.

Цывілька спахмурнеў, прыкусіў губу, скінуў хуткасць, але не спыніўся, а памчаўся далей. Ды тут Сцяпан Памалейка рэзка апусціў яму на плячо руку:

— Спыніцеся, Аркадзь Анатольевіч.

Цывілька глянуў на яго праз плячо, ціха сказаў:

— Верталёт у небе ляціць. Адтуль ужо, пэўна ж, убачылі. Паведамяць па рацыі куды трэба...

— Спыніцеся, Аркадзь Анатольевіч.

— Ды ты што? — пачаў быў «заводзіцца» Цывілька, але ўбачыў Сцяпанавы вочы і спыніў машыну.

Яны вылезлі з машыны і пайшлі да месца аварыі. Віктар Лапцэвіч ад рэзкага тармажэння прачнуўся і таксама ішоў за імі, метраў на дзесяць ззаду. Шаша, як на тое ліха, быццам вымерла — нідзе не было відно ні аўтамашыны, ні чалавека. Толькі верталёт, зніжаючыся, плыў над дарогай.

— Як жа гэта ён так умудрыўся? — гаварыў Цывілька, падыходзячы да разбітага чырвонага «Запарожца». Растоўчанае шкло востра зарыпела пад нагамі.

— Толькі нічога не кратай,— сказаў Цывілька Сцяпану.— Хай усё ляжыць там, дзе ляжала. Міліцыя прыедзе, разбярэцца...

Увесь перад машыны, увесь капот быў задраны ўверх, сплюшчаны, як лыч невядомага мёртвага звера. Машына ад страшнага ўдару сарвалася заднімі коламі з асфальту і цудам не звалілася ў кювет. Яна завісла на самым беражку дарогі, над абрывам, у якім валяліся кучы жоўтага вострага камення і цёк вузкі брудны ручай.

— Аб нешта стукнуўся. Удар — лоб у лоб, нібы ішоў на таран,— упэўнена зрабіў вывад Цывілька, акінуўшы ўважлівым позіркам аўтамабіль, дакладней, кучу скарэжанага металу, які зусім нядаўна быў жывой прыгожай машынай.— Цікава, аб што ён мог так ударыцца?

Сцяпан Памалейка ўжо не чуў ягоных слоў, бо ў салоне аўтамабіля, за сплюшчаным рулём убачыў чалавека. Чалавек нібы раптоўна заснуў, рухнуўшы галавой на руль. Доўгія русыя валасы ўпалі на твар, і напачатку Сцяпану здалося, што гэта жанчына.

— Там чалавек,— хвалюючыся, сказаў Цывільку Сцяпан і асцярожна пацягнуў на сябе дзвярную ручку. Ён баяўся, што дзверцы не расчыняцца, што іх заклініла страшная сіла ўдару, але дзверцы расчыніліся, тонка, жалобна дрыгнуўшы. Сцяпан аж трошкі адхіснуўся назад. Яму падумалася, што мёртвае чалавечае цела вось зараз спаўзе з руля, вываліцца з машыны і ўпадзе каля ягоных ног, мякка і бяссільна. Ды нічога не адбылося. Русавалосы чалавек нібы прыліп да руля.

— Не кратай яго. Ён ужо мёртвы,— ціха прамовіў Цывілька, трохі памаўчаў і махнуў рукой, сціснутай у кулак, быццам некаму, нябачнаму, пагразіў: — Вот жыццё, ядры тваю ў корань. Купляў чалавек гэту калымагу, па капейцы грошы збіраў, ад сябе і сям'і адрываў, а купіў сабе... жалезную труну.

Сцяпан маўчаў. Ён і раней бачыў мёртвых людзей. Але, па-першае, тыя людзі былі старыя, сівыя, іхняя смерць ні для кога не была нечаканасцю, і паміралі яны ў сваёй кватэры або ў бальніцы. Па-другое, тых людзей бачыў ён у прыгожа прыбраных трунах. У трунах, нібы ў чаўнах, павольна плылі яны на плячах жывых людзей, плылі ў невядомасць, у вечнасць. Гэты ж чалавек быў малады і памёр у дарозе, памёр раптоўна, як раптоўна падае з начнога неба метэарыт. Ён, вядома ж, не чакаў смерці і не рыхтаваўся да яе.

— Вот жыццё,— зноў пачаў быў Цывілька, але раптам асекся, уздрыгнуў. Здарылася неспадзяванае — рука чалавека, якая толькі што бяссільнай вяроўкай звісала ўніз, ажыла, палезла ў кішэню паласатага зялёнага паліто і адтуль, з кішэні, дастала невялікі белы квадрацік паперы. У мёртвай цішыні тая ж рука павольна, як шчуп-маніпулятар нейкага робата, пачала рухацца ў бок Сцяпана Памалейкі. Сцяпан ажно знямеў ад нечаканасці і здзіўлення. Вось рука падплыла

да Сцяпана, і ён, падпарадкоўваючыся ёй, узяў белы квадрацік паперы. «Дзякуй за спачуванне і спагаду, дарагі таварыш,— прачытаў ён.— Маладзейсная рэдакцыя Беларускага тэлебачання праводзіць эксперымент пад назвай «Спачуванне і спагада». Вы — добры чалавек. Вы вытрымалі маральны экзамен на званне сапраўднага чалавека. Вам налічваецца за гэта дзесяць балаў».

У тое ж імгненне, як толькі Сцяпан закончыў чытаць (чытаў ён услых), чалавек, «мёртвы» чалавек, ажыў, рэзка адштурхнуўся ад руля, усміхнуўся і лёгка вылез (каб ён быў жанчынай, можна было б сказаць выпырхнуў) з машыны. Быў ён высокі, русявы, з матава-бледным тварам, з цёмнымі брывамі і жаўтаватымі кусцістымі вусікамі.

— Што за д'ябальшчына! — ускіпеў Цывілька.— Што за балаган?

— Старшы рэдактар маладзёжных перадач Беларускага тэлебачання Павел Моніч,— ніколькі не крыўдуючы, ветліва ўсміхаючыся, падышоў да Цывількі, падаў яму руку нядаўні «нябожчык».

— Вы мне руку не падавайце,— ажно адскочыў ад яго Цывілька.— Вы скажыце, што за цырк вы тут арганізавалі? Я буду скардзіцца вашаму начальству. Загарадзілі дарогу... Збіваеце з толку людзей... Псіхолагі! — Ён крыва ўсміхнуўся...

— Дарогу, як вы бачыце, мы нікому не загарадзілі,— спакойна сказаў, усё яшчэ ўсміхаючыся, Моніч,— Пра эксперымент ведае міліцыя. Дарэчы, вось на гэтым верталёце,— ён узняў угору твар, памахаў рукою,— знаходзіцца зараз наш кінаапаратар, і ён зазняў ваш высокамаральны ўчынак на кінаплёнку. Гэту плёнку мы неўзабаве пакажам па тэлевізары.

— Можаце выкінуць вашу плёнку на сметнік,— рэзка перапыніў яго Цывілька,— Цырк, балаган, а не тэлебачанне. Стаіць разбітая машына, людзі спыняюцца, трацяць час, і раптам — на табе...

— Дык што, вы б сапраўды хацелі, каб я быў мёртвы? — перастаў усніхацца Моніч.

Але Цывілька ўжо шпарка шыбаваў да сваіх «Жыгулёў». Толькі разбітае шкло трашчала, крышылася пад нагамі.

— Гарачы таварыш,— пачухаў патыліцу Моніч і звярнуўся да Сцяпана.— А з вамі можна пазнаёміцца?

— Можна. Я — Сцяпан Памалейка. Мы ўжо аднойчы сустракаліся.

— Сустракаліся? Дзе? Можа вы прыходзілі да нас на тэлебачанне?

— Мы сустракаліся ў тым доме, дзе жыве сям'я Памалейкіных. Памятаеце?

— А-а...— ўзрадавана прыгладзіў рукою вусікі Моніч.— Памятаю. Вы стаялі каля дзвярэй. І нам здалося, што вы злодзей. Чаму ж вы тады не зайшлі да Памалейкіных?

— Не захацеў,— спахмурнеў Сцяпан.

— Ясна. Бачыце, вунь з кустоў вылазіць, як мамант, яшчэ адзін кінааператар? Сядзеў у засадзе. Зараз увекавечым вас на плёнцы.

— Навошта? Мне трэба ісці, а то Цывілька ўжо сігналіць.

— Цывілька? Каларытнае прозвішча. Кім жа, калі не сакрэт, працуе гэты тэмпераментны беларус?

— Загадчыкам прадуктовага магазіна.

— Усё ясна,— засмяяўся Моніч,— На сённяшні дзень ён — пуп зямлі.

Падышоў кінааператар, тоўсценькі чорнавалосы чалавек. Сказаў, выціраючы насоўкай пот і адсопваючыся:

— Зноў ты, Паша, перайграў.

— У якім сэнсе, Міхаіл Аронавіч?

— Так мёртвага сымітаваў, што я сам ужо спалохаўся: а можа і на самай справе табе дрэнна зрабілася?

— Стараемся, Міхаіл Аронавіч.

— Старацца, вядома, трэба. За стараннасць нам грошы плоцяць. Ды, я думаю, табе лепей было б акцёрам быць, чым паэтам. Болей славы. Кветкі... Паклонніцы...

— Заніжаеце мае паэтычныя здольнасці, Міхаіл Аронавіч. Не чакаў ад вас.

«Дык ён — паэт,— здагадаўся Сцяпан.— Я нават вершы ягоныя чытаў. Пра прыроду... «Ты вечнасць і свабода, ты бура і спакой. Калі памрэш, прырода, памру і я з табой».

Ён з цікавасцю паглядзеў на Моніча — упершыню стаіць побач з ім і размаўляе паэт, жывы паэт. А Павел Моніч, узбуджаны, вясёлы, казаў:

— З дзесяці аўтамашын чатыры спыніліся. Гэта не так мала, хоць я хацеў бы, каб спыніліся ўсе. «Чалавек у бядзе! Дапамажы чалавеку!»— толькі гэтым павінны вымярацца душэўныя якасці кожнага з нас. У канцы дваццатага стагоддзя, нашага з вамі стагоддзя, адбываецца касмізацыя чалавечай свядомасці. Чалавецтва імкнецца ў бязмежжа галактык, да таямнічых зорак, да новых планет. Усё гэта цудоўна, але не будзем забываць нашу зямлю, дзе яшчэ столькі пакут, столькі работы. Дарэчы, Міхаіл Аронавіч, можаце слухаць мой маналог і адначасова здымаць нашага героя Сцяпана Памалейку на кінаплёнку.

— Я ўжо яго зняў,— пакрыўджана сказаў кінааператар.

— Экстра-клас,— прышчоўкнуў пальцамі правай рукі Моніч.— Бяру сваю крытыку назад.

У гэты час прарэзліва засігналіў Цывілька. Пэўна, лопнула цярпенне. З машыны высунуўся Віктар Лапцэвіч і пагразіў Сцяпану кулаком.

— Вашым спадарожнікам я таксама паставіў бы па дзесяць балаў,— уздыхнуўшы, мякка ўсміхнуўся Моніч,— яны адгукнуліся па чужую бяду і заслугоўваюць вышэйшую адзнаку. Але вось гэтаму, што зараз так карцінна махаў кулаком, я вымушаны паставіць восем балаў.

— Чаму? — не зразумеў Сцяпан.

— Таму, што вунь там, па асфальце, ляжала белая капронавая каністрачка. Ляжала, так сказаць, для больш поўнага эфекту аўтакатастрофы. І гэты таварыш...

— Запхнуў яе сабе за пазуху,— не даў дагаварыць Монічу кінааператар.— Азірнуўся па баках, падняў з асфальту і — гуд бай. Я сам бачыў.

— Ён яе верне,— сказаў Сцяпан, развітаўся і пайшоў да аўтамашыны.

## VII. ВЕРШ

— Павел Паўлавіч, вас выклікае да сябе галоўны,— над самым вухам у Моніча праспявала Верачка Скрыль. Заўсёды здаецца, што яна не гаворыць, а спявае. Верачка год назад скончыла факультэт журналістыкі, у маладзёжнай рэдакцыі тэлебачання працуе трэці месяц, да гэтага працавала, праўда, без асаблівага поспеху, у сельгасрэдакцыі. У ёй яшчэ захаваліся наіўнасць і шчырасць акуратнай дысцыплінаванай студэнткі, якая з аднолькавым імпэтам сочыць за сваім як знешнім, так і ўнутраным аблічам. Верачка невысокая, светленькая, рухавая, любіць насіць спартыўнага фасону світэры, бо яны хораша падкрэсліваюць яе спартыўную фігуру. Яна курыць, у сонечныя і нават не ў сонечныя дні ходзіць у вялізных чорных акулярах, так званых «тэлескопах». Гэта робіць яе свежы румяны твар загадкавым і шматзначным. Верачка ў студэнцтве пісала вершы, і пісала б іх, пэўна, і сёння, каб не Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. У свой час Аляксандр Сяргеевіч ці то сказаў, ці то напісаў: «Жанчыны, як правіла, мала разумеюць у вершах, і жанчынам пісаць вершы не варта». Можа Пушкін жартаваў, можа думаў усур'ёз, але, на сваю бяду, Верачка Скрыль прачытала гэту суровую фразу, і адной паэтэсай на нашай зямлі стала меней.

Моніч сядзеў за сталом, курыў, пісаў сцэнарны план перадачы пра маладых механізатараў. Ён так захапіўся, што Верачцы давялося паўтарыць:

— Павел Паўлавіч, вас выклікае да сябе галоўны.

— Ух, як ты мяне напалохала,— прытворна ўздрыгнуў Моніч, засоўваючы свой вялізны карэспандэнцкі блакнот з запісамі ў партфель.— І ў якім стане шэф? У халодным ці ў гарачым?

— Пачынае закіпаць,— дастаючы цыгарэту, шчоўкнула запальнічкай Верачка.

Кабінет галоўнага рэдактара маладзёжных перадач быў у канцы калідора, і, пакуль Моніч дабіраўся да галоўнага, разы са тры яго перапынялі. Рэжысёр патрабаваў неадкладна ісці манціраваць свежую плёнку. Фотакарэспандэнт пытаўся хатні адрас ветэрана вайны — гэтага ветэрана трэба было сфатаграфаваць для будучай перадачы. Хлопцы са спартыўнай рэдакцыі, Ігар і Мікола, прапанавалі плюнуць на мітусню, якая скарочвае жыццё, і згуляць з імі ў шахматы. А калега па маладзёжнай Алесь Чаруцкі, ці, як яго называлі сябры, Летуценнік у дублёнцы, ляпнуў Моніча па плячы і ўрачыста аб'явіў:

— Прывет, паэт — нявольнік чэсці! Калі абрадуеш новым шэдэўрам?

— Не да шэдэўраў, Алесь. Шэф выклікае.

— Усё ясна,— прыцішыў голас Летуценнік у дублёнцы.— Я знікаю.

Галоўным рэдактарам маладзёжнай быў Анатоль Рыгоравіч Баталін, саракапяцігадовы мужчына, які — пасада і рэдакцыя абавязвала — стараўся цаказацца маладзейшым за свае гады. У Баталіна быў ціхі сіплаваты голас, але ў гэтым голасе мог, праўда, не часта, звінець метал. Яшчэ шэф меў прыгожыя рыжаватыя бровы і класічную крылатую фразу, якая заўсёды магічна дзейнічала на падначаленых, асабліва на Верачку і на Летуценніка ў дублёнцы. Фраза гэта была такая: «Перспектыву трэба бачыць і праз цагляную сцяну». Баталін хваліўся, што ні ў кога яе не ўкраў, а прыдумаў сам.

Ён сустрэў Моніча ветліва, запрасіў сесці, нават прымусіў сябе ўсміхнуцца, але па тым, як барабаніў шэф костачкамі пальцаў па стале, як пакутліва ўздыхаў, нібы рыхтуючыся нырнуць у нязведаную акіянскую глыбіню, Павел зразумеў, што размова будзе вострая.

— Глядзеў учора перадачу? — спытаўся Баталіп.

— А як жа? Я аўтар перадачы, а свае перадачы я гляджу заўсёды.

— Ну і што думаеш пра перадачу?

— Думаю, што Верачка як вядучая была на ўзроўні. І з выступаючымі рэжысёр папрацаваў. Людзі не заікаліся, разгаварыліся.

— Во-во, «разгаварыліся»,— Баталін нервова ўзняўся з крэсла, і ад рэзкага руху ў яго на галаве, акурат на самым цемені, адваліўся, з'ехаў убок пук цёмна-русых валасоў, і нечакана бліснула невялікая лысіна, як поўня з-за хмары. Моніч заўважыў гэта і міжволі ўсміхнуўся, што збянтэжыла Баталіна. Ён чакаў зусім іншай рэакцыі на свае тэмпераментныя словы.

— Хіба так трэба гаварыць? — упрытык падступіў Баталін да Моніча.

— Мы з табой дамаўляліся, Толя, што нашы выступаючыя не будуць карыстацца шпаргалкамі, будуць мысліць у кадры. Вось яны і мыслілі. І мне здаецца, нядрэнна.

Моніч наўмысна назваў галоўнага па імені. У яго была такая прывілея, заваяваная шматгадовым сяброўствам з Баталіным. Так англійскія пэры ў прысутнасці караля могуць не здымаць шапак.

— Яны і павінны мысліць. Дзеля гэтага мы і запрашаем іх на тэлебачанне, даём трыбуну. Але ж гэты будаўнік... Як яго прозвішча?

— Карповіч,— падказаў Моніч.

— Гэты Карповіч узяўся вырашаць пытанні яўна не сваёй кампетэнцыі. Пачаў крытыкаваць саюзнае міністэрства. Нас жа глядзяць, Паша. Нам пішуць. Нам звоняць. І я баюся, што выступленне агрэсіўнага таварыша Карповіча можа выклікаць непажаданую рэакцыю. Могуць пазваніць зверху.

— Адкуль зверху? — як бы не зразумеў Моніч.— З неба?

— Не прыкідвайся ідыётам,— пачырванеў Баталін, і адразу стала відаць, як ён здаў за апошнія гады, пастарэў.— Ды што з цябе ўзяць? Ты ж — паэт.

І Монічу ўспомнілася, як калісьці галоўны, чым-небудзь разгневаны, казаў на лятучках: «Мне патрэбны журналісты, а не паэты». Ён меў, вядома, рацыю. Хоць сёння ўжо такіх заяў не робіць.

— І ўсё-такі перадача атрымалася добрая, Толя,— спакойна сказаў Моніч.— Вострая і смелая. Праблемная. Павер мне, што за яе цябе пахваляць.

— Ты думаеш? — уважліва паглядзеў на яго Баталін.

— Упэўнены.

— Ну не залівай, рыфмаплёт. Хоць перадачу і пахваляць, асабіста я цябе хваліць не стану.

Баталін зноў сеў на сваё высокае, абабітае чырвонай скурай крэсла. Ён адыходзіў ад злосці і ўзбуджэння, «спускаў лішнюю пару»,

як крадком жартаваў Летуценнік у дублёнцы. Усё-такі ён быў нядрэнны хлопец, Анатоль Баталін.

— Вось тут табе, як нашаму галоўнаму душаведу, адно цікавае пісьмо прыйшло,— пакорпаўся ён у паперах і падаў Монічу невялікі блакітны канверт.

— Хто піша?

— Дзяўчына. Пачытай. Можа натхнішся.

— Прачытаю.

Моніч узяў пісьмо, паклаў ва ўнутраную кішэню сваёй сіняй джынсавай курткі. Потым глянуў на Баталіна:

— Дык мы пагаварылі, Толя? Можна ісці?

— Ідзі,— Баталін захапіўся паперамі і ўжо не глядзеў на Моніча.— Глядзі, каб пра механізатараў кінакадры добрыя былі. А то ў мінулы раз Крыштафовіч агрэхі ўмудрыўся зняць. Дзе ён толькі іх знайшоў?

Ад галоўнага Моніч на некалькі хвілін заглянуў у спартыўную рэдакцыю. Усё-такі не ўтрымаўся, пачуўшы за дзвярыма узбуджаныя галасы шахматыстаў. Гулялі, як заўсёды Ігар і Мікола. Астатняя публіка, абступіўшы цесным колам сяброў-супернікаў, уважліва сачыла за тым, як Ігараў кароль ганебна ўцякаў ад Міколавых пешак. Мікола, плячысты, светлавалосы, паціраў рукі, не хаваў радасці і, задаволена перасоўваючы фігуры, каменціраваў свае хады:

— А мы вас — вось так! А мы ў прарыў кінем сваю кавалерыю! Не падабаецца? А мы з левага фланга ўдарым палком грэнадзёраў!

Каб фельдмаршал Кутузаў пачуў такое, яму б здалося напэўна, што ён зноў знаходзіцца на славутым Барадзінскім полі. Раптам Мікола, захапіўшыся каментарыямі, зрабіў няўдалы ход, адразу ж заўважыў яго, хацеў пераставіць фігуру назад, але тут ужо Ігар не ўпусціў свой адзіны шанец. Ён імгненна ўчапіўся ў гэту ж самую фігуру, закрычаў:

— Пастаў на месца!

— Ды я ж яшчэ ёй не хадзіў,— узмаліўся Мікола.

— Пастаў на месца!

Пачалася валтузня над шахматнай дошкай, так званае «выкручванне рук». Сланы і пешкі пасыпаліся на падлогу балельшчыкі дружна засмяяліся. Скончылася тым, што сканфужаны Мікола прызнаў сябе пераможаным, а Ігар складваючы фігуры, казаў:

— Пасля кожнай гульні з Міколам у мяне баліць не галава, а рукі.

Моніч і сам любіў гуляць у шахматы. Праўда, гуляў рэдка, бо не хацеў прайграваць. Як і ў кожнага творчага чалавека, вельмі моцнай была ў ім боязь паражэння.

Ён паляпаў Міколу па плячы:

— Не перажывай, стары. Шахматы, на вялікае шчасце не галоўнае ў жыцці. Як тваё «Жыгулі»?

— О, не машына, а звер,— ажывіўся Мікола,— Так бяжыць, аж сябе параганяе.

— А вось у Бразіліі ты не паехаў бы.

— Чаму? — не зразумеў Мікола.

— Таму, што там у час паліўнага крызісу машыны пачалі запраўляць спіртам. Ты праехаў бы пару кіламетраў не утрымаўся і выпіў бы свой «бензін».

Грымнуў рогат, і мацней за ўсіх смяяўся Мікола.

Моніч выйшаў з тэлестудыі, сеў у свой «Запарожац» і паехаў у бок Маскоўскай шашы. У горадзе была майская спякота. Ніхто не чакаў, што ў гэтым годзе сонца так рана пачне паліць зямлю бязлітасна-гарачымі промнямі. Нібы цяжкі вогненны прас прапоўз па газонах — маладая траўка што нядаўна была такая аксамітная і вясёлая, пажаўцела як старая прачытаная газета. Вялізныя чэргі былі каля аў' таматаў з газіраванай вадой. Горад піў і не мог наталіць смагу. Нават самыя нясмелыя дзяўчаты ўжо насілі сукенкі з кароткім рукавом і аголенай шыяй. Гарачыня пакрысе распранала жанчыну, каб праз колькі дзён пагнаць яе як да рэчы і мужчыну, да ракі, да возера, на цёплы пясок пляжа

Моніч, не спяшаючыся, выехаў за горад, і на прыпынку дзе на пару-другую хвілін прытарможвалі міжгароднія аўтобусы, яму махнула рукой стройная чарнавалосая дзяўчына ў ярка-белых туфельках, у блакітнай падкарочанай сукенцы. Ён падрульваў да яе, адчыніў дзверцы. Яна лёгка села на пярэдняе сядзенне, побач з ім, цмокнула яго ў шчаку. Ён усміхнуўся, злёгку прыжмурыўшы вочы, спытаўся:

— Куды?

— У прыроду.

Яна не сказала, як сказалі б тысячы яе равесніц — «на прыроду», яна сказала «ў прыроду» таму, што была каханкай паэта і мела імя багдановічаўскай гераіні — Вераніка.

Яны пазнаёміліся на літаратурным вечары. Ён чытаў са сцэны вершы, і яна прыслала яму з залы запіску: «Калі ў вас ёсць час, я хацела б пагаварыць з вамі. Я сяджу ў чацвёртым радзе каля мужчыны з рыжымі вусамі». Ён, чытаючы новы верш, убачыў мужчыну з рыжымі вусамі, убачыў яе.

— Ты змяніўся,— сказала Вераніка. Яны ехалі па палявой дарозе да лесу, нікога наўкол не было, апроч іх, і яна паклала галаву яму на плячо.

— У якім сэнсе змяніўся? — глянуў на яе Моніч.

— Не пастарэў. Не патаўсцеў. Не пахудзеў. А змяніўся.

— Тады я нічога не разумею, Вераніка. Адразу гавару табе, што я пакуль не ажаніўся, ніякай літаратурнай прэміі не заслужыў, у начальства не выбіўся. Якія ж, цікава, ты ўбачыла змены?

— У цябе змянілася душа.

Вераніка сказала гэтыя словы роўным, як быццам бы спакойным голасам, але ў самай глыбіні слоў, у самых іх карэньчыках была дрогкасць.

— Ого,— ажно збавіў хуткасць Моніч,— Гэта ўжо цікава. Цікава і страшнавата. У чалавека змянілася душа, а ён, няшчасны чалавек, замест таго, каб плакаць, абліваецца халодным і гарачым потам, едзе на рамантычную прагулку з чароўнай прыгожай дзяўчынай. Не разумею. Сам сябе не разумею.

— І не зразумееш,— засмяялася Вераніка,— Паэты шмат чаго не разумеюць.

Выбралі на ўскраіне лесу вясёлую сонечную палянку і Моніч спыніў машыну. Вераніка дастала з гаспадарчай сумкі коўдру, набор для гульні ў бадмінтон. Потым скінула сукенку, засталася ў купальным касцюме. Пахвалілася, паварочваючыся перад Монічам:

— Паглядзі, як я ўжо загарэла.

Загар быў густы, з чорным адлівам. Здавалася, скура ў Веранікі пахне майскім сонцам.

— Загар чарнаморскі,— здымаючы кашулю, сказаў Моніч,— Пад беларускім небам нельга зрабіцца такой эфіопкай.

— Уяві сабе, дарагі паэт, што гэты загар я набыла іменна пад беларускім небам.

— Ну, калі так, скажу табе камплімент: у тваіх жылах цячэ кропля негроіднай крыві. Так, так, не адмаўляйся і не махай рукамі. Нейкая твая прапрабабка была негрыцянкай Як яна апынулася ў Беларусі, гэта ўжо іншая справа.

— Скажаш,— фыркнула Вераніка,— Прачытаў бы лепей верш. Пра каханне.

Моніч лёг спіной на коўдру, засланіў ад сонца вочы рукамі. П’янліва пахла маладой травой і першымі кветкамі. Лясны чмель гугукнуў зусім блізка. Шум дрэў мякка перакочваўся над галавой.

— Пра каханне цяжка пісаць, Вераніка,— нарэшце азваўся Моніч,— Каханнем трэба жыць, гарэць. Хочаш, прачытаю верш, напісаны ў самым пачатку нашага стагоддзя? Напісаў гэты верш паэт-футурыст. Хочаш?

— Хачу.

Моніч сеў, сашчапіў рукі на каленях, чамусьці зрабіў страшны твар, пачаў чытаць, пагойдваючыся:

Цела цела цела
Цела цела цела
Цела цела цела
Цела целацела.

Вераніка здзіўлена глядзела на яго, спыталася:

— І гэта ўсё?

— Усё.

— Нічога не разумею. Абракадабра нейкая.

— Гэта верш пра каханне, як яго разумеў паэт-футурыст. Заўваж, што два апошнія словы зліліся ў адно.

У чорных вачах Веранікі ўспыхнуў гарэзлівы агонь.

— Ты цынік, Паша,— весела сказала яна.

— Не заўважаў за сабой такіх талентаў.

— Вы ўсе, паэты,— цынікі.

— Вось тут ужо дазволь з табой адразу не пагадзіцца. Я ведаю шмат паэтаў, вялікіх паэтаў, розных паэтаў, якія за свае перакананні пайшлі на эшафот.

Шумеў майскі лес. Няясныя галасы нараджала зямля, трава, зялёная лістота. Майскія жукі — хрушчы цяжка насіліся ў паветры, успыхвалі на сонцы і здаваліся маленькімі браніраванымі самалёцікамі. Непадалёку кіпеў мурашнік — цёмна-рыжая імклівая лава цякла па схілахляснога вулкана. Сцвалы і галіны дрэў былі напоўнены маладой напорыстай сілай, і гэта сіла штурхала іх уверх, далей ад зямлі, пад нябёсы. Мільёны жыццяў нараджаліся наўкола, крэплі, уліваліся ў вечны кругазварот прыроды. Мільёны жыццяў знікалі, растваралія ў воблаках, у туманах, у вадзе. Усё рухалася, дыхала, шукала выйсця. Усё пульсавала, расло, піло сонечныя промні і вецер. Бессмяротная душа прыроды жыла і квітнела ва ўсім.

— Давай згуляем у бадмінтон,— прытка ўскочыла на ногі Вераніка і схапіла ракетку. Белы рагаты валанчык залётаў над зямлёй. Моніч скінуў чаравікі, скінуў шкарпэткі і гуляў басанож і не баяўся, што параніць ногі. Ён глядзеў на валанчык, глядзеў на Вераніку, глядзеў на блакітна-цёплае неба, і адчуванне шчасця, поўнага шчасця, да якога заўсёды імкнулася сэрца, захліствала яго. Так было тады, даўным-даўно, калі толькі прыходзіла вясна, калі чарнеў і асядаў у полі снег, звінелі, захліпваліся ручаі, а яны, згаладалая па сонцы вясковая дзятва скідвалі з ног боты і валёнкі і беглі, беглі па цвёрдых, чорных, свабодных ад снегу сцяжынках. Гэта было — шчасце. Шчасце руху, вясновай волі, маладой крыві.

Потым Вераніка сядзела каля яго, расчэсвала свае доўгія чорныя валасы, і ў валасах у яе была зялёная хваёвая ігліца, і Моніч асцярожна, самымі кончыкамі пальцаў, выбіраў, як бы вышчыкваў ігліцу з яе валасоў.

— Што будзеш увечары рабіць? — спыталася Вераніка.

— Яшчэ не ведаю.

— А куды зараз паедзеш?

— Нікуды. Хочацца пабыць у лесе, падумаць.

— Ну думай, думай,— яна лёгка ўскочыла на ногі,— Толькі падвязі мяне туды, адкуль забраў,— да аўтобуснага прыпынку.

Ён падвёз яе да магістралі, пачакаў, пакуль яна сядзе ў аўтобус, памахае з аўтобуса рукой, і зноў паехаў у лес. Там спыніў машыну, прайшоўся ў глыбіню лесу, сеў на абвіты мяккім зялёным мохам пянёк. Сонца няярка свяціла праз густыя кроны дрэў, тонкія ручайкі сонечнага святла сцякалі да зацемненай зямлі, што зарасла папараццю і заечай капустай.

Нялёгкае пачыналася лета ў Паўла Моніча. Шмат работы чакалася на тэлестудыі — прыйшло новае кіраўніцтва, і, як звычайна, пачаліся спешныя шырокамаштабныя пошукі новых тэм і новых рубрык. У выдавецтве павінен быў выйсці новы паэтычны зборнік, а рэдактар зборніка, нядрэнны, па сутнасці, хлопец, таксама паэт, нечакана забракаваў амаль трэць вершаў, якія ён, Моніч, доўга і пакутліва пісаў і верыў у іх. І апошняе, бадай, самае галоўнае і далікатнае — Павел Моніч рашыў жаніцца. На трыццаць пятым годзе жыцця, у цішыні, а часам і ў тлуме сваёй невялікай халасцяцкай кватэры ён прыйшоў да думкі, што немагчыма, невыносна так жыць далей — жыць аднаму. І адразу ж у яго, бо па сваёй натуры ён быў максімалістам, з'явілася такая думка: калі ён не жэніцца гэтым летам, ён наогул ніколі не жэніцца. Чаму ён выбраў гэтыя тры летнія месяцы — невядома. Пэўна, таму, што яны былі наперадзе, гэтыя сонечныя зялёныя месяцы, а за імі пачыналася восень, з дажджамі, з туманамі, а восенню душа ягоная цішэла, спакайнела, і толькі вершы патрэбны былі ёй, толькі вершы, бо пісаў ён пераважна ўвосень, з'ехаўшы ў ціхую лясную вёску.

І так, жаданне ажаніцца ў Паўла Моніча было. А калісьці — яшчэ зусім нядаўна — у вясёлай, трохі п'янаватай кампаніі сяброў ён іграў па гітары і спяваў: «Не женитесь, не женитесь, поэты...» Як бачыце, вельмі вялікая трансфармацыя адбылася ў ягонай душы, і назад, у халасцякоўства, дарогі ўжо не было. Ён перайшоў Рубікон.

Дзесьці ён вычытаў, што кітайскі іерогліф «жанчына + страха» раўназначны іерогліфу «мір + цішыня». Гэта засела ў душы, як стрэмка: «жанчына + страха» = «мір + цішыня».

Жаданне жаніцца, прычым неадкладна жаніцца, было. А ці быў аб'ект кахання? Іншымі словамі, ці былі жанчыны, з якімі ён жадаў бы звязаць свой лёс? Жанчыны былі таксама. Ён ведаў і зведаў нямала жанчын. Яны прыходзілі ў ягонае жыццё, як вясновыя воблакі — загадкавыя, прамяністыя, светлыя. Але вельмі хутка, як тыя воблакі, адплывалі ад яго. Яны расказвалі яму свае сардэчныя тайны, смяяліся і плакалі, шкадавалі аб сваіх стратах, пілі віно, курылі, са слязамі на вачах слухалі вершы, часам крытыкавалі вершы, і знікалі. І ён не шукаў іх, бо пачыналіся новыя вёсны — і прыплывалі новыя воблакі.

З Веранікай усё было складаней і сур'ёзней. Ён, здавалася яму, знайшоў нарэшце роднасную душу. Нібы з аднолькавых матрыц адлівала калісьці іхнія душы прырода. Але нешта ў Вераніцы яго насцярожвала. Быў у ёй нейкі глыбока захаваны прагматызм, нейкая льдзінка залішняй цвярозасці звінела на самым сподзе душы. Ён прымушаў сябе думаць, што для жанчыны, будучай жонкі, гаспадыні, гэта неабходная якасць — прагматызм. Ён ведаў, што салаўя байкамі не кормяць, што салавей, гэта самы лірычны саліст беларускай вясны, у паўзах паміж мілагучнымі руладамі павінен і нейкую ягаду склюваць, і нейкую мушку схапіць, адным словам, павінен нечым харчавацца. Ён ведаў усё гэта. Аднойчы адна са знаёмых жанчын спыталася ў яго, наіўна і ў той жа час бесцырымонна: «Скажыце, а колькі вам, паэтам, плоцяць за адзін радок?» Яна, тая жанчына, не папрасіла яго пачытаць новы верш, яна пацікавілася, колькі гэты верш каштуе. Ён не хацеў, каб яго жонка была такою. І ўсё ж Вераніка, такая, здавалася, зразумелая і ў той жа час да канца ім не раскрытая, усё часцей бачылася яму ягонай жонкай.

Моніч падышоў да машыны, адчыніў нагрэтыя сонцам дзверцы, уключыў радыёпрыёмнік. Загучала музыка, светлая, павольная, як бы сатканая з сонечных промняў ціхага майскага дня. Хоць бы макулінка гаркоты была ў празрыстай, бяздумнай мелодыі.

Ён прымружыў вочы, а музыка напаўняла яго, размякчала сэрца. Здавалася, ён плыў па бязмежным сінім моры, хвалі, іртутпацяжкія, лянівыя, мяккія, накочваліся яму проста на ногі, бо плыў ён не на яхце, не на лодцы, а на бліскучай пругкай спіне дэльфіна, як той легендарны Арфей. Часам дэльфін, глянуўшы на яго разумным, трошкі журботным вокам, нырaў у халаднаватую блакітна-залацістую глыбіню, і тады даводзілася затойваць дыханне, мацней ашчаперваць

рукамі і нагамі дэльфіна. Але вочы ён не заплюшчваў і бачыў гуллівыя чародкі рыбак, самай markdown розная, самай яркай афарбоўкі, бачыў, як марудліва калыхаліся сонныя доўгія водарасці, а на самым дне, там, дзе пачынаў гусцець чарнільны змрок, адкуль веяла ледзяным холадам, бачыў няясныя абрысы мёртвых старадаўніх караблёў. Іх навечна засмактаў глей і пясок. Там, у капітанскай рубцы, дзе плавала вялікая фіялетава-жоўтая рыбіна, ён убачыў нават чэрап, заржавелую чорную шпагу і россып залатых, цьмяных ад вады і часу манет. Што гэта было — сон, фантастычная мроя?

Ён уздрыгнуў, рэзка расплюшчыў вочы. Яму падалося, што аднекуль даносіцца несуцешны жаночы плач. Ён выйшаў з машыны, агледзеўся, прыслухаўся. Залатое ззянне майскага дня трымцела наўкол. Белыя кучаравыя аблокі, падобныя на свежую мыльную пену, нерухома стаялі пад зялёнай зямлёй. Чмель, чорна-аранжавы, тоўсты, прагна ўпіўся ў салодкую цёплую кветку канюшыны і быццам здранцвеў, заснуў, пагойдваючыся на ёй. Але вось загудзеў, цяжка ўзняўся, нагружаны п'янлівым мёдам, і паляцеў, і заблытаўся ў сонечных промнях. І зноў Монічу пачуўся жаночы плач.

Над возерам, нешырокім штучным возерам, якое выкапалі экскаватарамі, паглыбіўшы рэчышча балоцістага ручая, хадзіла жанчына, уся ў чорным, і пільна, неадрыўна ўзіралася ў хвалі. Непадалёку ад яе стаяла маўклівая купка людзей і глядзела то на яе, то на шэрыя хвалі. Праз квяцісты луг, з боку горада, спяшаючыся, ішлі да возера людзі, а дзеці нават беглі.

Моніч таксама падышоў да возера. Аказваецца, у жанчыны ў чорным адзенні мінулым вечарам утапіўся сын. Утапіўся ў гэтым возеры, купаючыся разам з сябрам. Сябра сына, разгублены таўставаты белабрысы хлопец, стаяў пасярод натоўпу, дробна калаціўся ўсім целам і тлумачыў людзям:

— Пакупаліся мы... Потым па віно ў прадмаг схадзілі... Выпілі... Потым зноў пакупаліся — вада цёплая-цёплая... А потым я тут, на беразе, заснуў... Прачнуўся, а Васі няма. Я думаў, ён дадому пайшоў...

Ён казаў усё гэта ціхім дрыготкім голасам і баяўся глянуць на маці свайго сябра. А яна, як параненая чорная птушка, усё хадзіла і хадзіла над самай вадой і неадрыўным вострым позіркам глядзела ў глыбіню страшнай вады, якая забрала яе сына, і нешта шаптала. Нічога на свеце не існавала для яе ў гэтыя хвіліны, акрамя маўклівага шэрага возера, на дне якога ляжаў яе сын, дваццацігадовы хлопец, што два тыдні назад вярнуўся з вайсковай службы. Каб можна было, яна кінулася б у гэтыя хвалі, асушыла б возера, па жменьцы выплеснуўшы на бераг ваду.

Чакалі вадалаза. І вось у сіняй запыленай «Волзе» прыехаў вадалаз, нізкі ростам, лысы чалавек. Ён нацягнуў на сябе акваланг з балонамі, адзеў маску і ласты і ператварыўся ў тоўстую непаваротлівую рыбіну. Рыбіна гэта даклыпала па пяску да вады, зайшла ў ваду па калені, па пояс, рэзка ўзмахнуўшы рукамі-плаўнікамі, боўтнулася галавою ўніз і знікла ў нерухомай вадзе. Два чалавекі, што таксама прыехалі на сіняй «Волзе», селі ў лодку і паціху паплылі за вадалазам, шлях якога пад вадой быў відзён па срабрыстых шыпучых пузырках паветра. Натоўп як бы знямеў. Людзі падступілі бліжэй да возера, выцягнулі шыі, чакалі. Маладзенькі міліцыянер строга звёў бровы, сказаў:

— Грамадзяне, адыдзіце далей ад вады. Гэта ж вам не спектакль.

Але ягонай суровасці і строгасці хапіла ненадоўга, і ён, пахлапчукоўску ссунуўшы фуражку на патыліцу, прысеўшы на кукішкі, сам пачаў сачыць за лодкай і за ланцужком паветраных пузыркоў на спакойнай паверхні возера.

Моніч назіраў то на возера, то, крадком, на маці тапельца. Яна хадзіла і хадзіла па беразе, нібы ў нейкім гіпнозе, і ўвесь час нешта шаптала. Можа яна паўтарала сынава імя? У яе быў чорны ад гора твар. У спалучэнні з чорным колерам адзення ён здаваўся страшным, спакутаваны сухі твар няшчаснай маці. І, як бы падкрэсліваючы, адцяняючы яе невымерную жалобу, да болю ярка, весела свяціла сонца. І гэтае майскае сонца нельга было выключыць, быццам электрычную лямпачку.

Між тым вадалаз нічога не знаходзіў. Так прайшло каля гадзіны. Самыя аптымістычныя з натоўпу пачалі гаварыць, што хлопец не ўтапіўся, бо няма на беразе адзення, што ён, напіўшыся, спіць зараз дзе-небудзь у лесе, у цяньку, не здагадваючыся, якую завaруху выклікаў сваім знікненнем. Колькі разоў вадалаз, як цюлень, шумна вынырваў з глыбіні ў розных месцах возера і расслаблена махаў рукою людзям у лодцы, што азначала «няма...». Прычым вынырваў ён усё далей і далей ад берага, амаль у самым цэнтры возера.

«Можа і сапраўды не ўтапіўся хлапец»,— падумаў Моніч. Ён зноў крадком глянуў на няшчасную маці і ўявіў, пастараўся ўявіць, як у гэты самы момант, калі паверхню возера перасякае варухлівы ланцужок паветраных пузыроў, калі вадалаз напружана ўглядаецца ў карычнева-чорнае дно, як у гэты самы момант з лесу выходзіць малады вясёлы хлопец, голы па пояс, перакінуўшы каляровую кашулю цераз плячо. Яму ў вочы б'е сонца, у яго злёгку кружыцца галава ад сонца і ад выпітага віна. Ён соладка паспаў пад лазовым кустом на зялёнай

мяккай траве, ён зараз гукне свайго сябра, што чакае, павінен чакаць, на беразе возера. Але чаму такая хмара народу сабралася каля возера? Чаму ягоная маці апранула чорную сукенку, завязала чорную хустку і ходзіць-ходзіць каля самай вады, узіраючыся ў шэрыя сярдзітыя хвалі?

Раптам натоўп, колькі дзесяткаў людзей, ціха ахнуў, уздрыгнуў і пачаў павольна адступаць ад берага. Толькі гравій затрашчаў пад нагамі ў людзей у мёртвай цішыні. Моніч таксама ўздрыгнуў і таксама зрабіў крок назад.

З шэрай каламутнай глыбіні, усяго метраў за дзесяць ад берага, ціха вынырнула чорнавалосая хлапечая галава, з закрытымі вачыма, з прылізанымі вадой валасамі. Нібы выплыла пад уражанымі позіркамі людзей чорная мёртвая кветка. Потым з-пад вады паказаўся вадалаз. Асцярожна падграбаючы левай рукой, правай ён прыціскаў да сябе, трымаў на сваім плячы тапельца. З акваланга зрываліся буйныя кроплі вады, і было чутно, як ударающца яны аб паверхню возера: тук... тук... так... так... Гэта быў адзіны гук у мёртвай цішыні, што павісла над возерам і над берагам.

— Васілёк! — страшным голасам крыкнула маці і рынулася ў ваду, насустрач вадалазу, які нёс на руках яе нежывога сына. Возера аддало ёй нарэшце яе Васю, навекі схаваўшы на сваім дне яго ўсмешку.

Моніч хутка, амаль подбегам, пайшоў ад возера, пайшоў да сваёй аўтамашыны. Ён не меў болей сілы глядзець на гэтага голага мёртвага хлапца, на яго маці, што, не дабегшы крокі тры да вадалаза, спатыкнулася і ўпала ў ваду і адразу ж усхапілася на ногі... Шчодрае майскае сонца сляпіла вочы. Матылькі цалаваліся з кветкамі.

Апамятаўся Моніч толькі на магістралі перад чырвоным вокам светафора. Тут пачынаўся Мінск. Шаснаццаціпавярховыя светлыя дамы, як старадаўнія беларускія волаты, цвёрда стаялі ўздоўж грымлівага, неспакойнага асфальту дарогі.

Моніч заўважыў, як да ягонай машыны з супрацьлеглага боку дарогі ўжо ідзе міліцыянер, наганяючы на свой малады твар суровасць. Міліцыянер падышоў, лёгка кінуў загарэлую руку да фуражкі:

— Сяржант ДАІ Ванькові. Чаму парушаеце правілы абгону?

«Будзе пракол»,— спустошана, асуджана падумаў Моніч і пачаў даставаць з кішэні курткі вадзіцельскія правы. Але твар у сяржанта Ваньковіча раптам пасвятлеў, памякчэў. Сяржант сказаў лагодным голасам:

— А я вас ведаю. Вы ў нашай школе міліцыі выступалі.

Ён трошкі павагаўся, зноў казырнуў:

— Едзьце. Толькі болей так не абганяйце.

— Слухаю, таварыш сяржант,— абрадавана ўсміхнуўся Моніч.

Плады папулярнасці. Гэты сяржант слухаў ягоныя вершы і запомніў яго ў твар. І не пакараў за парушэнне правіл дарожнага руху, хоць усе падставы для пакарання былі. Дзіўна ўсё-такі, чаму творчыя людзі карыстаюцца такой папулярнасцю? Пісьменнікі, напрыклад, любяць павучаць. А дарослыя людзі, як перасоленай ежы, не любяць павучанняў. І тым не менш пісьменнікі — можа з часам гэта зменіцца? — не могуць паскардзіцца на няўвагу да сваёй асобы. Што гэта? Магія друкаванага слова, якая ідзе яшчэ з тых пракаветных часоў, калі на папірусе быў напісаны першы іерогліф?

Моніч вёў машыну па ажыўленых мінскіх вуліцах і ўспамінаў свой дэбют у паэзіі. Першы верш, напісаны табой самім і надрукаваны не ў насценнай газеце, а ў самай сапраўднай, дзе друкуюцца звесткі аб сяўбе і аб здабычы вугалю, аб падзеях ва ўсім свеце, гэта — як першы пацалунак каханай. Амаль усе ў юнацтве пішуць, але далёка не ўсім удаецца ўбачыць свой твор у газеце. Аб тым, каб адразу надрукавацца ў часопісе, маладыя і не мараць. Газета, малюсенькі куточак у газеце — вось аб чым марыць пііт-пачатковец. І хоць Анатоль Франс назваў калісьці газету «светящейся пылью истории», хоць газета жыве ўсяго дзень — вялікае шчасце ўбачыць у ёй сваё прозвішча. Пыл бывае розны, асабліва калі ўявіць сябе касманаўтам, які апускаецца на Месяц і пакідае — на месячным блакітным пыле! — свой след, адбітак сваёй нагі.

Моніч надрукаваў першы верш у маладзёжнай газеце. Ён усю ноч не мог спаць, бо ведаў, што заўтра, як толькі адчыняцца кіёскі «Саюздруку», як толькі паштальёны са сваімі цяжкімі сумкамі рушаць па горадзе, ягоны верш, першы надрукаваны верш, аддзеліцца ад яго і зажыве сваім самастойным жыццём. Ноч цягнулася доўга, і была яна — як зубны боль. Ён прачнуўся вельмі рана, калі яшчэ ўвесь студэнцкі інтэрнат спаў сном праведніка, і амаль пабег у бок чыгуначнага вакзала. Там быў газетны кіёск і там, хвалюючыся, ён купіў газету і адразу разгарнуў яе. Верша не было. Верш, вядома, быў, але ён спачатку не ўбачыў яго і адчуў, як халадзеюць рукі. Ён на некалькі імгненняў адчуў сябе касманаўтам, што выйшаў у адкрыты космас са свайго карабля, а трос, якім ён быў прывязаны да карабля, выпадкова перабіла метэарытам. Плыве ўдалеч карабель, і, крычы не крычы, яго ўжо не дагнаць, ніколі не дагнаць. Потым ён знайшоў верш, разоў дзесяць яго перачытаў, седзячы ў прывакзальным скверы. Ён быў тады самы шчаслівы чалавек на зямлі. Ён адчуваў сябе калегам — адкуль раптам узялася смеласць! — Льва Талстога і

Янкі Купалы. У бліжэйшых кіёсках ён купіў яшчэ некалькі экземпляраў газеты са сваім вершам. Можна было падумаць, што ён скупляе акцыі нейкай сусветна вядомай багатай фірмы. Потым радасць трошкі прытупілася. Ён успомніў, што рэдактар газеты разам з вершам абяцаў даць ягоны фотапартрэт. Партрэта чамусьці не было. На месцы, дзе, па ўсіх меркаваннях, павінен быў быць партрэт, газета дробным шрыфтам надрукавала справаздачу аб футбольным матчы, даўшы ёй загаловак «Нашы зноў прайгралі». Потым у сваім вершы ён знайшоў ажно дзве карэктарскія памылкі. Але самы страшны псіхалагічны ўдар чакаў яго на пероне, куды ён выйшаў, прыціскаючы да грудзей пук газет. Яму здавалася, што гэтыя газеты з ягоным вершам выпраменьваюць святло, што ад іхніх старонак ва ўсе бакі разносіцца ціхая музыка. Яму думалася, што людзі кажуць, паказваючы на яго: «Глядзіце — вунь ідзе паэт. Ён надрукаваў сёння ў газеце цудоўны верш». На пероне ён убачыў дзядзьку, вясковага, п'янаватага дзядзьку ў карычневай паддзёўцы, у зялёным галіфэ. Дзядзька трымаў у руках такую ж самую газету, газету, з яго, Моніча, вершам, але не чытаў яе. У гэту газету ён, лагодна ўсміхаючыся, загортваў вялікі кавалак мяса. Пэўна, купіў мяса ў прывакзальным гастраноме.

Памятае Моніч і свой самы першы верш, не надрукаваны, а чырвоным алоўкам напісаны ў школьнай насценгазеце. Сам дырэктар школы пахваліў яго тады. Было гэта, дай бог памяць, здаецца, у пяцьдзесят другім годзе. Так, у пяцьдзесят другім. Ён тады вучыўся ў трэцім класе.

Моніч уехаў у свой двор, ціхі, зялёны, з астраўком чаромхавых кустоў пасярэдзіне. Гаража ў яго пакуль што не было, і даводзілася пакідаць нанач машыну на двары, пад акном кватэры. Дом быў з белай цэглы, двухпавярховы. Жыў Моніч на другім паверсе, так што за машыну асабліва не баяўся — пры падазроным шуме заўсёды можна было выбегчы на балкончык і, перагнуўшыся праз парэнчы, схапіць злодзея за чуб. Ды пакуль што ўсё было з машынаю спакойна.

Ён зайшоў у кватэру, уключыў у ваннай ваду і апаласнуў твар і рукі. Выціраючыся калючым ручніком, адчуў, як няўлоўна пахне мяккімі жаночымі духамі. Значыцца, прыходзіла Вераніка. Неяк ён даў ёй ключ, і яна карыстаецца ключом з упэўненасцю гаспадыні. Так і ёсць — на тэлевізары ляжыць запіска.

«Паша, я забягала,— пісала Вераніка.— Купіла табе яблыкаў. Здаецца, польскія. Стаяць у халадзільніку. Узяла з тваёй бібліятэкі «Тэатр» Маэма. Не хвалюйся, не звані ў міліцыю — вярну». І ўсё. Ні пажаданняў, ні развітанняў. Арыгінальная акселератка, нічога не скажаш.

Ён распрануўся, у адных трусах лёг на канапу, падклаў рукі пад галаву. Зноў яны сустрэліся: ён і цішыня. Нават традыцыйнай кроплі вады, што ў кінафільмах і раманах няўмольна капае з-пад водаправоднага крана на кухні, не было.

Ён любіў сваю кватэру, сваю аднапакаёвую халасцяцкую кватэру. Яна была для яго як для старога марскога ваўка каюта. Тут ён працаваў, спаў, думаў, піў, еў. Сюды прыходзілі сябры, заглядвала Вераніка.

Дзве сцяны пакоя — «кают-кампаніі», як жартавалі сябры,— займалі кніжныя паліцы. Кнігі шчыльнымі маўклівымі радамі стаялі ад падлогі да столі. Варта было прачнуцца, расплюшчыць вочы — і адразу ты бачыў кнігі. Варта было ў нейкай трывозе прахапіцца сярод ночы — і адразу кнігі глядзелі на цябе, супакойвалі, падбадзёрвалі. Вясной ці ўлетку, калі за акном грымела навальніца і ў пакоі павісаў трывожны змрок, водбліск ад агню маланкі нервова прабягаў па ціснёных золатам пераплётах старадаўніх кніг, і здавалася, што ў кніг ажываюць, загараюцца вочы.

На кніжных паліцах ён павесіў два кароценькія выслоўі-лозунгі, уласнаручна напісаныя чырвоным фламастэрам на белай тоўстай паперы. Першы лозунг абвяшчаў: «Дом без кнігі — як чалавек без душы. Аляксандр Герцэн», другі — «Кожная кніга — магілкі задум». Хто выказаў другую думку, ён так і не даведаўся. Але яна спадабалася яму сваёй смелай нечаканасцю.

На трэцяй сцяне, у якую былі ўрэзаны дзверы на балкон, ён вешаў віды тых гарадоў, у якіх пабываў. Тут былі Масква, Кіеў, Вільнюс, Свярдлоўск. Нядаўна ён павесіў фатаграфію Таліна. Горад быў сфатаграфаваны белай балтыйскай ноччу з вышыні птушынага палёту. Здавалася, уздыбіліся вострыя марскія хвалі, падхопленыя свежым ветрам, ды так і застылі, ператварыўшыся ў старадаўнія гатычныя дамы і вежы. Як рыбіна луска, блішчала чарапіца на вострых пакручастых дахах. Вузкія вуліцы загадкава чарнеліся ўнізе, як маўклівыя горныя цясніны. Стары Томас плыў над сонным, як бы прывідным, горадам і са сваёй вышыні бачыў увесь Талін, свінцовае мора, бачыў флюгеры-пеўнікі, бачыў лёгкія, прыгожыя, выкаваныя са звонкага металу балкончыкі.

На чацвёртай сцяне віселі ўсяго два партрэты. Гэта былі два вялікія рамантыкі, так непадобныя адзін на аднаго,— Максім Багдановіч і Джэк Лондан, беларус і амерыканец. Адзін чарнявы, з прыгожымі мяккімі вусікамі, з тонкім трагічным абліччам; другі каштанавалосы, буйнагаловы, з цвёрдым позіркам вікінга. Адзін шукаў і знайшоў свой народ, і праспяваў песню пра гэты народ, і памёр, такі

малады і такі крылаты, у далечыні ад сваёй зямлі; другі быў песняром дарогі, барацьбы, дзікай прыроды, гордага адзінокага сэрца і таксама памёр яшчэ ў даволі маладым узросце, памёр, каб застацца незразумелым на сваёй радзіме. Яны былі паэтамі надзеі і вельмі добра суседнічалі ў гэтым ціхім пакоі, на гэтай белай сцяне.

Моніч узняўся з канапы, апрануўся, сеў за часопісны столік. Папера і аўтаручка, як заўсёды, былі пад рукою, чакалі яго. Зараз увесь свет павінен быў спрасавацца, да памераў аркуша паперы. Толькі белае поле паперы і ты, і боязна напісаць першую літару, нібы зрабіць першы крок на высакагорны снег, які ў кожны міг можа паплыць з-пад нагі.

Раней ён пісаў пераважна ноччу. У гэтым пісанні былі свае перавагі — дом і горад заціхалі, наступала цішыня, такая жаданая, такая ўрадлівая. «Мае мазгавыя клеткі могуць пладаносіць толькі ў цішыні»,— запісаў ён аднойчы ў свой гросбух — была ў яго такая вялізная тоўстая канцылярская кніга, у якой ён, як іншыя ў блакноце, занатоўваў свае думкі.

Але неўзабаве высветлілася, што пасля напружанай начной працы вельмі цяжка заснуць. Мозг доўга не можа супакоіцца, як мора пасля шторму. Сніліся каляровыя сны, сніліся нейкія жахі. Ён то праваньваўся ў цёмную бездань, то ўзлятаў пад аблокі і падаў адтуль на такую цвёрдую і такую страшную зямлю. Тады ён пачаў пісаць увечары.

Ужо амаль год ён пісаў доўгую, здавалася, бясконцую паэму, якую назваў «Вялікае перасяленне». Яму хацелася расказаць у ёй пра тое, як апошнія дзесяцігоддзі беларуская вёска (дакладней, дзеці — сыны і дочкі беларускай вёскі) перасялялася ў горад. Што дало ім гэта перасяленне? Што забрала ў іх?

У ягоны гросбух былі ўжо занесены сотні думак розных людзей на гэту тэму, думак супярэчлівых, цікавых, якія адцянялі адна адну, спрачаліся між сабою. Была тут і думка Максіма Горкага, якую пісьменнік выказаў, рэцэнзуючы кнігу вершаў Ісакоўскага «Правады ў саломе»: «Горад і вёска — дзве сілы, якія асобна адна ад другой існаваць не могуць. Для іх прыйшоў час зліцца ў адну, неадольную творчую сілу».

Часам Монічу здавалася, што задуманая паэма расплюшчыць яго сваім цяжарам, што ён не справіцца з ёй, як не спраўляюцца маладыя нявопытныя шаферы на крутым павароце дарогі з цяжкім імклівым аўтамабілем. Апускаліся рукі. Што такое творчая паэтычная работа? Будні, будні да канца жыцця. Гэта старадаўнія грэкі, вясёлыя, не сапсаваныя цывілізацыяй людзі, выдумалі крылатага каня

Пегаса, выдумалі срэбнагалосага Арфея. У жыцці ўсё прасцей, цяжэй і складаней. Пішаш вершы, пішаш і друкуеш год, два, быццам кідаеш іх у бяздонны калодзеж. А побач жывуць і працуюць людзі — ездзяць у тралейбусах на работу, нараджаюць дзяцей, разводзяцца, ходзяць на футбол, стаяць у чарзе да стаматолага... Што ім да тваіх вершаў, да тваіх ружовых аблокаў, салаўёў і вясенніх крыніц? Але аднойчы нехта недзе, сустрэўшы цябе, скажа ціхім, як бы прабачлівым голасам: «А я чытаў ваш верш... Ведаеце — нядрэнны верш... Нешта ўва мне быццам прачнулася». Такія словы — узнагарода. Узнагарода за сумненні і бяссонніцу, за пакуты сэрца.

Сёння Монічу не пісалася. Звычайна ён прымушаў сябе пісаць, бо смешна чакаць штодзённага натхнення. Натхненне — капрызная залатапёрая птушка, якая не вельмі часта залятае ў паэтычны сад.

Ды прымушаць сябе сёння не хацелася. Моніч з нейкай разгубленасцю ўстаў з-за стала, падышоў да акна, пачаў глядзець на двор. Нічога асаблівага на дварэ ён не ўбачыў. Пенсіянер Стукальскі, перакінуўшы цяжкую рыдлёўку цераз плячо, ішоў па двары. Быў ён ужо ў майцы, на нагах запыленыя кірзавыя боты. Зразумела — ідзе капаць пограб у сваім хлеўчуку. Ва ўсіх жыхароў дома былі такія хлеўчукі. Яны стаялі, прыляпіўшыся адзін да аднаго, як старыя апенькі да пня, адразу ў канцы двара, за астраўком чаромхавых кустоў. У свой час Моніч адмовіўся ад хлеўчука. Навошта ён яму? Трымаць там веласіпед? Дык веласіпед можна паставіць і па балконе. Стукальскі ж гадаваў у хлеўчуку трусоў. Нарабіў там драўляных клетак, ездзіў за горад жаць траву (спецыяльна раздабыў серп), карміў трусоў, часам выпускаў іх пабегаць на двор. У іх былі вялікія чырвона-жоўтыя вочы. Яны даверліва падбягалі да людзей, і было трошкі ніякавата думаць, што Стукальскі іх заб'е, злупіць шкуркі і нашые шапак, якія потым будзе прадаваць на Старажоўскім рынку. Стукальскі з тых людзей, якія ўсё, што трапляе на вока, цягнуць у сваю нару. Пра такіх некалі добра сказаў Стэндаль: «Ён падпаліць горад, каб зварыць сабе яйка». Яшчэ год назад Стукальскі жыў на дзявятым паверсе вялікага сучаснага дома. Гэта потым ужо ён размяняў кватэру, каб адсяліць дачку, якая выйшла замуж. Дык у той, першай, кватэры быў у Стукальскага прасторны сонечны балкон. І не даваў ён Стукальскаму жыцця, гэты самы балкон. Столькі карыснай плошчы прападала дарэмна. Хоць насыпай па яго зямлю і засявай градкі. Ператвараць балкон у агарод ён не стаў, не асмеліўся, а вось пчол завёў — два рамачныя вуллі паставіў на балконе. Дом стаяў на ўскраіне горада, побач былі калгасныя палі, і пчолы з узыходам сонца дружна цягалі мядок на дзевяты паверх, а Стукальскі задаволена паціраў рукі,

чакаў, калі можна будзе везці мёд на рынак. Ды неяк пчолы заляцелі не на дзевяты паверх, а на сёмы. А там якраз на балконе загарала маладзенькая жонка вядомага спартсмена. Пчолы і «пазнаёміліся» з ёй. Крыку было, віску! Скончылася «мядовая гісторыя» тым, што прыйшла міліцыя і ліквідавала пасеку, а Стукальскі ў дадатак заплаціў штраф.

Моніч пахадзіў па пакоі, спрабаваў чытаць, але не чыталася. «Ну, стары, трымайся!» — нявесела падумаў ён. Калі не пішацца і не чытаецца, значыць, павярнуўся нейкі рычажок у душы, і, злуй не злуй, нічога з сабой не паробіш. Гэта — як нялётнае надвор'е для авіятараў. Чакай, пакуль праясніцца неба, тупай па зямлі, з сумам і надзеяй глядзі на свінцова-шэрыя хмары.

Ён палез у кішэнь курткі па цыгарэты і намацаў там канверт. Успомніў, што пісьмо гэта перадаў яму Анатоль Баталін. Канверт быў ужо распячатаны. Ён, стоячы каля акна, пачаў чытаць пісьмо. Почырк быў дробны, дзявочы.

«Добры дзень, дарагая рэдакцыя! — пісала дзяўчына,— Доўга не асмельвалася вам напісаць, але — будзь што будзе — сёння прыйшла з работы і пішу. Я рэгулярна гляджу маладзёжныя праграмы Беларускага тэлебачання, і шмат што ў іх мне падабаецца. Прыемна думаць, што ёсць у нас такія харошыя маладыя людзі, хлопцы і дзяўчаты — адукаваныя, працавітыя, шчырыя. З такімі сябрамі, думаецца мне, добра было б і ў тайзе, і на Паўночным полюсе, усюды. Яны не кінуць у бядзе, дапамогуць, заспяваюць вясёлую песню, калі зробіцца сумна. Я зайздрошчу ім. Я ведаю, што яны звычайныя людзі, што я кожны дзень магу іх сустрэць, бо яны, як і вы, дарагая рэдакцыя, ездзяць у тралейбусах, а я — вадзіцель тралейбуса. І ўсё-такі яны для мяне незвычайныя. Часам так хочацца быць разам з імі, спяваць іхнія песні, але гэта немагчыма. Я ведаю, што гэта немагчыма. Справа ў тым, што я непрыгожая. Дарагая рэдакцыя, не смейся, калі ласка, з мяне. Перш чым напісаць гэта пісьмо, я доўга думала, доўга сумнявалася і рашыла, што самыя нешчаслівыя людзі на зямлі — непрыгожыя людзі. Я непрыгожая, і таму я нешчаслівая. Усе героі і гераіні кінафільмаў і кніг прыгожыя. Хіба магла Наташа Растова быць непрыгожай? Ды Леў Талстой на такую б і не глянуў і не напісаў бы пра яе ні радка. Я ведаю — вы скажаце, што чалавек прыгожы не знешняй прыгажосцю, а ўнутранай, духоўнай. Я ўсё гэта ведаю. Я перадавік на рабоце, мяне хваляць, мая фатаграфія вісіць на Дошцы гонару. Але лепей бы яна там не вісела, бо я не магу на яе глядзець. Усё гэта ад лёсу. Хто які нарадзіўся, той такім і будзе. Прабачце за

пісьмо. У вас столькі спраў, столькі перадач. Яшчэ раз прабачце. З камсамольскім прывітаннем — Зоя Гардзей».

Моніч дачытаў пісьмо, паглядзеў па канверт. Ён чамусьці быў упэўнены, што зваротнага адраса не будзе, але адрас быў: «Мінск, вуліца Платонава, інтэрнат трамвайна-тралейбуснага парка, пакой 7». Ён зноў паклаў пісьмо ў кішэнь курткі; павольна пачаў хадзіць па пакоі. Пісьмо яго ўсхвалявала.

Моніч, мяркуючы па ўсім, адносіўся да разраду прыгожых мужчын. Так не раз гаварылі яму знаёмыя жанчыны. Сам ён На гэта не звяртаў увагі, бо заўсёды лічыў — і пра гэта напісала ў сваім пісьме Зоя Гардзей,— што чалавек перш за ўсё прыгожы прыгажосцю душы, спраў і ўчынкаў. У далёкім-далёкім дзяцінстве на носе і на шчоках у яго ад яркага красавіцкага сонца з'яўляліся вяснушкі, і некаторыя дарослыя бяскрыўдна жартавалі: «Колькі ластаўчыных гнёздаў спароў?» Вяснушкі лічыліся ў вёсцы неабавязковым упрыгожаннем твару, але ён не дужа засмучаўся, бо і маці ягоная ў маленстве была веснаватая, і шмат пазней, ужо ў сталым узросце, напісаў вясёлы верш «Сум па вяснушках».

Што ж параіць, што сказаць гэтай незнаёмай дзяўчыне? Любыя словы могуць аказацца банальнымі. Але ён нешта павінен, абавязкова павінен сказаць.

Моніч узяў чысты аркуш паперы, сеў за стол, пачаў пісаць.

«Добры дзень, паважаная Зоя! Мне рэдакцыя даручыла даць адказ на тваё пісьмо. (Будзем звяртацца на «ты», добра?) Вельмі правільна, што аб усім, што цябе хвалюе, ты пішаш адкрыта, шчыра. Шчырасць — самы надзейны ключык да чалавечых сэрцаў. А цяпер крыху пагаворым пра тваё набалелае.

Ты бачыла калі-небудзь непрыгожае дрэва? Або непрыгожае воблака, кветку? І наогул — што такое прыгажосць? Які павінен быць нос у чалавека — грэчаскі, арліны, кірпаты? Некалі, тысячагоддзі назад, у вобразах багоў людзі падсвядома стваралі свой ідэал дабра, дасканаласці і прыгажосці. Дык вось — у афрыканскіх нубійцаў бог быў з вугальна-чорнай скурай, кучаравы, таўстагубы, танканогі, а ў фракійцаў (яны яшчэ ў час Рымскай імперыі займалі тэрыторыю сучаснай Балгарыі) — блакітнавокі, рыжавалосы, шыракаплечы. Розныя людзі — розныя багі. Гэта трэба зразумець, усвядоміць, і жыць будзе намнога лягчэй. Чалавек павінен заўсёды імкнуцца да непаўторнасці, адзінкавасці сваёй асобы, свайго «я». Паміж мільярдаў сабе падобных чалавеку, калі ён прэтэндуе на высокае званне чалавека, проста неабходна захаваць сябе, не растварыцца ў натоўпе, у шэрасці, у аднастайнасці. Ты, вядома, бачыш наўкол сябе сяброўак, маладых

дзяўчат, якія спяць і нават ува сне «працуюць» (гэта значыць прычэсваюцца, апранаюцца, гавораць, думаюць) «пад Пугачову», «пад П'еху», «Пад Ратару» і г. д. Але ж Ратару на ўсёй зямлі адна, і ў гэтым яе прывабнасць і сіла. Пакажыце мне мільён Ратару, і назаўтра мне зробіцца сумна і нецікава па іх глядзець.

Ды гэта ўсё — агульныя словы. Што тычыцца непасрэдна цябе, я пажадаў бы табе быць яшчэ больш актыўнай у жыцці, быць аптымісткай, верыць у свой лёс, умець знаходзіць сяброў (гэта вельмі важна) і, галоўнае, не прыслухоўвацца да таго, што гавораць за тваёй спіной. Я ўпэўнены, што ў цябе, як і ў кожнага чалавека, пройдзе эпоха юначай самакрытычнасці (я так называю гэты стан душы), ты пасталееш, зразумееш свае недахопы, убачыш свае вартасці, свае «плюсы» і здолееш выкарыстаць іх у далейшым жыцці, у рабоце, у сям'і. Я ўпэўнены ў гэтым, Зоя. Вось і ўсё, што я хацеў табе сказаць. Заканчваючы ліст, пішу для цябе словы Георга Ліхтэнберга, нямецкага мысліцеля васемнаццатага стагоддзя: «Нашы слабасці нам ужо не шкодзяць, калі мы іх ведаем». Стаўлю кропку. Шчасця табе! Няхай мінута ў мінуту прыходзяць на прыпынкі мінскія тралейбусы!»

Моніч запячатаў канверт, надпісаў яго, паклаў у кішэнь курткі. Трэба сёння ж, як пойдзе ў прадуктовы магазін, апусціць пісьмо ў паштовую скрынку. Нешта разбалелася галава, прычым ужо не ўпершыню. Трэба было б, на добры розум, адпачыць, паехаць у вёску, пахадзіць у грыбы, пакупацца. І пастарацца не пісаць. Хоць месяц не пісаць ні слова. Праўда, гэта толькі пажаданні самому сабе. Не пісаць ён ужо не можа. Пісанне для яго, як цяжкое чыгуннае ядро, што навекі прыкавана да нагі катаржніка.

Ён, не распранаючыся, зноў лёг на канапу, падклаў рукі пад галаву, заплюшчыў вочы. Хочацца быць бяздумным, расслабіцца, растварыцца ў цішыні... «Часцей прыслухоўвайся да сябе, і ты пачуеш рытм Сусвету»,— вучыў некалі сваіх паслядоўнікаў славуты індыйскі ёг. Гэтыя самыя ёгі, каб адчуць сваю сувязь з Вечнасцю, распраналіся і гадзінамі, не мяняючы позы, сядзелі, глядзелі на ўласны пуп. Смешна. А калі ўдумацца, ёсць нейкая логіка і нейкі сэнс. Іменна пупавінай усе мы калісьці былі злучаны са сваімі маці. Пупавіну разарвалі... Застаўся знак... І — памяць...

Хутка будзе сем гадоў, як памерла маці. Ён атрымаў тэлеграму аб яе смерці раніцой, гадзін у шэсць, і адразу ж, не пазваніўшы Баталіну на тэлестудыю, кінуўся на чыгуначны вакзал. Але ў таксі, ужо амаль пад'ехаўшы да вакзала, трохі астыў, успомніў, што трэба раздабыць вянок. Яшчэ з гадзіну ездзіў па горадзе і купіў-такі вянок, цяжкі, бляшаны, абвіты цёмна-зялёнымі яловымі лапкамі. У горадзе

маецца спецыяльны пахавальны камбінат, які прадае насельніцтву труны, помнікі, вянкі, ды камбінат быў яшчэ зачынены, і ён, Мопіч, доўга грукаў у халодныя шкляныя дзверы, пакуль аднекуль не з'явіўся вартаўнік, аблаяў яго, а потым, вынесшы з бакоўкі, прадаў вянок, узяўшы замест дзевятнаццаці рублёў дваццаць пяць.

У вагоне разам з Монічам ехала маладая жанчына з дзецьмі — хлопчыкам і дзяўчынкай гадоў шасці-васьмі. Да прыходу Моніча дзеці дурэлі, бегалі па вагоне, абліваліся вадой з бутэлькі. Маці сварылася на іх, але сварылася мякка, ласкава, таксама смеючыся. Але вось прыйшоў Моніч, сеў на лаўку, трымаючы на каленях цяжкі бліскучы вянок. Жанчына ўбачыла вянок, злёгку ўздрыгнулі сінія вясёлыя вочы, пахаладзелі, нібы Моніч прынёс у вагоп зіму. Жанчына прыгарнула дзяцей да сябе, і маленькі хлопчык глядзеў то ў акно, за якім разгараўся сонечны летні дзень, лёталі птушкі, плылі белыя хмары, то на вянок.

На вясковай вуліцы, непадалёку ад іхняй хаты, яго сустрэла старэйшая сястра, пайшла насустрач, бяссільна раскрыліўшы рукі, плачучы, прыгаворваючы: «А брацік мой... А няма ўжо нашай мамкі...» Потым быў твар маці... Нейкія ціхія людзі... Бабулі ў чорным... Дыханне свечак... Ён заплакаў, пацалаваў маці ў жоўты халодны лоб. Разам з ёй адыходзіла часціна яго душы.

Маці, у свае шэсцьдзесят восем гадоў, была мажная, цяжкая целам, і ёй зрабілі прасторную, са свежых жоўтых дошак труну. Века труны і саму труну абабілі чырвонай матэрыяй. Моніч, калі нікога не было побач, дастаў з кішэні ножык-складанчык, адрэзаў ад труны стружку, адрэзаў кавалачак матэрыі і забраў усё гэта з сабою. Гэта будзе ягоным амулетам, памяццю ягонага сэрца на ўсё будучае жыццё. І сёння кавалачак дрэва і кавалачак чырвонай матэрыі ляжаць у патаемнай шкатулцы, і, калі робіцца цяжка, сумна, адзінока, ён расчыняе гэту шкатулку.

Калі маці яшчэ хварэла, ён аднойчы прыйшоў да яе ў раённую бальніцу, доўга чакаў на калідоры. Яна выйшла ў грубым сінім халаце, са стомленым бледным тварам і заплакала, уткнулася тварам яму ў плячо. Ён адчуваў, як дрыжыць яе цела, ён асцярожна гладзіў яе. Яна папрасіла: «Сынок, зайшоў ты б да доктара, пагаварыў з ім, каб мяне лепей глядзелі. Ён цябе паслухае. Ты ж — пісацель. Я ўсім жанчынам у палаце сказала, што мой сын пісацель...» Ён гладзіў яе плечы, глытаў слёзы. Ён не пайшоў да доктара, бо ніколі не ўмеў казыраць сваім імем, сваім званнем. Ужо за хаўтурным сталом старэйшая сястра расказала, як за тыдзень да смерці маці сумна паскардзілася ёй:

«Паўлік не прыязджаў? Жанчыны ў палаце казалі: «Які ён пісацель? Нават да доктара пабаяўся зайсці».

Няма маці... Адшумеў зялёны гай... Адзвінеў жытні колас... Няма маці... Ён піша паэму «Вялікае перасяленне», яму трыццаць пяць гадоў, а ён успамінае маці памяццю малога і другую частку паэмы пачынае такім радком:

Ты з поля йдзеш. Блішчыць твой серп на сонцы...

Так, гэта ягоная маці, яна ідзе з поля, дзе цэлы дзень жала, ідзе высокая, загарэлая; белая хустка завязана шаламком на русых валасах. У правай руцэ — серп, у левай — гладыш, напалову напоўнены цёплым густым хлебным квасам. Ён п'е гэты квас, а маці стаіць над ім, і яму здаецца, што яна ўзвышаецца над усёй зямлёй, над лясамі і гарамі, такая добрая, такая маладая і прыгожая, з сярпом-маланкай у правай руцэ.

Зазваніў тэлефон. Моніч уздрыгнуў, расплюшчыў вочы. На імгненне здалося, што маці, з сярпом у руках, стаіць каля кніжных паліц і ўсміхаецца яму.

У трубцы пачуўся мяккі, мякчэйшы, чым на службе, голас Андрэя Баталіна. Значыцца, шэф абуў хатнія пантофлі, сцягнуў гальштук, прыняў душ і ператварыўся ў звычайнага хлопца, добрага, памяркоўнага, з гумарком.

— Ты не забыўся, што ляціш у Ерэван? — спытаўся Баталін.

— Калі чэсна, дык забыўся.

— Во-во... Баталін павінен помніць усё. Баталін — ЭВМ.

— Такая ў цябе служба, Толя,— усміхнуўся Моніч.— А калі трэба ляцець?

— Заўтра. Сёння яшчэ не позна афарміць камандзіроўку. Сядай у машыну і гані на тэлестудыю. На тваім стале, пад шклом, я паклаў усю неабходную дакументацыю. Будзь здароў. Перадавай прывітанне армянскім калегам і не забудзь асабіста для мяне прывезці пляшку армянскага каньяку.

Баталін паклаў трубку, а Моніч адразу ж заспяшаўся. Трэба, пакуль не зачынілася бухгалтэрыя, атрымаць камандзіровачныя. Ён хуценька замкнуў кватэру, збег па гулкай лесвіцы, сеў у машыну, пад'ехаў да прадуктовага магазіна, кінуў у паштовую скрынку ліст да Зоі Гардзей і памчаўся на тэлестудыю.

...Самалёт на Ерэван адлятаў у шаснаццаць гадзін. Над аэрапортам разносіўся металічны жаночы голас з рэпрадуктара. Здавалася, гэта жанчына была злой вяшчунняй. Большасць яе аб'яў пачыналася словамі: «У сувязі з метэаралагічнымі ўмовамі не прымае аэрапорт...» І далей ішла назва горада. Не прымалі Адэса, Кіеў, Новарасійск, Тбілісі.

Ерэван жанчына пакуль што не ўпаміналa, але Моніч ведаў, што на дарозе ў Арменію самалёт робіць пасадку ў Днепрапятроўск, і баяўся пачуць з рэпрадуктара назву гэтага горада.

Дзесьці на поўдні грымелі навальніцы, бушавалі праліўныя дажджы, выходзіла з берагоў, білася аб гранітныя шчэлепы скал раз'ятранае мора. Дзесьці электрычныя стрэлы пякучых маланак пратыкалі цемру неба. А над Беларуссю мякка свяціла сонца. Перыстыя воблакі бязважка стаялі ў чыстым блакіце і ўзнімаліся ўсё вышэй над зямлёй і раставалі, рабіліся непрыкметнымі воку. Цёплы густы вецер браў у абдымкі кучаравыя цёмна-зялёныя кроны маладзенькіх ліп. Лісце на ліпах радасна трапятала, хадзіла хвалямі і раптам замірала, нібы прыслухоўвалася само да сябе. На цёмным асфальце ярка свяціліся маленькія лужынкі.

Аб'явілі пасадку.

Пасля таго, як прайшлі міліцэйскі кантроль, Моніч падалося, што ў натоўпе праважаючых мільгануў твар Веранікі. Але аэрапортаўскі маленькі аўтобус ужо вёз яго да самалёта, і ён толькі ўздыхнуў, мацней сціснуў ручку «дыпламата».

У самалёце Моніч сеў ля ілюмінатара. Даўка пахла скурай крэслаў і чамусьці апельсінамі. У кішэньцы, што ўманціраваў ў спінку крэсла, якое было папераздзе ягонага крэсла, ён убачыў чорны гігіенічны пакет. Убачыў і зморшчыўся.

Пасажыры запаўнялі салон самалёта, умошчваліся ў крэслы, некаторыя адразу ж зашпільвалі ўзлётныя паясы. Размаўлялі ціха, нібы нехта забараніў гаварыць на ўвесь голас. У людзях ужо жыло прадчуванне страшнай вышыні, на якую яны павінны будуць узняцца праз некалькі мінут.

Зараўлі рухавікі. Спачатку спакойна, роўна, потым усё мацней і трывожней. Самалёт пачаў вырульваць на ўзлётную паласу. Ён трошкі пагойдваўся, увесь трапятаў ад магутнай сілы, якая была схавана ў яго металічным целе.

Пасажыры сядзелі ціха і насцярожана. Толькі маладзенькі салдацік, які, пэўна, трошкі выпіў перад палётам, расшпіліў верхнія гузікі гімнасцёркі, смешна вадзіў вострым кадыком і нешта весела гаварыў свайму суседу, маўкліваму чарнавусаму армяніну.

Вось гул самалёта ўзмацніўся, у ім пачуліся перуновыя раскаты. Самалёт ажно закалаціўся, так не цярпелася яму хутчэй ірвануцца ў неба. Хвіліна, другая — і зямля адштурхнула самалёт, стрэліла ім у гарачы звонкі блакіт.

Моніч прыпаў тварам да ілюмінатара. Зямля коса гайданулася, паплыла ўніз пад вялізным напружаным крылом, на якім была відаць

кожная заклёпка. Праляцелі нейкую — аўтабазу, дзе стаялі сотні маленькіх, як цацачных, самазвалаў і мітусіліся людзі, падобныя на мошак. Высачэзная заводская труба здалася саломінкай, уваткнутай у карабок з-пад запалак. Гарадскія будынкі былі як белыя драбкі цукру.

Вецер шкробся аб металічную абшыўку. Здавалася, у неба былі блакітныя вострыя кіпцюры, але самалёт не баяўся іх, узнімаўся ўсё вышэй і вышэй, аж перахоплівала дыханне. Праваліліся ў адзінокую хмару, белая пена пацякла па крылах, мякка стукнулася ў ілюмінатар, ажно Моніч заплюшчыў вочы. Дый хмара гэта засталася ўнізе, а наперадзе было сіняе бязмежжа неба, залітае гарачымі промнямі сонца.

Вясновая Беларусь разгортвалася пад крыламі самалёта. Абмытая сонечным святлом, абвеяная лёгкім цёплым ветрам, асвежаная сінім дажджом, яна была такая прыгожая, прасторная, сакавітазялёная. Залатыя кропелькі азёраў blішчалі ў цёмным аксаміце лугоў. Лясы плылі шчаціністымі квадратамі, трохкутнікамі, кругамі. Акіяны лясоў шумелі ўнізе, і хоць сюды, на нябесную верхатуру, не далятаў іхні шум, варта было заплюшчыць вочы, як пачыналі співаць белыя бярозавыя гаі, гудзелі сасновыя бары, трывожна ракаталі цёмныя вільготныя пушчы. А колькі рэчак, ручаёў і ручайкоў струменілася ўнізе! Яны пранізвалі, апляталі ўсю зямлю, як сярэбраная павуціна. Высокі самалёт адлюстроўваўся ў іхніх спакойных глыбінях залатой зіхоткай кропляй.

Народ жыў, працаваў, смяяўся, спяваў свае песні, гушкаў дзяцей. Галасы цымбалаў і скрыпак былі рассыпаны па сонечнай зямлі. Як жа можна не любіць гэты народ, гэту зямлю? Гэты народ стараліся не заўважаць, а ён рукамі і розумам свайго вялікага сына Скарыны стварыў цудоўныя кнігі. Гэты народ папракалі ў забітасці, у цямноце, а ён толькі смяяўся, бо верыў у свае сілы, у сваіх сыноў і дачок. Ён ніколі не здраджваў сябрам. Ён смела змагаўся з ворагамі. Ён кожнае чацвёртае сваё дзіця аддаў на алтар нашай святой перамогі над фашысцкім зверам. Ён чэсна здабываў свой хлеб.

Павел Моніч ляцеў над вясновай зямлёй, і сэрца замірала ад хвалявання, і ў душы нараджалася нешта высокае, нешта пякучае. Ці то вершы, ці то слёзы...

У Ерэван прыляцелі ноччу, у цёплай густой цемры. Моніч нават не мог сказаць — над морам ляцелі ці над Каўказскім хрыбтом. Пасажыры былі вялыя, сонныя, змучаныя палётам.

Ён выйшаў пад цёмнае армянскае неба, па якім гарэлі яркія буйныя зоркі. У аэрапорце яго ніхто не чакаў. Каб ён даў тэлеграму, сустрэлі б, але ён рашыў не турбаваць армянскіх калег. Толькі дні за два да гэтага Баталін пазваніў наконт месца ў гасцініцы.

У зале чакання аэрапорта ён сеў на цвёрдую, зрэзаную нажамі лаўку, хацеў прымусіць сябе задрамаць да світання. Але сну не было ні ў адным воку. І ён зразумеў, што гэта дарэмная справа — наганяць на сябе сон.

Ён у Ерэване. Ён першы раз тут, і з першымі промнямі сонца яго чакае сустрэча з адным з самых старажытных гарадоў нашай краіны, з народам, які помніць нашэсце рымскіх легіёнаў. Хутчэй бы ўзышло сонца.

Моніч любіў падарожнічаць. Падарожжы былі не толькі перамяшчэннем у прасторы і ў часе. Яны ўзрушвалі глыбінныя пласты душы, прымушалі ўбачыць месца свайго народа ў агульначалавечай гістарычнай плыні. І яшчэ ў яго быў адзін маленькі прыемны сакрэт. Прыязджаючы або прылятаючы ў незнаёмы горад, ён заўсёды думаў: «А хто з маіх аднавяскоўцаў мог пабываць тут да мяне?» Менавіта пра аднавяскоўцаў думаў ён, бо з Мінска людзі, вядома ж, бываюць усюды. А вось з ягонай Захараўшчыны выбрацца ў далёкі свет складаней, хоць землякоў можна, у прынцыпе, сустрэць усюды. Выйшлі з вёскі інжынеры, афіцэры, рабочыя самых розных прафесій, моладзь служыць у арміі ў розных кутках Саюза, дзяўчаты выязджаюць са сваімі мужамі...

Выплыла з-за гор сонца, налілося чырванню, як агромністы салодкі яблык. Лепшага надвор'я для сустрэчы з незнаёмым горадам нельга было і чакаць.

Дык вось які ты, Ерэван, Эрэбуні. Усюды туф, мяккі прыгожы камень, з якога зроблены будынкі, фантаны, з якога высечаны старажытныя храмы. Туф пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі, але найбольш сустракаюцца светла-ружовыя, чырванавата-цёмныя таны, і здаецца, што гэта загар, што горад загарэў, тысячы гадоў падстаўляючы свае плечы нясцерпна-шчодраму сонцу.

Натоўп на вуліцах рухавы, тэмпераментны, чарнавалосы, з масляніста-цёмнымі вачамі. Дзяўчаты ідуць побач з хлопцамі, перакінуўшы сумачкі з доўгімі рамянямі цераз плячо, аб нечым весела размаўляюць. Хлопцы ў яркіх кашулях, у джынсах, у модных чаравіках на высокім абцасе.

Часам сустрэнецца маршчыністы дзед, з гордай сівізной, падобнай на бляск снягоў Арарата, з цёмнай пергаментнай скурай. Ён маўчыць, гледзячы проста перад сабой строгімі прыжмуранымі вачамі. У яго сухія плечы, тонкія загарэлыя рукі і нетаропкая бясшумная паходка. Куды ён ідзе? Адкуль ён? Пэўна, прыехаў у сталіцу з горнай вёскі. Ён маўклівы і цярплівы, як вінаградная лаза яго камяністай радзімы.

Усюды вельмі шмат помнікаў. Гэта й зразумела — старадаўні народ на сваім цяжкім тысячагадовым шляху нарадзіў, выгадаваў і страціў мноства вялікіх сыноў. Яны вярнуліся да яго помнікамі, верныя сыны.

У маладзёжнай рэдакцыі на Ерэванскай тэлестудыі Моніча сустрэлі вельмі сардэчна. Адразу ён з усімі перазнаёміўся, пачынаючы з галоўнага рэдактара Левона (тутэйшае імя Левон напомніла яму беларускае — Лявон) і памочніка рэжысёра тоненькай смяшлівай Асмік уключна. Асмік пацiснула Монічу руку сваёй маленькай загарэлай рукой з прыгожа пафарбаванымі пазногцямі, сказала, усміхаючыся:

— Упершыню бачу беларуса.

На тэлестудыі ён дамовіўся пра абменныя маладзёжныя перадачы, заказаў кінанарыс пра беларусаў — будаўнікоў падземнага тунеля, які павінен даць ваду ў мялеючае возера Севан. Потым гасцінныя гаспадары вырашылі паказаць яму Арменію, вядома, не ўсю, бо не было часу; маленькі кавалачак Арменіі — Эчміядзін і Гарні.

Выехалі на студыйнай аўтамашыне. Спадарожнікам і гідам Моніча быў Меружан, супрацоўнік маладзёжнай рэдакцыі, малады сімпатычны хлопец, з густой сінявата-чорнай шавялюрай, з вялікімі бліскучымі вачамі, у якіх гарэлі то сум, то захапленне, гледзячы пра якія старонкі з гісторыі свайго народа ён расказваў.

Калі ехалі ў бок Эчміядзіна, рэзідэнцыі армянскіх каталікосаў, вецер прагнаў з наваколля ранішнюю смугу, і на паўнеба, велічна і неадступна, выплыў над горнай дарогай, над Ерэванам і, здавалася, над усёй Арменіяй горды сілуэт Арарата. Меружан і шафёр змоўклі, шматзначна глядзелі на Моніча.

Арарат стаяў, пераліваўся ў небе, як прывід, як дух суровай горнай зямлі. Вяршыня ўразалася ў нябесны блакіт, зіхцела пад сонцам, клікала да сябе. Можна было зразумець, чаму менавіта да Арарата, калі верыць Бібліі, у час сусветнага патопу прычаліў Ной свой каўчэг.

— Ён — там...— ціха сказаў Меружан і махнуў рукою ў напрамку свяшчэннай гары ўсіх армян. І Моніч зразумеў. «Там» — гэта азначала за межамі Арменіі, у чужой дзяржаве, пад чужым сонцам.

— Але ён заўсёды з намі...

І Меружан пачаў расказваць гісторыю сваёй зямлі.

У Ерэван вярнуліся вечарам. Меружан павёў Моніча ў кафэ — зацемнены цесны падвальным, дзе сцены былі выкладзены шэрым каменем, а замест сталоў на цвёрдай глінабітнай падлозе стаялі вялізныя драўляныя бочкі з-пад віна.

Перад гэтым Меружан пазваніў Асмік, і неўзабаве яна прыйшла, прыгожая, тоненькая, рухавая. Яна напамінала горную пчалу — такая ж звонкая, такая ж няспынная, у вечным клопаце. Яна і расстаўляла талеркі з закуссю, і налівала з высокіх халодных графінаў цёмна-чырвонае віно, і падсоўвала Монічу нейкую зеляніну, звязаную ў пучкі — «ешце, ешце, гэта нацыянальная армянская страва»,— і спявала песні.

Моніч і сам любіў спяваць. І ён падцягваў армянам, не ведаючы слоў песні, паверыўшы мелодыі, плаўнай, як палёт арла, імклівай, як рух вады з горных схілаў. Армяне спявалі да самазабыцця, потым усхапіліся на ногі, пачалі танцаваць тут жа, у кафэ. Танцавалі ўсе. Танцавала афіцыянтка, поўная вясёлая жанчына з графінам цёмна-чырвонага віна ў руках.

На дванаццаты паверх гасцініцы Моніч вярнуўся толькі ноччу. Дзяжурная аддала яму ключ ад пакоя, спагадліва ўсміхаючыся, пазірала на яго. Ён зайшоў у пакой, упаў на ложак і думаў, што адразу засне, але сон не прыходзіў, і тады Моніч сеў на падаконнік, пачаў глядзець на начны горад.

Ерэван спаў, умасціўшыся між гор, захутаўшыся цёплай імглой. Рэдкія агні былі рассыпаны ў змроку, як залатыя спагадлівыя вочы. Маці Арменія, трымаючы ў руках меч, стаяла над горадам, над сном сваіх сыноў і дачок. Помнік быў добра відзён на фоне попельна-шэрага неба.

Монічу ўспаміналіся горныя дарогі, бяздонныя цясніны, абпаленыя сонцам храмы, каменныя крыжы-хачкары, высечаныя ў тоўшчы скал. Успамінаўся Матэнадаран, славутае армянскае кнігасховішча, дзе каля ўваходу ў нішах сцяны стаяць гранітныя фігуры філосафаў і паэтаў. Яны як бы вартуюць кнігі — галоўнае багацце свайго народа.

І, як заўсёды ў далёкай дарозе, Павел Моніч думаў пра сваю зямлю, свой народ. Беларускі народ таксама выпіў не адзін келіх пакуты і адчаю. Чужынцы таксама ганьбавалі яго веру, хацелі знішчыць яго памяць, яго душу. Нічога не атрымалася. Плешчацца пад сінім небам Нарач — беларускі Севан. Стаяць гродзенская Каложа і полацкая Сафійка. Мірскі замак падстаўляе свае шырокія параненыя грудзі ветру, які прылятае з начных лугоў і палёў. Гучыць слова Купалы і Коласа.

Трэба любіць зямлю прадзедаў. Любоў да роднай зямлі павінна быць актыўнай. Трэба знайсці сваё месца ў сваім народзе і ўсвядоміць месца свайго народа на зямлі. Не пагарду да іншых народаў, не іронію, а словы братэрства і дружбы павінен несці ў сваім сэрцы паэт. Мы не выбіралі месца нараджэння. Мы нарадзіліся, мы светлымі

крыніцамі, шумлівай травой, маладым падлескам выбіліся са сваёй зямлі, тут убачылі сонца, тут пачулі матчыну калыханку, і пяма і не будзе нам шчасця і радасці без гэтай зямлі.

Моніч заснуў, спаў спакойна і доўга і прачнуўся ад нецярплівага стуку ў дзверы. Здалося — дзяцел барабаніць па сасне. Але ён адразу ўспомніў, дзе ён, усміхнуўся, лёгка саскочыў з ложка, апрануўся і адчыніў дзверы. На парозе стаяў Меружан, вясёлы, пякуча-чарнавокі.

Выйшлі з гасцініцы па вуліцу, і зноў на галаву і плечы абрынулася з высокага чыстага неба вогненнае сонца. Моніч адчуваў цяжар сонечных промняў.

— Пойдзем у кафэ,— сказаў Меружан. Ён быў у светлых штанах, у светлай кашулі з кароткімі рукавамі. Загарэлыя мускулістыя рукі пагойдваліся ў такт хадзьбе. Роўна ўздымаліся грудзі. Чорныя густыя валасы тапырыў вецер. Сапраўдны малады армянскі бог, што сышоў са старажытнай фрэскі.

— Дзе Асмік? — спытаўся Моніч.

— Паехала ў вёску. У цёткі дзень нараджэння. Мы з Асмік увосень пажэнімся. Прыязджай, Павел. Маджар будзе — маладое вінаграднае віно.

— Дзякуй, Меружан. Прыехаць ці прыеду, а павіншую вас абавязкова. Вы — слаўная пара.

Меружан удзячна ўсміхнуўся Монічу, лёгенька стукнуў яго па плячы. Атрымалася гэта так непасрэдна, шчыра, столькі было ў гэтым жэсце дабрыні, што абодва яны засмяяліся.

Кафэ стаяла над вялікім штучным вадаёмам. Вада ў вадаёме была яркая, дзіўнага сіне-зялёнага колеру, і Монічу падумалася, што яна нечым падфарбаваная. Галіны невысокіх дрэў, падобных на нашу вярбу, купаліся ў вадзе.

Селі за столік. Меружан заказаў каньяк і каву па-турэцку. Іграла ціхая музыка. Праз вузкія акенцы ў паўзмрок кафэ прарывалася сонца і асляпляльнымі зіхоткімі плямамі гарэла на чырвоным пластыку століках.

У кафэ ўвесь час заходзілі людзі, чулася экспрэсіўная армянская гаворка, і раптам... Моніч у гэтым віры незразумелых чужых слоў улавіў роднае слова. Так нечакана было пачуць яго тут, у шумным ерэванскім кафэ, паміж смуглатварых чарнавалосых людзей, паміж густога церпкага паху кавы, паміж цяжкога золата нязвыкла гарачых промняў, але яно прагучала.

— Ты, Вардгес, падобен на шпачка. Такі ж чорненькі,— весела, грубавата-шчыра сказаў нейчы нізкі, ужо трохі п'янаваты голас, і Моніч адразу ўстрапянуўся — зямляк!

«Падобен на шпачка...» Так мог сказаць толькі беларус.

Моніч прыўзняўся над столікам, пачаў аглядаць кафэ. Скрозь чорныя кучаравыя галовы, смуглыя лысіны. Але вунь там, за крайнім столікам, тырчыць галава, таксама лысаватая, ды скура на лысіне святлейшая, ружовая, а валасы, што паяском абкружаюць гэту лысіну, рыжавата-русыя, нетутэйшыя.

— Ты што шукаеш, Павел? — здзіўлена запытаўся Меружан.

— Беларускім духам запахла,— весела сказаў Моніч і пайшоў, пакіраваўся да таго століка, за якім сядзеў гаманкі п'янаваты зямляк. А калі падышоў, то ледзь язык не праглынуў ад здзіўлення. За столікам сядзеў і піў віно не толькі беларус, не толькі зямляк, а сам Валодзя Козыр, ягоны аднавяскоавец.

Козыр таксама ўбачыў Моніча, на хвіліну як бы анямеў, а потым, перакуліўшы бутэльку з віном, кінуўся цалавацца. Дні тры ён не галіўся, і рыжаватая вострая шчаціна цвікамі ўпівалася Монічу ў шчокі.

— Вардгес,— крыкнуў свайму спадарожніку Козыр, не выпускаючы Моніча з абдымкаў,— глядзі, хто да нас прыйшоў! Гэта ж — Моніч, Паша Моніч. Ты ведаеш, хто ён? Беларускі пісацель! А нарадзіўся ў маёй вёсцы.

І Козыр зноў сціснуў Моніча, ды так моцна, што ў Паўла пераняло дыханне.

Пры словах «беларускі пісацель» усе прысутныя паглядзелі на Моніча, і ён страшэнна разгубіўся і, каб не разгубіцца яшчэ больш, падхапіў Козыра і Вардгеса пад рукі, павёў да Меружана. Козыр нешта ўзбуджана гаварыў і стараўся пацалаваць Моніча ў шчаку.

Селі за адзін столік, заказалі віна.

— Я заплачу,— крычаў Козыр,— Піце, хлопцы. За дружбу. За майго земляка Пашу.

Калі Козыр трохі супакоіўся, Монічу ўдалося высветліць, якім чынам ён апынуўся ў такіх далёкіх краях. Аказваецца, у час вайны ён ляжаў у Ерэване ў шпіталі, яму тут адрэзалі правую нагу, і тут ён пазнаёміўся з Вардгесам. З Вардгесам яны шмат гадоў перапісваліся і нарэшце рашылі сустрэцца, і вось сустрэліся, а тут лёс ці сам бог паслаў Моніча, і... Адным словам, як не выпіць за такую цудоўную сустрэчу?

Козыр усё напаўняў і напаўняў шклянкі, Меружан з Вардгесам не адмаўляліся, ды і ў Моніча ў душы пасяліўся вясёлы задзірлівы чорт, і праз нейкую гадзіну ўсе былі п'яныя. Але ап'яненне было не грубае, а мяккае, прыемнае. Промні сонца танцавалі наўкол Моніча, хацелася браць іх у рукі і намотваць на пальцы, як пяшчотныя жаночыя валасы.

— Жывём, Паша,— казаў Козыр і ўсё стараўся пацалаваць Моніча ў шчаку.— Вершы пішаш? Маладзец! Пішы. Я, каб кончыў класаў сем, таксама пісаў бы. Душа ў мяне тонкая, далікатная... Ты ведаеш маю душу.

Ён сядзеў побач з Монічам, чырванашчокі, непрыгожы, правае вуха нібы пакусана нейкім зверам — гэта ў час вайны проста на брустверы ягонага акопа разарвалася нямецкая міна.

— Як жывеш ты, Валодзя? — пытаўся Моніч, гледзячы ў сінія вочы земляку, бачачы дробненькія чырвоныя жылкі ў куточках гэтых вачэй.

— А што мне? Жыву. Я ж — інвалід. Дзяржава пенсію плоціць. Два гады пазад «Масквіч» бясплатна далі, ды я надарваў яго — сена з балота вазіў. Дачку Галю замуж выдаў. Іван, малодшы сын, у арміі служыць. Жыву, брат.

Козыр быў гадоў на дваццаць старэй за Моніча, але Павел, як помніць сябе, заўсёды зваў яго проста Валодзя, і той не крыўдзіўся, бо не ўмеў крыўдзіцца на людзей. Яго цяжка параніла ў першы ж месяц вайны. Да вайны ён вучыўся ў Ленінградзе ў ФЗВ, вучыўся рабіць на заводзе цвікі, як прызнаваўся потым.

У сорак шостым годзе Козыр вярнуўся ў вёску са шпіталя, вярнуўся на пратэзе, вярнуўся малады, гарачы і ўсё хадзіў на танцы, усё не мог прывыкнуць, што болей ніколі яму не танцаваць, як танцуюць здаровыя людзі. Ён дзічыўся людзей, сядзеў, курыў, забіўшыся ў цямнейшы кут хаты. Хлопцы-падлеткі, і Павел Моніч паміж імі, прыносілі бутэльку самагонкі, яблыкаў. Козыр напіваўся, кідаў шапку на падлогу, выходзіў у круг, адзін, цяжка валочачы непаслухмяную драўляную нагу, танцаваў, размахваючы рукамі, і сам сабе падпяваў, блытаючы беларускія словы з рускімі:

— Растоў-на-Дану...
Саратаў на Волгі...
Я цябе не даганю —
У цябе ногі долгі.

— Пытаешся, як я жыву? — казаў між тым Козыр, нахіляючы пакрыты потам лоб да Паўлавага пляча.— Помнікі адліваю... Пятнаццаць рублёў за помнік...

— Якія помнікі? — не зразумеў Моніч.

— На нашых могілках... У Захараўшчыне ж дужа прыгожыя могілкі... Помніш? Сосны растуць, бярозы... Дык я там спецыяліст па помніках. Форму зрабіў, цэмент купляю, раствор раблю. Усё сам раблю. Людзі ж паміраюць. На дзень Перамогі Рыгор Шамалёў памёр. Самы стары чалавек у Захараўшчыне быў. Помніш Рыгора? І яму я помнік

адліў. І яшчэ ў мяне зусім свежы помнік на могілках ляжыць, нейкага чалавека чакае...

Козыр гаварыў усё гэта спакойным, разважлівым голасам, і Монічу рабілася ніякавата ад такой спакойнасці. Усё такі ж людзі паміраюць, землякі. За помнікамі трэба людзей бачыць, у першую чаргу — людзей. Але ён нічога не сказаў Козыру.

— Чаму ў вёску не прыязджаеш? Прыедзь калі-небудзь,— паклаў яму руку на плячо Козыр.

— Прыеду, Валодзя. Упраўлюся з работай і дзянькоў на дзесяць падскочу,— паабяцаў Моніч.

Нарэшце выйшлі з кафэ на гарачую, размораную сонцам вуліцу. Зноў ззяў у блакітным небе Арарат. Здавалася, велічная гара наступае на горад.

Праз некалькі гадзін Моніч паляцеў у Мінск. Козыр жа застаўся гасцяваць — пэўна, дужа даспадобы прыйшлося армянскае віно.

Ляцелі над снежна-белымі воблакамі. Цень ад самалёта бег па воблаках, і было страшнавата бачыць яго там. Ён быў такі адзінокі, такі маленькі ў неабсяжнай воблачнай пустыні.

Моніч, як заўсёды, сядзеў каля ілюмінатара, і пад гудзенне самалёта яму добра думалася. Думкі былі настроены на філасофскі, трохі элегічны лад.

Чаму ён стаў пісьменнікам, ён, вясковы хлопец, сялянскі сын? Чаму ён не трактарыст, не шафёр, не заатэхнік, як большасць ягоных сяброў? Чаму ён не інжынер на якім-небудзь заводзе, не тэхнолаг на швейнай фабрыцы, не бухгалтар, урэшце?

«У кожным натарыусе можна знайсці асколкі паэта»,— гавораць французы. Доля праўды ў гэтым, вядома, ёсць. Кожны чалавек, калі яго нечым усхваляваць, узрушыць, можа павярнуцца да людзей такой нечаканай гранню сваёй душы, якую і родзічы, і сябры ніколі не думалі ў ім убачыць, і не здагадваліся нават, што яна ў ім ёсць. Гэта як каштоўны камень, што дзесяцігоддзі ляжыць пад нагамі ў людзей, паміж гор пустой пароды. Ніхто яго не бачыць, але аднойчы прамень сонца выпадкова ўпадзе на яго, і непрыкметны дагэтуль камень, камяк шэрай зямлі, раптам успыхне, засвеціцца, заззяе, ды так, што людзі заплюшчаць вочы.

Монічу заўсёды падабалася казка Андэрсана пра Брыдкае качаня. У гэтай цудоўнай мудрай казцы ідэя ўсепераможнасці мастацтва, прыгажосці пададзена ў вельмі даходлівай, спрасаванай форме. Жыве на птушыным двары беднае Брыдкае качаня, з якога ўсе кпяць, з якога здзекуюцца, смяюцца. З яго смяюцца нават неразумныя тлустыя індыкі. Але мы, чытачы, ведаем, што неўзабаве з гэтага шэрага

палахлівага камячка вырасце магутны белы лебедзь з моцнымі шырокімі крыламі, з чыстым паўнагучным голасам.

Тут ужо напрошваецца другое пытанне: «А што такое талент?» Сапраўды, што гэта? «Адзнака нябёсаў» — як думалі старажытныя філосафы? Ці проста ўдалая расстаноўка, камбінацыя наследных генаў?

Усё мог зрабіць рымскі імператар Нерон: мог у час оргіі выпіваць у бакале віна гіганцкія расплаўленыя жамчужыны, кожная з якіх была цэлым скарбам, мог падпаліць Вечны горад — Рым. Але і ён адчуваў, што для паўнаты жыцця яму не хапае адчування сваёй таленавітасці, што ні багацце, ні сіла, ні ўлада не могуць замяніць талент. Вось чаму Нерон і акцёр, і скрыпач, якому горача апладзіраваў увесь Рым. Апладзіраваў, праўда, не з-за нейкіх выключных здольнасцей славалюбівага імператара. Проста ў час канцэртаў за спіной у гледачоў стаяла імператарская гвардыя з аголенымі мячамі ў руках.

Сялянскі сын Павел Моніч стаў не хлебаробам, а паэтам. У гэтым ёсць элемент выпадковасці, але ёсць і нейкая заканамернасць.

Мала хто паверыць у гэта, але ён, Павел Моніч, ужо ў дзесяцігадовым узросце ведаў, што калі вырасце і стане дарослым, то будзе паэтам, будзе пісаць вершы. Усе наўкол гаварылі пра сена, бульбу, кароў, авечак, а ён усміхаўся сам сабе ў душы і думаў: «А я буду паэтам».

Вёска, вясковая праца, вясковая прырода вельмі моцна ўздзейнічаюць на паэтычныя струны, якія схаваны ў кожнай чалавечай душы.

Ідзе снег... Ужо ў адным гэтым сказе — паэзія, бо снег не мае ног і не можа ісці. Снег, сняжынкі могуць падаць, кружыцца, завівацца, але не ісці. А дзесяцігадовы Паша Моніч, лежачы ў начной вясковай хаце, прыслухоўваючыся да таямнічых гукаў зімовай ночы, шчыра верыў, што ў снега ёсць ногі. Ну, не ногі, дык мяккія белыя лапкі. Бо хто ж так асцярожна тупае па саламянай страсе хаты, пад чыімі крокамі парыпвае зледзянелая сцяжынка?

А вясновыя навальніцы... Хіба можа не ўразіць гэты звонкі гром, гэта ўрачыстая і пагрозлівая музыка нябёсаў? Маланкі прапальваюць неба, ад іх робіцца празрыста-светлай самая цёмная ноч. Шыхае маланка, жоўта-залатое святло расцячэцца па небе, па зямлі, па халоднай шыбе. А ты сядзіш, уткнуўшыся носам у гэту шыбу, і так трывожна-соладка на душы, і нейкім няясным прадчуваннем так ные сэрца, што хочацца заплакаць. Хочацца разбіць шыбу, вылезці праз акно на вуліцу, стаць пад мокрай маладой ліпай, якая ад карэння да самай вярхушкі абліта дажджом, абліта зыркім святлом маланкі. Ліпе холадна і страшна. Ліпа здаецца табе роднай сястрой, якую трэба абараніць, засланіць ад непагоды.

А восеньскія лясы?.. Як назваць гэты цуд, гэту незвычайную сілу бяссільных мёртвых фарбаў? Лісце дрэў памерла, адшумела, зялёны колер ператварыўся ў жоўты, чырвоны, буры, каштанавы, агніста-карычневы, аранжавы... Не злічыць адценняў. І ўсё гэта золата, уся гэта прыгажосць шуміць пад ветрам, трапеча, уздыхае, хвалюецца...

Ды самым хвалюючым, самым уражлівым, што з самага маленства акружала Паўла Моніча, былі, вядома, людзі і падзеі. Кожны аднавясковец быў асобай, фігурай. Ужо, здаецца, стары Кандрат самы што ні ёсць звычайны дзядок — сухі, зморшчаны, сівы, сутулы. Але і ён вылучаўся між мужчын Захараўшчыны тым, што болей за ўсіх мог паляжаць і папарыцца на палку ў гарачай лазні. І не з-за свайго здароўя стаў вясковым чэмпіёнам дзед Кандрат, а з-за прыроднай хітрасці, кемлівасці. Пракруціў ён у сцяне лазні, якраз над самым палком, малюсенькую дзірачку, правёў у гэту дзірачку трубку і, калі пачыналася спаборніцтва на цярплівасць, перасільваў самых моцных, самых маладых мужчын. Ляжа на палок, уваткнецца носам у гэту трубачку і дыхае свежым паветрам з вуліцы. Так і перамагаў усіх, пакуль сусед ягоны, Ахрэм Дронь, не заўважыў дзедавы хітрыкі і не заляпіў трубачку глінай.

Добра помняцца Паўлу Монічу пасляваенныя гады — разруха, голад, мноства мужчын-інвалідаў у вёсках, глухая туга ў жаночых вачах. У лясах хаваліся недабітыя паліцаі. Іхнія гаспадары ўцяклі ў Германію, а ім не хапіла месца ў гітлераўскім абозе. Вось яны і хаваліся, як краты, а цёмнымі начамі выходзілі з лясоў, нападалі на міліцыянераў, калгасных актывістаў і паштальёнаў, на школьнікаў і настаўнікаў.

Аднойчы ў Захараўшчыну прыехаў Мошчаў дзядзька Алесь, сакратар райкома камсамола з-пад Магілёва. Прыехаў ён на трафейным нямецкім «опелі» з шафёрам, вясёлым чубатым украінцам, і з інструктарам райкома камсамола Валодзем, васемнаццацігадовым светлавалосым хлопцам, які прывёз з сабою футбольны мяч — самы сапраўдны футбольны мяч, незвычайны цуд для ўсёй захараўшчынскай дзятвы — і арганізаваў на выгане за вёскай футбольны матч. Гэту гульню яшчэ і сёння ўспамінаюць у Захараўшчыне. А ўвечары дзядзька Алесь прапанаваў з'ездзіць на «опелі» на рэчку пакупацца. Паехалі дзядзька Алесь, Валодзя, Павел і два суседскія хлапчукі. Каля самай рэчкі ў негустым сасновым лесе дарогу машыне перагарадзіла банда — чалавек дзесяць, абдзёртыя, барадатыя, брудныя, з нямецкімі аўтаматамі ў руках. Дзядзька Алесь выхапіў наган, але яго скасілі доўгай чаргой проста на сядзенні «опеля». Шафёр-украінец выскачыў з машыны, хацеў бегчы ў лес, ды таксама ўпаў мёртвым.

Засталіся Валодзя, Павел і два суседскія хлопчыкі, два браты Варонічы. Выратавала іх напачатку тое, што Павел і браты Варонічы паднялі рукі ўгору. Бандытаў рассмяшылі шасцігадовыя карапузы, якія дружна, як па камандзе, здаваліся ў палон, высока трымаючы над галавой тоненькія рукі.

Валодзю ўдарылі ў твар, запатрабавалі паказаць дакументы. Ён, не выціраючы з твару кроў, дастаў з унутранай кішэні пінжака нейкую шэрую кніжачку. Бандыты ўзялі яе, пачыталі. «Значыць, ты спартсмен?» — запытаўся ў Валодзі адзін з бандытаў, шыракаплечы, з перабінтаванай галавой. Валодзя кіўнуў. «Тады прайдзі на руках вунь да той бярозы і прачытай малітву. Прачытай «Ойча наш». Валодзя маўчаў, і яны застрэлілі і Валодзю...

З аэрапорта, узяўшы таксі, Моніч паехаў дадому. Зайшоўшы ў кватэру, адчуў, што страшэнна стаміўся за апошнія дні. Распрануўся, стаў у ванне пад халаднаваты душ. Потым памыў галаву. Мыла ў вадзе выслізгвала з рук, як рыбіна.

Пасвяжэлы і бадзёры, пайшоў да кніжных паліц, бо ў далёкай дарозе заўсёды пачынаў сумаваць па кнігах. Даставаў і гартаў тоненькія паэтычныя кніжачкі сваіх сяброў з партрэтамі на мяккіх вокладках. Ён, на самым пачатку свайго літаратурнага шляху, таксама выдаў такую кніжачку. Знайшоў яе, убачыў свой партрэт. Малады, усмешлівы хлопец з гладка прычасанымі валасамі глядзеў па яго. Хітраваты і, здаецца, чужы позірк...

Колькі было хваляванняў і надзей, звязаных з гэтай першай кніжачкай, а крытыка амаль не заўважыла яе. Помніцца, гэта маўчанне крытыкі збянтэжыла яго. Потым ён паспакайнеў. Пачаў нават іранізаваць над крытыкамі, гаварыў ім у вочы, што ў некаторых краінах крытыкаў не прымаюць у пісьменніцкія арганізацыі, што літаратура — гэта карабель у грозным неспакойным моры, а крытыка... Крытыка — ракавінкі, «прыліпалы», якімі густа абрастае ўся падводная частка карабля. Часам ад такога незапланаванага грузу карабель траціць хуткасць.

На тэлевізары Моніч убачыў запіску ад Веранікі. Значыць, яна прыходзіла ў час ягонай адлучкі. Запіска была лаканічная.

«Прыходзіла. Ты, як заўсёды, недзе ў дарозе. Сёння еду на Нарач на два тыдні. Еду адна. (Слова «адна» густа падкрэслена.) Разы са два табе званіў нейкі дзівак. Назваўся Сцяпанам Памалейкам. Цалую. Вераніка».

Моніч задумліва патрымаў у руках запіску, паклаў яе зноў на тэлевізар. Няскладна атрымліваецца з Веранікай. Яна — на Нарачы, ён — тут. Хто яны? Сябры па адзіноце?

Яму хацелася зараз жа паехаць у аэрапорт, купіць білет і ехаць на Нарач. Там Вераніка чакае яго, ён упэўнены — чакае. Нездарма ў сваёй запісцы яна падкрэсліла слова «адна». Адна...

Але нешта стрымлівала Моніча. Ён не ведаў — што. Вельмі цяжка, амаль немагчыма было зрабіць першы крок. Ён адчуваў, калі ён асмялее і зробіць крок, адразу ж рухне ўвесь ягоны свет, складзены з кніг, вершаў, думак у начным ціхім пакоі...

Зазваніў тэлефон. Ягоны рэзкі, уладны голас быў як выратаванне.

Моніч узяў трубку.

— Слухаю.

— Добры дзень,— ціха і напачатку нерашуча сказалі на другім канцы провада.— Я Сцяпан Памалейка. Памятаеце, мы сустракаліся з вамі на Маскоўскай шашы каля разбітай аўтамашыны?

— Я ўсё цудоўна помню,— бадзёра выгукнуў у трубку Моніч,— Як пажывае таварыш Цывілька?

— На пяць з плюсам,— голас у Сцяпана акрэп,— Ведаеце, чаму я вам званю? Таму, што вы працуеце на тэлебачанні і вам гэта будзе цікава. Неадкладна бярыце з сабой кінааператара і прыязджайце ў прадуктовы магазін нумар трыццаць пяць. Гэта на вуліцы Майскай. Я тут рабочым працую і буду вас чакаць.

— Неадкладна прыязджаць? — перапытаў Моніч,— Што ў вас там здарылася? Забіў нафтавы фантан?

— У нас хаваюць ад пакупнікоў прадукты,— строга і цвёрда сказаў Сцяпан Памалейка.

## VIII. ЗМРОК

...І раптам я пачуў роспачны жаночы крык:

— Аблава! Людцы, аблава-а-а!

Гэта было так нечакана, так жахліва-рэальна, што я ўвесь скалануўся і выпусціў з рук торбу, якую дала мне цётка Агапа. Я нахіліўся, каб падняць торбу, а побач, з усіх бакоў, ужо затупацелі, пабеглі хто куды людзі. І адразу пачуліся стрэлы.

Я так і не падняў торбу — не да яе было. Я добра ведаў мястэчковы рынак і стрымгалоў, расштурхваючы людзей, кінуўся да чырвонага пажарнага шчыта, на якім да вайны віселі лом, рыдлёўка і бусак. Цяпер інструментаў на шчыце не было — нехта зняў, ці немцы, ці мястэчкоўцы, але за шчытом, я цвёрда помніў, быў пралом у цаглянай сцяне, што абгароджвала рынак.

Я ўжо праціскваўся, пралазіў у гэты пралом, як раптам нейчая цяжкая рука схапіла мяне за каўнер ватоўкі ды так сціснула шыю, што я ледзь не задыхнуўся. Гэта быў Андрэй Каўбаска, бургамістр той самай вёскі, у якой жыў мой дзядзька Хвядос Ліпень і з якой я прыйшоў у мястэчка купляць соль і мыла.

— Назад! — загадаў Каўбаска і засмяяўся,— Я сам гэты лаз ведаю. Яшчэ да вайны праз яго ад міліцыі драпака даваў.

— Дзядзечка,— пачаў прасіцца я,— выпусціце мяне. Вы ж мяне бачылі, ведаеце. Я пляменнік Хвядоса Ліпеня.

— Назад! — крыкнуў Каўбаска.

— Адпусціце мяне. Вы ж да майго дзядзькі часта заходзілі...

— Назад,— спакойна сказаў Каўбаска.— Шмат вас такіх.

— Вы ж наш чалавек. Мясцовы чалавек. Што вам ад таго, калі я выйду адсюль?

— Быў ваш, а стаў нямецкі,— засмяяўся Каўбаска і раптам так стукнуў мне кулаком у грудзі, што я асеў на зямлю.

Людское трывожнае мора калыхалася, шумела на местачковым рынку, ачэпленае з усіх бакоў нямецкімі аўтаматчыкамі і паліцэйскімі. Я быў часцінкай гэтага мора, я адчуваў, што павінна здарыцца нешта страшнае, непапраўнае. І ў глыбіні душы я кляў сябе самымі крыўднымі, самымі балючымі словамі.

Навошта я паслухаў цётку і прыйшоў у гэта праклятае мястэчка? Хто мяне сюды гнаў? Чаму я не вярнуўся ў партызанскі атрад? Нага балела? Трэба было ісці на адной назе, паўзці, куляцца з купіны на купіну, а вярнуцца ў атрад. Калоў бы зараз на кухні дровы, вазіў ваду... Пайшоў бы ў бой, абы не стаяць у гэтым змярцвелым натоўпе. Што яны зробяць з усімі намі?

Над натоўпам, у стылым вясновым небе, лёталі растрывожаныя вароны. Худыя няўклюдныя птушкі прыляцелі на рынак, каб схапіць якую-небудзь драбязу каля сялянскіх вазоў. Але ўзняліся стрэлы, шум, вэрхал, і чарнакрылае галоднае птаства шуганула ў неба — там спакайней. Я глядзеў на птушак і зайздросціў ім.

Раптам пачуўся голас нямецкага гучнагаварыцеля. Пэўна, машына з ім стаяла на вуліцы каля рынка. Гаварылі па-беларуску, але з нейкім дзіўным акцэнтам. Здавалася, той, хто гаворыць, набраў поўны рот пілавіння, і яму цяжка варушыць языком.

— Увага, увага! — гаварыў траскучы металічны голас.— Цывільнае насяленне мястэчка і прылягаючых вёсак! Шостага сакавіка тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года са згоды і дазволу нямецкіх ваенных уладаў прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады доктар Радаслаў Астроўскі абвясціў мабілізацыю ў войска Беларускай краёвай

абароны ўсяго беларускага мужчынскага пасялення з 1908 па 1924 гады нараджэння. Асобам мужчынскага полу памянёных узростаў застававацца на месцы. Жанчыны і дзеці могуць ісці дадому. Увага, увага!..

Металічны голас тры разы паўтарыў аб'яву. Натоўп загудзеў, захваляваўся. Загаласілі жанчыны.

Я стаяў у натоўпе і не ведаў, што рабіць. Было дужа цесна — арэху няма дзе пакаціцца. Я адчуваў, як мяне пачынаюць біць дрыжыкі.

На рынку было нямала сямейных пар — мужоў з жонкамі, і кабеты нізавошта не хацелі ісці дадому адны. Яны стаялі каля сваіх мужоў, некаторыя трымалі мужоў пад руку, а некаторыя, маладзейшыя, плакалі, усім целам прыхінуўшыся да сваіх суджаных.

Зноў разнеслася над рынкам каманда з гучнагаварыцеля. Цяпер неадкладна пакінуць рынак загадвалася ўсім: жанчынам і мужчынам. Натоўп паваліў на выхад.

Я ішоў разам з усімі і ўжо ведаў, што да дзядзькі Хвядоса Ліпеня мне сёння не вярнуцца. Я быў упэўнены, што на выхадзе мяне затрымаюць. Так яно і здарылася.

Нямецкія аўтаматчыкі, якімі камандаваў высокі чорнавалосы обер-лейтэнант, загарадзілі ўвесь выхад, адсякалі мужчын ад жанчын. Тым, хто супраціўляўся, заломвалі за спіну рукі, білі па плячах прыкладамі. Маладая жанчына ў доўгім жоўтым кажусе ўпала з акрываўленым тварам.

Нас, чалавек шэсцьдзесят мужчын і юнакоў, пагналі пад канвоем на цэнтральную плошчу мястэчка. Следам ішоў натоўп жанчын і дзяцей. Мне асабліва помніцца, як страшна рыпеў тады снег. Снег тапталі ботамі, валёнкамі, буркамі, лапцямі, а ён абзываўся адным безнадзейна-роспачным гукам: ш-шр-р-р-а-ах... ш-шр-р-р-а-ах... Я ішоў і слухаў гэты голас мокрага сакавіцкага снегу, і мне хацелася плакаць.

На плошчы да вайны быў узведзены помнік Леніну. Я добра ведаў гэты помнік — Ленін, у кепцы, з выкінутай уперад рукою, стаяў на зямным шары. Фігура Леніна была невялікіх памераў, але тое, што Ленін стаіць на зямным шары, дужа ўражвала людзей, рабіла помнік агромністым. Казалі, што па ўсёй Беларусі быў толькі адзін такі помнік, што скульптар, які яго рабіў, падараваў помнік нашаму раёну, бо тут парадзілася ягоная маці.

Немцы ў першы дзень акупацыі ўзарвалі помнік. Чырвоныя кавалкі зямнога шара і зараз грувасціліся на плошчы. З развернутага выбухам п'едэстала тырчалі вострыя пікі сталёвай арматуры.

Нас прыпынілі на плошчы, пад'ехаў нямецкі грузавік з адчыненымі бартамі, і на гэты грузавік, як на сцэну, узабралася купка нямецкіх афіцэраў. Потым, памагаючы адзін аднаму, на гэту сцэну залезлі двое мужчын у цывільным адзенні. Яны, нягледзячы на снег і холад, былі ў мяккіх шэрых капелюшах.

Нямецкі афіцэр паднёс да рота круглы бліскучы мегафон і аб'явіў, што зараз перад насельніцтвам выступіць член Беларускай цэнтральнай рады з горада Мінска Яўген Калубовіч. Ён перадаў мегафон высокаму худому мужчыну ў цёмным паліто.

Калубовіч узяў мегафон левай рукою, правай зняў з галавы капялюш, і аказалася, што ён яшчэ вельмі малады, светлавалосы, што яму нават няма яшчэ сарака. Ён сказаў рэзкім рашучым голасам:

— Шаноўныя гамадзяне Навадвораўскай вобласці! Беларусы і беларускі! У гэтай свяшчэннай вайне наш народ з'яднаўся з германскім народам, з вялікім Адольфам Гітлерам, каб супольна змагацца за вызваленне Еўропы ад бальшавізму. У час, калі з усходу наступаюць сталінскія орды, мы не можам спакойна сядзець у сваіх хатах, на сваіх гаспадарках. Бярыце ў рукі зброю і ўступайце ў войска Беларускай краёвай абароны! Тысячы беларусаў ужо змагаюцца разам з нашымі германскімі саюзнікамі супраць бальшавікоў. Наступіў і наш час!

Ён гаварыў і гаварыў у мёртвай глухой цішыні, ён кідаў у натоўп словы, а яны вярталіся да яго назад, вярталіся разам з жаночым галашэннем і дзіцячым плачам. Ён на хвіліну змоўк, каб пабольш набраць у грудзі паветра, і ў гэты момант з натоўпу жанчын і дзяцей ціха выйшаў сівагаловы, сівабароды дзед, сказаў, абапіраючыся рукамі на тонкі арэхавы кіёчак:

— Што ты тут гаворыш? Чаго горла дзярэш? Каб па тваім горле яшчаркі поўзалі. Аддавай нашых дзяцей! Аддавай, нямецкі халуй!

Ад гэтых слоў Калубовіч пачырванеў, выкінуў уперад руку, крыкнуў:

— Вы памыляецеся, бацька! Вы жорстка памыляецеся! Вы аслеплі і нічога не бачыце вакол сябе! Вы — вораг сваіх дзяцей, а не я!

Але сівагаловы дзед плюнуў у бок нямецкага грузавіка і ціха пайшоў назад у натоўп. Тады афіцэр, што стаяў побач з Калубовічам, выхапіў рэвальвер, саскочыў з грузавіка, дагнаў старога, за бараду выцягнуў яго з натоўпу і застрэліў на вачах ва ўсіх. Дзед, не выпускаючы з рукі арэхавы кіёчак, ляжаў на снезе. Да яго падбегла дзяўчынка гадоў дванаццаці, пэўна, унучка, стала каля яго на калені, плачучы, пачала цалаваць сухі цёмны твар. Афіцэр ударыў яе нагой.

Аўтаматчыкі ўрэзаліся ў натоўп жанчын і дзяцей, пачалі біць людзей прыкладамі, страляць над галовамі. Яўген Калубовіч аддаў

немцам мегафон, надзеў капялюш, нагнуў галаву, зморшчыўся, пачаў злазіць з грузавіка. За ім падаўся ягоны маўклівы напарнік.

Нас пагналі на чыгуначную станцыю. Каля мяне ішоў хударлявы хлапец з шэрымі ўважлівымі вачамі. У яго на твары застыла нейкая ненатуральная халодная ўсмешка. Напачатку мне падалося, што гэты хлапец вар'ят.

На станцыі, пакуль падышоў цягнік, мы стаялі пад мокрым снегам. Ніхто не вымавіў ні слова. Мне здавалася, што канчаецца жыццё. Яно, жыццё, ужо скончылася, і вельмі дзіўна, чаму я яшчэ стаю тут, ля пракопчанага напаўразбуранага будынка вакзала, і нават адчуваю, як у мяне мерзнуць пальцы ног, і спрабую паварушыць гэтымі непаслухмянымі пальцамі. Я павінен разам з усімі таварышамі па няшчасці, ужо даўно павінен, ляжаць на дне якога-небудзь рова або канавы, і мёрзлая зямля павінна сыпацца ў мой мёртвы рот.

Мне рабілася ўсё халадней і халадней. Мой твар быў як цвёрды мёрзлы яблык.

Непадалёку ад вакзала стаяў туалет, збіты на скорую руку з брудных шэрых дошак. Нямецкія аўтаматчыкі час ад часу, весела гігікаючы, бегалі туды. Пэўна, у якойсьці вёсцы не ў меру пакаштавалі свежай парасяціны.

Вось з туалета, зашпільваючы дзягу, бадзёра ўсміхаючыся, выйшаў салдат у чорным шынялі з белымі абшлагамі па рукавах, у чорнай суконнай пілотцы. Абцягнуў на сабе шынель, ямчэй закінуў за плячо бельгійскі карабін, накіраваўся да нас. У яго былі карычневыя бліскучыя вочы. Такое бывае шкло ў бутэльках з-пад нямецкага шнапсу.

— Прывітанне, землякі! — бадзёра выгукнуў салдат і звонка шчоўкнуў абцасамі амаль новых ялавых ботаў. Голас у яго быў прыгожа-сакавіты, але з хрыпінкай. Пэўна, надраў горла, вітаючы начальства.

Ніхто яму не адказаў. Усе стаялі як аглушаныя, яшчэ не хочучы паверыць у тое, што з імі адбылося. Да самай нязначнай драбніцы ўсе перабіралі ў памяці гэты страшны дзень: местачковы рынак, металічны голас гучнагаварыцеля над галовамі, галашэнне жанчын, аўтаматныя чэргі...

— Будзем разам служыць,— не адставаў салдат у чорным шынялі.

Тут ужо некаторыя са старэйшых мужчын не вытрымалі, патроху-патроху пацiснуліся да яго, пачалі распытваць:

— А дзе вы служыце?

— Адкуль вы?

Салдат выцягнуў з кішэні шыняля новенькі пачак нямецкіх цыгарэт, з хрустам разадраў яго, дастаў цыгарэту, смачна закурыў.

— Я з беларускага батальёна, што стаіць у Навагрудку. Камандзірам у нас Барыс Рагуля. І вас туды загадана даставіць.

Мужчыны, пачуўшы такое, патроху-патроху адышліся ад яго. А ён, здавалася, не бачыў, як да яго адносяцца, ён гаварыў:

— І вам форму такую самую дадуць. І зброю дадуць І ў звальненне будзеце хадзіць.

Я стаяў непадалёку ад яго і бачыў, якія ў яго роўныя белыя зубы. Калі ён гаварыў, між ягоных белых зубоў час ад часу вынырваў чырвоны кончык языка. Якія ж усё-такі ў яго прыгожыя моцныя зубы! Такімі зубамі самыя цвёрдыя арэхі раскусваць можна. Ды што — арэхі. Косткі, тоўстыя, свіныя, можна шчапаць такімі зубамі і высмоктваць адтуль цёплы шпік.

Мой сусед па калоне, шэравокі хударлявы хлопец, які назваўся Рыгорам Невідовічам, спытаўся ў белазубага салдата:

— І цябе так узялі, як нас?

— Я добраахвотнік,— засмяяўся салдат,— Мяне не лавілі. Сам уступіў у батальён.

— І шмат вас такіх? — не мяняючы голас, дапытваўся Невідовіч.

— Якіх такіх?

— Такіх сабак, што Гітлеру прадаліся.

Салдат раптам выплюнуў з рота цыгарэту, выскаліў зубы, сарваў з пляча бельгійскі карабін і, размахнуўшыся, ударыў Невідовіча прыкладам. Невідовіч упаў, але адразу ж узняўся на ногі.

— Я табе пакажу, сволач! — звузіўшы карычневыя бліскучыя вочы, сказаў салдат,— Ты ў мяне на адной назе пабяжыш,— ён зноў ударыў Невідовіча.— Думаеш, я вясёлы, харошы з вамі, дык на мяне пляваць можна? Ах ты, падла, птушыны памёт. Выгоўскі! Буцэвіч! — паклікаў салдат.

Аднекуль з-за вагонаў прыбеглі яго напарнікі ў такой самай форме з карабінамі за плячамі. Белазубы салдат зняў са свайго шыняля дзягу, накруціў яе на руку.

— Выгоўскі, гэтага пеўніка,— ён кіўнуў на Невідовіча,— завядзіце за вакзал, спусціце з яго штаны і адмерайце дваццаць гарачых па казённым месцы. Ён мяне зняважыў, і таму павучыце яго маёй дзягаю. Ды пастарайцеся. Жыве Беларусь! — узмахнуў ён рукою.

— Жыве Беларусь! — выструніліся перад ім Выгоўскі з Буцэвічам, а потым накінуліся на Рыгора Невідовіча і павалаклі за будынак вакзала. Нямецкія аўтаматчыкі, што стаялі непадалёку, заўсміхаліся. Неўзабаве з-за вакзала пачуўся свіст дзягі.

— Вось так, дарагія землячкі,— прайшоўся ўздоўж строю белазубы салдат.— Балбатунам пры любой уладзе дастаецца. А зараз давайце пазнаёмімся. Мяне завуць Іван Рубец. Нарадзіўся ў тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе пад Глускам.

Ён засмяяўся і зноў дастаў з кішэні шынялі пачак нямецкіх цыгарэт.

— Закурым, землякі? Хто хоча закурыць? Ніхто? Бач ты — усе некурашчыя. Здаецца, пры Сталіну махорка ў калгасах нядрэнна радзіла. Што ж — прадоўжым урок палітграматы. У трыццатым годзе бацьку майго, Ніла Захаравіча Рубца, раскулачылі і з усім сямействам у Сібір павезлі. Пасадзілі нас на фурманку, саломкі на дошкі пацерусілі, далі сухі паёк на пяцёра сутак і павезлі. Цэлы абоз ехаў. Маці мая плакала, а бацька, Ніл Захаравіч Рубец, сядзеў, абхапіўшы галаву рукамі, як бы нешта ўспамінаў усю дарогу...

З-за вакзала пад рукі прывялі Рыгора Невідовіча. Ён не ішоў, а сунуўся, заплятаючы ногі, да крыві прыкусіўшы губу. Ён стаў ля мяне, і вочы былі туманныя ад болю.

— Вот так,— уважліва глянуў на яго Рубец.— Значыць, думаўдумаў мой бацька, а нас везлі ўсё далей і далей, і прыехалі мы ў вялікую вёску. А ў той вёсцы кірмаш. Народ па вуліцах вясёлы ходзіць, п'яны. А мы сядзім на сваіх фурманках. Шапчу я свайму бацьку: «Ззаду абозу інструмент наш вязуць — пілы і сякеры. Давай падаб'ём усіх, схопім сякеры і — будзь што будзе». Паглядзеў на мяне бацька як на вар'ята і гаворыць: «Цярпі сынок. Гэта — нябесная кара. Гэта бог нам паслаў выпрабаванне». І зноў мы паехалі. Аж да самай тайгі.

Рубец звузіў карычневыя вочы, плюнуў сабе пад ногі.

— І ўсё-такі я схапіў сякеру! Мой бацька пабаяўся, а я схапіў. Вось мая сякера!

Ён сарваў з пляча бельгійскі карабін, трасянуў ім над галавой.

— І запомніце, калі хто з вас надумае якую-небудзь брыдоту ўчыніць новай нямецкай уладзе, я сам галаву сваю пакладу, але й таго, падбухторшчыка, задушу ўласнымі рукамі. Гэта кажу я — Іван Рубец.

Ён выдыхнуў, амаль выкрыкнуў усе гэтыя словы, і карычневыя бліскучыя вочы раптам патухлі — вострыя страшны агонь схаваўся на дно душы.

— Звер,— скрываўленымі, гарачымі губамі шапнуў каля мяне Рыгор Невідовіч.

З боку Мінска падышоў цягнік. Да яго падчапілі тры пасажырскія вагоны, загналі нас у іх, павесілі на дзверы замкі, і цягнік, паволі набіраючы ход, памчаўся на захад.

Нямецкія аўтаматчыкі ехалі ў заднім вагоне, «рагулеўцы» (так адразу ахрысцілі мы Івана Рубца і яго паплечнікаў) тоўпіліся ў тамбурах.

Я сядзеў каля акна, але яно знадворку было закрыта лістом цёмна-рыжай фанеры, была толькі вузенькая шчыліна, і праз гэтую шчыліну я бачыў шэры сакавіцкі снег. Адзін снег. Рыгор Невідовіч стаяў каля мяне, бо не мог сесці — так спаласавалі цела дзягай. Пры рэзкім штуршку вагона ён крывіўся, на лоб набягалі глыбокія маршчыны.

Настрой у вагоне быў прыгнечаны. Чырвоная Армія ўжо вызваліла Гомель, неўзабаве — усе ў гэта верылі — павінна было пачацца вызваленне ўсёй Беларусі, а тут, як скаціну, вязуць у Навагрудак, у «войска» Барыса Рагулі. Апрануць чорныя шынялі, дадуць карабіны, пашлюць ваяваць за Гітлера — і ўсё, і прапаў чалавек. Каму скажаш ці каму раскажаш, што цябе злавілі на рынку і пад аўтаматамі павезлі ў гэты самы Навагрудак?

— Ратавацца трэба. Уцякаць трэба,— глухім голасам гаварыў высокі васпаваты мужчына з доўгім сінім шрамам на шчацэ. Ён, па яго словах, усю зіму хварэў, зусім знясілеў ад голаду, першы раз за зіму выйшаў з хаты, пайшоў на рынак, каб купіць хоць жменьку солі, і там, на рынку, яго схапілі.

— А вы, маладыя, чаго тут? — спытаўся ён у мяне і ў Рыгора Невідовіча.

— Таго, чаго й вы,— буркнуў я. Не хацелася ні з кім гаварыць, ні тым болей спавядацца.

— Я, дапусцім, хворы... І па гадах ужо стары,— не спускаў з мяне пільнага, халоднага позірку васпаваты мужчына.— А вашы аднагодкі ў арміі ваююць і яшчэ, самі ведаеце, дзе ваююць...

— Адчапіцеся,— сказаў я і павярнуўся да забітага фанерай акна.

— А можа добраахвотна едзеш, як той Рубец? — не адставаў. васпаваты. Пры гэтых словах і Рыгор Невідовіч паглядзеў на мяне з насцярожанасцю і, як падалося мне, злосцю.

Я, нічога не гаворачы, устаў, перайшоў на другое месца. Там таксама ўсё было запруджана людзьмі, і мне давялося ехаць стоячы. Я стаяў і спіной адчуваў халодны позірк васпаватага мужчыны.

Як па-дурному ўсё атрымалася! І нават маці не ведае, дзе я. Маці, вядома, здагадаецца, у якую пастку трапіў яе сын, бо цётка Агапа павінна перадаць ёй, што выправіла мяне на рынак. А што падумаюць у атрадзе? Падумаюць: Іван Памалейка збег, схаваўся, спалохаўся. З пня на калоду пайшло жыццё, і не спыніш ужо яго, не пераправіш. А калі так, думалася мне, то найпершая мая задача ў гэтай сітуацыі — выжыць.

Прайшоў па вагоне Рубец з Выгоўскім і Буцэвічам. Раздалі нам дарожны, не надта багаты паёк.

— Ясце ў аванс,— зарагатаў Іван Рубец,— Хутка трэба будзе адрабляць хлеб.

Калі ён павярнуўся, каб выйсці ў тамбур, нехта крыкнуў злым, пранізлівым голасам:

— Гад! Шкура прадажная!

Рубец спакойна азірнуўся назад, сказаў з усё той жа белазубай усмешкаю:

— Паміж вас едзе нявыхаваны чалавек. Хіба так дзякуюць за хлеб?

І пайшоў. Але я заўважыў, як рэзка ўздрыгнула ў яго цёмнарусае брыво.

Ужо амаль гадзіну імчаўся на захад вагон. Напружанне ў вагоне ўзрастала. Усе думалі спачатку, што цягнік будзе спыняцца на якіх-небудзь станцыях, што там, на гэтых станцыях, можна будзе нейкім чынам уцячы, але няўмольна грымелі колы, і ўсё далей ад'язджалі мы ад родных мясцін.

Тады ўсе з нервовасцю і паспешлівасцю ў рухах пачалі аглядаць, абмацваць вагон: вокны, падлогу... Узіраліся ў столь — можа там ёсць хоць якая дзірачка, шчылінка...

Ды вагон быў надзейна скляпанай, надзейна падрыхтаванай турмою на колах. Ён толькі пагойдваўся на стыках рэек, і ў гэтым яго пагойдванні была нейкая знявага для нас, ягоных палоннікаў. Ён быццам хацеў падражніць нас: «Я пагойдваюся, але ніколі не ўпаду і, будзьце спакойныя, своечасова, мінута ў мінуту, дастаўлю вас у Навагрудак».

У вачах у людзей гарэў адчай. Яны, была б такая магчымасць, голымі рукамі разламалі б вагон. А цягнік бег і бег на захад, і з кожнай мінутай усё меней шанцаў на выратаванне заставалася ў нас.

Праз якую гадзіну цягнік пачаў прытарможваць. Зноў нейкая макулінка надзеі з'явілася ў нас, але прайшоў па вагоне Рубец, растлумачыў: наперадзе партызаны ўзарвалі чыгуначнае палатно, нямецкая рамонтная брыгада з мінуты на мінуту павінна замяніць пашкоджаную рэйку.

Значыць, тут паабапал чыгункі дзейнічаюць партызаны. А што, калі яны рвануць і наш цягнік? Адкуль яны могуць ведаць, што, акрамя нямецкіх аўтаматчыкаў і «рагулеўцаў», у гэтых вагонах едзем мы? Ды, нават ведаючы, могуць ірвануць, бо палічаць нас за здраднікаў. Я думаў пра ўсё гэта і адчуваў, як у мяне пачынаюць дрынкаць рукі. Я ўяўляў, як рэзка ўздыбіцца пад нагамі падлога

вагона, нібы палуба карабля ў самы жахлівы шторм, як пачне раздзірацца металічная абшыўка, як дзікая сіла выбуху шпурне нас усіх пад адхон, скруціць у вогненны крывавы клубок.

Пакуль рамантавалі чыгуначнае палатно, пачало змяркацца. Зноў застукалі колы. Я ўслухоўваўся ў іхнюю гаворку, і мне здавалася, што яны выбіваюць адно і тое ж слова: «Нава-грудак... На-ва-грудак...» Праз нейкі час у жалезным рытме колаў прарэзалася: «Не вярнуся... Не вяр-нуся...» Я адчуваў — яшчэ імгненне, і я заплачу.

Зноў па вагоне пайшоў Іван Рубец, на гэты раз з Буцэвічам. Буцэвіч, светлабровы, ружовашчокі, малады, пакорна плёўся за Рубцом і хмурыўся.

— Хутка прыедзем, землякі,— весела гаварыў Рубец, ідучы па вагоне,

Твар у яго быў дабрадушны, мяккі, але ўсе мы добра ўжо ведалі, які звер жыве за гэтым прыгожым абліччам. Усе адводзілі ўбок вочы, не глядзелі на Рубца.

— Чаго насы павесілі? — не сунімаўся Рубец.— Смерць у чалавека адна бывае. А можна і смерць вакол пальца абвесці. Прыедзем у Навагрудак, дадуць вам форму, карабіны, паёк — усё чын чынам. Пойдзем у «Народны дом» на танцы. Такія кралі там, такія лябёдкі...

Раптам ягоны вясёлы голас асекся, перарваўся з хрыпам і булькатаннем. Рубец цяжка асунуўся ў праходзе вагона, і суконная чорная пілотка звалілася з русай кучаравай галавы. Буцэвіч, што ішоў следам, з усяго маху ўдарыў Рубца прыкладам карабіна па галаве і, не апускаючы карабін, стаяў над. Рубцом бледны, як смерць.

— Хлопцы,— хрыплым голасам, цяжка дыхаючы, сказаў Буцэвіч.— Не мог я болей цярпець... Не мог... Не хачу я быць вашым ворагам. Там,— ён паказаў на тамбур,— ёсць дзірка. Адзін ліст абшыўкі адстае ад сцяны... Можна пашырыць дзірку і выскачыць з вагона. Дзвярэй я не магу адчыніць — яны замкнёныя знадворку. Толькі — ціха, як можна ціха, браточкі...

Ён зняў пілотку, выцер ёю мокры лоб, зняможана сеў на лаўку. Усе кінуліся ў тамбур, а ён сядзеў, глядзеў на Рубца, які ляжаў у праходзе, і прасіў:

— Толькі цішэй, браточкі.

У тамбуры яшчэ болей адагнулі жалезны ліст абшыўкі, і атрымаўся вузкі лаз. Снежная зямля імчалася, грымела пад вагонам. Там, па гэтай грымлівай зямлі, былі або воля, або смерць. Але ніхто ні хвіліны не вагаўся. Выстраіліся ў маўклівую чаргу. Таго, хто апускаўся ў лаз, трымалі за рукі. Потым ён сам хапаўся рукамі за металічную падлогу тамбура і, улучыўшы момант, з усяе сілы адпіхваўся ад

вагона, скакаў у вечаровы змрок. Там, у змроку, можна было ўпасці на рэйкі ці зламаць шыю, куляючыся пад адхон, ды пра гэта стараліся не думаць.

У гэты час замармытаў, ачомаўся Рубец. Яму звязалі рукі дзягай, заткнулі рот ягонай жа пілоткай. Ён круціў галавой, ашалела міргаў вачамі. Людзі спяшаліся ў тамбур, а Рубец ляжаў, загарадзіўшы праход, і людзі пераскоквалі яго, як бервяно.

У мяне моцна калацілася, ажно разрывалася, сэрца. Я прасунуўся ў лаз і вісеў над зямлёй, што імкліва неслася насустрач вагону. Я ўспомніў, як калісьці мы, малыя, бегалі на чыгунку і клалі на рэйку медныя пятакі. Калі не так скокну, прамахнуся, мяне ў адзін міг расплюшчыць коламі, як той пятак.

Скокнуў я ўдала — урэзаўся ў глыбокі пласт снегу, толькі твар заляпіў снегам. Крокаў за пятнаццаць ад мяне куляўся пад адхон Рыгор Невідовіч. І адразу ж у вечаровым небе ўспыхнулі ракеты, загрымелі аўтаматныя чэргі.

Па трагічнай выпадковасці, ратуючыся ад адных немцаў, мы трапілі проста ў рукі да другіх. Мы выскоквалі са свайго вагона, не ведаючы, што ў гэты самы час уздоўж чыгункі па грунтавой дарозе рухаецца нямецкая пяхотная калона. Яна расцягнулася амаль на паўкіламетра, і мы падалі ледзь не пад самыя ногі салдатам. Толькі чалавек дзесяць нейкім цудам паспелі ад чыгуначнага палатна дабегчы да лесу. Астатнія былі застрэлены або, падобна мне і Рыгору Невідовічу, зноў, ужо другі раз, узяты ў нямецкі палон. Я быў упэўнены, што і нам засталося жыць лічаныя хвіліны — пастраляюць немцы ў гэтым снезе, як курапатак.

Нас пагналі на вялікую паляну, зусім побач з чыгункай. Пэўна, вясною тут разлівалася балота і тут касілі сена, бо якраз пасярод паляны стаяў невялікі стажок. Я ішоў з Рыгорам Невідовічам і бачыў, як прытарможвае наш цягнік. Значыць, ахова пачула страляніну і заўважыла нашы ўцёкі.

«Вось і ўсё,— думаў я.— Вось і ўсё... Зараз на гэтай паляне скончыцца маё жыццё... Наступіць вясна, зашуміць маладая трава, а мяне болей не будзе... Ніколі не.будзе...» Я ажно здрыгануўся.

Немцы, што гналі нас на паляну, весела перагаворваліся між сабою, і я разумеў амаль усё.

— Як з неба зваліліся. Я думаў — парашутысты.

— Фрыдрых, ведаеш, чым яны адрозніваюцца ад парашутыстаў? Парашутысты ляцяць на зямлю, а душы гэтых малойчыкаў неўзабаве паляцяць у адваротным кірунку — на неба.

Смех. Нехта з немцаў гучна смаркаецца.

— У гэтай Расіі столькі прыгод!

— Нас паслалі на акцыю ў вёску Бярозавае Балота... Правільна я сказаў назву вёскі, Фрыдрых?

— Правільна.

— Дык вось тут у нас будзе нядрэнная рэпетыцыя перад акцыяй у вёсцы Бярозавае Балота.

Зноў смех.

Гавораць пра Бярозавае Балота. Значыць, едуць туды страляць і паліць, едуць праводзіць «акцыю».

Я ўспомніў, як восеньскім вечарам ішоў у гэта самае Бярозавае Балота разам з Нінай Салавей і Барысам Крайко. Чаму я тады ішоў ззаду? Чаму не ўзарваўся разам з імі на міне?

Спыніліся на паляне. Шорстка рыпіць снег. Зноў смаркаецца немец. Самотная зорка вісіць над зямлёй, як ільдзінка, як кавалачак шкла. Мяне хутка заб'юць, а я такі малады, такі малады...

Каля стажка, засыпанага снегам, я ўбачыў Буцэвіча. Ён стаяў без пілоткі, у чорным шынялі. Светлыя валасы зліпніся ад поту. Яго адагналі ад нас, і ён стаяў адзін, рэзка вылучаючыся на фоне снегу сваім чорным адзеннем.

Прыбегла нямецкая ахова з цягніка. Прыбеглі «рагулеўцы». Іван Рубец бег наперадзе, сціскаючы ў руках карабін. Убачыў Буцэвіча, радасна засмяяўся:

— Добра, што ты тут. А дзе той васпаваты, што мне рукі звязваў у вагоне?

Знайшоў у нашай калоне васпаватага мужчыну, руляй карабіна падагнаў яго да Буцэвіча. Плечы ў васпаватага мужчыны ўздрыгвалі.

Нас пастроілі ў адну шарэнгу, выцягнулі з шарэнгі кожнага пятага і тут жа, па паляне, расстралялі. Іван Рубец папрасіў у нямецкага начальства дазволу самаручна расправіцца з Буцэвічам і васпаватым мужчынам. Дазвол быў дадзены, і Рубец, пастроіўшы сваіх «рагулеўцаў», узяў карабін, загадаў падпаліць станок, сказаў Буцэвічу:

— Распранайся, здраднік, падла!

Буцэвіч зняў дзягу, зняў шынель, гімнасцёрку, застаўся ў белай нацельнай кашулі.

— Разувайся! — крыкнуў Рубец.

Буцэвіч разуўся. Шынель, гімнасцёрку, боты і дзягу Рубец шпурнуў у агонь, сказаў васпаватаму мужчыну:

— Ты можаш не здымаць свае транты. Ты і ў іх здохнеш. Марш уперад, абодва!

Ён пагнаў Буцэвіча і васпаватага мужчыну на край паляны. Буцэвіч ішоў і гаварыў «рагулеўцам»:

— Апамятайцеся, хлопцы, пакуль не позна. Чырвоная Армія наступае. Вяжыце гэтаму зверу рукі і пераходзьце да партызан. Вазьміцеся, хлопцы, за розум, пакуль не позна. Чырвоная Армія не даруе.

— Гавары, гавары,— смяяўся Іван Рубец.— Там не пагаворыш.

Ён паказаў рукою на неба. Раптам Буцэвіч рэзка крутнуўся, кінуўся на Рубца, ударам кулака збіў яго з ног, вырваў карабін. Ён улад гатоў быў стрэліць у Рубца, як паласнула доўгая аўтаматная чарга. Страляў чарнавалосы обер-лейтэнант, якога я запомніў яшчэ з мястэчка. Буцэвіч з васпаватым мужчынам упалі ў снег.

— Хлопцы, пакуль не позна,— хрыпеў Буцэвіч,— Чырвоная Армія прыйдзе...

Васпаваты мужчына сканаў, не вымавіўшы ні слова.

Нас зноў пагналі на цягнік, зачынілі ў вагон. Зноў смяяўся Іван Рубец, паказваючы белыя прыгожыя, зубы. Цягнік памчаўся па захад, і нішто ўжо не магло яго спыніць, нішто...

Але завезлі нас не ў Навагрудак. Барыс. Рагуля так і не дачакаўся «войска». Завезлі нас у Польшчу, на ўзбярэжжа Балтыйскага мора, у прадзьмуты ветрам, агароджаны калючым дротам лагер, дзе царом, богам і вайсковым начальнікам быў Курт Шмальшлегель, сын веймарскага аптэкара, фанатычны аматар футбольнай гульні. У Мінску сышоў з цягніка Іван Рубец са сваімі падначаленымі, сказаў нам на развітанне, усміхаючыся:

— Не захацелі вольнага жыцця, дурні. Не захацелі казакаваць. Здохнеце ў Германіі. Так вам і трэба.

Я ляжу на сваіх нарах, і мінулае жыццё не дае мне заснуць, і я не ведаю, што чакае мяне заўтра. Хіба думаў я калі-небудзь, што траплю ў такое пекла? Пакутліва засынае шталаг. Змучаныя людзі ўскрыкваюць, стогнуць, шэпчуць незразумелыя словы. «Сон — штодзённая рэпетыцыя смерці». Хто сказаў гэта?

Назаўтра — зноў кар'ер. Лье дождж, на нас ніводнай сухой ніткі. Шмальшлегель стаіць пад парасонам, і яго скураны плашч блішчыць, як шкляны. Рыдлёўкі, са скрыгатам уразаюцца ў мокры шчэбень. Вецер прыносіць пах гнілых марскіх водарасцей. Наваколле зацягнута сеткай дажджу. Рыгор Невідовіч рэзка, надрыўна кашляе, і я бачу, як цямнеюць ягоныя вочы.

Так прайшла вясна, так прайшло лета. Самыя доўгія вясна і лета з усіх тых, што давялося мне жыць на свеце. І самыя страшныя. Надышла восень, але многія з хлопцаў не дацягнулі да яе — памерлі ад голаду, ад хвароб, ад куль, ад шампалоў...

Фронт, як мы маглі меркаваць, стабілізаваўся на Вісле. Немцы задушылі Варшаўскае паўстанне і, па чутках, квартал за кварталам знішчалі Варшаву. Гэтыя весткі вельмі прыгнечвалі нас, асабліва палякаў.

— О, пане Ян, ты не ведаеш Варшаву,— гаварыў мне Франц Нарадоўскі,— Варшава — гэта не горад, не. Гэта — лялька, гэта — пекная кабета, якой боязна глянуць у вочы — такая яна прыгожая. Ты не быў у Варшаве, а я там жыў. Жыў ажно тры гады, як вучыўся на ляснічага. Я магу прайсці па Варшаве з заплюшчанымі вачамі і нідзе не спатыкнуся. Але не — зараз магу спатыкнуцца і нават заблудзіць, бо яны, фашысты, праклятыя швабы, узрываюць яе.

На вачах у Франца блішчалі слёзы.

Але адна навіна была прыемная для нас, шталажнікаў. Курта Шмальшлегеля высокае берлінскае начальства зняло з камендантаў, прычым Шмальшлегель праз два дні прамым ходам павінен быў ехаць у дзеючую армію. Нечым, значыць, не дагадзіў Курт-фармаколаг сваім босам. Напэўна, глыбока і часта залазіў у кішэнь свайго любімага рэйха. Як бы там ні было, усе мы радаваліся, хоць ведалі, што на ягонае месца можа прыляцець яшчэ горшы каршун. Ды не можа прыляцець, а прыляціць абавязкова.

Я ўсё больш аддаляўся ад Рыгора Невідовіча. Ён не хацеў са мною размаўляць, я таксама не дужа набіваўся на размовы, і хоць мы працавалі побач у кар'еры, спалі побач у блоку, паміж намі як бы ўстала сцяна. Невідовіч лічыў мяне палахліўцам, я ж глядзеў на ўсё інакш. Я лічыў, што гераізм ужо будзе ў тым, калі я змагу выжыць у гэтым пекле. Некалі, яшчэ малы, я гаварыў маці, што пасля школы буду вучыцца па лётчыка, на Чкалава. Але Чкалаў разбіўся, і разам з ім як бы разбілася мая недаўгавечная мара. Неба перастала для мяне існаваць, засталася зямля, на якой было столькі дарог. І вось надышоў такі час, калі мая дарога, дарога ад блока да кар'ера і назад, у любое імгненне магла перарвацца, магла зрабіцца апошняй маёй дарогай. Як гэта нялёгка адчуваць, што ты пакрыты не бранёй, а звычайнай чалавечай скурай, слабай і топкай, што на тваё адно жыццё, бездапаможнае, нібы полымя свечкі, нарыхтавана столькі смерцяў, столькі дынаміту і металу.

Назаўтра — зноў кар'ер. Здаецца, мы дакапаемся да самага нутра зямлі. Шмальшлегель, нязвычна ціхі, задумлівы, усё водзіць языком па вуснах, быццам нешта з іх злізвае.

Я крадком пазіраў на Шмальшлегеля і стараўся ўявіць яго маленькім, чатырохгадовым, напрыклад. Быў жа і ён некалі смаркаты, плаксівы, і ў штонікі мачыўся, і збіраў у кішэньку каменьчыкі,

кавалачкі каляровага шкла, бліскучых жукоў, матылькоў. У самыя раннія гады жыцця ў людзей надзвычай шмат агульнага. Потым ужо, з узростам, жыццё разводзіць іх у розныя бакі. Так расцякаюцца ў розныя бакі вясеннія ручаі. Але ў самыя раннія гады будучыя ахвяры і будучыя каты гуляюць у адны і тыя ж гульні, і, я ўпэўнены, ім сняцца аднолькавыя сны.

Шмальшлегеля я не мог уявіць чатырохгадовым, як ні стараўся. Было адчуванне, што ён і нарадзіўся ў гэтай седлаватай шапцы, у высокіх рыпучых ботах, з нітачкай цёмных вусікаў пад вострым чуйным носам.

Раптам Шмальшлегель як пранізаў мяне сваім паглядам, паманіў да сябе пальцам. Я падбег да яго, зняў з галавы берэт, узяў берэт у правую руку, адтапырыўшы локаць, левую руку прыціснуў да тулава, адрапартаваў:

— Зняволены нумар 3472!

Шмальшлегель стаяў за метры два ад мяне, і ў яго былі сумныя ціхія вочы.

— Ты хто? — спытаўся ў мяне Шмальшлегель.

Я зноў выцягнуўся ў струнку:

— Зняволены нумар 3472!

— Ды не,— зморшчыўся камендант,— Хто ты — булачнік, шавец, металіст?

— Селянін, пан камендант.

— Калгаснік?

— Так точна, пан камендант. Былы калгаснік.

— Праўда, што калгаснікі ў галодныя гады елі лебяду?

— У нашым калгасе не елі, пан камендант.

— Добра,— агледзеў мяне з ног да галавы Шмальшлегель,— Добра...

Потым, памаўчаўшы, сказаў:

— Заўтра ўвечары я ад'язджаю ў Варшаву. Мне сумна, пан калгаснік,— Ён халаднавата ўсміхнуўся.— Мне сумна пакідаць лагер, усё гэта. Але я салдат і з радасцю выконваю любы загад фюрэра. Заўтра я ад'язджаю, і заўтра будзе феерверк у лагеры і развітальны футбольны матч. Я хачу развітацца з усімі вамі па-салдацку. Мы, немцы, сентыментальныя людзі. І я хачу, каб заўтра ў лагеры былі кветкі, многа кветак, букеты і гірлянды з кветак. Кветкі цвітуць для ўсіх. Так, для ўсіх. Для немцаў і для рускіх.

Вочы ў Шмальшлегеля загарэліся. Можна было падумаць, што ўсё сваё жыццё ён не страляў, не біў куланамі і нагамі людзей, а разводзіў кветкі. Кветкі яму, вядома, трапляліся, ды толькі ў засушаным

выглядзе — як-ніяк да вайны ён быў фармаколагам. Сёння ж ён жадае жывых кветак, толькі жывых. Я глядзеў на яго і не мог зразумець, чаго ён ад мяне хоча.

— Каля лагера няма кветак — адзін пясок,— з сумам сказаў Шмальшлегель.— І тут няма, каля кар'ера. Але я хачу, каб заўтра былі кветкі. Вазьмі яшчэ аднаго чалавека, каго пажадаеш, і каб заўтра былі кветкі. Усё.

Ён адвярнуўся ад мяне, пайшоў, і пад падэшвамі ягоных ботаў гулка рыпеў шчэбень.

Мы накіраваліся ў бок мора: я, Франц Нарадоўскі і немец-аўтаматчык. Я хацеў узяць з сабоў Рыгора Невідовіча, але той хмурна глянуў на мяне, буркнуў нешта сабе пад нос і спарней налёг на рыдлёўку. Я не стаў яго угаворваць.

Мы неслі вялізны-вялізны кош, сплецены з тонкай зялена-шэрай лазы. Пэўна, Шмальшлегель спецыяльна загадаў прывезці яго з лагера, каб запоўніць кветкамі. Мы з Францам неслі кош і толькі жахаліся — як можна запоўніць такую бяздоніну?

Выйшлі на ўзлобак дзюны — і адкрылася мора. Я ніколі

не бачыў мора зблізку, гэта было ўпершыню: ланцуг шэрых кіпучых хваляў, белае малако пены, мітусня і гартанныя крыкі чаек, вецер у твар і — бязмежнасць, бязмежнасць. Здавалася, мой пагляд сягаў на сотні вёрст наўкол — такое ўсё было шырокае, неабдымнае. Я ажно задыхнуўся. Я стаяў, прыкаваны да зямлі нейкай дзіўнай незразумелай сілай, і ўсё ва мне быццам кіпела, спявала.

— Мора — усміхнуўся Франц Нарадоускі, ўзяў жменьку жоўтага сухога пяску і цёр яго ў пальцах. Твар у Франца пасвятлеў, вочы напоўніліся бляскам і цеплынёй. Ён пачаў нешта гаварыць па-польску, быццам малітву чытаў бяскрайняму мору.

Немец-аўтаматчык таксама глядзеў на мора. І ў ягонай душы мора паласнула сваім свежым ветрам, зашумела, захвалявалася. Ён зняў пілотку, і светлыя валасы затанцавалі на галаве. Шэрыя вочы немца прыжмурыліся, памякчэлі, іскрынкі прабеглі ў самай глыбіні зрэнак.

Утрох стаялі мы над морам, над свінцова-блакітнай веліччу і мора спявала нам сваю песню, шырокую і вечную.

Але вось немец патушыў іскрынкі ў вачах надзеў пілотку, прыпляскаў яе далонню на галаве, патрабавальна павеў руляй аўтамата:

— Ану, марш! Кветкі, кветкі...

Каля мора кветак не магло быць — хвалі ды пясок,— і мы павярнулі ў дзюны. Я баяўся, што на гэтай нішчымнай пясчанай зямлі кветкі наогул могуць не расці. Яны знойдуць сабе лепшыя

мясціны: без ветру, без гнілых туманоў і бясконцых дажджоў. Кветкі, як людзі, пераборлівыя. Але мы абавязкова павінны былі знайсці кветкі, іначай — смерць. Для нас у Шмельшлегеля ўжо даўно падрыхтавана магіла.

Аўтаматчык ішоў крокаў за дзесяць ззаду, блакіт мора патух у ягоных вачах, пілотка прышчаміла светлыя валасы і ён паўтараў адно і тое ж слова:

— Кветкі, кветкі...

Дзе ж узяць тыя кветкі? Прырода не кінула на гэтыя мёртвыя дзюны ні шчапоці жывога насення. Нават трава, сухая вострая трава, расла тут лапікамі. Я думаў, што да суседства з морам тут перасалілася зямля і соль спальвае карэнне кветак.

— Кветкі, кветкі,— бубніў за спіною аўтаматчык.

Мы ішлі па дзюнах, мы спускаліся ў нізіны, мы аглядалі кожны метр зямлі, і ўсюды быў пясок, белы, шэры, жоўты. Навошта прыродзе так многа пяску ў адным месцы? Няўжо яна не магла знайсці тут куточак для кветак?

— Трэба ісці па слядах вясенніх ручаёў — сказаў Франц Нарадоўскі. — З дзюн сцякалі ручаі, і там, дзе яны беглі, могуць расці кветкі.

Мы пачалі шукаць сляды ручаёў — неглыбокія баразёнкі ў пяску. Знайсці іх было нялёгка, але ў першай жа такой баразёнцы мы натрапілі на цэлы россып маленькіх белах кветачак. У нашых краях я такіх кветак не сустракаў. Яны былі падобныя на лугавую кашку і востра, п’янліва пахлі.

Мы ўкленчылі перад кветкамі. Мы асцярожна абрывалі мяккія зялёныя сцяблікні. Кветак было мала, мы ледзьве прыкрылі імі дно каша.

— Кветкі, кветкі, — зноў затараторыў немец. — Пан камендант загадаў прынесці поўны кош.

Мы з Францам пераглянуліся.

— На магілу твайму каменданту трэба назбіраць, — ухмыльнуўшыся, ціха прамовіў Франц.

Калі б мне хто сказаў раней, да вайны, што ад колькасці сарваных мною кветак будзе залежаць маё жыццё, я б толькі пасмяяўся з таго чалавека. Нашу вёску з самай ранняй вясны і да восеньскіх дажджоў акружала цэлае мора кветак. Дзяўчаты і дзеці пахлі кветкамі. Кветкі раслі ўсюды: у лузе, у гародчаках перад хатамі, на вясковай мурожнай вуліцы. Здавалася, кветкі гарнуліся бліжэй да людзей.

Мы прайшлі кіламетры тры, не меней, пакуль не натрапілі на вялікую калонію буйнагаловых рамонкаў. Іхнія пялёсткі былі не яркабелыя, як звычайна, а цьмяныя, шэрыя, нібы прыпудраныя пылам. Нам хапіла іх на поўны кош.

— О-о-о,— задаволена пачаў паціраць рукі немец-аўтаматчык.— Якія цудоўныя кветкі! Пан камендант будзе задаволены.

Ён падышоў да каша, уваткнуў галаву у кветкі, пачаў нюхаць. На нейкае імгненне мы з Францам убачылі ягоную шыю, тонкую, загарэлую, безабаронную. Мы пераглянуліся. Немец быў што страус, які ў час небяспекі схаваў галаву ў пясок.

Нібы адчуўшы нашы пагляды, немец рэзка выпрастаўся, звузіў вочы, схапіўся за аўтамат. Падазрона глянуўшы на

пас, загадаў:

— Адыдзіцеся на дваццаць метраў!

Калі мы з Францам адышліся, немец крыкнуў:

— Сядайце на зямлю!

Мы селі, і ён таксама сеў, падсунуў да сябе кош з кветкамі. Ён сядзеў, не здымаючы з шыі аўтамат, і плёў з рамонкаў, які мы нарвалі, вянок. У іншы час і пры іншых абставінах гэта была б дужа ідылічная сцэна. Ён сядзеў, белавалосы, блакітнавокі салдат, пэўна ж, нашчадак нейкага ваяўнічага вікінга, і далікатна перабіраў кветкі доўгімі смуглымі пальцамі. Плесці вянкі яго навучыла або маці, або сястра, або сяброўка, бо гэта не мужчынскі занятак.

Я ніколі не ўмеў плесці вянкі, і ў маёй душы варухнулася як бы зайздрасць да немца. Бач, які ён акуратны, старанны, як добра ўсё ў яго выходзіць. Светлы чуб выбіваўся ў немца з-пад пілоткі, сонца залаціла вынасы, і немец здаваўся вялікім рахманым хлапчуком, бо толькі ў дзяцінстве людзі бываюць такія светлагаловыя. Немец нават песеньку паспяваў напаўголасу, не для нас, вядома, а для сябе.

У тых лугах цвітуць прыгожыя рамонкі.
Давай, Мацільда, пойдзем іх збіраць...

І вось гэта песня, такая бяскрыўдная і мяккая, зноў вярнула мяне на зямлю, у рэальнасць майго становішча — я яшчэ вастрэй убачыў у немцу ворага. Пляце вянок, спявае пра Мацільду, а варухніся мы, зрабі крок не туды, куды загадана, адразу прашые чаргой з аўтамата. І, можа здарыцца, забіўшы нас, будзе даплятаць свой вянок.

Нарэшце аўтаматчык скончыў плесці вянок, доўга любаваўся ім, потым зняў пілотку, надзеў вянок на светлавалосую галаву. І задаволена засмяяўся. Пэўна, сам сабе здаўся антычным богам. Потым загадаў нам узяць кош і несці кветкі ў лагер.

Мы спазніліся на «кукушку». Усе зняволеныя і ахова за чатыры мінуты да нашага прыходу паехалі ў шталаг Спрацавала нямецкая пунктуальнасць. Наш аўтаматчык (во да чаго я дажыў — маю «свайго» аўтаматчыка) дужа расхваляваўся разззлаваўся, садраў з галавы вянок і шпурнуў яго пад ногі. Перапала і нам. Аўтаматчык загадаў нам зрабіць па сто прысяданняў. Мы, вядома, зваліліся на зямлю ўжо недзе пасля дваццатага.

Каля кар'ера стаяў невялічкі драўляны домік, у якім захоўваліся канаты для пад'ёмніка і інструменты вольнанаёмнага механіка-немца. Механік таксама паехаў на «кукушцы». Аўтаматчык прыгнаў нас да гэтага доміка, загадаў узламаць замок, загадаў легчы спаць на канаты, а сам, мацюкаючыся, пачаў хадзіць вакол доміка.

Мне не спалася. Мы з Францам пачалі былі перашэптвацца, але аўтаматчык злосна грукнуў прыкладам у сцяну крыкнуў:

— Маўчаць, свінні!

Пачаў даймаць холад. Канаты, на якіх мы ляжалі, настылі, і даводзілася праз кожныя пяць — дзесяць мінут пераварочвацца з боку на бок. Немцу таксама было холадна, мы чулі, як бегае ён вакол доміка, каб сагрэцца. Я не вытрымаў сеў, скурчыўшыся, абхапіўшы галаву рукамі.

У доміку было цёмна, як у труне. Пахла мазутам, пакуллем, старой прамасленай мешкавінай. Я ўспомніў, што прыблізна так пахла чыгунка майго дзяцінства. Толькі там прымешваўся пах паравознага дыму, цёплага каменнага вугалю. Было б зараз найвялікшым шчасцем залезці на паравоз, узяць шуфель і кідаць, кідаць вугаль у чырвонае шумлівае полымя, кідаць да знямогі, каб аж пот прабіў.

Я здранцвела сядзеў на канатах. Франц Нарадоўскі, мяркуючы па ягоным дыханні, заснуў. Ува сне ён час ад часу ўскрыкваў папольску, і я разумеў толькі адно слова «Данута». Хто гэтая Данута — сястра, сяброўка, жонка? Як мала ўсё-такі мы ведаем адзін аднаго.

Я таксама пачаў засынаць, як раптам знадворку пачуліся галасы. Гаварылі па-нямецку. Спачатку спалохана, сонным вялым голасам крыкнуў наш аўтаматчык:

— Хто ідзе?

— Гэта мы, Карл,— адказалі яму.

Затупацелі цяжкія крокі, да доміка падышло некалькі чалавек.

— Ты што тут робіш, Карл? — спытаўся тонкі, амаль жаночы голас.

— Каравулю. Шмальшлегель пасылаў мяне па кветкі, а я спазніўся да адпраўлення цягніка.

— Бедненькі Карл,— засмяяліся знадворку,— І ў цябе, канечне, няма ні глытка шнапсу? Скалеў, як цюцька. Вазьмі глыні.

Стала ціха. Пэўна, Карл піў з біклажкі, а тыя, што прыйшлі, глядзелі, як ён п'е.

— Ух, добра,— выдыхнуў нарэшце Карл.— Здох бы я без вас, сябры. Дзякуй табе, Вілі. І табе, Фрыц. І ўсім вам. А вы чаго ноччу бадзяецеся?

— О-о, ты і не здагадваешся. Нам загадана правесці дужа сакрэтную акцыю.

Зноў пачуўся смех.

— І ўсё-такі, сябры, чаму вам не спіцца ў такі д'ябальскі холад? — голас у Карла памякчэў ад выпітага шнапсу.

— Тайна Шмальшлегеля.

— І ўсё-такі?..

— Ды што ад цябе ўтойваць, Карл. Шмальшлегель, хітрая веймарская ліса, надумаў заўтра ў гонар свайго ад'езду зрабіць феерверк.

— Ведаю,— сказаў Карл.— Але ж феерверк павінен быць у лагеры, на пляцы.

— Будзе там, будзе і тут, на футбольным полі.

— Не разумею.

Зноў засмяяліся.

— Паглядзі, Карл, што мы прынеслі,— урачыста аб'явіў голас, вельмі падобны на жаночы.

— Здаецца, гэта супрацьпяхотныя міны...

— Правільна, Карл. Ты яшчэ салдат, калі можаш адрозніць міну ад гранаты. Яшчэ можна цябе ўслед за Шмальшлегелем адправіць на рускі фронт.

— Вілі,— пакрыўдзіўся Карл,— што я табе зрабіў благога?

— Прабач, Карл, калі пакрыўдзіў цябе. Ні слова пра рускі фронт. Хай там ваюе герой Шмальшлегель, а нам і тут някепска.

— Дык для чаго ўсё-такі вы прывалаклі гэтыя міны?

— Не здагадваешся? Мы іх закапаем на футбольным полі, і заўтра, калі пачнецца развітальная гульня ў гонар адбыцця Шмальшлегеля ў Варшаву, парачка рускіх і палякаў узляціць у паветра. Такога матча яшчэ ніколі не было!

— Нядрэнна,— ажывіўся Карл,— І хто такое прыдумаў?

— Шмальшлегель. Там, на фронце, яму будзе не да футболу, і ён рашыў пакончыць з футболам адным махам.

— Адным выбухам,— засмяяўся, удакладніў Карл.

— У нас пяць мін, і будзе пяць выбухаў, прычым у розных канцах поля.

Галасы пачалі аддаляцца, пэўна, Карл з сябрамі накіраваўся ў бок футбольнага поля. Я чуў іхнюю гаворку, чуў кожнае слова, і калі ўсё сціхла, мяне сталі біць дрыжыкі. Яны былі ад холаду, а яшчэ болей — я разумеў гэта — ад абурэння і хвалявання. Што надумалі, гады? Мала ім людскіх смерцяў у шталагу, у кар'еры, дык хочуць парваць людзей на кавалкі на футбольным полі. Ваўкі! Звяры!

Я ўсхапіўся са сваіх канатаў, я павінен быў нешта рабіць, нешта некаму гаварыць, я не павінен быў сядзець у гэтай праклятай глухой дамавіне. Людаеды! Фашысты!

Раптам у цемры я напароўся на Франца Нарадоўскага і ледзьве не ўпаў. Гэта мяне страшэнна збянтэжыла, бо я на нейкае імгненне забыўся, што разам са мною знаходзіцца яшчэ адзін чалавек, жывы чалавек.

— Што? Што? Данута...— замармытаў спрасонку Франц. Рукамі ён ліхаманкава абмацваў у цемры мае ногі. Мне захацелася неадкладна разбудзіць яго, раскатурхаць, расказаць аб страшнай бядзе, якая чакае нас заўтра. Мне захацелася, каб ён параіў, што нам рабіць.

— Спі, Франц... Спі...— спустошана сказаў я і апусціўся на канаты. Нейкі ўладны голас з самай глыбіні душы спыніў мяне якраз у той момант, калі я ўжо хацеў будзіць Франца.

Што я яму скажу? Ну, дапусцім, я раскажу яму ўсё, і што зменіцца? Калі мы адмовімся заўтра гуляць, нас адразу ж расстраляюць. Загінуць усе дваццаць два чалавекі, як загінулі нядаўна Пчыцкі з Палешчуком.

Я сядзеў у абсалютнай цемры на халодных шорсткіх канатах і ледзь не плакаў ад свайго бяссілля. Што рабіць? Божа, калі ты ёсць, што мне рабіць?

Я зноў узняўся з канатаў, але стаяў на адным месцы, не рухаўся, каб не напароцца на Франца Нарадоўскага. Я адчуваў, як прыкрая млявасць расцякаецца па ўсім целе. Такое было са мной у дзяцінстве, калі я хварэў дызентэрыяй (у нас у вёсцы яе звалі «крываўка») і ў мяне ўсхопліваласся тэмпература.

Калі адмовімся гуляць, Шмальшлегель расстраляе ўсіх. На полі закапаюць пяць мін, будзе пяць выбухаў. Міны, вядома, узарвуцца адначасова. Але ж не можа быць такога, каб ад выбухаў загінулі ўсе мы. («...парачка рускіх і палякаў узляціць у паветра»,— прагучаў як бы па-за маёй свядомасцю голас немца.) Значыцца, загінуць не ўсе...

Я зноў сеў на канаты. Магільная цемра акружала мяне з усіх бакоў. Франц сцішыўся, і не было чуваць ягонага дыхання. Што ж мне рабіць?

Ад выбухаў загінуць не ўсе, але магу загінуць я, я сам. Добра, калі адразу памру, а можа ж адарваць нагу, руку, пакалечыць. Буду ляжаць на брудным футбольным полі і сцякаць крывёю. За колькі мінут з чалавека выцякае ўся кроў?

Навошта жыццё праводзіць пада мной такія жорсткія эксперыменты? Скажу хлопцам пра міны — дрэнна, не скажу — дрэнна... Усё дрэнна. Усё супроць мяне...

З дзяцінства вучылі мяне быць добрым да людзей. Маці вучыла, бацька... У школе вучылі... А зараз ніхто не навучыць, не падкажа. Я жыву ў іншым вымярэнні. Я ўсё павінен рашаць сам.

Я ўсхапіўся з канатаў, стаяў, глядзеў у цемру. Навошта я пачуў размову немцаў пра міны? Выйшаў бы заўтра разам з усімі на футбольнае поле, пачаў гуляць... Душа была б спакайнейшай і свабаднейшай. Францу Нарадоўскаму таксама заўтра трэба будзе гуляць у футбол, а ён спіць сабе, нічога не ведаючы, і, магчыма, бачыць ува сне сваю Дануту. Франц шчаслівейшы за мяне...

Нікому я не скажу пра міны. Я нічога не чуў. Я стаміўся, шукаючы кветкі для Шмальшлегеля, і спаў. Вось на гэтых канатах...

Я лёг на канаты, нацягнуў на галаву куртку, моцна — аж зорачкі заіскрыліся, затанцавалі — заплюшчыў вочы. Спаць... Трэба спаць... За ноч усё можа змяніцца. Шмальшлегель монїа трэмінова выехаць у Варшаву, а без яго нікога з немцаў на зацікавіць футбол. Спаць...

Раніцой, гадзін у шэсць, нас разбудзіў крык Карла:

— Пад'ём!

Карл не ўвайшоў, а ўварваўся ў наш домік. Вочы ў яго былі вясёлыя, чырвоныя, твар пакамечаны. Пэўна, усю ноч жлукціў шнапс з мінёрамі. Куды дзеўся херувімчык, што плёў у дзюнах вянок?

— Ану выматвайцеся на вуліцу! — загадаў Карл.— Жыва!

Так пачаўся гэты дзень, адзін з самых памятных, самых цяжкіх дзён у маім жыцці, дзень футболу па замініраваным полі. Мяне трэсла ліхаманка. Знешне я быў спакойны, мне так, прынамсі, здавалася, але кожная мая клетачка трапятала ад прадчування таго, што павінна было здарыцца ў шаснаццаць нуль-нуль. Іменна ў шаснаццаць нуль-нуль пачынаўся футбольны матч.

Мы з Францам у гэты дзень не паехалі ў шталаг. Кветкі павёз туды Карл. Да абеду мы працавалі ў кар'еры разам з групай штрафнікоў. Мне хацелася грузіць шчэбень да самага адбою, толькі б ніхто не ўспомніў, што мы з Францам Нарадоўскім футбалісты. Але пра гэта ўспомнілі, успомніў сам Шмальшлегель. У абед ён загадаў мне і Францу вылезці з кар'ера.

— Навошта, пан камендант? — спытаўся я, хоць зняволены ніколі і ні ў якім разе не меў права задаваць пытанні.

Шмальшлегель здзіўлена зірнуў на мяне, ён добра ведаў жалезны закон лагера: зняволены заўсёды павінен выконваць загады моўчкі.

— Сёння развітальны футбольны матч у гонар майго ад'езду на фронт,— усё-такі растлумачыў Шмальшлегель.

Пан камендант,— сказаў я, нібы з высокай скалы кінуўся ў бездань.— Я не магу сёння гуляць, у мяне моцна баліць сэрца. Я не хачу псаваць такі матч дрэннай гульнёй.

Шмальшлегель уважліва паглядзеў на мяне, падышоў бліжэй.

— У цябе баліць сэрца? — запытаўся ён. Гэтыя словы прагучалі прыкладна так: «У цябе ёсць сэрца?»

— Баліць, пан камендант.

Што ён зробіць? Дастане пісталет і застрэліць мяне на гэтым жа месцы? Ці возьме рыдлёўку і ўдарыць мяне па галаве рыдлёўкай? Ён так ужо рабіў, калі злавілі і прывезлі ў шталаг трох уцекачоў.

— Тваё шчасце, што ў цябе баліць сэрца,— холадна ўсміхнуўшыся, сказаў Шмальшлегель.— Але ўсё роўна ты будзеш удзельнічаць у матчы. Ты возьмеш сцяжок і будзеш бакавым суддзёй.

І вось пачалася гульня. Я бачыў усё, як у тумане. «Вось зараз,— думаў я,— вось зараз...»

Я бегаў па беражку поля, сціскаючы ў руцэ сцяжок, і адчуваў, што з кожным імгненнем фізічныя і духоўныя сілы пакідаюць мяне, што неўзабаве я зусім не змагу рухацца — упаду на зямлю. Велізарным намаганнем волі я прымушаў сябе трымацца на нагах. Я ўспацеў болей за хлопцаў, якія ганялі футбольны мяч.

«Я ні ў чым не вінаваты,— шаптаў ува мне балючы неадступны голас,— Што я мог зрабіць. Я не магу выратаваць Невідовіча, Нарадоўскага, усіх астатніх хлопцаў».

Але разам з гэтымі думкамі іншыя думкі, пякучыя, суровыя, не давалі мне ні хвіліны спакою. Я ўспомніў Палешчука і Пчыцкага, якія загінулі на гэтым самым полі, плюнуўшы ў вочы Шмальшлегелю. Я не хацеў іх успамінаць, а яны ўспаміналіся. Яны быццам глядзелі на мяне, і не было куды схавацца ад іхніх позіркаў.

Шмальшлегель, нямецкія афіцэры і аўтаматчыкі размясціліся далей ад поля на нізкіх драўляных лаўках.. Была і групка зняволеных. Яны сядзелі проста на зямлі.

Пэўна, з гледачоў толькі Шмальшлегель ведаў, што неўзабаве павінны загрымець выбухі. Гэта быў ягоны сюрпрыз, ягоны падарунак сваім калегам і ўсяму лагеру. Ён ужо наперад смакаваў, як будуць захапляцца ім сябры, як будуць хваліць за незвычайную

фантазію, за шырыню германскай душы. Хто скажа, што гэта простае, прымітыўнае забойства? У любой справе, у тым ліку і ў забойстве, павінен быць размах, своеасаблівы шык. Рымскія імператары ў час гладыятарскіх паядынкаў выстаўлялі на арэну па тысячы байцоў з кожнага боку. Гісторыя пачціва замоўчвае той факт, што яны пралілі рэкі нявіннай крыві. Гісторыя помніць размах, маштаб.

Я бегаў са сцяжком, я чакаў выбуху. Я ўжо праклінаў сябе за тое, што не выйшаў на футбольнае поле разам з хлопцамі, што я зараз не там, не на полі. Мне было б лягчэй. З кожнай мінутай гульні хлопцы як бы аддаляліся ад мяне, адплывалі...

Я ўпаў тварам у мокры пясок і, лежачы, бачыў, як над футбольным полем стаяць пяць высокіх цёмна-рыжых слупоў. Значыць, усе міны спрацавалі безадмоўна.

Цёмна-рыжыя слупы ўсё яшчэ стаялі над полем, але вось пачалі бляднець, танчэць, зламаліся і ўпалі па прытаптаную футбалістамі рэдкую траву. Некаторыя з афіцэраў ад нечаканасці пападалі з лавак. Аўтаматчыкі не ведалі, што рабіць,— ім падалося, што гэта нейкая змова, нейкі бунт, што зняволеныя вось-вось кінуцца на іх. Адным словам, была паніка, і ніхто не мог даўмецца, што ўсё-такі здарылася.

Я ляжаў, уткнуўшыся тварам у пясок, я баяўся ўзняць галаву, баяўся глянуць на поле. Я так і не глянуў у той бок. Я ціха паднімаўся з зямлі, страсаў з вопраткі бруд і глядзеў толькі на свае рукі. Рукі калаціліся. Тады я засунуў іх у кішэні курткі, але яны калаціліся і ў кішэнях.

З футбольнага поля, са смуроду і тарфянога пылу, чуліся стогны. «Колькі чалавек забіла?» — спустошана думаў я. Я кінуў на зямлю сцяжок, наступіў на яго нагою. На лаўцы, крокаў за дваццаць ад мяне, узняўшы каўнер скуранога плашча, сядзеў Шмальшлегель. Я ўбачыў бледны хударлявы твар, твар аскета і садыста, які гарэў у незямным экстазе.

Раптам з дыму і пылу, напружваючы апошнія сілы, выпаўз чалавек. У чалавека не было адной нагі. Там, дзе павінна была быць правая нага, тырчаў кароткі расплясканы абрубак, і за гэтым абрубкам па бруднай шэрай зямлі цягнулася яркая сцежачка крыві.

Чалавек падпоўз да мяне, павольна, з вялікім напружаннем, узняў галаву. Я ўздрыгнуў, зрабіў крок назад — гэта быў Рыгор Невідовіч. Ён глянуў на мяне адзіным вокам — другое было выбіта, чырвона-сінім шарыкам матлялася па шчацэ,— пазнаў мяне, але не сказаў ні слова і папоўз далей, папоўз міма мяне, папоўз паміраць.

## IX. ДЗЕНЬ

«Пішу 7 жніўня ў 10 гадзін 23 мінуты. Я вельмі лянівая, я не магу прымусіць сябе пісаць дзённік кожны дзень. Я хутка захапляюся новымі справамі і забываюся пра старыя. Два гады і тры месяцы я збірала маркі, потым татка купіў мне фотаапарат. Але з фотаапаратам трэба многа часу займацца, трэба праяўляць плёнку, глянцаваць. Лепей я буду кожны дзень пісаць дзённік.

Тры дні назад мне было трынаццаць гадоў. Мы схадзілі з мамай у магазін і купілі торт, купілі віна. Мы з мамай віно не пілі, а тата піў. І мне хацелася хоць капельку пакаштаваць.

Ніна Іванаўна Матруніч на дзень нараджэння падарыла мне каробачку, а ў той каробачцы — завушніцы, ды такія прыгожыя. У школе нам іх забараняюць насіць, думаюць, што мы яшчэ маленькія. Але я буду насіць іх дома. Я ўжо нават вушы пракалола. Мама спачатку так крычала, так крычала на мяне, але я сказала, што завушніцы дапамагаюць ад блізарукасці. У часопісе «Здоровье» я паказала маме артыкул, у якім пра гэта напісана. Аказваецца, нервы вачэй і нервы, што размешчаны ў чалавека ў вушной ракавіне, нейкім чынам злучаны між сабой. Вось так, дарагая мамачка!

8 жніўня, 13 гадзін 40 мінут. Я толькі што прыехала ад Светкі Базарэвіч. Мы амаль усім класам ездзілі да яе на кватэру, бо Светка хварэе і цэлы месяц не ходзіць у школу.

У іх кватэра меншая, чым у нас, у іх — два пакоі. Свецін бацька працуе трактарыстам. Дзіўна, жыве ў горадзе — і трактарыст. Асфальт ён арэ, ці што?

Светка вельмі ўзрадавалася і ўсіх нас пацалавала. Нават хлопчыкаў пацалавала. Яна добрая, Светка. І прыгожая.

Калі вярталіся назад і пераходзілі вуліцу, каб сесці ў тралейбус, здарылася вельмі непрыемнае. Разам з намі перабягаў асфальт нейкі сабачка, жоўценькі, маленькі. Мы ўсе перайшлі, а сабачка трапіў пад грузавік. Як ён скавытаў, бедненькі! Здавалася, дзіцё плача. Ён паміраў і ўсё скавытаў, і голас у яго рабіўся ўсё цішэйшы. Мы з Зояй Пракапенка нават заплакалі, так шкада было сабачку. А Вова Сарокін засмяяўся. Ніколі не дарую яму!

9 жніўня. Не ведаю, колькі часу, бо наш насценны гадзіннік паламаўся. Мы зусім нядаўна купілі яго, ён вялікі, прыгожы, з жоўтымі, нібы залатымі стрэлкамі, з боем. ён заўсёды вельмі дакладна «біў час». Але чамусьці паламаўся, і ўчора ў дванаццаць гадзін ночы замест дванаццаці разоў прабіў ажно пяцьдзесят чатыры! Ён бы і яшчэ біў, але тата раззлаваўся і зняў яго са сцяны.

Апошнія ночы я мала сплю. Прыкінуся, што сплю, мама выключыць святло, а я ляжу ў лонжу і думаю. Думаю я ўсе гэтыя ночы пра адно і тое ж, пра тое, што мая мама і мой тата пасварыліся між сабой. Аказваецца, у майго таты быў сын, быў ужо да таго, як тата ажаніўся з мамай. І тата нічога пра свайго сына маме не сказаў, схлусіў маме. А ягоны сын прыехаў у Мінск і жыве ў рабочым інтэрнаце. Мама нават ездзіла да яго ў інтэрнат. Я таксама хацела паехаць, але мама забараніла.

А я думала, што мой тата вельмі добры. Ён і зараз добры, вельмі добры, але ўжо не той, якім быў для мяне раней. Ён кінуў свайго сына. Ён мог кінуць і мяне, каб я нарадзілася ў той час.

Мама плача. Яна не прызнаецца нікому, што плача, але я бачу па вачах. Мне вельмі шкада маму. Навошта тата схлусіў ёй? Сказаў бы ўсю праўду, і сёння б усім нам было б добра, і мама б не плакала.

Калі я вырасту і выйду замуж, я ніколі не буду хлусіць. Клянуся!

10 жніўня, 10 гадзін 16 мінут. Не ведаю, пра што напісаць. Сёння нічога не адбылося. Мама не гаворыць з татам. Я ведаю, што чужыя мамы і таты, калі доўга не размаўляюць між сабой, разводзяцца. Я не хачу, не хачу, каб мае бацькі развяліся. Я хачу любіць і тату, і маму і каб яны жылі разам.

Ніна Іванаўна Матруніч казала, што ў нас вельмі дружная сям'я, што пра нашу сям'ю трэба пісаць у газетах. А я бачу, што ўсё не так. Раней у нас была дружная сям'я, мы хадзілі ў кіно, у грыбы і ягады.

Навошта прыехаў у Мінск той першы бацькаў сын? Што яму трэба ад нас? Да яго прыезду мы ўсе жылі спакойна. Ой, я не тое і не так пішу. Ён жа, першы бацькаў сын, ні ў чым не вінаваты. Ён жа таксама, як і ўсе, хоча быць шчаслівы, хоча мець бацьку. У нас з ім адзін і той жа бацька а бацьку папалам не падзеліш.

Дык што ж мне зрабіць, каб мы...»

Гэты сказ Каця не паспела дапісаць, бо Дар'я Антонаўна увайшла да яе ў пакой, сказала:

— Каця, ты пойдзеш са мной у пральню?

— Пайду, мамачка,— Каця хуценька схавала дзённік у свой школьны партфель.

— Тады апранайся.

Зазваніў тэлефон. Дар'я Антонаўна ўзяла трубку. Не хацелася, каб званіў Іван. Апошні месяц яна старалася як мага меней гаварыць з ім. «Ты што, Даша, байкот мне аб'явіла?» — заўважыўшы перамену ў яе паводзінах, спытаўся неяк муж. Яна і тады нічога яму не адказала.

— Мама, гэта я — Валя,— пачуўся з тэлефоннай трубкі вясёлы і, здалося, шчаслівы голас. Даўно не званіла Валя, і гэты яе нечаканы званок быў для Дар'і Антонаўны як падарунак.

— Слухаю, дачушка,— Дар'я Антонаўна вельмі ўзрадавалася званку, нават у грудзях ад яго пацяплела.— Як ты там жывеш? Як Васіль?

— Усё нармальна, мама. Званю з аўтамата. Вася стаіць побач і перадае табе прывітанне. Гаворыць, што ў яго самая лепшая у Мінску цешча.

Востры язычок у дачушкі, нічога не скажаш. Гэты Васіль яшчэ ні разу не быў на кватэры ў цёшчы — адкуль яму ведаць, якая ў яго цешча. Дар'я Антонаўна на нейкае імгненне адчула і сорам, і крыўду на дачку. Быццам за морам-акшнам жыве дачка — ніяк не можа разам з мужам выбрацца да бацькоў у госці. Але сварыцца з Валяй не хацелася. Скажы што-небудзь не так — і на паўгода змоўкне тэлефон. І апарыстыя пайшлі дзеці.

— Калі я самая лепшая ў Мінску цешча,— прымусіла сябе усміхнуцца Дар'я Антонаўна,— то ў мяне павінны быць і самыя лепшыя бліны. Якая ж цешча без бліноў? Толькі нешта зяць не прыязджае.

— Крытыку прынялі і зразумелі,— бадзёра пачулася з тэлефоннай трубкі,— Бярэм таксі — і ляцім да вас.

— Праўда? — аж задыхнулася Дар'я Антонаўна.

— Выязджаем неадкладна. Наша дэлегацыя хоча прапанаваць мірныя перагаворы.

Ну й Валя! Ніколі не зразумееш, жартуе яна ці гаворыць усур'ёз.

— Прыязджайце, дачушка, прыязджайце з Васем — радасна выгукнула Дар'я Антонаўна і раптам успомніла: трэба ж ісці ў пральню самаабслугоўвання, талон прападзе. «Бог з ім, з талонам»,— падумала яна, але асцярожна сказала Валі: — Праўда, у нас з Кацяй на адзінаццаць гадзін талон у пральню...

— Значыць, бліны адмяняюцца? Не, мамачка, сёння ты не адкруцішся. Мы з Васем дужа засумавалі па блінах. Спім і ўва сне іх бачым.

— Тады адмяняецца пральня,— рашуча сказала Дар'я Антонаўна.— Прыязджайце.

— І зноў не так, мамачка. Цывілізаваныя людзі павінны хадзіць у чыстай, мытай бялізне. Так што пральню адмяніць нельга. Наша дэлегацыя прапануе: спачатку пральня, потым бліны. З'язджайце з Кацяй па ліфце ўніз і чакайце нас.

— Добра, добра, сакатуха,— адчуваючы, як залівае сэрца мацярынская пяшчота, згадзілася Дар'я Антонаўна. Харошыя выраслі

дзецi: i дочкi, i сыны. За такiх не сорамна перад людзьмi. А гэта — лепшая ўзнагарода для мацi.

Бялiзна была ўжо напакавана ў дзве вялiзныя гаспадарчыя сумкi. Дар'я Антонаўна ўзяла адну сумку, Каця — другую.

— Табе будзе цяжка, Каця. Дай я панясу,— хацела адабраць у дачкi сумку Дар'я Антонаўна.

— Вось яшчэ,— фыркнула Каця.— Думаеш, ты дужэйшая за мяне? Калi хочаш ведаць, у нас у школе хутка адкрыецца секцыя каратэ, i мы з Зояй Пракапенка ў яе запiшамся.

— Што гэта за каратэ такое? — здзiвiлася Дар'я Антонаўна.

— Тэлевiзар трэба болей глядзець, мамачка. Каратэ — гэта спорт. Калi на мяне цi на Зою нападзе мужчына, узброены нажом цi яшчэ чым, мы з iм расправiмся ў адну мiнуту, бо будзем ведаць болевыя прыёмы.

— Болевыя прыёмы? Ой, Кацька, не жаночая гэта справа. Дый чаго на вас будзе нападаць гэты мужчына?

— Не ведаеш, чаго мужчыны нападаюць на жанчын? — спыталася Каця, i ў голасе прагучала паблажлiвасць да мацi, якой трэба растлумачваць усiм зразумелыя iсцiны.

Дар'я Антонаўна ажно рот разявiла ад нечаканасцi i здзiўлення. Яна стаяла ў лiфце, што плыў унiз, глядзела на дачку i адчувала, як халодная трывога сцiскае сэрца. Расце дачка, расце вельмi хутка.

Мiнут праз дзесяць падышло таксi. Валя выбегла з машыны, весела пацалавала мацi, пацалавала Кацю, загадала:

— Ану, Васiль Ягоравiч, загружай сумкi ў багажнiк. Паедзем у пральню зарабляць блiны.

Васiль, цёмнавалосы, смуглатвары, з блiскучым залатым зубам, якi маладзiў твар, паважна вылез з таксi, падышоў да Дар'i Антонаўны, падаў ёй руку:

— Добры дзень, мама. Я — Васiль.

Голас у яго быў нiзкi, раскацiсты, у словах ачувалася спакойная ўпэўненасць. Дар'я Антонаўна пацiснула яму руку:

— Добры дзень, добры дзень, Васiлёк.

У яе ўздрыгнула сэрца. Гэты сiмпатычны, марудлiвы на першы погляд хлопец назваў яе мамай. Акрамя родных дзяцей, яе яшчэ нiхто нiколi так не называў. Гэты хлопец недзе нарадзiўся, недзе рос, хадзiў у школу, служыў у армii, працаваў, каб сёння прыйсцi адтуль, з невядомага ёй жыцця, i сказаць ёй: «Добры дзень, мама». Дар'я Антонаўна адчула, як да горла падкочваецца салёны цёплы камяк.

У таксi Валя сказала:

— Мы цяпер з Васем багатыя. Месяц назад памерла Васева цётка і адпісала яму ўвесь свой дом.

— Цётка памерла? — перапытала Дар'я Антонаўна.

Яна ўспомніла, як калісьці ездзіла на вуліцу Студэнцкую, як адчыніла ёй дзверы высокая хмурная жанчына і сказала, што Васіля з Валяю няма дома — пайшлі купацца на Камсамольскае возера.

— Цётка Вольга добрая была,— паблісквоючы залатым зубам, пазіраючы то на Валю, то на Дар'ю Антонаўну, гаварыў Васіль,— Муж, дзядзька Сямён, памёр раней, чым яна. Сталяром працаваў. А дзяцей у іх не было. Вось яна мяне і любіла.

Ён ціха, сарамліва ўсміхнуўся, быццам у тым, што яго любіла родная цётка, было нешта забароненае, неабавязковае для мужчыны.

«Ён — добры,— гледзячы на зяця, на яго пакрытую светла-карычневым загарам шыю, на бліскучыя цёмныя вочы, на марудлівыя моцныя рукі з доўгімі шырокімі пазногцямі на пальцах,— думала Дар'я Антонаўна,— Ён добры, і маёй дачцэ добра з ім».

— Гэта праўда, Васіль Ягоравіч, што вы шмат гарэлкі п'яце? — спыталася раптам Каця. Сядзела ціхенька ў куточку, глядзела ў акно таксі і, калі ўсе пра яе забыліся, бабахнула такое. Нават шафёр азірнуўся.

Валя пачырванела, уражаная бестактоўнасцю сястры. Дар'я Антонаўна, здаецца, ажно падскочыла на сядзенні, сказала абурана і гнеўна:

— Як табе не сорамна, Каця? Што гэта ты гаворыш. Зараз жа папрасі прабачэння!

— Вы ж самі з татам казалі, што Васіль п'яніца і што ён Валі не пара,— не міргнуўшы, з анёльскай ласкавасцю ў паглядзе глянула на яе Каця.

Дар'я Антонаўна ажно задыхнулася, хоць валідол шукай.

— Каця, ты такая нявыхаваная,— толькі й сказала яна.

Выручыў усіх Васіль.

— Быў грэх, Кацечка,— усміхнуўся ён,— Дзякуй тваёй сястры — піць п'ю, але вельмі малымі дозамі і толькі ў выхадныя.

Яго, здавалася, ніколькі не абурыла Кацiна пытанне, нават не вывела з душэўнай раўнавагі. Твар ягоны свяціўся роўнаю ўсмешкаю, вясёлыя іскрынкі гарэлі ў цёмных вачах.

— Вось зараз прабачце мне, Васіль Ягоравіч,— сказала, таксама ўсміхаючыся, Каця. І яны, Васіль і Каця, быццам былі ў нейкай змове, паціснулі адно аднаму рукі. Але Валя, відаць было, пакрыўдзілася на малодшую сястру, строга падцяла вусны, моўчкі глядзела ў акно.

Ды болей за ўсіх перажывала Дар'я Антонаўна. Упершыню ўбачыла зяця, зяць ёй спадабаўся, а тут гэта сакатуха сваім доўгім языком можа ўсё сапсаваць. Дар'я Антонаўна, каб неяк перавесці гаворку на іншы кірунак, спыталася:

— А дзе вы, Вася, працуеце?

— Гаварыце мне, Дар'я Антонаўна «ты»,— папрасіў Васіль,— Я не дужа вялікі начальнік. Працаваў грузчыкам на таварнай станцыі, ды Валя забараніла. «Ты,— гаворыць,— на большае здатны». Ёй, вядома ж, відней, на што я здатны,— Ён усміхнуўся.— Цяпер працую абрубшчыкам на трактарным заводзе. Да трохсот рублёў у месяц выганяю. Валя прымусіла паступіць у вячэрні тэхнікум. Паступіў, вучуся, хоць, чэсна сказаць, нялёгка дзве ношкі цягнуць: і работу, і вучобу. Ды Валя памагае.

Ён абняў Валю за плечы, прыгарнуў да сябе, і ўсё гэта атрымалася так нязмушана і натуральна, што Дар'я Антонаўна радасна ўсміхнулася. Валя бачыла, што муж спадабаўся маці, і, задаволеная, вясёлая, жартаўліва ўскудлаціла яму валасы:

— Эх, Вася, Вася,— стальная на цябе галава трэба.

У пральні самаабслугоўвання было шматлюдна і шумна. Такія пральні нядаўна з'явіліся ў горадзе і адразу прыйшліся даспадобы мінчанкам. Дарэчы, мужчын у пральні было амаль столькі, колькі і жанчын. Мужы прыходзілі сюды мыць бялізну разам са сваімі жонкамі, і гэта было яскравым доказам раўнапраўя мужчынскага і жаночага полу. Замест таго, каб ляжаць на канапе і чытаць газету або змагацца з суседам у шахматы, мужчыны — лепшая частка мужчын — бадзёра цягнулі ў пральню гаспадарчыя сумкі з бялізнай, як сярэдневяковыя алхімікі, засыпалі ў мыйныя машыны парашок, залівалі гарачы крухмал, сушылі бялізну ў цэнтрыфузе, прасавалі яе на вялізных трубах-прасах.

— А дзе бацька? — спыталася ў Дар'і Антонаўны Валя. Яна чамусьці заўсёды казала не «тата», а «бацька». Атрымлівалася ў яе гэта дужа сур'ёзна, салідна, і Дар'я Антонаўна, калі Валя яшчэ была маленькаю, старалася адвучыць яе, але нічога не атрымалася.

— На рабоце ён,— як бы з неахвотаю адказала Дар'я Антонаўна, і Валя адразу ж улавіла халадок у словах маці.

— Што-небудзь здарылася, мамачка? — глянула яна ў вочы маці.

— Ды нічога, Валя. Усё нармальна.

— А чаму ж бацька на рабоце?

— З квартальным планам у іх не ладзіцца.

— Ой, мамачка, скажы праўду,— Валя глядзела проста ў вочы маці. Паэты гаворАць, што вочы — вокны чалавечай душы. І Валя бачыла, як пакутуе, як баліць матчына душа.

Яны прасавалі бялізну. Валя з маці растрасалі прасціны, засоўвалі іх пад тоўсты, абкручаны гарачым рудаватым лямцам вал праса. Васіль з Кацяй стаялі па другі бок праса, прымалі ўжо гатовую адпрасаваную бялізну і складвалі яе ў сумку.

— Потым скажу,— ціха прамовіла Дар'я Антонаўна. Ёй не хацелася, каб пра яе нелады з Іванам пачуў Васіль. Ды, калі прызнацца, нічога трагічнага ў яе адносінах з Іванам няма. Проста апошнім часам, пасля прыезду ў Мінск Іванавага сына з Барысава, нешта надкрышылася, надламалася ў яе душы. Яе ўразіла, да слёз пакрыўдзіла тое, што Іван у свой час не сказаў ёй аб існаванні сына ад першай жонкі. Прызнаўся, што быў жанаты, што развёўся, але пра сына не сказаў ні слова. Яна як бы ўбачыла іншага Івана, не таго, што быў прыкладным сем'янінам, верным мужам, а таго, што палахліва кінуў сваё дзіця, збег ад свайго дзіцяці, назаўсёды выкрасліўшы яго з памяці. І яна ўвесь гэты час жыла з несумленным чалавекам, чалавекам, які хітрыў, прыкідваўся, стараўся выглядаць лепшым, чым быў на самай справе. Ён і сапраўды быў добрым, уважлівым да яе, але яна, яна, якая з дзесяцігадовага ўзросту выхоўвалася ў дзіцячым доме, была навучана жыццём не любіць, ненавідзець людзей, што з лёгкай душою маглі адцурацца ад сваіх дзяцей. Яна добра помніла несуцешныя слёзы сяброўак у святочныя дні, калі ў дзіцячы дом прыязджалі родзічы выхаванцаў. У сяброўак недзе жылі маці або бацька, і былі тыя маці і бацька не інвалідамі, а нармальнымі здаровымі людзьмі, але чамусьці ніколі не прыязджалі да дачок.

Гадзіны праз паўтары ўправіліся з бялізнаю. Валя, выйшаўшы на вуліцу, хацела была зноў лавіць таксі, але Дар'я Антонаўна запярэчыла:

— Навошта? Паедзем на тралейбусе.

— Яна ў мяне паводзіць сябе, як мільянерка,— дабрадушна ўсміхнуўся Васіль.— Каб можна было, лётала б ад кватэры да магазіна на самалёце.

— Шкадуеш грошай для жонкі, Счыслёнак? — жартуючы, скубанула мужа за рукаў Валя.— Каб ведала, што ты такі, ніколі б не выйшла за цябе замуж. Хіба галоўнае ў жыцці — грошы? Хіба справа ў грашах?

— Вядома, Валечка, справа не ў грашах, калі яны ёсць,— левай, свабоднай ад сумкі рукою прытуліў яе Васіль.

Дар'ю Антонаўну рассмяшылі ягоныя словы. Усё болей падабаўся ёй зяць, дасціпны, разумны, прыгожы і сціплы хлопец. У глыбіні душы яна радавалася за дачку — не намылілася, выбрала дастойнага. Але тут жа з трывогай падумала, што ўсё ў іх яшчэ наперадзе, усё яшчэ можа быць.

Васіль, адчуўшы, што спадабаўся цёшчы, развесяліўся.

— Ведаеш, Валечка, чым ты падобная на сароку? — з хітраватай усмешкаю ў цёмных вачах запытаў ён жонку.

— Балбачу зашмат? — не пакрыўдзілася, закахана глянула на мужа Валя.

— Ну не. Тут яшчэ невядома хто пераможа. А падобная ты вось у чым: сарока любіць бліскучае, дзе ні ўбачыць, цягне да сябе ў гняздо пярсцёнкі, завушніцы, бранзалеты, і...

— І што далей, Счыслёнак? — холадна абарвала мужа Валя і, не даўшы яму рот раскрыць, сказала:— Тралейбус ідзе. Глядзі не згубі сумку.

Калі, праехаўшы на тралейбусе, накіраваліся да дома, у якім жылі Памалейкіны, Дар'я Антонаўна спахапілася:

— Ой, а мукі ж трэба купіць.

— Навошта табе мука, мама? — спыталася Валя.

— А хіба ты забылася, што сёння мы павінны есці лепшыя ў Мінску бліны?

Зайшлі ў магазін, купілі два пакеты мукі, бутэльку каньяку. За каньяк, як ні ўгаворвалі Васіль і Валя, заплаціла Дар'я Антонаўна. У яе быў прыўзняты настрой, хацелася жартаваць, хацелася гаварыць смешныя і дасціпныя словы. Даўно яна так не радавалася. Аказваецца, шчасце жыцця — у родных людзях, якія ідуць побач з табой, якія разумеюць цябе з паўслова. Калісьці сяброўкі ў дзіцячым доме і ў медвучылішчы звалі Дар'ю Антонаўну «жыўчыкам». І сёння яна з радасцю і здзіўленнем адчула, што не выветрылася яшчэ з душы тая, вясновая весялосць.

Каля самага іхняга дома рабочыя ўзломвалі асфальт, капалі канаву. Ужо другі ці трэці раз то заліваюць у гэтым месцы асфальт, то зноў дзяўбуць адбойнымі малаткамі і ламамі. Такое ўражанне, быццам закапаны тут нейкі скарб і людзям край як трэба яго знайсці.

Хлопчык гадоў чатырох-пяці, беленькі, кучаравенькі, выйшаў з пад'езда, узяўшыся за маміну руку, глянуў на яснае летняе неба, на зямлю, убачыў сівавусага загарэлага рабочага з цяжкім ломам на плячы і падзяліўся з мамай сваім вялікім адкрыццём, крыкнуў ёй шчаслівa і ўсхвалявана.

— Мама, мама, глядзі: дзядзя з кап'ём ідзе!

Усе, хто пачуў гэтыя словы, засмяяліся. Засмяяўся рабочы з ломам. Засмяялася і Дар'я Антонаўна. Наглядзеўся малы мультфільмаў па тэлевізары, наслухаўся казак, вось і бачыць у кожным сустрэчным рыцара з кап'ём. А можа так трэба і дарослым — хоць на кароткае імгненне паглядзець на навакольны свет вачамі дзіцяці?

Дар'я Антонаўна з Валяй адразу ўзяліся пячы бліны, а Каця пацягнула Васіля ў дзіцячы пакой паказаць новыя маркі, бо, акрамя спорту, захаплялася, як і большасць гарадскіх падлеткаў, філатэліяй. Ды чым толькі не захапляюцца гарадскія дзеці: фігурнае катанне, дрэсіроўка сабак, развядзенне кактусаў, развядзенне залатых і незалатых рыбак у акварыумах...

— Вось і добра, што ён адлучыўся,— ціха сказала Валя, маючы на ўвазе Васіля,— Дык што ў цябе, мамачка, адбываецца з бацькам?

Гэта пытанне так недарэчы прагучала для Дар'і Антонаўны. Яна вялікай драўлянай лыжкай размешвала цеста, яна з радасцю думала, якія пульхныя і смачныя атрымаюцца бліны, яна ўспамінала маленькага светлавокага хлопчыка, што пераблытаў лом з кап'ём, а тут дачка заводзіць размову пра самае балючае і патаемнае.

— Нічога,— адказала яна няўпэўненым голасам, бо не ўмела хлусіць.

— Баішся сказаць? — абняла маці за плечы, цмокнула ў шчаку Валя. Сама ж вучыла: калі цяжка, калі адзінока, адкрыйся блізкаму чалавеку.

Дар'я Антонаўна глянула на дачку, усхліпнула і ўсё расказала. І сама здзіўлялася, як хутка праляцела жыццё, а калі дакладней, першая палова жыцця, самая актыўная палова, у час якой чалавек вучыцца, заводзіць сям'ю, нараджае дзяцей. Здаецца, учора была маладзенькай медсястрой, зрабіла першы ўкол хвораму, любіла слухаць песні ў выкананні Рашыда Бейбутава, бегала з сяброўкамі на тапцы, думала, салодка абміраючы сэрцам: хто ж будзе мой суджаны? Івана, як бывае ў жыцці ў большасці выпадкаў, сустрэла абсалютна выпадкова. Ён працаваў прарабам на будоўлі, разбіў малатком палец і прыбег у іхнюю бальніцу перавязаць рану. Яна глянула па яго і, перавязваючы скрываўлены расплясканы палец, падумала: вось яно — маё шчасце. Пазнаёміліся, пачалі хадзіць у кіно і на танцы, і ён прызнаўся ёй, што разведзены, што з першай жонкай у яго адбылася страшная недаравальная памылка. Пра сына не сказаў ні слова. Яны ажаніліся, і ў іх нарадзілася аж шасцёра дзяцей. Цяпер нават боязна падумаць, як рашылася яна тады мець столькі дзяцей. А тады, калі чэсна прызнацца, яна і не думала пра гэта — яна кахала мужа, яна нараджала дзяцей, яна давала жыццё, і ва ўсім гэтым было столькі

высокага сэнсу, столькі глыбіні і святла. Ноччу, калі пачынала плакаць дзіця, яна ўсхоплівалася, давала яму грудзі, пяшчотна прытульвала да сябе маленькае цёплае цельца, напаўголасу, каб не разбудзіць старэйшых дзяцей і мужа, спявала калыханку, і ёй было так добра, так мірна, ёй хацелася, каб усе дзеці выраслі, а гэта, плаксівае, засталося маленькім. Яна згодна была люляць, пераліваць у яго сваю любоў і пяшчоту бясконца. А дзеці тым часам раслі, раслі ўсе: і спакойныя, і плаксівыя. Яна, як магла, вучыла і напраўляла іх, яна хацела аднаго: каб сталі яны добрымі людзьмі, каб з-за іх, з-за іхняй чэрствасці, ніколі не пралівалася ніводная сляза. Яна хацела, каб не было няшчасных людзей, бо на ўласным вопыце зведала, што гэта такое,— у раннім дзяцінстве, страціўшы бацькоў, жыла, як дрэўца, выдзертае з зямлі.

— Якія ж ты маеш прэтэнзіі да бацькі? — спыталася ў маці Валя, выслухаўшы яе расказ-споведзь.

Дар'я Антонаўна здзіўлена паглядзела на дачку.

— Ён што: піў, гуляў з іншымі жанчынамі, не глядзеў дзяцей, не прыносіў у сям'ю грошай? — роўным голасам дапытвалася Валя.

— Я не разумею цябе, Валя,— пачала была Дар'я Антонаўна, але Валя не дала ёй дагаварыць, рэзка ўзнялася з-за стала, шчыльней зачыніла кухонныя дзверы. Потым падышла да маці, гладзячы ёй валасы, сказала:

— Колькі табе гадоў, мамачка? Не гавары, не гавары — сама ведаю. Бацька табе не сказаў пра першага сына... Ну, пабаяўся, што не выйдзеш за яго, калі даведаешся. Пра жонку ж ён табе сказаў. Так што не бачу ніякай асаблівай трагедыі. Табе ж, прабач, мамачка, не васемнаццаць гадоў.

Яна пацалавала маці ў скронь.

— І гэта ты гаворыш мне? — павольна ўзнялася, адвяла ад сябе доччыны рукі Дар'я Антонаўна.— Ён мне схлусіў. Разумееш? Схлусіў. Ён кінуў роднае дзіця і ні разу — ні разу! — не захацеў глянуць па яго. А я верыла яму, заўсёды верыла, старалася верыць. А ён...

— Не перабольшвай, мамачка. Бацька быў маладзейшы. У кожнага ў маладосці водзяцца нейкія грашкі.

— Не думала, Валя, што ты такая.

— Якая? — залілася чырванню Валя.

— Што ты такая халодная, раўнадушная да чужога гора, такая жорсткая.

— Дальбог, мамачка, я не хацела цябе пакрыўдзіць. Прабач, калі зрабіла табе балюча,— зноў пацалавала Валя матчыны валасы.

Яны, маці і дачка, на нейкае імгненне змоўклі. Яны былі вельмі падобныя тварамі — сінявокія, з матавай прыгожай скурай, з цёмнарусымі валасамі. Толькі ў паглядзе ў маці было болей строгасці, болей жыццёвай мудрасці, якая прыходзіць не адразу і не да ўсіх. Вочы ж у дачкі іскрыліся маладой энергіяй і ўпэўненасцю.

— Гэта ты мне прабач, дачушка,— ціхім вінаватым голасам сказала Дар'я Антонаўна,— Давай бліны пячы, а то Васіль ужо зачакаўся.

Зашыпела цеста на распаленай патэльні, апетытны пах паплыў па кухні, праз шчылінку ў дзвярах прабраўся ў прыхожую, расцёкся па ўсёй кватэры, і вось з шумам і трэскам расчыніліся дзверы, убегла Каця, вясёлая, ружовашчокая, крыкнула ў захапленні:

— Бліны! Даўно не каштавала бліноў! Зяць Васіль, дзе ты там? Налятай на свае бліны!

Выпілі каньяку, нават Каці налілі крапельку, і пачалі есці бліны са скваркамі. Гэта былі сапраўдныя вясковыя бліны, якіх ужо не пякуць, развучыліся пячы ў горадзе. Горад любіць падцягнутую, стройную фігуру, горад выдумаў малочна-гародніннную дыэту, каб захаваць такую фігуру.

— Відаць, бацьку не дачакаемся. Трэба ехаць дадому,— сказала Валя.

— Пабудзьце яшчэ трошкі,— папрасіла Дар'я Антонаўна.

— Не, мамачка. Заўтра нам з раніцы на работу. Пакуль заедзем — сцямнееецца.

— Ну, глядзіце...

Дар'я Антонаўна ўзяла гаспадарчую сумку, паклала ў яе круг каўбасы, кавалак сала, слоік агуркоў.

— Што вы робіце, мама? Не трэба нам,— запярэчыў Васіль.

Валя маўчала.

— Бярыце, бярыце... Як разбагацееце, аддасце,— засмяялася Дар'я Антонаўна.

Калі ішлі да тралейбуснага прыпынку, Валя, трымаючы маці пад руку, шапнула:

— Ты ж не забылася, мама, што ў нас з Васілём зараз цэлыя харомы? Як што якое — бяры Кацю, Паўліка, Людачку — і да нас.

Пацалаваліся. З Васілём, па беларускім звычаі, нават тройчы. Тралейбус сярдзіта зачыніў дзверы і, прышчаміўшы парасон нейкага франта, рушыў па сваім, здаецца, спрадвечным маршруце: ускраіна — чыгуначны вакзал. Там, па вакзале, Валі з Васілём яшчэ трэба будзе перасаджвацца па аўтобус. Дар'я Антонаўна засталася па прыпынку адна.

Быў летні надвячорак. Неба мяняла колер — са светла-блакітнага паступова рабілася цёмна-сінім. Вецер гнаў па асфальце паперкі з-пад марожанага. Праехала дзіўная машына, яна везла доўгую-доўгую лодку і ў параўнанні з лодкай здавалася зусім маленькай. На балконе суседняга дома забрахаў сабака, забрахаў лена, бяскрыўдна. Сваім брэхам ён, здавалася, задаваў людзям вельмі лагічнае пытанне: навошта вартаваць балкон на дзесятым паверсе, калі на гэты балкон злодзей можа трапіць толькі на парашуце?

Не астывала ў душы крыўда на дачку, на Валю. Не зразумела дачка, не захацела зразумець. «Табе, мамачка, не васемнаццаць гадоў». Быццам у сорак пяць гадоў сэрца баліць не так, як у васемнаццаць. Быццам у сорак пяць выветрываюцца з душы крыўда, трывога, рэўнасць, усе тыя балячкі, якія да скону кожная жанчына, нават самая шчаслівая, носіць у сабе.

Пра сваю вялікую кватэру намякнула дачка. «Як што якое — бяры Паўліка, Кацю, Людачку — і да нас». Не верыць, ні кропелькі не верыць у тое, што маці можа падаць на развод, але, на ўсякі пажарны выпадак, запрашае.

Развод... Маючы шасцёра дзяцей, разводзіцца з мужам... Ніна Іванаўна Матруніч памрэ ад здзіўлення — развальваецца ідэальная сям'я.

Дарэчы, дзяцей, малалетніх дзяцей, яшчэ трое. Трое астатніх пайшлі на свой хлеб.

А сем'яў не бывае і не можа быць ідэальных. У ідэальнай сям'і было б сумна жыць. Ды хоць раз перасалі, жонка, суп, хоць раз прайдзіся, муж, па чыстай падлозе ў мокрых ад дажджу чаравіках, пасварыцеся, пашуміце хоць адзін раз, і ад

233,

гэтага толькі мацнейшым будзе ваш саюз, бо пасля сваркі ў тых, хто кахае, заўсёды наступае прымірэнне, салодкае і жаданае.

У Дар'і Антонаўны з Іванам таксама не ўсё і не заўсёды было гладка. Проста Ніна Іванаўна Матруніч пры ўсёй сваёй інтуіцыі і назіральнасці так і не змагла выявіць ніводнай трэшчынкі ў іхніх адносінах. А трэшчынкі былі, і люстэрка іхняга кахання не разбілася толькі таму, што абое яны моцна любілі сваіх дзяцей. Так думала раней Дар'я Антонаўна.

І вось сёння, праз столькі гадоў сумеснага жыцця, аказваецца, што Іван не такі, якім здаваўся ёй увесь час. У ягонай душы яна не заўважыла падвойнае дно. Яна моцна кахала яго, а закаханыя — нібы сляпыя.

Ён хлусіў ёй усе гэтыя зімы і вёсны, якія яны пражылі разам. Навошта хлусіў? Дзеля чаго? Павінна ж быць нават у хлусні і здрадзе нейкая логіка. Яна б даравала яму ўсё, калі б ён пра ўсё расказаў, даравала б тады, але не цяпер. Цяпер у яе — яна адчувае гэта — строгая душа. Мацярынства, бяссонныя ночы над ложкамі немаўлятак далі ёй такую строгасць. Яна — маці, а сапраўдная маці нікому не можа даравáць здзеку з малога дзіцяці. Калі крыўдзяць дзіця, сваё, чужое, ёй балюча.

Дар'я Антонаўна, паглыбіўшыся ў свае не дужа вясёлыя думкі, пайшла ў дзіцячы сад, каб забраць Паўліка з Людачкай. Малых; яна ўбачыла на вуліцы — Паўлік, мурзаты, расчырванелы, драўлянай рыдлёвачкай капаў у пяску глыбокую ямку, Люда разам з сяброўкамі, затаіўшы дыханне, глядзела на тоўстага марудлівага чмяля, што нетаропка ўмошчваўся на кветку, якая расла на клумбе.

— Які ты мурзаты, Паўлік,— сказала Дар'я Антонаўна.

Маладзенькая выхавацелька ў гэты час засяроджана чытала кніжку.

— Ціха, мама,— прыклаў палец да вуснаў сын,— Мы шукаем нафту. Зараз павінен забіць фантан.

Яна прыйшла з дзецьмі дадому, напусціла ў ванну цёплай вады, памыла Паўліка, потым Люду. Яна намыльвала дзіцячыя галовы, церла мачалкай вузкія загарэлыя плечы і разумела, што ніякага разводу не будзе, не павінна быць. Дзецям патрэбна сям'я. Сям'я для іх — усё: сонца, хлеб, вера, шчасце.

Яна разумела, што ёй будзе цяжэй жыць, але, пакуль дзеці малыя, яна сцерпіць усё. Толькі для дзяцей захавае яна сям'ю, не для сябе. На полі жыцця яна, Дар'я Антонаўна Памалейкіна, жняя — ёй трэба жаць, жаць, хоць будзе грымець гром і будзе няшчадна смаліць сонца. Ён трэба жаць, забыўшыся пра сябе, бо ў канцы поля, пад высокімі жытнёвымі снапамі, седзячы на саматканай посцілцы, чакаюць яе дзеці.

Мыючы рукі пад кранам, Дар'я Антонаўна дзівілася: адкуль у яе ўзяліся думкі пра жняю, пра жытнёвыя снапы ў полі? І ўспомніла. І з гарадской кватэры на сорак гадоў назад перанеслася ў спякотнае лета, у бяскрайняе поле... Колькі ёй гадоў? Тры? Чатыры? Яна сядзіць пад вялізным снапом, калоссе колецца ў шчаку, побач — працягні руку — расце сіні васілёк на тоненькай-тоненькай ножцы. У полі жнуць жанчыны. Там — маці, там — баба Малання. Мужчын няма, мужчыны недзе ваююць. Спякота... Хочацца піць і есці... Яна, Даша, цярпліва чакае, пакуль скончыць свой загон баба Малання. Скончыць, цяжка выпрастае спіну, усміхнецца і абавязкова нешта ёй

дасць: то яблык, то агурок. «Еш, унучка». І зноў пойдзе ў поле, і зноў, здаецца, праз цэлы год, вернецца назад, каб нешта даць.

А потым з неба, з-за высокай белай хмары вынырнуў чорны самалёт. І жанчыны ў полі пачалі падаць. І баба Маланння ўпала, але адразу ж узнялася з гарачай зямлі, дабегла да яе, Дашы, расціснула сухі зморшчаны кулак: «Еш, унучка. Цукерачку для цябе зберагла. Хацела ўвечары, калі дажнём, табе аддаць...» І ўпаланазаўсёды...

— Мама, нехта да нас звоніць,— тузанула Дар'ю Антонаўну за руку Людачка.

— Што? Што, дачушка? — нібы прачнуўшыся, спалохана перапытала Дар'я Антонаўна. Ей усё яшчэ бачылася баба Маланння, з цукеркай у руцэ, з перакошаным ад пакуты чорным ротам.

— Звоняць да нас. Дзверы адчыні.

Дар'я Антонаўна адчыніла дзверы. Незнаёмая маладая жанчына ў расшпіленым плашчы стаяла на парозе.

— Дапамажыце, калі ласка,— спяшаючыся, загаварыла жанчына.— Светазару Аляксандравічу, вашаму суседу, вельмі дрэнна. Тэлефон у яго адключаны, і я не магу выклікаць «хуткую дапамогу»... Прашу вас...

Яна цяжка, перарывіста дыхала. Светлы попел яе валасоў трывожна мігцеў у паўзмроку калідора.

— Прашу вас,— паўтарыла яна і сваёй рукою лёгенька дакранулася да рукі Дар'і Антонаўны, нібы гэтым дотыкам хацела перадаць хваляванне і ўзрушэнне, што кіпелі ў ёй.

Дар'я Антонаўна кіўнула жанчыне, моўчкі накіравалася да дзвярэй кватэры Ізюмчыка. Яна ні разу не была ў гэтай кватэры. Іван быў, а яна не была. Цяпер нават цяжка сказаць, чаму ўсё так атрымалася. Галоўнай прычынай было, вядома ж, тое, што Светазар Ізюмчык жыў, паглыбіўшыся ў сябе, захапіўшыся адным сабою, але пры жаданні, пры вялікім жаданні можна было пранікнуць у ягоны свет, тым болей што свет гэты быў за дзесятак крокаў ад кватэры Памалейкіных.

Светазар Аляксандравіч ляжаў на канапе, накрыты пледам у чорна-залатую клетку. Твар у яго быў дужа бледны, вочы заплюшчаны, правая рука, таксама бледная, звісала ўніз, як надламаная галіна бярозы.

Дар'я Антонаўна асцярожна ўзяла гэту руку, пачала намацваць пульс. Рука была халодная, пульс, аслаблены, няўлоўны, знікаў. Маладая жанчына стаяла побач і плакала.

— Супакойцеся,— строга сказала Дар'я Антонаўна,— Ці ёсць тут хатняя аптэчка? Няма? Бяжыце да мяне ў кватэру, скажыце Каці,

гэта дачка мая, каб дала бутэлечку з карвалолам. І пазваніце ў «Хуткую дапамогу».

Яна паправіла пад галавой у Светазара Аляксандравіча падушку, расшпіліла яму кашулю, пайшла на кухню, каб наліць шклянку вады. Сцены кухні былі абклеены вялізнымі лістамі ватману. Нейкія табліцы, нейкія дыяграмы былі па гэтых лістах. Дар'я Антонаўна павярнула кран, краем вока глянула на адзін з лістоў. «Мой рэжым харчавання на вясенні перыяд» — прыгожым почыркам Светазара Аляксандравіча Ізюмчыка было выведзена на лісце. І ніжэй — назвы страў, колькасць грамаў, колькасць калорый. Кінуўся ў вочы надпіс-рэзалюцыя зялёным фламастэрам у кутку ліста: «Звярнуць асаблівую ўвагу па раслінную дыэту! Паменей ужываць вадкасці!»

«Божа мой,— з сумам падумала Дар'я Антонаўна,— Што ён — голадам сябе марыў? Хіба ж можна так?»

Маладая светлавалосая жанчына з бутэлечкай карвалолу ў руках ужо стаяла над Ізюмчыкам.

— Пазванілі ў «Хуткую»? — спыталася ў яе Дар'я Антонаўна.

— Так. Павінны прыехаць. Вось лякарства.

Дар'я Антонаўна накапала ў шклянку з вадой дваццаць пяць кропель карвалолу, уліла Ізюмчыку ў рот. У Ізюмчыка забулькала ў горле, ён папярхнуўся і неўзабаве слаба прыўзняў павекі.

— Што ў вас баліць? Сэрца? — нахілілася над ім Дар'я Антонаўна.

Ён наўцямна пазіраў на яе, спрабаваў, пэўна, разабрацца, што за жанчына размаўляе з ім.

— Сэрца ў вас баліць? — зноў спыталася Дар'я Антонаўна.

Ён слаба варухнуў чорнымі вейкамі, прашаптаў:

— Сэрца... А вы — суседка?

— Суседка, Светазар Аляксандравіч. Дрэнна мы з вамі суседзім, калі знаёмімся толькі ў час сардэчных прыступаў. Ляжыце спакойна, не хвалюйцеся. Вось-вось прыедуць урачы і дапамогуць вам, і ўсё будзе нармальна.

Вочы ў яго ўдзячна заблішчалі. Ён хацеў нешта сказаць, але толькі лізнуў языком вузкія пасінелыя губы. Ён зноў прыкрыў вочы.

Дар'я Антонаўна ўзяла маладую жанчыну пад руку, і яны адышліся ад хворага. Жанчына раптам спатыкнулася, ледзьве не ўпала.

— Гэта Свецікавкᵀ ганталі,— сказала яна, вінавата ўсміхаючыся, і засунула гантэлі пад ложак.

Яны, чакаючы ўрачоў, прыселі на кухні. Бляшанка зялёнага гарошку стаяла на стале. На бляшанцы — лустачка чорнага хлеба. Тут жа, на стале, ляжаў свежы нумар часопіса «Здоровье». Загарэлая

прыгожая дзяўчына ў зялёным купальніку бадзёра ўсміхалася з вокладкі.

— Вы хто будзеце Светазару Аляксандравічу?— далікатна пацікавілася Дар'я Антонаўна.

— Я? — жанчына кашлянула ў кулачок.— Мы са Сведкам два гады назад як ажаніліся. Ён, Свецік, добры, дужа добры. Можа трохі дзіўнаваты. Ён матэматык, піша кандыдацкую дысертацыю. І мы, каб не перашкаджаць навуковай рабоце, часова раз'ехаліся.

— Як гэта — раз'ехаліся?

— Я жыву ў сваёй мамы, а Свецік тут. Я да яго на выхадныя прыязджаю. Ён нават тэлефон абрэзаў, каб ніхто яму не перашкаджаў працаваць. Ён дужа настойлівы, Свецік. Хоча стаць вялікім вучоным.

— Ён можа стаць вялікім хворым,— сказала Дар'я Антонаўна.— Мая вам парада... Як вас, прашу прабачэння, завуць?

— Ірына Цімафееўна.

— Мая вам парада, дарагая Ірына Цімафееўна,— неадкладна вяртайцеся ад мамы сюды, неадкладна. Разам з мужам лягчэй і свой дом будаваць, і навуку штурмаваць. Па-першае, Светазару Аляксандравічу трэба змяніць рэжым харчавання. Мне здаецца, што ён дужа ў пост ударыўся. Нельга так. Ва ўсім патрэбна разумная мера.

— Вялікі вам дзякуй,— зачырванелася жонка Ізюмчыка,— Я й сама так думала, і Свеціку не раз казала. Ужо ж цяпер ён ад мяне не адкруціцца. Зраблю так, як вы раіце. Вялікі вам дзякуй.

— Вось і добра,— усміхнулася Дар'я Антонаўна.

Мінут праз дзесяць у дзверы пазванілі — прыехала брыгада «хуткай дапамогі».

«Дзіўны чалавек,— ужо дома думала пра Ізюмчыка Дар'я Антонаўна.— Незразумелы чалавек... Зашыўся ў кватэру, як суслік у нару. Я яго ні разу не бачыла ў прыстойным касцюме, у белай кашулі з гальштукам. Надзене шаравары, куртку, абуе кеды і — бягом у лес зарадку рабіць. Хаця, канечне, без здароўя ні навукі, ні гулянкі».

Яна ўспомніла, як галоўны ўрач на ранішняй пяцімінутцы расказваў пра звычаі клуба амерыканскіх мільянераў. Мільянеры тыя хочуць не проста доўга жыць, хочуць стаць бессмяротнымі. Але навука пакуль што не разгадала сакрэты бяссмерця, таму, паміраючы, мільянеры купляюць бяссмерце загадзя. Яны плоцяць вялікія-вялікія грошы, і прадстаўнікі спецыяльнай фірмы, як толькі спыніцца сэрца багатага нябожчыка, перарэзаюць нябожчыку вены, выпускаюць з цела ўсю кроў, а замест яе ўпырскваюць спецыяльны раствор. Потым мільянера нясуць у падзямелле і кладуць у герметычную камеру, у

якой заўсёды падтрымліваецца вельмі нізкая тэмпература. Так і ляжаць мільянеры ў падзямеллі, чакаюць, пакуль вучоныя выдумаюць элексір бяссмерця і ажываць іх. Некаторыя чакаюць гэтага ўжо каля сотні гадоў.

— Мама, дык мне можна заўтра на трэніроўку пайсці ў завушніцах? — прылашчылася, пацалавала ў шчаку Дар'ю Антонаўну Каця.

— Навошта яны табе на трэніроўцы?

— Хачу, каб Зіна Сукора іх убачыла,— хітранька ўсміхнулася Каця.

— Гэта тая Зіна, што цябе пад вадой за ногі хапае?

— Яна мяне ўжо не хапае. Мы з ёй пасябравалі.

— Эх, Каця, Каця,— уздыхнула Дар'я Антонаўна.— Пра грамадзянскую вайну кнігі чытаеш, пра камсамольцаў-герояў... Ведаеш, як тады камсамолкі хадзілі? У кірзавых ботах, у чырвоных паркалёвых хусцінках.

— Ведаю,— вочы ў Каці зрабіліся сур'ёзнымі.— Гэта быў час рэвалюцыйнага аскетызму. Так тады трэба было хадзіць. Нам на ўроку эстэтыкі Іван Дзянісавіч пра гэта расказваў.

І зноў яна не ўтрымалася, прашаптала на вуха маці з усмешкай:

— А скажы, дарагая мамачка, калі толькі справы ўпрыгожваюць чалавека, для чаго тады створана касметыка?

— Ох, Каця, Каця,— толькі і сказала Дар'я Антонаўна.

Вярнуўся з работы Іван. Бадзёра зняў плашч, разуўся, бадзёра накіраваўся ў ванную мыць рукі. Але ўбачыў жончын твар і адразу пацішэў.

Дар'я Антонаўна паставіла мужу на стол вячэру, сама пайшла ў дзіцячы пакой. Не хацелася ёй быць з Іванам. Не хацелася, і ўсё. А ніякай рады не дасі свайму сэрцу.

Іван хлябаў халаднік са свежага шчаўя са смятанай, засяроджана круціў у руцэ скібку хлеба. З кожным днём, ён адчуваў гэта, аддаляецца жонка. Раней села б каля яго, распытала пра работу, наліла б малака або квасу ў яго любімы гліняны кубак, які яны разам купілі ў Таліне. Ды ўсё змянілася. Прыехаў з Барысава сын, Сцяпан, і ўсё адразу змянілася. Мінулае быццам рашыла адпомсціць Івану Памалейкіну.

Прыбег на кухню Паўлік, спытаўся, тручыся аб бацькавы калені:

— Баба Яга ёсць?

Ён заўсёды ашаламляе нечаканымі пытаннямі.

— Ёсць,— адказаў Іван.

— А дзед Яг?

— Што? — не зразумеў Іван.
— А дзед Яг ёсць?

## X. ГОРАД

Павел Моніч са Сцяпанам Памалейкам выйшлі з магазіна, спыніліся каля газетнага кіёска. Міхаіл Аронавіч, кінааператар, ускочыў у тралейбус, памахаў ім адтуль рукой і паехаў на тэлестудыю.

— Шумнавата было,— усміхаючыся, сказаў Моніч. Ён паляпаў рукой па кішэнях, знайшоў дробязь, купіў пачак цыгарэт. Стаяў, курыў, тонкім струменьчыкам выпускаў з рота дым, глядзеў на Памалейку.

Сцяпан усё яшчэ не астыў ад узрушэння. Усё яшчэ чуліся яму гнеўныя галасы Люды Гусляковай, загадчыцы мяснога аддзела Паліны Андрэеўны. «Што — вынюхаў, сышчык?!»— крыкнула яму Люда, калі Моніч запрасіў у аддзел Цывільку і калі знялі на кінакамеру пусты прылавак, а потым пачалі здымаць халадзільную камеру, набітую каўбасой.

— Мне цяпер у гэтым магазіне не будзе жыцця,— прамовіў Памалейка, — Заклююць. Як вы думаеце?

— Шумнавата было,— як бы не пачуўшы ягоных слоў, зноў сказаў Моніч. Потым акуратна затушыў цыгарэту, усміхнуўся прыгнечанаму Сцяпану: — Давай пяройдзем на «ты». Так прасцей. Добра?

Сцяпан у знак згоды кіўнуў галавой.

— Ты абсалютна правільна зрабіў, што вывеў усіх гэтых жучкоў на чыстую ваду,— узяў Сцяпана пад руку Моніч.

Яны павольна пайшлі па нагрэтым, патрэсканым гудроне ў бок здзічэлага занядбанага саду, што рос насупраць магазіна. У садзе было шмат народу: хто загараў, лежачы на негустой траве, хто гуляў у валейбол ці ў шахматы; пажылая жанчына з вялікай капронавай сеткай у руках хадзіла між яблынь, зрывала з «нічыйных» дрэў маленькія крапіністыя яблычкі. На некаторыя невысокія яблыні яна нават залазіла, і тады загалялася спадніца на тоўстых незагарэлых нагах.

— Гадоў пад шэсцьдзесят будзе, а лазіць па яблынях, як малпа,— сказаў Сцяпан,— І ўсё з-за чаго? Каб узяць сабе тое, што дрэнна ляжыць, узяць бясплатна. Адкуль у людзей такое? Не разумею. У такой вайне парод выстаяў, усяму свету сябе паказаў, а тут...

— Не перабольшвай, Сцёпа,— міралюбна азваўся Моніч.— Гэта, мяркуючы па ўсім, адзінокая, яе дужа шчаслівая жанчына. Няхай яна сашчыкне адзін-другі яблычак, зварыць кампот, вып'е гэты кампот і

добрым словам успомніць усіх нас. У розных людзей розныя меркі шчасця.

— Не люблю такіх,— панура сказаў Памалейка.— І шчасце іхняе такое не люблю.

Селі пад яблыню. Непадалёку грымела магістраль. Рознакаляровай ракой імчаліся па ёй машыны і чародкі веласіпедыстаў. Сядзелі ў садзе, на траве, але і тут пах дыму перамагаў усе астатнія пахі. Здавалася, дымам пахне сама зямля.

— Як гэта ты сказаў гэтай дзяўчыне, што дужа шумела? Людай яе быццам бы завуць...— зноў напомніў пра кіназдымкі ў магазіне Моніч.

— Я сказаў, што на месцы наркома харчавання Цюрупы, таго Цюрупы, што быў пры Леніне, яна не страціла б прытомнасць ад голаду. Да гэтай Людкі я кліны падбіваў. Неблагая яна дзяўчына, з душой і з целам, як кажуць, але прападзе.

— Чаму прападзе? — пацікавіўся Моніч.

— Шыць яна будзе гадоў пад сто, энергіі ў ёй — як у вулкане Ключаўская сопка,— растлумачыў Сцяпан,— а прападзе яна як чалавек, як член грамадства. Яна, як і гэта вось верхалазка, што па яблынях лазіць, навучылася браць чужое і не чырванець. Я на свае вочы бачыў, як у магазіне яна ліла ў смятану кефір. А паглядзіш — цудоўная дзяўчына, сучасная і ўсё такое. Ты, Павел, камуніст? — запытаўся ён раптам.

— Камуніст,— адказаў Моніч.— Я, брат, на вайсковай службе ў партыю ўступіў. І, як камуніст, лічыў і лічу, што не можа, не павінна быць у члена партыі двух статутаў: аднаго для трыбуны, другога для ўласнай кухні. Адзін у нас статут, адзін закон: жыць так, як Ленін жыў.

Яны змоўклі, сцішыліся, кожны думаў пра сваё. Пакрысе барвянела неба. Вечаровы халадок пачаў выганяць людзей з саду. Людзі шумна кіраваліся да сваіх гарадскіх кватэр, накідаючы пасля сябе рваныя газеты, пакеты з-пад малака, металічныя і пластмасавыя коркі ад бутэлек, прытаптаную, прыбітую да самай зямлі траву. Адзіным гаспадаром у садзе застаўся вецер, і вецер гуляў між дрэў, свістаў у паламаным голлі. Вось ён прывалок аднекуль папяровы мяшок з-пад цэменту, мякка хвастануў ім Монічу па нагах.

— Фу ты!..— уздрыгнуў Моніч.— Пад'ём, Сцёпа! Гэтак і заначаваць тут можна. Куды пойдзем?

— Не ведаю, куды мне ісці,— нявесела сказаў Сцяпан, маючы на ўвазе не гэту хвіліну, не гэты вечар, а ўсю сваю будучыню ўвогуле.— З магазіна, канечне, трэба будзе звальняцца. Пасля такога пярэпалаху

галоўку гладзіць мне ніхто не будзе. Цывілька прамаўчыць, Цывілька і сёння зрабіў выгляд, што нічога не ведаў пра фокусы сваіх падначаленых. А вось астатнія,— ён пачухаў патыліцу.— Ёсць такая прымаўка: не выграбай смецце з хаты. Астатнія мне не даруюць.

Моніч бадзёра ляпнуў яго па плячы рукою.

— Не вешай нос. Ты ж, Сцёпа, не абы-хто, а барацьбіт за справядлівасць. Гучыць? Гучыць, і далёка гучыць. Ды пра цябе кнігі пісаць трэба. Вось чакай — скончу паэму і вазьмуся за цябе з усёй тваёй біяграфіяй. Біяграфія ж у цябе, вядома, рамантычная, баявая, як ты сам.

— Кнігу пра мяне ніхто чытаць не захоча. Нецікавая будзе кніга. А біяграфія мая...

І Сцяпан расказаў Паўлу ўсё сваё жыццё-быццё, пачынаючы з клёнікаў, што раслі каля барака ў Барысаве, пачынаючы з уцёкаў бацькі і аж па сённяшні дзень. І пра сваю жонку Люду расказаў, і пра сына Лёніка, і пра тое, як бацька ягоны, Іван Памалейкін, гуляў у фашысцкім канцлагеры ў футбол на замініраваным полі. Расказваў ён усхвалявана, быццам спавядаўся Монічу. Ён адчуў у ім блізкую душу, спагадлівае сэрца і нічога не ўтойваў.

Яны доўга хадзілі па садзе, над якім павісла загусцелая цішыня, потым паціху пабрылі да горада, выйшлі на асфальт. Горад яшчэ шумеў, вуркатаў у сваіх каменных берагах. Ды ўжо вечаровыя, задуменна-ціхія зоркі ўставалі над ім. Зоркі помнілі той час, калі на месцы магутнага бяссоннага горада цвілі пралескі і кіпелі на верасовых палянах цецеруковыя баі.

Насупраць высокіх ярка асветленых будынкаў чарнеўся хвойнічак, нізкарослы, шчупленькі, астравок лесу, які адступаў пад націскам бульдозераў і вежавых кранаў. У ім для дзяцей дарослыя пабудавалі казачны гарадок: драўляныя хацінкі, каляровыя грыбкі, пясочніцы. Удзень выхавацелькі прыводзілі сюды цэлыя караваны малых з дзіцячых ясляў і садоў, і хвойнічак напаўняўся, нібы птушынымі галасамі, дзіцячым піскам, крыкйм. Увечары, амаль штодзённа, тут гарэла цяпельца, у гарачым прысаку пяклася бульба, гучалі песні, пераважна вясковыя, напаўзабытыя, весела іграў гармонік. Ля цяпельца збіраліся яшхары бліжэйшых дамоў, людзі ў большасці сваёй сямейныя, спакойныя. Што вяло іх у гэты хвойнік, да гэтага кастра з гарадскіх кватэр, ад экранаў тэлевізараў? Свеяїае паветра? Азон?

Моніч ведаў пра гэтыя «лясныя вячоркі», пішучы паэму, некалькі разоў тут быў. Ён і сёння не выпадкова прыйшоў сюды са Сцяпанам Памалейкам.

Ён сядзеў на пяньку ў цемры, глядзеў на касцёр, на ажыўленыя твары людзей, слухаў песні. У людзей свяціліся памаладзелыя вочы, нібы вячэрні касцёр узнагародзіў кожнага сваімі гарачымі вугольчыкамі. Што прывяло сюды людзей? Голас вёскі, голас далёкага юнацтва? Усе яны жылі ў новым мікрараёне і ўсе ці амаль усе, былі калісьці вяскоўцамі.

Моніч глядзеў на гэтых людзей, на іхнія ўсмешкі і адчуваў свае бяссілле. Ён не мог, як ні стараўся, выказаць словамі гэту цішыню і гэтыя песні, гэту здзіўляючую еднасць чалавечых сэрцаў і полымя, гэта амаль рэлігійнае шапаценне агню і чорных дрэў. Слова было ўсяго толькі попелам думкі. Слова было кропляй дажджу, якой не напаіць скамянелую пустыню.

Пішучы сваю паэму, ён хацеў прымірыць горад з вёскай, зліць іх у адзіным рэчышчы. Яны ж, у сутнасці сваёй, былі аднолькавыя, горад і вёска. Яны задумваліся і будаваліся для адзінай мэты — для таго, каб у іх жыў і працаваў чалавек. Ад чалавека, толькі ад яго, залежыць, што ён хоча атрымаць, будуючы сабе новы дом,— цесную сумную клетку або кабіну касмічнага карабля, на якім яму ляцець у Вечнасць. Моніч адчуваў: яны абавязкова павінны зразумець адно аднаго — вёска і горад, але нялёгкім, пакутлівым шляхам прыйдзе гэта разуменне. Дзеля гэтага нечым трэба будзе ахвяраваць.

Сцяпан Памалейка думаў зусім пра іншае, пазіраючы на іскрысты касцёр. Ён радаваўся, што набраўся смеласці і пазваніў Монічу, што так рашуча, адным махам, разарваў павуціну, якая пачала была аплятаць і ягоную душу,— павуціну раўнадушша. Няхай ён нажыў сабе ворагаў, але ён зрабіў так, як падказала сумленне, і ён ні кропелькі не раскайваецца. Яны, тыя людзі, што звілі сабе цёплае гняздо ў магазіне,— мяшчане. Спажыванне, узведзенае ў культ,— вось іхняя самая галоўная прыкмета. Паболей браць ад жыцця, смачна піць і есці... І — усё... Ці не прымітыўна мала для чалавечай душы? Так могуць жыць хамякі або суслікі. Але хамякі і суслікі не ходзяць у тэатры і ў карцінныя галерэі, не чытаюць Гамера, не слухаюць музыку Бетховена... Якое ўсё-такі складанае і няпростае жыццё!

Дзяўчына, што сядзела каля кастра, узяла сасновую галіну, абвітую агнём, высока ўзняла яе ў цемры. Асвяціўся прыгожы твар. Яна здавалася старадаўняй вогнепаналосай жрыцай.

Калі адышліся ад кастра, Моніч запытаўся:

— Ну як, Сцёпа, спадабалася?

Вельмі спадабалася,— адказаў Сцяпан.— У іншых дварах, паглядзіш, у карты рэжуцца, «казла» забіваюць, а тут песні спяваюць. Ды як спяваюць!

І, здавалася, без ніякай лагічнай паслядоўнасці (але логіка была!) папрасіў:

— Павел Паўлавіч, памажы мне на завод уладкавацца. На завод мне трэба ісці. Хопіць, нагандляваўся.

— Правільна, Сцёпа,— адразу падтрымаў яго Моніч.— Памагу табе ўладкавацца. І ведаеш, на які завод? На гігант! На Мінскі трактарны. Там у мяне добры знаёмы ёсць — Васіль Буйвіла, токар-ас. Перадачу я пра яго рабіў на тэлебачанні. Ён што хочаш можа вытачыць з металу. Хоць вось гэтага матылька.

Моніч грабянуў рукой у паветры, злавіў вялікага белага матылька-начніка, які, пэўна, ляцеў праз хвойнічак на святло кастра. Матылёк нерухома ляжаў у яго на далоні. Толькі што ён быў жывы, трапятаў у вечаровым змроку. Моніч зморшчыўся, нібы яму раптоўна зрабілася балюча, асцярожна варухнуў рукою. Матылёк, як белы шматок паперы, ціха ўпаў на зямлю.

— Такі вечар нельга марнаваць бяздарна і бязмэтна,— гучна сказаў Моніч, ужо тупаючы па асфальце.— Такі цудоўны вечар павінен мець цудоўнае лагічнае завяршэнне, як кажуць, урачысты заключны акорд. Што можа быць такім акордам? Віно? Не. Мы ап'янелі ад народных песень. Жанчына? Было б нядрэнна, але толькі не ў гэты вечар. У гэты вечар трэба гутарыць з вечнасцю. І мы пагутарым з ёю, Сцёпа. Таксі! — закрычаў ён, шырока махнуўшы рукою.— Таксі!

«Куды ён мяне вязе?» — думаў Сцяпан Памалейка, седзячы побач з Монічам. Перад гэтым Моніч сказаў таксісту, маладому чарначубаму хлопцу: «На Паркавую магістраль». Можа, думалася Сцяпану, едзем у студэнцкі інтэрнат, у той самы, дзе жыве Леанід Старадзетка? Студэнты любяць вершы, і, магчыма, Павел хоча пачытаць там сваю паэму. Але ж студэнты, пэўна, на канікулах.

Мякка ўздрыгвалі стрэлкі прыбораў. Аўтамашына ўразалася ў вечаровы змрок.

На Паркавай магістралі яны пайшлі не да студэнцкага інтэрната, які, сціснуты з двух бакоў вышыннымі будынкамі, свяціўся ўсімі сваімі вокнамі, а накіраваліся да Свіслачы. Рака ў гэтым месцы ўжо была закавана ў бетон. А крыху вышэй па цячэнні з гарадской ракі яна пакрысе ператваралася ў ціхую лугавую прыгажуню, з астраўкамі чароту на водмелях, з мокрымі драўлянымі кладкамі, на якіх жанчыны мыюць бялізну, нават з жоўтымі бухматымі качапяткамі, якія падобны на пластмасавыя, цацачныя.

Пяць тонкіх дрэўцаў віднеліся на фоне густа-чырвонага вечаровага неба. Да іх і павёў Моніч Памалейку. Калі падышлі бліжэй,

аказалася, што дрэўцаў чатыры,— ля самай зямлі адно з іх раздвойвалася.

Селі на шурпатыя, нагрэтыя за дзень сонцам палявыя камяні-валуны. Гэтымі камянямі, як шэрым поясам, былі абкружаны дрэўцы. Цьмяная, лапатала ў змроку лістота.

— Тут! — урачыстым голасам абвясціў Моніч і прадэкламаваў:

Пакладзецца ўсё жывое камнем У сталёвым поступе гадоў.

Ён быў усхваляваны і не хаваў свайго хвалявання.

— Мы знаходзімся ў самым сэрцы гістарычнага Мінска, або Менска, або Менеска, як яго калісьці называлі. Дзевяцьсот гадоў назад тут, пры сутоку Нямігі і Свіслачы, быў дзядзінец — умацаваная драўляным тынам, ровам і валам цэнтральная частка Мінскага замка. А пачаў я свой расказ, Сцёпа, з радкоў даваеннага беларускага паэта Валерыя Маракова.

Моніч устаў, прыхіліўся да дрэўца плячыма, глядзеў туды, дзе цьмяна блішчала ў змроку серабро Свіслачы.

— Я пачынаю, брат. Я пачынаю Песню горада. Мы стаім з табою на зямлі нашых продкаў. Звычайная на першы погляд зямля: шэрая, падзолістая, будзённая, абмытая дажджамі, абпаласканая ветрам. Але вопытны археолаг, паглядзеўшы на гэту зямлю, пакапаўшыся ў ёй, скажа, што таўшчыня культурнага пласта тут дасягае шасці метраў. Амаль за тысячу гадоў зямля ўзнялася тут на шэсць метраў, схаваўшы ў сабе манеты і мячы, гліняныя збаны і металічныя наканечнікі коп'яў, бронзавыя спражкі ад плашчоў і касцяныя грабяні. А яшчэ ў гэтай зямлі можна знайсці дзявочыя ўпрыгожанні з сердаліку і крышталю, жалезныя палачкі для пісання, шахматныя фігуркі... А яшчэ — каменныя ядры, чорныя вугалі, попел...

Мінск пачынаўся, калі быць дакладным, не тут. Яго першыя сляды трэба шукаць за шаснаццаць кіламетраў на паўднёвы захад ад гэтага месца, там, дзе рака Менка ўпадае ў Свіслач, і там, дзе ручай Дунай, якога ўжо няма, упадаў у раку Менку. Потым мяняне, так называлі сябе тады жыхары Мінска, перабраліся сюды.

Гэта быў час маленства і юнацтва славян. Тут, дзе мы з табой сёння стаім, і на сотні вёрст наўкол ляжала Полацка-Мінская Русь. Дрымучыя лясы шумелі на гэтай зямлі. Блакітныя рэкі бруіліся між лугавых мядзвяных траў. Пушчамі валодалі магутныя касматыя зубры, лугамі — хутканогія гарачыя коні-тарпаны.

Але ўспыхнулі кастры ў лясах, човен парушыў маўчанне вады, плуг узвярнуў першую скібу шэразёму. Нашы продкі сталяваліся тут, сталяваліся назаўсёды. Яны ўзводзілі свае гарады. Вось імёны гэтых

першых гарадоў: Друцеск, Рша, Лукомль, Лагоска, Полцеск, Відбеск, Барысаў, Іжаслаў, Галоцічаск...

Гарадамі, як каранямі, наш народ урос у гэту зямлю. Гарады падстаўлялі свае моцныя грудзі полчышчам ворагаў. Гарады збераглі нашу славу і нашу надзею. Так было заўсёды: і ў часы старажытнарускіх княстваў, і ў Літоўска-беларускай дзяржаве, і тады, калі мы навекі з'ядналіся з Масквою.

«Беларусаў псуе горад...» Гэтыя словы, зняважлівыя, высакамерныя, сказаў калісьці нядобрай памяці Юзаф Пілсудскі. «Вялікі маршалак» хацеў, каб наш народ назаўсёды заставаўся народам сялянскім, народам хлопскім.

Лепшы адказ гэтаму гора-прароку — наш Мінск. Пакаленні беларусаў будавалі яго. Вось на гэтым месцы, дзе мы стаім з табой, Сцёпа, быў пакладзены першы камень у падмурак нашага Мінска. Яшчэ не было Варшавы, яшчэ не было Вільні... Не было Берліна, Стакгольма...

Ён стаяў на дарозе войнаў. Нас, беларусаў, не раз хрысціла агнём і жалезам вайна. Той, хто хоча даведацца пра пакуты і нягоды ваеннага ліхалецця, няхай спытае пра гэта ў нашых гарадоў. Яны, як салдаты, пакажуць свае раны.

Мы адбудавалі свае гарады, рукамі вясновых дажджоў мы змылі горкі попел. Мінск — я ўпэўнена кажу гэта, бо шмат ездзіў, шмат бачыў,— адзін з прыгажэйшых гарадоў краіны. І няхай не засмучае цябе тое, што ў параўнанні з іншымі гарадамі ў ім, магчыма, не так многа гістарычных помнікаў. Нашы помнікі праглынула полымя войнаў.

І сёння мы павінны спыніць, калі гэта неабходна, бяздумную руку архітэктара, горадабудаўніка, якая, можа і ненаўмысна, можа па маладой нявопытнасці і гарачнасці, уздумае, наводзячы на горад мадэрновы глянец, схаваць, забраць ад людскога вока старадаўнія, святыя для ўсіх нас цагліны. Ты згодзен са мной, Сцяпан.

— Згодзен,— кіўнуў галавой Памалейка.

Яго ўсхвалявалі словы Моніча, ён глядзеў на паэта не адрываючыся, нібы ўбачыў яго ўпершыню.

— Сёння шмат пішуць і шмат гавораць пра дэмаграфічны феномен Мінска,— пагладзіў рукою цёплую кару дрэўца Моніч.— Адразу пасля вайны, калі складваўся першы генеральны план забудовы горада, Мінск быў разлічаны архітэктарамі на пяцьсот тысяч жыхароў. Сёння ў ім жыве болей чым мільён трыста тысяч чалавек. Гораду робіцца цесна ў сваіх межах, ён — як малады здаровы хлопец, што перарос дзіцячую кашулю.

Па апошнім перапісе насельніцтва ў Мінску жыве шэсцьдзесят восем працэнтаў беларусаў. А з нашай вёскі ўсё едуць і едуць у горад людзі. Хто па навуку, хто па доўгі рубель, хто па спецыяльнасць, хто па шчасце, ды па шчасце едуць усе, па-рознаму яго разумеючы. І кожны хоча, каб горад быў добрым для яго. Добрым, Сцёпа. Бо спрадвеку вясковец баяўся горада, у горадзе, па разуменні вяскоўца, жылі паны і шулеры, якія былі створаны для таго, каб абдурваць мужыка.

Сёння горад стаў добрым, стаў зразумелым. І, едучы ў горад, мы павінны несці ў яго сваю культуру, мову, сваё, народнае, разуменне дабра і справядлівасці. Толькі так, Сцёпа.

Ты, Сцёпа, карэнны гараджанін, а я ўчарашні вясковец. І я ведаю, што дарогі назад, у вёску, для мяне ўжо няма. Я ўжо даўно адплакаў сваю вёску, адплакаў тайнымі горкімі слязьмі, адплакаў яшчэ тады, калі, зусім зялёны, ціхмяны і горды, прыехаў у Калінінград, у Прусію, як называлі ў той час мае бацькі Калінінградскую вобласць. Я ўбачыў абсмаленыя шкілеты дамоў, вуліцы, засыпаныя цэлымі горамі патрушчанай чырвонай цэглы. Адсюль на працягу стагоддзяў выпаўзала свінцовагаловая гідра вайны.

Каля кафедральнага сабора я знайшоў магілу Імануіла Канта, вялікага філосафа, і доўга стаяў каля яе. Да магілы падыходзілі маўклівыя людзі, чыталі надпіс на гранітнай пліце. Рыпела пад нагамі разбітае мёртвае шкло. Непадалёку маладзенькія курсанты з Калінінградскай мараходкі вучыліся страявому кроку.

— Раз-два! Раз-два! — гучна камандаваў вясёлы чарнавусы мічман.

Я ўжо ведаў, што Імануіл Кант быў вельмі пунктуальным чалавекам, нават занадта пунктуальным. Па ім, па ягоным распарадку дня, звяралі гадзіннік на вежы кафедральнага сабора. Ён ішоў з бібліятэкі на абед, і ўсе ведалі: зараз роўна дзве гадзіны дня, ні на ёту меней, ні на ёту болей.

Філосаф Кант быў вельмі пунктуальным чалавекам, чалавекам-хранометрам. Тады ж чаму, думалася мне, так катастрафічна намыліўся гадзіннік германскай гісторыі? Што здарылася з вывераным звышдакладным механізмам? Адказ быў адзін, і я ведаў гэты адказ: была дапушчана трагічная памылка — ключык ад гадзінніка германскай гісторыі апынуўся ў кішэні Адольфа Гітлера.

Я глядзеў на разбураны горад, першы горад у маім жыцці, бо да гэтага я толькі ездзіў за шэсць кіламетраў у мястэчка, і халодны страх павольна ўпаўзаў мне ў сэрца. Як я буду тут жыць? Што буду рабіць? Каго сустрэну?

З таго дня прайшло шмат гадоў, Сцёпа. Я пабачыў шмат гарадоў, вось ужо пятнаццаць гадоў, як жыву ў Мінску. І я скажу табе: я палюбіў горад. Ты скажаш, што горад адбірае ва ўсіх нас цішыню і свежае паветра, што часам ён робіць з нас марыянетак, якія спяшаюцца, самі не ведаючы куды. Я згодзен, я часткова згодзен з табой. Так, ён нешта ў нас забірае, нешта прыглушвае. Але непараўнальна больш ён дае. Горад пабудавалі таму, што ён зрабіўся неабходным. Горад, як нястомнае сэрца, што злучвае нервы і вены ўсіх дарог. Мы, разнерваваўшыся, стаміўшыся, праклінаем яго і зноў вяртаемся да яго, бо ён — наш дом, радзіма нашых дзяцей. Мы любім гэтыя сцены, гэтыя тратуары, гэтыя іскры з-пад трамвайнай дугі.

Большасць з нас ведаюць горад толькі каменны і шумны. А я магу расказаць пра начны горад, пра восеньскі горад, пра горад у навальніцу. Я помню горад зімовы, калі з навакольных палёў прыходзіць у яго белая завея. Я помню горад ранішні, калі першы аўтобус, як першы ручаёк, бяжыць па халоднай маўклівасці вуліц. А яшчэ я ведаю горад святочных дэманстрацый, чырвона-залаты, бадзёры... А ёсць горад футбольных матчаў, калі амаль усе мужчыны кіруюцца ў бок стадыёна... Я ніколі не забуду горад жалобны, горад прыціхлы і строгі, калі ён праводзіць у апошні шлях сваіх вялікіх сыноў. Помніш, як хавалі паэта Петруся Броўку, як ішла жалобная бясконцая працэсія па Ленінскім праспекце? Увесь Мінск затаіў у той міг дыханне.

Гарады, як і людзі, перажываюць свае ўзлёты і падзенні. Жахлівым сном дваццатага стагоддзя можна назваць тое, што зрабілі са сваімі гарадамі палпотаўцы, так званыя «чырвоныя кхмеры», у Кампучыі. Яны давялі да абсурду лозунгі аб першынстве вёскі над горадам. Яны захацелі мець «чыста сялянскую дзяржаву» і аб'явілі вайну гарадам.

17 красавіка 1975 года ў Пнампені капітуляваў марыянетачны праамерыканскі ўрад. Радасныя жыхары Пнампеня выйшлі на вуліцы, каб сустрэць сваіх вызваліцеляў. Усюды былі кветкі, усмешкі... І раптам... Спачатку не ўсе зразумелі, што адбываецца. Узброеныя людзі, якія ўвайшлі ў горад, пачалі разганяць жыхароў прыкладамі аўтаматаў, штыкамі. «Быдла! Свінні! Здраднікі! Амерыканскія прыхвасні!» — раз'юшана гарланілі яны. Па цэнтральнай вуліцы пранёсся вайсковы «джып», і чалавек з мегафонам крычаў: «Усім пакінуць горад! Хутка пачнецца бамбардзіроўка! Усе жыхары павінны пакінуць горад неадкладна і назаўсёды!»

Ужо праз суткі два мільёны людзей ішлі з Пнампеня ў сельскія раёны, у горы, у джунглі. Таго, хто выказваў хоць якую нязгоду,

расстрэльвалі, а часцей, каб сэканоміць патроны, забівалі матыкамі, пераразалі горла завостраным пальмавым лістом.

Людзей загналі ў «камуны». Гэтыя «камуны» былі створаны на вайсковы лад. Жыхары кожнай кампучыйскай вёскі дзяліліся на аддзяленні, узводы, роты. Мужчын і жанчын трымалі паасобку. Не дапускалі шлюбы па ўзаемнай згодзе, начальства па сваёй прыхамаці жаніла незнаёмых людзей. Забараняліся прозвішчы, кампучыйцам пакінулі толькі імёны. Забаранялася чытаць кнігі, часопісы і газеты. Чытанне было адным з самых найцяжэйшых «грахоў». Перапіскі не стала, бо была забаронена пошта. «Знізіць да нулявой адзнакі культурны ўзровень народа» — такая была афіцыйная ўстаноўка палпотаўцаў. Сотні тысяч кніг былі выкінуты ў воды ракі Меконг. «Я забіваў у першую чаргу тых, хто насіў акуляры,— прызнаваўся былы агент палпотаўскай ахранкі Самун.— Калі ў акулярах, значыць, умее чытаць і, значыць, можа мець шкодныя думкі. І наогул акуляры — вынаходства буржуазіі».

Пры гэтых словах Сцяпан Памалейка асцярожна зняў свае акуляры, пачаў іх праціраць насоўкай. Моніч глянуў на яго і зноў пачаў гаварыць:

— «Дэмакратычнай Кампучыяй кіруе Ангка, партыйная арганізацыя,— павучаў сваіх суайчыннікаў Іенг Сары.— Падзякуйце Ангцы за тое, што яна пакінула вам жыццё і дазволіла ўдзельнічаць у нашай справе нацыянальнага адраджэння. Трэба будзе працаваць, працаваць, працаваць... Кожнай сям'і Апгка адвядзе ўчастак лесу, па 15 сотак на кожнага дарослага чалавека. Вы павінны абрабіць гэты ўчастак і перш за ўсё ўзняць цаліну.

Не думайце, што гэты ўчастак зямлі будзе вашай прыватнай уласнасцю. Ангка зробіць усё, каб вытруціць з вас інстынкт уласнасці.

Рытм працы будзе вызначацца па сонцы. Кожны вечар вас будуць выклікаць у кааператыў для таго, каб выслухаць справядлівыя і прадбачлівыя парады Ангкі, якія дапамогуць вам «перабудавацца». Ні вашы дзеянні, ні вашы намеры не пройдуць па-за ўвагай Ангкі, якая ўсё бачыць і ўсё ведае. Не думайце ні пра што іншае, акрамя працы. Думае і рашае Ангка. Яна мозг, а вы — рукі і цела. Хіба вы бачылі калі-небудзь, каб рукі ўзбунтаваліся супроць мозгу?»

І людзі працавалі ад цямна да цямна. Кожны член «камуны» меў права адзін раз у год атрымаць адзін камплект баваўнянага адзення. Яшчэ дазвалялася мець міску і лыжку. Людзі галадалі. Два хлопчыкі, гадоў дванаццаці, не ўтрымаліся і залезлі па мангавае дрэва, каб сарваць некалькі пладоў. Адразу ж «чырвоны кхмер» падышоў да дрэва, ускінуў стрэльбу і, не кажучы ні слова, стрэліў два разы.

Смяртэльна параненыя хлопчыкі ўпалі на зямлю. «Будзьце асцярожныя,— сказаў «чырвоны кхмер»,— нічога не кратайце без дазволу «арганізацыі». Ведайце, што ўсё належыць народу і ўсё будзе размяркоўвацца справядліва».

— Дык гэта ж рабства! Фашызм! — усхвалявана ўсклікнуў Сцяпан Памалейка.

— Гэта кампучыйская «мадэль мааізму»,— сказаў Моніч.— Праўда, кітайская мадэль пакідае гарады і грошы. Гэта ж, кампучыйская, не пакідае нічога. Я думаю, што невыпадкова галоўнай сваёй мішэнню гэтыя фанатыкі выбралі гарады. Яны баяліся гарадоў, як начныя совы баяцца святла. Горад згуртоўвае людзей, згуртоўвае рабочых, інтэлігенцыю, згуртоўвае нацыю, а ім хацелася падзяліць усіх на маленькія групкі, бо так лягчэй расправуляцца з непакорнымі.

А вось — зусім іншае разуменне горада, ягонай ролі. Гады тры назад мне выпадкова трапілася ў рукі англійская кніга. Я больш-менш ведаю англійскую мову і прачытаў кнігу. Гэта быў фантастычны раман, «раман жахаў», як яго называюць на Захадзе. Жахаў там і сапраўды было мнагавата.

Уяві сабе сучасны заходнееўрапейскі або амерыканскі горад. Вузкія глыбокія каньёны вуліц, мора мітуслівай нахабнай рэкламы, тысячы аўтамашын... Горад жыве, працуе, задыхаецца ад смогу, «робіць грошы», ходзіць па сеансы стрыптызу, стаіць у чарзе на біржы для беспрацоўных, гуляе ў гольф на зялёных лужках мільянерскіх асабнякоў... А ў гэты час унізе, пад горадам, у вечным змроку каналізацыйных труб, у смуродзе і гніенні, самаарганізавалася Клаака, самаарганізаваліся, адным словам, нечыстоты. Кожны дзень рэкі бруднай адпрацаванай вады, горы смецця выкідвае са сваіх каменных цяснін горад. І ўсё гэта накапляецца ўнізе, у каналізацыйных трубах. І вось пры адпаведнай тэмпературы з хімічных элементаў, якія раствораны ў нечыстотах (а там ёсць і цынк, і калій, і ртуць, і бром: ёсць усё) арганізавалася нейкая жывая маса, арганізавалася Нешта. Гэта Нешта дужэла, расло, павялічвалася ў аб'ёме, харчавалася нечыстотамі, якія кожную гадзіну спраўна пастаўляў горад. Ужо зачаткі прымітыўных эмоцый пачалі выводзіць з раўнавагі Нешта. Калі баставалі рабочыя камунальных службаў і горад абрастаў гразёю, Нешта задаволена прыцмоквала, мірна пакалыхвалася ў сваіх змрочных падзямеллях. У яго было шмат ежы. Калі ж вучоныя вынайшлі больш эфектыўныя ачышчальныя ўстаноўкі і ў каналізацыйныя трубы адпаведна пачало паступаць менш розных хімічных элементаў, Нешта гневалася, кіпела ад ярасці, ламала жалезныя краты падзямелляў, зрывала цяжкія металічныя накрыўкі каналізацыйных калодзежаў.

Тады жыхары горада з недаўменнем і трывогай слухалі, як равуць, калоцяцца або дзіка рагочуць водаправодныя трубы ў іхніх кватэрах.

І вось аднойчы Нешта зразумела, што яму цесна ў падзямеллі. А наверсе грымеў, вуркатаў горад, заліты сонечнымі промнямі. Горад быў рознакаляровы, вясёлы, а Нешта было пякельна-чорнае, сумнае. І Нешта рынулася ў атаку на горад. Нешта пачало наступленне па сістэме ўсіх гарадскіх труб.

У Нешта была страшная зброя — доўгія ўчэпістыя шчупальцы-прысоскі. Чалавек заходзіў у ванную, і там яго хапалі агідныя халодныя шчупальцы, у якіх праз колькі хвілін ён паміраў. Тое ж самае здаралася ў туалеце. Гаспадыня мыла ў кухоннай ракавіне гародніну, а шчупальцы-прысоскі апляталі жаночыя рукі, душылі жанчыну.

Паліцэйскія ўлады, а потым і армейскія, кінулі супроць Нешта ўсіх сваіх людзей, узброеных напалмам, дынамітам, атрутнымі газамі. Яны заганялі Нешта ў падзямелле ў адным месцы, але яно вырывалася на паверхню, як грозны вулкан, у многіх іншых. Яно было мабільнае, хітрае, з імгненнай рэакцыяй, яно не шкадавала нікога: ні паліцэйскіх, ні маленькіх дзяцей. Халодныя агідныя шчупальцы з аднолькавай лютасцю і раўнадушшам хапалі за горла мільянераў і беспрацоўных, белых і пеграў. І горад капітуляваў. Гараджане кінулі свае кватэры, канторы, бальніцы, казармы, заводы і рынуліся з горада ў лясы і палі, туды, дзе была голая зямля і не было ніякіх каналізацыйных труб. Нешта, з гулам і свістам, з дзікім рогатам, вырвалася з падзямелля, разломваючы асфальт, і расцяклося па вуліцах і плошчах. Яно было дужа галоднае, бо паліцэйскія і салдаты доўгія месяцы трымалі яго ў блакадзе, і адразу пачало жэрці дрэвы, клумбы, а потым і мачты асвятляльных ліхтароў. І ўжо нецярпліва паглядала ў бок зялёных лясоў і палёў, туды, дзе, ледзьве жывыя ад страху, прытаіліся гараджане.

Вось так, Сцёпа. Праўда, жахліва? Прачытаўшы гэту кніжку, я ўсю ноч не мог заснуць. Усю ноч мроіліся нейкія пачвары. Я нават, шчыра табе прызнаюся, пахадзіў па кватэры і шчыльна-шчыльна, як мог, закруціў усе краны. Я ляжаў у ложку і думаў. Я думаў аб усіх фашыстах і неафашыстах, аб усіх тэрарыстах, аб усіх гэтых «чырвоных брыгадах», што не даюць ні мінуты спакою сучасным заходнім гарадам. Гэта тая ж Клаака, тыя ж нечыстоты, што вырваліся на волю з падзямелляў. Як галодныя пацукі, яны кусаюць усіх, хто трапляецца на дарозе. Яны крычаць аб свяшчэннай барацьбе за свабоду пралетарыяту. Хлусня! Пралетарыяту не патрэбны такія абаронцы. Ён сам, пад кіраўніцтвам сваёй партыі камуністаў, заваюе шчасце для сябе і для сваіх дзяцей.

Усе гэтыя ультрарэвалюцыянеры развязалі партызанскую вайну ў гарадах. Помніш, як увесь свет ускалыхнула забойства Альда Мора? Зноў, паміж усяго іншага, робіцца замах на горад, на яго культуру, на яго традыцыі. Горад робіцца запаведнікам дынамітчыкаў, вотчынай анархістаў. У чалавечым сэрцы хочуць выклікаць недавер да горада, страх перад горадам. Але горад, дзіця чалавечых рук, і тут пераможа. Петраград Леніна — вось прыклад для ўсіх нас, вось дарога, па якой пойдуць у будучым усе гарады зямлі.

Моніч змоўк, сеў на шурпатыя камяні побач са Сцяпанам Памалейкам. Дастаў цыгарэту, закурыў. Ужо не было відаць Свіслачы. Там, дзе нядаўна зіхцела серабро ракі, ляжаў глухі змрок. Сцяпану падумалася, што дзевяцьсот гадоў назад у такім самым цёплым глухім змроку падплывалі да Мінскага замка дубовыя купецкія чаўны, і купцы выходзілі з чаўноў, трымаючы ў руках запаленыя паходні, каб асвятліць сабе дарогу. І тады, як сёння, хвалявалася ў цемры, усхліпвала павольная рачная вада.

— Распіваем? — пачуўся раптам урачыста-звонкі, міралюбны голас.

Моніч са Сцяпанам уздрыгнулі ад нечаканасці.

Сяржант міліцыі, высокі, мяркуючы па голасе, малады, стаяў непадалёку. Партатыўная рацыя папісквала на грудзях. Цяжка было разглядзець у змроку ягоны твар, але Сцяпан чамусьці быў перакананы, што сяржант усміхаецца. Вось сяржант падышоў бліжэй, і дробныя каменьчыкі, якімі была густа ўсыпана зямля, затрашчалі пад падэшвамі чаравікаў.

— Распіваем? — зноў спытаўся ён.

— Вы пра што? — не зразумеў Моніч.

І тут нібы нехта тузануў за язык Сцяпана Памалейку. Ён узняўся, энергічна абцягнуў на сабе куртку, бадзёра сказаў:

— Ужо канчаем, таварыш сяржант. Але спецыяльна для вас яшчэ пакінулі сто грамаў. Не адмоўцеся.

— Распіццё спіртных напіткаў у грамадскіх месцах забаронена,— строга сказаў сяржант.

— Якія спіртныя напіткі? Дзе вы іх бачылі? — пачаў злаваць Моніч. З высокіх нябёсаў ён ужо апускаўся на зямлю.

— Пройдзем са мной у аддзяленне,— далікатна казырнуў сяржант.

— А дзе ж ваш хмелеўборачны камбайн? — лагодным голасам наіўнага шарамыгі, запытаўся Сцяпан. У ягонай душы яшчэ скакаў вясёлы чорцік.

— Які камбайн? — усміхнуўся сяржант.

Ён, пэўна, быў з вяскоўцаў, з тых старанных працавітых хлопцаў, якія адслужылі два гады ў войску і не вярнуліся ў калгас, а ўладкаваліся ў горадзе, хто слесарам, хто шафёрам, хто міліцыянерам. Напамінак аб камбайне развесяліў сяржанта.

— Я маю па ўвазе міліцэйскую патрульную машыну, якая падбірае п'яных,— растлумачыў Сцяпан.

— Гумарыст,— уважліва паглядзеў на Сцяпана сяржант.— Я, ведаеш, сам гумар люблю. Райкін... Чарлі Чаплін... Але сёння я на службе. І таму прашу следаваць за мной.

— Таварыш сяржант,— ледзь не ўзмаліўся Моніч.— Ды ён жа проста жартуе. Мы не выпілі ні кроплі спіртнога.

— Вельмі добра,— лагодным голасам сказаў сяржант.— Я сам п'ю толькі па святах. А ў аддзяленні разбяруцца — пілі вы ці не пілі.

У аддзяленні міліцыі за вузкім карычневым сталом, на якім стаяў тэлефонны апарат, сядзеў дзяя«урны, стомлены капітан з вялікімі залысінамі. Перад ім ляжала тоўстая кніга. У кнігу ён запісваў прозвішчы, месца работы і адрасы затрыманых.

Моніч з Памалейкам сціпла селі каля сцяны па абабітыя чорным дэрмацінам крэслы. Якраз у гэты самы момант перад капітанам расслаблена ўсміхалася прыгажуня гадоў дваццаці двух — дваццаці пяці, у блакітным парыку, з падмаляваным «японскім» разрэзам вачэй. На прыгажуні была бліскучая чырвона-зялёпая сукенка. Калі прыгажуня паварочвалася, па сукенцы прабягалі медныя сполахі.

— Значыць, вы не адмаўляеце, што распівалі ў рэстаране каньяк і віно з грамадзянінам з Эфіопіі, а потым хацелі зайсці з ім у яго гасцінічны нумар? — стомлена спытаўся ў яе капітан.

— Не адмаўляю,— загадкава і п'янавата ўсміхнулася прыгажуня.

— І калі персанал гасцініцы затрымаў вас, вы ўчынілі скандал?

— Гэта не зусім так, таварыш капітан,— паварушыла плячамі прыгажуня.— Проста мы з Толікам рашылі пагутарыць, узняліся ў ліфце на паверх, а там дзяжурная...

— Грамадзяніна з Эфіопіі завуць Толікам? — не даў ёй дагаварыць капітан.

— Ах, у іх такія цяжкія імёны,— апусціла галоўку, уздыхнула прыгажуня.

Моніч з Памалейкам цярпліва чакалі.

— Вы ж зусім малады чалавек,— па-бацькоўску дакараў капітан семнаццацігадовага вучня-электрыка з камвольнага камбіната.— У вас усё наперадзе. Але вы не так пачынаеце жыццё, не праз тыя дзверы хочаце ў яго ўвайсці. Няхай вам гэты вечар паслужыць добрым урокам. Ідзіце і падумайце пра свае недахопы.

— У мяне няма недахопаў,— бадзёра ўсміхнуўся будучы электрык.— У мяне, таварыш капітан, часам бываюць перахопы.

І ён пстрыкнуў сабе пальцамі па горле.

Нарэшце капітан узняў стомленыя вочы на Моніча і Памалейку.

— Прашу вашы дакументы.

Уважліва разглядаў Мошчаў пашпарт (у Сцяпана ніякіх дакументаў пад рукой не аказалася), вярнуў, спытаўся ў Моніча:

— Вы, здаецца, літаратар?

— Здаецца,— усміхнуўся Моніч.

— Вось пра што смялей павінна пісаць наша літаратура. Пра гэтых людзей. Пра іх паламаныя лёсы,— сказаў капітан.— А вас за што затрымалі?

— Сяржант думаў, што мы пілі гарэлку. А мы проста сядзелі над рэчкай. Можаце ўзяць нас на экспертызу, калі не верыце,— усхвалявана загаварыў Сцяпан Паламейка.

Яму было вельмі сорамна і непрыемна, што з-за яго, з-за ягонай балбатлівасці, трапіў у аддзяленне Моніч.

— Экспертызы не трэба,— узняўся з-за стала капітан,— Не буду хваліцца, але ў мяне такое натрэніраванае вока,, што я п'янага і пад зямлёй убачу. Вас прывёў сяржант Панімашчанка, малады наш супрацоўнік. Перастараўся хлопец. Ад імя службы прашу прабачэння. Вы свабодныя, таварышы.

І ўжо калі Моніч з Памалейкам пайшлі да дзвярэй, раптам папрасіў:

— Павел Паўлавіч, дапамаглі б вы нам, як паэт, выпусціць насценгазету, нашу «Калючку». П'янтосаў трэба біць з усіх бакоў. Ударылі б вы з боку літаратуры — вершам, байкай, фельетонам. Матэрыялаў у нас хапае. Можам даць канкрэтныя прозвішчы. Маякоўскі і Кандрат Крапіва ў свой час не цураліся такой работы, і нядрэнна ў іх атрымлівалася. Падумайце, Павел Паўлавіч.

— Падумаю,— паабяцаў Моніч,— А пакуль — да пабачэння.

Зноў іх сустрэў вячэрні горад: мігценне агнёў, шалясценне шын, ажыўлены натоўп на тратуары. Напэўна, у Палацы спорту скончыўся нейкі матч або канцэрт, бо людская бясконцая рака цякла па Паркавай магістралі. Церусіў дробны дождж, і многія з пешаходаў узнімалі над сабой парасоны. Парасоны раскрываліся з мяккім сухім шорхатам.

— Уся бяда ў тым, што застолле з радаснай сустрэчы родных, сяброў ператварылася ў месца механічнага ўжывання алкаголю. Быццам людзі спаборнічаюць, хто болей вып'е.

Моніч сказаў гэтыя словы і наставіў каўнер ярка-жоўтага плашча.

— Позна ўжо,— нерашуча прамовіў Сцяпан. Ён з сумам думаў пра тое, што зараз развітаецца з Монічам і праз увесь горад паедзе ў свой інтэрнат. А заўтра... Што рабіць заўтра? Трэба на імя Цывількі падаць заяву аб звальненні з магазіна. А потым?..

— Дык ты не забыўся, Сцёпа, што на заўтра ў нас назначана аўдыенцыя ў токара-аса Васіля Буйвілы? — паклаў яму на плячо руку Моніч.— Ведаеш, як гэты Буйвіла сам сябе называе? Токар па металу, па хлебу і па салу.

Ён засмяяўся. І гэты смех вярнуў Памалейку бадзёры настрой.

— Дзе мы заўтра сустрэнемся, Павел Паўлавіч? — спытаўся ён.

— Заўтра мы можам сустрэцца і не сустрэцца,— сказаў Моніч,— А каб гэтага не здарылася, нам трэба сёння не разлучацца. Таму я запрашаю цябе, Сцёпа, пераначаваць у мяне. Абяцаю каву, тэлевізар, цікавую кнігу перад сном Адным словам, камфорт, які па кішэні грамадзяніну з сярэднім акладам. Згода?

Яны селі ў аўтобус і паехалі па кватэру да Моніча. «Ён паводзіць сябе са мной так, нібы я яму раўня»,— думаў Памалейка пра паэта. Было ніякавата ад такой думкі, і, пакуль ехалі ў аўтобусе, ён маўчаў, слухаў, што гаворыць Моніч, глядзеў у акно, хаваючы сваю разгубленасць.

Моніч заварыў каву, дастаў з серванта маленькія, з напарстак, кубачкі.

— Пі,— сказаў ён Сцяпану,— Захочаш дабаўкі, налівай. Але злоўжываць гэтым зеллем не трэба, асабліва нанач.

Уключылі тэлевізар. Трансліраваўся футбольны міжпародны матч — нашы гулялі з фінамі. Фіны, высакарослыя, светлавалосыя, прайгравалі нашым у хуткасці. Але нашы хутка бегалі, ды няважна білі па варотах, і на табло былі нулі.

— Дык твой бацька, кажаш, гуляў у футбол на замініраваным полі? — запытаўся Моніч,— Толькі фашысты маглі дадумацца да такога, толькі фашысты...

Ён змоўк, памешваў лыжачкай каву.

— А калі глянуць на гэта шырэй,— нарэшце зноў загаварыў ён,— калі ўзяць гэта як паэтычны вобраз, дык у кожнага з людзей жыццё — футбол на замініраваным полі. Не ведаеш, дзе і калі грымне выбух. І трэба гуляць. Гуляць чэсна, смела, гуляць да канца. Ты любіш футбол?

— Люблю,— адказаў Сцяпан,— Сам, як у школе вучыўся, гуляў.

— І я люблю. Але люблю глядзець, як гуляюць іншыя. Прыйдзеш на стадыён, сядзеш на самую верхнюю лаўку (я з самага верху люблю глядзець) і чакаеш. Выбягаюць на размінку футбалісты, потым выбягаюць суддзі, увесь стадыён замірае, і — пайшло. І ты ўжо ў нейкім іншым вымярэнні. Толькі што побач з табой сядзеў салідны мужчына, мяркуючы па модным гальштуку і па сівых, акуратна падстрыжаных бакенбардах, шаноўны дэкан якога-небудзь шаноўнага факультэта, і вось ён крычыць, як хлапчук, свішча, заклаўшы ў рот чатыры пальцы, і нават цалуе цябе, калі нашы забіваюць гол. А што робіцца, калі забіваюць гол! Нейкая спружына падкідвае ўсіх. Стадыён апладзіруе, крычыць «ура», спявае, плача ад радасці.

Футбольная ігра нечым падобная, дарэчы, на літаратурны твор. У ёй ёсць свой сюжэт: завязка, кульмінацыя, развязка. Ёсць свае героі, як станоўчыя, так і адмоўныя. Ёсць свае крытыкі.

Гол — квінтэсенцыя ўсяго. І вось тут паміж футбольнай гульнёй і літаратурай адзіная і, бадай, самая істотная розніца. На футбольным полі гол — гэта долі секунды, якія мячык ляціць у сетку, вокамгненны поспех. Літаратура ж — забіванне гола, якое расцягнулася на ўсё пісьменніцкае жыццё. І часам нават жыцця не хапае...

Раніцою Моніч разбудзіў Сцяпана ў сем гадзін. Быў ён у адных плаўках, жылісты, загарэлы, вясёлы.

— Рабі фіззарадку,— кінуў ён гантэлі на ложак Сцяпану. Сам прысядаў, махаў рукамі, скакаў па адной назе, адрываў ад падлогі і выкідваў угору двухпудовую гіру.

Дзверы на балкон былі адчынены, і з вуліцы ў пакой урываўся цёплы вецер. Беласнежная фіранка на акне варушылася, як жывая. Ранішняе сонца зырка асвятляла высокія, да самай столі, паліцы з кнігамі.

Сцяпан адчуў радаснае трымценне ва ўсім целе, нібы праз хвіліну трэба было аж з-пад самых воблакаў скокнуць з парашутам. Яму было ўжо вядома такое адчуванне. Значыць, на цэлы дзень гарантаваны добры пастрой.

Моніч пазваніў на тэлестудыю, дамовіўся наконт рэпетыцыі, і яны паехалі да Васіля Буйвілы. Васіль павінен быў ісці на работу ў другую змену і, па разліках Моніча, знаходзіўся зараз дома.

— Пазнаёмлю цябе з сучасным рабочым чалавекам,— весела гаварыў Моніч,— Я пра яго тэленарыс рабіў. Звярнуўся ў партком. Так і так, дайце, прашу, адпаведную кандыдатуру, каб малады быў, каб актыўны быў, каб кругагляд меў шырокі. Мне адразу і рэкамендавалі Васіля Буйвілу. У яго, кажуць, усе гэтыя якасці ёсць. І ён, у дадатак

да ўсяго, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола і ўзнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

— Ён што — «маяк»? — асцярожна пацікавіўся Памалейка.

— Такая тэрміналогія цяпер не ў модзе, дарагі Сцёпа. «Маякі» былі ў пяцідзесятыя гады. Васіль Буйвіла — перадавы рабочы, рацыяналізатар, вынаходнік. Ды сам убачыш, што за ён.

У мікрараёне Серабранка яны прайшлі па шырокай новай вуліцы, знайшлі дзевяціпавярховы дом, і ў першым пад'ездзе, на першым паверсе Моніч пазваніў у кватэру, каля якой стаялі два дзіцячыя, запырсканыя гразёю веласіпедзікі, пачакаў, лёгенька штурхануў дзверы, і яны расчыніліся.

— Ні ад кога не хаваюцца Буйвілы,— усміхнуўся Моніч.

Васіль Буйвіла, у майцы, у доўгіх сініх трусах, быў «сланом». На чацвярэньках, цяжка сапучы, хадзіў ён па пакоі, а два ягоныя сыны, два Буйвільчыкі, як адразу назваў іх Моніч, сядзелі на спіне ў бацькі, весела галёкалі, мякка білі яго кулачкамі, камандавалі:

— Слон, павярні налева. А зараз, слон, паедзем на кухню — трэба цябе напаіць вадой.

Данута, жонка Васіля Буйвілы, невысокая, смуглашчокая, у яркім квяцістым халаціку, чысціла, відаць, люстранога карпа. Рукі былі ў бліскучай рыбінай лусцэ.

— Авой,— разгублена прамовіла яна, убачыўшы Моніча і Памалейку.— Госці да нас, а тут такі вэрхал. Пецяя, Грышка! — крыкнула яна сынам.— Ану злезьце з бацькі! Як вам не сорамна? Такія вялікія хлопцы, а ўсё б куляліся ў бацькі па карку. А ты, Вася, хутчэй апраніся.

— Добры дзень, Данута Іосіфаўна,— падаў ёй руку Моніч, і ў той руцэ быў невялічкі букет. Як у фокусніка атрымалася ўсё у Моніча — Сцяпан нават не заўважыў, адкуль ён выцягнуў кветкі.

— Добры дзень, добры дзень, Павел Паўлавіч,— ажно заружовілася Данута.— Трэба вам хутчэй заводзіць маладую жонку, каб кветкі ёй дарылі.

Яна прыціскала да грудзей букет, глядзела на Моніча шчаслівымі ўдзячнымі вачамі. А ён ужо даваў малым па шакаладцы.

У гэты самы міг Сцяпану Памалейку да збою ў дыханні, да млявасці ўспомніўся Лёнік, ягоны сын Лёнік. Што робіць у гэтыя імгненні сын? Ці ўспамінае бацьку?

Васіль Буйвіла ўжо апрануў зялёны спартыўны касцюм, прычасаў, прыгладзіў задзірлівы аўсяны чуб. Шчокі яшчэ былі гарачыя, вішнёвыя ад валтузні з дзецьмі. Ён паздароўкаўся з Монічам, затым са Сцяпанам.

— Прымай гасцей, токар-ас,— бадзёра сказаў Моніч.— Ці можа ўжо дырэктарам завода стаў?

— Куды там!..— усміхнулася Данута, запрашаючы гасцей у невялікую, абклееную светла-блакітнымі шпалерамі, залу.— З яго дырэктар завода, як з мяне касманаўт. Сёння ўсю ноч пратырчаў у сваім кавальскім корпусе. Аварыя там нейкая была...

— Аварыя? Якая аварыя? — адразу пасур'ёзнеў Моніч.

— Ды не слухай ты гэту Данку-панікёрку,— засмяяўся Васіль, падсоўваючы гасцям крэслы з мяккімі чырвонымі спінкамі.— Дробязь... На ковачнай машыне вал паляцеў, зламаўся ў начную змену. Трэба было новы вытачыць...

— А чаму ж Юрка-юрыст не ўзяўся тачыць, а па цябе прыбеглі? — не здавалася Данута.

— Таму што, Даначка, твой муж, як пісаў у сваім нарысе Павел Паўлавіч, токар-ас,— горда махнуў аўсяным чубам Васіль,— Юркаюрыст сказаў, што тры змены трэба на гэты вал пакласці, а я зрабіў за чатыры гадзіны. А вал гэты, між іншым, з чарвячнай разьбой ды з рознымі паяскамі, закавыркамі. Тонкая рэч.

— Хвалі сам сябе, пакуль людзі не пахвалілі,— ставячы на стол талерку з яблыкамі, сказала Данута.

— Вашага мужа, Данута Іосіфаўна, асабіста я расхваліў на ўсю рэспубліку,— шырока ўсміхнуўся Моніч,— Я назваў яго не толькі асам. Я параўнаў яго работу з работай скульптара. Токар, як і скульптар, адсякае ўсё лішняе. Была грубая металічная балванка, а застаецца жывая цёплая дэталь. Калі хочаце, рэч мастацтва застаецца.

— Ён, Павел Паўлавіч, любіць, калі яго хваляць. Папку яму піянеры на сустрэчы падарылі, дык ён у ёй збірае ўсё, што пра яго пішуць.

— Сціхні ты, не сакачы,— пачырванеў Васіль Буйвіла.

Жончын напамін пра папку збянтэжыў яго. Каб згладзіць няёмкасць, ён сказаў:

— Цяпер маладыя на токараў не дужа ідуць. Ёсць прафесіі, дзе і грошы можна большыя зарабіць, і рамантыкі, прэстыжу болей. У мяне — персанальны станок. А ў другую змену прастойвае — не хапае токараў.

— Якой у цябе маркі станок? — спытаўся Моніч.

— Пачынаў я на станку «ДіП». Ведаеце, што гэта значыць? Дагнаць і перагнаць. Лозунг першых пяцігодак. Нічога станочак — як звер, цягне.

— Ты мне пра «ДіП» гаварыў.

— Гаварыў,— згадзіўся Буйвіла.— Цяпер ужо ўсюды ставяць станкі з лічбавым праграмным кіраваннем. А я не люблю іх. Я люблю рабіць усё сваімі рукамі, а яны — паўаўтаматы. Разумееце — адну і тую ж дэталь кожны токар па-рознаму робіць. А паўаўтамат пячэ дэталі як аладкі — усе падобныя, ідэнтычныя. І кваліфікацыі ад токара асаблівай не патрабуецца. Укладзі перфакарту, пастаў загатоўку і здымай гатовую дэталь. Сум. Хоць плач, хоць піва пі. Хаця, канечне, будучыня за такімі станкамі. Я на такарна-вінтарэзным пакуль раблю, на «ІМ-63». Дакладнасць работы — мілімікрон,— не ўтрымаўся, пахваліўся ён.

— А ты скажы Паўлу Паўлавічу, дзе ты цэлы месяц пракачаўся,— астудзіла мужа Данута.

Васіль незадаволена паморшчыўся.

— На абследаванні ляжаў. У вушах пачало шумець. Змену адраблю, выйду за прахадную, і пачынаюць камары ў вушах спяваць. Тоненька-тоненька... Прафесар, які мяне правяраў, кажа, што гэта ад эмацыянальных перагрузак. Здзівіўся, калі даведаўся, што я токарам працую. Думаў, што я які-небудзь інтэлігент.

— Можа, Вася, трэба на лягчэйшую работу пакуль што перайсці,— параіў Моніч.

— Ён пяройдзе,— хмыкнула Данута,— Чакайце. Яму ўжо даўно майстрам прапаноўвалі стаць. Адмаўляецца.

— Не хачу быць веласіпедыстам,— сказаў Васіль, узяўшы з талеркі жаўтабокі мокры яблык.

— Пры чым тут спорт? — не зразумеў Моніч.

— Ён так, Павел Паўлавіч, майстра называе,— растлумачыла Данута.

— Не бачу падабенства паміж веласіпедыстам і заводскім майстрам.

— Ёсць падабенства, Павел Паўлавіч,— засмяяўся Васіль,— Зверху гнецца, а ўніз цісне. Гнецца ад начальніка цэха, а цісне на рабочага.

— Вунь яно што,— таксама засмяяўся Моніч,— Сучасны рабочы фальклор. Трэба запомніць, абавязкова трэба запомніць.

Ён пасур'ёзнеў, сказаў Васілю:

— Дык, гаворыш, токараў не хапае?

Буйвіла кіўнуў галавой.

— У меру сваіх сціплых магчымасцей пастараюся хоць трошкі запоўніць вакуум. Вось гэтага маладога сімпатычнага чалавека, які сядзіць побач са мной, завуць Сцяпанам Памалейкам. І ён прагне

стаць токарам. Вазьмі яго, Васіль, да сябе ў кавальскі корпус і зрабі з яго першакласнага станочніка.

Васіль і Данута глянулі на Сцяпана. Той ад няёмкасці закашляўся ў кулак.

— Праўда хочаш стаць токарам? — крануў ягонае плячо рукою Васіль.

— Хачу,— сказаў Сцяпан.

— А дзе ты цяпер прачуеш або вучышся?

— Скончыў у Барысаве дзесяцігодку. Працаваў у Мінску... так... у адным месцы...

Сцяпан не захацеў прызнацца, што быў грузчыкам у прадуктовым магазіне.

— Ясна,— усміхнуўся Васіль,— А што ўмееш рабіць? Да чаго душа горнецца?

— Ды не сакачы ты, Вася,— перапыніла яго Данута,— Дай чалавеку з думкамі сабрацца.

— Я на акардэоне ў гарадскім Доме культуры іграў,— горда сказаў Сцяпан. Ён адчуў, як да яго вяртаюцца спакой і ўпэўненасць. Ён раптам заўважыў на талерцы паміж яблыкаў асу, доўгую, тонкую, вяртлявую. Як яна трапіла ў талерку, дурніца?

— На акардэоне іграеш? І добра іграеш? — узрадаваўшыся, перапытаў Буйвіла.— Ну, тады няма чаго вешаць нос. Тады ўсё — лады. У цябе ёсць адчуванне рытму, а гэта самае галоўнае для токара.

Ён узняўся з крэсла. Ён быў крыху ніжэйшы за Сцяпана, танклявы, худы, але ўгадвалася немалая сіла ў плячах, у смуглых кісцях рук.

— Дакументы ўсе ў цябе ёсць? — спытаўся ён у Сцяпана.— Пашпарт, працоўная кніжка...

— Усе.

— Тады заўтра ідзём у аддзел кадраў.

Адчуўшы, што размова ў дарослых заканчваецца, у залу забеглі дзеці.

— Татка, ты абяцаў з намі на веласіпедах на двары пакатацца. Ты абяцаў.

Буйвіла ўсміхнуўся, весела глянуў на Моніча, пасля на Сцяпана.

Выйшлі на двор. Дзеці хуценька селі на веласіпеды і з галёканнем памчаліся наперагонкі. То адзін вырываўся ўперад, то другі. Вузкія пругкія шыны лёгка разразалі вільготны жоўты пясок.

## XI. АГОНЬ

На тэлестудыю Моніч звычайна хадзіў пешшу. Гэта займала сорак — сорак пяць мінут. Толькі калі была нявыкрутка з часам, калі Баталін праводзіў ранішнюю рэдакцыйную планёрку, ён садзіўся ў тралейбус.

Ідучы на працу, ён займаўся «класіфікацыяй думак». Гэта было яго ўласнае адкрыццё, яго творчая тайна — думкі, вобразы, якія назапашваліся на працягу мінулага дня, вечара і ночы (так, і ночы, бо нечаканае яркае параўнанне магло прыйсці ў любы міг сутак), раніцою ён сістэматызаваў, разбіваў на групы.

Цікавую думку можна было вычытаць у класіка. Калі яна ўражвала, ашаламляла, ён запісваў яе ў свой гросбух, каб некалі выкарыстаць, і не лічыў гэта плагіятам. Ён добра запомніў параду аднаго старога літаратара: «Чытай каментарыі да твораў класікаў і будзеш геніем».

Нечаканую свежую думку мог нарадзіць самы, здавалася б, нязначны выпадак, факт: слова, пачутае ў вулічнай мітусні, форма і колер хмары, што плыла над горадам, позірк сустрэчнага чалавека, голуб, які спяшаўся да бліскучай дажджавой лужыны на асфальце.

Ён быў паэтам і, значыць, быў магнітам, на які асядаюць уражанні. Ён, ягоная душа былі губкай, якая ўбірала ў сябе навакольны свет ва ўсіх яго праявах. Гэта было радасна — адчуваць сваю ненатольнае^ жыццём, але гэта страшэнна стамляла, бо магнітам і губкай трэба было быць не дзень і нават не год, а ўсё жыццё.

На кожнага сустрэчнага чалавека ён міжволі глядзеў як на магчымага персанажа свайго твора. Некаторыя людзі, людзі з тонкай структурай душы, адчувалі ў ім паляўнічага за вобразамі і раптоўна, як бы баронячыся, закрывалі сваю душу. Так пад занадта гарачым пранізлівым промнем сонца складвае, збірае ў пучок свае пялёсткі кветка. Ён тады губляўся, яму было няёмка.

Калі ён пачынаў пісаць буйны твор, калі думкі, як хвалі, пачыналі ісці адна за адной і нават захліствацъ адна адну, ён казаў сам сабе: «Я пайшоў у мора». Гэтаму ён навучыўся ў Калінінградзе. Там рыбакі казалі абсалютна так: «Я пайшоў у мора», і гэта азначала, што чалавек на пяць-шэсць месяцаў знікае для сваіх родных, для берага, для таго, што было такое блізкае яшчэ ўчора. Пяць-шэсць месяцаў ён будзе ў моры, сам-насам з хвалямі, ветрамі, адзінотай і сабой. І толькі праца будзе лячыць яго ад усяго благога, толькі праца...

Сёння ў Моніча быў нядрэнны настрой. Паэма «Вялікае перасяленне» хоць і пісалася імпульсіўнымі штуршкамі, але пісалася кожны

дзень. Значыць, ён увайшоў у рабочы рытм, адчуў дыханне твора. Гэта было надзвычай важна. Цяпер ад самога яго залежыць, ці ўтрымаецца ён у такім рытме і тэмпе.

Ён рэзка абмежаваў свае «выхады ў свет». Нават у кіно не хадзіў, нават з Веранікай не бачыўся амаль месяц. Толькі для Сцяпана Памалейкі ён выкраіў цэлы дзень (ажно цэлы дзень!) і быў вельмі задаволены, што зрабіў гэта.

Сцяпан адразу спадабаўся яму сваёй неардынарнасцю, чэснасцю, прагай справядлівасці, сваім «донкіхоцтвам». «Пакуль нараджаюцца такія хлопчыкі, пакуль яны жывуць побач з намі, на нашай зямлі — можна пісаць паэмы пра вялікае і высакароднае»,— думаў ён.

У Памалейкі, на думку Моніча, была ў характары вельмі важная рыса. Ён не хацеў падабацца ўсім, ён нават не спрабаваў рабіць гэта. Жаданне падабацца ўсім — чыста жаночае жаданне. Мужчына, сучасны мужчына, ні ў якім разе не павінен імкнуцца да гэтага.

Добра, што Сцяпан уладкаваўся на завод. І вельмі добра, што першыя ягоныя крокі рабочага чалавека будуць на вачах у Васіля Буйвілы.

Моніч ішоў па вуліцы спорным цвёрдым крокам, і на душы было лёгка і свабодна, быў «душэўны камфорт», як гавораць псіхолагі.

Вялікая белая хмара, падобная на прасвечаную сонцам ільдзіну, плыла ў сінім ранішнім небе. З такіх хмар ніколі не бывае дажджу, нават дожджыку. Яны занадта міралюбныя, белыя ціхія хмары летняй раніцы.

На вуліцах было няшмат народу. Асноўная маса людзей на аўтобусах, тралейбусах і трамваях ужо раз'ехалася, кожны на сваё месца работы. Натоўпу на вуліцах няма, ёсць тоненькі ручаёк пешаходаў. Але і ў самым маленькім ручайку сустракаюцца часам экзатычныя рыбіны.

Вось ідзе насустрач Монічу сярэдніх гадоў мужчына. Не ідзе, а «шэствуе». Высокі, статны, густавалосы, у ярка-жоўтым скураным пінжаку, з модным гальштукам. Ён дэманструе сябе, сваю абаяльнасць і ўпэўненасць. Горад, вуліцы, людзі — толькі фон для яго. Быццам ніколі не было ні мокрых штонікаў, ні мамы, што клапатліва выцірала яму носік, быццам ён сам сябе нарадзіў, і адразу ж у такім элегантным выглядзе.

На тэлестудыі да Моніча падышоў Летуценнік у дублёнцы, сказаў прыцішаным спалоханым голасам:

— Шэф цябе з самага рання шукае, два разы заходзіў уласнаю персонаю. Сцеражыся — сёння ён падобны на разгневанага Зеўса. А я знікаю, я, як і заўсёды, пайшоў у народ.

У сваім кабінеце Анатоль Баталін сустрэў Моніча халодным, калі не ледзяным, позіркам. «У вачах у шэфа ёсць нешта антарктычнае»,— гаворыць у такіх выпадках Верачка Скрыль.

— Прывітанне, Толя,— сказаў, усміхаючыся, Моніч і падаў Баталіну руку.— Прабач, што трохі затрымаўся. Такая сёння цудоўная раніца! Неба чыстае, звонкае...

Але Баталін не даў уцягнуць сябе ў дыскусію наконт цудоўнага надвор'я. Ён вялавата паціснуў Монічу руку і адразу перайшоў у наступ:

— Міхаіл Аронавіч казаў, што вы ездзілі ў нейкі прадуктовы магазін і рабілі там кіназдымкі. Хто вас туды пасылаў і што гэта ўсё значыць?

Ён сеў у сваё крэсла, не запрасіўшы сесці Моніча. Павел сеў без запрашэння.

— Для якой перадачы рабілі вы кіназдымкі ў магазіне? — дапытваўся Баталін,— І наогул, што гэта за анархізм?

— Можаш лічыць, Толя, што гэтыя кіназдымкі — ініцыятыва знізу, інцыятыва мас. А калі больш дакладна і канкрэтна — гэта мая ініцыятыва,— сказаў Моніч.

— Але мы не планавалі ніякіх кіназдымак ні ў якіх прадуктовых магазінах,— Баталін трымаў у руках востра заточаны аловак і дзюбай алоўка, графітам («сэрцам» — успомнілася Монічу, як называлі графітавы стрыжань ён і яго сябры-аднакласнікі) з усяго маху ўдарыў у свой настольны каляндар. «Сэрца» зламалася. Малюсенькі кавалачак графіту ўпаў на шкло, якое прыкрывала стол.

— Нам паступіў сігнал з магазіна, што там парушаюцца правілы гандлю,— як мага спакайней растлумачыў Моніч.

— Ну і што? Ты падмяніў сабой органы міліцыі, народны кантроль. Хто даў табе такое права?

— Гэта права мне дало званне савецкага журналіста. Ты таксама носіш такое высокае званне, Толя.

— Не займайся дэмагогіяй. Высокае званне... Адным словам, лічы, што кіназдымку вы з апаратарам правялі ўхаластую. Я не дам яе ні ў адну маладзёжную перадачу.

Баталій шумна дыхаў. Пасма валасоў, што хітра маскіравала аблыселае цемя, з'ехала набок.

— Добра,— узняўся з крэсла Моніч.— Тады я аддам яе ў рэдакцыю навін. Там, думаю, хлопцы больш смелыя, не адмовяцца.

— На што ты намякаеш? — таксама ўзняўся з крэсла Баталін. Праз антарктычны лёд у вачах пачало прабівацца полымя.

— Я не намякаю, Толя. Я скажу табе проста ў вочы, як сябру: дужа ты стаў асцярояшічаць апошнім часам. Для кіраўніка маладзёжнай рэдакцыі гэта не самая лепшая рыса характару.

— Куды ж ты загадаеш мне ісці працаваць? — іранічна ўсміхнуўся Баталін.

— Я не тваё начальства, каб табе загадваць. А па праву старога сябра магу прапанаваць: ідзі ў рэдакцыю музычных праграм. Ды і там цяпер не проста. І там трэба быць смелым чалавекам, трэба рашаць — даваць джаз ці не, агітаваць за дыска-музыку ці не. Так што не магу табе нічога параіць. Ды лепшая мая парада, Толя: зноў зрабіся такім, якім ты калісьці быў.

— Ну вось што, Моніч,— шырокай далонню змёў са свайго стала малюсенькі кавалачак графіту Баталін,— з сённяшняга дня ў нас з вамі пачнуцца афіцыйныя адносіны, толькі афіцыйныя — без панібрацтва, без дэмагогіі. Так будзе карысней для справы і для нас абодвух. Да наступнай серады папрашу вас здаць перспектыўны план вашай работы на чацвёрты квартал. Усё.

Ён зноў сеў у сваё крэсла.

— Усё,— сказаў Моніч і пайшоў да дзвярэй. Па калідоры, не заглянуўшы ў рэдакцыю, ён накіраваўся на выхад.

У вялікім студыйным холе чакаў чаргі на рэпетыцыю жаночы этнаграфічны калектыў. Пэўна, толькі што прыехалі бабулі, маладзіцы і дзяўчаты са сваёй далёкай вёскі. Разгублена азіраліся наўкол, сціскалі ў руках самапрадкі, скруткі кудзелі. У яркіх народных уборах, загарэлыя, прыгожыя, яны здаліся Монічу веснавым лужком, які раптоўна расцвіў паміж аднатонна-шэрых студыйных сцен.

Разгараўся дзень. Як і не было сіняй бадзёрай раніцы. Палівальныя машыны марудна паўзлі па гарачым асфальце, распырскваючы зеленаватую ваду. Асфальт дыміўся. Так дыміцца гарачы бохан хлеба, які дастаюць з печы і змочваюць вадой.

Моніч думаў пра Баталіна. Дужа сціплы быў Апатоль, калі толькі прызначылі яго галоўным рэдактарам. Нібы саромеўся сваёй улады. Сядаючы ў рэдакцыйную аўтамашыну з Мошчам або яшчэ з кім, садзіўся не побач з шафёрам, на «начальніцкім месцы», а ззаду, там, дзе сядзелі падначаленыя. «Начальніцкае месца» доўгі час пуставала.

І ўсё-такі выпрабаванне ўладай Анатоль не вытрымаў. Спачатку сеў каля шафёра, на «начальніцкае месца», потым пачаў павышаць голас на Летуценніка ў дублёнцы, як на самага цішэйшага, потым, на планёрках, як бы між іншым, пачаў гаварыць падначаленым: «Вы не хочаце зразумець мяне па-харошаму, і я вымушаны дзейнічаць як афіцыйная асоба».

Улада — такі крыж, які не кожны панясе. Служыў з Мошчам у арміі Саша Дзербянёў, сімпатычны рабочы хлапец са Свярдлоўска. Разам прызываліся, разам праходзілі курс маладога байца. Цудоўны быў сябра. Але вось прызначылі яго камандзірам аддзялення, і назаўтра ж гэты самы Саша аб'явіў перад усім строем Монічу нарад паза чаргой. Прыйшлі ў аддзяленне навабранцы, і аднаму з іх, трактарысту са Смаленшчыны, Калініну, Дзербянёў аддаў сваю новенькую шапку-вушанку, сказаў: «Яна мне цесная, а ў цябе галава вялікая — разнасі мне яе да суботы. У суботу мне ў горад звальніцельную выпісалі».

Няспешна ішоў Моніч па тратуары, і думкі паступова прымалі свой звычны кірунак. Галоўнае для кожнага чалавека — добра працаваць. А для яго, Моніча,— добра працаваць і адначасова добра пісаць паэму. Кожны ўрабляе сваю ніву, шчыруе на ёй, і кожнаму, калі наступіць восень, трэба будзе ўбіраць ураджай, ураджай свайго чалавечага жыцця.

Раптам Моніч прыпыніў крок. Яму падалося, што ў расчыненым акне ярка-сіняй «Лады», якая мякка пранеслася па вуліцы крокаў за дзесяць ад яго, мільгануў твар Веранікі. Ён вельмі добра помніў гэту горду насадку галавы, трагічна-адухоўлены злом броваў, палёт чорных валасоў, падхопленых ветрам. Ён нават на нейкую долю секунды ўбачыў усмешку, якая трапятала на вуснах у Веранікі. Вераніка ўсміхалася і, прытрымліваючы рукой валасы, глядзела на свайго спадарожніка, маладога мужчыну ў белай кашулі, у чорных сонцаахоўных акулярах.

Пранеслася аўтамашына, пранеслася ўсмешка Веранікі... Моніч разгублена стаяў на тратуары.

Вераніка ж павінна быць на Нарачы, яна так пісала ў сваёй запісцы. Чаму яна ў Мінску, у гэтай «Ладзе», побач з гэтым мужчынам? Ён не мог памыліцца — гэта Вераніка, толькі Вераніка...

«Вось яна — асіметрыя жыцця,— падумалася Монічу.— Былы сябра здымае стружку і пагражае страшнымі карамі, жанчына, з якой хацеў дзяліць сэрца, хлеб і будучыню, на камфартабельным аўтамабілі едзе, усміхаючыся, з маладым прыгажуном...»

— Таксі! — закрычаў Моніч. І побач з ім затармазіла таксі. Гэта быў цуд, падарунак неба. Машыну з магічнымі пташачкамі на баку цяжка дачакацца нават па спецыяльных стаянках, а тут — тармозіць таксі, пад'язджаючы да самага тратуара. «Адзін шанец са ста»,— сказаў бы Летуценнік у дублёнцы.

— Едзьце вунь за той сіняй «Ладай»,— прывітаўшыся, сказаў Моніч таксісту.

Гэта было падобна на фрагмент з дэтэктыўнага кінафільма — інспектар крымінальнага вышуку ўскокваў у першую сустрэчную машыну і гнаўся за злачынцам. Таксіст, малады светлавалосы хлапец, паглядзеў на яго, як падалося Монічу, з радасным здзіўленнем. Але ў гэты міг Моніч бачыў перад сабой толькі хуткую «Ладу», у якой ехала вясёлая і няверная каханка.

Калі каханне — сонца, то рэўнасць — сонечнае зацьменне. Тысячагоддзі было так і яшчэ тысячагоддзі будзе. Будзе да тых часоў, пакуль прырода зможа нараджаць прыгожых жанчын і гордых смелых мужчын, якія за адзін пялёстак з кветкі кахання здольныя аддаць усё.

Моніч адчуваў, як перахоплівае дыханне, як сушыць у роце. Ён рыўком расслабіў вузел гальштука.

Пад чырвоным святлом сфетафора яны дагналі «Ладу». Ніякай памылкі — у ёй была Вераніка. Смуглыя аголеныя рукі, якія Моніч калісьці назваў ліянамі... Пунсовы маленькі рот... Чорныя іскрыстыя промні вясёлых вачэй...

Загарэлася зялёнае святло. «Лада» рванулася з месца, за ёй хацеў прыстроіцца шафёр таксі, але Моніч сказаў:

— Не трэба...

Шафёр зноў паглядзеў на яго з радасным здзіўленнем, з нейкім чаканнем. Моніч падумаў, што шафёр чакае, калі кліент расплоціцца за паездку, і хуценька дастаў з кашалька рубель.

— Я правёз вас бясплатна,— сказаў раптам шафёр. У яго быў глухаваты голас.

— Хіба з сённяшняга дня адмяняецца плата за праезд? — спытаўся Моніч.

— Справа ў тым, Павел Паўлавіч, што я ваш зямляк. Я таксама родам з Захараўшчыны, сын Арсеня Шамаля. Памятаеце майго бацьку? Ён у леспрамгасе трактарыстам рабіў.

Моніч глянуў на шафёра, глянуў на фотакартку, прымацаваную на панелі для прыбораў. Пад фотакарткай было напісана: «Шамаль Аляксандр Арсеньевіч».

— Зямляк,— усклікнуў Моніч.— Вось дык яно! Сустрэліся дзве іголкі ў стозе сена. Дык ты з нашай Захараўшчыны?

— З самой Захараўшчыны,— радасна засмяяўся светлавалосы шафёр.— Наша вулічная мянушка Дразды. Я тры гады назад скончыў там дзесяць класаў, адслужыў армію і ўжо паўгода на таксі раблю. Са знаёмых вас першага сустрэў.

Ён гаварыў так усхвалявана, так шчыра свяцілася радасць у невялікіх сініх вачах. У яго была татуіроўка на кісці левай рукі — змяя абвівае кінжал.

І гэтыя светлыя валасы, і сінія вочы, і наіўна-крыважэрная для ціхага вясковага хлопца татуіроўка — усё сказала Монічу: так, гэта зямляк. Нямала такіх светлавалосых і светлавокіх людзей жыло і жыве ў родных мясцінах Моніча.

— Дзе ж ты, Алесь, жывеш у Мінску? — спытаўся Моніч.

— У інтэрнаце. Дзе яшчэ жыць халасцяку? А нам пра вас у школе расказвалі,— ён, пэўна, не хацеў шмат гаварыць пра сябе і крута змяніў ход гаворкі,— Казалі, што вы вядомы пісьменнік, гордасць нашай школы і ўсёй вёскі.

— Ну й скажаш ты... Гордасць...— хмыкнуў у жаўтлявыя вусы Моніч.

— А як жа? Так яно і ёсць,— сур'ёзным голасам зноў загаварыў Алесь Шамаль,— У нашай школе нават вітрына зроблена, на якой усе вашы кніжкі стаяць, усе да адной. Юлія Адамаўна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, купляе вашы кніжкі і пад шкло іх выстаўляе, каб усе бачылі, вучні і настаўнікі.

— Юлія Адамаўна? — перапытаў Моніч,— Гэта дачка старога Ждановіча, які ў Зацішным жыве?

— Яна. Нядаўна выйшла замуж, і прозвішча ў яе — Красоўская. А стары Ждановіч месяц назад як памёр.

Пры гэтай вестцы Моніч адчуў, як уздрыгнула сэрца.

— Не можа быць,— сказаў ён,— Вясной я быў у Зацішным, быў у Ждановіча. Адам Платонавіч яшчэ са мной гліну капаў у кар'еры, печ сабе ў хаце думаў перарабляць. Крэпкі быў, як дуб.

— Памёр Ждановіч,— не пакінуў Монічу ніякіх надзей Алесь,— У яго ў Мінску на заводзе сын робіць. Дык гэты Іван прасіў мяне, каб я ў гаражы абгародку на магілу бацькі зварыў. Я знайшоў арматуру, зварыў абгародку. Мяне яшчэ механік прапясочыў за гэта. Крычаў, што халтурай займаюся ў рабочы час. Памёр стары Ждановіч,— зноў паўтарыў ён.

Моніча вельмі ўразіла нечаканая вестка. Вясною, прыехаўшы ў сваю Захараўшчыну, ён выпадкова сустрэў старога Ждановіча. І Ждановіч даў яму рэцэпт і грошы, папрасіў купіць у горадзе акуляры. «Былі ў мяне акуляры, ды разбіліся. Газету не магу пачытаць. А што за жыццё без газеты?» — жаліўся ёп. Праз колькі дзён у Мінску Моніч зайшоў у магазін «Оптыка», набыў акуляры, а везці іх ці кім перадаць усё ніяк не выпадала. І яшчэ рэшта засталася ад тых грошай, што даў Ждановіч,— тры рублі.

Моніч успомніў сівога негаваркога чалавека з шэрымі ўважлівымі вачамі, з мяккай асцярожнай паходкай, з ціхім пакашліваннем, якое было ці то ад моцнай прастуды ў блакадным Ленінградзе, ці то ад прыроджанай сарамлівасці. У сваім Зацішным Ждановіч паказаў Монічу сад, агарод, пчол, а потым частаваў мёдам з вялікай драўлянай місы. Яны сядзелі на цёплай ад сонца лавачцы, елі цёплы жоўта-карычневы мёд, а над імі, над садам несціхана звінелі пчолы, як напятыя струны.

Моніч уздыхнуў, сказаў Алесю:

— Не чакаў я, што Ждановіч памрэ. Думаў, гадкоў пяць яшчэ паваюе. Пчаляры ж доўга жывуць.

Ён дастаў блакнот:

— Скажы мне свой адрас. І мой тэлефон запішы. Як-небудзь трэба сысціся, Захараўшчыпу ўспомніць. І рубель за праезд вазьмі. Бяры, бяры. Машына ж дзяржаўная, не твая. Як сваю купіш, тады мяне бясплатна пакатаеш.

Развітаўшыся з Алесем, ён павольна, як бы бяздумна, пайшоў па вуліцы. А перад вачамі ўсё стаялі стары Ждановіч і Вераніка.

Дома ён прыняў душ, да чырвані расцёр цела цвёрдым калючым ручніком. Потым сеў за стол, расклаў усе свае паперы, паставіў перад сабой блакітную гліняную вазачку з шарыкавымі ручкамі, алоўкамі, фламастэрамі, раскрыў гросбух. Але не пісалася.

Памёр Ждановіч, а ягоныя акуляры ляжаць на стале ў Моніча. Сонца мякка ўспыхвае ў шкельцах. Здрадзіла Вераніка. Ездзіць па горадзе ў прыгожай аўтамашыне і ўсміхаецца маладому прыгожаму незнаёмцу. А можа знаёмаму? А можа не здрадзіла, а какетнічае, фліртуе, чакае, пакуль ён, Моніч, вырвецца са сваіх паэтычных пушчаў і зноў пакліча яе? Ды хіба лягчэй ад гэтага?

Непрыемнасці прыходзяць нечакана. Гэта шчасце мы плануем ці, ва ўсякім разе, стараемся планаваць. А непрыемнасці без стуку ўваходзяць у нашы кватэры і нашы жыцці.

Кожнай жыццёвай з'яве, кожнаму філасофскаму паняццю Моніч стараўся даць сваё вытлумачэнне, знайсці для яго свой «іерогліф». Мір і цішыня, як вядома, атаясамліваліся ў яго з жанчынай і страхой. Нечаканую непрыемнасць, бяду, жах ён зашыфраваў для сябе пад словамі — «голы чалавек, які бяжыць з цемры».

Тады яму было гадоў шэсць. Тады быў дажджлівы летні вечар, і яны, вясковыя дзеці, гулялі на вясковай вуліцы ў «курмешкі». Што такое «курмешкі»? Каб іх зрабіць, трэба ўзяць жоўты пясок, наліць у яго вады і доўга ўзмешваць, узбоўтваць, пакуль не атрымаецца своеасаблівае земляное цеста. З гэтага цеста, з курмешак, можна пячы

«аладкі», «бліны», можна ім, як чорнай бранёй, пакрыць аж да каленяў свае босыя ногі.

Тады пахла мокрай цёплай зямлёй. Пахла мокрай зялёнай муравой, што расла каля платоў. Наогул, зямля дзяцінства помніцца яму заўсёды цёплай і вільготнай, быццам тая зямля ў той незваротны час заставалася вільготнай і цёплай яшчэ ад сусветнага патопу.

Іх было чацвёра дзяцей — тры дзяўчынкі і ён, Паўлік. Вёска заціхала. Вечаровы нябесны блакіт быў запоўнены зоркамі і майскімі жукамі. І вось голы чалавек бясшумна выбег з цемры. Ён бег проста на іх. Ён быў абсалютна голы, гэты высокі жылісты чорнавалосы мужчына.

Дзіка закрычалі дзяўчынкі. Паўлік закрыў вочы рукамі і ўткнуўся тварам у пясок. Ён адчуваў, што яшчэ імгненне — і ён памрэ ад жаху.

Голы чалавек, што выбег з цемры, бясшумна, як белая здань, пранёсся за два крокі ад іх, аж ветрам павеяла ў дзіцячыя твары, і зноў знік, растварыўся ў цемры. Толькі босыя ногі мякка шлёпалі па пяску. Адна з дзяўчынак забілася ў істэрыцы. На крык і плач прыбеглі дарослыя.

«Голы чалавек! Голы чалавек!» — паляцела з канца ў канец па вёсцы.

Праз паўгадзіны з суседняга сельсавета па слядах чалавека прымчалася пагоня — чалавек дзесяць мужчын і кабет на дзвюх фурманках. Аказалася, гэта быў іхні родзіч, псіхічна хворы малады пастух. На ўсё жыццё запомніўся ён Монічу.

Зазваніў тэлефон.

— Павел Паўлавіч, гэта звоніць вам малады паэт Рыгор Анціховіч,— пачулася з трубкі.— У мяне выйшла першая кніжка вершаў. Можна вам яе падпісаць?

— З вялікай ахвотай прыму ваш падарунак, Рыгор,— сказаў Моніч, а сам прыпамінаў, што ён чытаў з вершаў Анціховіча.

— Павел Паўлавіч, ці не змаглі б вы напісаць рэцэнзію ў газету на маю кніжку? З хлопцамі ў газеце я дамовіўся,— ціхім, трохі журботным голасам папрасіла тэлефонная трубка.

«Шустры хлопчык,— падумалася Монічу.— Я ў свой час з гэтага не пачынаў, не даўмеўся з-за вясковай сарамлівасці».

— Трэба спачатку пачытаць кніжку,— сказаў ён Анціховічу.

— Трэба,— ахвотна згадзілася трубка.— Хлопцы ў газеце пачакаюць. Прабачце за званок. Да пабачэння.

«Шустры хлопчык. Ведае, на які клавіш націснуць. Ведае, як рэкамендавацца — «малады паэт». Можа далёка пайсці, але, вядома, не

ў творчасці, а ў арганізацыі рэцэнзій на сваю творчасць. Я так, дзякуй богу, не ўмеў і не ўмею. Я пускаў свае кнігі ў свет, як дзеці пускаюць паветраных змеяў. Ляціце, куды хочаце. Можаце ўпасці на зялёную траву, на жоўты пясочак, а можаце — на электрычныя правады высокага напружання. Літаратурныя крытыкі мяне заўважалі, гэта факт. Але ў большасці выпадкаў заўважалі як мішэнь для прыцэльнай стральбы. Мяне крытыкавалі, а я пісаў, пісаў, нягледзячы па «артабстрэл». Вучыўся на сваіх памылках, вучыўся ў класікаў і ў сваіх сяброў. Потым мяне заўважыў адзін з нашых паэтычных багоў, сказаў у друку добрае слова пра мае вершы, пацясніўся і ўступіў маленькі краёчак свайго паэтычнага трона. Ды навошта мне той трон? Для мяне можа самае важнае тое, што мае вершы зрэдку чытае Валодзя Козыр у Захараўшчыне».

Моніч падышоў да кніжных паліц, пальцамі пагладзіў кнігі. Незразумелы халодны сум замарожваў душу. «Вось што мне трэба,— раптам падумаў ён,— у бліжэйшы выхадны дзень мне трэба завезці акуляры ўдаве Ждановіча. Мне трэба абавязкова завезці ёй акуляры». Ён здзівіўся, як такая думка не прыйшла яму ў галаву раней.

Перад ад'ездам на вакзал ён вырваў лісток з блакнота, напісаў на ім: «Вераніка, пакладзі, калі ласка, ключ ад кватэры ў маю паштовую скрынку. Я еду ў вельмі доўгую камандзіроўку». Запіску гэту ён кінуў у паштовую скрынку і адразу адчуў палёгку. Прыйдзе Вераніка, адчыніць скрынку (яна заўсёды забірае з яе часопісы і газеты), прачытае запіску і ўсё зразумее. І не трэба будзе ніякіх тлумачэнняў, ніякіх сцэн з охамі і ахамі. Паміж імі ўсё скончана.

Моніч сеў на магілёўскі цягнік, расслабіў гальштук, заплюшчыў вочы. У руцэ ён трымаў «дыпламат», у якім ляжалі акуляры, бутэлька гарэлкі, свежыя газеты. Але чытаць ён не стаў. Сядзеў, слухаў, як аднатонна пагрукваюць колы, як у канцы вагона ціха плача дзіця і стомлены жаночы голас просіць: «Не плач, Волечка, не плач, дочачка. Прыедзем на станцыю, і тата нас сустрэне, і дзед Цімох, і конік, і сабачка...»

Моніч любіў маўчанне далёкай дарогі. Навошта словы, калі ёсць жоўты прамень сонца на тваім вагонным століку, свіст ветру за акном, калі тэлефонныя слупы бягуць і бягуць уздоўж дарогі?

Побач сядзеў пажылы мужчына ў зялёным балоневым плашчы, у саламяным капелюшы з выцертымі краямі, у хромавых запыленых ботах. На каленях мужчына асцярожна трымаў нешта квадратнае, абвязанае квяцістай бруднай коўдрай. Вочы ў яго былі па-маладому блакітныя і жвавыя.

— Тэлевізар вязу ад сына,— пачаў ён тлумачыць, убачыўшы позірк Моніча.— «Рэкорд». Сын купіў сабе новы, большы, а гэты мне аддаў. Бяры, кажа, бацька, прасвяшчайся. Правадніца ў вагон не пускала. Гаворыць, што гэты выбуховы груз, не паложана вазіць. А які ж у ім можа выбух быць? Там, сын казаў, нейкіх лямпачак не хапае. Лямпачкі трэба яшчэ ў мястэчку шукаць.

Мужчына змоўк, асцярожна прыгарнуў да сябе тэлевізар. Так трымаюць маленькіх дзяцей.

Нізкае сонца плыло, як чырвоны шарык, у вагонным акне. Лясы, самлелыя ад летняй гарачыні, чакалі іскрыстай белай расы, што густа выпадае ўвечары. Стукалі колы.

На станцыі яго, вядома, ніхто не чакаў. Ён ледзьве ўлез у стары аўтобус, што ішоў у райцэнтр, праязджаючы праз ягоную Захараўшчыну. Да вёскі заставалася тры кіламетры.

У аўтобусе было цесна, горача і шумна. Маладыя хлопцы, па-сучаснаму доўгавалосыя, добра апранутыя, вострыя на язык, нават курылі. За тыя два дзесяткі гадоў, якія ён правёў, блукаючы ў далёкіх гарадах, жывучы ў чужых краях, тут змянілася не адно пакаленне моладзі, і яго, Моніча, бадай што ніхто не ведаў у твар. Ад таго, што ніхто яго не пазнае, ён адчуваў сябе спакойна і ўпэўнена, раскавана, але трошкі было сумнавата.

Аўтобус, як заўсёды, спыніўся насупраць магазіна. У Захараўшчыне выйшаў толькі Моніч, астатнія пасажыры паехалі да райцэнтра.

Сонца хавалася за лесам. За тым самым лесам, дзе кожная сцяжынка, кожнае грыбное месца былі знаёмы Монічу з маленства.

Магазін быў ужо зачынены. У клубе, які стаяў адразу за магазінам, свяціліся вокны, каля ўваходу таўклася чарада падлеткаў. Значыць, сёння будзе кіно. Вось і аб'ява вісіць на сцяне магазіна. Моніч напружыў вочы. Сёння, калі верыць аб'яве, жыхары вёскі Захараўшчына будуць глядзець мастацкі фільм «Салодкая жанчына».

Калісьці ў яго нібы крылы выраслі, калі кінамеханік Андрэй Калацкі давяраў яму развесіць такія аб'явы ў вёсцы. Вывешванне аб'яў Калацкі называў «прапагандай кінамастацтва» і за такую прапаганду пускаў бясплатна ў кіно. А якія фільмы ішлі! «Каралеўскія піраты», «Тайна індыйскай грабніцы», «Тарзан»...

У Захараўшчыне жыла родная сястра Моніча Надзя. Была яна замужам за шафёрам леспрамгаса, працавала тэхнічкай у школе. Да яе і накіраваўся Моніч.

Дваццаць гадоў назад Захараўшчына была ціхай, тыповай для Беларусі вёскай. Тады яшчэ шыфер быў рэдкасцю, і хаты крылі гонтаю. Тады тырчалі над вёскай калодзежныя жураўлі, і Моніч, начы-

таўшыся навукова-фантастычных кніжак, параўноўваў іх з марсіянскімі тэлескопамі.

Сёння Захараўшчына ўжо не тая. Дзве вуліцы заасфальтаваны, трэцяя, па якой ішоў да сястры Моніч, хоць і захавала свой чорны твар, хоць і заліваецца ўвосень вадой па самыя кладкі, але таксама нясе на сабе яўныя прыкметы урбанізацыі і прагрэсу. Дзве глыбачэзныя каляіны прааранны на ёй. Гэта сляды колаў магутнага «МАЗа», на якім ездзіць муж Надзі і, такім чынам, блізкі родзіч Паўла Моніча, Платон Сіняк. Леспрамгас, у якім працуе Платон, знаходзіцца ў райцэнтры, за пяць кіламетраў ад Захараўшчыны, і машыну пасля работы трэба ставіць там, але Платон — не абы-які шафёр, шафёр са стажам, начальства яму давярае, і таму «МАЗ» ледзь не кожную ноч дрэмле не ў леспрамгасаўскім гаражы, а каля хаты Сіняка. Платон за тое, што ўзараў вясковую вуліцу, зрабіўся ворагам усіх жанчын, якія жывуць на гэтай вуліцы. Але што рабіць? Не лятаць жа «МАЗу» на крылах.

Праўда, не ўсе жанчыны праклінаюць Сіняка. Платонава суседка, удава Мальвінка, ніколі не сказала пра яго ніводнага благога слова. І не таму, што Сіняк дужа харошы, ёсць і ў Сіняка недахопы, а таму, што сама Мальвінка дужа верыць у бога, а бог, як вядома, вучыў любіць бліжняга.

Мальвінка сухая, смуглая кабета з маленькімі чорнымі вочкамі, якія дзіўна блішчаць. Ні ў кога не сустракаў Моніч такіх бліскучых вачэй. Яе муж загінуў улетку сорак чацвёртага года, калі Чырвоная Армія вызваліла Захараўшчыну і ўсё мужчынскае насельніцтва вёскі пайшло з нашымі войскамі на захад. Пад Ломжаю, у Польшчы, яго раніла разрыўной куляй, ён і сканаў ад раны, не прыходзячы да памяці. А потым, праз два гады, памерла ад прастуды дачка Мальвінкі, Лёдзя. З тых часоў і па сённяшні дзень Мальвінка — «святая», адзіная ў такім родзе ў Захараўшчыне. Яна ходзіць у мястэчка да сваіх састарэлых сяброўак і разам з імі чытае «святыя кнігі».

Людзі зляталі на Месяц, чалавеку перасаджваюць сэрца, а Мальвінка цвёрда верыць, што бог ёсць. І ніхто яе не пераканае ў адваротным, бо яна верыць. Улетку, калі на вёску абрыньваецца спякота, калі чорна-сінія марудныя хмары бокам абплываюць Захараўшчыну, яна, без хусткі, босая, стаіць на ганку сваёй хаты, глядзіць на неба — «зачароўвае дождж». Столькі цярпення і надзеі ў яе паглядзе! «Дай, Мальвінка, дажджу і на мой агарод»,— смяецца са свайго двара Платон Сіняк. Часам ён прывозіць ёй з лесу дровы, выгружае на вуліцы каля яе дворышча, памагае пілаваць. Аднойчы, не ведаючы, прывёз дровы якраз у нейкае рэлігійнае свята. «І не выгружай,

Платон,— сказала Мальвінка.— Вязі іх назад у лес. Грэх, грэх паліць такія дровы».

Моніч, нікога не сустрэўшы па дарозе, дайшоў да сестрыной хаты. І адразу ў нос яму ўдарыў цягучы хмельны пах свежага сена. Платон Сіняк, без кашулі, у старамодных доўгіх трусах, узброіўшыся віламі, перацягваў сена з двара ў хлеў. З крэктам, пахістваючыся, браў ён за адзін раз ледзь не цэнтнер — тады здавалася, што па двары, сапучы, рухаецца вялізная зялёная гара.

— Памочнічак прыехаў! — радасна ўскрыкнуў Сіняк, зграб загарэлай карычневай далонню серабрысты пот з ілба і весела паздароўкаўся з Монічам. З хаты выглянула сястра Надзя, цмокнула Моніча ў шчаку. У яе ў руках была гладышка, да краёў налітая малаком. Сіняк узяў гладышку, пачаў прагна піць, і малако белымі ручайкамі пацякло па загарэлых валасатых грудзях.

Моніч адразу скінуў гарадскі касцюм, Надзя дала яму старыя, як надзьмутыя ў каленях, штаны.

Калі ўладкавалі сена, калі памыліся каля студні, сцямнела. Змрок быў такі густы, што Моніч не бачыў твар Сіняка, хоць Платон, выціраючыся ручніком, стаяў побач. Ліпы і бярозы, спрадвечныя вясковыя дрэвы, шумелі над галавой. Гэтым шумам, напаўзабытым, журботным і мяккім, было запоўнена ўсё наваколле. З цёмнага поля ў вёску плыў яшчэ адзін шум — цёпла шумела жыта, якое яшчэ не пачыналі жаць камбайны.

— Ціха ў нас,— весела пацягнуўся Платон.— Як там у вас, паэтаў? «И звезда с звездою говорит...» Наслухаешся гэтых зорак, дык бег бы на край свету. Добра вам, гарадскім. Адгрукаў змену на заводзе, прыехаў дадому, ногі ўваткнуў у тапачкі, нос — у газету і адпачывай сабе, як белы чалавек. А тут я ў машыне па ямінах і па карэннях накалачуся, прыйду па свой двор, гляну, а работы непачаты край. І дровы, і сена, і свінні, і куры... Плюнеш, пашкрабеш патыліцу і заступаеш на другую рабочую змену. Ты сам сабе і жывёлавод, і Мічурын. Добра вам, гарадскім.

Сіняк, як заўсёды, сеў на свайго любімага канька. Ён лічыць, што яго абышоў лёс, што толькі ў горадзе маглі б поўнасцю раскрыцца ўсе яго шматлікія таленты. А ён і сапраўды шмат што ўмее: водзіць аўтамашыну і трактар, слясарнічае, паяе, лепіць печы, разбіраецца ў электрычнасці, можа адрамантаваць тэлевізар, хвацка спраўляецца з сякерай і пілой.

— Не слухай яго, Паша,— праз расчыненае акно хаты, смеючыся, сказала Надзя.— Яго ў той горад і даўбешкай не загоніш. Там

жа, у горадзе, трэба кожны дзень галіцца і гальштук завязваць, а тут ён па двары голы, як папуас, ходзіць. Ідзіце лепей вячэраць.

Селі за стол, выпілі па чарцы. Моніч уважліва паглядзеў на сястру. Яна перахапіла ягоны позірк, спыталася:

— Пастарэла я, Паша, праўда? — Сумна ўсміхнулася.— Ногі ў мяне пачалі балець. Ніколі не думала, што так ногі могуць балець. А ты як жывеш?

— Нармальна,— адказаў ён.

— Усё яшчэ не жаніўся?

— Не жаніўся,— усміхнуўся Моніч,— Шукаю нявесту з вялікім пасагам.

— Калі толькі за гэтым дзела,— усхапіўся Платон,— то я табе заўтра ж нявесту знайду. Не маладая, праўда, але багатая. Даяркай працуе. Будуць грошы і малако.

Пасмяяліся. Потым Надзя з Платонам расказалі вясковыя навіны: хто нарадзіўся, хто жаніўся, хто памёр, хто што купіў і куды ездзіў. Моніч уважліва слухаў, цікавіўся кожнай дробяззю, ды так, што Платон не вытрымаў, запытаўся:

— Ці не кніжку ты пра нашу Захараўшчыну хочаш пісаць? Бач, як усё выведваеш. А кніжку пра нашу вёску напісаць можна. Тут — уга што робіцца. Наш саўгас аб'ядналі з саўгасам-тэхнікумам. Ці сяўба, ці ўборка, ці яшчэ якая работа, прысылаюць з тэхнікума сотні дзве студэнтаў. Шахмах, усё паробяць і давай у футбол гуляць. Робяць скора, але не дужа акуратна. Могуць бульбу ў баразне закапаць. Ведама, маладзёж. А нашы тутэйшыя за іхняй спіной хаваюцца. Адвыкае народ ад работы. На сваіх сотках капаюцца, свае грады глядзяць. Ды што далёка шукаць? Вось мой сусед Аўдзей Цішкевіч — ты ж ведаеш яго — раней такім трактарыстам быў, усе газеты пра яго пісалі, а цяпер у скотнікі пайшоў, саўгасных цялят пасвіць. Калі сам пасвіць, калі жонка і дзеці, а ўсё болей каля сваёй хаты аціраецца. Парнікі завёў, свежыя агуркі ў горад возіць прадаваць. «Волгу» хоць сёння можа купіць, а ў будні і ў святы ў гумовых ботах ходзіць.

— У нас нафту геолагі шукаюць,— перабіла яго Надзя, наліваючы Монічу ў кубак малако.— Аддзяленне «Сельгастэхнікі» будуецца. Гадоў праз дзесяць і ў нас горад будзе.

— Так што не трэба табе, Платон, у горад уцякаць,— засмяяўся Моніч.

— Паглядзім, што за горад тут будзе,— не дужа бадзёра сказаў Сіняк.

Ледзь узышло сонца, Моніч сеў на веласіпед і паехаў у Зацішнае. Дарога ішла густым сасоннікам, які аж свяціўся ад маладой ранішняй

расы. Белыя бухматыя воблакі завязваліся над зямлёй. Можна было чакаць, што пры такой спякоце ў абед ці пасля абеду гэтыя воблакі народзяць грымучы навальнічны дождж.

Пчолы і лясныя чмялі зладжана гулі ў кветках. Мухаморы горда і незалежна стаялі каля самай дарогі ў сваіх бліскуча-чырвоных, абсыпаных белымі плямкамі шапках. Мурашкі густа ішлі па цёплым дарожным пяску, па кары дрэў. На невялікай паляне ў сонечных промнях мільгануў светла-шэры заяц і знік, збіўшы з травы расу. Нястомна кукавала зазюля, і не журбота, а радасць была ў яе голасе.

Зацішнае, вёсачка хат на дваццаць, тулілася пасярод лесу, уткнуўшыся крайнімі сядзібамі ў невысокую пясчаную горку, якую вяскоўцы называлі Булачка. Вельмі трапна калісьці ахрысцілі горку, бо пясок у ёй мяккі, цёплы, белы, як пшанічная мука.

Моніч пад'ехаў да хаты Ждановіча, саскочыў з веласіпеда, паставіў веласіпед каля бярозы, пад якой яны ў свой час сядзелі са старым Ждановічам. Вера Іванаўна, жонка Ждановіча, была ў агародзе, стаяла каля сланечніка, што быў упоравень з ёй ростам, гладзіла яго жоўта-чорную вялікую галаву і, падалося Монічу, размаўляла са сланечнікам. Пачуўшы за спіной асцярожныя крокі, азірнулася, спачатку спалохалася, але, пазнаўшы Моніча, усміхнулася, сказала пявучым, трошкі надтрэснутым голасам:

— Павел Паўлавіч прыехаў. Вот малайчына. А майго Адама ўжо няма.

Блакітны агонь успыхнуў у невялікіх стомленых вачах і патух.

Моніч пацалаваў ёй руку, сухенькую, лёгкую. Рука пахла свежым бярозавым лісцем. Пэўна, падумалася Монічу, Вера Іванаўна зусім нядаўна хадзіла ў лес і вязала венікі. Яна, як яшчэ быў жывы Ждановіч, любіла гаспадарыць сама: абразаць і бяліць яблыні, развешваць шпакоўні ў садзе, рабіць прышчэпы садовым дрэвам. Да пенсіі яна выкладала ў вясковай школе батаніку, і, як помніць Моніч, з усёй вобласці з'язджаліся экскурсіі вучняў і настаўнікаў паглядзець на яе прышкольны доследны ўчастак.

Селі на лавачку. Сонца сляпіла вочы. Пахла цёплай зямлёй, агародам, садам. Пчолы медна-шэрымі гудлівымі струмянямі рассякалі паветра.

— Пчол шкада,— уздыхнула Вера Іванаўна,— Не перазімуюць яны без Адама.

— Вы прадайце іх каму-небудзь у вёсцы,— параіў Моніч.

— Гаварыла суседзям. Ніхто не хоча браць. Пчолы клопат любяць. Таго, хто пахне гарэлкай, потам, да сябе не падпускаюць.

Мой Адам у лазні мыўся, чыстую бялізну апранаў і ўжо тады да вулляў ішоў.

Яна памаўчала, ціха сказала:

— Адам перад самай смерцю пацалаваў мяне. І паверыш, Павел Паўлавіч, гэты яго пацалунак з месяц вісеў у мяне на вуснах.

Яна глядзела ўдалячынь, у цёплы нябесны блакіт, дзе агромністай высокай сцяной уставалі хмары. Вузкая ярка-сіняя трэшчына вілася між хмараў. Промні сонца, як жоўтыя жытнёвыя каласы, прабіваліся праз гэту трэшчыну, запальвалі шэрыя хмары, фарбавалі іх у яркія агністыя колеры.

Моніч дастаў з кішэні акуляры, сказаў хвалюючыся:

— Вось, Вера Іванаўна, я прывёз для Адама Платонавіча. Прабачце, што спазніўся прывезці.

Яна ўзяла акуляры, асцярожна гладзіла іх пальцамі правай рукі. Ва ўсёй яе паставе была заспакоенасць і журботнасць. Яна была як старая мудрая птушка, што скончыла свой далёкі пералёт і спакойна чакае непазбежнага.

— Не перажывай, Павел Паўлавіч,— ціха ўсміхнулася яна.— Я пакладу акуляры на ягоны стол.

Моніч добра ведаў гэты стол: моцна збіты, старанна, да жаўцізны абструганы рубанкам, з пучкамі жытнёвых каласоў, з букецікамі палявых кветак, якія кожнае лета ляжалі на ім.

Ждановіч сам змайстраваў стол, табурэты, канапу. Усё рабілася ў чыста народным стылі, так, як вялося калісьці ў сялянскіх хатах: нічога лішняга, толькі высакародная прастата дрэва. Калі ўлетку Моніч прыязджаў у родныя мясціны і наведваў Ждановіча, яны садзіліся за гэты стол. На стале ляжалі яблыкі, грушы і слівы, у пачарнелых гліняных гарлачыках стаяў хлебны квас, наліўка, прыгатаваная Верай Іванаўнай.

Пра што яны толькі не гаварылі! Монічу гэтыя размовы, а часам і спрэчкі былі проста неабходныя. Яны былі глытком вады ў спякоту, катарсісам — духоўным ачышчэннем. Ён любіў і паважаў гэтага сапраўды народнага інтэлігента, які нарадзіўся ў вёсцы і ўсе свае доўгія гады жыў і працаваў у вёсцы.

Ждановіч быў фельчарам. Уся акруга лячылася ў яго, сотні нараджэнняў і смерцяў бачыў ён. Ён чуў першае і апошняе дыханне чалавека, няўлоўнае, як начны вецер над лесам.

У Зацішным яго звалі Адам-камуніст. Ён быў адзіным членам партыі ў вёсцы, вельмі паважаным, аўтарытэтным. Ён ведаў гэтых людзей, і яны ведалі яго, і ўсе свае клопаты, праблемы, хваляванні, душэўныя болькі неслі да яго. І ён памагаў людзям як мог.

У пачатку мая Моніч апошні раз бачыўся і гаварыў з Адамам Платонавічам. Яны сядзелі за сталом, няспешна пілі халодны свежы бярозавік. Ждановіч быў у чорнай кашулі пад белым гальштукам. Наплываў вечар, мацнеў вецер за акном. Раптам хліпнула і пагасла электрычнасць. «Вера, пашукай керасінку»,—сказаў Ждановіч жонцы. Але керасінка не знаходзілася. Тады ён пайшоў у сенцы, прынёс пакет сухога спірту і ў металічнай талерцы пачаў паліць спірт — белыя бліскучыя квадрацікі, падобныя на рафінад. «Як у партызанскай зямлянцы сядзім»,— пажартаваў ён. У гэты час у шыбу пастукалі. Ён выйшаў на двор, нешта некаму там гаварыў, потым вярнуўся, сказаў жонцы: «Маня Ягорава прыбягала. Тэрмінова выклікаюць на партыйны сход у саўгасную кантору». «Ноч у ноч на вуліцы, Платонавіч,— паспрабавала адгаварыць яго Вера Іванаўна.— Усё неба грыміць. Навальніца будзе. Не ідзі. Без цябе правядуць сход. Я яшчэ вам з Паўлам Паўлавічам бярозавіку налью».— «Трэба,— накінуў на плечы доўгі зялёны плашч з капюшонам Ждановіч.— Пра сяўбу гаворка будзе».

Яны з Монічам выйшлі на вуліцу. Стагнаў пад ветрам чорны, увесь натапыраны лес. Бліскала маланка, палосы халоднага жоўтага святла прабягалі па небе. Да саўгаснай канторы было кіламетры два дарогі праз лес.

«У веласіпедзе ў мяне задняя камера лопнула,— сказаў Ждановіч.— Пайду пешшу. Ну, усяго, Павел. Бывай!» І тут ён успомніў пра акуляры, аддаў Монічу рэцэпт. «Як жа вы пойдзеце, Адам Платонавіч, у такой цемры?» — засоўваючы ў кішэнь рэцэпт, спытаўся Моніч. «А ў мяне ёсць сухі спірт,— засмяяўся Ждановіч.— Я расшчаплю кіёчак, уваткну туды драбочак спірту і запалю». Так ён і зрабіў. І пайшоў у глухую ветраную цемрадзь. І доўга бліскаў на лясной дарозе яркі маленькі агеньчык.

— Чым жа вы цяпер, Вера Іванаўна, займаецеся? — спытаўся Монік.

— Не ведаю, што і адказаць вам, Павел Паўлавіч,— раздумліва сказала сівая сінявокая жанчына, усё яшчэ трымаючы ў руках мужавы акуляры.— Работы быццам бы хапае. Ёсць жа нейкая гаспадарка: куры, сабачка Шнурок. Унукі з горада прыязджаюць. У школу мяне дырэктар зноў просіць вярнуцца... Купіла машынку і дзяцей суседскіх стрыгу. Хочаце, вас падстрыгу?

Яна ўздыхнула, злавіла пальцамі пасму валасоў на скроні.

— Я да вас яшчэ заеду, Вера Іванаўна,— сказаў Моніч, беручыся за руль свайго веласіпеда.

— Абавязкова прыязджай, Павел Паўлавіч. Абавязкова. Буду цябе чакаць.

І зноў ён убачыў, як успыхнуў і патух блакітны агонь у стомленых вачах.

Калі Моніч выехаў з Зацішнага, быў поўдзень. Зямля млела ад гарачыні, курчылася пыльнае лісце дрэў. Усё панікла, прыціхла, усё стаяла з апушчанай галавой: лес, прыдарожны хмызняк, жыта ў полі. Спёка загнала саўгасных цялят у рэчку, і яны бяздумна драмалі ў бліскучай люстраной вадзе, зайшоўшы ў марудлівую плынь па жываты. Птушкі пахаваліся ад бязлітасных промняў — хто ў лес, хто ў густую лугавую траву, на самым дне якой магла яшчэ зіхцець адна-другая кропелька сцюдзёнай ранішняй расы.

Грымнула над галавой. Моніч паглядзеў на неба. У цэнтры, у самым зеніце, яно было чыстае, асляпляльна-гарачае, нясцерпна-блакітнае, але ўставалі ўжо з-за нябёсаў суровыя полчышчы хмар. І менавіта адтуль чуўся прыглушаны гром. Здавалася, цяжкія хмары не могуць утрымацца па слізкай паверхні неба і з грукатам, як каменне, падаюць уніз, на зямлю, Моніч прыгнуўся над веласіпедам, спарней пачаў круціць педалі.

У тое месца, куды ён спяшаўся, хацелася паспець да навальніцы.

Ён прыехаў на могілкі, паставіў веласіпед ля свежай, нядаўна зробленай агароджы. Гэту агароджу летась змайстравалі школьнікі, і памагаў ім Адам Ждановіч.

Яго сустрэлі маўклівыя крыжы, бетонныя пліты, бляшаныя паржавелыя зоркі... Яго сустрэлі сосны і бярозы, якія густа спляліся кронамі ў небе, а пад зямлёй — ён ведаў гэта, бо не адну магілу выкапаў калісьці ў жоўтым сухім пяску — спляліся каранямі. П'янліва, нясцерпна пахла смала, разагрэтая сонцам.

Колькі слёз бачыла гэта ціхае месца! Колькі тут ляжыць старых, маладых, дзяцей, калгаснікаў, рабочых леспрамгаса, вясковых інтэлігентаў, партызанаў, што загінулі ў час блакады! Кожнае з гэтых сэрцаў жыло надзеяй. Кожная з гэтых галоў умяшчала Сусвет. Тут плачуць і з журбою ў голасе, з мудрым спакоем кажуць нябожчыку: «Бывай, сусед. Мы да цябе прыйдзем, а ты да нас ужо не».

Моніч падышоў да магілы маці, абапёрся грудзьмі аб металічную, сіняга колеру агароджу. Маці глядзела на яго з круглага, цьмянага, урэзанага ў бетон магільнай пліты фотаздымка. Яму хацелася нешта сказаць ёй, але ён не мог.

Зноў загрымела над галавой. Халодны вецер прашалясцеў у дрэвах. Чырвоная вяргіня, што расла на магіле маці, спалохана варухнула галоўкай, уздрыгнула і зноў заснула. Вяргіню пасадзіла сястра Надзя. Яна амаль кожны дзень прыходзіць сюды, палівае кветку, даглядае.

«Ці чуеш ты мяне, мама? — думаў Моніч, гледзячы на адзінокую кветку,— Ці бачыш мяне? Я стаю каля твайго праха, твой сын. Дай нейкі знак, нейкі голас, каб я мог здагадацца, што ты заўважыла мой прыход і табе добра і спакойна ад таго, што я стаю над тваім вечным сном».

Ён паволі пайшоў між магіл, углядаючыся ў надпісы на крыжах і плітах. Вось магіла Ждановіча. Ён ляжыць пад чырвонай зоркай, а на шэрым невялічкім абеліску напісана: «Адам Платонавіч Ждановіч — фельчар, баявы партызан, член партыі з 1930 года». Моніч колькі мінут пастаяў каля магілы, успамінаючы апошні вечар, калі ён бачыў Ждановіча, успамінаючы дрыготкі агеньчык, які раставаў у змроку трывожнага лесу.

Самыя старыя магілы былі ў цэнтры могілак, там, дзе раслі самыя старыя абымшэлыя сосны. Тут хавалі нябожчыкаў яшчэ ў капцы мінулага стагоддзя. Маўкліва ляжаць памін« медна-шэрых шурпатых сцвалоў пазелянелыя ад часу валуны. Яны амаль ураслі ў зямлю, і ўжо нічога не прачытаеш на іх, хоць некалі нейчая рука высякала літары і, калі абмацваць бура-зялёны мох пальцамі, у глыбіні, пад мохам, угадваюцца ямінкі, бугарочкі, сляды былых літар.

На гэтых помніках звычайна не пісалі ніякіх эпітафій. Прозвішча чалавека, даты яго жыцця — вось і ўсё, што павінен быў несці да нашчадкаў маўклівы камень. Але Монічу, як паэту, хацелася, каб эпітафіі былі і тут, на гэтых сціплых сялянскіх помніках, бо людзі, што навекі спачылі пад імі, варты самых высокіх усхваляваных слоў.

У лепшых з эпітафій, якія ведаў ён, пульсавала трагічная паэзія:

Ты пачакай мяне, пастой —
Я ў вечны змрок пайду з табой.

Гэтыя словы напісаў на магіле сваёй жонкі англічанін, епіскап кентэрберыйскі, які жыў у часы далёкага сярэднявечча.

Або вось яшчэ адна эпітафія, якую ўбачыў Моніч у Маскве, на Новадзявочых могілках. Прыязджаючы ў сталіцу, ён у вэрхале неадкладных спраў заўсёды выкройваў хоць гадзіну, каб пабыць тут. Добра помніцца сардэчнае хваляванне, з якім стаяў ён каля магіл Чэхава, Фадзеева, Твардоўскага. І вось там, на Новадзявочых могілках, хмарным дажджлівым днём ён, расхінуўшы мокры куст бэзу, убачыў непрыкметную магілу. Вельмі прыгожы малады дзявочы твар віднеўся на чорнай пліце, а пад ім ні дат, ні прозвішча — адно толькі кароткае слова, як мацярынскі крык, як усхліп: «Дочачка».

Загрымеў гром, ды так моцна, што Моніч уздрыгнуў. Нібы трэснула неба пад могілкамі. Захваляваліся сосны. Дробныя галінкі, кавалачкі сухой кары пасыпаліся на зямлю. Птушка жалобна піскнула

ўверсе, і адразу яе піск згубіўся ў суровым шуме дрэў. Сонца то хавалася за хмары, то на імгненне вырывалася з-за іх, і на старых магілах, на замшэлых валунах нервова трапяталі, танцавалі мільготкія плямы нияркага святла. У паўзмроку, у бесперапынных ударах ветру, што атакаваў могілкі — астравок дрэў на палявой узлобіне,— гэтыя асколачкі сонечнага святла былі падобныя на людскія вочы, што даўно патухлі, але пад велічную музыку грому раптоўна ажылі.

Монічу зрабілася ніякавата. Ён паглядзеў на неба, якое ўжо кіпела змрочнай сталёвасцю хмар, і заспяшаўся да свайго веласіпеда. Ён ішоў, амаль бег паміж магіл.

Удар грому нечуванай сілы спыніў яго, быццам прыляпіў да шурпатага цёплага камля сасны. Густа пасыпалася з дрэўігліца, непадалёку ўпала старое птушынае гняздо. Вецер шырока прайшоўся па могілках. Закалаціліся, нібы ажылі, выцвілыя струхлелыя ручнікі, якія былі завязаны на крыжах. Металічныя вянкі зашамацелі, тоненька зазвінелі.

І тут Моніч убачыў на краі могілак чалавека. Чалавек сядзеў на кучцы жоўтага пяску. Каля ног валяліся пачаты мяшок цэменту, рыдлёўка. Чалавек, быццам не чуючы грому, спакойна піў з вялікай гранёнай шклянкі чырвонае віно. На газеце побач з чалавекам бялеўся шматок сала, ляжаў кавалак чорнага хлеба. Вось чалавек выпіў, смачна панюхаў хлеб, пачаў, не спяшаючыся, закусваць.

— Валодзя,— гукнуў Моніч. Валодзя Козыр, а гэта ён сядзеў на кучы жоўтага пяску, не звяртаючы абсалютна ніякай увагі на разгневаныя нябёсы, азірнуўся. Радасная ўсмешка прабегла па твары.

— Ідзі сюды, Паша,— сказаў ён.— Трохі ты мяне, братка, напалохаў. Думаю, хто гэта з нябожчыкаў кліча? Тут у мяне цэлы батальён радні ляжыць.

Моніч падышоў да Козыра, пaздароўкаўся.

— Выпі,— наліў віна ў шклянку Валодзя,— Ты ж на раданіцу не прыязджаў.

Моніч выпіў, адламаў кавалачак хлеба.

— Сядай,— пасунуўся трошкі ўбок Валодзя.

Моніч сеў, запытаўся:

— Каму помнік адліваеш?

— Не ведаю яшчэ каму. Хто на чарзе,— засмяяўся Валодзя.

У яго былі моцныя жоўтыя зубы.

З шалёнай сілай усхапіўся вецер. Шпурнула ў вочы сухім пяском. Газета ўзвілася ў паветры і паляцела паміж магіл, як белая нязграбная птушка. Зноў звонка ўдарыў гром. І адразу ж секануў дождж, ярасны, шумны, захліпісты.

— Хавайся! — сказаў Валодзя,— Трэба будзе навальніцу на могілках перачакаць, а то ў полі маланка можа па лысіне стукнуць. Хавай мяшок з цэментам, каб не раскіс.

Яны селі пад куст, накрыліся плашчом. Дзіка свістаў вецер. Над галовамі, у віхурнай імгле, крышыліся галіны дрэў, церліся дрэва аб дрэва, і здавалася, што нехта стогне, плача. Вецер гнаў з поля агромністае рыжае воблака пылу. Востра пахла дажджавой вадой, мокрай карой, фарбай з агароджаў.

— Разбушавалася прырода,— спакойна сказаў Валодзя,— Бач, як грыміць. Давай, Паша, па другім разе вып ем. У мяне яшчэ бутэлька віна ёсць. Учора Вішняковы за помнік заплацілі.

Ён дастаў з палатнянай торбы, што вісела на баку, цёмнага шкла бутэльку, рыльца якой было заліта карычневым цвёрдым сургучом, збіў сургуч, лёгенька стукаючы бутэлькай аб сасну. Пашукаў у торбе шклянку, але там яе не было. Шклянка, напалову запоўненая светлай дажджавой вадой, ляжала на кучы пяску. Валодзю не хацелася з-за яе вылазіць пад лівень.

— Будзем піць набгом,— сказаў ён,— Бяры, Паша.

Але Моніч адмовіўся.

— Эх ты,— засмяяўся Валодзя,— Здароўе беражэш. Глядзі, як пяхота п'е.

Ён адкінуў галаву, прысмактаўся да цёмнага рыльца і пачаў піць вялікімі глыткамі. Вочы ён не заплюшчваў, а глядзеў угору, у навальнічнае грымлівае неба, напружаным строгім паглядам.

Моніч таксама глядзеў у неба. Яно было страшнае, вірлівае; вецер на касмылі раздзіраў хмары, маланка, як вогненнае шыла, пратыкала нябесны змрок; спляталіся, звіваліся, сутыкаліся ў небе над зямлёй грозныя тытанічныя сілы і разбіваліся адна аб адну і падалі на мокрую знясіленую, аглушаную зямлю. Навальніца толькі разгаралася, уваходзіла ў смак, набірала сілу; кульмінацыя гэтай вогненна-грымотнай сімфоніі была яшчэ ўперадзе.

«Нешта адбудзецца. Нешта абавязкова адбудзецца»,— чуў Моніч у самім сабе ўсхваляваны, незразумелы і шчаслівы голас. Яго душа была напоўнена чаканнем. Яна была кандэнсатарам, які прагна, да драбніцы, убіраў у сябе пякучасць маланак, дзікую прыгажосць азораных маланкамі хмар. Гэтыя хмары танцавалі над могілкамі ярасны біблейскі танец. Яны былі крыламі вогненнапёрых птушак, яны былі абломкамі антычных мармуровых палацаў, ветразямі загінуўшых караблёў, чырвонымі распаленымі камянямі з кратэраў вулканаў, серабрыстым снежным пылам ледавікоў... Ды немагчыма было пада-

браць ім параўнанні, бо яны, гэтыя хмары-прывіды, існавалі на мяжы святла і змроку, агню і лёду, слязы і шчасця...

— Уставайце, мёртвыя! Уставайце, дзяды! Го-го-го-го!

Ён няўклюдна ўзняўся на сваёй металічнай назе, трасянуў кулакамі, радасна паклікаў у віхурны змрок:

— Уставайце, мёртвыя! Уставайце, дзяды! Го-го-го-го! Дождж на зямлі! Бура на зямлі!

Ён, пахістваючыся, пайшоў паміж магіл і ўсё махаў рукамі, і вочы гарэлі шчасцем. Зялёнае святло маланкі асляпіла яго, ён спыніўся, закрыў пальцамі вочы. І ў гэты міг магутнейшы парыў ветру зваліў яго з ног, засыпаў рот горкім пылам. Ад грому раскалолася неба. Могілкі, здалося Монічу, скалануліся з канца ў канец.

Старая сасна, за пяць крокаў ад Моніча, уздрыгнула ад сівога камля да макаўкі, пачала павольна хіліцца набок, потым нібы адумалася, затрымалася. Але скубануў рагатае сухое голле вецер, і сасна, выдзіраючы з мяккай зямлі карэнне, з усё большай хуткасцю паплыла набок. Гучна лопнуў, перарваўся цэнтральны корань-стрыжань, быццам ускрыкнуў ад болю чалавек. Сасна трошкі падскочыла над зямлёй, крутнулася ў паветры вакол сваёй восі і з гулам, стогнам, крэктам цяжка ўпала на магілы, збіваючы помнікі, ломячы агароджы. Застагнаў метал. Іскры ўспыхнулі ў цемры.

І рынулася на зямлю бура... І ўсё змяшалася... І наступіў змрок... І падняліся з магіл дзяды... Дзед Мікола, дзед Гаўрыла, дзед Мікіта... У Міколы сівая барада па самую зямлю, у Гаўрылы — па калені, у Мікіты — па пояс.

Што гэта было? Сон? Галюцынацыя? Мроя? І ці было гэта на самай справе?

З грудкоў усталі дзяды, са старых недагледжаных магіл... І спытаўся дзед Мікола, пранізліва глянуўшы на Моніча:

— Ці спакойна на беларускай зямлі? Ці жывуць дзеці нашы?

— Спакойпа, дзяды, усё спакойна,— шэптам адказаў Моніч,— Жывуць і дзеці вашы, і ўнукі.

І спытаўся дзед Гаўрыла:

— Ці цячэ Банёха ў Нясету, Нясета ў Вольсу, Вольса ў Бярэзіну, Бярэзіна ў Дняпро, а Дняпро ў Чорнае мора?

— Цячэ, дзяды, цячэ... Банёха ў Нясету, Нясета ў Вольсу, Вольса ў Бярэзіну, Бярэзіна ў Дняпро, а Дняпро ў Чорнае мора,— глянуў на дзеда Гаўрылу Моніч. І не хапіла сілы сказаць дзеду, што рэчачка Банёха, як праехалі па ёй калісьці вялікім меліяратарскім плугам, зрабілася канаўкай. Не сказаў пра гэта Моніч, ведаў: не такіх слоў чакаюць ад яго патрыярхі.

І спытаўся дзед Мікіта:

— Ці можна спаць нам спакойна?

— Спіце, дзяды, спіце спакойна.

У тую ж хвіліну зноў забрала старых зямля, сінім агнём успыхнула неба. А са змроку, пылу падпоўз да Моніча Валодзя Козыр, узняў мокры ўзбуджаны твар, сказаў шчасліва-

— Ну й грыміць, Паша. Жыццё пражыў, а не чуў такога грому.

## XII. КРОК

Сцяпан Памалейка, памыўшыся ў душавой, хуценька апрануўся і, гледзячыся на хаду ў круглае кішэннае люстэрка, прычэсваючыся, пабег да прахадной. Яму карцела пазваніць Монічу, пахваліцца сваімі справамі. А справы ў яго ішлі як быццам няблага. Ва ўсякім разе, ён быў задаволены сам сабой.

Сёння ў яго быў маленькі юбілей. Роўна месяц назад прыйшоў ён разам з Васілём Буйвілам у механічную майстэрню кавальскага корпуса. Спачатку завод аглушыў яго, ашаламіў. Дні са тры ў яго было такое адчуванне, быццам яму заклала вушы. Так бывае, калі купаешся ў рэчцы і ў вушы трапляе вада. Але зусім хутка магутны аднатонны рокат завода пачаў раскладвацца, раздзяляцца на вялікае мноства непадобных адзін на аднаго галасоў. Удары парапаветранага молата, пад якімі, нібы мяккі воск, плюшчыцца распалены метал, суседнічалі з раўнамерным тонкім цвыркатаннем разца, што ўгрызаецца, уядаецца ў металічную балванку; свіст манеўравага паравоза перакрываўся шумам маставога электракрана, нястомнага працаўніка, які прывозіць да станкоў загатоўкі і адвозіць гатовыя дэталі, а дэталі тыя бываюць вагой пад пяцьсот кілаграмаў.

Працуючы ў першую змену, Сцяпан зацвердзіў сабе рэжым дня, які, калі чэсна прызнацца, поўнасцю скапіраваў у Васіля Буйвілы. Пад'ём — у шэсць гадзін пятнаццаць мінут раніцы... Зарадка і водныя працэдуры... «Нямецкае» снеданне: чай з вараным яйкам... Чаму такая камбінацыя прадуктаў называлася нямецкай, Памалейка так і не даведаўся. Потым дарога па тралейбусе да прахадной... Сосны перад самым заводам... Чырвоны трактар на пастаменце, першынец завода, які знайшлі ў далёкім калгасе і проста з поля прыгналі сюды... Вяртушкі на ўваходзе... Табельная... Пропуск, які абавязкова трэба кінуць у адпаведную урну... Роўна ў сем гадзін сорак мінут раніцы табельшчыца здымае, зачыняе урны. Калі твайго пропуска няма ў адной з гэтых урнаў, значыць, ты — прагульшчык. Усё проста і ясна. Потым — «аблачэнне» ў рабочую форму токара... Куртка, рабочыя штаны,

рабочыя чаравікі... Можна і мадэльныя чаравікі абуць, асабліва калі ты франт... На галаве — берэт... Потым наступае галоўнае — сустрэча са сваім станком...

Не верце тым, якія гавораць, што станкі — гэта жывыя істоты. Але не верце і тым, што бачаць у станку толькі больш-менш удалую камбінацыю з металічных канструкцый, голую і мёртвую машыну. Тут праўду, як і заўсёды, трэба шукаць недзе пасярэдзіне.

Сцяпан Памалейка вучыўся разумець станок у Буйвілы. Васіль прыходзіць да станка мінут за пятнаццаць да пачатку змены. Уключыць і праслухоўвае станок на халастым ходзе, уручную праганяе, «размінае» супарт.

У сваім рабочым шкапчыку захоўвае Васіль поўны набор усемагчымых разцоў і прыстасаванняў. Свежую металічную загатоўку ён памяшчае ў спецыяльныя зажымы, глядзіць, каб на метале не было ні драпінкі і ўжо толькі тады ўстанаўлівае загатоўку на станок. Станок запускае асцярожна, разец да металу падводзіць з прыглядай, нібы ў халодную ваду ўваходзіць. І ўвесь гэты час бровы ў яго нахмураны, вусны сцяты.

Ёсць токары высокага класа, але ў іх няма хуткасці ў рабоце — яны ціхаходы, стаеры. Васіль Буйвіла, як пачынаў, быў спрынтэрам, хацеў выціснуць са станка ўсё, што можна, і ў самы кароткі час. Але аднойчы, на рэспубліканскіх спаборніцтвах маладых токараў, падвяла яго хуткасць. Першы справіўся з нялёгкім заданнем, апярэдзіў усіх канкурэнтаў, але заняў толькі апошняе месца, бо пры праверцы аказалася, што ў дэталі нарэзаў дзве правыя разьбы.

— Сцяпан,— дагнаў Памалейку за прахадной Юрка-юрыст,— можа па куфлю піва возьмем?

Юрка-юрыст — высокі гарбаносы хлапец з кучаравымі русымі валасамі. Падбародак у яго раздвоены, заўсёды старанна, да сінізны, паголены. Амаль кожны дзень ён апранае новыя кашулі і завязвае новыя гальштукі. Прыгожыя модныя гальштукі — ягоная слабасць. «Я па гальштуках мог бы кандыдацкую абараніць»,— часцяком хваліцца ён. Юркаў дваюрадны брат служыць нейкім высокім чынам у міліцыі, ледзь не начальнік выцвярэзніка. Маладзейшыя рабочыя, калі хто трапляе ў гэту ўстанову, бягуць да Юркі, каб памог выкруціцца з непрыемнай гісторыі. І быццам бы некаторым Юрка памагаў, ва ўсякім выпадку, лісты з выцвярэзніка на завод не прыходзілі. За гэта ён атрымаў мянушку Юрка-юрыст. Яшчэ Юрка вялікі майстар рабіць паляўнічыя нажы. У яго заўсёды ёсць лепшых гатункаў сталь.

— Дык зварганім па куфлю? — узяў Юрка-юрыст Сцяпана пад руку.

— Я не п'ю,— сказаў Сцяпан.

— Малайчына. Далёка пойдзеш,— пахваліў яго Юрка-юрыст.— А я хацеў з табой бліжэй пазнаёміцца. Бачу: малады талковы хлопец з'явіўся ў майстэрні. Люблю маладых і талковых.

— Дзякуй за камплімент, Юра. Але чэсна — я не п'ю. І мне трэба тэрмінова пазваніць аднаму чалавеку.

— Ну што ж, тады гуд бай,— ускінуў над галавой руку Юрка-юрыст.— Як кажуць, да лепшых часоў,— і ўпэўненай, трохі віхлястай паходкаю пайшоў ад Сцяпана.

Сцяпан доўга шукаў у кішэнях двухкапеечную манету, усё-такі знайшоў і з тэлефона-аўтамата пазваніў на кватэру Монічу.

— Прывітанне, хрэснічак,— бадзёра загаварыў у трубку Моніч.— Вельмі рады, што на заводзе табе падабаецца. А мяне можаш павіншаваць.

— З чым? — пацікавіўся Памалейка.

— У мяне хутка будзе ўласны тралейбус.

— Не разумею, Павел Паўлавіч.

— Справа ў тым, Сцёпа, што я жанюся. Так, жанюся. Канчаткова і беспаваротна. А мая суджаная, мая будучая жонка — вадзіцель тралейбуса Зоя Гардзей. Да вяселля засталося роўна васемнаццаць дзён. Праз васемнаццаць дзён я дэзерцірую з войска халасцякоў. Хопіць, нахаласцякаваўся. Час віць гняздо. Праз васемнаццаць дзён запрашаю на вяселле.

— Віншую, Павел Паўлавіч,— сказаў Сцяпан,— Думаю, што беларуская паэзія папоўніцца неўзабаве тэмай пра шчаслівае сямейнае жыццё. А то ў нас усё болей пра разводы любяць пісаць. Абавязкова прыйду да цябе. І нават на акардэоне сыграю на тваім вяселлі — паеду ў Барысаў і прывязу акардэон.

— Сцёпа, ты геній. Мы з Зояй па-сяброўску ціснем тваю мужную рабочую руку. Музыка спатрэбіцца. Як кажуць: паміраць, дык з музыкай. Значыць, роўна праз васемнаццаць дзён чакаю цябе ў сваёй кватэры.

Навіна абрадавала Сцяпана Памалейку. Моніча ён вельмі паважаў, ганарыўся сваёй дружбай з такім чалавекам і жадаў, каб усё ў яго было як найлепей. Жаніцьба — справа добрая. Для сур'ёзнага, разумнага чалавека, а Моніч якраз такі чалавек, жаніцьба як ветразь для карабля. Толькі адна акалічнасць трохі бянтэжыла Сцяпана. Чаму Моніч бярэ ў жонкі вадзіцеля або, калі быць дакладным, вадзіцельніцу тралейбуса? Хіба не мог ён жаніцца з якой-небудзь вядомай актрысай ці паэтэсай? Разам бы вершы пісалі. Ды Сцяпан разумеў, што гэта справа дужа далікатная, інтымная, і Моніч, канечне ж, самому

відней, каго выбраць сабе ў жонкі. З такімі думкамі пайшоў Сцяпан у інтэрнат, дзе Юзік Трасцянок, пэўна ж, ужо варыў які-небудзь важнецкі боршч, каб пачаставаць ім свайго сябра.

А ў гэты час Моніч у сваёй яшчэ пакуль халасцяцкай кватэры сядзеў каля расчыненага акна і чытаў кнігу Віктара Гюго, і яго асабліва ўражвалі і ўсцешвалі вось такія словы славутага француза-рамантыка: «Дзе сапраўдны шлюб — там святло ідэалу. Над шлюбным ложкам у цемры займаецца світанне. Гэта сапраўднае шчасце. Няма іншых радасцей, акрамя гэтых. Кахаць, зведаць каханне — гэтага даволі. Вы не знойдзеце іншай жамчужыны ў цёмных тайніках жыцця».

Моніч паклаў на падаконнік кнігу, указальным пальцам задумліва пацёр скронь. Вецер зашамацеў старонкамі кнігі, як восеньскім апалым лісцем.

Зою Гардзей, сваю будучую жонку, тую самую дзяўчыну, якая ў пісьме на тэлестудыю скардзілася, што вельмі цяжка быць непрыгожай, ён выпадкова сустрэў у тралейбусе. Ён якраз ехаў з камітэта камсамола будаўнічага трэста. Рыхтавалася перадача пра настаўніцтва, пра тое, як рабочыя са шматгадовым стажам працы перадаюць свой вопыт моладзі, і трэба было сустрэцца і пагутарыць з ветэранамі. Ветэраны абрадавалі і здзівілі яго — бадзёрыя, энергічныя, рухавыя, з паўслова разумеюць, што ад іх патрабуюць аўтар сцэнарыя і рэжысёр.

У самым светлым настроі сядзеў Моніч каля акна тралейбуса і глядзеў на летні горад. Сонца, зеляніна, загарэлыя рукі і плечы жанчын, смела адкрытыя старонняму воку,— усё было сугучна яго мажорнаму светаадчуванню.

І ў гэты міг пачуўся звонкі голас вадзіцеля тралейбуса:

— Паважаныя таварышы пасажыры! Мы з вамі праязджаем зараз плошчу Восьмага сакавіка. У старадаўнім Мінску тут размяшчаўся так званы Ніжні горад. Тут быў самы вялікі ў Мінску рынак.

«Цікава,— устрапянуўся Моніч,— Вельмі цікава. Што ж гэта за добраахвотны гід?»

А тралейбус каціўся далей, і праз нейкі час той жа самы дзявочы галасок абвясціў:

— Таварышы пасажыры! Паглядзіце, калі ласка, управа і ўбачыце Праабражэнскую або Кацярынінскую царкву. Яна ўзведзена ў тысяча шэсцьсот адзінаццатым годзе.

Пасажыры, як немінчане, так і мінчане, паглядзелі ўправа. Царква стаяла ў рыштаваннях, на купале і шэрых сценах завіхаліся рэстаўратары. Сонца залівала мяккім ружовым святлом званіцу.

Моніч узняўся са свайго месца, пайшоў да пярэдніх дзвярэй, туды, дзе была кабіна вадзіцеля. Хацелася ўбачыць звонкагалосую вадзіцельніцу.

У кабіне сядзелі дзве дзяўчыны: адна, танклявая, вузкаплечая, за рулём, другая, больш мажная, грузнаватая,— побач. Пэўна, тая, што сядзела побач, была стажоркай або зменшчыцай.

Яны ціха перагаворваліся між сабою, перасміхваліся, час ад часу тая, што вяла тралейбус, нахілялася да сяброўкі, нешта шаптала ёй на вуха, і абедзве смяяліся. «Якая ж з іх ведае пра Ніжні горад і пра Кацярынінскую царкву, ведае тое, што па службе ёй зусім неабавязкова ведаць? — падумаў Моніч і адказаў сам сабе: — Канечне ж, гэта тая, што вядзе тралейбус». Ён ужо ўбачыў яе твар, калі яна нахілялася да сяброўкі: цёмныя ўважлівыя вочы, смуглыя шчокі, валасы завіваюцца на скронях, зубы роўныя, матава-белыя.

У кабіне быў наклеены папяровы самаробны транспаранцік: «Вадзіцель, не спяшайся — цябе чакаюць дома». «Гэта яна напісала»,— здагадаўся Моніч. Дваццаты век, акрамя ўсяго, век сувеніраў і талісманаў. З краю свету вязе чалавек у свой дом статуэткі, матрошкі, значкі, розную драбязу як напамінак аб далёкіх вандроўках. Шафёры, вадзіцелі трамваяў і тралейбусаў любяць упрыгожваць свае рабочыя месцы гэтай драбязою — амаль у кожнай кабіне ўбачыш вымпел, абцяжараны значкамі, партрэт кіназоркі, выразаны з часопіса... А тут — нешта зусім іншае, тут — роздум і трывога слоў, напісаных цемнавокай смуглатварай дзяўчынай.

Напарніца вадзіцеля заўважыла нарэшце пільны позірк Моніча, азірнулася. У яе былі празрыста-сінія вочы, густыя залацістыя вейкі, твар мяккіх абрысаў, між двух пярэдніх зубоў тоненькая шчылінка.

— Грамадзянін, нельга стаяць каля кабіны вадзіцеля і загароджваць ад вадзіцеля салон,— сказала яна.— Ёсць жа свабодныя месцы. Прайдзіце і сядзьце, калі ласка.

Моніч паслухмяна павярнуўся, каб сесці на бліжэйшае месца. І тут ён пачуў, як сіпявочка сказала сваёй сяброўцы за рулём:

— Гэта ён на цябе, Зоя, так глядзеў.

«Зоя... Тую, за рулём, завуць Зоя...»

Яму адразу ўспомніўся ліст у маладзёжную рэдакцыю, які Баталін аддаў яму як «галоўнаму душаведу». Тая дзяўчына, што напісала ліст, назвалася, памятаецца, вадзіцелем тралейбуса, і прозвішча ў яе было Зоя Гардзей.

«Гэта, безумоўна, яна — Зоя Гардзей,— падумаў Моніч, і яму чамусьці зрабілася радасна ад такой сваёй здагадкі.— Гэта яна... Калі толькі ў мяне ёсць хоць міліграм ад псіхолага — гэта яна...»

Моніч сядзеў каля сонечнага зыркага акна, прыжмурваўся ад цёплых сонечных промняў, сам сабе ўсміхаўся і ўжо даўно праехаў свой прыпынак. «А яна на сябе нагаворвала ў пісьме,— думаў ён.— Не такая яна дурнічка. Наадварот — у ёй нешта ёсць. Ёсць шарм, як кажуць французы. Гэты паварот галавы, гэтыя цёмныя вочы... Чаму ж яна нагаворвала на сябе?»

На адным з прыпынкаў, цмокнуўшы сяброўку ў шчаку, выйшла з тралейбуса сінявочка, і Моніч адразу, як хлапчук, узняўся з сядзення, зноў стаў каля кабіны вадзіцеля. Радасна трымцела сэрца. Ён асцярожна пастукаў костачкамі пальцаў у шкло. Вадзіцель азірнулася, здзіўленне ўспыхнула ў яе на твары. Яна прачыніла дзверы кабіны:

— Вам што, грамадзянін?

«Зараз я даведаюся: ты гэта пісала на тэлестудыю ці не ты,— з гарэзлівасцю падумаў Моніч.— У мяне ёсць пароль. Калі ты пісала, ты зразумееш мой пароль».

— Што вам трэба, грамадзянін? — зноў перапытала вадзіцель.

— Вы бачылі калі-небудзь непрыгожае дрэва? — сказаў ёй Моніч. Ён сказаў гэтыя словы і неадрыўна глядзеў на яе, стараючыся не прапусціць, заўважыць змену эмоцый у яе на твары, заўважыць «рух душы», як называў ён гэта ў сваіх вершах.

Яна колькі імгненняў здзіўлена пазірала на Моніча. Яму ўжо здалося, што яна зараз з трэскам зачыніць дзверы, палічыўшы яго ідыётам або, у лепшым выпадку, вулічным прыліпалам, які хоча завесці лёгкі раманнчык. Але раптам яна густа пачырванела, нават пачырванелі кончыкі маленькіх вушэй.

— Вы Зоя Гардзей,— сказаў, расцягваючы словы, ён — А я Павел Моніч. Той, што пісаў вам адказ. Будзем знаёмы.

Ён падаў ёй руку, і яна, адарваўшы руку ад руля, падала яму сваю. Далонь у яе была цёплая, вузкая і цвёрдая.

Так пачалося іхняе каханне. Яно не прыплыло, як лёгкае веснавое воблака або як лугавая срэбнаводная марудлівая рэчка, яно грымнула, як выбух, адразу асляпіўшы іх. Нібы яны даўно ведалі адно аднаго, кожнае імгненне парываліся сустрэцца, ды нешта перашкаджала ім. І вось цяпер, калі рухнулі сцены, што разлучалі іх, калі парваліся путы, што звязвалі іх, яны нястрымна і безаглядна кінуліся ў гэты вір, у гэты агонь, які людзі называюць каханнем.

Ці так у свой час кахаліся Трыстан з Ізольдаю, Дафніс і Хлоя? Павел і Зоя нават не думалі пра гэта, бо кожнае сэрца кахае па-свойму і кахае так, як усе, бо нельга паказаць дарогу майскаму ручаю, начной зорцы — яны самі выбіраюць сабе дарогу. Гётэ казаў, што ў

каханні трэба кожны дзень заваёўваць усё з самага пачатку. І з кожным новым днём усё як бы пачыналася для іх спачатку.

Цела ў яе было як спелы плод. Ён здзівіўся, якое прыгожае ў яе цела — залаціста-смуглае, чыстае, чуйнае, трапяткое.

— Ты такая прыгожая,— сказаў аднойчы Моніч,— Навошта ж ты пісала ў пісьме, што ты непрыгожая і баішся свайго твару?

— Ты лічыш мяне прыгожай? — спыталася Зоя.

— Так. Ты надзіва прыгожая... Ты магла быць натуршчыцай у вялікіх мастакоў Адраджэння. Тваё цела... як бы табе сказаць?.. Тваё цела смелае. Смелая прыгажосць, напоўненая агнём,— вось партрэт ідэальнай жанчыны. Дык чаму ж ты пісала такія пісьмы?

— Па-першае, я не лічыла і не лічу сябе прыгажуняй. Хаця гады тры назад,— яна ўсміхнулася,— спрабавала паступаць у тэатральны інстытут. Вось так бывае ў жыцці: хацела стаць актрысай, а стала вадзіцелем тралейбуса. А пісьмы пісала сама не ведаю чаму. Выдумвала чужыя жыцці, чужыя лёсы і пісала. Хацелася пабыць у вобразе іншых людзей.

— Ты — актрыса,— сказаў Моніч.

— Я — вадзіцель тралейбуса.

— Але і ў кабіне тралейбуса ты — актрыса. Гэтыя твае расказы пра архітэктурныя помнікі Мінска не што іншае, як маналогі актрысы. Актрысы і гісторыка,— паправіўся ён.— А як ты дадумалася расказваць пасажырам пра Мінск?

— Як дайшла да такога жыцця, ты хочаш сказаць? — засмяялася Зоя,— Справа ў тым, што я студэнтка-завочніца гістфака універсітэта. Гісторыя — маё хобі.

— Ці не зашмат хобі? — прытуліў Моніч Зою.— А як ты глядзіш на тое, каб у цябе з'явілася яшчэ адно хобі?

— Якое?

— Быць жонкай паэта-валацугі.

Ён сказаў гэта быццам жартам, але ў ім, як толькі пазнаёміўся з ёй, адразу выспела рашэнне: або ён неадкладна жэніцца, або не жэніцца ніколі. Сярэдзіны, кампрамісу тут не магло быць. У ягоным узросце, а ён пачынаў ужо адчуваць няўмольны цяжар узросту, яму патрэбна была жонка, а не каханка на некалькі вечароў. Яму патрэбна была родная спагадлівая душа, якая чакала б яго з камандзіроўкі, заварвала яму каву, перадрукоўвала ягоныя рукапісы, лячыла ягоныя душэўныя балячкі.

Праз паўмесяца знаёмства ён сказаў Зоі:

— У мяне няма часу на неабходнае ў такіх выпадках чаканне. Ты мне падабаешся. Калі я падабаюся табе, выходзь за мяне замуж.

Абяцаю самае галоўнае, што магу абяцаць,— вернасць, вернасць да апошняга майго дня.

Ён сам адчуваў, што вымавіў гэтыя словы дужа -тэатральна, манерна, «як у кіно», але ён не мог сказаць іх інакш.

Зоя ўважліва глянула яму ў вочы, ціха адказала:

— Я згодна...

— Зойка! — усхапіў ён яе на рукі і пачаў цалаваць.

Але Зоя мякка вызвалілася з ягоных абдымкаў:

— Я яшчэ недагаварыла, Паша. Я згодна стаць тваёй жонкай. А калі што-небудзь здарыцца... усё можа здарыцца ў жыцці, Паша,— я хацела б мець ад цябе дзіця. І ўсё... І я не прэтэндую на большае...

— Ды ты што? — моцна сціснуў яе рукі ў сваіх руках Моніч.— Ты думаеш, што я магу некалі кінуць цябе, здрадзіць табе? Хіба я падобны на такога чалавека, Зоя?

Яна нічога не адказала, пацалавала яго.

Калі да вяселля засталося роўна дзесяць дзён, Моніч на тыдзень паехаў у Светлаборск у камандзіроўку. Камандзіравала яго бюро прапаганды мастацкай літаратуры. На працягу тыдня трэба было выступаць перад працоўнымі райцэнтра і раёна з чытаннем вершаў.

Ён не любіў чытаць свае вершы са сцэны. Такія выступленні ён называў духоўным стрыптызам. У час такіх выступленняў трэба было прынародна раскрываць сваю душу, трэба было быць не толькі добрым паэтам, але і добрым акцёрам, а акцёрам ён ніколі не быў і не хацеў быць.

Ды ён разумеў, што такія выступленні патрэбны людзям, патрэбны чытачам, якія хочуць убачыць жывога пісьменніка, пачуць ягоны голас. Тут ужо нічога не зробіш — нездарма прымаўка гаворыць: «Беларус пакуль не памацае, датуль не паверыць». Акрамя ўсяго, за выступленні, як за кожную работу, плацілі грошы.

Ён паклаў у дыпламат некалькі кніжак сваіх вершаў, каб з аўтографам падарыць чытачам, паклаў туды ж электрабрытву, зубную шчотку і мыла. Лішніх рэчаў у дарогу ён звычайна не браў — любіў адчуваць сябе салдатам, у якога, як спяваецца ў песні, уся маёмасць умяшчаецца ў рэчмяшку.

З патаемнай шкатулкі дастаў свой талісман — кавалачак дрэва з труны маці і шматок чырвонай матэрыі, якой была абабіта труна. Нейкае імгненне глядзеў на іх, адчуваючы, як падступае да сэрца хваляванне, потым асцярожна паклаў ва ўнутраную кішэню пінжака. Можна было ехаць.

На тралейбусным прыпынку пацалаваў Зою, і, калі яна расчулена ўткнулася зарудзелым тварам яму ў плячо, сказаў, быццам жартуючы, але ўкладваючы ў словы глыбокі сэнс:

— Ну вось і я ачалавечыўся. І мяне праводзяць і плачуць з-за мяне. Вышэй галаву, Зоя!

Дзень быў цёмны ад хмар. Зрэдку бліскала маланка ў высокім небе, але не было ўжо ў ёй майскай пякучай сілы. І ён падумаў пра спрадвечны закон жыцця, згодна з якім людзі і дрэвы старэюць, а маланкі халаднеюць. Ды да восені было яшчэ далёка, і маланкі яшчэ не раз маглі паказаць свой вогненны грымучы нораў.

Пасажыраў да Светлаборска ехала няшмат. У пераважнай большасці гэта былі ціхія вясковыя кабеты з густым летнім загарам, з абпаленымі сонцам бровамі і вейкамі. Школьнікі везлі са сталіцы новыя падручнікі, загарнуўшы іх у газеты. Маладая закаханая парачка, абняўшыся, сядзела каля запыленага аўтобуснага акна і жыла, мяркуючы па ласкавым галубіным буркатанні, зусім у іншым свеце, чым усе астатнія пасажыры.

Аўтобус гадзіны паўтары праставаў па шумнай Маскоўскай магістралі, потым звярнуў з яе, і дарога стала вузейшаю, калдобіны на дарозе глыбейшымі. І Моніч усёй істотай адчуў бязмежную прастору палёў, цішыню над гэтымі палямі, лёгкі задуменны дожджык, флегматычны палёт буслоў, калыханне лугавой травы, слабы жаўтлявы прамень сонца, што няярка ўспыхваў на аконным шкле. Ён зноў жыў рухам, дарогай, далечынёй, надзеяй, якая заўсёды кліча.

Светлаборск, як і большасць беларускіх гарадоў такога памеру, быў дужа старажытны, упамінаўся яшчэ ў літоўскіх летапісах. Палілі яго татары і французы, шведы і немцы, а ён, надзіва ўсім, захаваўся, выжыў, нібы сівы, спярэшчаны: суровымі трэшчынамі валун, якіх шмат ляжыць на гэтай цярплівай пясчанай зямлі.

Светлаборцы працуюць і вучацца, жэняцца, часам, хоць гэта тут і не модна, разводзяцца, ходзяць у госці, чытаюць газеты і часопісы, глядзяць тэлевізар, цікавяцца міжнародным становішчам, любяць паэзію. Так, так, любяць паэзію, бо, калі б было іначай, ніхто не стаў бы запрашаць у Светлаборск вядомага паэта з Мінска Паўла Моніча. А запрасіў Моніча супрацоўнік бюро прапаганды мастацкай літаратуры, карэспандэнт-арганізатар, як афіцыйна, строга і адначасова ўрачыста называецца яго пасада, Рыгор Цярэнцьевіч Хітрыкаў. Хітрыкаў — карэнны светлаборац, без выезду жыве ў родным гарадку ўжо амаль шэсцьдзесят гадоў, мае ўласную, крытую чырвонай бляхай хату, жонку і чацвёра дзяцей. Рыгор Цярэнцьевіч сваю справу ведае выдатна — у раённай гасцініцы ён заказаў для Паўла Моніча лепшы

нумар, у самых людных месцах Светлаборска — на рынку, каля кінатэатра, каля школы і, вядома ж, каля гасцініцы — павесіў аб'явы, якія папярэджвалі светлаборцаў, што ў іхнім ціхім гарадку чакаецца паэтычны бум.

Каля такой аб'явы і спыніўся Моніч, як толькі дайшоў да гасцініцы. На вялізным, жаўтаватым ад летняга сонца аркушы ватману рукой самога Хітрыкава або каго-небудзь з ягоных дзяцей быў намаляваны Пегас вогненна-рыжай масці (дзе толькі знайшлася такая едкая фарба?), а пад капытамі Пегаса было напісана друкаванымі літарамі: «У нас у гасцях вядомыя беларускія паэты Павел Моніч і Рыгор Шакута».

Значыць, з ім, Монічам, увесь гэты тыдзень будзе выступаць Рыгор Шакута, шасцідзесяцігадовы чырванашчокі здаравяк, якога маладзейшыя літаратары між сабою завуць Акынам. У Акына сівы кучаравы чуб, васільковыя ясныя вочы, густыя цёмныя бровы. У гады сваёй маладосці ён быў акцёрам, аб'ездзіў усю краіну з правінцыяльнымі тэатрамі і адтуль, з акцёрскай маладосці, вынес урачыста-трыбунны, «пад Левітана», голас і непамерную любоў да апладысментаў. Ягоны крылаты выраз: «Найбольш прыемна загараць у промнях славы».

Позна ўвечары, калі Моніч ужо збіраўся класціся спаць, у дзверы пастукалі, і ў пакой увайшоў Рыгор Цярэнцьевіч Хітрыкаў разам са сваёй жонкай. Хітрыкаў быў маленькага росту і таму чаравікі пасіў на тоўстай падэшве. Жонка, наадварот, не купляла туфлі на высокіх абцасах, і Хітрыкавы былі аднолькавага росту, міліметр у міліметр.

— Павел Паўлавіч,— радасна сказаў Хітрыкаў, моцна паціскаючы Монічу руку.— Вельмі рады вітаць вас на светлаборскай зямлі. Я і мая жонка і нашы дзеці даўно любім вашы вершы. Падпішыце, калі ласка, нам аўтограф.

Моніч падпісваў кніжку, і ўвесь гэты час Хітрыкавы стаялі, затаіўшы дыханне, быццам у іхняй прысутнасці падпісвалася, сама меней, Люблінская унія. Ажно Монічу зрабілася няёмка.

— Сядайце, калі ласка,— запрасіў ён гасцей.

Але Хітрыкаў не сеў і, адпаведна, не села ягоная жонка.

— Вам заўтра, Павел Паўлавіч, рана ўставаць, працаваць,— далікатна кашлянуў у маленькі загарэлы кулачок Хітрыкаў.—Так што не будзем вам перашкаджаць. Вазьміце, калі ласка, план вашай з Рыгорам Кандратавічам Шакутам работы,— ён падаў Монічу акуратна складзены лісток, вырваны са школьнага сшытка,— Тут указана, дзе і ў які час адбудуцца вашы выступленні. Заўтра першая сустрэча ў сельгастэхнікуме ў дзевяць гадзін раніцы. Спакойнай вам ночы.

І Хітрыкавы, нібы звязаныя нябачнай ніткай, бясшумна выплылі з пакоя.

Моніч разгарнуў лісток. У самым версе рукой Хітрыкава (зноў жа фламастэрам!) было напісана: «План работы пісьменнікаў Паўла Моніча і Рыгора Шакуты», і далей ішоў спіс устаноў і прадпрыемстваў, дзе меліся адбыцца выступленні: педвучылішча, малаказавод, цэнтральны прадуктовы магазін, райсельгастэхніка, цэх рыбзавода, калгас імя Варашылава, таварыства сляпых... «Работкі хопіць»,— не дужа весела падумаў Моніч. Адразу расхацелася спаць, і ён выйшаў на вуліцу.

Амаль у самым цэнтры Светлаборска было возера, невялікае, але даволі глыбокае, з шумнымі, асабліва цяпер, ноччу, хвалямі. Моніч сеў у лодку, якая ланцугом была прывязана да тоўстага дрэва. Шумелі хвалі, шумела дрэва. Нябачная ў цемры вада мякка абчэсвала валуны, што ляжалі на прыбярэжным пяску. Нейкі агеньчык, жоўты, адзінокі, востра свяціўся на тым беразе возера. Ён быццам клікаў да сябе.

Моніч успомніў Зою. Што яна робіць зараз? Спіць? Можа спіць, а можа ляжыць на канапе і чытае. Яна ж вельмі любіць чытаць. Яна трымае ў руках кнігу, і святло ад начной лямпы падае на белыя старонкі. У кватэры ціха, вельмі ціха. Кнігі, чакаючы яго, Моніча, маўкліва стаяць на зацемненых паліцах.

Пачаліся выступленні. Хітрыкаў арганізоўваў аўдыторыю, сазваньваўся з кіраўніцтвам устаноў і прадпрыемстваў, «праломваў лёд», як гаварыў Акын, а яны, Моніч і Акын, ішлі па ягоных слядах.

Сустрэчы са светлаборцамі, як правіла, адбываліся ў чырвоных кутках, якія мела кожная арганізацыя. Дзесяткі чатыры збітых між сабою крэслаў, дзесяткі тры чалавек на гэтых крэслах, вазоны з кветкамі на падаконніках, наглядная агітацыя на сценах, партрэты перадавікоў — вось тое, што кожны раз бачыў перад сабою Моніч. Яны разам з парторгам або дырэктарам установы садзіліся за стол, засланы чырвонай настольніцай, парторг або дырэктар адкашліваўся і аб'яўляў: «Таварышы, сёння ў нас у гасцях нашы беларускія паэты з Мінска. Яны пазнаёмяць нас са сваёй творчасцю. Папросім, таварышы». Чуліся апладысменты. Людскія вочы, сінія, чорныя, шэрыя, маладыя і старыя, глядзелі ва ўпор...

Акын адчуваў сябе ў сваёй роднай стыхіі. На выступленні ён апранаў шыкоўны прамяніста-сіні касцюм, белую кашулю, чорную «бабачку» і ўзвышаўся над сталом, над слухачамі, як скала. Голас у яго быў то аксамітна-мяккі, прыглушаны, то раптам пачынаў у ім звінець метал, і пярэднія са слухачоў, асабліва жанчыны, аж злёгку ўздрыгвалі.

Але вельмі хутка, на другі ці на трэці дзень, Акын стаміўся. У голасе не засталося металу — канчаткова і беспаваротна перамог аксаміт. Усё часцей з кішэні свайго прамяніста-сіняга касцюма Акын выцягваў вялізную насоўку і прамокваў ёю прыгожы ўзмакрэлы лоб. І чорная, такая раней эфектная «бабачка» стала нагадваць перапалоханага шпачка, які ў знямозе растапырыў крылы.

Акын пачаў аблегчваць сваю праграму, «спускаць пару», як прызнаваўся сам. Выступаючы перад студэнтамі педвучылішча, ён пачытаў некалькі ўсхваляваных моцных вершаў пра вайну, потым выцягнуў з кішэні сваю легендарную насоўку, выцер спацелы твар, сказаў:

— Мы перамаглі ў гэтай суровай вайне, перамаглі вашы дзяды і вашы бацькі. Вечная ім слава. А жыццё працягваецца, кожны год расцвітае вясна, спяваюць салаўі, каханне стукаецца ў маладыя сэрцы. Іначай — нельга. Шыццё немагчыма без вясны, без кахання. А дзе каханне, там і новае жыццё, там і дзеці. Так, так: дзеці!

Усё было правільна, усё было лагічна ў словах Акына, праўда, некаторыя дзяўчаты, а дзяўчат было вельмі шмат у зале, злёгку пачырванелі, але гэтую чырвань Можна было растлумачыць гіпнозам вершаў. Ды Акына пацягнула далей.

— А вы ведаеце, адкуль бяруцца дзеці? — патэтычна спытаўся ён у слухачоў і, не дачакаўшыся адказу, бадзёра ўсміхнуўся.— Іх, аказваецца, прыносяць буслы. Так-так, нашы цудоўныя беларускія буслы. І вось уявіце сабе вёску. Па агародзе, чапляючыся за гарбузы, бяжыць шасцігадовы замурзаны хлапчук. Бяжыць, спатыкаецца, шлейка ад штонікаў збілася з пляча. «Мама,— крычыць што ёсць сілы хлапчук.— Мама! Хутчэй зачыняй комін! Бусел ляціць — зноў дзіця на прыпечак плясне!»

У гасцініцы, калі пасля выступленняў зняможана ляжалі на ложках, Моніч сказаў Акыну:

— Вельмі добра ў вас пра бусла атрымалася, Рыгор Кандратавіч. Галоўнае — смешна. Але ці не знаходзіце вы, што бусел ляціць трохі далекавата ад сапраўднай літаратуры?

Акын прыняў ужо душ, быў бадзёры, жыццярадасны і адразу адгукнуўся:

— Згодзен з табой, калега. Не ў той луг кіруе гэты бусел. Але што зробіш? Людзям патрэбны, акрамя ўсіх іншых вітамінаў, вітаміны смеху. А я, на вялікі жаль, не пішу гумарыстычных твораў. І наогул, на вялікі жаль, я не эпік. Я — малафарміст. А ўвесь час хацелася і сёння асабліва хочацца напісаць нешта значнае, нешта вулканічнае. Каб чыталі і плакалі, каб верылі кожнаму слову. У гэтым плане кіно

мацней дзейнічае на чалавека, чым літаратура. Але асабіста я кіно не люблю. Кіно — загадзя арганізаванае жыццё.

У апошні дзень выступленняў у Акына ўсё-такі здалі нервы, і ён пасварыўся з Монічам. Выступаць давялося ў калгасе імя Варашылава, і не ў канторы ці ў клубе, а проста на лузе, сярод загарэлых маладзіц і мужчын, якія стагавалі сена. Моніча з Акынам прывёз сюды на «козліку» старшыня калгаса, малады светлачубы хлапец.

Быў спякотны поўдзень. Якраз паламаўся стогаскідальнік, і, пакуль механізатары корпаліся каля яго, чалавек дваццаць калгаснікаў абкружылі Моніча і Акына. Моніч прачытаў некалькі вершаў, расказаў, над чым працуюць знаёмыя літаратары, і ўвесь час адчуваў, як недарэчы гучаць вершы, нават самыя добрыя вершы, тут, на гэтым гарачым лузе, калі на ўліку кожная мінута. Ды ў Акына, як выявілася, былі зусім іншыя думкі на гэты конт. Да Акына зноў вярнуўся голас. Метал зазвінеў у гэтым голасе.

Акын прачытаў добры дзесятак сваіх вершаў, потым расказаў сваю творчую аўтабіяграфію, потым пайшлі ў ход буслы, якія прыносяць у хаты дзяцей. Ужо адрамантавалі стогаскідальнік, ужо старшыня калгаса некалькі разоў крадком глянуў на гадзіннік, як Акын урачыста аб'явіў:

— А зараз, дарагія сябры, я пачытаю вам верш класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа «Святы Ян». Але спачатку некалькі слоў пра гісторыю напісання гэтага выдатнага твора.

І тут Моніч перапыніў Акына.

— Таварышы,— сказаў ён слухачам,— паколькі гэты выдатны твор напісаў не Рыгор Кандратавіч, а Якуб Колас, усім нам лепей будзе ў свабодную часіну пазнаёміцца са «Святым Янам» у кніжцы Коласа. Паглядзіце на неба, таварышы. Бачыце, якія сярдзітыя хмары збіраюцца. Ці не лепей нам дружна ўзяцца за граблі і вілы, каб не давялося яшчэ раз перасушваць сена?

Яго прапанову сустрэлі воплескамі, прычым энергічней за ўсіх пляскаў старшыня калгаса. Моніч скінуў кашулю, узяў вілы і пайшоў падаваць сена на стог. За ім, чырвоны, як рак, паплёўся Акын і ўжо там, каля стога, старанна шкрабучы грабламі куп'істы луг, злосна шапнуў:

— Малакасос. Піжон. Я табе гэтага ніколі не дарую.

Пасля работы, калі пакупаліся ў рэчцы і калі старшыня калгаса пачаставаў шчодрай юшкай, Акын, не развітаўшыся з Монічам, знік.

— Ён папрасіў, і я сказаў інжынеру, каб яго на машыне падкінулі да аўтастанцыі,— растлумачыў старшыня.

Моніч ад'язджаў са Светлаборска надвячоркам. Хітрыкаў з жонкаю правялі яго да аўтастанцыі. Ён апошні раз глянуў на ціхі, абмыты цёплым дажджом гарадок, сеў у аўтобус. Праз дзве з паловай гадзіны ён будзе ў Мінску, убачыць Зою. Праз дзве з паловай гадзіны...

Мы ездзім, плаваем, а жыта тым часам расце. Хто гэта сказаў? Здаецца, Янка Брыль. Добра сказаў.

Моніч заплюшчыў вочы, слухаў, як, разаграваючыся, мякка вуркоча аўтобус.

«Дзе маё жыта? — думаў ён.— Дзе мой серп? Якая карысць зямлі, усім жывым людзям ад таго, што на свеце існую я? Не было б мяне, нарадзіўся б не я, а іншы чалавек, і ніхто не заўважыў бы маёй адсутнасці. Але я ёсць. Ёсць. І я нешта значу для маіх сяброў, для паэзіі, для Зоі, для Сцяпана Памалейкі. І, значыць, трэба заставацца самім сабой, трэба захаваць у самім сабе першародныя пачуцці маленства і юнацтва. Прыеду ў Мінск, сустрэну Зою, і мы пойдзем на бераг Свіслачы. Я разуюся і прабягу па пяску басанож...»

Ён думаў пра гэта і не ведаў, што жыць яму засталося нейкія дваццаць мінут.

Крануўся аўтобус. Ужо дзверы зачыняліся, як у іх прашчаміўся, уціснуўся каржакаваты, чорнавалосы хлапец гадоў дваццаці трох. Са страшэннай натугаю ён рассунуў дзверы плечуком, аж запыленая старая балоневая куртка разышлася па шве. Ён уваліўся ў аўтобус, шумна выдыхнуў паветра, якое распірала грудзі, і плюхнуўся на сядзенне.

— Прывітанне, Цэп! — закрычала адразу некалькі галасоў ззаду Моніча.— Усё-такі ўлез! Ну й шакал!

Моніч азірнуўся. Яму думалася, што ў аўтобусе едуць толькі ён ды юная парачка, што, паклаўшы на калені абшарпаныя, мяркуючы па выглядзе, студэнцкія чамаданы, ціха сядзела непадалёку ад яго. Аказваецца, самае задняе сядзенне занялі тры хлопцы, загарэлыя, мускулістыя, у цёмных кашулях з закасанымі рукавамі.

— Я ўсюды ўлезу,— пахваліўся Цэп.

Усё яшчэ цяжка дыхаючы, ён рукавом курткі шмаргануў сябе па шчоках, па лбе — выцер пот. Але выцерці вушы ён не даўмеўся, і буйныя кроплі поту віселі на мочках вушэй, як завушніцы. Моніч нават здзівіўся: адкуль у чалавека так шмат поту?

Тым часам Цэп скінуў куртку, бо ўзапрэў, дастаў з кішэні курткі бліскучы металічны грэбянец, шумна дзьмухнуў на яго, пачаў прычэсвацца. Чорныя, мокрыя ад поту валасы блішчалі ў паўзмроку, і здавалася, што Цэп змазаў іх тлушчам.

Цэп старанна прычэсваўся і ўважлівым, цягучым позіркам акідваў салон аўтобуса. Вось абмацаў чорнымі вільготнымі вачамі фігуру

дзяўчыны, слізгануў позіркам, як промнем пражэктара, па яе спадарожніку. Потым пачаў глядзець па Моніча, дзёрзка, нахабна, неадрыўна. Моніч адвярнуўся.

— Цэп, валі да нас! — крыкнулі з задняга сядзення.

Цэп, рагатнуўшы, перасеў да сябрукоў, куртка засталася ляжаць на старым месцы.

Неўзабаве па салоне, падскокваючы і пазвоньваючы, пакацілася парожняя бутэлька, стукнулася аб ногі юнаку, што сядзеў непадалёку ад Моніча. Юнак спуджана ўдрыгнуў. Ззаду весела, дружна зарагаталі.

«Хто яны такія? — думаў Моніч,— Студэнты сельгастэхнікума, што едуць на канікулы пасля практыкі? Не падобна. Старыя для студэнтаў. Грузчыкі з мясцовага прамкамбіната? А можа сезонныя рабочыя»?

У гэты час адзін з кампаньёнаў Цэпа, лёгка пагойдваючыся, прайшоў каля Моніча, сеў перад ім, ззаду ў юнака і дзяўчыны. У яго былі светла-русыя прыгожыя валасы, загарэлая маладая шыя. Monічу падалося, што гэта шыя пахне сунічным мылам.

— Пятручыё! — закрычалі з задняга сядзення.— Маладая ледзі сумуе. Трэба развесяліць маладую ледзі!

Светла-русы Пятручыё гнуткай загарэлай рукой пагладзіў дзяўчыне, што сядзела перад ім, валасы.

Дзяўчына гнеўна азірнулася, сказала, чырванеючы і хвалюючыся:

— Што такое? Перастаньце.

Ён яшчэ раз пагладзіў яе па галаве.

— Перастаньце. Як вам не сорамна,— усхапілася са свайго месца дзяўчына.— Ваня, — павярнулася яна да юнака,— што ён робіць?

— Перастаньце,— сказаў Ваня. Ён павярнуўся да светла-русага Пятручыё, і Моніч убачыў разгублены малады твар, цёмныя тонкія бровы, вялікія танныя акуляры ў чорнай касцяной аправе.

— Хто там ціўкае? — крыкнулі ззаду.

Пятручыё лянівым рухам загарэлай рукі грабянуў юнака па твары, і акуляры зваліліся на падолгу.

— Пашукай свае тэлескопы, а потым выступай,— засмяяўся Пятручыё.

І тут Моніч схапіў яго за плячо.

— Малады чалавек,— сказаў Моніч,— Вы вельмі дрэнна, па-хамску сябе паводзіце. У наш час так сябе не паводзяць. Цікава — з якой вы пячоры вылезлі?

Халодныя светлыя вочы глянулі на Моніча. Дужа празрыстыя вочы, як вясенняя вада. Ні здзіўлення, ні страху не было ў гэтых вачах.

— Я — Пятручыё,— усміхнуўшыся, сказаў светла-русы.— А хто ты, незнаёмы рыцар? — І раптам крыкнуў: — Пакладзі язык у гіпс! — і схапіў Моніча загрудкі. У гэты ж час ззаду Моніча стукнулі рабром далоні па шыі. Той, хто біў, хацеў ударыць па соннай артэрыі, ды не разлічыў. І ўсё-такі Моніч асунуўся на сядзенне. Але адразу ж усхапіўся, рэзка павярнуўся і, не прымерваючыся, уклаўшы ва ўдар увесь цяжар свайго цела, садануў правым кулаком пад лыжачку таму, хто стаяў ззаду. Ён думаў, што гэта Цэп. Але Цэп сядзеў на сваім месцы і зноў прычэсваўся. Блішчаў у паўзмроку ягоны металічны грабянец.

Той, каго ўдарыў Моніч, курчыўся ў праходзе, рухнуўшы на падлогу, схапіўшыся за жывот рукамі. Пятручыё рэзка ўзвіўся над сядзеннем і, ашчэрыўшы зубы, звузіўшы светлыя вочы, пацэліў Монічу між ног вастраносым карычневым чаравікам.

Ад дзікага болю пацямнела ўваччу, пайшла кругам галава. Моніч скруціўся абаранкам на сядзенні, і Пятручыё зноў ударыў яго, але не нагой, а кулаком.

— Ваня! — закрычала дзяўчына.

Ваня, стаўшы на калені, бездапаможна, як сляпы, вадзіў па падлозе рукамі — шукаў акуляры.

— Пятручыё,— сказалі раптам ззаду.— Перастань. Гэта ж — паэт. Ён у рыбцэху вершы чытаў.

— Паэт? — хмыкнуў Пятручыё,— Я яшчэ ні разу не біў паэта.

І зноў размахнуўся, але Моніч на нейкі міг апярэдзіў яго — не ўстаючы з месца, тыцнуў кулаком у сонечнае спляценне. Удар быў рэзкі, кароткі і такі моцны, што Пятручыё, быццам падсечаны, грымнуўся ў праходзе.

Прыгнуўшыся, ён ужо ўставаў з сядзення. Скакалі ў вачах блакітныя і чырвоныя іскры. І тут ён убачыў твар дзяўчыны, змярцвелы, перакошаны нечалавечым жахам. Дзяўчына глядзела на яго, Моніча, і на тое, што было ззаду яго. Ён павярнуўся, і ў гэтае самае імгненне Цэп, драпежна прыкусіўшы губу, дзеўбануў яго стальной завостранай ручкай грабянца ў шыю.

«Я паміраю»,— падумаў Моніч, пахіснуўся, зрабіў няўпэўнены крок і не сеў, а ўпаў на сядзенне. З рота хлынула кроў. «Ты паміраеш»,— сказаў яму нейчы голас, чужы і адначасна такі знаёмы. І цемра абрынулася на яго. І голы чалавек пабег з цемры. У чалавека былі белыя тонкія рукі і валасатыя ногі і грудзі. Ледзяным холадам павеяла ад чалавека. А потым, у апошняе-апошняе імгненне, ён убачыў сваю маці, даўнейшую, маладую і загарэлую. З бліскучым сярпом у руцэ

нахілілася яна над ім. «Мама, чаму ў цябе з сярпа капае кроў?» — хацеў спытацца ён, але не паспеў, бо гарачы тысячатонны камень упаў яму на горла, на грудзі і раздушыў яго.

## XIII. ЭПІЛОГ

Іван Іванавіч Памалейкін вяртаўся з камандзіроўкі. Ездзіў ён у Малдавію на куставую нараду будаўнікоў прамысловых аб'ектаў. Нарада прайшла паспяхова — было некалькі цікавых выступленняў, потым гаспадары павезлі гасцей па рэспубліцы, пазнаёмілі з сучаснымі метадамі будаўніцтва. Усе дні свяціла шчодрае паўднёвае сонца, у застоллях падавалі духмянае маладое віно, паказвалі славуты Транцаў вал, які застаўся яшчэ ад рымлян, але Івану Іванавічу было сумна і карцела хутчэй паехаць дадому.

У кішынёўскай гасцініцы Івану Іванавічу Памалейкіну прыснілі-ся вочы Рыгора Невідовіча. Гэта быў нечаканы, страшны сваёй уяўнай рэальнасцю сон. Спачатку ўбачыў ён цёмнае перадсвітальнае поле, якое палохала маўклівай бязмежнасцю. Ён не мог зразумець, туман ці дым плывуць пад полем, і туліўся ў сваім акопе, і чвякала пад нагамі халодная, са сталёвым водсветам вада.

Чаму ён быў у акопе? Ён жа ні разу ў сваім жыцці не капаў акопаў, ні разу не сядзеў у акопе. Але цякла з бруствера шэрая цяжкая зямля, пахла застаялым пылам, карэнне траў віднелася на зрэзе акопа. Карэнне перасекла вострая салдацкая рыдлёўка, і густы белы сок павольна, як слёзы, выкочваўся з параненага карэння. Яму карцела даведацца — горкі ці салодкі гэты сок, і ён хацеў дакрануцца да кропелькі-слязы вуснамі, але чамусьці пабаяўся.

Было пякучае, ні з чым непараўнанае адчуванне сваёй адзіноты і сваёй віны. Ён не ведаў, у чым была ягоная віна, але асудяеана замірала сэрца, халадзелі рукі і ногі.

Чакалася атака. Нехта — ён нават не ведаў хто — павінен быў выпаўзці, выбегчы з гэтага бязмежнага поля, пакрытага туманам ці дымам, і забіць яго, забіць Івана Іванавіча Памалейкіна.

«За што мяне забіваць?»— абліваючыся халодным потам, думаў ён.

І тут пачалося самае невераемнае і жахлівае. Тысячы людскіх вачэй запоўнілі бязмежнае поле. Самае страшнае было тое, што гэтыя вочы існавалі і жылі асобна ад людзей. Уладальнікі, гаспадары ўсіх гэтых вачэй даўно ўжо былі мёртвыя, а іхнія вочы лёталі над зямлёй, як птушкі, як сонечныя зайчыкі. Іх было так многа, яны злучыліся ў

адну агромністую хмару, сінія, чорныя, зялёныя, шэрыя людскія вочы. І ў іх быў прысуд яму.

«За што мяне забіваць?!» — закрычаў ён, але голас прагучаў квола, няўпэўнена. Тады ён выскачыў з акопа, хацеў пабегчы, але густая трава аблытала, апляла ногі, і ён упаў.

Ён упаў на спіну, тварам у неба, і неба, з краю ў край, было запоўнена людскімі вачамі. Іх было болей, чым зорак цёмнай ноччу.

І адны вочы, шэрыя, прыжмураныя, налітыя нясцерпным болем, падплылі да ягонага твару, проста да ягоных вачэй. Ён адразу ўспомніў — гэта былі вочы Рыгора Невідовіча, калі той поўз праз дым і агонь з футбольнага замініраванага поля. Ён закрыў, як толькі мог, свае вочы рукамі, і тады нешта ўпала, абрынулася на яго, уціснула, аж зарыпеў шэры пясок, у зямлю, і ён дзіка, надрыўна закрычаў і прачнуўся.

Ён вырашыў адразу ж, хоць яшчэ не скончылася камандзіроўка, ляцець у Мінск і там, у Мінску, знайсці свайго сына Сцяпана Памалейку і памірыцца з ім. Так, памірыцца. Памірыцца, нават прызнаўшы сваё паражэнне, памірыцца, чаго б гэта ні каштавала. Каб толькі не сніліся болей такія сны і каб жонка Дар'я зрабілася ранейшай, той, якую ён кахаў і хацеў кахаць.

З чаго ўсё пачалося? З таго праклятага футбольнага поля? З вар'ята Шмальшлегеля? А можа раней? Нітка адтуль, з крывавага пекла, працягнулася праз усё ягонае жыццё, і як бы Іван Іванавіч Памалейкін ні стараўся не заўважаць гэту нітку, яна была, была заўсёды. Яе не перарваць.

Вочы Рыгора Невідовіча былі падобныя ў нечым на вочы сына, Сцяпана. Што іх аб'ядноўвала? Боль? Так, у іх быў боль. Але было нешта яшчэ, было нешта глыбейшае і вышэйшае, чаго яму, Івану Іванавічу Памалейкіну, не зразумець ніколі.

Усё жыццё ён шукаў прытулак, схованка для свайго сумлення, шукаў на новых месцах жыхарства, у новых шлюбах і адчуваў сам — не знайшоў. Ён не захацеў гуляць у футбол на замініраваным полі. Сябры загінулі, а ён застаўся цэлы Але сёння ён адчуваў, што ўсё ягонае жыццё было, па сутнасці, жорсткай гульнёй. Ён выратаваў сябе і ў той жа час назаўсёды страціў сам сябе, бо нельга чалавеку, калі ён сапраўдны чалавек, жыць без сяброў, без кахання той жанчыны, якую кахаеш, без любові сына, якога нарадзіў. Тыя міны, ад якіх ён калісьці сумеў вывернуцца, пачалі рвацца сёння, і асколкі ў іх былі вастрэйшыя і больш балючыя. З усіх відаў энергіі беззваротна губляецца толькі цеплыня. Ён здрадзіў гэтай цеплыні, каб зберагчы сябе, і яна болей ніколі не вернецца да яго.

Іван Іванавіч Памалейкін прыляцеў у Мінск і адразу ж з аэрадрома хацеў ехаць у інтэрнат да сына, але ўспомніў, што не ведае адраса. Адрас быў запісаны ў яго настольным календары, і ён хуценька сеў у таксі і памчаўся дадому, каб адтуль, узяўшы адрас, ехаць да Сцяпана. «Мне трэба з ім памірыцца,— думаў ён, седзячы ў таксі,— Калі я папрашу у яго прабачэння, Дар'я памірыцца са мной, і ўсё будзе добра. Мне трэба папрасіць у яго прабачэння».

Ён прыехаў дадому, вырваў лісток з адрасам з календара, засунуў у кішэню. Таксі чакала ўнізе. І раптам у пакой, нават забыўшыся пазваніць, увайшла суседка, жонка Ізюмчыка. Твар быў мокры ад слёз.

— Добра, што вы дома,— ціхім няшчасным голасам сказала суседка.— Пазаўчора памёр Светазар Аляксандравіч. Сёння мы яго хаваем. Прашу вас, Іван Іванавіч, памажыце вынесці труну. У Светазара Аляксандравіча было вельмі мала знаёмых, а вы ж — сусед...

Жанчына заплакала. Яна стаяла і плакала, і вузенькія плечы ўздрыгвалі, як ад лютага марозу.

— Сорак тры гады пражыў Свецік,— сказала яна між усхліпаў.— Усяго сорак тры. Прашу вас, Іван Іванавіч, памажыце.

Іван Іванавіч нёс труну з целам свайго суседа Светазара Аляксандравіча Ізюмчыка. Труна была не дужа цяжкая, але несці было нязручна, бо ўсе, хто нёс, былі самага рознага росту. Перад Іванам Іванавічам ішоў амаль двухметровы мужчына. Мужчына гэты горбіўся, каб зрабіцца хоць трохі ніжэйшым, і ад ягоных рухаў труна ўздрыгвала, і маленькія ногі Светазара Аляксандравіча, абутыя ў чорныя танныя чаравікі, таксама ўздрыгвалі.

Быў вялікі парадокс ва ўсім тым, што адбывалася з Іванам Іванавічам. Ён павінен быў ехаць да сына, якога хацеў палюбіць, а замест гэтага нёс труну з суседам, да якога ніколі не гарнулася душа.

А сын быў амаль побач. У гэтыя самыя хвіліны Сцяпан Памалейка таксама быў на могілках. Ён нёс труну паэта Паўла Моніча. Перад гэтым ён пазваніў на кватэру Моніча, хацеў даведацца, калі ісці на вяселле. Ніхто не адказаў, і ён пазваніў на тэлестудыю, і яму паведамілі жахлівую навіну. Ён схапіў таксі, прымчаўся на могілкі, калі жалобная працэсія ўжо набліжалася да свежавыкапанай магілы. «Дазвольце мне... я павінен яго пранесці... Дазвольце...» — са слязамі на вачах дагнаў ён труну. Паважаныя сівагаловыя пісьменнікі, што неслі труну, здзіўлена глянулі на незнаёмага рабочага хлопца, моўчкі пацясніліся, далі яму месца каля труны.

На могілках Сцяпан убачыў бацьку. Позіркі іхнія сустрэліся Хлопчык-бумеранг паглядзеў на чалавека з эластычным сумленнем —

і адвярнуўся ад яго. «Мы — розныя,— падумаў сын.— Мы стаім каля розных магіл». Але міжволі, зноў і зноў, карцела яму глянуць на бацьку, нейкая невядомая сіла як бы падштурхоўвала яго.

Вось і ўсё. Кожная гісторыя мае свой канец. Канец, вядома, умоўны, бо жыццё не канчаецца і ніколі не канчаюцца людскія шляхі.

Юзік Трасцянок ажэніцца і з маладой жонкай паедзе працаваць у саўгас на Палессе.

Зоя Гардзей па-ранейшаму будзе ездзіць па тралейбусе па мінскіх вуліцах, будзе чакаць сына ад Паўла Моніча і, калі народзіцца сын, сінявокі, прыгожы, назаве яго Паўлам.

Дар'я Антонаўна ўсю цеплыню сэрца аддасць сваім дзецям, і ёй ніколі не будзе сорамна за дзяцей.

Івану Іванавічу Памалейкіну ўсё часцей будуць сніцца вочы Рыгора Невідовіча. І аднойчы ён не вытрымае — ранняй вясной возьме адпачынак, купіць турысцкую пуцёўку, паедзе ў Польшчу і адшукае тое месца, дзе быў калісьці шталаг. Але ні футбольнага поля, ні нават дзюн, дзе яны шукалі кветкі разам з Францам Нарадоўскім, ён ужо не зможа знайсці. Усюды будзе ўсміхацца сонцу маладая дружная рунь.

Сцяпану Памалейку прысвояць рабочы разрад, ён стане выдатным токарам і нават выкліча на спаборніцтва самога Васіля Буйвілу. Калісьці ён абяцаў сыграць на акардэоне на вяселлі ў Паўла Моніча, але не суджана было гэта зрабіць, і, правёўшы ў апошні шлях паэта, Сцяпан усё-такі паедзе ў Барысаў, каб узяць акардэон. А можа ён паедзе для таго, каб убачыць сына і жонку? Адным словам, ён паедзе ў Барысаў, каб узяць акардэон, падыдзе да свайго дома і ўбачыць каля дома вясёлую Люду, сваю жонку, і вясёлага чарнавалосага мужчыну, які будзе іграць на гэтым самым акардэоне для Люды «Паланез Агінскага». І Сцяпан канчаткова зразумее, што паміж ім і Людай усё скончана. І адразу ж ён падумае пра сына. «Сын не павінен зведаць у жыцці тое, што зведаў я. Мой сын не будзе бязбацькавічам»,— падумае Сцяпан Памалейка.

На двары, у пясочніцы, ён убачыць Лёніка. Сын будзе гуляць з нейкай самаробнай цацкай. «Лёнік! Лёнік!» — ціха пакліча яго Сцяпан. Хлопчык выпусціць з рук цацку і азірнецца.

Дайнека Л.

Футбол на замініраваным полі: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 30 с.

Героі новага рамана пісьменніка — нашы сучаснікі, якія жывуць у вялікім горадзе, працуюць, вучацца, гадуюць дзяцей змагаюцца за сваё каханне. У імклівым рытме сённяшняга жыцця ім цяжка спыніцца, азірнуцца, успомніць пра свае карані, што губляюцца ў далечы стагоддзяў. Але прыходзіць мінута роздуму, і яны задаюць сабе пытанне: што такое чалавечае шчасце, як дамагчыся, каб на роднай зямлі пакінуць свой адметны след?